Георгій Марчук

*

# КВЕТКІ ПРАВІНЦЫІ

Раман, аповесць

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1988

ББК 84Бел7
М 30

Рэцэнзенты
*Павел Місько, Уладзімір Жыжэнка*

Роман «Цветы провинции» — это исповедь молодого человека Адама Доли, который пытается понять причины самоубийства матери, история любви, поисков счастья и места в жизни. В занимательном сюжете автор исследует самобытные характеры полесских жителей.

Главный герой повести «Полешук» — последний в маленькой деревушке ветеран Великой Отечественной войны, Корней Семенчук прожил нелегкую жизнь и готов был в любое мгновение пожертвовать собой ради счастья людей, ради мира на земле.

М $\frac{4702120200-056}{М\ 302(03)-88}$ 20—88

ISBN 5-340-00020-6

# Замест пралога

Грашыць — гэта не азначае рабіць зло;
не рабіць дабра — гэта значыць грашыць.

*П. Пазаліні*

Мажліва, мае думкі будуць у нечым паспешлівымі і могуць абрывацца, відаць, мой расказ больш стасуецца да дзённіка-споведзі, усё гэта — вынік таго велізарнага хвалявання, якое ахапіла мяне цяпер, калі я зноў успамінаю тыя колішнія дні. Пачаў я запісваць, калі мне споўнілася семнаццаць гадоў, і вось цяпер, калі мне аж трыццаць, вяртаюся да іх зноў. А ўсё чаму? Справа ў тым, што мне нарэшце ўдалося атрымаць адно такое доўгачаканае пісьмо з майго роднага кута на беразе Гарыні, Давыд-Гарадка. Вось яно — танюсенькае — ляжыць перада мною, і я баюся дакрануцца да яго, каб не сурочыць, хоць сэрца падказвае мне — там весткі прыемныя, якіх і чакаў. Зноў, і чамусьці так выразна, як ніколі, паўстаюць у памяці мінулыя дні. У пакоі я адзін. Шчыра кажучы, цягне падзяліцца з кім-небудзь сваім, патаемным. Можаце лічыць гэта за дзівацтва, але ж прашу вас, дарагі чытач, набрацца цярпення і паслухаць маю споведзь ад самага пачатку. З вашага дазволу, я і пачну свой расказ.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## САМАГУБСТВА

Аніяк не хачу вас шакіраваць страшнай назвай першай часткі маёй споведзі, ведаю, што мне ніколі не перадаць толькі на словах, ды яшчэ праз столькі гадоў, тых жахлівых пачуццяў, якія назаўсёды, незагойна паранілі маю дзіцячую душу.

Была жнівеньская раніца. Ледзь чутна пастукалі ў акно. Даўганосы сутулы дзядзька Міхалка клікаў мяне. Ехаць на раку не хацелася. Я схаваў пад коўдру чорныя ад пылу ногі, перавярнуўся на другі бок. Жонка дзядзькі Міхалкі, увішная, кірпатая, невялікага расточку Поля казала ля акна:

— Ой, хадземо. Пашкадуй дзіця.

— То ж зноў крывіцца будзе, — адказваў дзядзька.

Мая маці (яна апошнія паўгода спала на лаве ля покуці) паднялася, адчыніла акно, затрымала брата. Устаў я нехаця. Маці сунула мне ў руку палатняную торбачку з ежай (гуркі, хлеб, сала), пацалавала тройчы і перахрысціла на дарогу:

— Слухайся ва ўсім дзядзьку Міхалку, заўсёды, сынок, слухайся, — чамусьці амаль шэптам сказала яна мне, соннаму, на вуха. Мне нясцерпна хацелася спаць, і я не прыслухоўваўся да яе трапяткога голасу, як не звяртаў увагі апошнія паўгода на тое, што яна перайшла спаць на голую лаву пад покуць.

Холад, які несла ранішняя раса праз дзірачкі сандаляў на цёплыя ногі, хутка прагнаў сон. Селі ў лодку. Цётка хапілася грабці, усё ёй здавалася, што яны спозняцца, не паспеюць да вечара прывезці з Прыпяці лазняку, а дзядзька, папляваўшы на далоні, узяўся за цяжэйшае весла. Кіраваў ёмка, плылі хутка. Уніз па цячэнні Гарыні лодку панесла, як папяровы караблік.

— Шчо, рыбак, дзіравыя штаны, мо возьмеш весла да паможаш цётцы? — адганяючы сумны настрой, казаў дзядзька.

— От не чапіся да хлопца. Пасцялі куфайку ды паспі, — раіла Поля.

Я ляжаў на дне лодкі і глядзеў у неба. Хмарылася. Аднекуль збоку чуўся слабы і непрыемна-надакучлівы спеў адзінокай горліцы.

— Бач ты, халера, другі раз чуемо. Ля нашай хаты на слупе плакалася, а зараз тут.

Дзядзька не хацеў слухаць жонку, гнуў сваё:

— От трэбо матор купіць. Шух — і на Прыпяці.

— Зарабі грошы і купі, хто ж табе не дае, — як бы папракнула чалавека Поля.

— І зараблю. Паеду на вэсну, прадам краскі — будзе заробак.

Я і дагэтуль чуў, што дзядзька неаднойчы збіраўся, як некаторыя гарадчукі, павезці вясною ў горад насенне кветак ( у нас на іх кажуць краскі) ды прадаць.

Не прыслухоўваўся я надта да іх гаворкі, мяў у руках мякіш хлеба, амаль драмаў. У гэты самы момант маёй маці заставалася жыць шэсць гадзін.

Цяпер, калі я пішу гэтыя словы, калі мне зусім нядаўна споўнілася семнаццаць гадоў, я намагаюся ўявіць — як яна пражыла гэтыя шэсць гадзін у нашым невялічкім мястэчку з рэдкай назвай Давыд-Гарадок? Калі, скажам, сесці на ровар, можна за тры гадзіны з гэтых шасці аб'ездзіць усе вуліцы на адзін бок Гарыні, якая адразае некалькі кварталаў з новабудоўлямі ў Мельніках ад старога мяста — цэнтра, і па другі бок, на якім каля тысячы хат драўляных, старэнькіх, толькі зрэдку паднятых свежымі падвалінамі. Што яна магла ўгледзець, калі б усё ж паехала, у час гэтай апошняй экскурсіі? Царква каменная (яна сюды хадзіла), царква драўляная (і ў ёй малілася), чырванашчокі касцёл, які з трыццаць дзевятага года не дзейнічае, нізенькія драўляныя масткі, і зноў хаты, хаты з адным, двума вокнамі на вуліцу, гаткі, сплеценыя з лазы, і крушні ля глiністых берагоў, брукаваны шлях, у канцы якога мураваныя дамы. У іх модныя белашыферныя дахі. Ліпы, высачэзныя таполі на альшанскім шляху, драўляныя крыжы ў ручніках на скрыжаваннях вузкіх вулачак. На беразе тупаносыя лодкі, якія перавернуты дном да сонца і пахнуць свежай смалою. Базар у цэнтры, ля чайной. Вароты базара перакошаныя, вісяць на адной завесе. Мураваны дом са шкляным дахам пасярэдзіне, гэта рэзідэнцыя мясцовага фатографа, старога пана Зу-

бэя. Школа беларуская займала трохпавярховую камяніцу зялёнага колеру, збудаваную яшчэ пры Польшчы. Школа руская размясцілася ў былой управе. Таксама мураваны, праўда, аднапавярховы будынак. Там-сям дубовыя крыжы, абгароджаныя нізенькім штыкетнікам. Яшчэ адзін мост — масток — старэнькі зусім, латаны новымі дошкамі і дошчачкамі, масток, перакінуты цераз старое вусце Гарыні, — цяпер гэта Сежка. Маці любіла гэты масток, гэтую дарогу да драўлянай Юр'еўскай царквы. Мо яна пастаяла перад смерцю на гэтым мастку?

Вада ў Сежцы — бы смала, чорная, ля берагоў жоўтыя гарлачыкі з зялёнымі каўнерыкамі. Гароды з высокімі сухімі, шэрымі тычкамі, па якіх уецца фасоля. Пад вокнамі хат кветкі — гваздзікі, наготкі, настурцыя, якая, не пытаючыся дазволу ў гаспадароў, паўзе на вуліцу. Калодзежы з высокімі жураўлямі і акаванымі бляхай, набраклымі ад вады драўлянымі вёдрамі. Кузня Герасімава навідавоку ля старых, як сам гарадок, вербаў. У гаспадара, калі б яго ні стрэў, чорныя вусы, шэры твар і чырвоныя вочы. Каты, а іх Герасім любіць, грэюцца на шулах варот, злыя сабакі з брэхам кінуцца, бразгаючы ланцугамі на дроце, да фортак, пачуўшы чужыя крокі ля свайго плота. Сабак многа ў Радзічах, на Выгані. Маці іх баіцца, таму туды наўрад ці паехала б. Божа літасцівы, што, што яна рабіла тады, аб чым думала гэтыя шэсць гадзін? А калі не паехала роварам, а пайшла пешкі? Магла прыпыніцца каля вербаў, якія схілілі свае косы ў стаячую ваду — ямы, такімі ямамі, як ля Герасімавай кузні, звычайна заканчваецца большасць вуліц гарадка. Не мінуць Старыка, маленькай рачулкі, якая калісь несла сваю ваду ў Гарынь, а цяпер перасыхае і ператвараецца ў балотца з непраходным куслівым жаберам і смярдзючай вадою, якую нават коні не п'юць. Мо яна пайшла на Выгань, за якім пачынаецца кукурузнае поле, а там, удалечыні, віднеюцца калгасныя свірны, за імі высокія таполі і неба?

Мо не варта і ехаць, каб лішні раз не трывожыць душу: усё адно за хатамі, адрынамі, ляском, полем — толькі адно — бяскрайняе неба. Яна ж апошнім часам усё часцей казала: «Не жыць мне, не жыць!»

Там, ля роднай хаты, яшчэ была спакуса мне, малому, пайсці да канца вуліцы за дзіравую адрыну і ўбачыць край неба. Бо ніяк не верыцца, што яно бяскрайняе. Усё ж мае пачатак і канец: дрэва, лодка, слуп,

а яно адно не канчаецца? Чаму? А мо я памыляюся, перагортваючы свае запісы, мажліва, і маці турбавалі гэтыя думкі... Шэсць гадзін... усяго шэсць гадзін. Што ж можна паспець за іх агледзець, усвядоміць, палюбіць, дараваць? Можна ж паспець праведаць родных. Так. Брат Міхалка з жонкаю на Прыпяці, дачку сваю пакінулі ў суседзяў. Сястра Олена хварэе, чалавек яе, Якаў, на калгасным полі. Можна зайсці да сяброўкі Гэлі, жонкі сваяка Глеба Іванавіча. Яна спіць. Хоць ужо і свінні вішчаць, і зелля поўна ў гародзе, і вады ў вядры нямашака, і галодны кот вылізвае ўчарашняе сала на патэльні. Можна пайсці аж да Бесарабіхі і там папіць вады з іхняга калодзежа. Самай смачнай вады на ўсю Аселіцу. Сусед Ткач выкапаў глыбокі-глыбокі калодзеж у сваім двары, а ўсё ж вада ў ім нясмачная. Можна пабегчы да любай стрыечнай сястры Зосі, яна толькі ўчора прыехала на ўрлёп[1] з Польшчы. І яна спіць з дарогі. Можна, урэшце, пайсці да царквы, калі будзе служба. А можа, захацелася ёй дастаць старыя альбомы з пажоўклымі па краях картачкамі, якія ўзорыста абрэзаны і раскладзены па старонках пад танюсенькай белай папяроснай паперай. Доўга разглядаць, пакуль бурклівая маці (а мая баба) Насця не ўшчыкне якім-небудзь калючым словам. Не любіць старая, калі сядзяць без справы. Бацька (а мой дзед) Цімох змаўчыць. Ён заўсёды больш маўчыць: ладзіцца ў хаце ці не ладзіцца, ёсць грошы ці іх нямашака, Цімох маўчыць. Ён шавец, у гарадку кажуць па-руску — сапожнік. Бывае, зрэдку пад настрой нешта бурчыць прыемнае сабе ў вусы ці паціху спявае адну і тую ж песню, калі шые чобаты. Даўно дзед не спявае, з таго часу, як пагоршала здароўем дачка.

...Што ж яшчэ? Што? Цяпер, калі мне не семнаццаць, а трыццаць гадоў, я сілюся ўспомніць, што акружала, што магло акружаць яе ў тую жахлівую апошнюю гадзіну. І думаецца, божа міласэрны, колькі ж усяго паўстае перад аднымі вачыма!

Як шмат жывога наўкол, якое і цябе кожную секунду зараджае надзеяй, прадчуваннем лепшага. Але прыйшоў дзень, калі раптам парушылася гэтая сувязь паміж жывым, калі душа яе не змагла па нейкіх прычынах, толькі ёй адной вядомых, абуджаць цікавасць да жыц-

---

[1] У адпачынак.

ця, а свядомасць, не маючы энергіі ад працаўніцы-душы, разгубілася, і абудзіліся схаваныя глыбока ў кожным чалавеку вар'яцкія думкі пра непазбежную бессэнсоўнасць усяго і ўсіх, аб марнасці і непазбежнасці тамлення духу чалавека, які апынуўся ў глыбокім адчаі і адзіноце.

Восьмага жніўня 1958 года, у пятніцу, мая маці Марыя па ўласным прымусе развіталася з жыццём. Самагубства.

У вушах засела нуднаватая песня горліцы: «ту-ту-у, ту-ту-у». Я ляжаў на дне лодкі і па-ранейшаму глядзеў у бяздоннае неба. Мала-памалу распагодзілася. Цяпер ужо цётка кіравала, а дзядзька Міхалка, не перастаючы пляваць на далоні, гроб. Бліснула светлай шырынёю, здзівіла густой непралазнай зелянінай на берагах царыца Палесся Прыпяць. Хутка напалі на добры лазняк. Нешта лёгка за нейкую гадзіну насеклі добры воз. Я цягаў да лодкі халодную лазу з пачуццём насцярожанасці: усё здавалася, што ззаду нехта бяжыць услед. Прыглядзеўся: баяўся гадзюкі. Аж гэта шамацела ад лазы, якую я, успацелы ад хуткай беганіны, цягаў з кустоў, высокая і густая трава-перка. Застаўся ў нас час і павудзіць рыбу. Трэба сказаць, на гэта мой дзядзька быў слынны спецыяліст. Ён першы на ўвесь гарадок мо прачуў дзесьці, а мо прыдумаў дабаўляць у цеста валяр'янку, «каб пах рыбіну заманьваў». У гэты дзень рыба ішла толькі да мяне. Пакуль цётка нажала шчарбатым сярпом травы, я паспеў нанізаць на лазовы дубчык тры вялізныя плоткі, пяць лешчыкаў. Дзядзька аж губу кусаў. Падыходзіў бліжэй да мяне, закідваў свае рыбалоўныя прычындалы да майго паплаўка, але на яго вуду нават і не клюнула. Ён быў ад нараджэння з тых, хто не любіў пройгрышаў, хоць, шчыра кажучы, прайграваў, нават калі, здавалася, перамога была на яго баку. У наш бок ляцела маторка. Бацька майго аднагодка з Аселіцы Васіля Кіцеля клікнуў да сябе дзядзьку і нешта яму сказаў. Я не чуў, не было калі прыслухоўвацца... Зноў павяло на дно гусінае пяро-паплавок. Міхалка падышоў да жонкі спахмурнелы. Пачуўшы навіну, Поля ўсклікнула ўголас: «Госпадзі!»

— Ціхо ты! — прыкрыкнуў на яе Міхалка.

Сабраліся хуценька. Мяне клікалі да лодкі некалькі

разоў, так не хацелася мне пакідаць шчаслівае месца. Бацька Кіцеля кінуў у нашу лодку якарчык, зачапіў на буксір. Усю дарогу дзядзька мой, ад прыроды гаварлівы, прасядзеў як здзервянелы. Ані слова. І цётка маўчала. Гэта мяне трохі збянтэжыла, але не пазбавіла цудоўнага настрою. Сонца стаяла высока. Цёплы вецер прыемна лашчыў твар, грудзі. Хацелася як мага хутчэй паказаць дзеду рыбу: няхай зайздросціць. Не памятаю я такога дня, каб дзед вяртаўся з Гарыні без рыбы. Мяне высадзілі на Копанцы, куды мы бегалі з хлопцамі купацца, праз Радзічы было бліжэй дахаты. Скочыў я на бераг, услед дзядзька. Прайшлі разам некалькі крокаў.

— Ты чуеш, калі там дома з мамай шчо зрабілася... не пужайся. Я ў цябе ёсць. Понял, не? Дзядзька я. Во. Ну, ідзі. Я прыйду.

Ён павярнуў да лодкі, не азіраўся. Відаць, заплакаў. Слёз яго я тады не заўважыў. Не здагадаўся б, адкуль яны, калі б і ўгледзеў. Шчасце маё было бязмежным. Я нёс дахаты рыбу! Хвост шчупака, які папаўся апошні на жыўца, цягнуўся аж па зямлі.

...О, будзе міравая вячэра! Шчэ й на заўтра хопіць. Не будзе болей баба Насця бурчаць: «Валацуга, калі з цябе толк будзе, божа мой праведны, калі ты за розум возьмешся».

На дубовых калодах ля хаты суседкі Сарокі сядзелі хлопцы-сябрукі: Толік Бабёр, Васько Кіцель, Ванька Гасцюшкін. Нехта з іх аклікнуў мяне:

— Здароў. Твая маці памерла.

Я чамусьці вельмі спакойна адказаў:

— Я ведаю.

Здалёк у промнях яркага сонца, мо з таго яшчэ жахлівей, разанула вочы чорнае века труны, якое стаяла тырчком ля склепа. Я сцішыў хаду і заплакаў.

Дзіўна, амаль незразумела, нават парадаксальна, але адразу пасля пахавання для мяне раптам пачала існаваць мая маці. Не ў думках і ўспамінах, а як бы наяве. Быццам яе і не пахавалі. Я нарэшце ўсвядоміў, што ў мяне ёсць маці. Раней жа яе падмяняла проста жанчына, якая цалавала маю шчаку нанач, а я, не са-

ромеючыся, выціраў пры ёй шчаку рукой. Раней была проста жанчына, якая будзіла мяне, клікала вячэраць, менавіта тады, калі ісці дахаты аніяк не хацелася. Ішоў я злы, не таму, што галодны, а таму, што не мог працістаяць яе нябачнай уладзе нада мной. Раней я нават і не цікавіўся: чаму яна перайшла спаць на голую лаву на покуці, чаму не брала пухкую падушку, а падкладвала пад галаву маленькую, вышытую зверху каляровымі крыжыкамі падушачку, і ўжо аніяк мяне не цікавіла, чаму яна заўзята штодня моліцца богу, пазбягае сустрэч з людзьмі і амаль не ходзіць на работу. Нeяк дзядзька сказаў, што маці хварэе, што ў яе слабыя нервы, слухайся, маўляў, яе, не пярэч, не выструньвайся. Ды ці мала што мог гаварыць дзядзька.

І вось пахаванне, як снег у спякоту. Слёзы. Чамусьці ўсе: суседзі, родзічы, людзі з іншых вуліц, — пераступаючы парог, хрысцяцца і пачынаюць ціха плакаць, яшчэ не ўгледзеўшы нябожчыцы. У нас усяго два пакоі, маці ляжыць у пярэдняй хаце. Поля прынесла белы з кружалямі абрус, зняла палатно з труны, якім была пакрыта да рук на грудзях яе швагерка:

— То няхай будзе, як у людзей. Паляжыць, як царыца, наша Маня.

Баба Насця сядзела ля труны і аплаквала малодшую дачку. Дзед Цімох крадком выціраў слёзы чорнай хустачкай. Я ніколі ў жыцці не бачыў, як плача дзед, і таму найбольш глядзеў на яго. Цётка Олена, суседка Гэля, стрыечная сястра маці Зося, Міхалка ціхімі крокамі хадзілі з пярэдняй у сені, у паграб, да хаты майго хроснага, некага страчалі, некага праводзілі, нешта насілі ў місках, бегалі нават у магазін, хутка вярталіся.

Кожны чужы, хто ішоў паглядзець нябожчыцу, не мінаў мяне словамі:

— Бедны сіротка. Бедны сірацінка.

Каб нікога не бачыць і нічога не чуць, я пайшоў да адрыны і там сеў на калоду. Пад'ехала падвода. Сусед, аднавокі Паўлёнак, які меў свайго каня, прывёз святара Міфодзія. У хату і ў двор пацягнуліся з вуліцы людзі...

Потым мяне нехта з людскога натоўпу пасадзіў на падводу, на якой везлі ў самым канцы жалобнай калоны засяроджанага айца Міфодзія, які тоўстымі пальцамі раз-пораз церабіў сваю чорную густую бараду. Здаравенны жоўты драўляны чамадан з рэчамі святара

муляў, штубаў мяне ў бок. Аднагодкі, аднакласнікі, якія траплялісія насустрач, як мне падалося, менш глядзелі на нябожчыцу, а ўсе спачувальна, з нейкім жалем, не зводзілі вачэй з мяне. Мне рабілася няёмка да злосці, я апусціў галаву, каб не страчацца з імі паглядамі. Толькі адзін раз я падняў галаву, калі праязджалі ля хаты новага суддзі. Мяне зацікавіла чамусьці, ці выйдзе з форткі яго дачка Валя, якая вучылася са мной у адным класе. Яна стаяла ля форткі разам з малодшым братам. На нейкую долю хвіліны нашы пагляды сустрэліся; мяне бы абдалі варам, і я апусціў галаву.

Неслі труну з маці, як падалося, вельмі доўга. Нарэшце падышлі да могілак.

Я схамянуўся. Успомніў, як некалькі дзён таму мы прыбягалі сюды паглядзець на пахаванне. Памерла старэнькая бабуля. Мяне тады вельмі здзівіла, што, развітваючыся назаўсёды, родныя цалавалі нябожчыцу ў твар, а дачка дык прыпала да губ. Няўжо тое ж самае прыйдзецца зрабіць і мне? Жах ахутаў мае ногі, калі дзядзька Міхалка зняў мяне з воза і павёў да долу, прыціскаючы да сябе.

«Не хачу! Не трэба цалаваць, не магу!» — крычала ў маіх скронях. Нельга рабіць гэтага. Тады яна забярэ і мяне за сабою, думаў я, ступаючы каменнымі нагамі па сыпкім пяску ля долу.

Усе пачалі развітацца з маці, хрысціліся і цалавалі яе бялюткі худы твар, цалавалі і хрысціліся, саступаючы месца іншым. Дзядзькава рука лягла цаглінай на маё плячо. «Не змагу! Не...» — бунтавала думка. І тут нейчыя рукі абхапілі мяне і пацягнулі ад труны. Быццам падслухаўшы мае думкі, цётка Олена адвяла мяне, папракаючы брата Міхалку:

— От, недарэка, доўбень. Казала ж, не цягні цалаваць. Малы ён, напужаецца. Не, паганец, прывёў.

Цётка Олена старэйшая за маю маці на адзінаццаць гадоў. Яны пабудаваліся каля Сежкі, гэта далекавата трохі ад нашай Аселіцы. Да іх я прыбягаў зрэдку, да нас яна наведвалася яшчэ радзей. Баба недалюблівала свайго зяця Якава, а з якой прычыны, я тады пакуль не ведаў.

Усё... Зямлёй, падобнай колерам на счарнелую салому, прысыпалі труну з маёй маці навекі. Людзі паволі

разыходзіліся з могілак. Некаторыя пайшлі праведаць магілкі сваіх родных. Сакратарка старшыні райвыканкома, тоўстая, але прыгожая з твару Жэня, пацалавала мяне і сунула, быццам сарамеючыся, у руку мне канверт.

— Шчо плакаць, мамо, на ўсё воля господня, — сказала цётка Олена, узяла ў мяне канверт, палічыла грошы і перадала іх бабе Насці. Баба на грошы не звярнула аніякай увагі.

— Мамо, хадзем хутчэй, людзі ж будуць чакаць, — прыспешваў бабу Насцю Міхалка, — памянем грэшную душу. Адпакутавала сваё. Ты вось шчо, — звярнуўся ён да мяне, — не плач. Бог даў, бог узяў. Я цябе ў крыўду не дам.

Дзядзька Міхалка паспеў ужо выпіць.

— Ідзі ўжо, ідзі. Накаўтаўся, халера, і не сорам перад людзьмі, — злёгку штубнула дзядзьку жонка, штурхаючы наперад.

Назад вярталіся пешкі, подбегам. Падвода павезла Міфодзія да царквы, у другі бок. Мне ўсё здавалася, што мая вельветавая куртачка з накладнымі кішэнямі пахне дымам ад папоўскага кадзіла.

Ззаду мяне не пераставала прычытаць баба Лісавета: «Гэто ж трыццаць тры гадочкі, людцы мае... Манечка, а шчо ж ты нарабіла?»

Цяпер, калі я пішу гэтыя словы ў палаце туберкулёзнага дыспансера (як я туды трапіў — гаворка далей), калі мне амаль семнаццаць гадоў, я аніяк не магу ўспомніць, чаму памяць не захавала памінак, першай ночы без маці, наведання магілы (а хадзілі мы два дні). Нічога.

У галаве быў нейкі гам ад крыку галак, якія вярталіся нанач на свае кублы ў стары парк былога панскага маёнтка.

Я ўсё часцей пачаў вяртацца думкамі да маці, пачаў, як ні дзіўна, нешта сваёй дзіцячай галавой асэнсоўваць. Раптам, на нейкім віражы сваіх думак і ўспамінаў, я зразумеў, што ў смерці маці, відаць, найбольш вінаваты я сам! Я пачаў шкадаваць яе, мёртвую, як жывую, бо жывую не шкадаваў, бо жывой яна якраз была для мяне як усё роўна мёртвая.

— О, паразіт... усё, сатана, з-за яго! Манечка павесілася. От жытку пакалечыў дочаньцы, — казаў дзед Цімох маўклівай Насці.

— Ай, маўчы ўжо. Не вернеш, а ляпаць языком абы-што... Не ведае ўнучак пра яго, і не варта ўспамінаць.

Я пачуў іх гаворку.

— З-за каго, бабо? — папытаў.

— Ай, стары дурань не ведае, пра што ляпае. Не бяры да галавы. На ўсё воля божая. Бацьку твайго ўспамінае.

— А дзе ён?

— А дзе ж яму, халеры, быць. За ракою жыве, у Мельніках. На пахаванне не прыйшоў, жулік, — прамовіў дзед.

— І добра, што не прыйшоў. Казала Лісавета, бытта буран у той дзень над Мельнікамі праляцеў, — дадала баба.

«Дык у мяне, аказваецца, і бацька жывы ёсць», — неяк узбуджана, але без узнёслай радасці падумаў я. Безумоўна, пра яго існаванне я крышку ведаў і раней. Мне цётка Олена казала, што, маўляў, недзе жыве за ракою. Тады «за ракою» ўспрымалася як на краі свету. Калі ж мяне пыталі, дзе мой бацька, я адказваў жартам (так навучыла маці): «косіць сабакам сена» ці «пайшоў у гарох боб шукаць». І раптам ён, аказваецца, жыве за ракой у маім мястэчку! Які ён? Як выглядае? Што робіць? Хто ён?

Я заблытаўся ў пытаннях, узбуджана хадзіў, не знаходзячы сабе месца. Аднак паступова цікавасць да бацькі распаўзлася абыякавасцю. Мары раздрабніліся на далёкія і цьмяныя адгалоскі, якія рэдка збіраліся разам, каб падштурхнуць мяне да дзеяння, а паасобку не трывожылі штодня маю дванаццацігадовую свядомасць.

У прыстолку на кухні я знайшоў аднойчы два сшыткі, спісаныя дробным почыркам. Пісалі алоўкам. Не ўсё было разборліва, але ад таго, што напісана было так многа, аж два сшыткі, я не стаў чытаць далей трох першых старонак. Нічога не зразумеў.

— А шчо гэто? — пацікавіўся я ў свайго шчуплага дзеда.

—А... гэто, унучак, мамкі цятрадзі. Нешта, небарака, пісала ўпотай. Мо біблію перапісвала. О, гэта са святога пісання, — дзед, начапіўшы старыя акуляры (замест паламанай дужкі на вуха накідвалася пяцелька з тоўстай дратвы), паспрабаваў чытаць. Махнуў рукой, па-

клаў сшыткі назад у прыстолак да брытвы, люстэрка, намазка, свечкі, гузікаў, катушак нітак і голак. Праз некалькі дзён, калі я адчыніў прыстолак, сшыткаў там не было.

І вось цяпер, калі мне семнаццаць, калі я пішу гэтыя словы ў бальніцы, я думаю ўсё часцей: што там было ў гэтых сшытках? Мімаволі думаецца: там запіскі таго, хто пакінуў свет па ўласнай волі; відаць, там будуць і запісы пра самагубства, пра адносіны з маім бацькам, дзедам, бабай? З людзьмі. А калі не? Ці быў у яе час і жаданне пра ўсё гэта запісваць? Казаў жа дзед — «святое пісанне».

Мне трэба знайсці гэтыя сшыткі! Неадкладна! Колькі мінула, як яна памерла? Чатыры гады. Ах, дурань я, трэба было раней іх пашукаць. Калі сшыткі тыя ёсць, калі баба не спаліла, як спаліла яна вяроўку, тую самую, на якой... Усё хавае ад мяне, усё знішчае, усё тое, што можа нагадваць пра смерць. Нават усе рэдкія карткі пахавала ў рыдыкюль і перадала Міхалку, а ўсю матчыну адзежу Олене.

Вырашана! Трэба папрасіцца на пабыўку, як робяць некаторыя хворыя, і ехаць у Давыд-Гарадок.

Заўтра ж адпрашуся ў галоўнага ўрача, калі загадчык хірургічнага аддзялення, хмурны і вечна сур'ёзны доктар Ілья Ільіч Фішкін не адпусціць. Знешняй заклапочанасці Фішкіна я пабойваюся. Часта ён, асабліва пасля ўдалай і хуткай аперацыі, ідзе па калідоры з такім выглядам, быццам гэта не Ісак Ньютан адкрыў закон, а Ілья Фішкін. Урэшце, мне трэба ўсяго якія-небудзь два-тры дні. Я не ведаю праграмы на першую чвэрць (усё ж дзесяты клас), трэба абавязкова знайсці матчыны сшыткі і сустрэцца з Валяй Цялегінай. Успаміны пра маці, пра Валю балюча адгукнуліся ў маім сэрцы. Не. Павінен ехаць. Цяпер, калі я пасталеў, мне не будзе боязна падысці і да бацькі. Ён па-ранейшаму жыве там, за ракой.

Доктар Фішкін без усялякіх разважанняў адмовіў мне.

Напярэдадні адзін хворы «камандзіровачнік» не даехаў назад у дыспансер, а патрапіў у выцвярэзнік. Я прыхаваў сваю нелюбоў да Фішкіна ў сціснуты кулак і ледзь не плакаў, седзячы адзін у палаце. Дапамог мне малады ўрач, як аказалася, мой зямляк, які ад сваіх бацькоў трохі ведаў пра маё сіроцтва. Нейкім чынам

яны з Фішкіным дамовіліся, і мяне адпусцілі на тры дні.

— Ілья Ільіч, Вячаслаў Ігнатавіч, у мяне ж палачак[1] няма, я ж незаразны. Можна, я пабуду тыдзень? Дома буду рэгулярна піць паск[2], інгу[3]. Чэснае слова.

— Далі тры, і радуйся. Усё. Не прасі. Не паложана. Рэжым парушаецца, — прыгразіў мне зямляк, і я змірыўся, пабег да бальнічнай багажні па адзежу.

Калі вам яшчэ трохі цікава і вы не стаміліся, не надта занятыя сваімі неадкладнымі справамі, хачу прапанаваць вам нешта накшталт свайго партрэта. Завуць мяне Адась Доля. Кажуць, што прадзеды майго бацькі калісь трымалі млын, з таго і жылі. Урэшце, я не цікавіўся, хто мае прадзеды, бо я яшчэ цалкам не асэнсаваў і сваё існаванне. Што найбольш цікавіла і вабіла — навакольны свет, а чалавек як асоба не хваляваў мяне. Нарадзіўся я без бацькі, які ў ліпені ці жніўні сорак шостага года сышоўся з іншай жанчынай, а маю маці, Марыю, кінуў. Меў ён ад другой жонкі двух сыноў і дачку. Мне плаціў аліменты і не шукаў сустрэч са мною, як не хацеў яго бачыць і я. Больш таго, я страшэнна баяўся такой сустрэчы ад дня пахавання маці. Але пра гэта пасля. Нехта казаў мне, ці не дзядзька Якаў, што продкі майго дзеда Цімоха вазілі разам з купцамі соль і хлеб. Мелі далёкіх сваякоў у Старым Асколе на Русі. Запытай мяне зараз, у семнаццаць гадоў, пра маіх продкаў, яй-богу, нічога не адкажу, бо толкам нічога не ведаю. Росту я невялічкага. На фізкультуры ў класе стаю перадапошнім, пасля мяне адзін Ванька Гасцюшкін і застаецца. Мне балюча ўсё адно, таму што яна, Валя Цялегіна, вышэй за мяне. Усцешвае адно: пакуль вышэй. Я вычытаў, што мужчыны растуць да дваццаці пяці гадоў. У мяне вельмі адтапыраныя вушы, гэта я заўважыў толькі ў пятнаццаць гадоў, калі збіраўся з сябрам Толікам Бабром (ён старэйшы за мяне на год) на суботні школьны вечар. Яны, праклятыя, адтапыраныя вушы, робяць мой твар падобным на грушу, таму прыходзіцца не састрыгаць валасы па баках галавы і прасіць бога, каб хутчэй выраслі бакенбарды. Рэдзень-

[1] Палачка Коха, сухотны мікроб.
[2-3] Лекі супраць хваробы.

кая грыўка, як у «бокса», адкрывае высокі, маршчыністы не па гадах лоб, ад чаго і без таго даўгаваты востранькі трохі нос выглядае зусім доўгім. Губы ў мяне тонкія. Маці казала: бацькавы губы. Неяк я разглядваў старыя карткі дзеда і бабы: губы ў іх таксама тонкія. Я нічым не хацеў паходзіць на бацьку. Вочы мае шэрыя, а вось дзіўна: часам бываюць блакітныя-блакітныя, ну чыста васількі. Калі доўга нагляджуся на неба.

Сам я рухавы, можна сказаць, рухавы празмерна, але хутка стамляюся, і асабліва стамляўся ў апошні год: відаць, падкрадвалася ўжо хвароба. Калі беглі на школьных спаборніцтвах сто метраў, я ніколі не прыходзіў да фінішу першым. Прыкра звыш меры. Хацелася ды і хочацца, што ўтойваць, каб яна, Цялегіна, хоць што-небудзь заўважыла ў мяне прывабнае. Яна бегае шпарчэй за мяне. Цяпер (асабліва ў бальніцы) у мяне на твары, бывае, на плячах з'яўляюцца чырвоныя прышчыкі, якія часам доўга не праходзяць. Я злуюся, але злосці ў мяне надоўга не хапае. Сіл і жадання займацца спортам у мяне няма, а ў Ванькі Гасцюшкіна наадварот. Меншы за мяне ростам, а футбаліст выдатны, любімчык усяго Давыд-Гарадка. У мяне тонкі, бялявы твар і глыбока пасаджаныя вочы; відаць, і гэта ад хваробы.

Я люблю незалежнасць і люблю, каб мяне часцей хвалілі. Смеласць мая патройваецца, калі побач Цялегіна. Кіраўнік школьнай мастацкай самадзейнасці выбраў мяне вядучым усіх канцэртаў. Я вельмі хутка і без хвалявання знаходзіў агульную мову і жывыя зносіны з публікай, зусім як артыст. Аднаму мне было вядома, як я хваляваўся, рыхтуючыся за кулісамі да выхаду, выціраў пот з шыі, ілба, далоняў. Трываў, а ўсё чаму? У самадзейнасць пайшоў толькі дзеля яе, Валі, каб быць побач, каб Генка Шакін, гэты рослы, з вечна прыжмуранымі вачыма (быццам цябе пільна разглядае) наш аднакласнік, ведаў, што я каля Цялегінай, я з ёю.

Праўда, аднойчы я ўзненавідзеў сваю ролю вядучага, калі заснавалі танцавальны гурток. І трэба ж так. Шакіну выпала танцаваць у пары з Цялегінай. Божа, ён паклаў ёй руку на плячо, узяў за талію! Чаму яна дазваляе яму так доўга трымаць руку на сваім плячы? Ніхто ж не рэпеціруе, усе чакаюць, пакуль блізарукі кіраўнік разбярэцца ў нотах ды расцягне свой акардэон. Чаму? Паласнула падазронасць. Так балюча, як

бывае, калі наколешся ў поцемку падстрэшша на востры серп. Няўжо ў іх нешта можа быць? Ці было? Няўжо ён з ёй ходзіць? Пасля той рэпетыцыі я варочаўся ўсю ноч, не спаў.

Мне, увішнаму і лёгкаму, навучыцца танцаваць было ўсё адно што перакусіць травінку. Я нават перастараўся так, што кіраўнік, не сумняваючыся, прызначыў мяне салістам. Ёлкі-палкі, як любіць казаць дзядзька Міхалка, і тут не шанцуе.

Ён, Шакін, з ёй у пары, а я салірую. Вырабляў я такія выкрунтасы, круціў такую «бочку», хадзіў упрысяд з выкідам ног перад сабой так лёгка, што зала нязменна адгуквалася апладысментамі. Паступова слодыч славы і папулярнасці рабілі сваю справу, мне ўсё часцей здавалася, што я і самы прыгожы. І надта ж таленавіты, але чаму толькі яна адна не заўважае маёй папулярнасці. Што яе за гэта — асуджаць ці мілаваць? А ўсё пачалося ў той жніўеньскі дзень, у час пахавання маці, калі яна акінула мяне паглядам, які струменіў спачуваннем і цеплынёй. Нявецтла на душы ад змрочных меркаванняў: ці яна са мной, ці кахае Шакіна. Маючая адбыцца сустрэча і адкажа на гэтае маё збалелае пытанне.

Напачатку, як толькі я захварэў, думкі былі адны: вылечыцца і завербавацца куды-небудзь, а ўжо там экстэрнам здаць за сярэднюю школу. Не хапіла смеласці, патухла паспешлівае жаданне.

І вось я еду ў душным аўтобусе з абласнога цэнтра ў свой Давыд-Гарадок, канечне ж, не думаю пра радасць сустрэчы з родным кутам, бацькаўшчынай, па якой, здавалася б, можна было і засумаваць за чатыры месяцы разлукі. Вяртацца з бальніцы, ды з такой хваробай, як туберкулёз лёгкіх (правага лёгкага), і ў родную хату не соладка. Цябе пастаянна не пакідае пачуццё нейкай віны, і ты інтуітыўна пачынаеш цурацца людзей, кантралюеш свае ўчынкі: не падыходзіць блізка да дзяцей, не заходзіць па магчымасці ў чужыя хаты, не піць з калодзежнага вядра ваду. Разумееш, што праклятых палачак не носіш, а ўсё адно пачуццё віны неадступнае. Гэтай, мякка кажучы, этыцы хворага навучалі мяне і старэйшыя сябры ў нашай палаце, людзі, якія змагаліся з сухотамі гадамі. Дзіўна, аднак, што часам робіць, як п'яніць чалавека пачуццё волі!

Сеў я ў аўтобус і забыўся пра сваю хваробу. За ча-

тыры месяцы ў дыспансеры я дасканала вывучыў усё, што зроблена і робіцца ў барацьбе з «беркулёзам» (як кажуць гарадчукі), пасля сардэчна-сасудзістых і раку хваробай нумар тры на свеце. Ведаў, што пакуль ніякай небяспекі людзям ад мяне няма, бо ў мяне ачаговы працэс. Некалькі разоў бралі ў мяне макроту на аналізы і палачак не знаходзілі. Доктар казаў: ці кепска гэта, ці добра, пакажа час. У мяне і сумненняў не было, што добра.

Я жыў ці намагаўся жыць на стары лад. Людзі, ведаў загадзя, у нашым дзевяцітысячным гарадку будуць ставіцца да мяне па-ранейшаму, а калі хто і адвернецца, дык зробіць гэта непрыкметна. Кожны там памятае: «ад хваробы, кахання і турмы не заракайся». Сёння ты яго цураешся, заўтра будуць цябе цурацца. Адным словам, жахлівая хвароба мяне не турбавала, бо для мяне перастала за гэтыя чатыры месяцы быць жахлівай і не псавала мой прыўзняты настрой. Нейкае непадуладнае пачуццё падганяла мае думкі да ўпэўненасці, што Валя, канечне ж, усе гэтыя месяцы ў журбоце чакае майго вяртання, што бацька, сустрэўшы, абдыме за плечы і скажа: «Даруй, сынок, не ведаў, што ты так сур'ёзна захварэў. Вось табе грошы, купі касцюм, туфлі. Прыходзь да мяне. Не чужы».

Думалася, што я абавязкова знайду тыя два сшыткі... Колькі ўсяго перадумалася ў бальніцы. Я вазіў з сабою мамін фотаздымак, на якім мы стаім разам; я ў белым цыгейкавым футэрку і чобатах (гэта была б ганьба, каб унук шаўца не меў чобатаў) і маці ў паліто з каракулевым каўняром, чобаты ў яе бліскучыя, з добрага хрому. Зняў нас хутчэй за ўсё фатограф пан Зубэй на цвінтары. Галовы нашы не пакрыты. Мажліва, здымаліся на вялікдзень, а можа, на радуніцу. Маці паставіла мяне на пянёк і прыціснула да свайго пляча. Твар у яе адкрыты, спакойны, яна ледзь прыкметна ўсміхаецца. У жыцці я не памятаю яе ўсмешкі. Жахліва цяпер уявіць, як чалавек жыў не ўсміхаючыся.

Хутчэй у гарадок, хутчэй!

Пакуль я, семнаццацігадовы, драмлю ў аўтобусе, давайце, дарагі чытач, яшчэ раз часова вернемся на некалькі гадоў раней.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## ХВАРОБА

Аляксей Крутаяраў адслужыў на баявым катэры Дняпроўскай флатыліі чэсна, выжыў у пекле вайны, прыехаў на радзіму ў Барысаглебск, пайшоў на чыгуначны завод. Працаваў, праўда, нядоўга — вылучылі на камсамольскую работу, якую палюбіў, аддаваў усе сілы, не лічыўся з часам. Жонка яго Шура, знешне добразычлівая, памяркоўная, родам была з Гомеля. Яны пазнаёміліся ў сорак шостым годзе, з паўгода дасылалі адно аднаму доўгія пяшчотныя лісты, пакуль ён не прыехаў і не забраў яе ад адзінай сястры да сябе. Бацька ў Шуры загінуў у партызанскім атрадзе, а маці памерла ад сардэчнага прыступу ў сорак пятым годзе. Усё ладзілася ў маладой сям'і. Шура нарадзіла другое дзіця, атрымалі ў Варонежы кватэру. Крутаяраў цяпер пасля вучобы працаваў у райкоме партыі, усё часцей і часцей вярсядзеў ён да ночы ў кабінеце, усё часцей і часцей вяртаўся апоўначы з далёкіх камандзіровак. У апараце райкома працавала маладая машыністка. Мякчэлі сэрцам яны з Аляксеем з кожным днём. Да граху зрабілася блізка, як да вуха.

Ці тут падказала жаночая інтуіцыя, ці нехта перадаў Шуры пра яго, Аляксеевы, заляцанні да маладзенькай машыністкі — Шура рэзка змянілася. Яна і раней марыла вярнуцца на радзіму, у Беларусь. Прычапілася да Аляксея, бы ў дуду гнула сваё:

— Давай з'едзем адсюль, каб трохі вальнейшы быў, каб трохі незалежны быў ад гэтых праклятых камандзіровак. Не хочаш у Гомель, да маёй сястры... вось карта, выбірай — куды. У заходнія вобласці Беларусі накіроўваюць партыйных работнікаў. Тых, хто там служыў ці вызваляў, дык бяруць з большай ахвотаю. У нас ёсць магчымасць напісаць брату майго бацькі. Ён у Мінску ў Цэнтральным Камітэце партыі. Вырашай. Ты мяне ведаеш, забяру дзяцей і паеду адна.

Крутаяраў усміхаўся. Канечне ж, яна гэтага ніколі не зробіць, але трэба пастрашыць. Вось тады і ўспомніў пра Давыд-Гарадок. Пра сябра свайго Адама, з якім разам шпацыравалі па мястэчку ў такім, здаецца, далёкім, сорак чацвёртым годзе. Іхні кацярок тады стаяў на кароткачасовым рамонце. Яшчэ, помніцца, Адам па-

сябраваў тады з прыгожай мясцовай дзяўчынай. «Як яе імя? Ах, Марыя... Марыя».

Мястэчка тое нечым запала ў душу.

«Мо і сапраўды папрасіцца туды?»

Пад настойлівым націскам Шуры неўзабаве напісаў родзічу жонкі і з цягам часу атрымаў накіраванне ў Палескую вобласць, у Давыд-Гарадок, на пасаду старшыні райвыканкома.

Жонка кінулася перад самым ад'ездам у бібліятэку, каб хоць знайсці якія-небудзь звесткі пра гэты край. І Аляксей прасіў яе пра гэта таксама. На жаль, нічога з дакументальнай, навуковай літаратуры не знайшлі. Знаёмая бібліятэкарка, якую лічылі ўсе эрудытам па часці гісторыі, і тая нічым істотным не дапамагла. Ведала толькі, што горад заснаваў князь Давыд, які пасля ўмыснага асляплення Васілька Цярэбавольскага мусіў шукаць і асвойваць новыя землі. І ўсё.

Родзіч жонкі ў сталіцы добразычліва, па-бацькоўску паляпаў Крутаярава па плячы:

— Людзі, Аляксей, па сваёй прыродзе аднолькавыя, розняцца толькі звычаі. Чые словы, га?

— Можа... Энгельса? — нерашуча адказаў Крутаяраў.

— Не, браце, не ўгадаў. Канфуцыя. Сур'ёзны кітайскі філосаф, але далёкі ўсё ж ад марксізму, — разважаў родзіч. — Давыд-Гарадоцкі раён самы малады ў рэспубліцы. Канечне, народ своеасаблівы, палешукі, але, скажу, баяцца лапцюжнай патрыярхальнасці не варта. Засталіся там працаваць былыя арганізатары і ўдзельнікі партызанскага руху. Аб чым павінен папярэдзіць: велізарная роля царквы і рэлігіі. Упэўнены, людзі недастаткова разумеюць сутнасць дзяржаўных пазык, суботнікаў, маёвак. Будуць вучыцца, на вас гледзячы, на авангард, на камуністаў. Бачу, што ты натомлены за дарогу, таму дазволь павіншаваць і пажадаць высока несці сцяг нашых ідэй і пераканаўча, уласным прыкладам даказваць іх неўміручасць.

Родзіч падарыў на памяць Збор твораў Сталіна ў цёмна-вішнёвым пераплёце, а ягоная жонка падарыла Шуры крэп-жаржэту на сукенку.

— Нешта ж, як пагляджу, надта прасвечвацца будзе. Абмяняй у каго-небудзь хоць на крэпдэшын, — тактоўна па дарозе намякнуў жонцы Крутаяраў.

— Нічога. Машыністка не саромелася насіць, чаго

мне павінна быць гідліва, — як бы з папрокам адказала яна.

Крутаяраў уголас зарагатаў і прытуліў жонку да сябе.

У першыя месяцы яны вельмі любілі выходзіць раненька, калі дзеці спяць, на такі асаблівы, багаты рознымі таварамі і садавінай, на такі тлумны, гаварлівы і такі ўтульны, мо ад добразычлівасці палешукоў, давыд-гарадоцкі базар. На ім аднаго разу Крутаяраў і стрэў маю маці, неяк і не прызнаўшы.

— А я вас адразу пазнала, як толькі ўгледзела, — усміхнулася Марыя белазубай прыемнай усмешкай чалавека, які не ўмее хаваць нейкія таямнічыя думкі.

Маці прадавала салёныя гуркі, якія ў маі былі па добрай цане.

— Марыя! Дзень добры!

— Дзяньдобры!

— О, цяпер пазнаў. За гэтыя сем гадоў вы мала змяніліся. Пазнаёмцеся, калі ласка, мая жонка Шура.

— Аляксандра Іванаўна, — Крутаярава ветліва падала Марыі руку.

— То давайце баначку вашу ды пачастую вас гуркамі.

— З вялікім задавальненнем. А як вы тут, Марыя, дзе?

— Адна, — адказала яна, быццам загадзя ведала, што Аляксей абавязкова папытае і пра Адама. Так яно і здарылася.

— А як Адам?

— Адам, дзякуй богу, падрастае. Чатыры гады яму. Адась па-нашаму, па-руску Адам. Толькі па бацьку ён Трыфанавіч, а не Адамавіч.

— Разумею, — больш Крутаяраў не стаў пытаць пра былога сябра. — Ну, а дзе працуеш?

— Якая ў нас работа... Нідзе. З хазяйства жымо, як усе.

— Ну, гэта не дзела, далібог. Старому яшчэ як там ні было, а маладой жанчыне трэба мець прафесію.

— Не пашанцавала. Бацька ў мяне сапожнік. Сына яшчэ троху падвучыў, а з дзеўкі шчо ўзяць.

— Вось што... прыходзь у райвыканком. Што-небудзь прыдумаем.

— Добра. Прыйду, — спакойна сказала Марыя.

«Хазяйства, хазяйства», — не выходзіла з галавы

Крутаярава. Ён зноў вяртаўся да сваіх невясёлых дум.

«І ўсё не так проста, і ўсё не так лёгка, як хацелася. Няўжо прыйдзецца дакараць сябе за паспешлівае рашэнне? Зноў прасіць, каб перавялі ў іншы раён? Несур'ёзна. Выходзіць, не адолеў першых цяжкасцей? Разгубіўся, як нявопытны юнак? Тады што, гнуць сваю лінію насуперак думцы першага сакратара райкома? Выходзіць, што інакш і нельга. Вось табе і самы малады раён, спрыяльныя для мясцовай улады ўмовы, сціплыя, паслухмяныя людзі. Усё, як аказалася, і складана, і не ўсё магчыма».

Энцыклапедый Крутаяраву больш не спатрэбілася, сам ён мог быць гідам — за гэты час дасканала асвоіў гісторыю краю. Здавён старажытны гарадок славіўся сваімі рамёствамі. Стагоддзямі не па сушы, а па Гарыні і Прыпяці вазілі давыдгарадчукі свае тавары ў Пінск на захадзе і Тураў, Мазыр на ўсходзе. Акружаны з усіх бакоў маленькімі і вялікімі палескімі вёсачкамі, якія ўтварыліся з хутароў не за адну сотню гадоў, Давыд-Гарадок апынуўся ў цэнтры вялізарнага раёна. Калі прыходзілася пешкі дабірацца з вёскі да аднаго толькі мястэчка за паўдня, за дзень па вадзе, дык можна ўявіць, чым для палешука, які шануе кожную гадзіну, быў Давыд-Гарадок — і сталіцай, і галоўным цэнтрам, у якім можна было знайсці ўсё. Калі ж, не дай бог, давыд-гарадоцкая, адзіная на ўсю акругу, бальніца накіроўвала чалавека ў вобласць, у Пінск, то ехалі неахвотна, як за мяжу. Каго везлі ў Пінск, таму спачувалі: хвароба цяжкая.

Давыд-Гарадок стагоддзямі купляў у сялян хлеб, лён, бульбу, скуры, лес, бо свой даўно (на пачатку стагоддзя) паны ды памешчыкі прадалі немцу, забіраў (няхай будзе так сказана) у вёсках парсючкоў, коз, авечак, кароў і даваў вёскам узамен усё. Дбайныя, руплівыя, працавітыя, кемлівыя і хітрыя (гандаль навучыць быць і гаварлівым, і хітрым) гарадчукі невядома з якіх часоў навучыліся дубіць скуры, шыць кажухі, касцюмы, плацці, спадніцы, рабілі граблі, бочкі, плялі кашы, сеткі, жакі, кавалі падковы, цвікі, капаніцы, завесы, нажы, доўгія ключы, шылі зімовыя шапкі, паліто і чобаты, асабліва чобаты. Кажуць, што ўсе польскія каралі заказвалі хромавыя боты толькі ў гарадоцкіх шаўцоў. Гарадчукі будавалі хаты, крылі іх чаротам, саломай,

дранкай, масцілі гаткамі берагі бурлівай і часам неспакойнай Гарыні, рэзалі з золата завушніцы, выпільвалі копярсцёнкі, рабілі лодкі, дзяўблі чоўны, падкоўвалі коней, набівалі падушкі і вэрхнікі[1], малявалі іконы — тут роўных не было Глебу Іванавічу, як раней яго бацьку і дзеду, варылі на святы цукровую вату і лёды[2], пяклі абаранкі і смачныя пернікі, булачкі з ваніллю. Адным словам, што ні хата, дык свой талент, свой гонар, свой форс і свае парадкі.

Натуральна, каб абслугоўваць такія хаты-майстэрні (шылі адзежу ўсёй сям'ёю), хаты-мануфактуры, кузні, трэба было некаму ж недзе набываць тавар, дамаўляцца, перакупляць, а не дык і скупляць крадзенае, мяняць на нешта, але з немалой рызыкай усё ж прывозіць руплівым дамаседам у Давыд-Гарадок з усіх блізкіх і далёкіх мясцін дратву, голкі, швейныя машынкі «Зінгер», сахарын, дрожджы, скуры, тканіну, воўну. Гэта была, бадай, самая рызыкоўная работа: патрэбна было і ў несцюдзёную зіму, і ў спякотнае лета ехаць у вялікі і нявядомы свет, а бывала, як калісь, аж да Масквы і Варшавы. Таму займаліся дастаўкай людзі найбольш кампанейскія, вынаходлівыя, смелыя, пранырлівыя, лёгкія на ногі і вострыя на язык. Такіх людзей былі адзінкі, і пра іх хадзілі самыя невераrодныя крыватолкі. Быццам звязаны яны ў розных гарадах са злачынцамі і жулікамі, за грошы, калі трэба, уладкуюць вучыцца ў інстытут, гандлююць золатам і за хабар купілі ўсю міліцыю вобласці. Хапала ўсялякай несусвеціцы.

Ведаў пра мясцовых маклераў і Крутаяраў, праўда, не ведаў ён, што адным з такіх нарыхтоўшчыкаў некаторы час быў і мой бацька, як, дарэчы, не ведаў пра гэта і я.

Але вернемся яшчэ на хвіліну-другую да гарадка. Закінуты богам у непраходныя балоты, вечна гразкія, непралазныя дарогі, схаваны ад вялікага свету за шырокія рэкі, лясы, гарадок гэты не вабіў чужога чалавека.

Тут нараджаліся, раслі, жаніліся, тройчы фатаграфаваліся ў пана Зубэя: у дзіцячым узросце, у дзень вяселля і ў дзень смерці ў труне. Нішто, здавалася, не магло парушыць і змяніць лад жыцця. Гадавалі дзетак, бавілі на

[1] Тоўстая пуховая коўдра.
[2] Марожанае.

сонейку перад хатай доўгія гады старасці, яна часцей была занята працай, і неяк неўпрыкмет паміралі людзі, якія так ніколі ў жыцці (акрамя гэтых самых нарыхтоўшчыкаў ды перакупшчыкаў) не бачылі цягніка, а на рэдкі самалёт, які пралятаў у небе над мястэчкам, казалі: «О, усэ па біблії. Там сказана, што будуць лётаць стальныя птушкі».

Тут мірна і даўно спляліся навечна славянскія культуры беларусаў, палякаў, рускіх, украінцаў. Не прыжыліся яўрэі, у вайну тых, якія ўсё ж засталіся, фашысты пазабівалі, некалькі сем'яў з'ехала адразу пасля вайны ў Польшчу. У першыя дні вайны паспелі мабілізаваць — і пайшлі гарадоцкія мужчыны бараніць бацькаўшчыну. І ў сорак чацвёртым, калі вызвалілі, паехалі гарадчукі на фронт. Ваявалі сумленна. Не было таго франтавіка, які не меў медалёў і ордэнаў за баявыя заслугі. Праўда, пааддавалі хутка дзецям на забаўку. Мне свае падарыў дзядзька Міхалка. Дзеці, носячы на шлейках бацькоўскія ўзнагароды, абменьваліся імі ці выменьвалі на іх цуцаня.

Апроч усяго гэтага, Крутаяраў цяпер ведаў амаль усе рэлігійныя святы (не было таго гарадчука, які не хадзіў бы да царквы), ведаў, што няма ў людзей ні пыхі, ні зазнайства і што народ, хоць знешне і ціхі, добразычлівы, але ж і ўпарты, асцярожны. Ён адразу ўцяміў, што адным махам змяніць лад жыцця гэтых хатмануфактур будзе нялёгка. Падумалася яшчэ, што мо прыняў паспешлівае рашэнне. Так сталася, што і падзяліцца сваімі трывогамі не было з кім. Былыя партызаны: рэдактар газеты, дырэктар школы, сакратар гарсавета, начальнік райфа — сябравалі сем'ямі, трымаліся сваёй кампаніі. З першым сакратаром райкома неяк адразу не скла́ліся сяброўскія адносіны. Можа, таму, што ён быў гадоў на дваццаць старэйшы за Крутаярава. А людзі? Самі гарадчукі? Дзіўна, але, як падалося Аляксею Аляксеевічу, яны хоць і пачціва кланяліся, а ўсё ж з нейкай абыякавасцю ставіліся да мясцовага кіраўніцтва, быццам жылі ўсе па адным законе: «Я цябе не чапаю, ты мяне не чапай. Каму якая справа, што ў мяне на двары робіцца, з чаго я хлеб ем». Не ты кор-міш, мне жыць.

Паступова магутная, адроджаная пасля вайны прамысловасць вялікіх гарадоў пазбаўляла мясцовых мануфактурантаў надзеі мець добрую капейку са сваіх рук

і руплівай штодзённай працы. Павярнуць на старое, калі сам сабе быў пан, чым хацеў, тым гандляваў, ужо было немагчыма. Гэта разумелі і гарадзецкія майстры, як бы спаважна, бы той буська на сенажаці, ні хадзілі па вуліцах гарадка. Рэдка хто з іх паказваў слязу, калі на працягу двух тыдняў, месяца не было аніякіх заробкаў. Плакалі больш жанкі. Уначы. А ранкам нязменна адказвалі:

— Дзяньдобры. Дзякуй богу, мацуемся.

Дзяцей гарадчукоў (яны ўжо з радыё і газет чулі пра дзівосы свету) цягнула туды, у невядовую далячынь, што хаваецца за лесам, полем, за пылам першага аўтобуса, які стаў вазіць людзей у Столін і Пінск. Дзеці жылі марамі, а дзяды і бацькі — намерамі: перадаць свой вопыт і талент бондара, шаўца, цесляра сыну, краўца — дачцэ, бо так рабілася спрадвеку. Саступаеш новаму пакаленню шлях, перадай талент. Для дзяцей жа асвойваць старадаўнія рамёствы было найвялікшай мукай.

Бондар Біржа біў сваіх сыноў штодзённа, а тыя гарлапанілі ў адказ: «Не буду, не хачу. Навошчо вучыцца, калі можна бочку купіць у магазіне». Дзяцей цягнула да лёгкага жыцця.

Лягчэй было музыкам. Коўка не толькі вучыў сваіх дзяцей, але і меў вучняў. Браў за навуку добрыя грошы. Усё часцей чулася, што нехта ўцёк з хаты, нехта застаўся ў войску, пайшоў у прымы, не гаворыць з бацькамі, пасварыўся. Бацькі з кожным годам тужлівей адчувалі сваю адарванасць ад дзяцей і непаразуменне паміж сабой. Цяжка рабілася набываць для шаўцоў, краўцоў, рымараў сыравіну, і амаль немагчыма стала прывозіць яе ў Давыд-Гарадок. Сваякоў сярод міліцыі ў нарыхтоўшчыкаў не было, а чужыя баяліся браць хабар. «Арыштуюць мяне, Цімох, ай арыштуюць», — плакаўся ў нашай хаце сусед Кулькін, у якога нос быў крыху скасабочаны. Людзей раптам паўсюдна і неяк адразу ахапіла пачуццё трывогі, боязі і жаху за дзень заўтрашні. Толькі ў нядзелю і святы, калі амаль усе, і старыя, і малыя, выбіраліся да царквы, на тварах зноў свяціліся спакой, уважлівасць і мудрае разуменне трывог суседа. Такая адносная ціша, міралюбства і доўгія гаворкі на цвінтары ля царквы старых, якія даўно не бачыліся, панавалі толькі ў святы, а з панядзелка зноў хмара роспачы навісала над галовамі.

«Як далей жыцьмо? Як дзяцей паставіць на ногі? Ці выдадуць новыя патэнты, ці адбяруць старыя?»

Вось у якую нялёгкую для мястэчка часіну прыехаў на пасаду старшыні выканкома малады Крутаяраў.

— Не трэба ліберальнічаць, дарагі Аляксей Аляксеевіч, — павучаў Крутаярава каржакаваты і рана злыселы сакратар райкома, — часы нэпа мінулі. Ніякіх патэнтаў. Была пастанова па гэтым пытанні і бюро райкома. Нашай віны няма, што хатнія рамёствы паступова знікаюць. Бег гісторыі. Прычыну бачу адну: час, вытворчы прагрэс.

Цяпер, калі мне трыццаць, і сілюся, і не магу ўспомніць прозвішча сакратара райкома, як, дарэчы, не помніць і цётка Поля. Ніякай, відаць, памяці аб сабе чалавек не пакінуў. Ні кепскай, ні добрай. Казалі, любіў трохі выпіць. Мо за гэта яго хуценька некуды перавялі. А паколькі душою чалавек не палюбіў месца, людзей, то і людзі на другі дзень забыліся, што такі быў. Праз некалькі гадоў першым выберуць Крутаярава, а пакуль каржакаваты настаўляе свайго старшыню райвыканкома:

— Дык вось, не трэба ліберальнічаць, зноў паўтару. Аднаму далі патэнт, другому не далі. Мне Кошман з райфо казаў, што патрабуюць патэнт і той, хто ўмее нешта рабіць, і той, хто не ўмее. Трэба тутэйшы люд навучыць рабіць на час. І мы, не сумняваюся, дарагі Аляксей Аляксеевіч, навучым. Усе пацягнуцца за доўгім рублём, што тады? Ніякага парадку не будзе. Пакуль калгас маем бедны, але ў ім адно ратаванне і людзям, і нам.

— Рызыкну сказаць вам банальную ісціну, што калгас справа добраахвотная. Пяцідзесятыя гады значна адрозніваюцца ад трыццатых.

— Палітыка партыі адзіная і цяпер, і тады, — рэзка ўставіў сакратар.

— Але ж мы не зможам прыняць у калгас ці сілком загнаць шэсць, пяць тысяч чалавек. У нас зямлі не хопіць на соткі членам калгаса. Ратаванне не ў адным калгасе.

— Чаму?

— Асноўныя ворыўныя землі прылягаюць ад вёсак Альшаны, Туры, Вялямічы. Там сваёй рабочай сілы ха-

пае. А вазіць людзей далёка ад гарадка ў нас пакуль і машын мала, і бензіну не хапае.

— Мы, памятаю, хадзілі пешшу пяць кіламетраў да сенажаці і пяць назад. З песнямі хадзілі.

— Тут нават тыя, хто запісаўся ў калгас, крывяцца. Вясной кідаем у зямлю болей, чымсьці ўвосень збіраем. Месца і людзі асаблівыя. Практычна з сакавіка па чэрвень увесь Давыд-Гарадок і ўсё наўкола плавае. Паводка — вось адна, калі не асноўная праблема.

— Можна падумаць, што вёскі ў Пінскім, Петрыкаўскім, Тураўскім не плаваюць. Людзі і яшчэ раз людзі. Нам патрэбна сумленная, на карысць усёй дзяржаве праца штодня.

— Я ж гэтую ісціну не аспрэчваю. Так. Людзі. Але ўмовы тут унікальныя. Характары людзей, адносіны, звычкі, рамёствы, само месца гарадка — усё унікальнае.

— Дык што ж нам, сесці ды маліцца на гэтую унікальную асаблівасць? У нас аднолькавыя ўмовы створаны для ўсіх, дарагі мой, і дзяржаўны план ніхто пераглядаць, як бы ён ні захапляўся экзотыкай, не будзе. Ці мо вы напішаце ў Саўмін?

— Я толькі хацеў сказаць, што патрэбна ўлічваць псіхалогію і сацыяльную асаблівасць мястэчка. Практычна ідэі сацыяльнай навукі, адносіны пачалі тут ажыццяўляцца пасля вайны.

— Аляксей Аляксеевіч, яй-богу, я вас паважаю. За ўменне тэорыю правяраць практыкай, але ж не трэба чытаць мне лекцый, дзякуй богу, навучаны: да Берліна дайшоў ад Сталінграда. Я па-простаму яшчэ раз скажу, што хацелася б, каб уцяміў народ: улада народная, і, будзь ласкавы, паслужы на карысць народу. Цяжка вам, новаму чалавеку, спачуваеце вы мясцовым жыхарам, так і скажыце, а не вышуквайце прычын. Так, замест таго, каб мяшчанства, дробнаўласніцкую псіхалогію выкарчаваць, створым усе ўмовы, каб яны набіралі моц. Пачакайце, я яшчэ не ўсё сказаў. Трэба пакончыць з дробнамяшчанскім укладам жыцця раз і назаўсёды. Вы, напрыклад, абараняеце маляра Глеба Іванавіча: маўляў, цудоўны, рэдкі талент. Ён ездзіць па вёсках, малюе іконы, алтары. Чалавек не з намі. Прапанавалі мы яму мастаком у Дом культуры, адмовіўся. Пытанне: чаму? О як справы стаяць крута. Што ад нас патрабуюць партыя і ўрад — ствараць на нашых землях узорныя калгасы, каб даваць дзяржаве ўсё: жыта, мёд, агародніну, рыбу, ягаду, лес, буракі, лён, жывёлу, малако.

Пачакайце, я не ўсё сказаў. Некалькі разоў вы мне даказваеце і членам бюро, што ў Давыд-Гарадку патрэбна стварыць прамысловасць, і толькі. Можна паважаць вашу настойлівасць, але згадзіцца з ёю нельга. Толькі сельскагаспадарчы накірунак. Задача нумар адзін — уздым сельскай гаспадаркі. Прыклады ёсць. Корж, Арлоўскі — яны таксама пачыналі амаль з нуля. А ў нас тут пяць тысяч вольных рук. Разумею. Зноў узнікаюць соткі? Моладзі ў калгасе няма, сярэдняе пакаленне не хоча ісці. Не бярыце болей грэх на душу, не абяцайце нічога людзям. Ёсць МТС, калгас, і ўсё. І болей нічога не будзе. Так яны, быццам чакаюць здзяйснення вашых абяцанняў, і нідзе не робяць? — было бачна, што сакратар ажно трохі стаміўся ад гаворкі.

— І ўсё ж дазвольце некалькі прапаноў.

— Апошні раз?

— Няхай будзе апошні.

— Патрэбна звярнуцца ў абком, аблвыканком з нашымі прапановамі. Я ўпэўнены, яны зразумеюць складанасць нашай сітуацыі. Нам як свежае паветра патрэбна ў гэтым годзе, у наступным адкрыць адзін, два маленькія заводы. Кансервавы, швейную фабрыку, мармеладную фабрыку, фабрыку медыцынскіх прэпаратаў, малочны завод, адным словам, вытворчасць.

— Фармацэўтаў знайшоў! Даруй, мне смешна. Як анекдот. На самы маленькі заводзік пойдзе пяць—сем гадоў. Праекты, каштарысы, зацвярджэнні, будаўнічыя матэрыялы. Сама будоўля нерэальная. Ды нас за ляноту турнуць. Я, брат, лічы, даў згоду, каб нашу гарасуднаверф забралі ў Пінск.

— Як? — не вытрымаў Крутаяраў.

— Вельмі проста. Мне дарагі партыйны білет. Даўно ўсё падлічана. Трымаць яе тут нерэнтабельна.

— А людзі?

— Падумалі пра людзей. У цэхах суднаверфі адкрыем прамбыткамбінат. Сталярку будуць рабіць, скрынкі збіваць, труны, — ён асекся неяк сам, быццам яму апошняе слова сапсавала ўвесь настрой.

— Я лічыў... Я думаў, што гораду абавязкова патрэбен свой пралетарыят. Нам цяпер ужо трэба павялічваць рады членаў партыі.

— У нас партыя рабочых і сялян. Інтэлігенцыя ёсць. Усё, Аляксей Аляксеевіч, усё, даражэнькі. Няўжо мы не паладзім? Можна сказаць, самыя галоўныя людзі

ў раёне. З часам прыйдзе і заводзік, і фабрыка. Здзейсняцца мары вашыя. Нам бы цяпер навесці парадак з калгасамі і ўраджаямі.

— Няўжо аніякіх дадатковых фондаў не атрымаем?

— Чаму? Шавецкую майстэрню. Пяць рабочых месц, загатоўшчык, касір-прыёмшчык, загадчык. Швейную маем. Фатограф, цырульня.

— А хлебапякарня? Новая лазня? Магазіны? Масласырзавод замест гэтай польскай млячарні? Будынак рускай школы?

— Школа будзе. Астатняе ў наступнай сямігодцы. Ведаю, што хлеб, які мы прывозім са Століна і Пінска, чарсцвее. Я, мая жонка ямо такі ж чэрствы хлеб, як і ўсе. Жывыя пакуль, здаровыя. Хлебапякарню будзем прабіваць. Выносьце на бюро прапановы больш рэальныя, якія патрабуюць неадкладнага рашэння. Асцярожна, каб не было скаргаў і незадаволеных. Як агню баюся правяраючых. Праверка зневажае мяне як асобу. Хочацца кінуць усё і ўцячы прэч. Такі характар. Не падзяляйце сваю работу на гаспадарчую і ідэалагічную. Рабіце і тое, і другое. Будзем раіцца па кожным пытанні. Прымусьце райфо кантраляваць усё як след. Я вам давяраю. Дык давайце адзін аднаго падтрымліваць. Запрашаю вас з Аляксандрай Іванаўнай да нас на чай у суботу.

Крутаяраў памякчэў. Яны яшчэ пасядзелі разам, нешта планавалі. Ён перастаў аспрэчваць на бюро думкі і прапановы першага, нават тады, калі з імі не мог пагадзіцца. Сам не пазнаваў сябе. Бы падмяніў хто. «Ты мяне не крытыкуй на людзях, — казаў яму першы, — ты прыйдзі ў кабінет, і мы сам-насам высветлім усе памылкі».

«Няхай так. Без крытыкі. А ўласная амбіцыя? Гэта з часам адолею», — супакойваў ён сябе. Знешне ён па-ранейшаму быў чалавекам вялікай прыроднай энергіі і магутнай волі. Пра такога і гарадчукі казалі: «За ім добра жонцы жыць. Сам воз цягне».

Я Крутаярава бачыў некалькі разоў. Мяне маці брала на святочныя ранішнікі, якія пасля вайны былі ў нас вельмі папулярныя. На святы 1 Мая і 7 лістапада я не надта любіў хадзіць у актавую залу двухпавярховага будынка райкома партыі. Саромеўся чытаць вершык, а

без яго няёмка было браць падарунак. Новы год любіў. Добра было, схаваўшы твар за маскай, пабегаць, нават падурэць ля самай прыгожай ёлкі і атрымаць свой падарунак спакойна і заслужана.

Маці, пасля той сустрэчы на базары, наведала старшыню. Усе пасады былі заняты, і ён прапанаваў ёй пайсці тэхнічкай-прыбіральшчыцай.

— Не настойваю. Шчыра кажу, што гэта часова. Будзе месца ў канцылярыі. Тэхнічкай, разумею, можа быць і жанчына старэй за цябе. Не так каб і цяжка, як, напрыклад, у бальніцы.

— Я цяжкасцей не баюся.

— Разумею. Я так, да слова.

Ён зноў паабяцаў месца ў канцылярыі, быццам саромеўся, прапанаваўшы ёй месца прыбіральшчыцы.

— А што тут, Аляксей Аляксеевіч, саромецца? Работа ж ганьбы чалавеку не дае. І начальнікаў над галавой няма.

Сапраўды, выпала такая мінута, і Марыі прапанавалі пайсці ў канцылярыю. Яна адмовілася. Саступіла «лёгкія грошы» дачцэ Гілгунды, якога забіла маланка і жонка якога вельмі прасіла Марыю, каб дапамагла ўладкаваць куды-небудзь дачку. Не пайшла б маці на тую новую пасаду і сама, бо лічыла, што быць прыбіральшчыцай цяпер вельмі зручна. Пойдзе ранютка, пакуль я яшчэ сплю, прыбярэ, бяжыць дахаты, а потым звечара пойдзе яшчэ раз, калі я ў хаце, вячэраю ці ўладкоўваюся спаць. Як быццам і на рабоце, і ўвесь дзень яе вольны.

Цяпер, калі мне семнаццаць, я, здаецца, пачынаю разумець, чаму яна так моцна, апантана любіла мяне і так страшэнна баялася, калі я пакідаў нашу вуліцу, Аселіцу. Яна жыла мною адным. Але чаму? Была маладая, прыгожая. Па другі бок Гарыні жыў бацька. Калі з ім не было надзеі сысціся (цяпер, калі я вяртаюся з бальніцы, магчыма, і даведаюся ў яго, чаму?), дык сваталіся ж хлопцы нат, не ўдаўцы, не старыя халасцякі.

Чаму ў яе не было цікавасці да жыцця брата, сястры?

Божа, а калі я знайду адказы на мае пытанні ў тых сшытках? Пра нешта ж яна павінна была напісаць.

Баба Насця, як пачула пра работу дачкі: ляпнула дзвярыма, давай сварыцца. Баба гонар шляхты мела.

— Навошта гэта? Людзям на смех. Так не пражывем, ці шчо?

Тут і маці паказала свой характар, упартая.

— Мне няма каго саромецца. А шчо, на вэсне таргаваць насеннем лягчэй? А тут сынок адзін. Пайду ў райком альбо з'еду к чортавай мацеры, куды вочы глядзяць. Не магу доўбнем сядзець ля хаты. Ные душа... хоць задушыся.

— Ой, няхай ідзе, — заступіўся за дачку Цімох, — згоніць ахвоту, вернецца. Шчо гэто, немаладу шчо? Якая халера цябе бярэ? Гарода ў нас няма. Тры соткі. Шчо ёй, тырчаць на прызбе, дык лепей пайсці на нейку гадзіну ды прыбраць. Усё ж у райкоме. Соткі дадуць, сенажаць, лес на хату... і мне зацішней будзе. Мо трусіць райфа не стане.

Дзед найбольш баяўся інспектараў райфа, якія пачыналі амаль штодня хадзіць па хатах і выяўляць надомнікаў, браць на ўлік, перапісваць тавар, работу, штрафаваць, пагражаць. Ходырам хадзіў гарадок. Устаўленае ў гаворку слова «райфа» зрабіла сваю справу.

Баба болей не дакарала дачку.

Дык вось у адзін з навагодніх ранішнікаў, мне было гады адзінаццаць, і давялося ўпершыню пазнаёміцца з Крутаяравым. Я яго зроду не пазнаў бы. Белыя вусы, белая барада, чырвоны халат, ватная шапка з нейкімі блёскамі. Мне шапнула маці: «Дзед Мароз — гэта Аляксей Аляксеевіч». Ён лёгка вадзіў карагоды, скакаў з «зайчанятамі», спяваў разам з намі «В лесу родилась ёлочка».

Зрабілася зусім няёмка, калі ён даў мне замест аднаго падарунка два. Я нават не падзякаваў.

«Бач ты, начальнік — і не саромеецца быць Дзедам Марозам», — не верыў дзед, якога я пачаставаў цукеркай.

Праз месяц пасля пахавання мы: Ванька Гасцюшкін, Толік Бабёр, Васько Кіцель — сядзелі на калодах ля цёткі Сарокі, якая мела пяцёра дзяцей і якая адна на

ўсю вуліцу разам з Кацяй Вацкіцкай, Пятром Слабадой і Біржам — нашымі аселіцкімі — рабіла ў калгасе. Пра што мы гаварылі? Ды пра самыя звычайныя дробязі. Не хацелася гуляць у палкі-цуркі, дождж размякчыў зямлю, таму гнаць бітай цурку па гразкай вуліцы было нельга. Пра школу гаворкі не было, яна толькі пачалася, яшчэ жылі летам: дзе дастаць волава для вуды, у каго і як свіснуць ніпель для ровара, як лепш красці грушы ў дзеда Воўка-пустэльніка, дзе купіць пляскатых батарэек для «даймана». Дзень жыцця цягнецца ў дзяцінстве павольна, тыдзень, такі падобны і такі не падобны на мінулы, змяняецца няспешна, і ўжо здаецца, што канца месяца ніколі не дачакаешся.

Адыходзіла палескае лета, якое саступала ў вечнай хадзе месца ранняй восені, яшчэ такой падобнай на лета, але з ужо прыкметнай тугой, ледзь улоўнай на душы, і сумаваннем па цяплу. Жоўта-белы пясок на беразе Гарыні бурэў. Там яшчэ тужлівей. Не пакідае пачуццё, што катэр, які цягне ў дождж баркі з чырвонай рудой, звозіць і ўсе твае летнія мары. Ніколі мне не паехаць больш з маці ў Маскву. Колькі разоў яна мне абяцала гэтую паездку. «Толькі вучыся добра, каб не тасовеціла». Нешта пустэльнае і здзічэлае пачынала тачыць маю душу. Я без асаблівай радасці паказаў хлопцам-сябрукам ліст з Кітая ад сябра Ю Ваня. Яго адрас адразу пасля пахавання даў мне Васько Кіцель. Чулы кітаец Ю Вань стаў перапісвацца і з Васем, і са мной. Мы разглядалі каляровыя закладкі, малюнкі дракончыкаў, партрэцік Мао Цзэ-дуна, якія ён прыслаў.

Да маёй хаты пад'ехаў амерыканскі джып. Усе ведалі, што на ім возяць Крутаярава. Акрамя джыпа, у райвыканкомаўскім гаражы былі пара коней, брычка, сані. Крутаяраў любіў тэхніку.

— Ну, дык шчо — гэта праўда? — папытаў мяне Ванька Гасцюшкін, у якога маці рабіла кантралёркай у кінатэатры «Зара» і які быў мне самым блізкім сябрам.

— Шчо праўда?

— Не прытварайся. Цябе аддаюць у інтэрнат? Маці мне казала, шчо так вырашыў сам Крутаяраў. І дзядзьку твайго да сябе выклікаў.

— Нікуды я не паеду! — злосна адказаў я і пабег дахаты, баяўся, каб без мяне баба і дзед не згадзіліся. Не даваў ім веры.

Крутаяраў у хату не пайшоў, сядзеў на табурэце ля ганка, гутарыў з бабай Насцяй і дзедам Цімохам. Яны слухалі. Нешта гаварыў ён. Я гэта падглядзеў праз шчылінку ў плоце.

— А вось і Адась. Добры дзень.

— Здраствуйце, — адказаў я, не ведаючы, дзе прытуліцца.

— Сядай побач, — ён пасунуўся на табурэце і пасадзіў мяне каля сябе. Я сеў.

— Я табе, Адась, прынёс добрую навіну. Ёсць у нас магчымасць уладкаваць цябе ў Іванаўскую школу-інтэрнат. Цудоўныя ўмовы. А на канікулы сюды, да дзядулі і бабулі. А? Згодзен?

Я маўчаў. Баба, крадком выціраючы слязу кончыкам хустачкі, маўчала таксама.

— Дзядзька твой, Міхалка, падтрымлівае нашу ідэю. Бачу, ты разгубіўся. Не буду насядаць. Падумай дзень-два і прыбягай у райспалком, — не стаў прыспешваць Крутаяраў, бачачы па маіх чырвоных вачах, што я гатовы заплакаць, — прыходзь. Скажу, што там горш не будзе. Гэта ж і недалёка, каля Пінска.

Не паспеў джып Крутаярава пакінуць нашу вуліцу, як прыбег дзядзька Міхалка.

Тут баба Насця і накінулася на сына:

— Нашчо небараку аддаваць на пагібель? Ды якія там харчы? Хто цябе прасіў?

— Не хачу я ў дзетдом! — праз слёзы падтрымліваў бабу і я. Міхалка ўмомант схмурэў, калі на двор дробнымі крокамі заляцеў хросны. Хвацка падаў найперш руку мне, тады дзеду, Міхалку:

— Насця, не аддавайце Адася ў дзетдом. Пагарачыўся ты, Міхалка, яй-бо. Мы ж усе не чужыя, выгадуем.

— А ці ж не! Шчо людзі падумаюць, — гарачылася баба. — Дзякуй богу, не калекі. Скажуць, о, сірату з хаты прагналі. Куды яму на чужыну ехаць. На пагібель.

Міхалка памякчэў, разгубіўся.

— Я шчо, я нішчо. Папытаўся ў мяне Крутаяраў, кажа, мо там лепш Адасю будзе. Якія зараз заробкі? — ён павярнуўся да хроснага. — На пагібель? От усе перабіваемся з бульбы на бліны. Я кажу чэсна, у мяне двое дзетак, грашыма вам не памагу, о. У Олены і Яка-

ва ўсе вучацца, хату ставяць. Я гарачку не пару, усё цямлю.

— Не будзе за шчо хлеба купіць, я Манін зруб прадам, — нарэшце ўставіў сваё слова дзед.

— Прадаці паспеемо. Няхай стаіць. Падрасце Адасік, ажэніцца, дабудуе, дык будзе дзе жыці. З голаду не памром, — паправіла дзеда Насця.

— Я шчо, — вінавата азіраўся на ўсе бакі і шырока размахваў рукамі Міхалка, — не дамо з голаду памерці, канечне. Але вунь які ён слабенькі, куды каб не захварэў, я што баюся, о. І мяне бяруць на дэбаркадэр у лаўку. Муку буду прадаваць. Я шчо, я хачу, як лепш. А не, дык на вэсну паеду таргаваць насеннем кветак. Людзі ездзяць і давольны.

Пасля, калі я захварэў на туберкулёз, дзядзька Міхалка толькі аднойчы і папракнуў бабу Насцю:

— А мо каб аддалі тады ў інтэрнат, мо й хваробы не было б.

Пазычыўшы ў дзеда майго сто рублёў да панядзелка, Міхалка подбегам пашыбаваў да хаты.

— А якая хата ў нас яшчэ ёсць? — пацікавіўся я.

— От, унучачко, і не пытайся. Мама твая завялася з будоўляй. Каб, значыцца, бацько твой, шчоб яго, паршыўца скруціла, не ганарыўся сваёй хатаю. Не варта было заводзіцца. Мо з гэтай будоўляй і сапсавала дарэшты свае нервы, — разгаварыўся дзед.

— А то не? Я тады і казала: Маня, не бяры лес. Пракляў яе хутаранін-мярлінец. Прыгаварыў хваробу. З тых часоў і пахмурнела. Да царквы хадзіць часцей узялася, коб грэх замаліць. Вельмі ж убівалася, пераджывала.

— А лес чый быў, мярлінца ці гасударсцвенны? — папытаў я з дарослай цікавасцю.

— Гасударсцвенны, як і паложана. Толькі мярлінец яго вытраляваў, склаў. Але праштрафіўся дзесьці. На рабоце нешта здарылася. За нешчо хацелі ці аддалі ажно пад суд. Пакуль вялося следства, Крутаяраў перапісаў лес на маму. Той мярлінец прасіў, кажа, не забірайце ад мяне. Кажа, не вінаваты я. Усё ж думалі, што ён крэпка вінаваты. Прысудзілі яму мо паўгода турмы. Падаў ён пяляцыю. Апраўдалі. Ну, а маці твая ўжо зруб паставіла на пляцы каля бальніцы на альшанскім шляху. Сустрэў яе мярлінец і вельмі ж, зараза, на людзях аблаяў і пракляў, коб і не жыла ніколі ў новай

хаце. Маці твая, яна ж нікому і ніколі зла не жадала і не чыніла таго зла, усю ночаньку плакала. Мы суцешвалі, адгаворвалі. От, убіла ў галаву, шчо вінавата перад гэтым мярлінцам, хоць ты яе забі. На будоўлю рукой махнула. Мы старыя. Шчо адна, без хазяіна, зробіш. Давай у цэркаў хадзіць і ўсё ў бога віну замольваць, — дзед перавёў дых, мякка пагладзіў учарнелымі ад хрому пальцамі свае рыжыя вусы.

— От, не забівай яму галаву, — баба сядзела побач і лушчыла ў рэшаце боб. — Хто цяпер ведае, адкуль на яе напала ўсё. Бацька твой, каб ён згарэў ад гарэлкі, жытку пакалечыў. Вон мо, халера, будзе да цябе падлашчвацца, дык бяжы дахаты, не стой, не загавары з ім. Грошы суне, не бяры. Сон мне прысніўся, шчо цябе ўкралі. Гэны пустадомак і забіць яшчэ можа, коб не плаціць аліменты.

— Цьфу! Не пужай ты дзіця, — пасароміў дзед бабу. — Абы-шчо ляпаеш. Што ён, тышчу плаціць? Сто пяцьдзесят рублёў, смецце, а не грошы. Ідзі гуляй, унучак. Не бяры да галавы. Толькі не пазніся ўвечары.

«Бацька, бацька», — пульсавала ў маёй галаве.

Пераадольваючы боязь, я ўсё часцей выходзіў у горад.

Чайная стаяла насупраць базару. Гэтае слова на слыху засела даўно. Ім часценька папракала баба Насця дзеда. Любіў ён разам з чалавекам бабы Лісаветы, даўгавязым Іванам, пайсці, як яны餐 паролем казалі, «наўкола» да чайной ды каўтнуць там па сто грамаў гарэліцы. Звычайна тут, ля буфета-піўнушкі, часта ўзнікалі сваркі паміж мужчынамі, нават крыклівыя спрэчкі, а нярэдка і бойкі.

Я не памятаю, як апынуўся там. Здаецца, паехаў на ровары аж на Кашары, да базы па газу. За некалькі месяцаў да сваёй смерці маці падарыла мне на вялікдзень самы сапраўдны дарослы ровар, на якім хутка вывучыўся ездзіць. Першым на ўвесь клас і ўсю вуліцу сярод аднагодкаў меў свой ровар, і я адкрыта ганарыўся.

Дык вось... пачалася сварка ля чайной. Адзін чалавек нешта доўга тыкаў пальцам у грудзі і размахваў кулаком перад тварам другога чалавека, які стаяў моўчкі, хістаўся толькі крыху ад выпітага.

Раптам маўклівы падчапіў нагой крыкуна, паваліў на зямлю, сеў яму на грудзі і пачаў біць абедзвюма рукамі па твары.

Буфетчыца, якая ўгледзела гэта ў акно, пачала гарлапаніць:

— А людцы! Б'юць чалавека майго, б'ю-юць! Памажыце.

З чайной выскачылі некалькі хлопцаў, адцягнулі таго, які сядзеў зверху і калашмаціў кулачышчамі. Хлопцы ўгаворвалі і супакойвалі:

— Годзе, Трыфан, годзе! Ну, хопіць, яй-богу. А тваю маць, куды ты зноў лезеш. Усё. Ідзі дахаты.

Трыфан, якога трымалі за рукі двое, неяк злаўчыўся і смальнуў чалавека буфетчыцы наском чобата ў жывот. Той заенчыў, ухапіўся рукамі за балючае месца і зноў упаў. Трыфана хлопцы пацягнулі ўбок, да моста.

Выбегла буфетчыца і, пасылаючы праклёны на ўсе бакі, памагла чалавеку падняцца, угледзела расквашаны нос і пачала са слязьмі дубасіць свайго задзіру ў плечы і грудзі:

— Колькі я з табой буду мучыцца, гультай! Колькі? Смаркач, яшчэ лезе біцца. Ідзі работу шукай, лежань, труцень.

Я развярнуў свой ровар і сустрэўся нос у нос з суседам па вуліцы — кавалём Герасімам, які нёс, прыціснуўшы да чорнага ад сажы пінжака, дзве буханкі сітнага хлеба.

— Бачыў, што гарэлка з людзьмі робіць?

— Угу.

— Не пі ніколі. А ведаеш, хто зверху сядзеў і біў Магеру?

— Не, не ведаю.

— От табе і раз. Бацько гэто твой. Трыфан Доля. Будку адгадаваў... тваю маць, хоць бы капейку сіраце аддаў, што прапівае.

Я сеў на ровар і, аглушаны такой навіной, паехаў на нашу Аселіцу.

«Праўда, праўда, што папярэджвала баба. Такі злы можа забіць мяне, можа. Ён заб'е!»

Усю ноч я кідаўся ў сне. Ранкам надоўга і добра ўцяміў, што з гэтага дня мне трэба сцерагчыся свайго бацькі. Не хадзіць, крый божа, за мост, на другі бераг Гарыні, не трапляцца яму на вочы. Каля чайной доўга не блудзіць вечарам. Ён можа прытаіцца дзе-небудзь у цемры. Так нечакана адразу я пачаў баяцца цемры і з ёю свайго бацькі. З кожным днём безупынна боязь

мая мацнела, мо яшчэ ад таго, што ўвесь час баба Насця не забывала папярэдзіць: не лезь туды, не хадзі за мост, уцякай, калі стрэнецца.

Вернемся на хвілінку ў аўтобус, у якім я еду на пабыўку да хаты. Палову дарогі я драмаў. На адным прыпынку ля аўтобуснай станцыі (нечым падобнай на хатку бабы-ягі) я пакінуў сваё ўтульнае месца ля акна, хадзіў узад-уперад, баючыся, што аўтобус нейкім чынам можа паехаць без мяне. У аўтобус заходзілі тым часам новыя пасажыры. І вось сярод іх я ўгледзеў... свайго бацьку?! Жар падкаціў да галавы, у вачах пацямнела. Няўжо ён? Я падбег да акна і прыгледзеўся. Можна было ўздыхнуць з палёгкай: я памыліўся. Гэта быў іншы чалавек, вельмі падобны з твару на Трыфана Долю. Чалавек сядзеў ад мяне праваруч, і я некалькі разоў касіў на яго вачыма. «Не, ён жа і не надта каб падобны на яго», — суцяшаў я сябе, а непрыемнае пачуццё не хацела выслабаняць маю душу. Успомніў словы бабы Насці: «Уцякай, калі стрэнецца».

Баба баялася страціць мяне, баялася, што ён, Трыфан, зможа адбіць мяне ад іх, старых, адсудзіць. Але яна памылялася. Такіх думак у бацькі майго тады не было. Ён меў жонку, нейкую Кукаліху, непрыкметную знешне, нават, можна сказаць, непрыгожую, з соннымі вачыма, але незлаблівую, з ціхім норавам. Меў ад яе трое дзяцей. Дзіўна, чаму ён адразу пасля смерці маці не знайшоў мяне, не наведаўся ў хату, не перахапіў ля школы, не запрасіў праз сваю старэйшую дачку, якая вучылася ў пятым класе «Б». Не хацеў? Шукаў падставы? Пра гэта я даведаюся цяпер. Абавязкова даведаюся. І вось тут, калі я зноў вярнуўся да ўспамінаў, абудзілася ўпершыню яшчэ адна страшная думка: «А калі маці не сама?! Мо яе забілі знарок? З нейкай прычыны. Павесілі, а не сама», — распаляў я свае думкі. «Усё, усё трэба высветліць, дзякуй богу, не малы...»

Свет паступова і непрыкметна напаўняў маю душу ўражаннямі — праз будзённае, амаль не асэнсаванае яшчэ як след — хата, вуліца, лужок (ля кузні злога часам Герасіма), ад фільмаў кінатэатра «Зара», праз адлюстраванне гэтай, на першы погляд бессэнсоўнай, жыццёвай плыні на карцінах, на іконах мастака (ён не

крыўдаваў, калі казалі — маляр) Глеба Іванавіча. Ён распісваў у цэрквах алтары, пісаў іконы святых мучанікаў, а ў вольны час (за гэта жонка, сяброўка маёй маці Гэля сварылася часта) браў мальберт, фарбы, пэндзлі і маляваў ваколіцы гарадка: старую, дзіравую адрыну з сарокай на какоры, туманы над Сежкай і Гарынню, а яны розныя — адзін сівы, а другі шэры — і асабліва непаўторнай прыгажосці зімовыя краявіды. Я найчасцей прыбягаў да Глеба Іванавіча, любіў углядацца ў сумныя спакойныя вочы яго святых на іконах.

— А навошта вам, Глеб Іванавіч, маляваць вербы ля кузні?

— Таму шчо шкадую гэтыя вербы і люблю, — адказаў ён. — Міне час, мо нас і не будзе, згіне страха, рассыплецца адрына, упадуць вербы і вяз каля тваёй хаты — нашы ўнукі глянуць на гэты малюнак і падумаюць: якія цудоўныя вербы былі, а які вяз, якое прыгожае месца было... Родная зямелька. А цяпера... вада як нарабіла, смецце наўкол, пластмаса, бочкі ржавыя, смала. Не паважаюць нашыя людзі прыроду.

Далёкі і нязведаны свет прыходзіў да мяне і ад Граноўскіх, з якімі, пасля смерці маці, я пазнаёміўся бліжэй. Жылі яны на суседняй вуліцы, дзе жыла і Валя Цялегіна. І менавіта той вуліцай я пачаў хадзіць пасля пахавання, ды Цялегіна адразу змяніла свой маршрут: ішла з сяброўкай да школы альшанскім шляхам. Так мае надзеі хадзіць з ёю побач разбіліся ўшчэнт. «Яна знарок пазбягае мяне, пазбягае».

Неяк Граноўскія запрасілі да сябе ў хату. Дом у іх быў добры, вялікі, на тры пакоі, пафарбаваны знадворку ў зялёны колер. Сёстры купілі гэты дом перад самай вайною ў яўрэя Шумахера. Граноўскія былі падобныя, як і належыць родным сёстрам, адна на адну. Абедзве былі сівыя, як месячная ноч на пачатку зімы, абедзве насілі доўгія габардзінавыя плашчы светла-шэрага колеру, акуляры. У абедзвюх былі на твары ля рота дзве амаль аднолькавай велічыні радзімкі, з якіх раслі сівыя валаскі. Блізнятамі яны не былі, але падабенства было вялікае. Хадзілі заўсёды няспешна і заўсёды саступалі дарогу ці старому, ці малому. Розніліся, праўда, ростам. Адна, меншая, брала з сабою ў горад кiвеньку (яны на святы выбіраліся да царквы, хоць і былі каталічкамі). «Бог адзіны», — казалі. Касцёл у гарадку даўно

ўжо аддалі пад Дом культуры. Высокая ростам Граноўская даўным-даўно, калі яшчэ была замужам за шчодрым панам, мела недзе ля Пінска фальварак з каменіцай. Сястра яе ўсё жыццё працавала настаўніцай і зарабіла сціплую пенсію. Чуткі былі, што сёстры ўсё яшчэ багатыя, маюць золата.

Больш сквапныя гарадчукі нават ім зайздросцілі, але ўсе іх паважалі. Сёстры любілі гуляць у карты і бавілі час альбо ў жонкі фатографа пана Зубэя, альбо ў матушкі айца Міфодзія. Казалі яшчэ, што яны збіраюцца выехаць у Польшчу, шукаць сына старэйшай пані, які, маўляў, пасля канцлагера недзе згінуў. Нехта пляузгаў, што там у іх у банку ляжаць грошы, таму і едуць туды. З году ў год, аднак, ад'езд іхні адкладваўся. І ўсе звыкліся, супакоіліся. «То ўжэ ўсэ... Будуць Граноўскія паміраць у гарадку».

Я асцярожна, як бы нехаця, прыняў іх запрашэнне. Яшчэ больш насцярожана і зніякавела пераступіў парог хаты. Пахла адэкалонам. Над кожнымі дзвярамі віселі аксамітныя полагі з кутасікамі. Вялізны стол з тоўстымі ножкамі быў падобны і на наш. Ля сцяны стаяў доўгі і высокі буфет, у якім на шкляных паліцах стаялі пасуда, графін, кубкі. Дзве высокія этажэркі трашчалі ад кніжак, кнігі ляжалі і зверху буфета. У пакоі пасярэдзіне стаяла старадаўняе крэсла, я такое бачыў упершыню, на ім — каляровая коўдра.

Сёстры вельмі ветліва сустрэлі мяне, пасадзілі да стала, накармілі смачным баршчом з мясам. Баба мая варыла ўсё на сале. Папыталі пра вучобу. «Добра», — схлусіў я, бо вучыцца стаў значна горш. Папыталі пра заробкі дзеда. Паціснуў плячыма. Я пра іх не ведаў. Ці дапамагаюць дзядзька, цётка Олена? Як у школе? З кім сябрую? Я крывіўся, нешта ў адказ бубніў пад нос.

На развітанне падарылі мне шкарпэткі з воўны і кнігу Тургенева «Записки охотника». На ганку старая Граноўская прасіла прыходзіць да іх часцей. Напачатку я забягаў толькі на боршч. Але паступова пачаў у іхняй хаце затрымлівацца даўжэй. Разглядваў старыя карцінкі, альбомы з краявідамі Неапаля, Варшавы, старой Масквы. Ад сясцёр я ўпершыню пачуў пра Рэйманта, Дастаеўскага, Пруса. Трымаў у руках тоўстыя кнігі гэтых пісьменнікаў, доўга разглядаў нацюрморты, якія віселі ў пазалочаных рамах на ўсіх сценах. Сёстры за-

хоўвалі старыя рэчы, працiралі штораніцы фарфоравыя статуэткі: анёлаў, голых жанчын, слонікаў рознай велічыні. Мне падабалася браць дахаты ў іх кніжкі. Не, я іх не сіліў чытаць, не было калі, толькі з асалодай гартаў, разглядаючы малюнкі, а праз дзень вяртаў назад. Я любіў проста трымаць кнігі ў руках, мне падабаўся нават іх пах: ліпы, кавы, тміну.

— Давайце я вам прынясу вады, — прапаноўваў я, як толькі пераступаў парог, і ішоў да калодзежа па ваду. Я бачыў, як старэйшая насіла ваду: палову вядра.

Цікавасць мая да жыцця Граноўскіх мацнела. Я лунаў не толькі ў будучыні, але і ў гісторыі. Яны мне расказвалі пра род Граноўскіх, пра Давыд-Гарадок. Як самае вялікае адкрыццё ў адзін шчаслівы момант, я зразумеў, што да мяне жылі людзі, нешта рабілі, малявалі карціны, будавалі славутыя гарады, пісалі кнігі, ваявалі, паміралі — жылі да мяне і будуць жыць пасля. Гэтыя людзі жылі даўно, а мне з успамінаў сясцёр уяўлялася, што зусім нядаўна. Мяне прашыў халодны пот: мне падалося, што я гартаў гэтыя ж самыя кнігі, калісь даўным-даўно.

Неяк аднойчы, цёпла развітваючыся, маладзейшая Граноўская (высокая, худая, лапаткі ажно ў яе тырчалі), стоячы на ганку, сказала:

— Я прачула, што ты чэпішся да дачкі суддзі Валі. То так? Не тшэба. Зразумей... нераўня яна табе. І мама, ■ яна заходзіла да нас, вечны спакой яе духу, была б незадаволена, і папо твой будзе незадаволены... і яго мы ведаем. Абяцай, што болей гэтага не паўторыцца нігды!

Я замёр і пачырванеў, як жалеза на горне Герасімавай кузні. Сёстры ўсё ведаюць! Значыць, Валя ім усё расказвае і, магчыма, данесла і пра той выпадак? Ах, нагаворшчыца! А здарылася вось што.

Быў май. Пасля цёплага, амаль спякотнага тыдня прарваліся да сонца вішні, чаромха. Здаўна падлеткі хадзілі ламаць чаромху на татарскія могілкі, да балота пад вёску Велямічы. Ля хат гарадчукоў чаромха не расла. Толік Бабёр (шчаслівец, у яго прабіліся чорненькія рэдкія вусікі) больш за нас з Ванькам і Кіцелем ведаў пра патаемныя адносіны мужчыны і жанчыны. Ён падглядаў за сваім старэйшым братам, ведаў, як мацаць дзеўку, як заламваць ёй рукі назад і тады смела, каб не драпала, цалаваць. Паказваў і нам, як робіць старэй-

шы брат. Сабраліся мы ісці па чаромху ўсе. Чацвёра.

— Мы табе паможам, калі будзе брыкацца. Пацалуеш, толькі ў губы коб. Не будзе ханабэрыцца, падумаеш, цаца, дачка суддзі. Нос да неба. Не крані яе пальцам, не чапляй.

— А ці пойдзе яна з намі? — хваляваўся я, хаваючы прыкры намер.

— Ванька запросіць. Ён малы ростам, яна яго не баіцца. Сяброўку-суседку возьме. Пойдуць. Мы пабяжым з табой туды раньш. Схаваемся ў кустах. Распаўзуцца ўсе, а мы хоп і за рукі.

Усё задумана ладна.

Валя Цялегіна, на здзіўленне Ванькі, хутка згадзілася пайсці. Адна. «Будзе добры падарунак сяброўцы на дзень нараджэння». Сяброўка прыбілася да нас па дарозе, стрэла ля кінатэатра. Мы не хаваліся. Адчулі сябе вальней. Кіцель спусціўся з горкі да самага балотца, клікнуў за сабой сяброўку Валі. Мы з Толікам хадзілі ўсе недалёка ад Цялегінай, рабілі выгляд, быццам выбіралі на кустах больш пухкую чаромху, а самі адным вокам цікавалі за паводзінамі дзяўчыны. Яна наламала ўжо вялікі букет, марудзіць не было калі; я, праўда, увесь троссяся, як кацянё, якое прынеслі ў чужую хату. Толік хітнуў галавой, і мы, разумеючы адзін другога, накінуліся з розных бакоў на Валю. Ён схапіў яе за рукі, заламаў іх назад, а я, лапаючы яе за грудзі, плечы, з усяе сілы намагаўся пацалаваць у губы. Гэта мне аніяк не ўдавалася. Кожны раз у апошнюю секунду яна паспявала адвярнуць галаву ўбок, і я сваімі халоднымі губамі ліхаманкава кранаў яе чырвоныя, гарачыя шчокі. Дужая Валя ўсё ж вырвала адну руку, штурхнула мяне ў грудзі — я адляцеў метры на два. Калі ж падхапіўся, злы, як чорт, зноў папхнуўся — яна ўжо ўцякла, агрэўшы па твары Толіка. Яшчэ доўга было чуваць, як яна крычала на ўсякі выпадак: «Памажыце!»

Толік памкнуўся быў спярша наўздагон, але, пачуўшы яе крык, спыніўся, выцер з губы кроў. Забыўшы ўсё на свеце, я схаваўся за куст.

— Саплівец, хто ж так абдымае? Як я цябе вучыў? Ты адной рукой ухапі за бараду і моцна трымай. А, смаркач, чакай, пакуль малако на губах высахне.

З другога боку прыбег напалоханы Ванька:

— Вы шчо, хлопцы? Вы мо знасільнічалі яе? Такі гвалт. На пажарнай вышцы чуваць.

— Ага, — сплюнуў Толік. — Яе знасільнічаеш. Карова. Глядзі, коб яна цябе не знасільнічала. Падла, падрапала толькі.

Я моўчкі слухаў, як абліты на людзях памыямі. Цягнуліся дахаты без настрою і без чаромхі. Толік усю дарогу лаяўся.

І вось цяпер старая Граноўская папярэджвала. Не выключана, што Валіна маці назнарок папрасіла Граноўскіх і яны такім чынам мяне ўзяліся разам выхоўваць.

«Як яна магла расказаць пра ўсё маці? Як магла выставіць мяне на такі сорам?»

Не верылася мне. «Няўжо яна не здагадваецца, што я кахаю», — нечакана на хвалі нянавісці, як знаменне, прыйшло адкрыццё. «Не, яна подлая, калі так зрабіла». І тут я люта ўзненавідзеў Валю Цялегіну, вырашыў ёй нашкодзіць, помсціць за нашу тайну, якую яна, лічыў так, павінна была хаваць глыбока і надзейна. Мне не здавалася, я быў упэўнены, што між намі такая святая тайна існуе.

— Дзе ты, валацуга, боўтаешся? Вунь дзед сам дровы піліць, — строга, з папрокам сустрэла мяне на двары баба. — І не сорам?

— Я па чаромху хадзіў, — нехаця адказаў я, падыходзячы да сталюгі.

Прыбег дзядзька Міхалка і прынёс навіну: ён дамовіўся з кіраўніком духавога аркестра пры Доме культуры, каб той узяўся вучыць мяне іграць на трубе. Толік вучыўся ў Коўкі на акардэоне, Васько ўмеў на гармоніку. Трэба было (мо нехта і параіў Міхалку) праверыць музычныя здольнасці і ў мяне.

— Ото дзіва прынёс. Там піць навучаць, — не згадзілася адразу баба.

— Не, ручаюся. Чалавек харошы. Я ўсё ўладзіў. Прызнаюся, выпілі трохі.Ката яму навучыць — раз плюнуць. Ён бачыў, як ты, Адасё, трубіш у школьны горн на першамайскім парадзе. Кажа, хватка ёсць. Не, яй-бо, яны ж дурныя грошы маюць. Хаваюць людзей — давай, танцы ў клубе граюць — гані рублі. Клуб пад бокам. Коб не схуліганіўся, то няхай пры дзеле будзе.

Міхалка, пра якога сталяр Клубышко казаў: ён добра

разумее, што будзе наперадзе, і нічога не цяміць, што робіцца зараз, — яшчэ ў мінулым годзе знайшоў мне работу: прыслужкай у свяшчэнніка Міфодзія. Апранула мне баба адзіную белую тэніску, выбраліся да Міфодзія. Добра помню пах грошай і воску ў хаце свяшчэнніка. Не зусім прыемны пах. Пасля пахавання маці пах воску я не любіў. Міфодзій прыняў ветліва, нешта папытаўся ў мяне. Помню толькі:

— А ў бога верыш?

— Верую.

— Малайчына.

Дзядзьку Міфодзій адказаў так. Узяць можна, але баіцца, каб мне не пашкодзіла служба царкоўная. Прыйдзецца не толькі хрысціны праводзіць, а і нябожчыкаў адпяваць, не дзіцячая справа. Другі вытрымаў бы, а тут душа паранена смерцю маці, зашкодзіць служба.

Разумны быў поп. Мяне не ўзялі, а так хацелася зарабляць хутчэй грошы. Міхалка не стаў упрошваць папа, паверыў і вось цяпер знайшоў аркестр.

— Мо рана, сынок, куды яму, худобе такой, дуці ў трубу. Сілы яшчэ не мае, — сумняваўся дзед.

— Я ўмею, лёгка дую, — кінуў я дзеду.

— Які ж малы, бацько, галіцца хутка пачне. Як стары Бабёр кажа: адны музыканты маюць заробак — незалежна, якая на вуліцы ўлада і якія законы.

Заробкі ў дзеда падалі з кожным месяцам. Не было тавару, а выпадаў тавар (Кулькін, бывае, хром прыносіў) — не прыходзілі заказчыкі: сяляне з далёкіх вёсак Аздамічы, Сямігосцічы.

Крутаяраў заснаваў у горадзе арцель, але дзед туды не пайшоў. Па-першае, стары, па-другое, лічыў, што там людскага не заробіць. Ён меў добрую, надзейную і даўнюю славу майстра і седзячы ў хаце. Дзед трымаў сваю марку і не хацеў дзяліць яе з арцеллю. Ён звыкся гадамі з незалежнасцю і вольным распарадкам свайго часу. Заслужана карыстаўся павагай і пашанай. Рабіў звычайна з чатырох раніцы да дзесяці, клаўся дасыпаць (няхай цяпер ходзяць рэвізоры райфа, няхай паспрабуе яго спаймаць за руку Кошман), а ў чатыры вечара зноў садзіўся да століка і рабіў да васьмі. Часта ў другой палове дня не рабіў, хадзіў на рыбу альбо ішлі «наўкола» з Іванам да чайной. Выпіваў толькі сто, сто пяцьдзесят і бег шпарка дамоў, пакуль баба не прыйшла з поля.

Насця мела вока пільнае, таму чакушку, якую, бывала, купляў, хаваў у адрыне альбо ў дровах. Я любіў, калі ён вяртаўся з горада выпіўшы... Паціху краў з кішэні яго пінжака медзь. За гэтыя паходы «наўкола» баба сварылася на дзеда штодня. Дзед крычаў, што грошы ён не прапіў, што я іх з кішэні пакраў. Знімаў папругу і гразіўся пабіць, але баба Насця ніколі не давала мяне ў крыўду.

— Сціхні... Сціхні, кажу! Сядзь!

Дзед вельмі сумаваў, калі не было тавару. Аж не галіўся тыдзень. А што было рабіць? Гарбарню сваю цяпер ніхто не трымаў.

Прыбягала тады баба Лісавета (жонка Насцінага брата Івана), жанчына кемлівая і лёгкая на ногі, прапаноўвалаісці ў вёскі Рамель, Мачуль — гэта адзінаццаць кіламетраў ад гарадка.

Лісавета, дзед на яе казаў Лісанька, была маладзей за маю бабу. Калі ў Насці на твары было трыццаць тры маршчыны, у Лісаветы — на адну больш, калі Насця ведала сто прыказак, Лісавета — сто адну, калі мая баба ў адказ дзесяць слоў, Лісавета — сто, калі Насця ў святы не рабіла, Лісавета цярпела толькі да абеду, калі ж трэба было параіцца і падзяліцца сумам, радасцю — тут былі роўныя: ішлі толькі адна да адной.

Бралі пляцёнкі цыбулі, лаўровы ліст, перац, завесы ў Герасіма, дрожджы і пешкі, босыя, ішлі ў вёскі. Там усё абменьвалі на яйкі, бульбу, муку, проса, яшчэ хапала сіл узяць стары абутак, каб дзяды падбілі ці нашылі латку, і ўвесь гэты скарб цягнулі дахаты. Дзед у такія дні не піў. Хадзіў знерваваны па двары, не знаходзіў работы. Пералсываў за бабу.

Гаварлівая Лісавета паспявала ў тых вёсках знаходзіць і новых заказчыкаў. Не пусціла болей свайго Івана на сплаў, і ён на старасці ўзяўся шыць чобаты. Цяпер дражджэй не было, лаўровага ліста не было. Кулькін нічога не змог прывезці, быў папярэджаны міліцыяй. Сядзеў ён у хаце і баяўся сунуць носа на вуліцу. Прыйшоў да нас прасіць грошай не хлеб. Ён, смешны з выгляду, шапялявы дзядзька, ніколі не выкручваўся і не саромеўся. «Дай, — казаў, — Цімох, на хлеб. Падзяліся, хоць ведаю, што й ты небагаты. Няма чаго ў хаце есці. Пазыч, праз тыдзень аддам».

У Кулькіна хварэла жонка — седнем сядзела ля акна гадоў восем, была паралізавана. Дзеці заканчвалі

школу, помачы не было. Не адзін раз раілі Кулькіну: «Здай ты жонку ў прыют. Усім лягчэй будзе». Ён заўсёды ад такіх дарадцаў адмахваўся рукой: «Грэх, грэх, і нічога болей не кажы». Ніколі не крыўдаваў на людзей за такія словы. Як толькі заснавалі калгас на пачатку пяцідзесятых, Кулькін запісаўся адным з першых. Без вялікай ахвоты пайшоў туды, казаў дзеду: «Нада-кучыла быць бакеншчыкам. Гнію на Прыпяці, а жонка тут хворая адна з дзецьмі». Хадзіў у брыгаду нядоўга. У суровую зіму ці то сена ўкраў, ці то парася. Яго ніхто не праганяў, толькі жартачкі ўсе строілі ды рагаталі. Кінуў. Жыў падзёншчынай. Раз казаў дзеду, што ён у леснічых, другі раз — што на сплаве, трэці — мост робіць у Альшанах. Яны жылі, мабыць, бядней за нас.

Дзядзька Міхалка не раз унушаў бабе Насці, паказваючы пальцам на мяне: «Трэба з дзяцінства вучыцца прафесіі, а то будзе так блытацца, як Кулькін».

Мне здавалася, што сам дзядзька Міхалка не менш за Кулькіна пераходзіць з аднаго месца на другое.

— Духавы аркестр — прафесія. Куды гэтай моладзі дзецца? Калгас забралі ў Альшаны. У нас тут толькі брыгада. Ай, шчо моладзі рабіць у калгасе. Мо пашыраць маслазавод, але калі гэта яшчэ будзе. Сплаў закрылі. Кантора ў Мазыры. Хацеў я на параход пайсці, кажуць, і прыстань здымуць. Пасажыраў штогод усё менш. Няхай ідзе вучыцца, не пашкодзіць, — настойваў Міхалка.

— Ой, каб жа не спаганіўся там. Навучаць піць.

— Сам не захоча, ніхто сілком не навучыць.

— Я не п'ю, — хутка адказаў я.

...Баба дала згоду. Дзед прынёс з пярэдняй хаты пяцілітровую бутлю самагонкі (падарунак аднаго заказчыка), наліў Міхалку, сабе грамульку (сто грам).

— А-ах, — зацягнуў Міхалка, — мяккая. Не пячэ.

— То мо крупніку наліць, сынок, — баба не сварылася, што яны выпілі.

— Не. Пабягу ў магазін. З абеду адкрываць трэба. А ты, Адась, мяне не падводзь. Слухайся і вучыся.

Дзядзька Міхалка больш на Прыпяць не ездзіў. Пасварыўся там з кіраўніцтвам, некаму ў вочы нешта колкае праўдзівае сказаў. Гэта ён умеў. «Маўчаць трэба, ніхто праўды не любіць», — прасіла баба. Пераехаў у горад. З цяжкасцю, праўда. Далі за месца загадчыку вялікія грошы. Міхалка не вылазіў з даўгоў. Баба Насця

не была задаволена пераводам. Там быў сам сабе гаспадар, і муку прывозіў, і цукар. Цётка ж Поля, наадварот, была надта задаволена.

Яна радавалася, што чалавек будзе пры хаце, не трэба тыднямі тырчаць на дэбаркадэры. Перадалі ёй, што туды, на дэбаркадэр, бегала з гарадка адна сікуха. Тут будзе пад наглядам. Улезлі нарэшце ў новую хату. Даўгі, праўда, павялічыліся, але ў Полі была яшчэ магчымасць і надзея, каб іх аддаць. Былі яшчэ сілы.

Мне самому вельмі хацелася пайсці ў аркестр.

Я прагнуў атрымаць свае грошы, бо Генку Шакіну бацькі купілі мапед. Слых музычны ў мяне быў. Я любіў і мог гадзінамі слухаць, як ігралі: адзін на мандаліне — Глеб Іванавіч, другі — на гітары — Сынмартачкі, як па-вулічнаму казалі на ювеліра. Я і сам употай, бывала, браў у жонкі Глеба Іванавіча мандаліну і спрабаваў нешта дрынкаць. Верыў, што вучобу асілю. Хутчэй бы грошы. Шакін, бывала, падвозіў Валю дахаты. Пасадзіць на багажнік і, шчаслівы такі, рулюе. Яна, абхапіўшы яго рукамі, туліцца да плеч. «Ух, Шакін, як я цябе ненавіджу і твой мапед! І яе трэба адвучыць ад катання», — думаў я.

Валя, як толькі ўгледзіць мяне на вуліцы, быццам адчуваючы маю нянавісць, прыспешвае крок і ўцякае. Бегала яна шпарка, і мне не ўдавалася яе дагнаць, а да варот іхняга двара я не рызыкаваў бегчы, баяўся суддзі. Аднойчы пагнаўся, думаю, даганю, чаго б мне гэта ні каштавала, і дагнаў ля форткі, штыбнуў раз, другі ў плечы.

— Будзеш ведаць, як на мапедзе катацца.

— Дурань, дурань! — праз слёзы крыкнула яна.

Словы яе мяне не кранулі. Усе мары былі пра грошы. Хутчэй бы... зарабіць на мапед, а частку адкласці на помнік маці.

Узяўся за вучобу старанна, браў трубу дахаты і рэпеціраваў бесперапынку ўранку і ўвечары. Аднавокі Паўлёнак жартаваў: «Цяпера мне не страшна, калі паслепну і на другое вока. Цяперака мой конь на гукі трубы дахаты ідзе».

Стары Юрко нічога не казаў, толькі пазатыкаў вату сабе ў вушы і габляваў, часта адпачываючы, дошкі на труну.

«До, рэ, мі, фа, соль, ля, сі, до-о», — неслася на ўсю Аселіну. Баба Насця ўся знервавалася. Яна пасля смерці дачкі не пераносіла наогул аніякай музыкі, нават радыё нам з дзедам не дазволіла правесці. Не было ў нашай хаце і электрыкі. З лямпай было надзейней і зручней: дзед пераносіў яе, куды хацеў. Застаўляў кавалкам фанеры акно, завешваў паверх старой коўдрай і шыў чобаты. Я спрабаваў некалькі разоў чытаць кніжкі пад вэрхнікам. Спаць не хацелася, цягнула чытаць. Браў ліхтарык, укрываўся з галавой і чытаў. Не хапала пад вэрхнікам паветра, як, бывала, аж да задухі, не хапае сіл узяць верхняе «мі».

Ох, які цяжкі ты, першы рубель. Лёгкія не вытрымліваюць, клапаны на трубе не слухаюцца, заядаюць. Лепшыя ж трубы ўсе ў вопытных музыкантаў. Кіраўнік заўважыў мае цяжкасці і перасадзіў на альт.

— Тут менш работы. Толькі слухай уважліва. Іста, іста, іста-та-та. Іста, іста, іста-та-та.

З усёй стараннасцю і злосцю накінуўся я на альт, як казалі хлопцы, тэнар. Неяк кіраўнік пазваў і кажа:

— Ведаеш, Адась, з цябе класнага музыканта не выйдзе. — Насіў ён не па размеры пінжак, у кішэнях якога заўсёды былі цукеркі і пернікі — любіў сваім дзецям прыносіць падарункі. У клубе ён меў паўстаўкі кіраўніка духавога аркестра, а працаваў токарам у МТС.

— Чаму не выйдзе? — да крыўды здзівіўся я.

— Цярпення ты не маеш. Ты хочаш усё і адразу.

— Я ж вальс навучыўся, марш, «лысага».

— Так. А польку, танга, марш «Славянку» толькі робіш выгляд, што дуеш. Ты нос не вешай. Трымай хвост пісталетам. Я цябе не праганю. Сірату... не... у мяне дзеці, сэрца... Я, брат, да тваёй маці калісь, як з арміі прыйшоў сватаўся. Яй-бо, о, хрэст на мяне. Выпіў. Яшчэ купіў бутэльку настойкі і пайшоў. Там з тваім дзедам, залаты чалавек, яшчэ выпілі, загаварылі. Чакалі тваю маці. Лёг я на канапу і заснуў. Тут з вуліцы ты прыбягаеш. Колькі тады табе было — дзевяць, дзесяць. Мне пасля твая маці перадавала. Кажа: «Сынок, паглядзі — унь твой бацька спіць. Вярнуўся». Хацела праверыць, як ты. Глянуў ты на мяне, мо і не памятаеш, і, браце, ходу з хаты наўцёкі. От доўга шукалі. Плакала маці тады, плакала. А ты праз увесь горад да цёткі Олены і дзядзькі Якава сігануў. Такі фінт выкінуў. Не прыняў, кажа, цябе, і я не змагу палюбіць... Так твая маці

мне сказала. Разышліся з мірам. Ганьбы адно другому не рабілі. Мо яна і з Трыфанам хацела нанава сысціся, хто ж ведае. Скажу табе, я насупраць Граноўскіх жыву. Дык аднойчы ўгледзеў, як ад іх спярша твая маці выйшла, а потым і Трыфан. Яны там сустракаліся. Гэта праўда. Было аднойчы... болей я не страчаў, хоць і сачыў за хатай Граноўскіх. А з якой мэтаю сустракаліся? Хіба Граноўскія ведаюць. Маці старэйшую любіла, давярала, вучылася ў яе пры Польшчы. Такое яно жыццё, дружа мой. Так, бывае, цябе падверне, пакалашмаціць, што ахвота жыці адпадае.

У час гэтай гаворкі я ўспомніў таго маладога кіраўніка аркестра, які спаў на канапе. Густыя валасы на галаве, на руках ля локця, на грудзях (сарочка была расшпілена), няголены твар. Але не гэта мяне займала. Зноў падумаў пра Граноўскіх. Што ж там рабілі ў іх мае бацькі, калі кіраўнік гаворыць праўду?

Пайсці зноў да Граноўскіх? Не, гэта будзе здрада самому сабе. Хіба папытаць у сяброўкі, жонкі Глеба Іванавіча, Гэлі? Не папытаў ні праз месяц, ні праз год. Было вельмі сорамна. Што ж, можа, гэта і лепш. Цяпер, калі мне семнаццаць, я магу звярнуцца і да гэтага выпадку. Хутчэй дахаты! Да Граноўскіх!

Вось нарэшце і старадаўні Пінск, людная плошча з двума вакзаламі адразу: чыгункі і аўтобуснай станцыі. Пачынаецца Палессе адсюль. З каляровых хустак на галовах сялянак, якія хаваюць грошы ў кашалькі. Кашалёк загортваюць у насоўку і хаваюць у бакавую кішэню лёгкіх пінжакоў і сакаў. Тут напаткаеш яшчэ чалавека ў лапцях. На яго ніхто не звяртае ўвагі: звыкла, надзейна і лёгка. Тут яшчэ, седзячы на лаўцы пад ліпай, рэжуць сала і хлеб складаным ножыкам, які прывязаны да папругі сырцом.

Можна стрэць мужчын з фанернымі чамаданамі і цётак з вялікімі плеценымі карзінамі. Рукі ў цётак аж чорныя. Прывозілі чарніцы. Садзяцца ў аўтобус тут гурбой, шумна, лезуць у дзверы, не саромеючыся, піхаюцца. Да гарадка мне яшчэ ехаць каля сотні кіламетраў. Часу хапае. Можна і яшчэ ператрусіць тое-сёе ў памяці.

Усё ішло добра. Мне выпісалі першую палучку. Я быў адзін з усяго класа, хто меў права хадзіць у клуб

на танцы ў такім ранні́м узросце. Музыканты, а большасць з іх рабілі на МТС, прыносілі на кожную рэпетыцыю новыя анекдоты, часта з мацернымі словамі, розныя любоўныя гісторыі пра здраду жанчыны, хітрасць мужчыны, прыносілі «Яблычнае» віно і едкія цыгарэты «Прыма», пякучыя папяросы «Казбек». Быў сярод нас кларнетыст Доўнар. Ён мне падабаўся ўсім. Рослы, прыгожы, шчыры, добры, але ж варта было чалавеку выпіць лішку, і чалавека не было. Кахала яго маладая, прыгожая дзяўчына, якая кіравала хорам Дома культуры. Сама яна была родам з вёскі, аж з-пад Рагачова. Любіла Доўнара да бяспамяцтва. Усе пра гэта ведалі. А ён... відаць, і ён яе любіў, але ж здзекаваўся бессаромна і часта.

Неяк паслалі мяне музыканты ў буфет па піва. Быў перапынак, і там у зале (а мы ігралі на клірасе-балконе) завялі радыёлу. Загучалі нязменныя, модныя і такія любыя ўсім песні «Вішнёвы сад», «Пяць мінут», «Ландышы», а найчасцей «Хвастать, милая, не стану, знаю сам, что говорю, с неба звездочку достану и на память подарю»... Вяртаўся я праз службовы ўваход, праз зацемненую сцэну, схаваную ад залы цёмна-чырвонай аксамітнай заслонай. Святло праз шчыліну падала толькі ў адно месца, у якім я ўгледзеў Доўнара і Таню. Ён расшпіліў на ёй кофту і цалаваў яе вялікія грудзі. Я прыліп да сцяны за два метры ад іх і не дыхаў.

— Што ты са мной робіш, любенькі... Ой, не трэба, пашкадуй. Госпадам богам прашу, не трэба тут... Выйдзем на вуліцу. Міленькі, не трэба.

— Любіш? — сурова так запытаў ён.

— Люблю.

— Не веру.

— Люблю.

— І на ўсё гатова дзеля мяне?

— На ўсё.

— А вось гэта праверым. Ну... давай... здымі трусікі, кінь іх у куток.

— Любенькі, сорам міленькі. Супакойся. Потым... Ты ж пасля сам папракнеш мяне за гэта. Не трэба, любенькі, — упрошвала яна і гладзіла рукой яго п'яны твар.

— Вось уся твая любоў і скончылася.

— Ты ўсумніўся?

— Усё.

— Госпадзі, што ж гэта будзе? Пачакай. Зараз.

Яна хуценька зняла белыя трусікі і кінула іх у куток сцэны. Доўнар узяў Таню за руку і павёў у былую прыўратную, дзе мы хавалі інструменты.

Нікому я пра гэта не казаў, баяўся, учуе Доўнар, можа моцна набіць. Пры сустрэчах з Таняй я адводзіў вочы ўбок, усё здавалася: яна ведае, што я быў сведкам таго вечара.

У аркестры ўсё падабалася, акрамя аднаго. Вяртацца дахаты прыходзілася апоўначы, калі заканчваліся рэпетыцыі. Мне гэта было як брытвай па сэрцы.

Як толькі праз старыя вітражы Дома культуры ўпаўзала цемра, усе мае думкі нейкай сілай скіроўваліся на адно: як дайсці дахаты? Занепакоены гэтым, пра астатняе і не думаў. Выходзіў я да разбуранай напалову брамы былога касцёла і чакаў. У такі позні час — бывала, у дождж і слату рэдка траплялася жывая душа. На няшчасце, і ніхто з музыкантаў не жыў у маім баку. Неаднойчы я вербаваў у аркестр Толіка. Хітры і заможны Бабёр-бацька наняў вучыцеля-акардэаніста для сына, а да «халтуршчыкаў» не пусціў. Наша вуліца не асвятлялася. Толькі дзядзька Ткач як работнік электрасеткі падключыў лямпачку на слупе ля сваёй хаты — гэта далекавата, за нашай адрынай.

Як толькі я збочваў на сваю вуліцу, адразу паскорваў крок. Цела маё ўсё напружвалася, чакаючы нападу. За калодзежам, за райкомаўскім гаражом, за кожным шулам і дрэвамі бачыўся мне цень майго бацькі. Да сваёй хаты амаль бег, а ў двары пачынаў знарок кашляць, даставаў дрыготкімі рукамі даўгі ключ, прыпадаў на адно калена, прасоўваў ключ у дзірку і хутка адмыкаў дзверы сеняў. Ад густой і поўнай цемры ў сенях туманілася галава, жах скоўваў рукі.

— Дзверы замкнуў? — пыталася баба, якая ніколі не спала, здаецца, чакаючы мяне.

— Замкнуў, — уздыхаў я нарэшце з палёгкай.

Назаўтра ўсё паўтаралася спачатку. Спакайней крыху зрабілася на сэрцы, калі прыдумаў звечара браць з сабою востры дзедаў нож, падобны на фінку. Хаваў нож за халяву, а ў самых цёмных месцах вуліцы, каля хаты Кулькіна і сталяра Клубышка, браў у руку. Некалькі дзён дзед безнадзейна шукаў на золку свой спраўны ножык, пакуль не ўгледзеў яго ў маёй кішэні.

— Навошчо ты бярэш?
— Боязна ўвечары дахаты ісці.
— Каго ж боязна?
— Бацькі.
— От халера. Напужала дзіця бацькам, а цяпер во-о... — не дагаварыў дзед. — Ідзі ў пярэднюю хату, прынясі мне калодкі жаночыя, капылы, правіла.
Ісці ў пярэднюю не хацелася. Там было цёмна. Цяпер я адчуваў, што пачаў баяцца цемры ўсюды. Я запаліў свечку, пайшоў, за грубкай знайшоў калодкі. Вяртаўся з пярэдняй шпарка. Здавалася, што ля покуці сядзіць мая маці.
Баба нагадвала неаднойчы: «Чалавек зусім не памірае, прыходзіць часта туды, дзе жыў, правярае, ці памятаюць пра яго, ці правільна жывуць».
— Сапсавала хлопца на нет, — войкаў дзед і паскардзіўся Міхалку.
— Ну, гэто раз плюнуць. Хадзем да Воўка-пустэльніка, ён нашэпча, напоіць траўкай, і хваробу тваю як рукой здыме, як піць даць.
Счуўшы пра дзядзьку Воўка, я заплакаў.
— Дурненькі, чаго ты? Гэто ж не аперацыя. Не балюча.
— Мы ў яго грушы кралі. Я баюся.
— Ай, було б шчо ўспамінаць. Хіба за руку спаймаў?
— Угу.
— Дзіця не злодзей. Чаго баяцца. Шкоды вялікай няма. Хадзем.
Быў дзядзька Воўк у гадах, жыў асобна ад сваіх сыноў, адзін. Меў ладную яшчэ хацінку з верандай, павоямі ля вокнаў і вялізны сад, не сад, а цуд, які даглядаў пільна і з любоўю. Сам здаўна плёў кашы, жакі, валізкі, лапці, рабіў граблі і дзіцячыя калыскі, дзяўбаў чаўны і карыты — з чаго і жыў. Ногі ў яго былі доўгія, усё роўна як надточаныя. Здалёк можна было падумаць, што ён трохі гарбаты, так сутуласць гнула яго да зямлі. Адметнай рысай твару былі вусы, адна палова якіх рыжая, а другая — сівая. Ён зрэдку ўсміхаўся. Колер вусоў надаваў яго твару смешны выгляд, але калі Воўк злаваў, рабілася нам, падлеткам, страшна. Здаецца, не было ва ўсім гарадку такога дзіцяці, якому маці не шаптала б над калыскай: «Спі, спі... прыйдзе Воўк, забярэ цябе ў торбу».
Чаму яго празвалі Воўкам, цяпер ніхто ўжо не ве-

даў, як не ведалі давыдгарадчукі, чаму іх па-вулічнаму, здавён, клікалі мянушкамі: Біржа, Манах, Свістун, Паяечко. Воўкам называў яго мой дзед Цімох, клікаў так і я. Да яго ў сад хадзіць красці грушы, абрыкосы было страшна, але ж такіх смачных, сакавітых бэраў ніхто ў сваіх дамах не меў. Украсці ў Воўка было нялёгка, амаль немагчыма. Дзень ён праводзіў на падворышчы альбо ў садзе, ноч чуйна спаў у будане. Маленькі сабачка даваў знаць пра чужога ўмомант. І ўсё ж зрэдку нам удавалася перахітрыць Воўка. Мы, Ванька Гасцюшкін, Толік і Васько Кіцель, наўмысна лезлі напачатку ў сад да Воўкавага суседа. І з чужога плота кралі бэры. Воўк суседу давяраў. Такі фокус нам удаўся раз. Воўк усё ж спаймаў мяне і найлепшага сябра майго Ваньку. Моцна трымаючы за вушы, прывёў нас у хату, пасадзіў да стала. Мы, як бездапаможныя кацяняты, апусцілі галовы долу. Воўк падсунуў нам міску з грушамі і загадаў есці. Мы пераглянуліся з Ванькам, з'елі па адной.

— Бярыце яшчэ, — строга загадаў Воўк.

З'елі яшчэ па адной.

— Яшчэ, — суровым тонам казаў Воўк, — каб у місцы нічога не засталося.

У місцы заставалася адна бэра, але болей сіл ні ў Ванькі, ні ў мяне не было. Балелі сківіцы, і недзе ў грудзях, ля горла, цвіком тырчалі кавалкі груш.

— Ну, дык як, дармавыя грушы смак маюць?

Мы тупа маўчалі, ненавідзячы ўсёй душою Воўка.

— А вось калі сам пасадзіш, выгадуеш, дагледзіш, дык не груша, а слодыч — мёд. Пасадзілі хоць адно дрэва самі?

— Не, — адказаў я за двух.

— Ай-яй-яй... Гультаі. Пух пачынае пад носам расці, ай-яй... Так, гойсаючы бяздумна, адвучыцеся ад працы, ад любові да зямелькі. Ужо розум мець трэба. Вось што: калі пасадзіце самі пяць дрэўцаў, якіх хочаце, дзе хочаце, дазволю тады прыходзіць у сад і частавацца грушамі, парэчкамі, абрыкосамі. А цяпер уцякайце... Не цярплю гультаёў, наб'ю.

Мінуў год, а я ні дрэва, ні кусціка так і не пасадзіў, таму ісці да Воўка баяўся. Але мой дзядзька Міхалка быў страшэнна ўпарты. Здароўе маё пагоршала, і таму ён раіў дзеду і бабе адно надзейнае выйсце — трэба

весці да Воўка. Аднак Воўк шаптаць не ўзяўся, так і сказаў дзядзьку Міхалку:

— Я тут нічым не памагу. Бо Адась мяне ведае, прывык, таму і сілы над ім ніякай не маю. Будзе горшаць — вязіце да старога Яўлампія ў вёску Алепень. Добра, каб Адась пераехаў куды-небудзь... хоць да цябе, Міхалко, ці да вашага Якава.

— Куды, кажаш? — ці здзівіўся, ці не пачуў Міхалка.

— Хоць куды. Тут жыці яму не трэба. Цяжка яму на гэтым месцы. Змяніць яму трэба настрой, каб новыя былі людзі. Я б і сам, ужо ж не малады, на сваім вяку багата што пражыў, а насупраць старога Юрка не здолеў бы жыць.

Тут і я пагадзіўся з Воўкам. Справа ў тым, што стары Юрко (яго хата стаяла насупраць нашай) рабіў скляпы[1] і гатовыя (а іх было заўсёды тры-чатыры штукі) наскладваў пад павець якраз перад нашымі вокнамі. Я нават не хадзіў пад плот да Юркавай яблыні, не збіраў паданкі. Было страшна — за два крокі ад скляпоў.

Смерць усё часцей нагадвала пра сябе такімі вось знакамі, ахутвала мяне сваёй наяўнасцю, усё больш даказвала, што яна такая ж натуральная, простая і звычайная з'ява, як і ўсё навокал. Я ўпарта не хацеў згаджацца з такімі думкамі, не даваў сябе прывучыць, баяўся прыкмет смерці і яе жахлівых знакаў.

Воўк падабрэў, ці гэта мне падалося: даў на дарогу груш, яблыкаў (толькі Воўк умеў захоўваць грушы і яблыкі аж да хрышчэння і прадаваў іх на ёлкі), неяк пяшчотна пагладзіў мяне па галаве.

— Вось што, Адась, прыбягай да мяне. Кашы будзем вучыцца плясці, а то і мне бывае сумна часам. Прыбягай, унучак, падружымся.

Міхалка абяцаў дзеду і бабе павезці мяне да Яўлампія на будучым тыдні, ды не павёз. Пачалася ў ягоным магазінчыку рэвізія, небарака хадзіў збялелы ўвесь і знерваваны, відаць, адчуваў за сабой нейкі грэх. Некалькі тыдняў я да Воўка не прыходзіў, хоць і адчуваў у душы, што пайсці хацелася. Акрамя таямнічай засяроджанай знешнасці, было ў ім нешта яшчэ, нябачнае, што вабіла і цягнула да сябе.

Прыйшоў я да яго з болем у душы пасля аднаго выпадку.

[1] Труны.

Жыла ў нас кошачка Дымка. Блукала, здаралася, дні навылёт, прыходзіла на двор увечары, а калі баба чысціла ля ганка рыбу, настырна лезла пад нож, так любіла ласунак. Қатоў мы з хлопцамі ганялі і сваіх, і чужых. Бывала, калі надакучыць збіваць з кублаў на ліпах ля касцёла птушанят галак, тады бралі галавешку, прывязвалі яе кату да хваста і выпускалі. З нутраным крыкам на ўсю вуліцу кот ляцеў, як рэактыўны самалёт, ратавацца куды вочы глядзяць. Адзін раз такая забаўка ледзь не нарабіла гора. Вяртлявы чорны кот цёткі Мамэліхі сігануў да каваля Герасіма і схаваўся ў невялічкі стажок сена ля адрыны. Жонка Герасіма сядзела сабе спакойна на ганку і скубла курыцу. Не паспела яна і галаву ўзняць, як стажок палаў яркім полымем.

— Ра-туйце! Нячыстая сіла! Нячыстая сіла! — загарлапаніла яна.

Добра, што ветру не было, што ехаў на ровары па вуліцы Ткач ды прыбег, патушыў, а то б нам папала.

З Дымкай такія фокусы я не дазваляў вырабляць. Дымка была разумніца. Гэта ж сядзе, бывае, баба Насця, успамінаючы маю маці, заплача. Дымка тады скок ёй на калена і худыя рукі бабіны ліжа, ліжа. І мяне пазнавала здалёк, бачыла, калі са школы вяртаўся, бегла насустрач. Трэба ж было таму здарыцца, што нейкая зараза пераехала Дымку. Кошачку прынёс з вуліцы нам на двор Пеця Слабада, які рабіў у калгасе і на якога Ткач казаў «недарэка».

Я падаслаў Дымцы старую фуфайку, наліў у місачку малака. Кошачка да малака не дакранулася і ўсё лізала ад бездапаможнасці мае рукі.

— Шкада. Здохне, — ціха сказаў Пеця Слабада.

— Дымка, Дымачка, папі малачка, — прасіў я.

Дымка ледзь чутна жаласліва так мяўкнула. Я не стрымаўся і заплакаў. Гэта былі першыя ў маім жыцці слёзы спачування і любові да гэтай маленькай, няшчаснай істоты, якой я нічым не мог памагчы. Дымка ўвечары здохла.

Праз дзень ад Толіка я даведаўся, што нібыта Шакін на перамене казаў некаму, як ён наехаў на сваім мапедзе на ката. Такога дараваць Шакіну я не мог. Узяў непрыкметна дзедава шыла, схаваў за халяву, сеў на лаўку ля ганка, пачаў чакаць, пакуль сцямнее.

Баба Насця доўга круцілася каля мяне, нарэшце падышла, запыталася:

— Навошчо ты шыла ўзяў?

Тут я пра ўсё ёй і паведаміў, сказаў, што хачу пайсці і пракалоць ягонаму мапеду колы.

— Не трэбо, унучачко, не трэбо. От, не нажывай собе ворагаў. Кошачку не вярнуць, а нашчо сварыцца. Дзякуй богу, душа ў цябе прачнулася, шкадуеш Дымку, дасць бог час і ўрэмя, абудзіцца душа і ў Генадзя, а шкодзіць не трэбо. Пакладзі шыла на месца, каб і дзед нават не ведаў.

Гнеў і злосць мае аціхлі, не ведаю і чаму, я паслухаў бабу.

Я прыносіў Воўку ўсе навіны гарадка: хто, дзе, з кім, як, за што, калі і колькі. Маўчаў нема, баяўся, каб ён нічога не западозрыў пра Шакіна, Валю.

Воўк на некаторы час замяніў мне сясцёр Граноўскіх, да якіх пасля таго майскага прыкрага выпадку, які адбыўся паміж мною і Цялегінай, я больш не рызыкаваў заходзіць. Я саромеўся, хоць на першы погляд здавалася, што я іх неўзлюбіў. Воўк навіны любіў і кожную перакручваў на свой лад.

— Пабіліся на сваім гародзе браты Мамонькі. Не падзялілі бацькаў пляц. Адзін адкусіў вуха другому, — казаў я.

— Здавён у нас: шляхта на сваім гародзе ровен ваяводзе. А жанкі братоў не біліся хіба?

— Біліся і жанкі.

— Казаў я старому: не будуй адну хату на дзве сям'і. Аддзяляй іх. Кожнаму волі хочацца і незалежнасці. Ат, няхорашэ.

— Памёр дзед Хоз у Радзічах.

— Вечны пакой. Смерць старому бондару ў радасць.

Я здзівіўся.

— Ён усё жыццё пражыў у весялосці, сярод людзей, не рыхтаваўся паступова да старасці і, калі застаўся зусім адзін, не змог пераносіць адзіноты ў хаце, як твой хросны таблетак. Умомант усё цела чырванее і чэшацца, аднымі маімі травамі і ратуецца.

— Памёр яшчэ Есаўленка.

— Чакаў смерці, ведаў. У часе вайны на нейкіх складах аблучыўся. Белая кроў небараку звяла.

— Усяго на свеце хапае. І чаго людзі паміраюць? —

хацелася мне падацца і старэйшым, і разумнейшым.

— Так, Адасё, шмат дадзена чалавеку на зямлі. Мільярд пачуццяў перажыць дадзена. Пах хлеба, сустрэча з першым буслам, провады журавоў, укус пчалы... У кожным дні смерць і ўваскрасенне, толькі трэба ўмець назіраць. Ёсць, на маю думку, тры найвялікшыя святы, якія цябе чакаюць наперадзе: каханне — свята душы, работа — свята розуму, смерць — свята цела. Мне самому, калі іх вызначыў для сябе, жыць зрабілася лягчэй. Думаеш, Воўк пасварыўся з сынамі? Не. Да сябе клічуць — не хачу. Я сам сабе хазяін, шчо захацеў — тое з'еў, пра шчо захацеў, пра тое падумаў. Бачу, шчо ты перажываеш, шчо мамку рана пахаваў. Пахаваў і не ўбівайся, няхай душа адпачне, усё забудзецца. Пазней маці твая б пайшла ад нас усё роўна, табе было б цяжэй перанесці гора.

— А чаму вы так думаеце, шчо яна ўсё адно памерла б рана ці позна?

— У яе вачах гэта было напісана. Яна ахвяра нялёгкага часу і нешчаслівага кахання. З бабай тваёй, павер, нялёгка ўжыцца. Я ж, дай бог памяць, сватаўся да яе. Не прыняла. Хто я быў? Сірата, як ты цяпер. Дык вось абрала баба дзеда твайго — Цімоха. Ім можна было панукаць, а я сірата быў, ганарлівы. Бедныя, маладыя — мы ўсе ганарлівыя, усё нам здаецца, шчо зможам процістаяць уладзе неба над намі, і аніяк нам не хочацца ўразумець, што не адолеем мы яго ўладу, бо не можам разгадаць тайну, а не разгадаўшы і адолець нельга. Паспрабуй не пусці яблыню ў цвет, не дай бэзу распусціцца? Калі баба адмовіла мне, кінуўся я ў заробкі, думаў, грошай зараблю, будзе яна тады локці кусаць. Я быў сляпы. Мне думалася, што я змагу затрымаць і адолець час. Два гады я рабіў у лаўцы польскага купца. Прыехаў, прывёз добрыя грошы... Думаю, кіне твайго дзеда, пойдзе за мяне. Але час не захаваў у памяці ні нашых сустрэч, ні слоў гарачых. Усё змянілася, усё мінула. Мы зрабіліся як чужыя. Так я ўцяміў, што, акрамя ўлады неба, ёсць улада часу. От, скажы мне, ты памятаеш пахаванне маці і памятаеш дзень, калі Міхалко прывёў цябе да мяне?

— Памятаю, — адказаў я.

— А скажы мне, яны там, у памяці, стаяць на адной прыступцы?

— На адной, — не зусім разумеючы, адказаў я.

— На аднолькавай адлегласці, хоць пахаванне было два гады таму назад, а ты прыходзіў з дзядзькам два месяцы таму назад. Чаму так? Чаму яно ўсё падаецца аднолькава далёкім-далёкім, бы сон? Паміж небам і часам — чалавек, трэцяя тайна. Шчо было ў душы тваёй маці, хто накіроўваў яе ўчынкі, хто кіраваў яе галавою — невядома. Вось яна, вялізарная тайна — чалавек. Муха і асілак, раб і перамаганосец. Прызнайся, цябе трывожыць, карціць даведацца, чаму яна пакінула добраахвотна гэты свет?

— Вельмі трывожыць.

— Я не памыліўся. Дамагайся, мо й напаткаеш ісціну. Бабу слухай менш. Яна карае сябе, усю любоў табе аддае. Калі дзед разгаворыцца, дзеду вер. Бацьку не вер, ён табе ўсё схлусіць, бо ты яшчэ малы. Падрасцеш, тады патрабуй праўду. Толькі падрасці напачатку. Твой Ціфан прымае змены, калі гэта яму пойдзе на карысць. Могуць прыціснуць яго, спаймаюць дзе-небудзь, а ён ім — а ў мяне яшчэ адно дзіця ёсць, плачу аліменты. Ты яму патрэбны. Не бойся яго, не бойся цемры.

Мяне здзівіла, што Воўк назваў майго бацьку Ціфанам, калі ён Трыфан.

— Вы, мабыць, многа кніжак чытаеце? — рызыкнуў папытаць я.

— Цяпер вочы слабнуць, а раньш і часу не было. Нашы людзі кніжак не чытаюць, амаль і газет не чытаюць. Раньш я чытаў. Пра вайну толькі не люблю, і без таго дзве перад вачыма стаяць. Гары яна гарам, каб яшчэ чытаць. Вось настаўнік польскі падарыў, на машынцы надрукавана адна кніжка, якую чытаю часта. Кніга гэта старажытнага Егіпта, і называецца яна «Кніга мёртвых».

Ён мне паказаў, я пагартаў, пакруціў у руках і вярнуў кнігу гаспадару.

— Вось шчо, напрыклад, чыталі жрацы за нябожчыка перад тым, як суправодзіць яго навечна ў краіну цемры. «Владыки истины, приношу вам самую истину: ни одному человеку не сотворил я зла, нарушив клятву — не сделал несчастным никого из моих близких; не позволил себе сквернословия и лжи, не дружил со злом, никто по моей вине не стал калекой, больным, несчастным. Не отнимал младенца от груди его кормилицы, не ловил жертвенных птиц, не вредил разливу рек, не расхищал имущества храмов».

Воўк зняў акуляры і закрыў кнігу.

— Бач, як даўно людзі жылі, раньш, чым пісалася біблія, а ўжо тады ведалі, шчо можна рабіць, а шчо нельга. Памру, тады кнігу гэтую табе перадасць мой сын. Так раіў польскі настаўнік, калі мне перадаваў, кажа, коб і я пакінуў сіраце. Памрэш ты, загадзя знайдзі сірату — яму пакінь. Смешна, га? Папера, а чалавека пераджывае. А ты чаго гэто, Адасё, на кніжку ўставіўся? Я шчэ доўга жыці буду! Я так не здамся... не... вельмі ж мне, сіраце, жыццё з боем далося, коб так аддаць, рана пакінуць, не разгадаўшы тайны... Не! Заходзь да мяне, я буду жыці доўга.

Я не ўсё з яго слоў зразумеў, але мне падабалася, што Воўк лічыць мяне за дарослага і гутарыць са мной так сур'ёзна і доўга.

Самы час, каб быць да канца шчырым і аб'ектыўным, дарагі чытач, расказаць яшчэ пра аднаго чалавека, які прыйшоў праводзіць мяне да аўтобуснага вакзала ў Брэсце. Звалі яе Даша Савічык, была яна адных год са мною і паступіла ў бальніцу на тыдзень раней з дыягназам фіброзна-кавернозны[1] туберкулёз лёгкіх. Безумоўна, я і ведаць не ведаў, што такое кавернозны туберкулёз. Пра хваробы не думаеш, калі галава занята каханнем. Калі я ўпершыню, цiснучы руку, пазнаёміўся з доктарам, прадчуванне бяды не існавала аніяк у маёй свядомасці. Ды як можна было чакаць непрыемнасці ад такога вясёлага чалавека, як наш давыдгарадоцкі ўрач Іосіф Урбановіч, чалавек пацешны, вялікі аптыміст і майстра на ўсе рукі. Самлеў чалавек — кліч Урбановіча, паламаў нагу — вязі да Іосіфа, аслеп ці аглух — прасі Урбановіча, баліць жывот — звані Урбановічу. «Не шукайце болей шчасця, калі ў вас ёсць я — шчасце!» — казаў чырванатвары, з жывымі вачыма, рухавы Урбановіч гарадчукам. Калі ў добрым настроі пакідаў хату хворага Урбановіч, і прыходзіў ён заўсёды ў цудоўным настроі, родныя весялелі з твару, была зарука, што хворы будзе жыць. Ён не цураўся наведацца ў хату да паралізаванага старога, не адмаўляўся, калі прыбягалі да яго сярод начы.

Урбановіча паважалі і любілі ўсе, і ніхто не карыстаўся такой вядомасцю ў гарадку, як ён. А некаторыя

[1] Другая стадыя туберкулёзу, пры якой у лёгкіх з'яўляюцца дзіркі-каверны.

найбольш блізкія ягоныя сябры, сярод якіх быў і дзядзька Міхалка (ён пабудаваў хату па суседству з Урбановічамі), якія добра ведалі мінулае жыццё Іосіфа, дык проста гатовы былі насіць яго на руках. Міхалка пад вялікім сакрэтам расказаў дзеду майму, што ў Іосіфа моцная экзема па ўсім целе, што ў сорак восьмым годзе ён працаваў рэнтгенолагам, аблучыўся і што хвароба мучае яго ўсё жыццё. «Мо з таго, бывае, і вып'е на людзях у чайной, каб зуд гарэлка зняла. А вы думалі — Урбановіч гуляе ад вясёлай сытасці? Шкладувам быў перад вайной. На тым шклозаводзе ўсе свае зубы і пакінуў. А шчо ж вы думалі, некаму лёгка жыццё даецца? Пакажыце мне такога чалавека, які не пакутаваў ці не плакаў ад няўдач. Іосіф і ў гестапа сядзеў, за тое, што партызанам медыкаменты перапраўляў. А як жа! У сорак чацвёртым. Стане расказваць — валасы дыбам. Каб Чырвоная Армія не падаспела, не вызваліла — не мець бы нам такога спецыяліста. Урбановіч, браце, скажа — Масква не паправіць».

Мала каго мой ганарысты дзядзька Міхалка ў гарадку паважаў так, як Урбановіча. Ездзіў Іосіф на работу і з работы на ровары-«дамцы», так было зручней, бо ўвечары не змог бы перакінуць нагу цераз раму. Не толькі таму, што стамляўся надта, — здаўна былі хворыя ногі.

Урбановіч, здаецца, перасядзеў ва ўсіх пакойчыках нашай маленькай палікінікі, пакуль не перакінулі на фтызіятрыю. Перад тым як пачаць гаворку з хворым, ён смешна набіраў поўны рот паветра і, выпускаючы яго, іграў губамі накшталт нейкага марша: пру-п-пу-пу-ру-у!

— Я працую. Я заўсёды працаваў. Глянь, — ён любіў паказваць фота, — Дом урада ў Мінску будаваў уласнымі рукамі, во, глянь — драўляная бальніца ў вёсцы Альгомель. Усё ўласнымі рукамі складзена. Я там адбыў дзесяць гадоў. Загадалі б вярнуцца — паехаў бы. Я яшчэ служу чэсна Айчыне... А ў нашых маладых пачынаюць сціраццa паняцці: абавязак, Радзіма, доўг, сумленне. Усё на ашуканстве будуюць! Ну-с, давай здымак. Твой, не пераблыталі на рэнтгене?

— Мой.

— Боязна? Масква слязам не верыць. Та-акс... — ён, крэкчучы, узяў рэнтгенаўскі здымак, накінуў на свой

нос-бульбіну акуляры, прыгледзеўся, спяваючы пад нос свой марш.

— Пру-пу-пу-пу-пу-у! Скардзіўся ты на боль у жываце дарма. Жывот у цябе ў парадку, галава ў норме. Калі галава ў норме, лічы, здаровы. Трохі вось тут нешта на лёгкіх мне не падабаецца. Не трымці ад гора. Урбановіч усё вылечыць. Медыцына цяпер тое-сёе ўмее, не ўсё, скажу чэсна, не ўсё. Я не дужа каб вялікі спецыяліст па фтызіятрыі, мяне толькі зусім нядаўна папрасілі ўзначаліць, бо ніхто ж да нас у балоты не хоча ехаць. Але з маім магутным вопытам можна смела роды прымаць дзе-небудзь у Конга ў негрыцянкі.

— А хіба ёсць нейкая розніца, у каго прымаць? — усміхнулася пажылая медсястра.

— Ёсць! Я ніколі не бачыў голай негрыцянкі, можа быць шок. Так, Адась, ідзі спакойна ў школу, прыходзь да мяне заўтра. Я параюся з рэнтгенолагам.

Назаўтра гаворка паўтарылася, толькі многае было наадварот.

— Я ж казаў, Масква слязам не верыць. Адзін здымак за мяне, другі — супраць мяне. Яшчэ ніхто толкам, запомні гэта на ўсё жыццё, ніхто правільна дыягназ ва ўмовах паліклінікі не паставіў. Урбановіч паставіць. Бо ў яго была мара: выяўляць хваробу ў чалавека, гледзячы толькі на яго вочы. Да гэтага прыйдуць, веру. Урбановіч мае вопыт. Курыш?

— Не.

— Чаму?

— Не падабаецца.

— Ад мужыка — трэба каб пахла цыгарэтамі і віном. Я куру. Значыць, так, Урбановіч прымае адзіна вернае рашэнне: ён выпіша накіраванне ў вобласць. Стрэну дзеда, папярэджу яго сам. П'еш?

— Не п'ю.

— Правільна. Пу-уф. Няма хаты, жонкі, дзіцяці, не маеш права піць. Вырашана, паедзеш у вобласць, там хутка вылечаць. Я і маці тваёй, памятаю, вытрабаваў, вырваў, можна сказаць, пуцёўку ў Кіславодск. Шкада, што яна пабыла там усяго тыдзень. У чалавека, скажу табе, аніякіх сакрэтаў, і рабіць з яго тайну не варта. Мозг — о, гэта да-а, у мазгі не дадзена забрацца, пакуль не дадзена. Каб Урбановіч застаўся ў Альгомлі, ён бы тайну мозгу адвінціў. Клянуся як на духу. Усё астатняе ў чалавека на далоні. Косці, мяса, мышцы, кроў.

А чаго сэрца гоніць гэтую кроў па жылах, не ведаюць. Каб Урбановічу далі сродкі, я б дакапаўся. Так. Вось з гэтай папераў давай у Брэст, у тубдыспансер, вуліца 17-га Верасня. Без панікі. Я яшчэ на тваім вяселлі вып'ю. Ты не пі. Зразумеў? Хочаш жыці — не пі і не куры. На маіх памінках выпі сто грам, успомні бальніцу ў вёсцы Альгомель. Яна мне часта сніцца. Я невыказна рады, што мне не турма ў гестапа сніцца, а мая бальніца. У Брэсце спецыялісты, не бойся. Малады арганізм, перарасце. Усё. Будзь здаровы. У калідоры скажы, каб заходзіў без чаргі дзед, які моцна кашляе. Такое адчуванне, што ён знарок прыйшоў даканаць мяне кашлем. Усё. Шчаслівы пуць!

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## КАХАННЕ

Я не разумеў, седзячы ў прыёмным пакоі абласнога тубдыспансера, чаму тут у людзей такія сумныя вочы, стомленыя твары. Бальніца — яна ўсюды ж аднолькавая.

Тыдзень, два. Кіцелю апендыцыт выразалі, чатыры дні — і дома. Дык чаго яны так хвалююцца. Я смела ўвайшоў у цёмны пакой.

— Прозвішча, — пачулася з кутка.

— Доля. Адась Доля.

— Напраўленне дайце сюды.

Я рушыў на голас, выставіўшы ўперад рукі. Так я хадзіў праз свае цёмныя сені.

Мяне доўга, вельмі доўга нябачныя рукі ў гумавых пальчатках круцілі перад экранам. Пот хутка выступіў на маім целе, так я знерваваўся.

— Клікні Фішкіна, — папрасіў доктар жанчыну, якая сядзела ў кутку.

Сястра прывяла доктара Фішкіна, і яны ўжо разам зноў пачалі мяне круціць ва ўсе бакі. Хоць гэта мяне і насцярожыла, усё ж верыў, што адпусцяць дахаты.

— Вось ён... як на далоні. Свежанькі.

— Ачажкі. Інфільтрат. Так. На парозе каверна, — згаджаўся Фішкін.

— І куды яго? Месц у тэрапіі няма.

— Колькі табе гадоў?

— Ша... шаснаццаць.

— Не хвалюйся так. Апранайся. Адкуль? — дапытваўся Фішкін.

— З Давыд-Гарадка.

— У-у, далёка. Бацькі тут, у прыёмным?

— Няма. Сірата я.

— Ясна. Які догляд там, якія харчы... Вось і вынік. Давай яго да мяне ў хірургічнае, ■ там паглядзім. Перавядзём. Пачакай у калідоры. Потым цябе сястра завядзе ў аддзяленне.

Ногі ў мяне падкасіліся. Сястра правяла па нейкім цемнаватым калідоры з цвіллю ў кутках пад столлю, далі мне сінія байкавыя штаны і такога ж колеру халат. Нянечка паказала рукой на душ. Душ быў заняты. Мы з парога ўгледзелі, як дзве жанчыны хутка (быццам іх нехта падганяў) абмывалі на лаве бялюткае цела нябожчыка. Тут мой яшчэ напаўбадзёры настрой зусім знік, я нарэшце зразумеў: «Я ж трапіў у бальніцу, дзе паміраюць! Тут паміраюць!»

Я баяўся наблізіцца да той лавы, на якой пяць хвілін таму абмывалі мёртвага чалавека. Не абедаў. Есці не хацелася. Так, пакорпаўся відэльцам у кашы, выпіў кампот, пайшоў у сваю палату нумар 18, упаў на ложак, тварам у падушку.

Тры астатнія ложкі былі пустыя. Хворыя са стажам гулялі ў двары пад акацыяй у карты. Яны ігнаравалі «мёртвы час», як потым аказалася. Я доўга плакаў у адзіноце, хліпаў носам, ды вечна плакаць немагчыма. Увечары пад жалезным ложкам з пругкім матрацам я знайшоў маленькія бутэлечкі, на якіх былі прыклеены паперкі з надпісамі: аналіз калу, аналіз мачы, аналіз поту, аналіз макроты. Вопытныя суседзі падказалі з сур'ёзным выглядам, што найлепш звечара зрабіць аналіз макроты і поту, а ўсё астатняе — ранкам.

— Макрота ў мяне не адыходзіць, — паскардзіўся я ім, чакаючы спачування, а як здаваць аналіз поту — дык і не ведаў.

— Макроту лягчэй за ўсё. Пахадзі, пахаркай дватры разы, плюнь. Калі не будзе адыходзіць — табе дзядзька Гаўрыла наплюе паўбочкі, — прапанаваў жартам Фядос-акардэаніст з рэдкімі, зачасанымі назад, як у дзяўчыны, валасамі.

Пайшоў я ў туалет і давай кашляць на ўсё аддзяленне. Дзесяць мінут праходзіць, пятнаццаць — усё кашляю. Тут з суседняй палаты прыбег у туалет нерво-

вы чалавек, як я потым даведаўся, былы афіцэр польскай і Савецкай Арміі, які меў жонак і ў нас і ў Польшчы, моцна насварыўся на мяне:

— Ат, тваю маць, пся крэў, салага, што ты бухаеш тут, як у цыстэрну, спаць людзям не даеш?

— Макроту збіраю. Не магу, — напалохана адказаў я.

— Дай сюды! Ё... каламанэ, — ён адабраў у мяне бутэлечку, плюнуў туды два разы, — здавай і змоўкні мне. Салага. Шуруй у палату.

З аналізам поту было яшчэ цяжэй. Мяне ўважлівыя суседзі накрылі аж трыма коўдрамі, далі ў рукі кавалачак ваты і ўсё пыталі:

— Ну, цячэ пад рукой?

— Не.

— Давай яшчэ.

— Пацею! — крычаў я бы з ямы.

— Бяры ваткай выцірай і выкручвай ватку ў бутэлечку, — давіліся ад смеху суседзі, ды я іх рогату не чуў, бо быў укрыты з галавою.

— На ровары ўмееш ездзіць?

— Умею.

— Круці нагамі, быццам на педалях.

Невядома, колькі часу я так шураваў, аж пакуль нейчая рука не сцягнула коўдру. Перад маімі чырвонымі вачыма стаялі дзяжурны ўрач Фішкін і дзяжурная медсястра аддзялення.

— Чым гэта ты займаешся?

— Аналіз поту збіраю.

Сястра пырснула смехам, хворыя на ложках, закрываючы раты далонямі, адвярнуліся да сцяны.

— Ты першы раз у бальніцы?

— Першы.

— Ніякага аналізу поту здаваць не трэба. Цябе разыгралі. Каторы раз строга папярэджваю, — звярнуўся Фішкін да хворых, — яшчэ адзін такі фокус — і ўсіх выпішу. Добра, ён адносна лёгка хворы, а былі выпадкі, калі ад такіх аналізаў і кроў ротам ішла. Вось вам і жарт.

— Ды мы ж ведаем, што лёгка хворы, — апраўдваўся Федзя.

— Усё. Забудзем. Я двойчы не паўтараю, — сур'ёзны Фішкін выключыў у палаце святло.

Я пакрыўдзіўся на сваіх палатных жартаўнікоў, але

ненадоўга. Раніцай мы, проста дзіўна, адразу шчыра пасябравалі і з маладым дзедам Гаўрылам (ён меў пад ложкам чамаданчык са сталярным інструментам, не мог сядзець без работы і ўсё нешта рамантаваў у бальніцы: канапы, крэслы, дзверы, падлогу), з Федзем — іранічным, калючым на язык трактарыстам, з Віцем — даўгавязым юнаком, сынам чыгуначніка з Высокага. Віця быў старэйшы за мяне на год. Праз дзень-два я, мне так здавалася, ведаў пра туберкулёз усё, што ведалі ўрачы і хворыя разам. Я навучыўся гуляць у картачную гульню «тысячу», еў як не ў сябе, спаў з асалодай і палюбіў сваю палату, быццам ведаў яе тысячу гадоў. Было весела, асабліва калі ў нядзелю Фядос выносіў свой акардэон пад акацыю і хворыя (клуб у дыспансеры толькі пачыналі будаваць) збіраліся на танцы.

— Вышэй нос, Адась! — падміргнуў мне Фядос. — Лёс падарыў табе панскую хваробу. Гэта раньш яе баяліся ўсе, як чумы. Маладых арганізм адолее, не цурайся так людзей. Весяліся, кораш. Унь збоку стаіць дзяўчына, бяры запрасі на танец. Гуляй... Жыццё адно.

Яе заўважыў я раней. Іх тэрапія стаяла насупраць нашай хірургіі, і я часта бачыў, як яна сядзела ў палаце адна ля акна і плакала. Да яе часта, амаль праз дзень, прыходзіла маці, прыбягалі сяброўкі са школы, з якімі яна выходзіла на вуліцу і гутарыла там, ля ўвахода ў дыспансер. Я ведаў, што яе імя — Даша. Нехта ў сталоўцы кінуў: «Даша, хадзі сюды». Мяне ж Фядос узяў за свой стол, ля раздачы.

— Прасі штодня дабаўкі. З'ядай па тры порцыі. Унь як асунуўся ў шчоках. Яна — адно ратаванне табе. Яна ды свежае паветра лечаць чахотку. Лякарствы ды ўколы для блізіру. У галодныя гады пасля вайны мой брат (таксама на ету заразу хварэў) хадзіў па сталоўках і даядаў рэшткі з талерак, не саромеўся. Цяпер здаровы як бык. Ты вельмі худы.

Фядос не рабіў адкрыцця, я і сам ведаў пра сваю худобу. Мае лапаткі тырчалі ў спіне і нагадвалі крылы анёла. Сціпла стаяў я ля Фядоса і назіраў за Дашай. Мяне яшчэ дагэтуль папярэдзіў наш палатны Віця:

— На гэтую не звяртай увагі. Я спрабаваў бліжэй пазнаёміцца. Амёба.

— Сам ты амёба. Ты ж, Віця, каланча. Табе баскетбалістку шукаць трэба, — раіў тады Фядос, а цяпер

зноў падбухторваў мяне: — Ідзі бяры, я яшчэ доўга граць буду.

І я рызыкнуў. Доўга танцавалі моўчкі, і толькі ў канцы танца я запытаў:

— Ці праўда, што ў цябе фіброзна-кавернозны туберкулёз і што ты адмовілася ад аперацыі і лечышся толькі «хіміяй»?

— У мяне была маленькая каверна, але яна, на шчасце, зацягнулася, і цяпер няма патрэбы ў аперацыі.

Мала-памалу мы неўпрыкмет неяк пасябравалі. Даша, як і я, паступова звыклася з хваробай, з дыспансерным рэжымам. Яна плакала ўсё радзей і радзей. Шмат вольнага часу (а ў дыспансеры ён амаль увесь вольны) аддавала яна ўрокам.

Падабаліся мне і яе характарыстыкі людзей: «Фішкін ходзіць — бы шпагу праглынуў, а сівую шавялюру носіць, як мушкецёр капялюш. Твайго дзядзьку Гаўрылу добра па смерць пасылаць, ён усё робіць так удумліва-няспешна, быццам разлічвае пражыць сто гадоў. Фядос іграе не рукамі, рукі ў яго непаслухмяныя, бы граблі, ён іграе адной моцнай сілай волі, сам сябе натхняючы і падбадзёрваючы».

— Ну, а я хто?

— Цябе цяжка ахарактарызаваць. Табе хочацца быць на ўсіх падобным. Зменьваешся, як клоун.

Я носам не крывіў. Мне падабалася, што яна так доўга сядзіць са мной ля акацыі і мы так доўга пра ўсё гаворым.

Забыўся я на школу канчаткова і, каб не Валя Цялегіна, Ванька Гасцюшкін, Толік, мо пра яе і не ўспомніў бы. Напісаў адзін-два кароткія лісты — бабе з дзедам і Гасцюшкіну, хоць канвертаў купіў паўсотні.

Вялікі, непазнавальны і таямнічы горад клікаў мяне да сябе з акна дыспансера. Віцеў брат прынёс нам цывільную адзежыну (штаны, сарочкі). Мы іх схавалі пад цэглу на будоўлі клуба і, шчаслівыя, чакалі моманту, калі з'явіцца магчымасць сігануць у самаволку, у гарадскі парк, які, у адрозненне ад нашага давыд-гарадоцкага сквера, быў проста дзівосным раем. З'ядала спакуса трапіць на танцпляцоўку. Гэта было даволі рызыкоўна: сапраўдныя танцы пачыналіся, калі цямнела. Мы з Віцем рызыкнулі, засталіся ў парку. Адзін раз пранесла. Пайшлі зноў. У вялізным натоўпе на танцпляцоўцы мы неяк хутка і непрыкметна згубілі адзін аднаго. Я не

хваляваўся і не звярнуў увагі на гэта: «Прыклеіўся» да адной даўганогай дзяўчыны і танцаваў з ёю запар тры танцы, пакуль ёй не надакучыла. Яна клікнула сяброўку, і яны зніклі ў стракатым натоўпе. Я не шкадаваў: навокал было столькі прыгожых дзяўчат, гучала бадзёрая музыка, была воля і адчуванне сапраўднага жыцця, і я, як гаспадар і мясцовы кароль, пайшоў хадзіць па пляцоўцы, шукаючы сабе пару. Тады я яшчэ не ведаў, што каля самай эстрады збіраюцца самыя прыгожыя, крыклівa модныя сяброўкі музыкантаў і дзяўчаты мясцовых каралёў вуліц і раёнаў.

Чорт панёс мяне менавіта туды, да іх, даўганогіх, з аголенымі плячыма, пышнымі начосамі. Я запрасіў адну, яна скрывіла губы, быццам перад ёй стаяў Кашчэй Бессмяротны, і не пайшла, другая не азірнулася, а трэцяя так і сказала:

— Давай шуруй адселя, пакуль цэлы.

Я, не разумеючы, усё ж насцярожыўся. Ведаў бурлівы нораў пляцоўкі. То там, то тут разгараліся бойкі, беглі дружыннікі з міліцыянерамі. Біліся больш тыя, хто быў пад хмелем. Я ж быў цвярозы, асабліва не рызыкаваў, запрашаў толькі тых дзяўчат, якія стаялі асобна, адны, без кавалераў ці з сяброўкамі. Але ж тыя, што ў кароценькіх спадніцах стаялі ля эстрады, прыцягвалі маю ўвагу з неймавернай сілаю. Я быў настырны. Зноў пасунуўся запрашаць на танец. І зноў мне адмовілі, пайшла адна, якая стаяла збоч і мо да «зорак першай велічыні» не мела адносін.

Нехта высокі, танцуючы побач, наўмысна наступіў мне на нагу, я не звярнуў увагі. Пачаўся хуткі танец, і ўсе перайшлі на чарльстон. Вось тут я і выдаў усё, што ўмеў, дапамог школьны вопыт саліста. Некалькі пар сталі ў кружок і пачалі пляскаць нам у ладкі — гэта надавала новыя сілы.

Пасля танца я знарок не адыходзіў нікуды ад «зорак», маўляў, ведай нашых. Вось як трэба танцаваць! Аркестр нанова разануў рок-н-рол... Я запрасіў адну з «зорак», і яна моўчкі пайшла. Так перагацаваў амаль з усімі модніцамі, акрамя адной... высокай і прыгажэйшай за астатніх. Яна ўпотай курыла (што вельмі мяне здзівіла) і абыякава сачыла за маімі выкрунтасамі. Абвясцілі белы вальс з такой інтанацыяй, быццам загадвалі абвясціць пад прымусам. Мяне нечакана запрасіла на танец тая, што курыла. Зрабілася няёмка. Вальсаваць

не было месца, і мы, прыціснуўшыся адно да аднаго, стоячы, перастаўлялі толькі ногі з месца на месца. У роце ў мяне перасохла, я, бы доўбень, не прамовіў ані слова.

— Ідзі адсюль хутчэй. Цябе паб'юць, — нечакана сказала яна, калі танец скончыўся.

Я не паверыў, але стаў асцярожны. Усё азіраўся наўкол і думаў: «Мо гэты? А мо гэтаму я перабег дарогу?»

Танцы скончыліся, і ўвесь натоўп, не радзеючы, хлынуў да выхада. Нехта мяне моцна смальнуў ззаду па вуху. Я азірнуўся. Сярод дзесятка твараў не ўгледзеў падазронага. Натоўп нёс і далей па вуліцы. Я паскорыў крок. Трое хлопцаў, якія крочылі следам, я іх угледзеў, зрабілі тое ж самае. Тады я пабег. Яны дагналі ўсё ж мяне блізка ад дыспансера, збілі з ног, я падняўся хутка, нагнуўся толькі, закрываючы твар рукамі. Білі моцна, кулакамі ў твар, адзін садануў нагой у жывот. Ад болю я закрычаў што было духу:

— Мяне нельга біць, нельга! А-а! — Я баяўся, што можа адкрыцца кровацячэнне, якім нас страшылі ў палаце.

Незнаёмцы, пачуўшы мой крык, збеглі, пабег у другі бок і я, аж пакуль не апынуўся ля аркі дыспансера.

Я нават не заўважыў, як падышла Даша. Яна, аказваецца, чакала нас з Віцем.

«За што? За што? — нервавалі мяне горкія думкі. — Ніякай тайны ў чалавеку няма. Звер, жорсткі, злы і зайздросны».

Даша выцерла мне з твару кроў, прытулілася блізка да грудзей. Здаецца, нават у той жа вечар я яе ўпершыню пацалаваў, але зрабіў гэта машынальна, неяк суха. Я быў такі ўсхваляваны ўсім, што адбылося ў гэты вечар, нават забыўся пераапрануцца ў сваю бальнічную робу.

Прысуд няўмольнага загадчыка аддзялення Фішкіна быў суровы.

«Заўтра ж выпісаць дахаты. Няхай заканчвае курс лячэння ў раённай бальніцы». Да яго пайшлі мае аднапалатнікі, упрошвалі.

— Сірата, доктар, даруйце на першы раз. Ён больш не будзе.

Хадзіў прасіць і Гаўрыла. Мы ведалі, што ён ездзіў на дачу да Фішкіна і нешта там майстраваў. Прасіў і я сам. Фішкін капітуляваў. Казалі, за апошнія тры гады

гэта быў адзіны выпадак, калі ён дараваў парушэнне бальнічнага рэжыму...

Мы з Дашай стаялі на аўтобусным прыпынку, ля каштана, і не ведалі, пра што гаварыць. Маўчанне, праўда, было прыемным. Што б там ні казалі, а калі цябе ў семнаццаць праводзіць дзяўчына, ды яшчэ і сімпатычная («Даша не прыгажуня, яна, скажу, сімпатычная», — казаў мне афіцэр польскай і Савецкай Арміі), ад гэтага ўсё ж, згадзіцеся, заўсёды прыемна неяк на душы.

— Я ў санаторый паеду праз тыдзень. Ведаеш, у мяне, на здзіўленне ўсім, хутка пайшоў працэс на паляпшэнне. Зацягнулася каверна. Рэдкі выпадак. Дактары не вераць. Прыязджала камісія нейкая з Ленінграда. Мяне ўсім паказвалі.

— А дзе той санаторый? — амаль абыякава запытаў я.

— У Браславе. Кажуць, цудоўнае месца. Будзеш пісаць?

— Буду, — лёгка адказаў я, таму што Дашу не кахаў і мог хлусіць з чыстай душой.

— Чэсна? — не верыла яна.

— Чэсна, — адказаў я і знарок пачаў разглядваць білет.

Я ледзь дакрануўся сваімі сухімі губамі да яе гарачых вуснаў. Сеў ля акна, махнуў рукой, маўляў, ідзі, чаго стаяць. Яна стаяла. Не, я яе тады не кахаў, бо сэрца належала іншай. Цялегіна мне ў бальніцу не пісала, ні па даручэнні класа, ні сама. Дзіўна, я па-дарасламу супастаўляў іх і не асуджаў Валю. Вядома, яна знарок не піша, каб не было плётак, каб ніхто не ведаў. Даша... Даша... Як мала я пра яе ведаю... Няхай лёс сам кіруе будучым. Паедзе Даша ў санаторый, і ўсё забудзецца, што і нараджалася. А што нараджалася? Сяброўства, роднасць скалечаных адной хваробай... Не, хутчэй у Давыд-Гарадок. Там назбіралася і наспела шмат неадкладных пытанняў: сшыткі маці, Граноўскія, бацька, школа, Цялегіна, і яшчэ, і яшчэ...

Кожны раз з новымі пачуццямі я вяртаўся ад Воўка-пустэльніка. Свет для мяне пашырыўся, мне было цікава даведацца, а як людзі жывуць на іншых вуліцах, на ўскраіне гарадка, у вёсках. Там таксама вербы, неба,

сонца, хаты, майскія жукі. Там таксама на лаўках і прызбах збіраюцца надвячоркам жанкі і спяваюць песні. Ці думаюць яны так, як я і дзед Воўк? Раней свет для мяне быў нязменны нейкі, нерухомы і пастаянны. Цяпер жа мне хацелася пільней прыглядацца да ўсяго жывога. Я абыходзіў жука, каб не зачапіць, не ламаў галлё на вярбе і не кідаў у сабак і катоў каменнем. Стрэў мяне хросны, той, які рабіў пажарнікам, які ніколі не піў малако, хоць і трымаў карову, і ў якога ад таблетак усё цела чырванела на вачах.

— А я цябе, сыночак, шукаю. Дзед Яўхім хоча цябе бачыць. Хадзем да нас у хату. Ён, праўда, сыночак, вельмі схуднеў... Ты не бойся.

Яўхім быў братам маёй бабы і лепшым сябрам дзеда. Яўхім быў удачлівейшы за дзеда, багацейшы за яго. Дзед-прыгажун. Заўсёды акуратна апрануты. У бліскучых чобатах. Штаны-галіфэ з дарагога сукна. Любіў часта даставаць кішанёвы гадзіннік. З кожным пачціва вітаўся за руку, схіляў набок галаву, як гусар: «Маё шанаванне!» Я ўжо чуў, што дзеда Яўхіма прывезлі назад з пінскай бальніцы: не ўзялі ці ён сам не захацеў. Дзед мне сказаў, што Яўхім памрэ, у яго рак. Чутка пра рак вострым кінжалам раніла кожнага, і кожны спачуваў хвораму. Я пераступіў парог новай хаты Яўхіма. Ён меў грошы, жыў, як нам здавалася, лёгка, але кожны дзень шыў чобаты. Жонка Улляна сядзела ля акна, нешта перабірала ў місцы, паказала мне рукой на дзверы. Была ва ўсёй хаце такая непрыемная цішыня, быццам людзі чакалі тут смерць з мінуты на мінуту.

Дзед Яўхім сядзеў на ложку ў пухкіх вялікіх падушках. Ад яго некалі прыгожага (а дзеда я не бачыў месяцы са тры) твару адны сівыя вусы ды востры нос і засталіся. Праз сілу ён усміхнуўся, і па вачах было бачна, што ён мне рады.

— Сядай, Адасік, бліжэй сядай, — ціхім голасам запрасіў ён.

На табурэце ля акна ляжалі ў місцы грушы, віна-град, непачатая плітка шакаладу.

— От, як памру я, Адасік, што перадаць тваёй маме там? — раптам запытаў Яўхім.

— Не ведаю, — разгубіўся я.

— Памру. З праху прыйшоў, у прах і пайду. Вось тайна тайны: калі зразумееш нарэшце, што самае га-

лоўнае — жыццё, трэба паміраць. Ты думаеш пра маму, успамінаеш?

— Успамінаю і часта думаю, — адказаў я са слязой у вачах.

— Не плач. Мо ёй там лепш, ды і я яшчэ не памёр. Усё гэта перадам, абяцаю. Коб там яе душа не трывожылася, як яна пакутавала тут. Пайшла ў магілу з-за бацькі твайго. Мне павер. Але капорэ, бог з ім, не судзіце і не судзімы будзеце. Хачу табе вось падарыць на доўгую памяць гадзіннік. Добра ходзіць. Няхай і табе паслужыць. А гэто о, царскі яшчэ чырвонец, золата. Прыйдзі дахаты і схавай, каб дзед і баба нават не ведалі. Прыйдзе чорны дзень — спатрэбіцца. Ты бабу Насцю сваю не кідай, калі падрасцеш. Дзед раньш за яе пампрэ. У нашым родзе жанкі сваіх мужыкоў перажываюць. І шчо б дзядзька табе ні казаў, шчо б людзі языком ні малолі, не слухай. Баба твая, сястрыца мая малодшая, гора знала. Мы на полі, а яна, небарака, слонік падставіць да печы, бо малая была, не даставала да прыпечка, і абед нам, братам сваім, варыць. Не вер, калі зноў пачне д'ябал баламуціць і казаць, што пры цары ды пры Польшчы лепш було. Крывёю і потам даваліся гэтыя чырвонцы. Баба для сябе ніколі не жыла. Ну, бывай, мой родны. Запомні мяне жывым і на пахаванне не прыходзь, а то скрыўдую і нічога маме не перадам. Не бойся нас, мёртвых... Забіраць цябе, акрамя бога, ніхто не мае права. Усё. Ідзі. Чырвонец захавай на вышках, ля коміна дзе-небудзь... Усё. Бывай, унучак...

Яўхім быў дзелавы дзед. Загадзя падлічыў, адклаў грошы на склеп, памінкі, на пеўчых, папа, пакінуў частку Улляне, каб даглядалі, адклаў грошы сабе на помнік (тады ўваходзіла ў моду замест дубовых крыжоў ставіць каменныя слупкі са здымкамі на фарфоры), астатнія падзяліў паміж сынамі і ўнукамі.

— Яўхім памёр, — з такой навіной прыйшоў я праз месяц да Воўка.

— Вечны пакой яго душы. Ашчадны быў дзед. Шляхта старая. Шчаслівы, але скажу табе, што шчасце яго бывала часам сумнае. Бо ён загадзя ведаў, калі яно прыйдзе, шчо прынясе і чым усхвалюе. Ён чобаты горшыя шыў, чым твой дзед, але ўмеў узяць за іх большыя грошы. Калі захварэў на жывот, прыходзіў да мяне па траўку. Хваробу, кажа, я сабе, Воўк, сам прыдумаў, а яна, зараза, вазьмі і прычапіся. Напраўду. І таке бу-

вае. Шчо чалавек хоча, тое яму бог пасылае рана ці позна. Яўхім быў разумны, не піў, марыў сто гадоў пражыць, а бач, не адолеў сам сябе. Як цяжка змагацца з сабою. Дзеду твайму пашанцавала.

— Як? — не разумеў я.

— Усе кліенты Яўхіма пярэйдуць да твайго дзеда. Заробкі будуць добрыя. Мо трохі і баба твая павесялее.

Адзін з тых новых заказчыкаў, дзядзька Карп з далёкай вёскі Малешава, мне вельмі запомніўся і палюбіўся. Твар у яго быў непрывабны, падобны на пясок, прыбіты рэдкім дажджом. «Воспа была», — казала мне баба. Хадзіў ён заўсёды ў лапцях. З бярозавай валізкі смачна пахла салам і цыбуляй. Розныя анекдоты і гісторыі з жыцця вёскі любіў ён расказваць пасля вячэры (ён заўсёды заставаўся нанач), за чаем, які заварваў толькі мой дзед. Я пацісну ўся ў самы куточак, пад покуць, і ўважліва слухаў, каб нічога не забыць, каб было што расказаць дзеду Воўку.

— От, ці чуеце, шчо яшчэ ў нас було. Прыехалі да нас артысты з Турава, ну, варочаліся дахаты ўначы ўжо. Ля аднаго хутара прыпыніліся, нейкая халера сапсавалася ў машыне, ці шчо. Сходзіць адзін артыст у нямецкай форме, вон у ёй выступаў, ідзець да хутара ваду прасіць. На хутары дзед з бабай жылі. Глядзяць, аж немец на двары. Пахаваліся ў хаце. Узяў ён вады і пайшоў. Старая так напужалася, не пры нас кажучы, ранком узяла дый памерла. О шчо було.

— Факт, шчо спужалася, — казаў мой дзед. — У мяне ў вайну ў гэтай хаце адну зіму немчура жыла. Магла памерці, веру.

— А шчэ шчо було на сенажаці, — працягваў Карп, адкалоўшы абцужкамі кавалачак цукру і паклаўшы яго ў рот.

— Не, от мне, Карпе, скажы напачатку, як у калхозу? — раптам пра нешта ўспомніўшы, перабіў дзед.

— Што вам казаць... пішуць гэтыя працадні... У гэты год, дзякуй богу, увосень мне далі шаснаццаць пудоў жыта. Давольствуюцца людзі, шчо маюць, шчо бог пашле. Кажуць на праўленні — мала тэхнікі, сартоў добрых няма, землі слабыя... Жывуць людзі, шчэ й вам у гарадок тое-сёе прывозімо... Пайшлі на сенажаць. Косімо. Дык вось я пра тое. Прылятае на куст сарока і, людцы мае, чалавечым голасам гаворыць: «Па-жар! Пажар!» Дзівяцца людзі. Пачула адна жонка сароку, кі-

нула граблі і бегма дахаты. Дзяцей адных дома кінула. Прыбегла, аж яе хата агнём занялася. Дзеці яе сернікамі забаўляліся. От шчо було. Раскажы, мало хто дзе й паверыць.

— А дзетак уратавала, паспела? — занепакоілася баба.

— Меншанькі згарэў, а двух уратавала.

— Свят гасподзь. На ўсё воля божа, — перахрысцілася баба Насця.

— Трэба ў калхозах дзіцячыя садзікі, бо дзела не будзе. Газета пра гэта піша, — мой дзед рэгулярна выпісваў і чытаў толькі «Правду», а ў нядзелю яшчэ і біблію, бывала, гартаў.

— Ой, маўчы, — не згаджалася баба. — Які там у садзіку догляд? Нікчэмны народ пайшоў. Пустыя галовы і злыя душы.

— А от яшчэ паслухайце, шчо було, — разгаварыўся Карп, — паехала наша маладзіца адна ў Тураў. Купіла мула[1], алей, яшчэ нейкую халеру, сядзіць, чакае машыну. Аж падыходзіць да яе адна жанчына з дзіцём малым на руках, просіць нашу маладзіцу: «Папільнуй, кажа, будзь ласка, рабёначка, я пакуль збегаю ў адхожае места». Наша маладзіца згадзілася. Тая перадае ёй дзіця, загорнутае ў адзяялка, і папярэджвае, так і кажа: «Не адкрывай адзяяльцэ, не заглядвай». Яно, маўляў, спіць. Сядзіць наша маладзіца, трымае дзіцятко, і вельмі ж ёй, халеры, карціць глянуць на яго адным вокам. Адхінае край адзяяла, глядзіць, аж адтуль тое дзіця мужчынскім голасам на яе кажа: «Шчо, кажа, не вытрымала, глянула?!» Як напужаецца наша маладзіца, як збялее ўся, як затрасецца. Хрысцілася і бажылася, шчо галава ў дзіцяці была як у мужчыны, з вусікамі нават.

— Ну, а тая маці, ці хто, з туалета прыйшла? — пачаў распытвацца дзед.

— Вярнулася. Забрала дзіця. Дагадалася, што маладзіца наша паглядзела. Кажа ёй: «Ось бог гора паслаў, дваццаць гадкоў мучаюся». Тулава ў яго, выходзіць, не расце, а толькі галава вырасла. О шчо було.

Памаўчалі. Пілі ўсе чай. З прыцмокваннем.

— Ат, думаю, слабы люд цяперака пайшоў. І доля лягчэй, а слабы. Калек многа на свет прыходзіць. Мо

[1] Мыла.

гэто хімія вінавата. Ці атам гэты. Газета часта піша. Мо труцяцца людзі, — разважаў дзед.

— Так, — згаджаўся Карп, — калек многа. Але ж, дзякаваць богу трэба, жабракоў вывелі. У вас каля царквы толькі тры жанчыны і сядзяць, а было ж люду, люду. Калека хто... дзіця граху. Напамінак нам, каб бачылі, не забываліся, што з чалавека вайна зрабіць можа. Калі б войны ўсе скончыліся, бог не засылаў бы калек на зямлю.

Гаворкі ля самавара зацягваліся. Пераходзілі неўпрыкмет ад неверагодных гісторый да трывог дня, будучыні. І, як закон, усе разам заўсёды асуджалі чалавека, які пакінуў жонку з дзецьмі, сына, які з'ехаў ад хворых бацькоў на заробкі, бестурботнага п'яніцу, гультая. Наслухаўшыся, бывала, самых розных баек Карпа, я баяўся сярод ночы (чай рабіў сваю справу) выйсці да адрыны ў туалет. Цярпеў альбо выскакваў недалёка ад ганка. Неяк, вяртаючыся ў хату, усё ж азірнуўся на аселіцкі лужок і заўважыў, як там, стоячы на каленях у белай сарочцы, моліцца мая маці. Нікому пра бачанае не сказаў. Усё больш і больш у мяне збіралася патаемнага, майго. Цягнула, нягледзячы на жах перад цемрай, да Цялегінай. Гняло душу, не хапала моцы ўтрымаць каханне, бо яно, неўзаемнае, нараджала ў мяне нянавісць.

Я чакаў яе надвячоркам, калі яна вярталася з матэматычнага гуртка. Вылятаў, як каршун, і гнаўся на ўсю сілу да самых варот. Бывала, паспяваў дыбнуць далонню ёй у плечы. «Чаго ўцякаеш? Пагаварыць трэба». Недзе глыбока ў душы адчуваў, што вечнае наша «непаразуменне душ», непрыязнь павінны ж скончыцца.

Валя наўмысна не чакала мяне і па-ранейшаму не цікавілася мною, нават не прасіла паглядзець пісьмо Ю Ваня. Мяне атручвалі сумненні, чым яе здзівіць. Можна было запрасіць на наш бок ракі і паказаць ёй, што ўмее Пеця Слабада. Ён вечна хадзіў загарэлы, што негр. Яму было трохі больш за трыццаць год. Пару ён сабе не шукаў, дый хто пойдзе за Пецю? У нядзелю Пеця прыходзіў у бібліятэку. Ён знімаў шапку яшчэ ў калідоры. Чытаць яму было цяжка. Мо нейкія тры класы ўсяго і адхадзіў, гартаў часопісы, асабліва «Вожык», «Крокодил». Бывала, мы сустракаліся з ім там. Чытаючы, як я заўважаў, толькі гумар, Пеця саромеўся свайго смеху і нагінаў галаву да стала. Неяк засяро-

джана падлічыў колькасць паверхаў у доме на малюнку. Я паглядзеў і спытаў:

— Колькі?

— Ёлкі-палкі, дзевяць. Няўжо людзі там жывуць?

— Ёсць і дваццаць паверхаў.

— Ёлкі-палкі.

Яшчэ Пеця ўмеў, на зайздрасць усім, далёка ныраць. Выйдзе на бераг, намыліцца з ног да галавы, стане на нос лодкі і доўга стаіць, прымяраецца. Мы, угледзеўшы Пецю, падыходзім бліжэй, чакаем. Нарэшце Пеця чэравам бухае ў ваду. Мінута... другая... Не вытрымлівае сэрца, пачынае хвалявацца. І тут, у гэты момант, стомлены Пеця выходзіць ля кустоў лазы на процілеглым беразе. А яшчэ, бывала, ідзе калёсны параход з Пінска. На палубе людзі. Стаіць Пеця на лодцы, калыхаецца і плёх пад параход. Людзі на палубе ўсе разам — «ой!», кідаюцца глядзець на ваду, а Пеця ўжо плыве па другі бок парахода. Пеця быў адзіны на гарадок рызыкант, і жыў ён, да нашага гонару, у нашым баку, праз некалькі вуліц ад Аселіцы. Была такая думка ў мяне — запрасіць Цялегіну, але ж падумаў, што раку пераныривае Пеця, а не я. Яшчэ на смех узніме.

Што рабіць, што? Чым яе здзівіць, як абудзіць цікавасць да нашага вулічнага жыцця, да нашай кампаніі, да мяне?

І вось такі дзень надышоў сам, як вясна, як сонечны прамень. Усіх нас разам і ўвесь свет здзівіла, натхніла, а мяне дык нейкім чынам і прымірыла з Цялегінай (бывае ж такое) вялізнае дзіва: «Паляцеў Гагарын!»

Неслася, радавалася, іскрылася, шчаслівa перадавалася ва ўсе канцы старажытнага гарадка: «Паляцеў Га-гарын! Паляцеў Гагарын!!!»

Не паспелі мы абмяняцца ўсхваляванымі словамі радасці, як шчаслівым рэхам пакацілася доўгачаканае і не менш радаснае: «Прыляцеў Гагарын!!!»

З таго дня самыя неверагодныя мары сталі для нас дасягальнымі, такая вялікая вера ў моц чалавека, такі патрыятызм авалодалі намі. Класы апусцелі: узбуджаныя і гаманлівыя дзеці разам з настаўнікамі выйшлі на двор. Утварыўся на спартыўнай пляцоўцы стыхійны мітынг. Настаўнікам перашкаджалі сказаць усхваляваныя словы: знай неслася гучнае «ўра-а-а!».

Я і Ванька Гасцюшкін залезлі на дах школы і піча-

лі размахваць невялікімі сцягамі, якія прыхапілі ў піянерскім кутку. Нам здавалася (і хацелася), што так ён, Гагарын, зможа нас лепш убачыць. «Ура-а!» — неслася над старым набожным Давыд-Гарадком. Тады нам з Ванькам дырэктар дараваў нашы небяспечныя танцы на даху.

Мой дзед адклаў убок шыла, дратву, пайшоў на вуліцу ў старых штанах-галіфэ і цыратавай запінцы. Збіраліся ўсхваляваныя людзі невялікімі групкамі ля варот, на лаўках, курылі і доўга з вясёлымі тварамі гаварылі, чамусьці ўспамінаючы не заўсёды салодкае мінулае. Кінулі свае хатнія клопаты жанчыны, збіраліся асобна ад мужчын сваімі кучкамі, пачыналі адна ў адной дапытвацца пра чутае па радыё. Даўно ўсе ведалі, што касманаўт шчасліва прызямліўся, а ўсё не-не дый узнімалі галовы ўгару, глядзелі на неба.

«Маці... мая любая маці, ты не дажыла да гэтай падзеі ўсяго тры гады. Ты так любіла вайсковыя маршы, рускія народныя песні, ты так салдацікам заўсёды спачувала. Ты не дачакалася вялікай радасці ўсяго тры гады. Але каб ведала, што такую навіну прыйдзецца перажыць, дык і не памірала б, мо гэтая радасць цябе затрымала б на зямельцы? Мама...»

— Я думаю, хлопцы, успамінаючы сваю партызаншчыну... куды ты, немец, прэш, на каго ты пайшоў? Ты народ працавіты, упарты, але навошчо ты вайною на волата пайшоў? Не, недарма вошы елі, галадалі, хлопцаў маладымі хавалі, недарма, — пачаў Ткач пра сваё. Ён сам папракаў некаторых суседзяў, што яны не былі ў партызанах, а ён пайшоў.

— Але, от скажы ты, нехта добра прыдумаў, што выбраў чацвер, — разгаварыўся мой дзед, — чысты, значыцца, чацвер, о! І Міфодзій чапіцца не будзе. Коб і мір, і чыстату туды занесці, коб перад богам, значыцца, не сорамна було.

— Ай, Цімох, дзе той бог, калі ён пусціў да сябе, — чухаў патыліцу Кулькін.

— Дык ён жа шчо, ён жа, скажам, бог наш, каго пушчае да сябе? Образ свой і падобіе, — браў пад абарону дзеда сталяр Клубышко, у якога за вухам заўсёды тырчаў аловак.

— Ай, не кажы. Нічога, павер мне, нічога ў цяпе-

рашніх людзях ад бога не засталося. Спаганіліся ўшчэнт, — не хацеў згаджацца Кулькін. Прыцягнуўся і працавіты дамасед трунар Юрко. Зноў усе пачалі абмяркоўваць падзею нанова. Нікому не хацелася ісці дахаты. Хросны, засунуўшы рукі ў кішэні штаноў, хадзіў туды-сюды.

— Шчо ты ніяк не супакоішся? — зачапіў яго Ткач.

— Хвалююся. Коб там яго не напаілі, дзе сеў, коб, не дай бог, у якую аварыю не папалі... Хочацца паглядзець на яго, па радыё пачуць.

— Ага, так ён і будзе піці. Гэто ж дзвесце мільёнаў у госці пачнуць запрашаць... часу і здароўя не хопіць, — растлумачыў з разважнасцю і памяркоўнасцю Ткач.

— А я хадзіў бы... піў, еў... шчо тут цяжкага, — павесялеў Кулькін.

— Ну-ну, табе коб толькі не рабіць, хоць у чорта за стоража, абы карміў, — казаў Клубышко.

Бываюць, зрэдку вельмі, але ж бываюць такія важкія і грандыёзныя падзеі, якія, нават калі і воку твайму нябачныя, усё ж абуджаюць жыццёвыя сілы і напаўняюць такой энергіяй, што толькі адно жаданне ў чалавека і застаецца: жыць, каб як мага больш паспець зрабіць добрага. Кожны на нашай вуліцы быў шчаслівы па-свойму, і кожнаму хацелася жыць доўга-доўга. Разыходзіліся нехаця, як разыходзяцца роднасныя душы, якіх аб'ядноўвае не агульная хата, ежа, а якіх аб'ядноўваюць роднасць і еднасць духу, гонар за зямлю сваіх продкаў. Зрэдку прыходзіць такі дзень. Дзед казаў, што нешта падобнае ён перажыў мо хіба на свята Перамогі ў сорак пятым. А нас, падлеткаў, немагчыма было загнаць дахаты, мы сядзелі на лаўцы, глядзелі на зорнае далёкае неба, адчуваючы шчымлівы душэўны боль-асалоду, і бясконца марылі раскрыць тайны гэтай бязмежнай далечыні.

Рухавае дзяцінства пастунова саступала сваё месца энергічнаму юнацтву. Ужо не хацелася проста так дарма пражываць дзень.

— Усё, хлопцы, трэба ўцякаць з гарадка. Тут з нас людзей не выйдзе, — рашуча казаў надвячоркам, калі мы сядзелі на калодах ля цёткі Сарокі, Толік Бабёр.

— А куды ж без пашпарта паедзеш? — пярэчыў Ванька.

— І з метрыкамі возьмуць. У тэхнікум альбо юнгам на карабель, — не здаваўся Толік.

Я не верыў яго намерам. Ад такога відушчага і хітрага бацькі, як Бабёр, немагчыма было ўцячы. Той дзень як бы замяніў год. Мы глядзелі на свет падаросламу, я дык нават гатовы быў дараваць усё Цялегінай і Шакіну. Не, я не адмаўляюся ад кахання, крый божа, але яно, пачуццё маё, прыняло нейкую новую форму.

Як толькі Крутаяраў стаў першым сакратаром райкома, ён рашуча павёў барацьбу з рэлігіяй. Штомесяц прыязджалі па яго просьбе лектары з вобласці. Закрылі за Сежкай Юр'еўскую царкву. «Старых людзей не змяніць, а за моладзь варта змагацца з папамі ўсімі сродкамі. Гарадок нялёгка перажывае змену пакаленняў, і ад таго, які будзе мець ідэйны ўзровень моладзь, залежыць будучыня гарадка. Ці яны пападуць пад уплыў забабонаў, царквы, патрыярхальнасці, мяшчанства, ці яны выберуць сацыяльна-грамадзянскую актыўнасць — залежыць ад нас з вамі, — гаварыў ён у клубе на ідэалагічнай нарадзе кіраўнікоў прадпрыемстваў, настаўнікаў, партыйных работнікаў. — Чаму ў людзей губляюцца энтузіязм, зацікаўленасць, чаму яны не застаюцца ў калгасе — вось карэнныя пытанні сённяшняга дня».

Мы, музыканты, сядзелі цішком на балконе, гулялі ў карты і чакалі перапынку. Дырэктарка загадала, каб ігралі маршы і вальсы для ўдзельнікаў нарады.

— І не надакучыць яму пра адно і тое ж, пра адно і тое ж, — злаваўся нецярплівы Доўнар.

— Трэба ж народ на нешта новае нацэліць. Новы кіраўнік раёна. Паказацца яму перад людзьмі трэба. Колькі ж можна ўсё пра малако ды пра мяса. Правільна гаворыць, за чалавека брацца трэба. Баюся толькі, што людзям у зале ўсё адно.

— Не разумею чаму? — перапытаў Доўнар у кіраўніка духавога аркестра.

— Слухаюць уважліва, а ці кінуцца ажыццяўляць пастановы, — пытанне. Чутка ходзіць, што раён з гарадка перавядуць. Зноў перастаноўкі, памяняюцца людзі, планы, фонды.

— А хто табе казаў?

— Дырэктар МТС. Ён хлусіць не ўмее. Харошы чалавек.

— Калі так, дык і я не застануся ў гэтай яме. Зда-

вай, што рот адкрыў? Твая чарга, — штубнуў мяне ў плячо Доўнар.

Уначы міліцыя разам са сваім актывам паспільвала ўсе дубовыя крыжы на скрыжаванні вуліц. Пакінулі толькі некалькі з іконамі і вышыванымі ручнікамі. Герасім казаў старому Юрку, які таксама рабіў і крыжы, што ён бачыў, як падаў крыж ля яго хаты на тры мяшкі. Чаму мяшкі? У торбах была тырса, і не было чуваць, як дрэва бухала аб зямлю. Затым крыжы грузілі на падводы і везлі на прамбыткамбінат. Прачнуліся ранкам людзі, а крыжоў і няма. Стогадовыя бабы дык напалохаліся, пайшлі да покуці маліцца богу. «Ганенне на веру, на веруючых. Зноў вайна будзе, дзетачкі», — непакоіліся яны.

— Якая вайна, — казаў сваёй маці аднавокі Паўлёнак, — гарсавет даў каманду. Кажуць, сорамна каго-небудзь прывезці ў гарадок. Па два крыжы на адной вуліцы.

— А дзе ж яны падзелі іх?

— Дзе, дзе... На складзе прамкамбіната. Мне загадалі, я звозіў іх на сваім кані.

— Бязбожнік, цьфу на цябе. Не веру, падманваеш мяне, старую маці.

Гарачы Паўлёнак пасадзіў маці на воз і павёз на прамкамбінат. Зазірнулі праз шчыліну ў склад.

— Цяпер паверыла?

Маці Паўлёнкава нічога не адказала, толькі перахрысцілася і ціхім голасам папрасіла ў сына:

— Знімі, сыночак, з нашага крыжа вяночак, распяцце і фартушок.

— От, разагнаўся. Як зніму, калі замкнута?

— Знімі, — папрасіла старая такім голасам, што сыну зрабілася няёмка. — На мой склеп прыб'еш. Знімі.

— Ну, добра. Толькі не плач. Шчо плакаць. Есці няма шчо? Увечары прынясу. Абяцаю.

І прынёс. Украў. Я іх (вянец, распяцце і вышываны фартушок) бачыў, старая прыносіла паказаць іх маёй бабе і казала, што бачыла праз шчыліну, як з аднаго спілаванага крыжа бегла слязінка. Баба мая не аспрэчвала словы старэйшай суседкі, але і не верыла ёй. «Няроўна бог судзіць, калі ў мяне трыццацігадовую дачаньку забраў нізашто. Няроўна. І ў царкву да яго хадзіць часта не хачу», — казала яна Лісавеце, якая совесціла Насцю, што тая не выбралася да вячэрні.

Вельмі хутка пра спілаваныя крыжы ўсе і забыліся, жылі ў чаканні новай грашовай рэформы. «Цяпер, — казаў хросны, — кожны нагнецца, каб падняць адну капейку. Хрушчоў правільна робіць...»

Прыбегла да нас жонка сталяра Клубышка і як быццам па вялікім сакрэце перадала, што абменьваць пачнуць заўтра з дзевяці гадзін раніцы да дзевяці вечара.

— Няўжо больш не будуць?

— А чортведама шчо. Мо толькі адзін дзень і будуць мяняць.

Чутка неслася ад хаты да хаты. Мяне пабудзіў дзед у шэсць гадзін, каб пабег заняў чаргу. Ля маленькага акенчыка-касы кінатэатра сабралася процьма народу. Мы заўсёды давіліся ў чарзе па білеты ў кіно, хапала тых білетаў усім, але кожным падлеткам кіравала прага купіць білет першым, каб абавязкова не бліжэй як восьмы рад.

Чарга абменшчыкаў была ўтрая большая за кіншчыкаў. Пачалося. Больш здаровыя мужчыны палезлі праз нашы галовы, без чаргі. Некаторыя жанчыны сварыліся на нахрапістых мужчын, ды бачылі, што толку мала, палезлі да касы і самі. Чарга, як вусень, спружынілася, сілай падалася да акенца, каб тых нахабных мужчын пацісну́ць да дзвярэй.

Я, Толік Бабёр, Вася Кіцель і Ванька Гасцюшкін стаялі недзе ў сярэдзіне чаргі. Лягчэй было даўгавязаму, худому Кіцелю. Прыземісты, дужы ад прыроды Толік нават папіхваў перад сабою мажную Паяечыху. Горш было нам. Ванька Гасцюшкін, хоць і меншы за мяне ростам, але мацнейшы, чырванеў, ды трымаўся. Я зусім губляў сілы, упіраючыся рукамі ў сцяну.

Моцна прыціснулі, як блінца да патэльні. Я высунуў галаву, хоць дыхнуць вольна, здавалася, вось-вось затрашчаць грудзі.

— Недадалі! Няправільна! — гіркнуў рослы Басавец і зноў палез да касы.

— Правільна, правільна! Не пускайце яго, зноў мяняць хоча, — агрызаліся жанчыны, штурхаючы Басаўца да дзвярэй.

Прыйшлі дзецюкі, сталі з канца калейкі і з новай сілай пачалі ціснуць.

— У-ух! У-ух! Давай упярод, не пускай без чаргі.

Стомлены, успацелы, я падаў грошы ў касу і, не па-

дымаючы галавы, упёрся рукамі і нагамі, каб не адкінулі ад акенца.

— Бяры грошы, зас... Заснуў, ці шчо? — прагундосіў злы ад нервовай работы касір, прасунуўшы сваю лысую галаву ў акенца.

Мы ўтрох, шчаслівыя, стаялі на ганку кінатэатра і з цікавасцю разглядалі зялёныя, жоўтыя, чырвоныя новыя грошы. Купляць за іх нічога не хацелася, хоць бы тут прапанавалі матацыкл, так шкада было развітацца з гэтымі маленькімі прыгожымі паперамі. Мы селі ля дошкі Гонару. За нейкую гадзіну-дзве чарга парадзела, ля касы таўкліся дзесяць—пятнаццаць такіх жа падлеткаў, як і мы. Упрошвалі зусім стомленага і злога касіра абмяняць папяровы рубель на жалезны.

Я пабег дахаты, аддаў дзеду грошы. Сваіх у мяне не было. Іграць у аркестры я кінуў. Усё ж не змог адолець жах. А з новай работы — расклейшчык афіш пры кінатэатры «Зара» — грошай не было. Я прыбіўся туды з адзінай мэтай — бясплатна хадзіць у кіно і глядзець, нарэшце, фільмы, пазначаныя на афішы «кроме детей до шестнадцати лет».

Дзед узяў грошы, глянуў на прасвет. «А... бумажка». Даў мне на абмен усе: трыста рублёў.

— Мо з гэтай рэформаю і пенсію не дадуць? — занепакоілася баба.

За маці мне плацілі пенсію: чатырыста рублёў.

— Дадуць. Не мае ніякай розніцы. Новымі грашыма прышлюць, — супакоіў яе дзед. — Шчо мяняецца, нічога не мяняецца. Рабіць трэба і за старыя, і за новыя пянёнзы.

Поўную кішэню нёс я ад касы. Нябачаная іх сіла рабіла сваю справу: здавалася, я адчуваў сябе як ніколі моцным. О, ключ да тайны чалавека — грошы. Праверка імі. Ішоў я задзірыста-ганарліва. Яшчэ на ганку Басавец запытаў:

— О-го, ёлкі-палкі. Тває?

— А чые ж? Мае! — адказаў я, як адрэзаў.

— Падмані, калі на поле сяду... — гэта былі словы Шакіна, які дастаў з кішэні пяцьсот рублёў, не менш, абмяняў іх у мяне на вачах і даў два рублі Басаўцу.

— Вазьмі бутэльку «Яблычнага». А ты з намі не вып'еш? — звярнуўся ён да мяне.

— Не! — злосна адказаў я і пайшоў прэч.

Ён грашыма Цялегіну трымае. У кіно білет купіць,

зефір, цукерак. Няўжо яна так з ім ветліва, шчо ён мае грошы?» — не хацеў я верыць сваім думкам.

Нешта не рады я зрабіўся дню. У наваксаваных чобатах ішоў да кінакасы Пеця Слабада, ішоў мяняць грошы, бы на свята. З такім прыўзнятым настроем бегаў заўсёды на выбары ў Вярхоўны і мясцовыя Саветы мой дзед, бегаў ранютка, каб прагаласаваць першым.

Каля універмага нешта напала на мяне, і я зноў павярнуў да дошкі Гонару, якую склалі з цэглы ў самым цэнтры насупраць «жалезнага стаўба». Дошка была масіўная, высокая, з тоўстымі, як ногі слана, калонамі жоўтага колеру. Мяне аклікнуў Крутаяраў. Мо ён заўважыў маю кіслую міну ці знарок зачапіў мяне.

— Адась, аб чым так задумаўся, што нікога не прыкмячаеш?

— Здраствуйце, Аляксей Аляксеевіч, — зніякавеў я.

— Прывітанне, дарагі мой. Падрос ты. Праўда, худы, але выцягнуўся трохі. Даўно мы не бачыліся. Як вучоба?

— Нармальна.

— Малайчына. Школу не кідай. Ведаю, тут пайшла мода пераходзіць з сёмага ў вячэрнюю. Там месца недавучкам, а ты цягніся да ведаў, без іх — нікуды. Я таксама вучуся завочна ў сельгастэхнікуме. Неяк бачыў цябе ў канцэрце мастацкай самадзейнасці. Хораша танцуеш. Малайчына. Можа, перадумаў, яшчэ не позна ў інтэрнат, а?

— Не хачу, Аляксей Аляксеевіч, мне і ў нас у гарадку добра.

— Ты ўжо дарослы. Сам сабе суддзя. Я ў твае гады на заводзе працаваў. Як баба, дзед?

— Жывуць.

— Канечне, вам цяжка. Баліць у мяне душа, што тады, у пяцьдзесят восьмым, не ўгаварыў іх. Ты маеш здольнасці да сцэны. Вучыся. А калі ў вучылішча харэаграфічнае, а?

— Не паеду нікуды. Буду канчаць дзесяць класаў.

— Тваё права. Ну, бывай, Адась, буду рады пачуць пра твае поспехі. Бывай.

— Да пабачэння, — адказаў я, не разумеючы, чаму ён усё «бывай» ды «бывай».

Чаму ён так гаварыў, я зразумеў праз некалькі тыдняў. Давыд-Гарадоцкі і Столінскі раёны аб'ядноўвалі ў адзін — самы вялікі на ўсім паўднёвым Палессі раён.

# ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

## НАСЕННЕ

Крутаяраў лічыў, што перад сваім сумленнем — чысты. Хабар не браў, ворагаў пасля сябе не пакінуў і пры ўсіх мінусах і плюсах нешта за гэтыя восем год зрабіў. Калі прыедзе з часам яго дачка ці сын сябра настаўнікам сюды, не сорам будзе сказаць, што гэтую школу збудавалі пры Крутаяраве, і гэтую царкву ўзялі пад ахову дзяржавы пры ім, і гэтую млячарню пачаў будаваць. Дзякуючы яго прапановам стварылі міжкалгасбуд (дзве брыгады гарадчукоў) і яшчэ адну брыгаду будаўнікоў пры прамкамбінаце. А дзве бальніцы, сад-яслі, Дом піянераў? Адно хіба не паспеў пабудаваць ля старых драўляных хат двух-трохпавярховыя шматкватэрныя камяніцы.

Тут мінус. Нават калі ты і высокі раённы кіраўнік, а рук і часу на ўсё не хапае. Былі мінуты сапраўднай і вялікай радасці, калі хвалілі ў вобласці, у рэспубліцы альшанскі калгас, які першы ў раёне існаваў без дзяржаўных датацый. Была ў гэтым і яго немалая заслуга, ён, Крутаяраў, рэкамендаваў у альшанскі калгас здольнага маладога старшыню, маладога агранома. Знайшліся і тыя, хто папракаў. Маўляў, уся ўвага аднаму калгасу, а старшыню дык не саромеецца прыняць па справах на ўласнай кватэры. Было. Былі і ананімкі, што замнога «апякунства», што часта навязвае членам бюро сваю думку і назначае старшынямі калгасаў маладых, слаба падрыхтаваных і нявопытных людзей. Цяпер, калі альшанскі калгас стаў маяком, служыць прыкладам іншым і ўпершыню ў раёне сабраў дваццаць чатыры цэнтнеры збожжа з гектара, куды падзеліся тыя ананімшчыкі.

Канечне ж, каб яшчэ гадоў пяць, дзесяць ён прабыў, абавязкова вырашыў бы і праблему занятасці рабочых рук у самім гарадку. Але ён яшчэ вернецца да яе, калі будзе працаваць у вобласці, у аблвыканкоме (калі не перавядуць у іншае месца), ён вернецца да гэтай праблемы. Быў адзін грэх адкрыты. Пераманіў сюды стрыечнага брата і ўладкаваў дырэктарам млячарні. Перад ад'ездам гаварылі браты вось пра што:

— Мне пакуль, Аляксей, ты нічога не шукай. Не хачу я, павер, ні ў Пінск, ні ў Столін. Дзеці гадуюцца, жонка задаволена.

— А не сумна будзе, ты ўпэўнены?

— Дырэктар школы застаецца, галоўны хірург, Кошман з райфа. Будзе з кім на паляванне ездзіць.

— Шчыра табе прызнаюся: свой адбітак перыферыя накладвае на чалавека непрыкметна. З часам гэта пачынаеш адчуваць, не разумець галавой, а менавіта адчуваць. Нешта гняце тваю душу. Прытупляецца жаданне пазнаваць новае. Мая Шура, ведаеш, аж занадта просты чалавек, яна на хутары, у лясніцтве змагла б жыць, але і яна ў апошні час скардзілася на аднастайнасць і сум. Ідэальна раённы сельскагаспадарчы цэнтр павінен мець пятнаццаць—дваццаць тысяч жыхароў. Гэта я табе кажу не як тэарэтык сельскай гаспадаркі, а як практык, які дапэтліў да гэтага ўласнай галавой, без разумных кніжак. Не змог бы я, прызнаюся, застацца ў гэтым гарадку на ўсё жыццё. Магчыма, у цябе іншы склад душы.

— Гэта ў цябе, Аляксей, ад камандзіровак. Ты спакваля прывык да змены абставін.

— Магчыма.

— Няўжо ты пакідаеш гарадок са спакойнай, халоднай душой? Няўжо не баліць сэрца?

— Гм. Калі скажу — баліць, паверыш? Не так, каб лопнуць, а трохі ные. Прыходзь, паможаш. Машыну я заказаў на пятніцу, зранку.

— Прыйду. Паслухай, давай выберамся з хлопцамі ў чацвер на Прыпяць? Трэба ж развітацца з прыродай. У доміку пчаляра піва вып'ем. Успомніш маладую карэспандэнтку «Комсомольской правды».

— Згода. Ты толькі менш, дзе трэба і не трэба, успамінай пра карэспандэнтку. Тутэйшых людзей ведаеш, будуць перамываць косці.

— Не перабольшвай. Паедзеш, і ўсё добрае і кепскае павязеш за сабой. Я пазваню.

— Звані. Бывай здароў.

Гарадчукі падыходзілі да хат раённага начальства, цікавіліся: «Шчо тыя сем'і маюць?» Разыходзіліся расчараваныя: «Мала парційцы разжыліся. Бедненька. І каўры маленькія, і пасуды няма добрай, дарагой, і мэбля старая».

Пайшла чутка, ад якой у мяне перахапіла дых: «І Цялегін перабіраецца ў Столін». Я вырашыў прызнацца Валі ў сваім каханні, баючыся, што змагу спаз-

ніцца назаўсёды. Мне, дзіваку, думалася, што яна адгаворыць, даведаўшыся пра маё каханне, свайго бацьку ад пераезду.

Упершыню я заўважыў усхваляванасць і ў Толіка Бабра. Ён таксама не менш за мяне перажываў за ад'езд Святланы Іванавай, дачкі начальніка міліцыі.

Борздзенька я пабег да яго параіцца: трэба было нешта неадкладна рабіць, бо дзень заўтрашні нічога добрага не абяцаў.

З такой нечаканасцю, падобнай на дождж з голкамі, наляцеў на гарадок модны рок-н-рол. Старэйшы брат Толіка прывёз з вобласці магнітафон з папулярнымі запісамі, некалькі замежных пласцінак, шкарпэткі ў палоску-зебру і кашулі з намаляванымі на іх пальмамі і чамаданамі. Брат замежнымі рэчамі вельмі ганарыўся. Шкарпэткі прадаў, а сарочку падарыў Толіку. Я так замаркоціўся, усё адно бы занядужаў. Выйсця не было: каб хоць трохі быць модным, Толік прапанаваў перашыць штаны з клёшаў на дудачкі. Я згадзіўся. Трэба сказаць, што Толік ладна ўжо навучыўся шыць на швейнай машынцы, ды стары Бабёр не даваў нам швейную машынку «Зінгер». Мы пачалі клянчыць. Угаварыць старога Бабра было не проста. Гэта была амаль легендарная асоба. Прырода надзяліла яго шырокім розумам, хуткай кемлівасцю і ўменнем прадбачыць заўтрашні дзень. Калі амаль усе на нашай Аселіцы жылі адным днём (дасць бог дзень, дасць ежу), няхай месяцам, дык Бабёр умеў зазірнуць на паўгода наперад. Ён забіраў ад гарадчука, апярэджваючы яго, асноўнае і галоўнае — інфармацыю: дзе, што, як і праз каго здабыць гэтае самае што. Бабёр не выбіраўся ў горад з тае прычыны, што быў цяжка хворы на ногі. Шыў валёнкі-буркі. Лёгкія, цёплыя, па назе. Меў процьму знаёмых не толькі ў самім гарадку, але і ў Пінску, у Брэсце, дзе ў яго вучылася трое дзяцей, у вёсках.

Праз гэтых знаёмых ён нарыхтоўваў сыравіну шаўцам, кавалям, краўцам. Жыццёвы вопыт меў велізарны, яшчэ ў маладыя гады пры Польшчы змяніў не адну прафесію. Бабёр умеў і мог даць талковую параду бондару, шаўцу, рымару, сталяру, пекару. Сам ён вэндзіў самыя смачныя каўбасы, разводзіў індыкоў і рабіў някіслае яблычнае, вінаграднае, слівовае віно. У Бабра можна

было купіць усё: іголку, брытву, лязо, цялё, індыка, скуры, хамуты, швейную машыну, лямпачкі, нават дровы. Каровы ён не трымаў, а прыйдзі папрасі, адказваў: «Забягай пад вечар, прадам карову». Ён пасылаў сваю лёгкую на ногі жонку ў адзін бок гарадка да некага, Толік бег па майго бацьку, а я ішоў да Мароза, сябра Бабра. Адкуль бралася тая карова, ніхто не ведаў, але ж надвячоркам стаяла прывязаная да шула варот Бабра. Бывала, прыводзілі яе з вёскі. Здзіўлены пакупнік за галаву браўся:

— О, гэто купец. Бабёр дзела знае!

Ён адказваў:

— Мне бог даруе, у мяне доля і хвароба незавідныя. Акрамя таргоўлі, нічым і займацца не магу.

Нам Бабёр часта даваў напавер, казаў так:

— Насця, грошы прах, былі і няма. Аддасі, калі Цімох заробіць. Коб му[1] жывы булі.

Бабёр капейку паважаў і шанаваў. На вецер грошы не пускаў. Толіка спекуляваць не прывучаў:

— Мяне не пасадзяць. Стары, хворы. Сваё адбарабаніў у Казахстане. Пяць гадоў на цаліне быў. А вам пагандаль не хлеб. Вучыцеся, дурні, коб з голаду не памерлі, калі бацькоў не стане. Нам не было калі вучыцца, бацькам памагалі. Я ў пятнаццаць год бегаў у прыказчыках. Вам усе ўмовы ё, толькі на чалавека вучыцеся.

Кожны раз у канцы такой гаворкі ў прыклад ставіў сына свайго сябра па польскім войску Самсона. Увесь гарадок добра ведаў, з якім гонарам выходзіў на шпацыр у нядзелю Самсон з сынам — першым за ўсю гісторыю мястэчка доктарам нейкіх навук, «прахвесарам». Беглі ўсе (асабліва жанчыны) на цэнтральную вуліцу паглядзець на разумнага вучонага-фізіка, як на «дзіво».

Бабёр вярнуўся з Казахстана ў Давыд-Гарадок, як казаў, «коб дома памерці. Хачу, коб адпелі мяне ў нашай царкве, купалы якой жасціў мой бацька». Успамінаў задуменна нешта сваё і праз хвіліну зноў браўся нас павучаць:

— Былі майстры раньш. Цяпер адзін маляр Глеб Іванавіч і застаўся. А вам усё, коб дзе ўкрасці, схітраваць, ах, лежні вы, лежні. Прывучайцеся да работы з маленства.

---

[1] Мы.

Некалькі разоў райфінорганы забіралі ў Бабра ўвесь ягоны тавар. Пасля гэтага «самы галоўны рэвізор» Кошман тры-чатыры месяцы не чапаў хату Бабра.

Тыдзень Бабёр чакаў, пасля зноў браўся за рызыкоўныя махінацыі, як казаў на іх мой дзед. Яго неўтаймоўная натура ўвесь час патрабавала рызыкі, азарту, небяспечнай «гульні» з міліцыяй і райфа. Не ўсе любілі Бабра, мог ён і абразіць злым словам, і пажартаваць, але ж хату яго не міналі, ішлі з пакорлівымі просьбамі. Ён нават, і не без поспеху, вучыў: куды, каму і як пісаць скаргі. І сам напісаў іх дай божа колькі. Ён вельмі рэдка ўсміхаўся, мо з таго я трошкі яго пабойваўся. Ніколі не звярталіся да яго паслуг Воўк-пустэльнік і сёстры Граноўскія.

— А чаго, Адасё, не падыдзеш да свайго бацькі: не папросіш грошай на паліто? Цяпер хто паехаў на вэсну з насеннем, капейчыну зарабіў. Ён мае грошы.

— Ай, нашчо. Мне і дзед купіць, — адказваў я і хутчэй ішоў у пакойчык да Толіка: не хацелася заводзіць гаворку пра бацьку.

— Ну і дурань, — казаў Бабёр больш сам сабе.

Заўсёды на галаве ў старога тырчала чортведама што: сам вучыў Толіка на цырульніка.

Бабёр быў на рэдкасць дбайны гаспадар, усё збіраў на падворку: пасудзіну, матузкі, старую папругу, драцяныя кручкі, раму ці вобад ад ровара.

Відаць, воўк у лесе здох: мы ўсё ж выклянчылі швейную машынку, але за гэта Бабёр загадаў напілаваць і накалоць дроў.

Рабілі з ахвотай, таму ўправіліся хутка. Пакуль я калоў дровы, Толік непрыкметна прынёс з адрыны бітончык самаробнага віна. Жахнулі па дзве невялічкія шклянкі. Неяк адразу павесялелі, пасля работы і стомы не адчулі. Ногі неслі на школьны вечар лёгка, хмель разбіраў хутка.

— Ты ось шчо... гэтую о запіску перадасі Свеце ў часе танца. Непрыкметна сунь, і ўсё, — Толік перадаў мне ля школы яшчэ дома падрыхтаваную пісульку.

— Алаберды! — весела адказаў я.

Вучні старэйшых класаў запрудзілі ўваход, не праціснуцца. Вечар толькі пачынае разгон: танцуюць усяго дзве пары. Употай я назіраў за Шакіным і Валяй, мне было мала справы да запіскі сябра.

«Шчо ён, вальсаваць не ўмее, ці шчо? Чаму яны топ-

чуцца на месцы? Божа, няўжо ён кранае губамі валасы ля яе вуха?» Як сам не свой, бы ў сне, я тупаў з Раяй Кошман, успомніў пра Толіка і чамусьці абыякава і машынальна перадаў запіску яго Раі. З Раяй хадзіў, і даўно, пра гэта ведала ўся школа (яны вучыліся ў дзявятым класе), рослы Лёня Цубрык. Рая прачытала ў кутку запіску, азірнулася з насцярогай вакол і схавала хуценька паперку ў маленькую кішэню на сукні. Лёня сурова так насупіўся, як бычок, і падышоў да Раі, яна асцярожна паказала на мяне і Толіка.

Выйшлі ў калідор: Лёнікава кампанія і я з Толікам, які нічога не разумеў пакуль. Цубрык, ён лічыўся хуліганам, не пытаючыся, пэцнуў Толіку па твары, я палез бараніць. І пачалося. Каб не прыбеглі Ванька з Кіцелем, нас бы добра пабілі. Танцы чатыры мы мусілі прапусціць.

— Чаго ён да цябе прычапіўся? — пацікавіўся Толік, усё яшчэ выціраючы з губы кроў.

— Я думаў, ён на цябе, падла, палез.

— Дзе запіска?

— Тут. — Я схамянуўся. — Ёлкі-палкі, я перадаў яе Раі.

— Сляпы! Я каму казаў? Акасеў, ці шчо? — абурыўся Толік.

— Я? Ды яшчэ магу паўлітра выпіць.

— Маўчы. Забяры запіску назад. Ідзі. Яна адна.

Я зноў, на не вельмі цвёрдых нагах, падышоў да Раі, не паспеў запрасіць на танец, як Лёня (ён падбег да нас) моцна сагануў каленам мне ў пах. Я скрывіўся і моўчкі адышоў убок.

— Ну шчо? — непакоіўся Толік.

— Потым аддасць, не хоча пры Лёніку, — схлусіў я. — А шчо там було напісана?

— Табе прызнаюся. Там було напісана: «Я тебя люблю. После танцев не спеши дахаты. Неизвестный».

«Калі Толік такі смелы, дык чаго я мямлюся», — падумаў я.

Запрасіў Валю на танец. Вось гэтыя самыя косы ля вуха, якія кранаў ён. Як яны блізка ля маіх вачэй. Як пераліваюцца, як прыемна пахнуць мылам.

— Ты адна пасля танцаў дахаты пойдзеш? — ссохлымі губамі, ледзь дыхаючы, папытаў я.

Яна нічога не адказала, толькі злёгку адхіліла мяне ад сябе.

— Цябе будзе праводзіць Шакін? — лез я бліжэй да яе, каб мой голас гучаў над яе вухам.

— Не, — рэзка адказала яна.

«Канечне. Ён нахабна лезе да яе, абараніць яна сябе не можа. Вось таму ён такі і смелы».

Пасля танцаў я ўпершыню на вачах ва ўсіх пасунуўся за Цялегінай. Шакін сваёй віхлястай паходкай крочыў побач са мной.

Так мы разам і праводзілі Цялегіну да форткі.

— Ну, бывай.

— Бывай, — сказалі мы адно аднаму.

Ужо ля сваёй хаты, гэта якіх-небудзь пяць мінут хады ад Цялегінай, я апамятаўся.

«А мо яна стаіць на сваім ганку і чакае мяне?»

Накропваў дробны, як макавае зерне, дождж. Балела галава, і ногі трошкі запляталіся. Хмель пакідаў маё натомленае цела марудна. Я збочыў. Пералез цераз плот і падкраўся да яе ганка з другога боку.

— Пусці, чуеш, пусці... — пачуў я голас Цялегінай. — Не хадзі больш за мной. Пусці.

Я прыгледзеўся. Шакін цалаваў яе ў твар, яна вырывалася.

— Пусці!

Ён пацалаваў яе яшчэ раз... у губы. Моўчкі. Затым скочыў з ганка і знік у цемры.

Пайшла ў хату і Валя.

«Дурань. Ёлуп, — дакараў я сябе. — Калі б яго не любіла, дык пайшла б дахаты адразу. Не мог жа ён яе сілком затрымаць? Гэтае апошняе «пусці» было сказана неяк пяшчотна, быццам з просьбай «пабудзь яшчэ». Дурань я, дурань. Яны ж даўно ходзяць, а я захацеў прызнацца ў каханні... Чым адолець Шакіна? Больш за Кольку Румена кніжак не прачытаць, больш за Сматалоку верхаводаў не навудзіць. Сто—сто семдзесят штук цягае на цеста ля млячарні. Хутчэй за Янкоўскага дзвесце метраў не прабегчы. У яго першы разрад. Сцэна? Але ж яна кінула мастацкую самадзейнасць. Матацыкл купіць? Дзе ж столькі грошай узяць. А мо нічога не трэба рабіць... Змірыцца».

Ад Граноўскіх суседка Мамэліха прачула, што сям'я суддзі пакуль не будзе пераязджаць у Столін, маўляў, толькі ён адзін будзе ездзіць туды на работу. Наперадзе яшчэ дзесяты клас. І ўсё можа змяніцца. Выходзіць, што трэба яшчэ раз ёй усё дараваць, гэтыя пацалункі,

гэтае пяшчотнае «пусці»?

Не ведаю, што адбылося тады ў маёй душы, але я перастаў бегаць за ёю, танцаваць з ёю і штурхаць яе ў плечы. Не, я ўсё яшчэ кахаў яе па-ранейшаму ўсім сэрцам, але ўжо не так бяздумна і слепа, што нейкім чынам прынесла палёгку маёй збалелай душы.

Больш мы не гаварылі і нідзе, акрамя школы, не страчаліся. У маі я паехаў на кансультацыю ў вобласць і застаўся ў дыспансеры.

І вось вяртанне. Як даўно, здаецца, тое ўсё было і як нядаўна.

З горкі мой аўтобус коціцца да старой драўлянай станцыі амаль без гуку. Я выходжу з яго няспешна, апошнім, чакаю знарок, пакуль выйдуць усе. Пачціва вітаюся з буфетчыцай чайной. Абедзенны перапынак закончыўся, яна шырока адчыняе дзверы чайной, запрашае ўслых шафёраў брэсцкага аўтобуса на абед. Мяне яна не надта каб добра ведала, але ветліва вітае. У маёй кішэні пяць рублёў.

Ля хаты Мароза я апамятаўся. «Трэба зайсці ў чайную ды купіць дзеду піва ці віна». Але не хочацца вяртацца, гэта дрэнная прыкмета, як вучыла баба. Да маёй роднай Закасцельнай вуліцы рукой падаць. Вось і яна... Адзінаццаць хат на адзін бок, сем — на другі. Разбітая вазамі сярэдзіна дарогі, стары калодзеж ля хаты Кунды, вялізны вяз ля плота Кулькіна, абрыкос у двары сталяра Клубышка. Яшчэ пяць—сем крокаў, і стары Юрко ўздымае высока над галавой кепку (ён так заўсёды вітаецца), яшчэ пяць крокаў, і вось яна, наша хата з бляшанай круглай шыльдачкай № 22. Мая старэнькая ўжо хаціна з зялёнымі пляйстрамі моху на страсе. Чаму раптам так зашчымела маё сэрца — усяго ж толькі няпоўныя чатыры месяцы мінула, як паехаў я ў бальніцу? Чаму ногі не хочуць слухацца мяне, а рука прыкметна дрыжыць?

Сіла нябесная, столькі гора і пакут зведалі гэтыя сцены. Мае будуць у хаце. Вядома ж, хто найбольш сядзіць дома: шавец. Баба тупае ў парозе. Яны ж не чакаюць мяне. Я яшчэ знарок адварочваю твар, каб праз акно не пазналі.

— Унучачко! Слава табе, госпадзі! — Баба Насця са слязою радасці на вачах кідаецца першай да мяне, бярэ

за худую руку, цалуе яе.

І дзед Цімох хавае слязу. Устае з маленькай табурэткі, адкладвае чобат, рашпіль, доўга цісне мне руку. Я і сам нeяк разгубіўся: хачу іх пацалаваць, прытуліць да сябе, ды нешта як бы саромеюся.

...Цяпер, калі мне трыццаць гадоў і я пераглядваю ўспаміны трынаццацігадовай даўнасці, караю сябе, дурня: чаму я іх тады не пацалаваў, не прытуліў да сябе. «Чаму!» — разрываецца бездапаможна і цяпер маё сэрца.

Руплівая баба дастае ўжо нешта з печы, нясе на стол пшаняную кашу, бабку. Колькі, здаецца, з'едзена ў бальніцы кашы, а ўсё ж свая з печы мілей і смачней.

Дзед палез пад ложак, дастаў паўлітра наліўкі.

— Куды ўжэ выстаўляеш, га, куды?

— Можна табе, унучачак, каўтнуць грам ці не? — разгубіўся на секунду дзед.

— Можна, дзеду. Давай.

Дзед ажывіўся. Я выстаўляю на стол і свой падарунак — кавун. Дзед падкідвае яго на руках, стукае па ім кулаком, сагнутым пальцам, правярае, ці спелы.

— О, сто гадоў кавуна не еў. Ай, малайчына. Насця, памятаеш, як у дзевяцьсот чатырнаццатым у Варшаве немец нас кавуном частаваў? Кажа, зачыняйце лаўку ды ўцякайце. Вайна пачынаецца. Помніш?

— Помню, — нехаця адказвае баба.

Я імгненна падлічваю. Тады дзеду майму было дваццаць шэсць гадоў, а бабе дваццаць. Выпілі па чарцы, з'елі ўсё — і кашу, і бабку, і палову кавуна. Дзед дастаў свой муштук, далонню выбіў бычок, фукнуў, уклаў свежую «крыміну», закурыў. Неяк зрабілася ўсім хораша і спакойна, на душы светла і лёгка.

— А ці надоўга адпусцілі, унучак?

— Пакуль на тры дні. Пабуду чатыры. А да зімы абяцаюць выпісаць зусім.

— І дзякуй богу. Дай бог. Пахарашэў ты з твару, — радуецца баба.

— Кормяць добра. Харошая бальніца. Як вы?

— От е трохі заказаў, так шчо жыцьмо, — весялее дзед. — Міхалко дроў прывёз.

— Не налівай больш гэтую заразу, дай сюды, — сварыцца баба і забірае бутэльку наліўкі.

— Няхай па-твойму, — згаджаецца дзед. — Карпа помніш, унучак? Ён прывёз. Першы клас наліўка. Баба наша заказала яму тлушчу барсуковага і сабачага. Кажуць людзі, першае лякарства ад тваёй хваробы.

— Як каму... Пілі ў нас у бальніцы некаторыя. Сталетнік п'юць. Мне пакуль дапамагаюць лякарствы.

— А ці многа даюць?

— Калі ўсе таблеткі скласці ў вядро, дык паўвядра выпіў. Яшчэ вядро трэба.

— Фю-юць... сіла нябесная, гэта ж атруціцца можна, — перахрысцілася баба Насця.

— Шчо ж ты хочаш, медыцына — гэто навука. Чобаты пашыць — і то колькі ведаць трэба, — разважае дзед.

— А хто гэта спявае? — пытаюся я.

— Плотнікі. Узялі моду мачыць акладзіны, на вокны пакладуць ошляпіны — зноў замочваюць, бэлькавое, шчытавое — усё хазяін стаў бутэльку на стол, а яшчэ ў канцы і даробшчына, — тлумачыў дзед завядзёнку цесляроў. — Пагубіць гарэлка народ, пагубіць.

Мы выйшлі на двор, селі на табурэтку. Слоў у песні цесляроў разабраць немагчыма. Сумная песня. У прыпеве доўга цягнуць «а-а-а» альбо «е-э-э».

Баба вынесла нам міску груш. Вялікія, сакавітыя, аж свецяцца наскрозь. Мо купіла ў Воўка, бо наша сёлета не ўрадзіла.

— Як тут у нас? — зноў пытаюся я.

— Мацуемся. От ты здаровы, жывы, то й нам радасць, — зноў усплакнула баба Насця.

— Дачка Сарокі ўтапілася, не пры нас кажучы, — прамовіў дзед. — Ткач дачку замуж выдаў. Цётка твая Зося назусім засталася ў Польшчы.

— Як?

— Не хоча сюды варочацца... А шчо ёй тут рабіць? Чалавек адтуль родам.

Гэтай навіны я аніяк не чакаў. Адна надзея: мо пакінула сшыткі свайму брату Сынумартачкі.

— А як баба Лісавета? Хварэла ж.

— Ліска ажыла, дзякуй богу. Шчэ з бабай хадзіла на тым тыдні ў Мачуль. Насілі цыбулю. Ліска малайчына.

— Цётка Олена, Міхалка як?

— Хварэе Олена, куды ж дзецца. Міхалко на вэсну ездзіў. Кажа, тышчу зарабіў.

— Шчо — Глеб Іванавіч цэглу прывёз?

— Пляц узяў. Будзе хату будаваць. Ужэ мала ездзіць Іванавіч распісваць алтары ды іканастасы на вёсках, малюе на фанеры цвяточкі людзям, якія на вэсну еездзяць. Цікеткі. А шчо казаць, залатыя рукі ў Іванавіча.

— То й бацька ж яго іконы маляваў, алтар з дрэва рэзаў, — далучаецца да гаворкі і баба.

— Я й кажу, шчо залатыя рукі ад прыроды. Наш род. Ён жа мне стрыечным братам даводзіцца. Але от, кажы, характар.

Дзед мог далей і не працягваць, бо я добра ведаў усялякія прыгоды Глеба Іванавіча. Ён быў адзіны мастак на гарадок і знаў сабе цану, хоць і ніколі сваім талентам не хваліўся. Казаў, што ён умее толькі паўдзела. «Чаму?» — цікавіўся я. Адказваў так: «Як памёр бацька, Іван Сыса, напалохаўся я... Шчо ж рабіць, я ж нічога толкам не ўмею, ля бацькі толькі і тупаў. Аж прысніўся мне сон. Праўда й то, прыходзіць да мяне ў сне мой бацька і пытае, чаму я ўбіваюся так. Я яму і адкрыўся. Не пакутуй, сынок, кажа, дай мне руку. Даў я яму адну руку, а самому боязна-боязна. Дай, кажа, і другую. Тут я зусім напалохаўся. Думаю, гэта ён мяне, калі я другую руку дам, да сябе пацягне. Не даў другой рукі, і ўсё. Што ж, адказвае бацька, з адной рукі і жыць будзеш. І точна. Узяўся я за кісць, мальберт... усё выходзіць, а ўжо каб рэзаць з дрэва, як умеў бацька, ані не ўмею, як дурны баран. От, значыць, другую руку не даў і не ўмею ўсё рабіць, як бацька».

Калі выпадала Глебу Іванавічу ўпрыгожваць дзе-небудзь на вёсцы старую царкву, згаджаўся з вялікай ахвотаю і за невялікія грошы. І што любіў, дзіўна сказаць. Браў на абед у кішэню чакушачку, наліваў сто грам і там высока, на рыштаваннях, з апетытам за здароўе папа і дыякана выпіваў. На адной дошцы тых рыштаванняў клаўся гадзіну паспаць пасля абеду.

Напалоханыя гарадоцкім рызыкантам, поп з дыяканам унізе не ведалі, што і рабіць. Угаворвалі Глеба Іванавіча спусціцца ўніз, прыносілі раскладанку.

Глеб Іванавіч аднекваўся: «Вось зараз і праверым — е бог ці няма? Калі ўпаду, бога няма».

Поп з дыяканам бралі тады коўдру, расцягвалі яе ўнізе і так трымалі яе гадзіну, паўтары, пакуль маляр не прачнецца. Што тыя пажарнікі з брызентам.

— Упадзе, чортава сіла, не ўтрымаецца, — казаў дыякан, выціраючы спацелы лоб.

— Не наракай мне, акаянны! Лепш назаўтра ўкрадзі ў яго з кішэні чакушку, — павучаў свяшчэннік.

Дыякан, відаць, умеў гэтую справу рабіць: такі ўхітрыўся ўкрасці чакушку раз, другі, трэці. Дапэтліў Глеб Іванавіч, дзе яго святая вада, і пачаў, спасылаючыся на радыкуліт, браць наверх з сабою гумавую грэлку. Там цягнуў патроху з яе свае сто грам і клаўся адпачываць зноў. І што ж знарок вычаўпляў: яшчэ і пераварочваўся на другі бок у сне на гэтай вузенькай дошчачцы.

У папа з дыяканам вочы на лоб. Я не памыліўся: дзед мне нанова пераказаў іменна гэтую прыгоду Глеба Іванавіча.

— От я і кажу, нашаму роду не мець пераводу.

— Ай, памаўчы, — буркне на старога баба, — ваш род, ваш род. Усе п'яніцы.

— Не п'яніцы, а выпіць умеюць, — папраўляе яе дзед.

— Ляж з дарогі ды адпачні, унучачко, — як бы запознена ўспамінае баба Насця.

— Не хочу. Пайду прайдуся на вуліцу.

— Давай. А я дык трошкі падрамлю, — стома цягне дзеда да сну.

Мне не цярпелася даведацца: ці пакінула цётка Зося сшыткі, таму найперш накіраваўся я да Сынамартачкі. Сутыкнуліся мы з ім за нашай адрынай, ён ішоў па ваду да аселіцкага калодзежа. Пастаялі, пагаварылі. На жаль, ніякіх сшыткаў цётка не пакінула. Абяцаў пашукаць яшчэ ў хаце, калі знойдзе, перадасць. Пацікавіўся, ці прадаюць у Брэсце на цвінтары ля царквы срэбныя крыжыкі. Паколькі я ў горад не выходзіў, дык нічога не змог яму і адказаць, пацюгаў без асаблівага настрою да Толіка. Ад яго і даведаюся, ці прыехала Валя ў гарадок. Стары Бабёр, як аказалася, адправіў сына ў Пінск, паступаць у тэхнікум. Не застаў я і Кіцеля ў хаце: недзе з бацькам на Прыпяці. Да Гасцюшкіна не пайшоў, ведаў з пісьма, што ён гасцюе да першага верасня ў сястры ў Мінску. Няўтульна так, сумна зрабілася на душы, калі пачуў ад сяброўкі Цялегінай, што тая яшчэ не прыехала.

«Трэба было мне адпрасіцца з бальніцы ў верасні. Паспяшыў».

Вось і дом Граноўскіх.

«Зайсці? Прэч гонар. Падыду».

Пад вокнамі старая Граноўская падвязвала да маленькай тычачкі вялізныя півоні.

— Адасё! Дзень добры, дзень добры.

«Казаць ёй пра бальніцу і хваробу ці не казаць? А! Усё роўна няма той тайны, каб праз дзень, два яе не ведалі ўсе гарадчукі».

Разгаварыліся з Граноўскай патроху пра ўсё, нарэшце я рызыкнуў, папытаў:

— Пані Граноўская, я даўно хацеў у вас пацікавіцца... Незадоўга перад смерцю мая мама сустракалася тут... у вас... з бацькам. Мо чулі, пра што яны гаварылі? А мо гэта і няпраўда, мо яны не сустракаліся?

Граноўская падышла бліжэй да штыкетніка, неяк вельмі пільна паглядзела на мяне, быццам усумнілася, ці я гэта пытаю.

— Так. Я добра памятаю гэтую сустрэчу. Маці твая, нябожчыца, не хацела заставацца сам-насам з тваім папам. Яна папрасіла мяне быць пасрэднікам.

Сэрца маё так усё і здрыганулася.

— Так. Я дамовілася з Трыфанам. Ён не адразу згадзіўся сустрэцца. Я запэўніла, што ніхто пра іх сустрэчу не даведаецца. Прыйшоў. Цябе, безумоўна, цікавіць, пра што яны гаварылі?

— Так.

— Табе адкрыю. Ты адзіны, хто мае права на гэта... Трыфан, твой бацька, не з тых людзей, хто пакаецца першы. Я троху ведаю яго, усё ж вучыла тры класы. Дык вось. У той вечар размова была кароткай. Маці ўзяла з яго слова, што, калі яе не стане ці што-небудзь здарыцца, каб ён не меў на цябе аніякіх правоў і ніколі, пад знакам смерці, не забіраў цябе да сябе.

— А ён?

— Ён? Ён трохі не чакаў такой гаворкі. Вялікая саманадзейнасць і добрая інтуіцыя, якімі надзяліла гэтага чалавека прырода, падказвалі яму іншае. Ён лічыў, што Марыя нарэшце будзе шукаць прымірэння, каб палепшыць іх адносіны. Ён не хацеў і ніколі не лічыў сябе вінаватым. Але і Марыя была ўпартай. Трыфан меў трох дзяцей. Твая маці дзяцей заўшэ любіла. І чужых, і цябе. Ён даў слова, аб чым яна прасіла. Тое было пры мне. Вось і ўвыстко. Яны разышліся, мо нават не сказаўшы адно аднаму дабранач. Урэшце, ты ўжо амаль дарослы і маеш права запытацца ў яго сам, калі ўся гэтая непры-

емная гісторыя цябе вельмі цікавіць. Калі гэта табе патрэбна.

— Сястра, сястра! — пачуўся слабы голас малодшай Граноўскай.

— Іду, іду! Даруй мне, Адась. Сястра мая зусім хворая. Праклятая астма забірае апошнія сілы, а лякарстваў добрых няма. Не забывай нас, прыходзь.

«Так, значыць, кіраўнік духавога аркестра не схлусіў. Яны ўсё ж сустракаліся тут».

Гісторыя майго нараджэння, гісторыя адносін маіх бацькоў ускалыхнулі душу з новай сілай. Мяне непераадольна цягнула пагаварыць з бацькам. Аднак нешта і насцярожвала, прытрымлівала гэтае маё жаданне. Я разумеў, што мая сустрэча з ім прынясе як бы здраду ўсім тым, каго я ведаў, з кім звыкся за свае семнаццаць гадоў, каго паважаў і любіў. Загадзя мне здавалася, што яны мяне нейкім чынам могуць асудзіць. Баба, дзед, дзядзька Міхал, жонка яго Поля, дзядзька Якаў і яго жонка Олена — яны ніколі добрага слова пра бацьку наогул не казалі. Я ведаў, што здраджу іхнім пачуццям да мяне.

А нашыя сваякі, суседзі, добрыя знаёмыя: сціплы, дабрадушны сталяр Клубышко і яго жонка, жвавы бяссрэбранік Кулькін, ціхі Глеб Іванавіч з жонкай Гэляй, стары Юрко, клапатлівы Крутаяраў, працавіты Гехросны, свяшчэннік Міфодзій, вечна мурзаты каваль Герасім, цётка Сарока, хітрая баба Лісавета, сябры Толік, Ванька, Васько, Сынмартачкі, уважлівая Даша і мае новыя сябры — Фядос-акардэаніст, Гаўрыла, даўгавязы Віця, занадта сур'ёзны сусед Скач, які заўсёды казаў: «Я люблю, коб усё було чэсна. Мае сябры па атраду пазанімалі кіруючыя пасты. Я меў усе правы, а не пайшоў. Чэсна буду служыць электрыкам электрасеткі». Усе яны што падумаюць? Ці не пакрыўдзяцца на мяне?

Мне здавалася, што, як толькі я сустрэнуся з бацькам, уся наша вуліца адвернецца ад мяне назаўсёды. На другім краі маіх сумненняў стаялі людзі, якія, як мне здавалася, падштурхоўвалі словам, намёкам, парадай на маю сустрэчу з бацькам. Гэта былі не менш паважаныя мною людзі: незлабівыя сёстры Граноўскія, мудры Воўк-пустэльнік, вечна бадзёры доктар Урбановіч, кіраўнік духавога аркестра, кларнетыст Доўнар і яго Таццяна, урач дыспансера Фішкін, Бабёр, рэвізор Кошман,

фатограф Зубэй. Іх таксама турбавала мая будучыня. Раней ад кожнага з іх я чуў амаль аднолькавае: «Ідзі, дзівак, ідзі, дурань, няхай грошы дае. Пятнаццаць рублёў — ці ж гэта аліменты? Вы ж не ворагі. Ідзі. Тады быў адзін час, а цяпер другі. Ідзі і нікога не слухай».

Кошман неяк так і сказаў: «Ты глядзі, коб табе добра было, а не людзям. Усім не дагодзіш. Людзі твайму сіроцтву паспачуваюць, ды не памогуць».

Любіў пра грошы нагадаць і доктар Урбановіч.

На другі дзень, як толькі я прыехаў на пабыўку, я пайшоў да яго, каб аддзякаваць: гэта значыла, як навучыла баба, непрыкметна падкінуць яму ў кішэню халата пяць рублёў. Я доўга не хацеў згаджацца, аж пакуль і дзед не падтрымаў бабу:

— Так цяпер, унучак, усе робяць. І ён не закрыўдуе.

Без асаблівага настрою я паплёўся да паліклінікі. Мы даўгавата ўжо гутарылі з Урбановічам пра новае ў аперацыях на лёгкіх, ён пра іх шмат чытаў, але сам яшчэ не бачыў, пра эфект таблетак «інга-17», пра нешта яшчэ, а я ўсё ніяк не мог злавіць момант, каб сунуць скамечаную пяцёрку яму ў кішэню. Нарэшце Урбановіч неяк адхінуўся ўбок, я мігам запусціў яму ў кішэню сваю руку, але сам не ўтрымаўся і паляцеў разам з табурэтам на падлогу. Ён, прыгледзеўшыся да майго разгубленага твару, відаць, заўважыў нешта, сунуў руку ў кішэню, пакруціў пяцёрку перад сабой і паклаў яе на стол.

— Вазьмі назад. Да! Чорт вазьмі. Урбановіч грэшан... часам вып'ю... за гэтыя паганыя грошы. Я, сынок, ведаю, з кім піць, а з кім не. У хворага я грошай не бяру. У людзей не бяру. У спекулянта, мешчаніна на бутэльку вазьму, не скрыўлюся. Чалавецтва ў нашым гарадку яшчэ знаходзіцца на той ступені свайго развіцця, калі ўсё вырашаецца праз гарэлку. Прывёз дровы — пачастунак, да доктара прыйшоў — пачастунак, бульбу выкапалі — частуй. Як гаворыцца, «наследство прошедших темных лет». Я сумленне сваё паважаю, павер. Адказнасць за работу, за сябе трымаю перад обчэствам і трымаць буду. У бацькі твайго ўзяў бы, у цябе не вазьму. Не месца ўпрыгожвае чалавека, а чалавек месца. Пачуцці радасці і пакут усюды аднолькавыя. Людзі ўсё вырашаюць. Людзі і да магілы чалавека даводзяць, і ратуюць ля магілы. Давай усё забудзем, быццам нічога тут не было. Мы ж з табой сябры.

— Гэто мне баба з дзедам падказалі, — пачаў я валіць віну на старых.

— І яны не вінаватыя. Цяпер мода ў гарадку пайшла вазіць насенне кветак на сталічныя базары. Прыязджаюць паны некаторыя з грашыма і думаюць, што яны з поўнай кішэняй богі, што ўсё за грошы купіць могуць. Шкада, што дзяцей старыя гэтаму вучаць. На самай справе гэты ілжэбажок нуль, ніхто. Твой дзед талент, Глеб Іванавіч — талент, Клубышко — талент. З такімі людзьмі побач прыемна жыць. Так і дамовімся: нічога не было. Усё. А да бацькі ідзі, няхай грошы дае. Табе цяпер, каб жыць, ай як добра пітацца трэба, вельмі добра. Я не спецыяліст па навейшых лякарствах, а скажу: чыстае паветра, добрыя харчы — о тваё ратаванне.

Праз нейкую гадзіну я сеў на свой старэнькі ровар з паржавелымі спіцамі ля вобада, праехаўся ля чайной, думаў, мо раптам стрэнецца бацька. Было бязлюдна. Толькі некалькі бабак ля магазіна прадавалі ў кошыках яблыкі (чырвоненькія малінаўкі), маленькія грушкі, белае насенне гарбузоў. Я трохі пачакаў ля чайной. Бацькі не было.

Увечары пайшоў да сваіх у клуб. Удзельнікаў самадзейнасці ніхто не чакаў, разумелі, што тыя цалкам заняты на сельгасработах. Таццяна з Доўнарам гулялі ў шашкі.

Яны яшчэ ўсё так і не распісаліся, хоць, як сказаў мне па сакрэту кіраўнік духавога аркестра, яна зрабіла ўжо два аборты. Расклалі і мы з кіраўніком духавога на дошцы шашкі.

— Нам рэпетыцыя не патрэбна. Пахавальны марш Шапэна і «Прощание славянки» Агапкіна ведаем на пяць балаў. Усё, шчо нам застаецца. Хана, Адась, музыцы... Тэхніка давіць. Твіст. А вальс, пасадобль, «лысага», польку-трасуху танцаваць у клубе моладзь не хоча.

— Табе так скажу, на маёй памяці такое було, — сказаў няголены барабаншчык, — гралі адны факстроты і танга. І шчо ж, мінула мода, і вальс вярнуўся, і кракавяк, і падэспань.

— Мода пройдзе, а ці выжывем мы і нашы інструменты, — казаў Доўнар, ён быў у кепскім настроі. — Ніхто ў гэты клуб хадзіць не хоча. Хлеў, а не клуб, прасці госпадзі. Быў касцёл, няхай бы і пакінулі. Пабурылі, разбілі палову... Так у гэтай прыўратнай усе і паржа-

веем. Уцякаць трэба адсюль. Не варочайся сюды, Адась, чапляйся за горад. Не паўтарай маёй памылкі, дурня магілёўскага. Мне казаў дырэктар вучылішча — заставайся, а я не паслухаў.

Прыйшоў і Халімон. Ён адслужыў армію, вярнуўся ў клубную самадзейнасць і нязменна ў кожным канцэрце выконваў танец «Яблычка». Выпілі. Трохі нявесела. Халімон пачаў расказваць, як яны ў Сімферопалі ўтрох, як потым аказалася, хадзілі да адной і той жа дзеўкі. З Халімона пачаліся і анекдоты. Таццяна (яна часова выконвала абавязкі дырэктара клуба) прагнала ўсіх на двор, замкнула абшарпаныя дзверы, забрала пад руку Доўнара і павяла яго.

Мы яшчэ некалькі хвілін пастаялі ля старых ліп, чакалі, пакуль пяройдзе дождж, а ён, дробны, ціхі, ласкавы, жнівеньскі, сыпаў і сыпаў.

— Трэба, хлопцы, кідаць клуб і ехаць на вэсну, — раіў кіраўнік духавога аркестра, — цяпер гэта адно ратаванне нашым людзям. На гародах з бобам, гарохам, бураком, рэпай, гуркамі, памідорамі, цыбуляй растуць на градах кветкі. Ты заўважыў, Адась?

— Так.

— Шчо мая жонка дамасед, а пасадзіла астры, гваздзікі, настурцыю, пятунію, флёксы, рамонкі, хрызантэмы і яшчэ ўсялякую трасцу. Як у раі, браце.

— Точна. Цяпер сталінцы замест старой мянушкі «цыбулька-часначок» кажуць на нас — «мяшочнікі», — адкрыў мне сакрэт Халімон.

— Кветкі ж у гарадку здавён, — уставіў сваё і барабаншчык, — кажуць старыя, шчо каралева Бона завезла ў гэты край насенне кветак французскіх, галандскіх, каб было чым людзей заняць і чым каралеўства ўпрыгожваць. Шкада, што гэтая «вэсна» можа адбіць ад нас удзельнікаў самадзейнасці.

— Да не-е-э, — цягнуў Халімон, — клуб новы трэба. Узімку дык у маім пограбе цяплей, чым у ім.

Пачалі патроху разыходзіцца.

— Ну, а з бацькам не страчаўся, не? — папытаў, падаючы мне на развітанне руку, кіраўнік духавога аркестра.

— Пакуль не. Заўтра падыду абавязкова, — упэўнена адказаў я.

У хаце я хацеў адкрыць акно ў двор, але баба Насця

такой моды не мела. Большасць гарадчукоў замыкалі нанач дзверы і вокны хат надзейна.

— Унучачко, не спіш? — пацікавілася баба Насця.

— Не.

— Я шчо падумала. Гэто ж хвароба гэтая прычапілася да цябе ўзімку, калі ты ў палонку праваліўся.

— Тады, бабо.

— Ну, усявышні, праведнікі святыя, і за шчо нам болей за ўсіх гора? Людзі і крадуць, і жонак з дзецьмі кідаюць, ды ўсё іх ніякая халера не бярэ. Лысюк з нашай Аселіцы чацвёра дзетак на Веру пакінуў і на цаліне сабе жонку знайшоў. Не чалавек. Толькі не пі з ім ніколі, унучачко.

— Бабо, мяне ўсе пытаюцца: ці не надумаў я зруб наш прадаць.

— Прадасі некалі. Пакуль мы з дзедам жывыя, няхай стаіць.

— І я думаю, няхай пастаіць.

— Няхай, коб онно бог даў здароўе, коб жывенькі быў.

Падалося, што яна заплакала. Я заплюшчыў вочы і пачаў успамінаць тую зіму, калі захварэў.

Пажары пачаліся неяк адразу з глыбокай восені, у пару, калі ночы асабліва цёмныя, калі пасля цяжкіх работ на бульбе, капусце спіцца стомлена-непрабудна. Восеньская ноч бы дзёгцем выпэцквае ўвесь гарадок, акрамя адной цэнтральнай вуліцы ды пошты, якая свеціцца акенцам тэлеграфа на другім паверсе. Хаты і тыя неахвотна выходзяць у маўклівую густую цемень. Праз сон да цябе даходзіць бы з калодзежа голас: «Пажар! Па-жа-ар!» Пад гукі рэзкай пажарнай сірэны прачынаешся і бяжыш да акна. Трывожныя чырвоныя сполахі ў небе праразаюць цемень. Праз колькі хвілін да прызбы прыбягаюць Толік і Кіцель. Бяжым глядзець.

Сам бы я з роду не пабег, боязна. Наша Аселіца, а за ёй Радзічы, Гара, Пясок, Камора — усё гэта кварталы старадаўняга Давыд-Гарадка. Хаты тут драўляныя ўсе, стрэхі саламяныя, вуліцы і завулкі вузенькія — возу няма месца развярнуцца, і прыходзілася зад воза заносіць рукамі. Прычын тых частых пажараў толкам ніхто не ведаў. Казалі, што гэта па ўказцы, маўляў, гарсавета, каб пракласці новыя вуліцы (часта на месцы старой хаты не дазвалялі будаваць новую), казалі, што паляць адзін другога з зайздрасці, казалі, што з пом-

сты, што не падзялілі сыны бацькоўскае дабро. Нехта лічыў, што гарадчукі паляць свае хаты наўмысна самі, каб атрымаць страхоўку, новы пляц, які не топіць павадка, і збудаваць новую хату. Старыя хаты займаліся агнём хутка, а гарэлі гнілыя сцены доўга. Мы стаялі недалёка ад агню, калі твару горача, а спіне холадна, і чакалі, пакуль не пачнуць чадзець галавешкі на месцы былой хаты.

Бывала, што мы прыбягалі раней за пажарнікаў, іхняя машына доўга буксавала дзе-небудзь у калдобінах гразкіх вуліц. А ранкам збіраліся на пажарышча зноў. Нанова бачанае выглядала больш жахліва, чым уночы. Я доўга не мог глядзець на пузатую абгарэлую карову, счарнелага вепрука.

— І нас яшчэ спаляць, — баба Насця верыла ў гэта, як у бога.

— Хто?

— Знойдзецца халера. Сусед які.

Нашымі суседзямі быў сын старога Юрка і Ткач.

— А за шчо? — пытаўся я.

— Ткач прасторы хоча. Наш хлеў і срач у яго перад вокнамі. А Юрко — каб наш пляц прыбраць да сваіх рук.

— Ай, не кажы абу-шчо. Не пужай хлопца, — не згаджаўся дзед.

І я не верыў бабе, мне здавалася, што яна ўмысна нагаворвае на іх, бо ні Ткача, ні сына Юрка баба не любіла. Мо недалюблівала Юрка за тое, што не падае на пошукі свайго сына. Быў у яго сын, ад нараджэння нямы. Іх, немчыкаў, было на нашу Аселіцу два: Юрко і Жэня Мэко. Так ён казаў на малако: мэко. Жэня з кожным годам вучыўся патроху новым словам, а сын Юрка нічога не гаварыў: нejак з'ехаў, сам уцёк з хаты ў дваццацітрохгадовым узросце і згінуў. Юрко заявіў у сваю міліцыю, а далей, у Мінск, Маскву, не пісаў, болей не цікавіўся і не шукаў сына. Ткача баба не любіла за празмерную гарачку і злосць. Ён сварыўся часта з усімі і доўга помніў крыўду. Мне ж Ткач сваёй хваткай і працаздольнасцю падабаўся. Ён меў самую лепшую хату, абшаляваў яе, пафарбаваў, у яго заўсёды быў дагледжаны сад, накошана сена карове, дрэвы ў садзе пабелены. Ён першы з усіх гарадчукоў паставіў на сваім гародзе громаадвод. За сваё Ткач умеў пастаяць. Быў дзядзька гаспадарлівы, у адрозненне ад Пухоў-

скага, які больш лаяўся мацернымі словамі на ўсю вуліцу, а каровы падаіць не ўмеў. Ткач нікому не даравяў хлусню і кражу. Са мной ён вітаўся за руку.

Цётка Сарока пацiху крала ва ўсіх дварах дровы. Найбольш яе вабілі ладныя бярозавыя кастры Ткача, якія стаялі ля самага плота. Раз удалося, другі... Што ж робіць Ткач? Непрыкметна начыняе палены патронамі. Прыпёрла Сарочыха дахаты дзве пасцілкі дроў і хутчэй зранку (бяруць маразы) у печ іх, каб і след сплыў і ніхто не паспеў пазнаць, чые дровы. Тут як пачало ў печы варушыцца, як пачало гэпаць! Сарока ніц да падлогі прылiпла і так богу моліцца, пра царкву ўспомніла раз на год, як мой дзед. Палову печы так і разваліла. Плюнула Сарока на патаемнасць начных прыгод і ўслых на ўсю вуліцу давай слаць праклёны Ткачу. Той толькі рагоча. Болей да Ткача па дровы цётка Сарока ніколі не хадзіла.

Доўга гэты выпадак трымаўся як забава і анекдот. Уся вуліца рагатала з беднай (а яна з дзецьмі сапраўды была надта ж бедная) цёткі Сарокі, якая рабіла ў калгасе і хадзіла ад благавешчання і да пакроў босая.

Толькі цяпер, калі я пішу гэтыя словы, я на той учынак Ткача гляджу інакш. Мне шкада Сароку.

Бабу маю тады абурыў гэты факт, мо таму яшчэ і з гэтага яна не давярала Ткачу.

Год на год не прыходзіцца. За цёплай восенню хутка наляцела ў гарадок зіма, не енчыла макроццем і дажджом, а насыпала адразу снегу і ўдарыла маразамі. Што-што, а адкідваць снег ад дзвярэй, рабіць сцежку да форткі, адрыны дзед любіў. Браў драўляную лапату, на якой баба выцягвала з печы хлеб, і са словамі: «Дзякуй табе, божа, шчо зімачку паслаў, шчо снегу дачакаўся», — весела шоргаў лапатай і бурыў вастракрылыя сумёты. Трымалася тады зіма, праўда, так упарта нядоўга. Падабрэла адлігай. У такую пару, бывае, зрэдку Гарынь неспадзявана мяняе свой «рытм» і разліваецца, як увясну. А яшчэ калі ўхопіцца марозік, дык нам зусім любата. Бяры канькі, гні гуртом з хлопцамі лёд у рагожку; альбо яшчэ наша самая любімая забаўка: рабі палонку, «тынкуй» яе непрыкметна снегам, а зверху асцярожна накладвай чобатам адбітак, каб бачны быў след, каб не было падазрэнняў. Стань убок і чакай першую ахвяру. Нязграбная жонка каваля Герасіма першай трапляе ў палонку па калена, далей яе

не пускаюць тоўстыя ногі, а маладыя дзяўчаты, праваліўшыся, аж пішчаць ад страху. Толік Бабёр з Васьком неяк падкузьмілі і мяне. Я паспеў выхапіць нагу з палонкі, набраў у чобат вады, толькі трохі падмачыў анучу. «Ну, — думаю, — Кіцель, я табе фокус падстрою». Прачнуўся гэта я раненька, узяў пешню і ходу да яго форткі. Вырашыў так: зраблю палонку, каб ён улез у яе па пояс, не менш.

Каб мінуць вокны Кіцелевай хаты, я пайшоў наўкола, каля плота. Але ці лёд каля плота быў тонкі, ці Кіцель нарабіў там скрозь заканапачаных снегам палонак, не ведаю, са сваёй цяжкай пешняй я праваліўся глыбока, па пояс. Выбрацца наверх было цяжка: крохкі лёд трашчаў пад нагамі, і я мусіў метраў з дзесяць ісці па сцюдзёнай вадзе. Зло мяне так ахапіла, што я ў азарце ўсё ж выдзеўбаў каля яго форткі палонку і, толькі адчуўшы, што ногі скамянелі, подбегам рушыў дахаты.

Канікулы скончыліся, а я ўсё яшчэ быў з тэмпературай, моцна кашляў, грэў каля грубы спіну. Баба папрасіла медсястру, якая жыла ля каваля, і яна прынесла нейкіх парашкоў ад прастуды. Трохі ачуняў, але ж занудлівы кашаль не праходзіў, нягледзячы на тое, што я еў штодня гогаль-могаль і піў цёплае малако з мёдам.

Кліентаў у тую гнілую зіму бог дзеду не даў, мы бачылі мясныя катлеты толькі на свята. Я чэз, як дрэва на пяску. Хутка стамляўся, ледзь не спаў на ўроках. Вочы мае запалі, а з шыі вытачыўся кадык. Нешта часта пачаў балець жывот. Я лічыў, што ўся прычына маёй хваробы і болю ў жываце — глісты. Гнаць глістоў не баяўся, ведаў, што гэта не апендыцыт, аперацыі не будзе, таму пайшоў да Урбановіча смела і рашуча. Тады ўсё і праяснілася: туберкулёз лёгкіх.

Успамінаючы апошнюю зіму, доўга не засынаючы, падумаў: «Што ж, выходзіць, атрымліваецца — мяне лёс пакараў за наўмыснае зло! І сляпому бачна, як раньш не дапэтліў. Я ж ішоў да форткі Кіцеля ўмысна, так, менавіта ўмысна, каб яму нашкодзіць. Няўжо грэх, дабро, зло ўзаемазвязаныя і перамешаныя нейкім чынам у душы? Бязвінны, відаць, не можа быць пакараны. Тады як жа мая маці? Не веру я ў яе віну, не хачу верыць. З гэтым лесам мярлінца... мо яна не ведала ўсіх фактаў. Грэх мог быць ненаўмысны. Мне патрэбна су-

стрэцца з бацькам. Калі нават гэта грэх, калі б і маці была супраць, я павінен загаварыць з ім. І што я такі нерашучы? Усё ж было вырашана там, у дыспансеры, чаго ж я тут разгубіўся, здзічэў? Усё. Пакуль спаць. Не сустрэну ў горадзе — пад'еду да яго хаты.

Назаўтра ў мяне нарэшце, на семнаццатым годзе жыцця, адбылася першая сустрэча адзін на адзін з бацькам.

Голас у яго быў падобны на мой. Як сказаў бы кіраўнік духавога аркестра, тэнар. Я ж лічыў, што пры яго шырокіх плячах і паўнаватым жываце голас павінен быць рыпуча-басавіты. Ён падаў мне руку з пярсцёнкам на мезенцы.

— Здароў, сынок. Маладзец, шчо падышоў. Нікога не слухай, жыві сваім розумам. Хадзем у чайную, кінь ровар тут, — прапанаваў ён.

Бацька купіў у буфеце два шніцэлі, хлеба, дастаў з кішэні прыпасеную чакушку і запрасіў мяне рукой сесці да стала. Я палез у кішэню па свой рубель.

— Сядзі спакойна, я фундую, — ён разліў гарэлку пароўну ў шклянкі. — Давай, сынок, коб булі здаровы. Урбановіч мне казаў пра тваё гора. Нічога. Ён верыць, шчо малады арганізм перарасце. Давай.

Выпілі. Ён не закусваў:

— Ведаю, табе даўно ўжо нагаварылі ўсяго на мяне, поўную бочку мазуты. Я іх усіх навылёт бачу. А... шчо цяпер апраўдвацца. Коб не твая баба, я б з тваёй мамай жыў бы. І маці твая вінаватая. Слабахарактарная была. А шчо зараз успамінаць, нічога вярнуць нельга. Дурное жыццё. Нічога паправіць немагчыма, — ён прыўзняў галаву, глянуў на мяне з-пад казырка вылінялай ад сонца шапкі, якую меў звычку насіць на самых бровах. Вейкі ў гэты момант ён прыплюшчваў, і здавалася, што цябе пільна, з доляй недаверу, вывучае. Шчыльна сціснутыя губы, над імі чорныя, коратка падголеныя вусышчоткачка.

— Прыкусвай, давай не саромейся. Ты мой сын, і жыць трэба як палагаецца. Ты мне з бальніцы напішы... На колькі цябе адпусцілі?

— На тры дні, — язык мой заплятаўся.

— О... напішы. Капейку нейкую прышлю. І нікога не слухай. Шчо було між намі з мамай... ніхто не ведае. Будзе табе цікава, калі-небудзь раскажу. Мо вып'еш яшчэ сто грам?

— Не, — я і без таго на галодны жывот ап'янеў да дурноты.

Сіл устаць не было. Мяне нават вымуціла. Добра, што ў чайной амаль нікога не было і мой сорам ніхто не заўважыў.

— Шчо, ты піць яшчэ не навучыўся? — з доляй нейкага папроку здзівіўся бацька. Накрыў талерку газетай, і мы выйшлі на вуліцу. Не помню, як развіталіся, пра што яшчэ гаварылі. Я пераступіў парог сваёй хаты і ўпаў каменем на ложак.

— А дзе ж гэто ты набраўся, унучачак? — жахнулася баба.

— Бацька сустрэўся. Выпілі ў чайной, — не расплюшчваючы вачэй, адказаў я.

— А, халера, коб табе ногі паламала... Дзіця напаіў, сатана, ух...

Увесь наступны дзень я праваляўся ў ложку. Яшчэ некалькі разоў вымуціла. Стараўся не сустракацца вачыма з дзедам і бабай, адчуваючы нейкую віну.

Праводзілі мяне назад у бальніцу дзед і дзядзька Міхалка. У магазіне ў дзядзькі Міхалкі выявілася растрата, і таму ён быў не ў гуморы. Частку гэтай растраты пагасіў. Пазычыў сталяр Клубышко, сто рублёў даў хросны і дзвесце Бабёр, які на словах дадаў: «Трэба ўмець піць за чужыя, а не за свае». На што дзядзька Міхалка адказаў: «Мяне быццё не зломіць, не-е! Міхалка выжыве, яшчэ ўсе зайздросціць мне будзеце».

Цяпер ён узяўся шыць чобаты і чакаў, як птушка цяпла, вясны. Поля не садзіла сёлета ў гародзе бульбу, пасеяла пятрушку, кветкі.

Дзядзька папікнуў мяне, чаму я не праведаў цётку Олену і Якава. Я вінавата крывіўся, сорамна было прызнацца, што пасля сустрэчы з бацькам я дзень ляжаў. Дзядзька падаў мне торбачку.

— Тут дзесятак яек і кавалак сала. Ды пішы і нам, не лянуйся, барон.

Прасігналіў аўтобус. Мы пачалі абдымацца. Толькі цяпер я заўважыў, што мой дзед згорбіўся і неяк аслаб. Хоць рукі яго па-ранейшаму былі жвавымі, але ж добрыя вочы яго згубілі іскру весялосці і ўпэўненасці. І ўсё ж, калі б нават тады хто-небудзь сказаў мне, што дзеду засталося жыць роўна год, я б ніколі не паверыў.

Думаў я пра адно: бацька абяцаў калі-небудзь рас-

казаць пра маці. Калі не накіруюць у санаторый, дык праз два-тры месяцы выпішуць. Рана-позна я даведаюся пра гісторыю яе трагічнага жыцця.

У дыспансеры людзі паміралі непрыкметна як бы, але часта. Ходзіць чалавек, грэецца на сонейку, гуляе ў шахматы, слухае анекдоты, рагоча, потым яго не бачна на двары тыдзень, два, а пасля кажуць: павезлі яго ў палату № 2 (смяротнікаў), без кіслароднай падушкі не можа дыхаць. Альбо чуеш: ён памёр пад нажом (пры мне такое было два разы). Ці перадаюць тонам будзённай гаворкі: «Уначы сканаў». Патроху і я звыкся з гэтым, нават падыходзіў адзін да палаты № 2, мог зазірнуць у яе. Дыспансер з аблупленай тынкоўкай на сценах зрабіўся маім домам, а ўсё, што адбывалася ў доме, стала маім.

Да выпіскі заставалася тры дні. Адзін з іх быў вясёлым. Мы з Віцем высачылі, куды ходзіць звечара Фядос. Ён, хто больш за ўсіх быў супраць жанчын, хто даў слова быць манахам, не заводзіць знаёмстваў з жаночым полам, тайна пасябраваў з афіцыянткай Зінай. Пасля вячэры ішоў у сталоўку: дапамагаў ёй памыць пасуду, непрыкметна пераапранаўся ў цывільнае і праводзіў Зіну ў горад, да яе кватэры. Жыла яна недалёка ад бальніцы. І вось аднаго разу апранулі мы з Віцем белыя медыцынскія халаты (іх было ўзяць у нашай нянечкі лёгка) і рушылі крадком да вокан сталоўкі. Счакаўшы, пакуль Фядос у спешцы пераапрануўся, крыкнулі ў фортку: «А вы куды лыжы навастрылі, малады чалавек?» Фядос нас не пазнаў, а мо прыняў, і гэта хутчэй за ўсё, за маладых практыкантаў тэрапеўтычнага аддзялення. Як было — адна Зіна суддзя. І яна прысела, хаваючыся, за сталы. Фядос жа як даў дзёру ў сваё аддзяленне ды ў сваю палату бягом, бух на ложак. У дзяжурнага ўрача ад нечаканасці вочы на лоб палезлі, ён акурат у палату зайшоў. Мы ў белых халатах скачам па лесвіцы на другі паверх, услед за напалоханым Фядосам. Смеху было, на чвэрць жыцця хапіла б. Фядос кляўся, што ў яго з Зінай нічога такога: «ні сімфоніі, ні какафоніі» — няма, але пасля нашых жартаў хто ж яму паверыць.

Я ад'язджаў у санаторый, у якім ужо была два месяцы Даша Савічык, і яна, я ведаў гэта з лістоў, чакала

мяне там. Адтуль яна мне даслала кнігу Мана «Чароўная гара». Уся наша палата прачытала яе, нават Гаўрыла, які нічога наогул не чытаў. Усё было добра, калі не цудоўна. Здароўе маё прыкметна ішло на папраўку. Мне хацелася ехаць у санаторый. У думках я ўжо быў там і неяк не звярнуў увагі, што нашага Гаўрылу павезлі на аперацыю. Ён доўга не згаджаўся, гутарыў з тымі, каго аперыравалі, ездзіў дахаты, развітаўся з жонкай, перавёў усе грошы на яе ашчадную кніжку. Пра гэта выпытаў у яго былы афіцэр Макаўка, які, дарэчы, падказаў нам, што Фядос падлабуньваецца да Зіны.

Гаўрыла і жыў сур'ёзна на зямлі, і работу рабіў надзейна і ўпраўна. Некалькі разоў ён даваў згоду на аперацыю, але ў апошні момант не падпісваў распіску. Доктар Фішкін правёў ужо некалькі дзесяткаў аперацый, Гаўрыла ведаў пра гэта: ён ляжаў у бальніцы восьмы месяц. Перад аперацыяй не пагаліўся, на двор не выходзіў, ляжаў на ложку ля акна.

— Аб чым думаеце, дзядзька Гаўрыла? — я, як звычайна мы рабілі, падбадзёрваў яго.

— Ды вось думаю, два моманты бог даў чалавеку, пра якія ён і расказаць не можа: нараджэнне і смерць.

— Ай, навошта пра смерць успамінаць. У вас працэс не самы цяжкі. Віцю ўдала ж зрабілі. Фядос як баяўся... Заўважыць у пасляаперацыйнага хворага дрэнаж у баку, млее сам. Не думайце пра смерць. Я па сабе ведаю: пачну пра яе, паганку, думаць, такі адчай нападае, хоць на асфальт з акна кідайся. Усё будзе добра.

— Дай бог. Ты вось што, сынку: я сваё, дзякуй богу, аджыў, а ты чапляйся за жытку і рукамі, і нагамі. У мяне адно дзіця ўсяго, і я пакутую, чаму так мала. А калісь не хацеў. Усё цяжка было. Жонка хварэла. Адкладвалі. Для сябе жылі. Усё хацелася нажыць дабра, а потым дзяцей завесці. Нажыўся... прыйшоў час пад нож ісці. Сталярны чамаданчык — усё маё шчасце, яй-богу. Скажы, от ты кніжкі, бачу, вельмі чытаеш: няўжо чалавек так вось знікае без слядоў?

— Не ведаю. Ніхто не ведае. Не думайце вы пра горшае, яй-богу, — няўпэўнена адказаў я.

Калі аперыравалі Гаўрылу, мы з Віцем залезлі на акацыю і падглядвалі ў акно аперацыйнай, а позна ўначы я пайшоў у пасляаперацыйную палату, падгледзеў, як ён спаў з чырвонай гумавай трубкай у носе. Сярод ночы Гаўрылу пагоршала. Выклікалі па тэлефоне Фіш-

кіна. Ратавалі Гаўрылу доўга, памёр ён пасля абеду. Машына з трunoю нябожчыка стаяла пасярод бальнічнага двара. На калгаснай «лятучцы» па бацьку прыехаў яго адзіны сын. Паставілі побач з трунай, быццам выконваючы апошнюю волю нябожчыка, слясарны і сталярны інструмент. Развіталіся з Гаўрылам усе. Фішкін стаяў ля акна ардынатарскай і плакаў. Такім я яго бачыў упершыню.

— Хе, артыст, — казаў мне на вуха афіцэр. — Што ты думаеш, яму Гаўрылу шкада? Не веру. Яўрэй, запомні, найперш пра сябе думае і дбае. У ім гонару многа. Аперацыя простая была, знаёмая, а тут няўдача. Чаго валіць усё на слабое сэрца? Ён за сваю рэпутацыю плача. Не вер яго слязам.

Я прыгледзеўся да доктара, ён не саромеўся на людзях выціраць хустачкай слязу. Мне падалося ўсё ж, што слёзы тады ў яго былі шчырымі. На месца Гаўрылы ля акна ў той жа дзень паклалі новага чалавека, я з ім паспеў толькі пазнаёміцца.

У сумным настроі ад'язджаў я з дыспансера ў санаторый. Да ўсяго чалавек прывыкае. Дзіўна: стала звычайным і не палохала суседства з палатай смяротнікаў, з моргам. Было тужліва развітвацца з афіцыянткамі, добрымі медсёстрамі, нянечкамі, лабаранткамі, быццам мяне адрывалі ад сваёй сям'і.

— Табе пашанцавала, — паляпаў мяне па плячы ўрач-зямляк. — Месяцы два-тры падмацуеш сілы ў санаторыі і забудзеш нават, што некалі быў у нас на вуліцы 17-га Верасня. Чаго ты панылы?

— Скажыце, Вячаслаў Ігнатавіч, ад чаго чалавек звычайна можа пакончыць з сабой?

Пытанне маё насцярожыла маладога доктара, ён, паклаўшы на стол рукі, ажно нахіліўся да мяне.

— Ну, многа фактараў ёсць. Нервовы стрэс, непераадольны адчай, доўгая і прыкрая залежнасць асобы. Самагубства — псіхасацыяльная з'ява. Прычыны самыя розныя. Я толькі магу табе іх абазначыць, не даследуючы глыбока кожную. Я ведаю прыклады самагубства ад празмернай веры ў Хрыста і ад веры ў грошы. Часам прычына самагубства — татальнае ўздзеянне асяроддзя, дэспатыя маральная, розніца паміж сваім маральным ідэалам і бездухоўнасцю навакольных, страшэннае, без-

надзейнае расчараванне ў жыцці, незаслужаны здзек, абраза асобы... часцей за ўсё бывае комплекс усіх гэтых праблем. Я ў маладосці студэнцкай нават пісаў работу ў навуковым гуртку, накшталт, здаецца, гэтага вось... як жа назва, дай бог памяці, а... вось: «Акт самагубства як следства парушэння сацыяльных сувязей чалавека, якія не бачыць радасці ад уласнай працы і неабходнасці сваёй людзям». Хвалілі. Гэта складаная, сусветная праблема. Што найбольш нас палохае: рак, хваробы сэрца, лёгкіх, самагубства. Тысячы людзей у дзень ва ўсім свеце добраахвотна робяць гэты апошні крок адчаю. Так піша статыстыка. А цяпер ёю ўсе пачынаюць захапляцца. Бывае, што чалавек адважваецца на самагубства, каб захаваць свой гонар, чыстае сумленне, а бывае, каб зняць з сябе віну. Спадзяюся, што ніводная фармулёўка табе не падыдзе? Чорны гумар, так? Жыві, Адась Доля, доўга, і прэч усе дурныя думкі з галавы. Не думай пра гэта. У нашым грамадстве з хворых на туберкулёз не робяць касту пракажоных, і псіхалагічна арганізм хворага мацнейшы: у туберкулёзніка жыццёвы тонус павышаны. Гарэлку толькі не пі. Вось табе выпіска з гісторыі хваробы, і шчаслівай дарогі. Будзеш у нас на ўліку некалькі гадоў і, прашу цябе, калі будзем выклікаць, прыязджай, а то ў нас ёсць такія зухі — з'едзе, згіне бескантрольна, глядзіш, праз паўгода ўсё пачынаецца па-новаму. Ды яшчэ горш — злева і справа па каверне. Перадай прывітанне Савічык. Мы з ёю суседзі па дому. Піша пісьмы?

— Бывае, піша.

— Талковая дзяўчына. Будзь здароў, шчаслівa.

«Шчаслівa» прагучала — як шчаслівай дарогі і шчаслівага жыцця, па-чалавечы цёпла і мілагучна. Я ехаў на другі канец Беларусі, ехаў адзін у самастойнае жыццё, законы якога, пісаныя і няпісаныя, спасцігаў пакрысе, быццам нехта адкрываў нябачныя дзверы і ўводзіў у новы і незвычайны пакой гэтага самага жыцця. А той самы першы пакойчык — родны дом — гэтак жа пакрысе ў маёй памяці саступаў на самы край, гатовы вось-вось згінуць у лабірынце бяспамяцтва. Я ехаў у падлеткавы санаторый даволі адукаваным чалавекам. Акрамя мастацкай літаратуры, я прачытаў у дыспансеры шмат кніжак і часопісаў з артыкуламі пра сваю хваробу. Ведаў, што кожны год у свеце з'яўляецца ад 4 да 5 мільёнаў хворых на туберкулёз, што паміра-

юць штогод ад яго ажно тры мільёны. Ведаў назвы ўсіх работ Роберта Коха, які ў сакавіку 1882 года выявіў туберкулёзную мікрабактэрыю, ведаў, што першы дыспансер адкрылі ў 1887 годзе ў Эдынбургу і што след туберкулёзу знайшлі яшчэ ў егіпецкіх муміях. Ведаў, што хвароба распаўсюджваецца ў асноўным паветрана-капельным шляхам, што да 1946 года быў адзіны сродак ізаляцыі хворых — дыспансерызацыя ці санаторый, а з адкрыццём моцнай хіміятэрапіі, паска (парамінасаліцылавай кіслаты) і ізанізіда (ГІНК), а таксама стрэптаміцыну туберкулёз пачалі лячыць і амбулаторна. Мне падабалася расказваць хворым пра французаў Кельмета і Герэна, якія ў 1921 годзе вынайшлі вакцыну БЦЖ[1], пра Коха, пра Ваксмана, які адкрыў стрэптаміцын. Маладым хворым я, як той пастыр царкоўны, казаў словы Фішкіна (ён мне іх часта нагадваў): «Табе пашанцавала нарадзіцца пасля вайны». Старым раіў выконваць рэжым, прадпісаны ўрачамі. Вядома, старыя — недаверлівыя, але кожны, і стары, і маладзейшы, несвядома цягнуўся да дыспансернага «таварыства» хворых, не саромеючыся адкрыць іншаму і радасць, і гора, і тайну сваёй душы.

Пры сустрэчы з хросным я рызыкнуў бы дадаць да ягоных любімых слоў «яднае чалавека хата, песня, работа» і сваё слова «хвароба».

Даша казала мне, што кожны чалавек мае ў сваім арганізме палачкі Коха, але яны бяздзейныя і прачынаюцца, толькі калі знаходзяць умовы. Яна даволі поўна расказвала пра штучны пнеўматоракс (увядзенне паветра ў плеўральную поласць з дапамогай іголкі) і тлумачыла мне, што пры ім зніжаецца інтэнсіўнасць функцыі лёгкага. Толькі тады я ўспомніў, што родная сястра Ваські Кіцеля гадамі хадзіла ў нашу паліклініку на нейкае, як казаў і Гаўрыла, паддуванне. Яшчэ адну інфармацыю я ўпарта адштурхоўваў: пра таракапластыка-радыкальны хірургічны метад, якога так баяўся і былы афіцэр Макаўка, метад, пры якім, пасля выдалення некалькіх рэбраў, лёгкае асядала. Я сустракаў такіх людзей на двары бальніцы з перакошаным набок плячом і баяўся ў іх распытваць пра здароўе.

Такія людзі чамусьці зрабіліся для мяне напамінам,

---

[1] Вакцына, якую выкарыстоўваюць для імунізацыі супраць туберкулёзу.

вартаўнікамі рэжыму. Угледзеўшы іх ці ўспомніўшы пра іх, я бег у палату, браў з тумбачкі таблеткі і каўтаў, не запіваючы вадой. Не было таго дня на працягу года, каб я забыўся іх выпіць. Нават браў таблеткі на дарогу і, хаваючыся ад падазронага вока, адварочваўся ўбок ці хаваўся за аўтобус і кідаў жменю таблетак у рот. Ад Дашы я даведаўся, што наша хвароба калісь звяла ў магілу і такіх вядомых усяму свету людзей, як французскі жывапісец Вато, нямецкі кампазітар Вебер, італьянскі мастак Мадзільяні, польскі кампазітар Шапэн, англійскі паэт Кітс, што на туберкулёз хварэлі пісьменнікі Багдановіч, Някрасаў, Чэхаў, Горкі, француз Камю.

Я ўспрыняў гэта неяк аптымістычна, вестка выклікала і юнацкі гонар, што нейкім чынам і я далучаюся да славутых людзей. Гэта нябачна надавала сілу волі больш, чым веданне таго, што ў нашай краіне туберкулёз амаль поўнасцю адолены.

Нам, маладым, у дыспансеры не міналі паказваць на медсястру, якая дзесяць гадоў таму хварэла на туберкулёз, а цяпер здаровая, і ў яе добрая сям'я і здаровыя дзеці. «Гэта адна на тысячу, тры тысячы, — не верыў былы афіцэр. — Туберкулёз перадаецца па ўнаследаванні. Паверце мне. Усё перадаецца па ўнаследаванні. Я вось учора перачытваў Заля». І ён пачынаў каторы раз падмацоўваць сваю думку творамі французскага раманіста. Фядос падтакваў начытанаму Макаўку, мо таму, што яго самога жонка пакінула, як толькі даведалася, што ён «фтызік»[1].

Не, я ехаў у санаторый без комплексу непаўнацэннасці, і мой урач-зямляк дарма насцярожана адказваў на маё пытанне пра самагубства. Пытаўся я ў яго пра гэта з прычыны іншай турботы. Я сталеў, і разам з маім сталеннем сур'ёзнелі і мае адносіны да жыцця маці, родных, бацькі. Бацька... Які ж ён? Хто ён? Нічога, акрамя надзеі на наступную сустрэчу, наша першая сустрэча не абяцала.

Трыфан Доля вярнуўся з вайны ў самым канцы сорак пятага года. Настрой быў цудоўны: прайшоў вайну, выжыў і нават не быў паранены. Набліжаліся вясёлыя спрадвеку зімовыя, так любімыя ім, святы: Новы год (а ўсе найбольш святкавалі Новы год па праваслаўным

[1] Ад грэчаскага «фтызіус» — чэзнуць.

календары 14 студзеня), хрышчэнне. Людную гульбу Трыфан любіў з дзяцінства. Святы ў сям'і Долі асабліва чакалі і паважалі. Пад святы здаўна неслі старому Долю на млын жыта. Пры Польшчы бацька Трыфана жыў не бедна і з маладых год прывучаў сына да гандлю, вазіў на курорты гандляваць лёдамі. Не ўсе гарадчукі разжываліся з гэтай таргоўлі, але і не бедавалі. Казалі, як сезон, як пашанцуе, як надвор'е. Трыфану гандляваць надта падабалася. У семнаццаць гадоў ён слыў ужо запраўскім лёдзежам. Хадзіў, праўда, яшчэ да Шлёмы, вучыўся на краўца, ды нешта хутка кінуў. Не мог таптацца вакол стала. Любіў работу, каб прастор быў, дарога была, каб шмат людзей страчалася.

Трыфан быў гаваркі, любіў пажартаваць. Марыў з дзяцінства стаць лесніком, але перадумаў, спужаўся адзіноты ў лесе. Усю вайну служыў ён на аэрадромах пры самалётах. Лятаць сам не змог бы — баяўся вышыні, таму, хоць і прапанавалі пасля дэмабілізацыі ісці ў лётнае вучылішча, адмовіўся. Цягнула да роднай Гарыні.

Хата Долі стаяла над самай вадой. Трыфан усю вайну сумаваў па сваім мястэчку, па гулянках, на якія збіраліся з гармонікам каля якой-небудзь хаты і да глыбокай ночы рагаталі, танцавалі, бегалі за дзеўкамі. За гэтую вольнасць, радасць мірнай маладосці, зорныя ціхія ночы, за дзявочыя косы, за хату над Гарынню-рэчкай і змагаўся з ворагам Трыфан.

Пасля вайны старыя яшчэ мелі здароўе, не згібелі ў акупацыю. Бацька хадзіў старастам у царкву, маці даглядала соткі на двух пляцах. Адзінага сына мілавалі.

«Не спяшайся, сынок, з работай. Адпачні. Маеш права. Як малы ў сне кідаешся — так вайна напалохала».

Трыфан даў нораву волю. Болей за яго ніхто той гарэліцы выпіць не мог. Год цягнулася свята. Працаваць не хацелася. Сустрэнуцца з аднагодкамі ля чайной, давай успамінаць гады ліхалецця, сяброў-аднагодкаў, смерць ды слёзы, нап'юцца... песні гарланяць і, пакуль жонкі не пазабіраюць па адным, так і ходзяць ад століка да століка. Усіх аднагодкаў Трыфан перажаніў, святкаваць вялікую перамогу не было з кім.

«Усё мае вайна з'ела, вучыцца мазгоў не хапае, і стары я, — казаў ён маладзейшым хлапцам, з якімі гуляў

у чайной. — У таго кожны дзень свята, у каго грошай багата». Малодшыя слухалі вопытнага Трыфана ўважліва, а калі хто пярэчыў, Трыфан у адказ: «Змоўкні. Ты пораху не нюхаў, нічога не разумееш». Узяўся Трыфан шыць чобаты. Гэта было адзінае, што пасля вайны карміла. Узяў нават патэнт, каб усё па закону. Праўда, пару мог шыць паўгода. От насіць іх прадаваць — гэта любіў.

Маці неяк насела на сына: «Шчо ж гэто таке? На людзі не пакажыся. Колькі ж піць можна ды гуляць. Жаніся, ці шчо».

— На ком жаніцца тут, на ком? — аднекваўся Трыфан. — Усіх талковых паразбіралі тыя, хто раньш з вайны прыйшоў. А казу маладую браць — якая з яе хазяйка?

— Дык бяры Марыю, дачку Насці. Цімоха-сапожніка дачку.

Маці Трыфана здавён сябравала з Насцяй, і, відаць, пра нешта такое жанкі самі дамовіліся.

— Маладая, — не падымаючыся з ложка, адказаў Трыфан.

— Маладая, ды спрытная. Пайдзі на Аселіцу на гулянку — прыгледзься. А шчо так, без дзела і сям'і, гібець. На пагібель гарэлку піць адно. Дваццаць гадоў, якая яна маладая.

— А я думаў, семнаццаць.

Трыфан аднойчы стрэўся з кампаніяй аселіцкіх дзевак. Прыйшоў на гулянку. Выпіў норму, каб для весялосці. На гулянках у Мельніках ці ў Гары адразу хапаў у барабаншчыка бубен і хвацка барабаніў, з прысвістам, як у запраўскага музыкі, бегала калатушка ўніз — да сабачай скуры, уверх — да талерак-люшак. На сваіх гулянках Трыфан мог перапыніць музыкаў і заспяваць сваю песню, без якой не абыходзілася ніводнае вяселле: «Скакаў казак чэраз даліну, чэраз каўказскія палі. Скакаў ён садзікам зялёным, кальцо блісцела на руцэ. Кальцо казачка падарыла, кагда казак йшоў у паход. Она дарыла-гаварыла, што чэраз год буду твая». Зрэдку давалі Трыфану аднаму даспяваць песню да канца. Хлопцы падхоплівалі знаёмыя словы і спявалі разам. Гэта вельмі не падабалася Трыфану. На гулянцы ў Аселіцы не спяваў, трэці раз узапар браў на танец Марыю. Што там уначы прыглядацца ды разглядваць. Прыціснуўся да яе твару сваёй няголенай шчакой.

Яна злёгку адпіхнула яго. Плюнуў тады Трыфан «на такую фанабэрыю», давай запрашаць на танцы больш рахманых, старэйшых за Марыю. Калі ж пад самы канец гулянкі Трыфан пачаў шнырыць, шукаць сярод натоўпу Марыю, здзівіўся, што яна пабегла дадому. Гэта неяк запала ў душу. Незадаволены, падышоў ён да хаты Цімоха, пастаяў ля плота, прыслухаўся: ці не праводзіў хто яе?

З таго часу пацягнула яго на вулічныя вячоркі. Аселіцкія дзеўкі хадзілі на прамбыткамбінат збіваць драўляныя скрынкі. Хадзіла з імі адзін час і Марыя. Неяк дзяўчаты вярталіся ў добрым настроі. Нарваўся на іх на дарозе. Не быў бы ён Трыфанам, каб не ўмеў вострым словам зачапіць дзевак. Тут і аселіцкія не разгубіліся, давай кідаць у Трыфана снегам, ён ад нечаканасці крыху сумеўся. Больш за астатніх кідала і весела смяялася Марыя. Ой, якой яна падалася яму прыгожай! Знерухомеў. Яны кідаюць, цэляць у твар, а ён стаіць, бы дэка цукру з'еў: лагодны, ціхі, жывы анёл.

Часцяком пачаў успамінаць гэты снег. Зноў маці насела неадступна: «Жанíся!» Сын суседа («малакасос у прышчах») набраўся нахабства, дражніў: «Глядзі, Трыфан, адаб'ю Маню, коб так жыў, адаб'ю».

«Пасылай сватоў да Марыі», — так казаў маці, калі ў прыцемках вяртаўся п'яны ад чайной. Ранкам, прыхаваўшыся за полагам ля печы, сядзеў моўчкі, бы доўбень, ад слоў сваіх учарашніх аднекваўся. «Ой, ухопяць яе, сыночак, глядзі. Пакуля мясаед не кончыўся, ідзі», — папярэджвала маці.

Праз тыдзень пасядзелі з бацькам на ганку, пакурылі, пагаварылі ўдосталь, узважылі ўсё, і Трыфан даў згоду: «Пасылай сватоў. Да Марыі».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Літаральна дзень-два спатрэбілася мне, каб ужыцца ў атмасферу санаторыя, дзе панавалі, у адрозненне ад дыспансера, высокі жыццёвы тонус хворых падлеткаў, весялосць, душэўны ўздым і натуральная радасць, бо ўсе, як і я, лічылі, што ўсё жахлівае засталося ў мінулым. Нават некаторыя і крыўдавалі, калі медсёстры прымушалі піць лякарствы, паўтараючы, што тут не адпачываюць, а працягваюць лячэнне. Здавалася, незвычайнай прыгажосці сама дарога да Браслава, паўз аснежаныя гонкія сосны, ля агромністага возера Нарач (а

калі яго бачыш упершыню — яно вельмі ўражвае сваімі прасторамі), якая праз кожны дзесятак кіламетраў раптам лезе на гару, потым абрываецца ўніз зноў да самай вады якога-небудзь маленькага азярца ці рачулкі, зацярушанай першым снегам, альбо правядзе праз стары хваёвы лес і зноў выведзе на палі азімых, сама гэтая цуд-дарога загадзя настройвае цябе на радасць сустрэчы з санаторыем, акрыляе самыя лепшыя пачуцці падзякі за жыццё і спадзяванні. Калі дадаць да ўсяго гэтага яшчэ і тое, што цябе там чакаюць, дык цалкам можна ўявіць без перабольшвання, што едзеш у рай. З кожным новым заездам у санаторыі выслабаняецца добрая палова месц. Мне пашэнціла: я прыехаў адным з першых. Астатнія хворыя запаўняюць санаторый на працягу двух-трох дзён. О, аказваецца, як цікава і нават весела назіраць за навічком! Хто ён, адкуль, як апрануты, які ў яго чамадан, з бацькамі прыехаў ці адзін, з якой вобласці, гарадскі ці вясковец, «салага» ці аднагодак? Не дай божа прыехаць каму-небудзь аднаму і нарвацца на ўсіх, калі ўсе толькі таго і чакаюць. Высунуцца ў вокны, адчыняць фрамугі і ў адзін голас завядуць прывітальнае на адной ноце «у-у-у-у-у». Не паспее, стаіўшы дыханне, той небарака-навічок пераступіць парог сталоўкі, як зноў усе па камандзе: «у-у-у-у-у». Мяне так сустрэлі. Угнуўся я над сталом, ледзь галаву на талерку не паклаў, счырванеў увесь, але выседзеў, не ўцёк, як уцякалі пасля мяне, асабліва дзяўчаты.

Забывалася, што недзе далёка на свеце жывуць дзед, баба, дзядзька, Воўк-пустэльнік, Граноўскія, бацька. Я пачынаў згаджацца з такімі думкамі: як лёгка і хораша жыць, калі не абавязаны нікому і нічым, калі вольны і незалежны ў сваіх учынках, калі адно трывожыць душу — як дагадзіць і пацешыць самога сябе. Усяляк заахвочваў мяне ў гэтым і мой новы знаёмы Кірыл Булька.

У санаторыі я перапісваўся толькі з Гасцюшкіным. Мой лепшы сябра акуратна падаваў усе школьныя і давыд-гарадоцкія навіны. Рызыкнуў, напісаў адзін ліст без зваротнага адраса на канверце і Валі Цялегінай. Не ведаю, мо няшчыра, але яна адказала. Вельмі коратка напісала, што рыхтуецца паступаць у Маскоўскае вучылішча імя Баўмана. Сваю добрую долю адыграў тут і першы доктар навук з Давыд-Гарадка Самсон. Сама-

любівыя палешукі спахапіліся, кінуліся даганяць славу старога Самсона.

Мы неяк у класе падлічвалі для школьнага музея, дзе хто з нашых вучыцца, і ведалі, што не было пакуль студэнтаў з Давыд-Гарадка ў Баўманскім вучылішчы і Дзяржаўным інстытуце кінематаграфіі. Я намеціў паехаць менавіта туды, у славуты і далёкі ВГІК. Дзве мары — стаць фізікам альбо касманаўтам — кіравалі помысламі і дзеяннямі класа; мая ж, зрабіцца кінарэжысёрам, не саступала па славутасці гэтым дзвюм. Яшчэ ў бальніцы я пачаў збіраць інтэрв'ю тых, хто скончыў гэты інстытут. Кожны даваў адны і тыя ж парады: трэба цікавіцца жывапісам, скульптурай, гісторыяй кіно, літаратурай. Я, як шалёны, кінуўся павышаць сваю эрудыцыю. «Хлопец, у цябе, акрамя туберкулёзу, можа быць завіхрэнне мазгоў», — папярэджваў былы афіцэр Макаўка. Я абклаўся разумнымі кнігамі, даведнікамі і мудрымі энцыклапедыямі. Стану — як Бандарчук і Герасімаў.

Але ж мяне хапіла ненадоўга. А вольнае санаторнае жыццё спрыяла вясёламу, бестурботнаму адпачынку. У вялікім двухпавярховым драўляным будынку, які ладна ўпісаўся ў сасновы бор на высокім беразе браслаўскага возера Дрывяты, панавалі маладосць, бадзёрасць, якія знішчалі ў свядомасці рэшткі ўспамінаў пра бальніцу, думкі пра смерць.

Праз тыдзень я меў мноства сяброў і пашану — а ўсё за што? На святочным канцэрце я, вопытны артыст давыд-гарадоцкай сцэны, старанна прачытаў некалькі баек і гумарыстычных апавяданняў. З выхавацелем я гуляў у більярд. Тут таксама дапамог вопыт гарадоцкага клуба. Выхавацелю падабалася, што прыехаў нарэшце сур'ёзны працаўнік, будзе з кім час бавіць за гульнёй і самадзейнасць рыхтаваць. Яшчэ праз дзень-два мой новы сябра Кірыл Булька паведаміў мне пра ўсіх: хто ёсць хто і хто з кім. Сярод самых старэйшых (семнаццацігадовых) існавалі ўжо свае «парачкі» закаханых, а чатырнаццацігадовыя патаемна ім зайздросцілі. Булька настойліва, упарта рыхтаваўся да паступлення на журфак і багата чытаў усялякай літаратуры, пісаў сачыненні і дасылаў у сваю школу. Гэты ачкарык з хітрымі вачыма, з ёршыкам валасоў ведаў, здавалася, усё, што надрукавана было ў часопісах за апошні час. Ён страшэнна крыўдаваў на таго, хто прыносіў выхавацелю

першым якую-небудзь навіну свету, Браслава, санаторыя. Я яго пачаў паважаць за такую настырнасць да ведаў і крыху зайздросціў. Булька адпачываў у санаторыі чацвёрты месяц і лічыўся «старым». Я, не аспрэчваючы, прымаў яго характарыстыкі новых сяброў і знаёмых. І Бульку падабалася, што я згаджаюся з яго меркаваннямі. Адно толькі пра Дашу Савічык ён нічога не сказаў, што мяне здзівіла, але я не захацеў цікавіцца, каб не выдаць, што мы з ёю даўно знаёмыя.

— Да-а, не быў бы Булька Булькам, — кінуў мне неяк на хаду санаторскі музыкант Аскольд.

— А што такое?

— Хай ты здаровы будзеш, пісьмо з манастыра наш Булька атрымаў.

Я ад такой навіны ажно ачмурэў. Сам Булька мне паведаміў, што сапраўды звяртаўся да служкаў бога з пытаннем: як да іх у манастыр паступіць? У лісце вельмі тактоўна і зацікаўлена адказалі, што манастыр не вышэйшая ўстанова, што ніякіх экзаменаў, як пытае аўтар, здаваць не трэба. Абіцель боская адчынена для ўсіх жадаючых. Манастыр (ён пісаў пад Слонім) часова не мае магчымасці забяспечыць келлямі ўсіх «жадаючых». Пры манастыры ёсць чарга, аднак няхай гэта вас не палохае, праз нязначны час у манастыры будзе магчымасць стаць паслушнікам кожнаму «страждущему».

Мігам разнеслася пагалоска, што Булька збіраецца ў манастыр. Пачалі актыўна ўсе адгаворваць (выхавацелі, урачы), адпачываючыя прасілі паказаць пісьмо ігумена.

— Няўжо ты напраўду туды хочаш? Ты ж камсамолец! — заклікаў да раскаяння Бульку і я.

Ён не без яхіднасці скрывіў рот усмешкай:

— Ты яшчэ малады, Адась. Не ўсё разумееш. Нічога я пакуль не хачу. Няхай будзе і гэтая магчымасць на запас. Чалавек павінен у юнацтве вызначыць і знайсці прытулак «для отдохновения души». Я не ўпэўнены, што мяне грамадства прыме як роўнага. Я тут хацеў запісацца ў школу. Мне адмовілі. Хворы. Так, як яны мяне ненавідзяць, так і я буду іх ненавідзець.

Я заўважыў, яму падабаецца быць на віду, нават няхай праз момант авантурыстычнасці, падтрымліваць цікавасць да сваёй асобы. Яшчэ праз дзень я ведаў, на якой лаўцы ў нашым гаі любяць збірацца парачкі, хто даўно ў санаторыі, хто нядаўна, хто найчасцей ходзіць у

горад. У гарадскі кінатэатр хадзіць не дазвалялі, у нашым клубе круцілі сваё кіно, і я толькі два разы выходзіў у цэнтр: паглядзець на славуты касцёл ды абысці магазіны, не купляючы нічога. Рэшту грошай хаваў на кіно. Яшчэ праз дзень я ўжо не саромеўся роўна а другой гадзіне грукаць у дзверы сталоўкі: «Адчыняйце!» З такім нецярпеннем гарланіў, быццам не еў тыдзень.

Вечна нечым незадаволеная афіцыянтка, якая вынесла паднос з ежай (я прыкмеціў, яна насіла харч на другі паверх увесь тыдзень), не прамінула ўшчыкнуць:

— Не паспеў прыехаць, а ўжо такі нахабны.

Я ведаў яе бурлівы нораў і змаўчаў. Мяне больш цікавіла, каму яна носіць ежу ў палату.

— Каму, цікавішся, носяць абед? — казаў мне за нашым сталом ля вялізнага папаратніку Булька. — Ёсць тут адна. Ларыса Паўловіч. Умысна прыдумала сабе хваробу сэрца, каб ніхто яе слёз не бачыў.

— Чаго так?

— Убіваецца. Выпісалі тут за парушэнне рэжыму санаторыя, якраз перад тваім прыездам, аднаго фраера. Любоў яе, — бы з нейкай зайздрасцю да таго хлопца, сказаў Булька.

— Перажывае так?

— Больш выступае, каб пашкадавалі. Не бяры да галавы. На вось лепш пачытай. Чарга нашай палаты. — Ён падаў мне кніжку, загорнутую ў зашмальцаваную ад мноства рук газету.

— Што гэта?

— «Дэкамерон» Бакачыо. Усё пра адну любоў. Кніжку гэтую прывёз сюды той самы хлопец Ларысы. Пакінуў яе санаторскім на памяць. Толькі на вачах у медперсаналу не чытай.

Я схаваўся ў клуб — меў свой ключ, як адзін з кіраўнікоў самадзейнасці і більярдыст — і літаральна за дзве гадзіны праглынуў усю кніжку. Мо ад таго, што на маю свядомасць адразу ўздзейнічала так многа розных праяў кахання, мне чамусьці больш за астатнія спадабалася навела пра Танкрэда, які забіў любоўніка сваёй дачкі і прыслаў ёй яго сэрца, а таксама ўсе паходжанні мастакоў Бруно і Буфальмака. Зусім я не зразумеў Ізабелу, у якой былі адначасова два любоўнікі.

— А што, дзявочы паверх «Дэкамерона» чытаў таксама? — пацікавіўся я, вяртаючы кнігу Бульку.

— Так. Ён ім нават першым перадаў яе.

«Шкада, — падумаў я, — не будзе чым казырнуць перад Дашай». Я адразу забыўся пра свае думкі: у сталоўку спускалася з другога паверха Ларыса Паўловіч. Кінуліся ў вочы яе прыгожы тварык з заплаканымі вачыма, худыя рукі з доўгімі пальцамі і доўгая густая каса. Не надта каб з апетытам яна нешта з'ела (я сачыў пільна за кожным яе рухам) і хутка пакінула сталоўку першай. У клуб яна не хадзіла, зрэдку сядзела з сяброўкамі ў холе на другім паверсе, не было яе і на танцах. Булька, не ведаю, дзе ён знайшоў, паказаў мне фота таго хлопца, з якім Ларыса сябравала. Асабліва прыгажосцю ён, як і я, не вызначаўся, ва ўсякім разе, я ўяўляў яго героем-прыгажуном, думаў, што іншага Ларыса, такая надменная прыгажуня, і не выбера. Булька падахвочваў, неўпрыкмет падбіваў да знаёмства з ёю, рабілася аж падазрона: а ці не робіць ён гэта наўмысна, каб была яшчэ адна падстава, калі дзяўчына «адшые» мяне, падняць на смех.

Мне бытта нечага не хапала. У такія хвіліны, бывае, прыходзіць зусім нечаканая думка. У мяне скончыліся грошы, і я тут успомніў пра сустрэчу ў чайной, вырашыў напісаць свой першы ў жыцці ліст да бацькі. У пісьме я не надта падрабязна апісваў цудоўныя ўмовы санаторыя, а ў асноўным наўмысна скардзіўся на слабыя і некаларыйныя харчы. Знарок так пісаў, спадзеючыся, што ён зразумее мой намёк. У канцы дадаў, што на мясцовым базары ёсць добры мёд і свежае сала.

Бацька на ліст не адказаў. Праз дзён восем мне прыйшоў ад яго грашовы перавод на дваццаць рублёў. Я не хацеў пазычаць у Булькі ніводнай капейкі. Ён не быў сквапны, але звычку меў дурную. Пазычыць каму-небудзь тры, пяць рублёў — яму айчым дасылаў грошы часта — і абавязкова на людзях спаганяе доўг: «Гэй, Матусевіч, ты калі мне тры рублі вернеш?»

— Ну, з грашыма найлягчэй прагнаць млявы настрой, — вяшчаў ён, калі мы разам пайшлі на пошту.

Употай мы купілі дзве бутэлькі сухога віна, выпілі з хлопцамі за клубам, бутэлькі закінулі ў малады ельнік, які шчыльна лез да клубнай сцяны. Былі танцы, на якіх я ўпершыню заўважыў сярод сяброўак у кутку Ларысу. Яна распусціла сваю касу і стала яшчэ прыгажэйшай, прыцягальнай. Я павесялеў, як калісь пасля выпітага з Толікам віна перад школьным вечарам. Палез на сцэну, каб аб'яўляць кожны раз назву новага

танца, і не прамінуў, каб не сказаць які-небудзь кароткі жарт ці анекдот.

Ларысу, бы згаварыўшыся, ніхто не запрашаў на танец. За маімі ж рухамі і словамі з другога кутка клуба неадступна сачыла насцярожанымі вачыма Даша Савічык. Гэтае яе падпільноўванне мяне раздражняла. Я рызыкнуў і запрасіў Паўловіч на адзін танец, другі. Яна не адмовілася.

— Мяне завуць Адась.

— А мяне Ларыса.

Ахоплены мілагучнасцю, прастатой яе голасу, я падаўся інтуітыўна бліжэй да яе, некалькі разоў датыкаўся сваім тварам да яе гарачай шчакі. Я рыхтаваўся чакаць зацятае маўчанне, а яна вось як, бытта і хацела пазнаёміцца хутчэй.

На белы танец мяне запрасіла Даша. Бачна было, што яна запсіхавала, танцавала не размаўляючы. Я ўсімі паглядамі і рухамі, танцуючы, паказваў баяністу Аскольду: маўляў, «глушы шарманку». Дабрадушны Аскольд, якога камісавалі з флоту з-за нейкай хваробы і які вельмі любіў усіх нас, усміхаўся і знарок расцягваў мяхі баяна зноў і зноў. Ларыса ж, застаўшыся ў кутку адна, раптам пакінула залу. Мне захацелася кінуцца наўздагон.

Гледзячы на маё стомленае аблічча, Аскольд аб'явіў перапынак. Праз хвіліну я, непрыкметна, пакуль усе астатнія распачалі гульню «Ручаёк», выбег з клуба. Дагнаў Ларысу ў дзвярах корпуса і зноў нечакана разгубіўся пасля таго, як яна нічога не адказала на маю прапанову «можа, пагуляем», неспадзеўна так праігнаравала. Тады я выбег з корпуса на вуліцу і нейкі час умысна хадзіў пад вокнамі яе палаты. Як так? Якія падставы для змены яе паводзін?

«Бач, цаца якая! Аплявуху нябачную пасадзіла. Ці не занадта незалежна і высакамерна сябе паводзіш?» — абурыўся я.

Танцы скончыліся. Не дачакаўшыся Ларысы і каб не сустрэцца са сваімі, я паскорыў крок да адміністрацыйнага корпуса, у цемру. У тую хвіліну, здаецца, ніхто не змог бы суцішыць боль майго зняважанага сэрца. Адна радасць, што душа мая, гэта я ўжо заўважыў і ў адносінах да Цялегінай, выслабаняецца ад прыгнёту гневу і нянавісці вельмі хутка.

Уранку я даведаўся, што Ларыса ўмела і любіла

іграць на піяніна. У мяне быў запасны ключ ад клуба, і я прапанаваў ёй прыходзіць калі-нікалі ў «ціхі час» да клуба. Яе згода вярнула нанова ўсю любасць у маю душу. Яна іграла, калі параўнаць з якім-небудзь вундэркіндам, даволі пасрэдна, ды музыка яе гучала для мяне, быццам песні нябесных арф раю. Яна найбольш любіла і кожны раз выконвала накцюрны Шапэна і «Лунную сонату» Бетховена (першую яе частку). Гэтыя рэчы яна іграла з добрым пачуццём і натхненнем. Нашы ўцёкі сярод дня хутка заўважылі. Нехта падсмейваўся цішком у кулак, нехта здзіўляўся, нехта зайздросціў. Цяпер мы з ёй ахвотна прагульваліся па сасновым бары да горкі перад абедам і вячэрай. Я з прыемнасцю слухаў яе расказы пра Мінск (яна была родам адтуль), пра тэатры, пра сустрэчы з кіназоркамі, пра далёкае жыццё славутых кампазітараў. Мне падабалася, што мяне яна лічыла дасведчаным чалавекам. Ларыса перапісвалася з тым хлопцам, я ведаў пра гэта, і мне цяпер хацелася папытацца: хто ён, адкуль? Даша Савічык пасля маіх частых сустрэч з Ларысай сваіх адносін да мяне не змяніла. Лічыла, як мне здавалася, што нічога паміж мною і Ларысай няма і быць не можа. Мяне злаваў яе знешні такі спакой. Няўжо яна не бачыць, што Ларыса сімпатызуе мне? Так лічылі амаль усе ў санаторыі, нават асцярожны ў вывадах Булька. Аднак і яны, і я памыліліся. Усё ішло найлепшым чынам. Мы па-ранейшаму гулялі разам, падымаючыся на Лысую гару, браліся за рукі, сядзелі побач у кіно. Даша Савічык садзілася за намі і частавала нас мятнымі цукеркамі. Гэта ў мяне выклікала іранічную ўсмешку... Чаму?.. І сам не ведаў.

«Герой ты, Адась», — хваліў мяне і музыкант Аскольд.

Адзінае, што я не дазваляў сабе, дык гэта пацалаваць яе. Думалася, што пацалунак можа спаганіць цяплынь і хараство нашых адносін. Усё ішло да пацалункаў, але нельга было прыспешваць гэтую святую гадзіну. Няўжо нас лёс сутыкнуў на шчасце? Прыціх і Булька, не мае чаго сказаць на мае поспехі. Але я памыляўся.

Нягоды пачаліся ў адзін дзень і знішчылі маю ўзнёсласць душы і ўрачыстасць блізкасці з Ларысай.

Зусім нечакана прыехаў у Браслаў яе той хлапец.

Яны сустрэліся ля брамы санаторыя і прагульваліся няспешна ля плота, не заходзячы на тэрыторыю.

Булька першы падхапіў гэтую навіну і пацягнуў мяне сілком за рукаў да брамы. Той хлопец змераў мяне вокам, быццам нешта падазраючы. Гарачая чырвань пабегла па маім твары.

У той дзень Ларыса не прыйшла на абед. Я як сеў на лаўцы супраць галоўнага корпуса, так і праседзеў дзве гадзіны. Яна прабегла непадалёку, не заўважаючы мяне, а ўвечары пасля абходу ўцякла да яго ў гасцініцу і ноч не начавала. Гэта стала вялікім і мо першым ЧП за ўсю пяцігадовую гісторыю санаторыя. Назаўтра Ларысу выпісалі, пазначыўшы ў гісторыі хваробы: «За грубае парушэнне санаторнага рэжыму». У гэты ж дзень, пасля абеду, яна з невялічкім чамаданчыкам пакінула санаторый. Да аўтобуснай станцыі яе праводзіла ўсяго адна сяброўка з іх палаты, якая мела мянушку «штатны праважаты» і праводзіла ўсіх, у які б час хто ні ад'язджаў. Яна ж, «цётка Тамашоўна», і сказала, што Паўловіч паехала ў Мінск разам з ім.

Я адзін хадзіў па той самай дарозе, па якой учора шчаслівы хлопец вадзіў Ларысу. Галава бы чыгунок: ні аб чым не хацелася думаць, нічога не хацелася чуць. Кідаў, як напаўвар'ят, снежкамі ў заінелыя і абвіслыя правады. Блытаўся вакол санаторыя, пакуль не сцямнела, вячэраць не пайшоў. У палаце святло не ўключаў, лёг нераздзеты на ложак, падклаў рукі пад галаву. Я быў злы на ўвесь белы свет, ненавідзеў сябе, сваю хваробу, свае лапавухія вушы, невялікі рост і кволую мускулатуру. І найбольш злаваў на іх, на Цялегіну, на Ларысу, нават на Дашу Савічык.

Я ведаў, чакаў, адчуваў, што яна недзе тут, недалёка, на калідоры. Даша пастукала ў дзверы і пераступіла, не чакаючы запрашэння, парог маёй палаты. Мяне ўсё раздражняла, хацелася плакаць і лаяцца з кожным, хто асмеліцца мяне закрануць хоць адным словам.

— Ты захварэў? Не пойдзеш вячэраць? — неабачліва папытала яна.

Голас прагучаў рыпуча, падалося, што мяне ўджалілі словамі, бы пчала.

— Так! Ты не памылілася. Я хворы на ўсё жыццё! — узарваўся я. — Хіба табе гэта невядома? Так, не пайду вячэраць. Я сыты! Сыты, разумееш?

— Я не думала, што... Я толькі... Я... — зусім разгубілася Даша.

— Што ты не думала? Пачакай. Я адкажу за цябе. Ты ж задаволена, ты нават шчаслівая! Так, так... Толькі ты жорстка памыляешся! Я не люблю цябе! Ніколі не любіў. Ні ў бальніцы, ні тут. І не палюблю ніколі, помні пра гэта!

Голас яе патух на паўслове, здаецца, яна нават заплакала і паспешліва выйшла.

Я тупа глядзеў на столь. «Няўдачнік. Адно слова — няўдачнік. Які я герой? Смеху варта. Крануць яе за руку саромеўся. Ідыёт. Наіўны ідыёт».

Зазірнуў Булька, уключыў у палаце святло.

— «О женщины, вам имя вероломство», — вучыў нас у такіх выпадках вялікі Шэкспір.

— Ды ідзі ты... — фыркнуў я.

— Не крыўдуй. Я ўсё разумею, а чаму? Таму, што тое ж перажыў і сам. Так, не здзіўляйся. Некалькі месяцаў назад. Як толькі пазнаёміўся з Ларысай. Не варта ўбівацца, павер майму вопыту. Жанчыны ў сваёй большасці пакідаюць у нашых душах насенне нянавісці і незагойнай крыўды. Патрабаваць ад іх спагады, любасці ў адказ на тваю пяшчоту і ўвагу — наіўныя мары прастака. Жорсткасць, халоднасць, абыякавасць у адносінах з усімі — вось, на маю думку, шлях да незалежнасці, душэўнага спакою. Я не хачу любіць жыццё не толькі таму, што яно мне падарыла хваробу, а таму, што яно распараджаецца сітуацыяй па ўласным жаданні. Кожны новы дзень мяне нанова і робіць. Шчасце (як мне здавалася) мінулага дня было ілюзорным і такім нязначным.

— У чым выйсце? — папытаў я, не зусім разумеючы яго словы.

— Браць ад кожнага дня для сябе і толькі для сябе ўсё, што магчыма. Я проста ўпэўнены, што ты не пацалаваў яе, як, дарэчы, і я. Так?

— Так, — праз зубы адказаў я.

— Я дык сабе гэтага не дарую да канца дзён сваіх, а ты?

— Не ведаю.

Булька чамусьці грэбліва зморшчыўся, быццам я сказаў нешта нягеглае.

— Ну-ну. Сумненні — вось асноўная і нябачная сіла жыцця. Яны наталяюць надзеі. А раптам зменіцца?

А калі ўсё перайначыцца? А можа, пашанцуе? Фэ, як кажа Аскольд. Рацыянальна — пастаянна забіраць сваё і для сябе ад кожнага дня. Табе трэба думаць пра адно: дзе ў будучыні шукаць (зарабляць) грошы, як мага болей грошай, а з імі лёгка ўтварыць сітуацыю, наняць ці набраць сяброў, неабходных менавіта на гэты адзіны дзень ці тыдзень. Ты не пойдзеш сёння на танцы?

— Не, — крута адказаў я.

— Дарма. Навошта паказваць усім сваю слабую сілу волі? Як сябар табе раю: забудзь. Мы знойдзем, як ёй адпомсціць, калі, канечне, нас заўчасна не пакліча цётка з касою.

«Мо сапраўды не варта ўбівацца? — разважаў я, застаўшыся адзін. — Мо прыслухацца да слоў Булькі? Калі ўсё тлен і небыццё, дык ці варта, каб з-за яго разрывалася сэрца? А Даша? Яе ж віны няма тут».

Я пачаў шкадаваць Дашу.

«Вінаваціць трэба найперш сябе, тады і высветліцца, хто з астатніх вінаваты», — намагаўся я на манер Булькі філасофстваваць.

Дашы прапанавалі застацца яшчэ на два месяцы. Яна адмовілася катэгарычна. Я прыкінуўся, што занядужаў, і праводзіць яе да аўтобуснага прыпынку не пайшоў.

«Калі яна выбрыкі такія ўпартыя робіць пасля нашай сваркі — дурная ўдвая. Здароўе ад уласнай фанабэрыі не палепшыцца». Праводзіць я не пайшоў, але ж выйшаў да шашы і залез на вялікі камень ля дарогі (такіх камянёў на Браслаўшчыне мноства). Аўтобус якраз рабіў ля каменя паварот. Даша сядзела ля акна і, як я паспеў угледзець, заўважыла мяне. Я з дакорам глянуў ёй у вочы. Яна сядзела нерухома.

Не, я не кахаў Дашу... не... пакуль не кахаў.

У душы таўкліся горыч, крыўда, боль. Пайшоў я нізам, ля возера, і ўбачыў, як угару, да санаторыя падымаецца Булька.

«Дык ён хадзіў праводзіць Дашу? Як? Ух, Булька, ціхая сапа! Што гэта: ад сімпатыі ці знарок, каб потым дакараць мяне тонка так, дыпламатычна ўрокамі джэнтльменства? Гаворыць адно, а жыве па-другому. Ну і Булька».

Ён паскорыў крок, каб са мной не сутыкнуцца.

Уначы бачыўся мне сон. Мой далёкі, у зеляніне, Давыд-Гарадок. Пеця Слабада, увесь у мыле, які нырнуў з лодкі і надоўга знік. Жэня Мэко, які босы ішоў ля плота ў халоднай вадзе паводкі. Дзядзька Міхалка, які гандлюе насеннем кветак на базары... Што здзівіла... стол, на якім ляжаць торбачкі з насеннем, увесь чарнюткі. Я некуды доўга бег, уцякаў ад цемры, пакуль не сустрэў сваю маці, абняў яе, заплакаў горкімі слязьмі і ўсё скардзіўся: «Мамо... Мамо... мне цяжка. Чаму цябе няма? Чаму? Мне цяжка... няма з кім параіцца... я адзін... адзін. Свет паступова адчыняе мне дзверы сваіх таямніц, радасцей, пакут, трывог і спадзяванняў... мне боязна, я баюся памыліцца. Я адзін, мамо». Маці нічога не адказала, толькі пяшчотна гладзіла мяне па галаве.

Патроху той казус з Ларысай Паўловіч забыўся, не сніліся больш і яе прыцягальныя вочы. Мы з выхавацелямі наладзілі добры канцэрт, былі частымі і жаданымі гасцямі ў далёкіх вёсках, вярталіся ў санаторый апоўначы.

Мяне па-ранейшаму ўсе любілі, я карыстаўся сякой-такой славай жартаўніка і здольнага артыста. Булька ўсё часцей між словамі выпытваў у мяне пра нашы з Дашай адносіны там, у брэсцкім дыспансеры. Я аднекваўся ці пераводзіў усё на жарт. Мне як быццам нечага ўсё ж не хапала. Строгай і недаступнай Цялегінай, сціплай і дабрадушнай Дашы, прыгожай і адкрытай Ларысы?.. Не ведаў. Нечага не хапала ў душы. Былі сытная ежа, чысты пакой, цёплы ложак, пашана, воля, здароўе, а душа ўсё неяк ныла, пякуча трымцела, ці што. Усё часцей я пачаў згадваць сваю бабу Насцю, дзеда Цімоха, Ваньку Гасцюшкіна, Цялегіну, хоць адчуваў, што ранейшага моцнага пачуцця да яе не маю, успамінаў нашу ціхую вуліцу, бераг Гарыні. Мяне цягнула ў школу.

Увесь санаторскі рай паступова абарочваўся для мяне надакучлівай аднастайнасцю. Аскольд казаў, што я па натуры гуляй-вецер і што ўсіх у семнаццаць некуды цягне. Мне прапаноўвалі застацца яшчэ аж на два тэрміны (чатыры месяцы), я не згадзіўся. Тады галоўны ўрач, якая больш за астатніх рагатала з маіх баек, рызыкнула прапанаваць мне работу ў клубе (масавік-

забаўнік). Я ўпарта не згаджаўся, быццам нейкая сіла падказвала — не тут тваё шчасце, не тут. З невыноснай сілай пацягнула дахаты. Пайшлі мяне праводзіць тры палаты сяброў. Аскольд узяў свой баян і жарыў па дарозе маршы. Так балюча зрабілася развітвацца з усімі санаторскімі, што я не стрымаўся і ўсплакнуў у тамбуры «кукушкі», калі праязджалі ля сасновага бору санаторыя.

«Ты не бойся пустэчы вакол сябе, ты бойся пустэчы ў сабе, — успомніў я словы Воўка-пустэльніка, — бо пустэча вакол цябе толькі ад холаду і абыякавасці ў душы тваёй».

Дзіўна. Чаго ж я плакаў? Я так ірваўся хутчэй адтуль з'ехаць! І што за натура такая чалавек? Я не зусім яшчэ разумеў: што ёсць паняцці — роднасць духу, еднасць лёсу, парасткі чалавекалюбства, сяброўства... Мо і не варта было тады разумець. Хацелася жыць, верылася, што буду жыць, што ўцёк так-сяк ад хваробы. Мары, салодкія грандыёзныя мары агарнулі мяне. Хацелася як мага хутчэй атрымаць атэстат за сярэднюю школу. Непераадольна неслася абапал чыгункі вясна. Яна стукала ў сэрца без дазволу, абуджала новыя сілы; і празрыстая яснасць неба, якая сляпіла вочы, і чорная ўзараная ралля, і першы бусел, і светлая зелень вербаў — усё кранала і песціла душу.

Мой жвавы дзед Цімох Ганчарык памёр хутка. Ушчамілася ў яго пупочная грыжа, калі калоў дровы. Міхалка, на другі дзень як злёг дзед, прывёў Урбановіча.

— У хірургію трэба. Відаць, грыжа падала сігнал, — змрочна сказаў ён.

Дзед паабяцаў доктару: калі не палепшае, пойдзе ў бальніцу. Ніколі я не бачыў яго такім цяжкахворым. Купіў нямоглаsuccamу дзеду чакушку і плітку шакаладу.

Упершыню баба Насця не пярэчыла супраць чакушкі. Дзед, на радасць нам, выпіў грам трыццаць. Ацёмначы Міхалка зноў прывёў Урбановіча.

— Та-ак, дзела не будзе. Бяжы, Міхалка, па «хуткую дапамогу». У дадзеным выпадку магчымасці Урбановіча абмежаваны.

Дзед перад дарогай прычасаўся, падстрыг нажніцамі кончыкі вусоў.

— Ай, нешчо мне не хочацца туды ехаць. Коб не балела, халера, зроду не паехаў бы. Насцё, калі памру, ты пойдзеш дажываць век, як пайшла да Мірона Гуня на Прасарэддзі? — напаўжартам, але вельмі насцярожана папытаў дзед.

— А цьфу, каб ты сто гадоў жыў. Ці ж я недаверак нейкі? Ты ў мяне адзіны быў і ёсць, з табой у сэрцы і ў магілу пайду. Абу-шчо гаворыш. Цьфу!

Мы з бабай заснулі позна, мо каб ведалі, што аперацыю будуць рабіць адразу, дык і не спалі б. Ранкам, як толькі выгналі кароў на пашу, бы з туману, вырас перад вокнамі Міхалка. Баба пабудзіла мяне.

— Ідзі, унучак, адчыні. Нешта ж ногі мае не слухаюцца.

Дзядзька няспешна пераступіў парог, зняў сваю бела-шэрую кепку, сказаў:

— Няма больш дзеда. Памёр. Якаў пайшоў да Паўлёнка. Возьмем каня ды прывязём.

Нас з бабай як бы абдало холадам, дых перахапіла.

Потым я даведаўся, што дзед адну аперацыю вытрымаў, а сярод ночы пачаўся заварот кішок, паклалі на стол яшчэ раз, і ўжо тады... За тры дні да смерці дзеда баба Насця таўкла ў ступе проса і думала: «Божачка мой міласэрны, гэто ж я таўку проса на памінкі». Потым часта згадвала мне гэтыя свае думкі баба Насця.

Я трымаўся, не плакаў. Дзіўна, можа, але дзеда-нябожчыка я не баяўся. Не было таго цяжкага здранцвення, як на пахаванні маці. Калі сцямнела, нават пайшоў да яго ў пярэднюю хату, накрыў труну льняным ручніком.

Пасля памінак яшчэ доўга сядзелі ў хаце дзядзька Міхалка, хросны, Глеб Іванавіч, Клубышко, курылі, успаміналі Цімоха.

— Цьфу, тваю маць... І чаго чалавек жыве? Дай закурыць, — пабіраўся Кулькін.

— Не, шчо ні кажы, а нябожчык да жыцця адносіўся несур'ёзна... Не. Да работы — тут сур'ёзна, а да жыцця... лёгка і весела. А?

— Калі да ўсяго, Клубышко, сур'ёзно ставіцца, дык здурнееш ад мноства незразумелых з'яў, — казаў Глеб Іванавіч.

— Нябожчык любіў усіх людзей. Талент гэто.

— Любіў таго, каго ведаў — за шчо любіў, — удакладніў Глеб Іванавіч. — Ён спачуваў кожнаму чалаве-

ку на зямлі, а любіў... не... любіў за ўчынкі, за характар.

— А памятаеш, Іванавіч, як шкіпер чобаты раз заказаў у Цімоха? Усё хацеў, коб з рыпам былі. Задатак пакінуў ды і згінуў сам. Год мінуў ці мо два. Аб'явіўся шкіпер у новенькіх чобатах, недзе купіў, прыбягае да дзеда: маўляў, давай задатак назад. Цімох жа дастае навюсенькія чобаты і кажа шкіперу: «От ты лёгкі, ядрона корань, на ўспамін. Толькі ўчора і закончыў шыць табе чобаты». Абуўся шкіпер, прайшоўся па хаце і ў адказ: «Нешта, дзед, не рыпяць. Браць не буду». — «Ат тваю маць-перамаць, ядрона корань», — узарваўся стары, абувае гэто тыя чобаты сам, ходзіць па хаце: рып стаіць, што воз едзе, на двары чуваць. Дзівіцца шкіпер: «А шчо ж у мяне не рыпяць?!» — «Не паспелі да нагі прывыкнуць, — адказвае дзед. — Бяры. Праз тыдзень зарыпяць». Дастаў шкіпер грошы, узяў чобаты, а куды дзецца.

— А шчо було? — папытаўся Кулькін.

— Шчо? У дзеда адна дошка ў падлозе падсохла і рыпела, рыхтык як чобаты.

— Не, розум у дзеда быў, — адчувалася, што Глебу Іванавічу не хочацца ісці дахаты.

— А як Кошмана ў хату не пускаў?

— Як, як? — дапытваўся Кулькін.

— О, браце, цырк буў. У гарадку Крутаярава так сапожнікі не баяліся, як бога з райфа Кошмана. У хаце Цімоха заўсёды стаяла два вядры вады. Дзед, бувала, сварыўся на Адася, калі той ліў ці разліваў. У якую адзежу ні пераапранаўся Кошман, стары яго пазнаваў здалёк. «Райфа!» — крычаў Насці, а сам хутка накрываў дзяружкай столік з інструментам, хаваў выцяжкі, капылы, падэшвы. Насця ў гэты момант вылівала адно вядро да парога, хапала анучу і пачынала мыць падлогу. Як толькі Кошман пераступаў парог хаты, дзед шухаў яму пад ногі яшчэ адно вядро вады. Кошман выходзіў на двор, дзед праводзіў яго, раіў райфінработніку купіць сабаку ў Цярэблічах, толькі там куплялі паны. Так Кошман ніколі і не спаймаў дзеда за работай.

Я так і не ведаў, чаго дзед, як агню, баяўся інспектараў райфо. Мо не было грошай купіць патэнт, умысна не браў, каб нават і не ведалі, што такі стары чалавек яшчэ нешта там шые. Ранкам дзядзька Міхалка забраў увесь інструмент дзеда. Рашпілі, шыла, нажы,

дратву, бярозавыя цвікі, хром. Я прасіў, каб ён пакінуў на памяць малаток з ладнай ёмкай ручкай.

Дзядзька Міхалка ўмеў шыць чобаты, але работа ў яго была горшай за дзедаву і кліентаў ён меў менш. Падрастала двое дзетак, усе месцы ў магазінах былі занятыя. Кожнай вясною ён мусіў ехаць далёка ў свет, вазіў насенне кветак і гародніны. Прывозіў тысячу, дзве і зноў усё лета і зіму шыў чобаты. Сябры клікалі на цаліну. Яны за тры-чатыры месяцы прывозілі грошай удвая больш. Не згаджаўся. Здароўе было слабое, і Поля была супраць. «Там у кампаніі толькі піць будзеце. Палову з тых грошай прап'еш». Так і пачалі жыць, марачы знайсці дачцэ жаніха з добрай прафесіяй: шафёра, токара, цесляра.

Пачаліся сумныя, аднастайныя і журботныя восеньскія дні. Дзядзька Якаў прывёз нам на зіму пяць мяшкоў бульбы. Яны жылі на Навапеллі, аж пад вёскай Вялямічы. Туды я бегаў зрэдку.

Якаў прыйшоў з вайны без адной нагі, на пратэзе. Зрабіў з адной педалі на ровары як бы стрэмя, устаўляў туды жывую нагу і добра круціў педалі. На рулі заўсёды целяпалася ківенька. Да дзядзькі Якава я адносіўся асцярожна. Быў ён заўсёды заклапочаны нечым і сур'ёзны. Рабіў брыгадзірам у калгасе... на самым пачатку, калі яшчэ з першым старшынёй Бразоўскім засноўвалі калгас «30 год Кастрычніка». Пасля аб'яднання калгасаў здаў брыгадзірства, працаваў у калгасе некаторы час, а цяпер перайшоў у банк у ахову. Быў задаволены. Суткі падзяжурыць — двое пры хаце. Любіў працу на зямлі, як ніхто. Вечна спяшаўся на поле, на сенажаць, у сад, памагаць касіць брату, ехаць выбіраць бульбу дачцэ ў суседнюю вёску Туры. Марынаваў памідоры, агуркі, часнок, варыў варэнне. Па мяне прыходзіў двойчы. Калі прывозіў сена, я таптаў яго на вышках, і калі рвалі вішні, падганяў мяне лезці да самага вільчыка. «Не бойся, не ўпадзеш. Коб краў сам, упаў бы, а калі папрасілі — не ўпадзеш». Калі Якаў выпіваў, усе ведалі: на ўсю вуліцу, чайную, на ўвесь сквер пачынаў хваліцца сваімі дзецьмі, якіх вывучыў і паставіў на ногі. У адносіны маёй маці, дзеда і бацькі не ўмешваўся ніколі. І не хацеў слухаць, калі хто-небудзь заводзіў гаворку. Не любіў хадзіць на рыбу і на паляванне. Страх як любіў касіць. Накошваў травы да дзесяці тон. Прадаваў нават. На далонях у яго былі як бы выкладзе-

ныя з вяровачак, падобныя на мініяцюрныя горы мазалі. Ён іх выводзіў, выпальваў нават кіслатой. Цётка Олена за ім хоць і гора не ведала, але за работай і свету не бачыла. Дзве каровы, тры кабанчыкі, гускі, куры, індыкі... якой толькі жыўнасці ў Якава не было. Пасля смерці дзеда Якаў стаў прыходзіць да нас часцей. Больш сварыўся на мяне, што я, бугай, не хачу навесці на двары парадак, лянуюся. Я, заўважыўшы яго, уцякаў на вуліцу. Сядзеў ён з бабай Насцяй паўгадзіны і ўгаворваў яе ехаць дажываць век да ўнучкі ў Туры. Баба не згаджалася. Якаў нерваваўся, ішоў дахаты. Па дарозе нешта ўспамінаў, вяртаўся і даваў бабе Насці дзесяць рублёў.

— Бяры. На сахар і на булачку няхай. Міхалкі не слухай... У яго нічога няма. Падумай хараша ды едзь да маёй дачкі дажываць. Адась цябе ўсё адно кіне, у свет паедзе. У калгасе не застанецца, а насеннем гандляваць — не мужчынская работа. Горш там не будзе. Усё мая дачка мае. Чалавек — дабрэйшы на свеце. Падумай.

— Шчо бог дасць, Якаўко, шчо бог дасць, — адказвала па-ранейшаму баба Насця.

Якаў нанова злаваўся і мог месяц не прыходзіць.

Дзядзька Міхалка заплаціў на пошце, і нам правялі нарэшце электрычнасць. На нас была запісана адна лямпачка. Дзядзька мяне падвучыў, як правесці праводку і да разеткі. Купілі плітку, і цяпер было вельмі зручна смажыць яечню і варыць макароны. Мы толькі снедалі і вячэралі. А ўсё чаму? Пасля пахавання дзеда бабу Насцю бы сурочылі, падмянілі. Свет для яе страціў сваё хараство. Болей гарадчукі не чулі ад яе славутую прыказку: «Пакуль ёсць мой кароль, я не баба, а каралева». Яна перастала выбірацца на базар, да царквы, у магазін па хлеб, цукар. Каб не прыходзілі да нас Лісавета, жонка Клубышка, цётка Поля, дык і з людзьмі баба Насця не гаварыла б.

— Няма апоры ў мяне, унучачко, няма. Без хазяіна — жонка сірата. Жыці не хочацца.

Пасля такіх яе слоў я ўмысна сварыўся, супакойваўся, зноў сварыўся з ёю. Баба маўчала.

Кабанчыка да гэтай зімы мы ўжо не купілі, карову прадалі яшчэ два гады таму — не было дзе касіць сена. Палілі ў печы раз на два тыдні, і наш пакой-кухню патроху пачала забіраць пад сваю ўладу цвіль. Зранку і

ўвечары бралі мы па паўлітра малака ў Ткача. Са школы я прыносіў бабе дзве-тры булачкі. Надыходзіла бяздроўная, халодная, сумная і галодная зіма.

Некалькі разоў Міхалка намякаў, каб прадаць зруб новай хаты. Я ўсё раіўся з бабай.

— Унучачко, я нічагусенькі ўжо не ведаю. Коб табе лепш, адно прашу ў бога, коб табе здароўя даў ды пару выбраў. Я сваё адпакутавала, толькі б ты пажыў у радасці.

— То шчо, прадаць?

— Як табе, дзіцятко, як табе.

Я дастаў той чырвонец, які калісь даў мне дзед Яўхім, занёс Сынумартачкі. Ён даў нам палову грошай, другую палову абяцаў пасля Новага года, як толькі прадасць завушніцы, якія ён зробіць з нашага чырвонца. Неўзабаве Сынамартачкі арыштавалі, завезлі ў Брэст і сказалі, што дадуць два гады турмы.

Трыццаці рублёў пенсіі і пятнаццаці рублёў аліментаў нам на жыццё не хапала. Я зноў схуднеў і баяўся, што вернецца хвароба. Фядос-акардэаніст папярэджваў мяне ў бальніцы, што менавіта так другім разам яго прыхапіла каверна.

Збяднелі ўсе давыд-гарадоцкія магазіны: каўбасы, мяса, масла, рыбы — не купіць. Маленькая старэнькая пякарня не паспявала забяспечваць гарадчукоў хлебам. Трэба было паднімацца завідна, выстаяць даўжэзную калейку, каб ухапіць дзве буханкі хлеба.

Урбановіч пры кожнай сустрэчы не прамінаў нагадваць:

— Не падабаецца мне твой знешні выгляд. Ты не бяры прыклад з ёгі. Гэта не славянскае. У іх клімат іншы і харчы іншыя. Бойся прастуды, памятай пра каларыйныя харчы.

Я вырашыў прадаць зруб. Доўга не маглі знайсці пакупніка. Некаторыя, занадта асцярожныя, верылі старым забабонам: гаспадыню зруба праклялі ж... Усё ж знайшлася адна жанчына з Наваселля. Прадалі зруб за тры тысячы, якія пры мне апякун дзядзька Міхалка старанна пералічыў. Прынеслі мы ў хату маленькі чамаданчык і высыпалі на стол кучу грошай. Я пабег купіў бутэльку чырвонага віна і кіло масла. Міхалка хлабызнуў шклянку віна (за ўсё добрае!), намазаў на маленькі кавалачак булкі трохі масла, закусіў і пабег «рабіць дзела».

— Жыці будзем, баба! На гады тры грошай хопіць, калі эканомна, дык і вывучыцца паспею.

Баба без радасці глянула на грошы і нават не варухнулася, не змянілася ў настроі.

Бы спахапіўшыся, зноў прыбег дзядзька Міхалка. Доўга муліўся, нарэшце папрасіў тры сотні.

— На вэсну, Адась. Выручай. Я паеду з ношкай насення, я зараблю. Цяпер людзям, пакуль няма работы, адно ратаванне — насенне. Грошы твае не прападуць. Не чужому даеш.

Я пазычыў, шчыра кажучы, не з вялікай ахвотаю, бо мне так хацелася, каб яны паляжалі на стале некранутымі. Купілі мы з дзядзькам дроў — дваццаць рублёў за метр, купілі мне бобрыкавае паліто, дарагі касцюм... Бабе... бабе нічога не купілі.

— Ай, шчо старому, акрамя здароўя, трэба, нічога. Спадніцу Поля ёй пашыла, сак яшчэ не знасіўся, чобаты ё, буркі, — казаў Міхалка.

Астатнія дзве тысячы паклалі на кніжку ў ашчадную касу.

— О, цяпер ты багаты жаніх, — жартаваў стары Бабёр, — а мой дурань нават у тэхнікум не паступіў. Я яму грошай не дам... Няхай сам заробіць.

Толік, які змалку на сваім стаяў, не захацеў жыць у Брэсце, прыехаў ад братоў і цяпер сноўдаўся без справы, чакаў, пакуль забяруць у армію. Аднойчы ён запрасіў мяне ў свой невялічкі пакойчык, дастаў з шуфлядкі канверт.

— У ім пісьмо Свеце Івановай. Яна паступіла ва універсітэт. Калі са мной шчо таке-небудзь... перадасі, — сур'ёзным тонам пачаў ён.

— А шчо можа з табой здарыцца?

— Усё можа. Хана можа быць. Махорку піць буду.

— А?! — усклікнуў я.

— Ціхо. Коб бацька не пачуў. Адзін вунь, бацьку майму казалі, у Мачулі напіўся махоркі, і пашэнціла: не ўзялі ў армію.

Толік у армію ісці не хацеў. Баяўся, як кот вады.

— Ты вось што. Зараз пойдзем у адрыну. Я вып'ю. І як бы мяне ні скруціла, нікому нічога. Выжыву — не памру, — строга папярэдзіў ён мяне. Паказаў чакушку з мутнай вадой. — О, усю ноч стаяла. Панюхай. Ну, як?

— Брыдота, — я скрывіўся.

Толік наліў «атруту» ў шклянку, доўга прыцэльваў-

ся, прымяраўся, нарэшце заплюшчыў вочы і выжлукціў усё да дна.

— Дай, дай...

Я ведаў, што ён просіць, і даў яму цукерку. Не паспеў ён закусіць першую шклянку, як на парозе з папругай аб'явіўся бацька. Мы скамянелі, бо не чакалі яго тут, ён спаў там, у хаце.

— Шчо тут? — Ён выхапіў з рук у Толіка бутэльку з настоем, панюхаў, пакаштаваў на язык. Зло сплюнуў. — А растакую тваю фісгармонію, а пся крэў ты, — ён смальнуў па плячах Толіка папругай, — ану, сабака, закладвай два пальцы ў рот, коб вырвала. Ну! Каму сказаў?

Стары Бабёр зноў замахнуўся на сына.

Толік паслухмяна выканаў загад бацькі.

— Бач, гультай! Онь дзе о лежань... Падабаецца без дзела сноўдацца ды ў карты гуляць. Пайдзі паслужы ў войску, мо там навучаць рабіць, коб ведаў, як хлеб пахне, лайдак. І чаму цябе ў школе вучылі? Бугай вымахаў, а толькі грошы ў бацькі крадзеш. У-ут... А ты чаго маўчаў, чаму мяне не клікнуў?

— Я... я гэто...

Ён шахнуў папругай ніжэй пояса і мяне. Мы разам з Толікам куляй вылецелі з адрыны. Стары Бабёр яшчэ доўга хадзіў па двары і лаяўся.

Няўклюдны Толік атрымаў павестку. «Усё, Света мяне не дачакаецца. Хана каханню», — кусаў ён губы і меў выгляд чалавека, утаптанага капытамі. А праз месяц я атрымаў ад яго ліст аж з далёкага Ташкента.

Вася Кіцель бажыўся, што ён лепш утопіцца, чым вылезе на сцэну перад мноствам народу. Мне ўсё хацелася пераманіць яго ў клуб. Ванька Гасцюшкін паблажліва ставіўся да маіх прапаноў, але за футболам свету божага не бачыў. А мяне цягнула ў клуб, да сцэны, і зноўку я мусіў адзін хадзіць на рэпетыцыі.

Раённы аддзел культуры абавязваў дырэктара давыд-гарадоцкага клуба часцей рыхтаваць канцэрты. Ратаванне было адно — старыя, надзейныя кадры. Нас з новай сілай паклікала муза мастацкай самадзейнасці. Я, пераадольваючы нанова жах, які па-ранейшаму апаноўваў мяне, пачаў вяртацца вечарамі з клуба адзін. Бацьку свайго я менш баяўся: «Навошта яму забіваць мяне, калі аліменты плаціць застаўся ўсяго год».

Я не баяўся нашай цёмнай вуліцы, якую праходзіў

больш-менш лёгка, а падыходзячы да нашай старой хаты, трымцеў усім целам. Жахліва было пераступіць парог, а раптам баба ад гора памерла?

Прыйшла ранняя зіма. Насыпала снегу, нагрувасціла сумётаў ля варот, лодак. Пасвятлелі ад ярка-срэбнага месяца вуліцы, і рып ад хады чуўся ў крохкай цішы далёка-далёка.

Зіму ў Давыд-Гарадку любяць асабліва. За мноства розных свят (Варвары, Ганны, на якія пякуць булачкі з макам, каляды, раздво, Новы год, хрышчэнне, піліпаўка — тут пасля нішчымнай куцці пачынаецца мясаед), за магчымасць часцей наведвацца ў госці да сваякоў, суседзяў. Доўгімі зімовымі вечарамі людзі бавяць час, успамінаючы жыццё і абавязкова параўноўваючы яго з мінуўшчынай, з жыццём суседзяў. Альбо прыбяжыць якая жанчына да суседкі, каб пазычыць міску капусты ці круп, дый заседзіцца да глыбокай ночы. Ёй робіцца, седзячы так ля цёплай грубкі, боязна выходзіць на мароз, вяртацца дахаты. Тады зычлівая суседка падымае соннага чалавека, які, зашпільваючы на хаду кажух, ідзе з жонкаю праводзіць госцю. Паўсюдна ў хатах паляць грубкі. Уецца павольна дым ад комінаў угару, у бяздонне. Дзеці садзяцца перад зыркай грубкай і кідаюць у агонь трэскі. Стрэліць з чырвані жэрала палена, бы дракон плюне, падбяжыць маці, схопіць, калі абцугоў няма, рукамі вугалёк, кіне назад у грубку, а пальцамі хутчэй за мочку вуха: «Цьфу, цьфу, заўтра пятніца». Дзеці ў рогат. У дарослых пачынаюцца адны гаворкі: пра мінулую вайну і вясну. Трывала ўвайшлі ў побыт гарадчукоў словы «кветкі», «насенне». Таму і гамоняць пра далёкія дарогі, куды лепш падацца, якія базары крытыя, лёгкія, куды завезці больш гуркоў, марковкі, буракоў, радыскі, а дзе больш купляюць насенне астраў, пятуніі, флёксаў. У такія вечары пачуеш пра гасціннасць людзей — рускіх, украінцаў, эстонцаў, грузін, абхазцаў. Гарадчукі ведаюць усе мясціны, дзе лепш купляюць насенне бяссмертніку, ландышу, лілii. Нехта ўжо атрымаў ліст ад сваёй гарадской гаспадыні, у якім яна просіць не забыць прывезці ёй цыбулін белых гладыёлусаў. У самім Давыд-Гарадку на базары пакуль ніхто не стаіць. Доўгімі вечарамі згуртоўваюцца ў кампаніі па тры-чатыры чалавекі. Аднаму везці насенне

ўсё ж страшнавата. У гэты год са свайго гарода павязе прадаваць насенне і Ткач. Умысна бярэ водпуск у красавіку. Які, здаецца, смелы, а едзе разам з Харашуном і Юркам. Усё ж не аднаму стаяць. Хоць аднаму лепш, можна і хутчэй усё прадаць, і грошай болей нагандляваць, а ўсё ж разам весялей, бо калі і захварэеш, дык рады адзін як дасі. Жанкі ў гэтыя зімовыя вечары перабіраюць насенне, мыюць торбачкі. Не-не дый узнікне, коціцца па вуліцы разам з дымам ад комінаў трывожная навіна: «А калі не пусцяць на вэсну, шчо рабіць?»

Больш вопытныя дзядзькі, якім пад шэсцьдзесят, супакойваюць: «Не маюць права. Я прадаю сваё, з гарода. Таксама як узбек прадае дыню, як украінец часнок, як літовец капусту, як латыш гуркі цяплічныя. Калі хочаш нашкодзіць дзяржаве — забарані. Зусім ад працы на зямельцы адвучацца. Растуць ужо такія дзеці. І гораду не патрэбны, і на сваёй дзедаўшчыне рабіць не хочуць». Пачуюць жанкі словы такія і трохі супакойваюцца. Дзеці хварэюць узімку зрэдку, хоць цэлы дзень гойсаюць на самаробных коньках-снягурках і лыжах (іх з ліпы робіць бондар Біржа).

Вяртаючыся позна дахаты, спявае на вуліцы (і гэта ўсе ведаюць) каўбасных спраў майстар Ілля Рагожка. Усе ж колюць кабанчыкаў, і як тут без Іллі абысціся. Рагожка, жылісты, вяртлявы чалавечак, асабліва любіць спяваць польскія песні і не праміне нагадаць, што школу прайшоў ён у Тадэвуша Яблонскага, які меў, маўляў, лепшую на Палессі мясарню.

Лісавета праганяе сваю зімовую дакуку, сучыць свечкі.

Словам, да свят зімовых рыхтуюцца ўсе доўга і сур'ёзна.

Нам Якаў першым прынёс кіло пяць мяса, праз тыдзень — Міхалка кіло тры ад свайго маленькага кабанчыка. Прынясе, гэта мы з бабай ведаем, і жонка Клубышка. Яны колюць свайго вепручка пазней. Чакаюць, пакуль адзіная дачка не прыедзе на студэнцкія канікулы. Глебу Іванавічу няма часу і парася забіць. Заказы, заказы. Малюе этыкеткі, прыгожыя кветкі на фанерках — па велічыні як канверт. Аднастайная работа яго стамляе. Тады ён успамінае былое: бярэ мальберт, ідзе на загуменні гарадка і малюе якую-небудзь старую хату, засыпаную снегам па вокны. Жонка незадаволеная, кліча дахаты.

— О дурань, — павучае яна, — каму малюеш? Раньш хоць Траццякоў быў, мог купіць... а цяпер... узялі дзве яго карціны, дык год грошы не могуць прысланць з вобласці. Купяць ды захаваюць у тайнікі, як і не было, а на выстаўкі ўсё абстракцыяністаў нейкіх валочаць. Я, Адась, була ў горадзе і ў сталіцах, павер. Нікому цяпер яго мазня не трэба. Ідзі эцікеткі малюй... коб дзецям було шчо есці.

— Прышлюць табе тыя грошы!

— Ага, прыслалі. Смех людзям сказаць. Семнаццаць рублёў. Камісія бедная. А ўжо ўхвалялі. У Маскву не сорамна, у Канаду на выстаўку павязём. Чорту ў штаны. Балбатуны. Адвучылі ад свайго. Здзек адзін з чалавека, а ён верыць. Шышкін.

— Я для сябе малюю!

— Для сябе о, адрыну намаляваў, і будзе. Ідзі лепш эцікеткі намалюй. Дык я буду спакойная... на хлеб будзе. Усё. Не адкрывай рота.

Як ні прыемна мне ў хаце Глеба Іванавіча, а трэба бегчы, прапаліць і сваю грубку. Доўга сцягваецца нам вечар. Хоць бы радыё правесці. Баба супраць, кажа, няхай год міне па дзеду. Я адкладваю кніжку, запіхваю два-тры палены ў агонь. У хаце прыемна святлее, грубка разгараецца ярчэй. Мой вялізны цень падае на сцяну, абклееную зялёна-сінімі шпалерамі.

— Раскажы, бабо, пра сваю жытку, — прашу я.

— Ой, унучачко, — трохі радуецца баба, — шчо ж расказваць? Шчо ведала, тое забулася. Мала вясёлага було, мала. Работы ўсё жыццё многа, яе не пераробіш. От, скажу, колісь немец наляцеў, альбо тая ж Польшча панская була... цяпер, дзякуй богу, Саветы прыйшлі... А ўсё ж адно работы ніхто не адменіць. Гараваць трэба. А маладыя думаюць: о, Саветы прыйшлі, усіх накормяць, рабіць не трэба, толькі вучыся. Жывеш на зямлі, вучыся і рабіць... доля такая. Мо коб не вайна, дык і нам, старым, лягчэй жылося б, мо пенсію далі б... а так шчо... Кладзіся ды памірай.

— А мама якую пару любіла: зіму, восень?

— І не памятаю цяпер, унучачко. Зімку не любіла, бо ў хаце не хацела сядзець. Усэ яе да людзей цягнула, небараку. Адну зіму ў нас колісь немцы ў вайну стаялі.

— Як? Тут вось, у нашай хаце?

— А як жа ж. Два немцы жыло.

— А дзе спалі? — не магу паверыць я ў такую навіну.
— Як дзе?.. На кроваці. О тут.
— А вы?
— Мы? Хто на печы, хто каля печы, а дзед на падлозе. Немцы прыбягуць увечары, сядуць да грубкі, рукі-ногі грэюць, адагрэцца не могуць. Ды па-свойму ўсё гэргэчуць. Неяк маці твая нешчо так зарагатала. Дык, паскудства, прымусіў ногі расціраць і абмываць у цёплай вадзе.
— А маці?
— А што ж маці. Зрабіла, шчо загадаў. Забіся ў куток і маўчы. Хто ведае, што ў яго на вуме. Застрэліць яшчэ.
— А шчо яшчэ тады було?
— Дзякуй богу, нічога. На Новы год мо то ці калі выскачылі на двор і давай апоўначы страляць у неба. Светла зрабілася, бы ўдзень. Нейкімі ракетамі. Напужаліся мы тады стрэлаў гэных, як грому. Той немец, якому маці ногі мыла, пабудзіў нас, частуе віном, цукеркамі. Салодкія-салодкія булі. Маці напужалася. Кажа, мо атрута замест віна. Дзед бярэ ў яе шклянку — хоп усю ў рот. Стаіць, не падае. Немцы рагочуць. Наліваюць маці. Піць прымусілі. Ай, було б шчо ўспамінаць. Не дай бог табе вайну перажыць.
— А яшчэ шчо помніцца?
— Ужэ ж і памяці той няма, і галава пастарэла. Мо то скора й з'ехалі...
— А маміна вяселле тут гулялі?
— Тут, а як жа. Абвянчалі ў царкве і сюды. А шчо, бацьку свайго больш не сустракаў?
— Не.
Я схлусіў бабе. Не ведаю чаму, але схлусіў. Неяк давялося сустрэцца ў той самай чайной, за тым самым столікам, у кутку ля акна. І на гэты раз ён мне наліў паўшклянкі гарэлкі. Я адпіў палову налітага. Доўга не клеілася гаворка. Я тое-сёе расказаў пра санаторый, пра бальніцу. Ён разгаварыўся сам, калі выпіў яшчэ. Я болей не піў, ён не настойваў, як у тую нашу першую сустрэчу.
— Я, бывае, часам маці тваю ўспамінаю. Тут табе, канечне, нагаварылі ўжо... Ты падрос, стаў амаль дарослым за гэты апошні год. Скажу табе... я быў першым хлопцам. Так шчо вона выбрала правільна. Прыйшлі

мы, хто ўцалеў пасля вайны... гуляй, мір... Шчо ж яшчэ. Пілі па-чорнаму. Не верылася доўга, шчо пекла прайшлі і выжылі. Мяне і зараз, о, руку даю на адсячэнне, ніхто ў гарадку не перап'е. Усе будуць п'яныя, а мой кацялок варыць. Некалькі разоў я Бабру тавар прывозіў. Ён дзядзька хітры, а я і яго падманьваў. Мне на работу пайсці за шэсцьдзесят рублёў — сорам. Мая хватка болей каштуе. Я вось зараз насеннем кветак таргую, не многія з гарадчукоў тое маюць. Жыць умею. А маму... бывае, успамінаю. Шчо от цікава. Ніколі не прыснілася, а так успамінаю. Коб не твая баба... скажу чэсна, жылі б мы з мамай. Нас пасваталі. Усё па закону, нармальна так було. Не буду таіць... мо ад тато, шчо волю люблю, не адгуляў сваё, прыходзіў, бывала, позна. З хлопцамі ў гэтай чайной піравалі. Старая, баба твая, дзверы на засаўку. А тваю маць, думаю, лезу п'яны ў акно. Марыя пусціць, ведаў. Дзед маўчаў. Не мяшаўся. І маці дзеду больш давярала. Мо так, праз акно, раз було, два мо. Я ўжо цішэў. Кажу: Маня, шчо так жыці, хадзем да маіх. Яна ў слёзы, на каго мы старых пакінем, кажа. Бабу тваю яна вельмі любіла і шанавала. Якраз Міхалко надумаў жаніцца. У Якава і Олены сваё дзіця, свая жытка. Я ўсё сваё гну... хадземо ды хадземо. Яна ні ў якую. Просіць мяне... Трыфан, давай хоць год яшчэ тут пажымо. Я тут такі фокус закручваю. Кажу, паехалі тады разам на вэсну. Людзі едуць, паехалі і мы. Думаю, паедзе, адвыкне трохі ад хаты сваёй, ад бацькоў. Яна адказвае: пайду на самую цяжкую работу, а гандляваць не паеду. Не ўмею. Кажу, шчо тут умець. Неяк сорамна, кажа, перад людзьмі. Кажу, падману ж няма. Уперлася на сваім, і ўсё. Далечыня, чужыя людзі, дзе жыць, і ўсё такое. От якая гаворка была. Тут я прыкінуў тое-сёе і такі фокус закручваю: не прыходжу нанач. Думаю, дзень-два, прыбяжыць як міленькая, адумаецца. Зажывём адны. Не прыходзіць. Нават у горад не выходзіць, на базар. Тут я зазлаваў... моцна. Сваім я пахваліўся, шчо вона не прыйдзе, а прыбяжыць. Я хлопец быў відны... а яна не прыходзіць... сорам, маркотна і горка. Думаю, на прынцып пайшло, хай. Мне свісні, кожная падхопіць, а табе няма куды дзецца. Як назло, я даведаўся, шчо вона раньш тут, у сорак пятым, раз-два прайшлася з марачком адным, Адамам. Тут не... разгавору быць не можа там... я ўзяў яе чэснай. Але адно неяк да другога... Мне такая навіна

тады душу спаскудзіла. Дурны ў мяне характар. Ведаю, шчо без мяне було, а дараваць от... цяжка дарую. Такая нейкая злосць, халера, ці шчо, нападае. От, думаю, неба раскаліся, а першым не падыду. Яна аказалася, значыць, у палажэнні табой. Мо коб я адразу, на першым месяцы даведаўся... мо ліха на ўсё, змірыўся б. Мне перадаюць, шчо ў Мані маёй жывот на нос, як кажуць, лезе. Тут зусім, сынок, няёмка мне зрабілася. Адвык, ці шчо? Зноў воля зацягнула... вайна свае гады забрала, а душа і цела не нагуляліся. Рашыў не ісці. Шчо будзе, дык будзе. Думаю, калі пайду, баба твая папрокамі загрызе. Старую не любіў. Я б задушыўся ад папрокаў гэтых, як на духу прызнаюся. Яна, Маня, праўда, нікога не пасылала, каб памірыцца. Ад бабы тваёй і ёй гонар перадаўся: будзь-будзь. О як палучылася. Ты нарадзіўся... мяне і цягнула глянуць... а як жа ісці. Скажуць: а дзе ж ты сем месяцаў быў?..

...Так неяк усё пакруцілася, пакруцілася. Нагуляў, значыць, махнуў рукой. Ажаніўся. З мамай тваёй адзінаццаць гадоў у адным гарадку пражылі і не загаварылі. На суду, праўда... ды ў Граноўскіх раз... калі яна нікуды ўжо не выходзіла, хварэла. У суду як було? Я нідзе доўга не рабіў. Год у Карэліі лес валілі. Цяпер я ўладкаваўся ў рыбінспекцыю. Гэта дзела маё. Трое дзяцей мая нарадзіла. Я, праўда, і біў яе часам, і сваркі булі. Мая падбухторвала трохі... я выпіў і паслаў заяву, каб аліменты паменшылі. Суддзя мне і кажа: парві, а то яшчэ больш прысуджу. Працверазеў я... і нялоўка. Па гарадку чутка пайшла. Пабіў сваю жонку, помню. Бабу біць цяжка... крычыць, пасуду б'е. Выганяй на двор, адно дзела. У-ух... усяго було. Таке жыццё. Мо коб я ў войску застаўся... Не ўсё там любіў, але дзела ведаў. Я б да палкоўніка дайшоў. Без акадэміі. Яй-богу. Ты, сынок, гэто заходзь... Усё памянялася. Заходзь. Усё от, зла не маю.

Выпілі яшчэ. Ён пацалаваў мяне ў губы.

— Усё. Сказаў, заходзь. Трыфан сказаў усё...

Чайную закрывалі на абед, і нас ужо двойчы афіцыянтка прасіла выйсці.

— Не трэба мяне праводзіць, — сказаў ён, — хо... я не п'яны. А ты заходзь. І жонка кажа: няхай прыходзіць. Маці твая зроду ўсяго баялася: бабы, дзядзькі Міхалкі, чутак... Коб смялейшая трохі була, тады б пайшла са мной, мо й добра ўсё було б... Хто яго ведае...

Ну, бывай здароў.

Ён, шырока расстаўляючы ногі, але не хістаючыся, пайшоў у бок моста, а я паплёўся да касцёла. Рэпетыцыі не было: зноў ніхто не прыйшоў. Пасядзелі трохі, патравілі анекдоты і разышліся.

Думалася пра бацьку. Мне ўсё здавалася, што нешта ён хавае, і тое нешта мо самае істотнае. Як мне не хапала сшыткаў, якія засталіся ў цёткі Зосі. Захварэў яе чалавек, пра гэта яна яшчэ пісала, як не пасадзілі брата — Сынамартачкі, і не абяцала пакуль наведаць радзіму ў час свайго новага ўрлёпу. А мо мне так хацелася, каб бацька штосьці не дагаварыў, каб асноўную тайну адносін маёй маці са светам я прачытаў у сшытках. Мо ўлетку прыедзе ўсё ж цётка Зося... Так гэтага хацелася.

Часта, седзячы ля цёплай грубкі, баба прапаноўвала мне:

— Пайдзі да Іванавіча пасядзі. Доўгі ж вечар, шчо тут будзеш вочы сляпіць над кніжкай? Пагаварыце. Усё ж з людзьмі.

— А ты?

— А я спаць лягу. Там чаю вып'еш. Няма дзеда, няма каму і самавар паставіць.

Мне і самому хацелася пайсці да іх. Гэта была апошняя зіма сям'і Глеба Іванавіча на нашай вуліцы, да Першага мая ён меркаваў святкаваць улазіны ў новую хату. У Глеба Іванавіча доўга не кладуцца спаць. Самая работа і жонцы, і сыну-падлетку. Шпаклююць-грунтуюць фанеру, рэжуць яе на квадрацікі, разводзяць фарбы. Жонка мастака заўсёды рада майму прыходу. Пры ўсёй яе бурклівасці па натуры яна чалавек вясёлы і аптымістычны.

— Пасядзі, Адась, мо ты падкажаш збоку. От, кажу, шчо браткі ў яго занадта стракатыя, а званочкі ўсе панурыя. Ды я не ведаю больш вясёлых кветак, як званочкі. Навошта тут сінь такая, а сюды дай неба...

Я, як знаўца і спецыяліст, падтрымліваю энергічную і гаваркую жонку Глеба Іванавіча. Неўзабаве і чай гатовы, селі піць. Я прашу расказаць што-небудзь пра Кіеў. Любіць успамінаць пра сваё кіеўскае маленства жонка Глеба Іванавіча. Дастае на стол здымкі славутых мясцін: Крашчаціка, Лаўры, Уладзімірскай горкі.

Яе ўлюбёнасць у горад хутка перадаецца ўсім нам, так прыемна робіцца на душы, адчуваеш, што мясціны гэтыя нечым блізкія, дарагія і табе самому. «Смерці не бойцеся, рабяты, ні вайны, ні дзікага звера, дзелайце сваё мужчынскае дзела», — абавязкова гэтымі словамі Манамаха закончыць успаміны жонка Глеба Іванавіча.

Тут і сам Глеб Іванавіч зноў нагадае ўсім пра славутых іканапісцаў Давыд-Гарадка, пра любоў каралевы Боны, дачкі італьянскага герцага Сфорца. Жонка Глеба Іванавіча не праміне ўпікнуць яго:

— Скажы дзякуй, што я цябе ўзяла, а то ўсё пра каралеву марыць. І з бабай-ягой пажывеш!

Усе рагочуць. Усміхаецца і маўклівы ды сціплы Глеб Іванавіч.

Жонка выйшла ў сені па фанеру і праз секунду-другую раптам клікнула нас да сябе. Сені ў Глеба Іванавіча ўсе дзіравыя. Прыпалі мы да дзірачак:

— Глянь, глянь... унь Сарока нашы дровы крадзе. Ут халера, а?

— Не чапай. Не пужай. Няхай крадзе. У яе дзетак многа, не чапай, — ціха гаворыць Глеб Іванавіч.

Вяртаемся ў хату.

— А дзе чалавек у Сарокі? Хіба пакінуў? — пацікавіўся я.

— Як дзе? — не верыць жонка Глеба Іванавіча, што я не ведаю. — На вайне ж Сямёна забіла. Дзетак у яе чацвёра. Дзень пойдзе ў калгас, дзень не. Хоча на месяц падскочыць на вэсну. Далёка не паедзе. У Роўна ці ў Пінск.

«Столькі мы жывём разам на Аселіцы, а я толькі сёння і даведаўся, што чалавек Сарокі загінуў на вайне».

— Тут, Адась, да кожнага ў хату зазірні: столькі на вяку перажыта, столькі ўсяго было на раду, — гаворыць Глеб Іванавіч. — Ты не ведаеш, а я яшчэ суседа нашага Мамаля застаў. Кляпаў катлы ў параходах. З усяго Палесся па яго прыязджалі. А ты куды паступаць надумаў?

— У інстытут кінематаграфіі. На рэжысёра хачу.

— Уф-фу-фу. Цяжка табе будзе прабіцца.

— Шчо ты палохаеш хлопца? Няхай паспрабуе. Гэто мара, — нападае на Глеба Іванавіча жонка. — А як баба, Адась?

— Нічога сабе. Мацуецца.

— Зусім старая панікла, змянілася. От, кажы ты, як

смерць уздзейнічае. І як да яе прывыкнуць. Гэто ж і нам некалі паміраць прыйдзецца... Падумаю... ой, страшна... А як у класе на залаты медаль? Каго цягнуць?

— Сама ідзе.

— Хто?

— Цялегіна.

— Дачку начальніка цягнуць будуць, вам і не прыкметна.

— Яна сама, — адказваў я ў абарону Цялегінай і не хлусіў.

Валя сапраўды была мацнейшай у класе. Я ж і без таго не выдзяляўся ведамі, а пасля доўгіх месячных пропускаў наогул ледзь цягнуўся, адно што хадзіў у школу, дажываў школьны век, лічы так. «Дай спісаць!» — казаў я нахабна замест прывітання. Зрэдку прасіў спісаць алгебру, хімію, фізіку ў Цялегінай. Яна моўчкі працягвала мне сшытак, не асуджаючы позіркам маю просьбу.

Толькі аднойчы нас пахвалілі разам, бо з усяго класа па сачыненні на вольную тэму «За што я люблю зіму» мне і Цялегінай паставілі пяцёркі. Да Валіных пяцёрак клас даўно прывык, а мая выклікала буру здзіўлення.

Цяпер я не магу ўспомніць усяго, што ў тым сачыненні намудрагеліў. Дакладна ведаю, што сеў ля акна, глянуў на наш бялюткі лужок, на вербы, кухню Герасіма, хатку Сарокі на кутку — усё гэта я апісаў, а яшчэ — пра доўгія вечары ля грубкі, пра гутаркі ў Глеба Іванавіча і пра смак кашанкі[1]. Пісалася мне лёгка, так лёгка, што сама рука пачала рыфмаваць словы, якія і не мелі дачынення да зімы, але выкліканы былі зімовымі ўспамінамі.

«Пыл паўз хату гануць пастухі, затуляючы захад барвовы. У адрыны, хлявы, катухі пруцца гусі, авечкі, каровы. Я маленькі, мне тры гады. Я сціскаю ў гармонік фіранку. Бачу буйныя кроплі вады, што сівеюць на вымытым ганку».

Настаўніца толькі папытала:

— Ці не спісаў ты ў каго верш?

— Маё, — сарамліва адказаў я.

— Пішы далей, не саромейся. У цябе можа добра атрымацца...

[1] Крывяная каўбаса з грэчкай.

Я прыляцеў са школы дахаты, дастаў тоўсты сшытак і вырашыў за ноч спісаць яго ўвесь вершамі. Невыносна захацелася мне зрабіцца адразу, заўтра ж праслаўленым і таленавітым, як Пушкін. Мне захацелася ўсе вершы прысвяціць толькі Цялегінай. Пісаць пра яе косы, вочы, голас... Гэта была мая душэўная помста ёй, бо яна адна ўспрыняла маю пяцёрку як недарэчны выпадак і аднеслася да пахвалы спакойна. Я заплюшчваў вочы, засяроджваў увагу толькі на Цялегінай, а ў памяці ўзнікалі... маці, Даша Савічык, бальніца, Гаўрыла, Паўловіч, сасновы бор, дарога, баба ля грубкі, Глеб Іванавіч з пэндзлямі. Прасілася і пісалася на паперы зусім іншае.

Я пагартаў белыя старонкі сшытка і зразумеў, што за ноч мне яго ўвесь не спісаць. Стаміўся. Ахвота да вершаў прапала надоўга.

Прыйшло неяк нечакана пісьмо ад Дашы, якое я доўга насіў (мо паўдня), пакуль прачытаў. Мне было прыемна яго насіць: не хацелася распячатваць. Яна паведамляла, што ўпарта рыхтуецца ў Мінскі медыцынскі інстытут. Так умысна называе мне горад, каб ведаў, дзе яе шукаць. Пісала, што вучыцца ёй цяжка, неахвота, пісала пра надвор'е ў Брэсце і пра лёс некаторых хворых, былых знаёмых па бальніцы, пра тое, што Булька збіраецца ехаць таксама ў Мінск. Я ёй адпісаў праз некалькі дзён. Коратка паведаміў, што еду ў Маскву, што надвор'е ў нас падобнае на іхняе, што я, акрамя гісторыі і літаратуры, нічога не вучу. Напісаў ёй і адзін верш: «Горад чужы не сустрэне па-хатняму. Брудны вакзал, ні душы. Вуліца доўгая, неахайная. Горад чужы».

Яна нешта доўга не адказвала. Я чакаў, калі прызнацца шчыра, нават часам сумаваў без пісьма, але перад экзаменамі сум мой патроху забыўся. Моцнага хвалявання не было, як не было і вялікага ўздыму. Настаўнікі стрымалі свае слова, мяне цягнулі, як гавораць, у адкрытую. Фізік і матэматычка пакінулі клас, член камісіі сеў чытаць кніжку, схаваўся за пухкія букеты півоняў. Геаметрыю рашыў Ванька Гасцюшкін. Сачыненне я напісаў сам. Цяжэй было здаць англійскую мову. Літаральна за месяц перад экзаменамі прыехала да нас новая настаўніца — жонка ваеннага. Як на злосць, ёй

далі весці англійскую мову ў адным нашым класе. Не ведаю, ці мой класны Іван Якімавіч паспеў яе папярэдзіць, што апошнія два гады я быў амаль вольны слухач, ці не паспеў папярэдзіць, адным словам, англійская мова мне далася з боем. Доўга я пакутаваў па сваёй тэме, блытаючы часы і націскі. Так-сяк у асноўным за кошт рухавых жэстаў і падказак асобных слоў надзейнымі людзьмі з месц тэму «Мой родны горад» я асіліў. Наіўная, добрая настаўніца, ёй, відаць, хацелася паказаць сябе перад завучам, што яна не чужы чалавек, любіць і ведае свой прадмет.

— Та-ак, няблага, няблага, — пахваліла яна мяне. — Пяцёрку, на жаль, не магу паставіць. Будзем выцягваць на чацвёрку.

Стрымліваючы дыханне, я пакрыўся халодным потам. Завуч з сумам апусціла галаву.

«Божа, якая пяцёрка, якая чацвёрка? Стаў ты траяк і дай спакойна ўсім дыхаць», — гаварыў твар завуча.

— Ну-с, раскажыце нам, што вы бачыце ў акне? — мякка папрасіла новая настаўніца. Я павярнуўся да акна тварам, разгубіўся ад пытання, рэшткі і без таго крохкіх ведаў пасыпаліся, як пабітае шкло.

— Калі ласка, — мілым голасам падбадзёрвала мяне экзаменатарка.

— Э... я магу там убачыць...

— Калі ласка, па-англійску. Пліз[1].

— Пліз. Можна і па-англійску. Ай сі[2], ай сі... — я мітусліва шукаў слова, нарэшце ўхапіўся за адно — ратавальнае. — Ай сі форэст[3].

— Б'ютыфул[4], — голас у настаўніцы зрабіўся яшчэ больш добразычлівы. — Пліз.

— Пліз... Ай сі форэст. Ай сі форэст, — паўтараў я, як той дурань, тройчы адно і тое ж.

Нехта падказаў па-руску: хаты, сонца, неба. Я зацята маўчаў, бы прыдаўлены каменем.

— Пліз, — прасіла настаўніца.

— Ай сі форэст, — пачаў я другі круг.

— Гэта мы ўжо чулі, — мякка так папярэдзіла настаўніца.

— Ай сі форэст, — гнуў я сваё.

---

[1] Калі ласка.
[2] Я бачу.
[3] Я бачу лес.
[4] Цудоўна.

— У яго дальназоркасць, ён болей нічога не бачыць там, — набраўся смеласці Ванька Гасцюшкін.

— Ай сі онлі форэст[1], — паўтарыў я.

— Шчо да чалавека прычапіліся, — пачулася яшчэ ў класе.

Настаўніца на секунду разгубілася.

— Та-ак. Чацвёрку не магу паставіць. Будзем выцягваць на тройку.

Мне захацелася ўпасці на падлогу і не ўставаць. З жахам падумалася, што праз мінуту яна скажа: «Та-ак. Тройку паставіць не магу. Будзем выцягваць на двойку». Завуч спачувальна глянула на мяне, скрыўленага, быццам я апёкся аб шкло лямпы, і нешта шэптам сказала англічанцы, якая чамусьці адразу пачырванела, бытта не я вінаваты, а яна.

— Калі інгліш для вас не прафіліруючы прадмет у інстытуце, тады не будзем цягнуць на слабенькую чацвёрку, а паставім цвёрдую тройку.

Усе з палёгкай уздыхнулі. Перавяла дых і завуч. Яна любіла наш клас і не памылілася ў яго здольнасцях. Слава доктара Самсона паланіла не толькі зайздросных бацькоў, але і ўсіх вучняў. Не было больш шчаслівага дня, большай радасці, як ранкам 26 жніўня, калі атрымоўвалі тэлеграмы, калі званілі ў гарадок са ўсяго свету. Сусед бег да суседа: «Мой паступіў!» — «Слава богу, і мая паступіла!» — неслася ў адказ. І не было большай пакуты сыну ці дачцэ, як вяртанне дахаты са словамі: «Не прайшоў па конкурсу». Бацькі такіх няўдачнікаў (іх было не многа) прывозілі ў гарадок увечары, каб не трапіць чужому на вочы, і яшчэ тыдзень дзіця не выходзіла з хаты на людзі. У той памятны тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят пяты год наш клас пабіў усе рэкорды. З трыццаці трох вучняў трыццаць паступілі з першага заходу ў інстытуты і толькі адзін у тэхнікум. Паехалі вучыцца ў свет пляменнік Крутаярава, сын старшыні калгаса, дачка прадаўца універмага і дачка тэхнічкі — прыбіральшчыцы школы, паступілі сын Урбановіча і пляменніца сталяра Клубышка, дачка Глеба Іванавіча і мой сябар Вася Кіцель, пра якога яшчэ з пятага класа старэйшыя казалі: «Дурны і не лечыцца». Вася саромеўся прызнацца, што ён паступіў на ветэрынарнага ўрача. Мы, аселіцкія, ведалі, што яму не было

[1] Я бачу толькі лес.

большай радасці, як дапамагаць Паўлёнку запрагаць і распрагаць кабылу. Ён вечна прыносіў аднекуль катоў, сабак. Нечаканасці ў яго выбары не было. Нікуды не паступілі толькі мы: Ванька Гасцюшкін, якому вельмі хацелася паслужыць у марфлоце, таму ён не пасылаў дакументы ў свой любімы фізкультурны інстытут, і я.

# ЧАСТКА ПЯТАЯ

## ГРОШЫ

Прадчуванне, што мне дадуць «ад варот паварот», ніяк не было, як не абнадзейвала і ўпэўненасць, што асілю ўсе экзамены. Уся справа ў тым, што перад асноўнымі экзаменамі на рэжысёрскі факультэт ВГІКа спачатку дасылаюць на папярэдні конкурс свае ўласныя работы, ад якасці якіх шмат залежыць у далейшым. Ад'язджаў я ў Маскву адразу пасля выпускнога балю, раніцай першым аўтобусам. Гадзіне а пятай пасля балю наш клас школы № 2 сустрэўся з класам школы № 1, так рабілі ўсе выпускнікі школ і да нас. Паспявалі мы песні ў скверы ля кінатэатра «Зара», патрынкалі на гітарах, здаецца, нешта выпілі. Пачалі, крыху стомленыя ад гуляння, разыходзіцца са шчымлівым пачуццём страчанага нечага светлага і незабыўнага, добрага і вясёлага, якога ніколі не вярнуць. У мяне заставалася тры гадзіны. Мы з Ванькам Гасцюшкіным, які не пайшоў дахаты, папляліся да мяне на Закасцельную па чамадан. Угледзела баба, што я збіраюся ў дарогу, ды ў слёзы. Мне зрабілася сорамна перад Ванькам, я пачаў супакойваць бабу, што еду ўсяго толькі на два-тры тыдні. Тады яна мяне тройчы перахрысціла, блаславіла... Мы пайшлі хуткай хадою, я не азіраўся на нашу фортку, каб не заплакаць. Яшчэ ўчора мне так хацелася з'ехаць хутчэй у горад, у інстытут, на кінастудыю (былі і такія планы), а прыйшоў час ехаць — і як быццам і расхацелася.

Да аўтобуса, праводзіць мяне, прыйшло некалькі аднакласнікаў і — што было зусім нечакана — сярод іх Валя Цялегіна. Яна стаяла побач з класным кіраўніком і яго жонкаю, якіх я таксама не чакаў. Усе, па чарзе абдымаючы, жадалі мне поспеху. Я ўпершыню пацалаваў Валю ў цёплую шчаку. Мы абое пачырванелі.

Пасля мне Ванька казаў, што, калі яны вярталіся ад аўтобуснай станцыі, ён бачыў, як яна заплакала. Класны кіраўнік непрыкметна сунуў мне ў далонь скамечаную дзесятку: «Мы ў цябе верым. Давай, Адась, там смялей».

Я сеў ля акна, памахаў ім усім рукой.

Пакуль даехаў да таго 3-га Сельскагаспадарчага праезду, дзе знаходзіўся інстытут, пакуль знайшоў, стаміўся ад спякоты (чамадан быў са мной), знямогся, можна сказаць, да непрытомнасці. Горыч наганяла трывогу: «Няздатны я да гарадскога жыцця, няздатны». Людзей трохі ў завулку ля інстытута паменшала, гул у маіх вушах аціх. Прайшоўся раз, другі процілеглым бокам праезду, паўз жоўты будынак інстытута з тым хваляваннем, з якім калісь чакаў у цемры Цялегіну. Ніякая сіла не прымусіла б, здаецца, пераступіць парог гэтага «храма багоў», якім ён уяўляўся пасля чытання мноства інтэрв'ю дзеячаў кіно. Не рызыкнуў наблізіцца да высокіх дзвярэй з доўгай карычневай ручкай, якая мне нагадала разьбяную ножку нашага хатняга стала. Жах правінцыяла (я ўпершыню апынуўся сам-насам з горадам-гігантам) аддаляў некалі моцную, а цяпер кволую мару.

На рагу ля кінастудыі дзіцячых і юнацкіх фільмаў стрэліся тры барадачы. Падумалася: не інакш і гэтыя хлопцы паступаюць у ВГІК. Пачаў і я хадзіць-прагульвацца ўслед за імі, пакуль не рызыкнуў і не запытаўся пра інстытут, пра конкурс.

— А ты на які факультэт? — высокім тэнарам пацікавіўся адзін.

— На рэжысёрскі, — ганарліва адказаў я.

— Фі... цяжкі выпадак. Пасля школы?

— Не пасля семінарыі ж.

— Лепш было б, калі б пасля семінарыі, а пасля школы рана, безнадзейная справа. Я чацвёрты раз паступаю, і ніякай упэўненасці.

— И не мечтай, — адказаў другі па-руску з акцэнтам.

— А як туды пазваніць, у прыёмную камісію? — я дастаў з кішэні блакнот і ручку.

Іхняя перасцярога падштурхнула мяне, і я пазваніў у прыёмную камісію пастановачнага факультэта.

— Как ваша фамилия? — пачуўся ў трубцы жаночы голас, нечым падобны на голас Дашы.

— Адась Доля. Я подавал на режиссерский факультет. Можно узнать... куда сдавать документы?

Яна не дала мне дагаварыць:

— Одну минуту. Подождите. Сейчас проверю.

Сэрца ў мяне ёкнула. Праз мінуту ўсё той жа голас, з той жа абыякавасцю і пачцівасцю адказаў:

— К сожалению, вы не прошли предварительный конкурс. Мы вам отправили письмо на домашний адрес.

Спазма сціснула горла. Каб не папярэднія словы барадатага «я паступаю чацвёрты раз», мо, пачуўшы такі адказ у трубцы, я б заплакаў ад няўдачы.

У таксі колкая навіна ўжо не так рэзала сэрца.

— Куда поедем? — ветліва спытаў таксіст.

— На Белорусский вокзал.

Куды ж яшчэ? Толькі на вакзал, купіць білет і першым цягніком дахаты. Не выпускаючы з рук чамадан, прастаяў я ў чарзе па білеты гадзіны са дзве, яшчэ гадзіну тоўкся ў калейцы сталоўкі ля вакзала. Роспач не дазваляла думаць ні пра што. Толькі ў Мінску, на вакзале, спахапіўся: «Куды ж я еду? На пасмешышча?..» Успомніў з біяграфій некаторых тады славутых, што яны напачатку недзе вучыліся, кідалі і з другога, трэцяга курса паступалі на рэжысёрскі факультэт. Мо ад таго, што мне даводзілася ўжо бываць тут, плошча ля вакзала падалася і ўтульнай, і сваёй. Падаў я заяву на гістарычны факультэт дзяржаўнага універсітэта.

Грошай заставалася яшчэ многа: я зняў з ашчаднай кніжкі дзвесце рублёў, ды дзядзька Міхалка даў дваццаць, ды класны кіраўнік дзесяць. Даведаўся я, што бліжэйшы інтэрнат недалёка зусім, па вуліцы Свярдлова. Пайшоў туды, расказаў каменданту пра сваё няўдалае паступленне ў ВГІК, пра сваё сіроцтва і папрасіў пасяліць мяне датэрмінова, каб звыкнуцца з рытмам горада, пахадзіць на кансультацыі.

— Я гатовы за гэта дапамагаць вам рабіць самую чорную работу.

Відаць, мая худоба, змучаны выгляд, запалыя сумныя вочы і тужлівы голас кранулі сэрца каменданта. Кастэлянцы да таго ж патрэбен быў памочнік, каб вазіць бялізну ў пральню. Мяне пасялілі ў вялікі пакой аднаго. Адступаць не было куды. Хадзіць далёка ад інтэрната я баяўся і накінуўся на кніжкі, якія прывёз у

чамадане, як галодны на ежу. Чытаў шмат, але нічога не затрымлівалася ў галаве.

«Канечне, Цялегіна пастуніць у Маскве, канечне ж, я згублю яе канчаткова. Ну а ўрэшце, на што спадзявацца? Што магло быць? Санаторый, хвароба зрабілі сваю нябачную справу. Мы не пара. Гэта зразумець можна было і раней. Сям'я іх пераязджае ў Столін, так што наўрад ці калі мы сустрэнемся. Пакуль ад успамінаў яшчэ шчыміць сэрца, але ж і гэта, як казаў Булька, часова. Праклятая хвароба. А можа, мне проста эгаістычна не хочацца аддаваць Цялегіну нікому? Забыць трэба ўсё. Ніколі ў пісьменнікаў не чытаў я, каб першая любоў ды была шчаслівай. Гэта так рэдка, як цень самалёта над нашай хатай у Давыд-Гарадку. А яе вочы тады на аўтобуснай станцыі? У іх былі слёзы. І што? Проста было сумна развітвацца з аднакласнікамі, з дзяцінствам. Усё... Забыць».

Ад інтэрната да галоўнага корпуса я не хадзіў напрасткі з дзвюх прычын: баяўся праходзіць міма морга медыцынскага інстытута, да якога штодня пад'язджалі машыны з труной, і, па-другое, не хацелася сустрэцца з Дашай Савічык. Інтуіцыя падказвала мне, што яна ходзіць, у час экзаменаў, тут, непадалёку, па адной і той жа сцежцы. Няхай лічыць, што я ў Маскве, а паступлю, тады і напішу ёй.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У гэтым месцы, дарагі чытач, я мушу прыпыніць сваю споведзь літаральна на некалькі мінут. Чую ў пярэдняй тупат: вярнуліся з горада мая жонка і сын. Яны хадзілі ў магазін купляць маламу сандалікі. Нешта жонка сварыцца на сына, нервуецца, відаць, нічога не купілі альбо ўзялі тое, што ёй не падабаецца. Я таксама мушу схаваць у стос папер пісьмо, з якім абяцаў вас пазнаёміць. Справа ў тым, што яна не надта каб з вялікай ахвотаю адгукнулася на маё жаданне першым напісаць ліст у Давыд-Гарадок. Не было ў яе намерах, пытаннях і абыякавасці. «Дазволь мне падумаць. Дазволь усё яшчэ раз грунтоўна ўзважыць», — прасіла яна. Я напісаў, не чакаючы яе згоды. Яна гэтага, паверце мне на слова, не любіць. Цяпер, калі ў яе дрэнны настрой, не варта пакуль паказваць пісьмо. Пайду на кухню, будзем усе разам палуднаваць, такая ў нас завядзёнка. Так і ёсць. Нічога не купілі. Яна нават не распранулася. Будзем піць чай з сынам адны. Маці, я ведаю яе ўпар-

тасць, паедзе на калгасны базар шукаць дзіцячы абутак.

— Замест таго каб лынды біць, напішы фельетон пра дзіцячы абутак! — кідае яна мне з парога.

Я бездапаможна разводжу рукамі. Характар маёй жонкі вам, дарагі чытач, трохі вядомы — яна адна з тых трох жанчын, падораных мне лёсам, пра якіх я распачаў сваю гаворку на пачатку свайго расказу. Далей у вас яшчэ будзе магчымасць пазнаёміцца з ёю бліжэй. Стомлены вулічнымі пакутамі, сын з неахвотаю з'еў кавалачак батона з маслам і вішнёвым варэннем, бухнуў на ложак і ўмомант заснуў. Не ведаю, як хто, а я сябе адчуваю надзейна і спакойна, калі вось так твой сын спіць, а ты сядзіш побач, займаешся хатнімі справамі з радасцю, чытаеш кніжку з ахвотаю і асалодаю. Не параўнаць гэты прыемны матыў жыцця з мелодыяй трывогі, калі сын гуляе ў двары дома, хай сабе і пад вокнамі нашай кватэры. Усё баліць душа, толькі б нічога не здарылася.

У пакоі цішыня. Лёгкі ветрык ледзь гойдае на балконе бялізну. Сонца павярнула на захад, і цяпер у нашым пакойчыку ўсё заліта яго залатым святлом. Няма ўгамону на вераб'ёў. Ляціць пух з таполяў. Цешча звычайна сварыцца, калі мы ў такія дні пакідаем надоўга адкрытым балкон: любім з жонкаю гэту пару, калі шчыруе лета. Рэдкай прыгажосці выдаўся дзень. У такія мінуты, успамінаючы мінулае, часам думаю, што ўсё там было не са мною, а з некім іншым. Быццам там, у далечыні часу, жыў другі чалавек, толькі не ты. «Мне ў трыццаць гадоў яшчэ падалося, што я пражыў ужо сто год і сто жыццяў», — успомніліся словы Воўка-пустэльніка. Згадаўшы яго, я міжволі вярнуўся да ўспамінаў і распачынаю працяг маёй споведзі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я здаў усе экзамены не горш за тых, хто меў працоўны стаж, іх узялі менавіта таму, што яны мелі працоўны стаж, а мне вярнулі дакументы. Я не паў духам, бо ніколі не марыў стаць гісторыкам. Грошы ў мяне яшчэ былі, і я вырашыў пачаставаць хлопцаў, з якімі пазнаёміўся ў інтэрнаце, каб ведалі, што ў мяне бадзёры настрой і далёкія планы на будучыню.

Не хацелася развітвацца з горадам, так ён нечым прываражыў да сябе. Адзін дзень «дзяжурыў» ля кан-

серваторыі: а раптам напаткаю тут Ларысу Паўловіч. Грошы мае тым часам знікалі з такой хуткасцю, як капяжы ў падстрэшшы ад добрага сонца. Трэба было ехаць дахаты, мусіў я пераступіць праз самалюбства і ўласную фанабэрыю, выйсця не было.

Раннім жнівеньскім туманам маўкліва стрэў мяне Давыд-Гарадок. Усё наўкол спакойна, нязменна, нерухома, вечна. Адзінокая маторка затрашчала на Гарыні, прагрукаў воз па бруку, прамчалі машыны з ільном, зарыпелі з подсвістам драўляныя самалёцікі на высокай тычцы ля ганка хроснага.

Чаму ўсё навакольнае, уся прырода, якую я так люблю, абыякавыя да майго гора? Чаму не абураюцца ветрам, дажджом, градам? Чаму-у-у?

Людзі не пытаюцца самі: калі я вярнуўся — вядомая справа, не паступіў. Усім адразу першы кажу адно і тое ж: «Не прайшоў па конкурсу». Гэта трохі аўтарытэтней, чым проста не паступіў. Нікуды не хочацца хадзіць, нават у любімы кінатэатр. Адно і прыемна, што баба рада майму прыезду, сядзіць у добрым настроі ля грушы, вылузвае фасолю. Шукаць работу няма дзе... месцы заняты тымі, хто не паступіў у мінулым годзе. Пахадзіў да ракі, павудзіў на гарох, як умеў дзед, рыбу. У адзіноце на беразе прыгнятае журба яшчэ больш.

Пайшоў я прасіцца ў клуб. Добрае слова сказала зычлівая Таццяна, заступіўся і кіраўнік духавога аркестра, паручыўся, адным словам, і дырэктарка ўзяла мяне на трыццаць рублёў у месяц кіраўніком драматычнага гуртка.

У танцавальны гурток па-ранейшаму хадзіў адзін Халімон, хор бяздзейнічаў другі год. У духавым аркестры засталося пяць чалавек... усе спадзяванні дырэктаркі былі цяпер на новы жанр, драматычны, і на маю рухавасць.

— Мо некага і завярбуе, — казаў кіраўнік духавога аркестра.

Дырэктарка строга папярэдзіла, каб журнал наведванняў вёў акуратна і каб людзі былі запісаны, «каб не менш дзесяці ўдзельнікаў».

—Галоўнае, каб ты сам быў заўсёды напагатове, — павучала Таццяна, — прыедзе правяраючы з раёна, каб адгаварыцца ўмеў. Не хвалюйся, не звольняць. Яны ў

гэтую глушэчу не вельмі і едуць. Добра, каб хоць чытальнікі былі. Адзін, два вершы ведалі Твардоўскага, Смелякова, Маякоўскага. Бярыся смела за справу. Будзем разам падымаць культуру. Надакучылі адны танцы.

— Шчо застаецца рабіць. Будзем.

Дырэктарка дадала:

— Мне цябе не вучыць. Канцэрт павінен быць на Акцябрскія, на 9 Мая, на 8 Сакавіка і навагодні бальмаскарад — гэта як закон. У вёскі пакуль доўга ездзіць не будзем. Сапсавалася машына «аўтаклуб». Няма бензіну. Можа так быць, што яе забяруць у раён, у парк. Я цябе кантраляваць не буду. Ты на Таццяніным сумленні. Каб людзі ў гуртку былі. Калі зніме адзінку райаддзел культуры ці забярэ ў раён, не крыўдуй... Жаніся ці гандлюй насеннем кветак.

Я толькі падзякаваў дырэктарцы. Першым у мой гурток запісаўся Ванька Гасцюшкін, на месяц перад арміяй, але запісаўся. Нікога больш я ўгаварыць не змог. Вялікі артыст Халімон сказаў: «Запішы і мяне», — і падказаў паставіць у журнал «мёртвыя» прозвішчы, тых, хто хадзіў у клуб, калі яшчэ быў раён.

«Прычэпіцца інспектар аддзела, кажы, у цябе тэатр аднаго артыста».

Так пачалося маё працоўнае жыццё. «Як-небудзь год перакантуюся, а там зноў ВГІК», — суцяшаў я сябе.

Паказаць народу ёсць што. Тры сольныя танцы Халімона, песні савецкіх кампазітараў у выкананні Таццяны, сола на акардэоне Доўнара, дуэт сясцёр Жукавец, вершы Маякоўскага (другі выхад Таццяны), дуэт з оперы «Запарожац за Дунаем» (трэці выхад Таццяны і Доўнара ў якасці спевака) і, нарэшце, у паўзах байкі, мініяцюры і куплеты ў маім выкананні — вось ён, наш канцэрт на добрыя паўтары гадзіны. Усё даўно і стабільна адрэпеціравана. Справаздачы дасылалі ў раён акуратна і своечасова, таму мы збіраліся ў клуб, бы тыя санлівыя мухі, каб пагутарыць, пагартаць ды падшыць газеты, пагуляць у шашкі ды выпіць, бывае, з Доўнарам віна.

Мо ад гэтай аднастайнасці, санлівасці, абыякавасці дні цягнуліся марудна, як цяжкі воз у глыбокім пяску. Ажывалі ўсе літаральна на некалькі дзён перад святамі ды яшчэ, бывала, кідаліся выконваць пастанову па нагляднай агітацыі. Збівалі самі фанерныя шчыты, ма-

лявалі самі ці запрашалі Глеба Іванавіча намаляваць даярку з цялём на руках, палявода з кукурузай і свінарку на ферме. За наглядную агітацыю «стружку знімалі» і лісты-напамінанні дасылалі з аддзела культуры рэгулярна, трывожылі пастаянна тэлефоннымі званкамі.

Сёмага лістапада давалі першы вялікі канцэрт. Я паслаў запрашальныя білеты Граноўскім, Глебу Іванавічу, класнаму кіраўніку. Канцэрт прайшоў паспяхова, калі не бліскуча. Мяне ўсе віншавалі, хвалілі, падтрымлівалі добрымі спадзяваннямі маю мару. Не віншаваў і не цікавіўся маімі сцэнічнымі поспехамі толькі мой бацька. Мы з ім не сустракаліся, толькі аднойчы ён, сустрэўшы мяне ля хлебнага магазіна, заклапочана сказаў: «Артыст — гэта не хлеб. Рыхтуйся ды паступай у сельгасакадэмію. Вунь наш старшыня калгаса як памешчык жыве. Гэто дзела».

Я не крыўдаваў, што ён не хоча зразумець маю мару, але горыч была. Адчужанасць нашых адносін ніяк не хацела саступаць месца зычлівасці і паразуменню. Не хацелася пакуль і выпытваць у яго пра маці. Мяне памалу перастала цягнуць у дарогу. Часта, застаючыся адзін у халодным клубе-касцёле, я садзіўся да старэнькага піяніна і падбіраў адной рукой знаёмыя і модныя тады песні. Узрушаная адзінотай, музыкай, мая душа зноў вярталася да ўспамінаў пра Дашу, Паўловіч і Цялегіну. Хацелася атрымаць ліст і, што дзіўна, верылася, што нехта з іх напіша, абавязкова дашле сюды мне, у гэты бязлюдны клуб, ветсачку. І я чакаў, як селянін увосень ураджаю.

Наведаў старыя мясціны і Крутаяраў. Меўся быць абраным у дэпутаты і прыехаў на сустрэчу з выбаршчыкамі. Спачатку планавалі правесці сустрэчу ў нашым клубе. Пабеглі па тэхнічку, прапалілі грубкі, наклеілі на сцэну плакатаў самай разнастайнай нагляднай агітацыі, чырвоным абрусам заслалі стол, памылі ад пылу графін, вышаравалі шклянкі (на дне былі рэшткі віна Доўнара). Пазычылі ў тэрапеўтычным аддзяленні бальніцы (яе стварылі ў былым доме ксяндза) некалькі крэслаў. Свае крэслы баяліся ставіць да стала, каб, не дай бог, абласное начальства не пападала. Мэбля ў клубе была дабіта дарэшты, трэці год абяцалі выпісаць новую. Выраўнялі шыльду «Мастацтва належыць народу». Але ўсё дарма. Крутаяраў вырашыў паехаць да вясковых

выбаршчыкаў у калгас «За Радзіму». Нас запрасілі даць святочны канцэрт у гонар дарагіх гасцей.

Крутаяраў сядзеў у першым радзе. Ён амаль не змяніўся. На ім быў чорны касцюм, белая кашуля, гальштук. Прыкметная сівізна на скронях. Кірпаты нос, здаецца, крыху пашырэў. Па ўсім было відаць, ён у добрым настроі, кожнаму нумару горача апладзіраваў і шчыра рагатаў з маіх мініяцюр. Асабліва яму спадабалася гэтая. «Сустракаюцца двое. Адзін пытае: а вось скажы, калі мужчына доўга глядзіць дзяўчыне ў вочы, што гэта азначае? Другі ў адказ: гэта азначае, што ўсё астатняе ён ужо агледзеў». Але і гэты смех быў усяго толькі дзіцячай усмешкай у параўнанні з гамерычным рогатам усёй залы ў самым канцы праграмы. Дырэктарка, як бы прадчуваючы нядобрае, доўга не згаджалася ўключыць каронны нумар Доўнара. Усё спасылалася на тое, што канцэрт адказны і скрозь павінен быць ідэйным. Песні савецкіх кампазітараў, танцы «Яблычка» і «Цытадэль», вершы Маякоўскага і толькі, як выключэнне, некалькі маіх гумарэсак. Доўнар сказаў, што падасць заяву аб звальненні, прымусіў яе зацвердзіць у праграме сцэнку «Спатканне ў гарадскім парку», якую з нязменным поспехам круціў чатыры гады запар. Сюжэт просты. Сядзіць на лаўцы дзяўчына, чакае каханага. Да яе падыходзіць юнак, якому дзяўчына спадабалася. Сядае побач, але раптам заўважае, што з аднаго боку бяжыць да дзяўчыны яе каханы, а з другога выходзіць прыбіральшчык парку. Разгублены юнак становіцца на пастамент за лаўкай, замірае, не варухнецца. Каханыя пакідаюць лаўку, а прыбіральшчык са швабрай у руках пачынае прыбіраць. Выцірае анучай «жывую скульптуру», знімае пыл з жывата, рук, твару. Падменная «скульптура» не вытрымлівае козыту і выдае сябе. Прыбіральшчык не верыць сваім вачам. Аблівае вадою з вядра з галавы да ног усю скульптуру. Ваду загадзя падагравалі. Скульптура і тады стаіць нерухома. Тады прыбіральшчык асцярожна цягне яе за штаны і здымае іх да калень. Скульптура ад сораму ўцякае, збянтэжаны прыбіральшчык уцякае ў другі бок. Ролю прыбіральшчыка ў нас выконваў Ванька Гасцюшкін, якога напярэдадні свята забралі ў армію. Доўнар паставіў мяне на замену. Мы нават не рэпеціравалі, бо я загадзя ведаў кожны жэст і прыбіральшчыка, і «скульптуры». Дырэктарка схавалася за кулісамі, кусала кончык хустачкі

і не знаходзіла сабе месца. Усё ішло добра да таго моманту, калі мне патрэбна было паліць скульптуру вадой. Часу падагрэць ваду не было, і таму я шахнуў вядро вады (Ванька ліў палову) на няшчаснага Доўнара, якога ўсяго перакасіла: ён не чакаў, што яго абальюць ледзяной вадой з ног да галавы. Але і гэта было не ўсё. Вада са сцэны палілася пад ногі пачэсным гасцям і самому кандыдату ў дэпутаты. Узбуджаны жывой рэакцыяй гледачоў, якія стагналі ад рогату, я рвануўся сцягваць штаны. Абмяклыя, яны, як назло, не сцягваліся. З усяе сілы я рвануў долу адзежу з Доўнара. Ён пачырванеў, бы рак. На целе ў яго засталіся малюсенькія плавачкі (замежны падарунак брата-марака), якія завязваліся збоку белымі матузкамі. Ён хутка прыкрыў абедзвюма рукамі сорам свой.

— Давайце заслону! Заслону! — крычала збялелая дырэктарка і сама ўхапілася цягнуць шнур.

Доўнар разгубіўся, так і стаяў на п'едэстале. Мінут пяць зала не супакойвалася. Качаўся ад смеху на падлозе Халімон. Ніколі я не бачыў, каб так рагатала Таццяна.

— У-у, бляха! Заб'ю! — страшыў Доўнар, але па ўсім было бачна, што біцца ён не будзе. Бы ачмурэлы, стаяў у кутку. Дырэктарка, абхапіўшы галаву рукамі, вохкала: «Шчо будзе? Шчо будзе?»

Нас, артыстаў, запрасілі ў бібліятэку сагрэцца, на «чай».

У суседнім пакоі старшыні калгаса таксама грэліся госці з вобласці. Недзе праз паўгадзіны прыбег да нас загадчык раённага аддзела культуры — давераная асоба кандыдата, запрасіў Доўнара з акардэонам. Мы добра ўжо сагрэліся і пайшлі ў суседні пакой гуртам. Акрамя дырэктаркі. Яна не рызыкнула.

— Хлопцы, дарагія... у вас гэты нумар са скульптурай так здорава, так здорава атрымаўся, што ў мяне дагэтуль слёзы ад смеху на вачах. Правільна. Народу трэба павесяліцца, — хваліў нас лагодна старшыня калгаса, запрашаючы да стала.

Крутаяраў рукой паказаў, каб я сеў каля яго.

— Давайце, хлопцы, заспявайма шчо-небудзь сваё, а то канцэрт прайшоў, а ніводнай народнай песні мы і не пачулі, — раіў тоўсценькі старшыня калгаса. Сам жа і пачаў, запеў: «Распрагайтэ, хлопцы, коней дый лягайтэ спо-очываць».

Загадчык глянуў скоса на Крутаярава, бачыць, што і Аляксей Аляксеевіч спявае, тады з ахвотаю заспяваў і сам.

— Як, хлопцы, у нас атрымалася, — ганарыўся пасля песні старшыня, — хоць збірай на сцэну. Давайце, таварышы дарагія госцейкі, за артыстаў.

— Ну, Адась, малайчына. Здольны ты артыст.

— А-а, выкрунтасы, — зацягнуў я.

— Не кажы, талент трэба мець, — зноў хваліў Крутаяраў.

Дасужы старшыня зноў зацягнуў песню.

— Пойдзем у калідор, перакурым, — прапанаваў Крутаяраў, зняў пінжак і павесіў яго на дужку крэсла. — Сам курыш?

— Не.

— Проста цудоўна. А я не магу кінуць. Гэта — яд. Я цябе пазнаў адразу... Кхе, натуральна ты яго вадой... даўно так не смяяўся. Пачакай, ты ж школу закончыў. Паступаў, не?

— Паступаў.

— Куды?

— У ВГІК. На рэжысёрскі факультэт, — з гонарам адказаў я.

— О-го! Смела, вельмі смела. Наколькі мне вядома, ніводзін беларус з Брэсцкай вобласці на гэты факультэт за апошнія дваццаць гадоў не паступаў. Кажуць, што конкурс туды сто—дзвесце жадаючых на месца. Мая дачка таксама спярша на артыстку хацела. Ледзь маці адгаварыла. Паступіла ў педагагічны і, скажу, задаволена. — Крутаяраў змоўк, палічыў, што не варта ў такую мінуту хваліцца паступленнем дачкі. — Туды цяжка паступіць. А калі табе паспрабаваць у наш тэатральны інстытут? Мо нейкім чынам і я змог бы табе памагчы. Скажам, узяць накіраванне ад нашага абласнога тэатра. Ідэя?

— У мяне мара. У Маскву хачу.

— Калі сур'ёзна марыш, дабівайся свайго. Па-ранейшаму жывеш у дзеда і бабы?

— Так. Дзед памёр. У шэсцьдзесят чацвёртым годзе.

Павісла доўгая паўза.

— І дзе ж ты працуеш?

— Кіраўніком драмгуртка Дома культуры.

— Рублёў шэсцьдзесят у месяц?

— Трыццаць.

— Паслухай — ідэя. У мяне пад Брэстам ёсць знаёмы старшыня калгаса, талковы чалавек. Самадзейнасць любіць як апантаны. Сам спявае ў хоры. Лепшы ў вобласці Палац культуры пабудаваў. Грошай у калгасе хапае. Шукае ён добрага дырэктара ў свой Палац культуры. Давай я цябе парэкамендую. Ідэя? Аддзел культуры дае стаўку, і праўленне калгаса выдзяляе са сваёй касы грашовую даплату.

— А баба як?

— Дык яна ж у гарадку не адна. Міхалка жывы-здаровы?

— Двое дзяцей у яго. Пастаяннага заробку няма, — разважаў я, і не думаючы даваць згоду на яго прапанову.

— Не векаваць жа табе з ёй. У людзі выходзіць трэба. А дачка, цётка твая?

— Олена?

— Так.

— Хварэе. Баба нікуды са сваёй хаты не пойдзе.

— Дзеці ж не дадуць памерці з голаду. Мне, павер, перад памяццю тваёй маці сорамна. Памятаю, яна неаднойчы паўтарала: «Уся мая надзея — сын. Мне б толькі паспець яго ў людзі вывесці». Ёй хацелася, каб ты стаў маракам.

— Не памятаю.

— Павер мне на слова. Яна майго сябра, Адама, кахала. Прыгожая пара была. Мы тут у сорак пятым сталі. З тваім бацькам яна не была шчаслівай. Трагічны лёс. Успамінаеш яе?

— Часта ўспамінаю.

— І я ў гэтым годзе сваю маці пахаваў... Зразумеў, няма на свеце чалавека даражэй і бліжэй, чым маці. Позна зразумеў. Валасы сівыя, а ўсё яшчэ жыць не навучыўся. Ты ўсё ж яшчэ раз хораша падумай наконт маёй прапановы. Яны, дарэчы, змогуць пасля цябе і ў інстытут рэкамендаваць. Стыпендыю сваю будуць даваць.

— Я за грашыма не ганяюся.

— Гэта чуць прыемна, але ж пакуль яны ў жыцці чалавека іграюць істотную ролю.

— Дзякую. Не паеду я нікуды з гарадка, Аляксей Аляксеевіч. Не паступлю ў ВГІК, дык падамся на журфак.

— Маеш здольнасці ў гэтым кірунку?

— Трохі пішу вершы. Раньш пісаў.

— Цікава. Скажу табе, пісаць ёсць пра што, і не трэба нічога прыдумляць. Столінскі раён непазнавальна зменьваецца на вачах. Шырокім фронтам мяркуем пачаць меліярацыю. Землі набудуць другое жыццё. Што вершы — тут паэмы складваць можна. І ўсё ж, не ведаю, якія ты пішаш вершы, а я б на тваім месцы пайшоў у артысты. Хораша ў цябе атрымоўваецца на сцэне.

З дзвярэй выкаціўся на калідор маленькі, тоўсценькі старшыня калгаса.

— Аляксей Аляксеевіч, дарагі, народ без дэпутата сумуе, — выгукнуў ён.

— Без кандыдата ў дэпутаты, Ерафеевіч, пакуль кандыдата.

— Ды ўжо ж прагаласуем аднагалосна, не падвядзём. Ручаюся.

— Іду, — Крутаяраў зноў звярнуўся да мяне: — Хачу табе памагчы і не ведаю як, ай-богу. Вось табе мой тэлефон, — ён дастаў запісную кніжку, напісаў і выраў лісток, — адзін аблвыканкомаўскі, другі хатні. Пішы, звані, калі надумаеш усё ж паехаць у калгас дырэктарам Палаца культуры.

Я да застолля не пайшоў. Ведаў, што, выпіўшы, Доўнар будзе чапіцца: «Выпі ты гарэлкі, не будзь бабай». Пярэчыць ягоным словам было дарма, а сядзець на людзях, склаўшы рукі на каленях, я палічыў, будзе няёмка. Мы ледзьве дабраліся да гарадка. Наша старая ламачына «аўтаклуб» тройчы за дарогу псавалася, а двойчы мы яе рукамі выцягвалі з глыбокага снегу.

Баба Насця (яна ніколі не засынала, не дачакаўшыся мяне) уначы нічога не сказала, а перадала мне канверт раніцай.

— Чаго плакаць, чаго? — наляцеў я на бабу. Яна, перадаючы канверт, заплакала.

— Мо цябе ў бальніцу зноў клічуць ці ў санаторыю тую.

Мне прыходзілі часта пісьмы. Ванька пісаў з Сімферопаля, Толік Бабёр з Ташкента. Відаць, баба, а яна была непісьменная, нейкім чынам зразумела, што пісьмо не ад іх.

— Ай, ціхо. Нікуды мяне не выклікаюць. — Я прачытаў зваротны адрас. Брэст. Інтэрнацыянальная. Даша Савічык. Яна пісала, што ў медыцынскі інстытут Масквы не паступіла. «Папёрлася не ў Мінск, як раней

хацела, а ў Маскву, знарок за мной», — з прыемнасцю падумаў я. Пісала, што цяпер працуе лабаранткай у нашым тубдыспансеры і што збіраецца на два месяцы зноў у санаторый Браслава, што будзе ў наступным годзе абавязкова паступаць у Мінскі мёдінстытут. З пісьма даведаўся, што падлеткаў цяпер у бальніцы амаль няма і што пуцёўкі ў Браслаў «гараць», таму яна і едзе. Яшчэ пісала, што прыслаў ёй ліст Булька з Гомеля. Ён не паступіў на юрыдычны, нідзе не робіць пакуль і едзе таксама ў санаторый. Паўдня я хадзіў з адным пытаннем у галаве: ехаць у санаторый ці не ехаць? Я прыдумляў сабе неабходнасць. Там, у санаторыі, будзе больш магчымасці рыхтавацца мне ў інстытут, а ў Доме культуры праседжваю штаны, дый годзе. А там можна будзе шмат чытаць. Я склаў вялізны спіс літаратуры, які абавязаны быў прачытаць і ў якім двума крыжыкамі пазначыў найбольш любімых: Рэймант, Лао Шэ, Прус, Дастаеўскі, Заля, Дзікенс, Бальзак. «Трэба ўсё ж паехаць. Два месяцы праляцяць хутка. Трэба ехаць, — усё больш схіляўся я да адной думкі. — Паездка спрыяе і паляпшэнню здароўя. Рэжым, свежае паветра, добрыя харчы, вітаміны. Трэба ехаць! — пагарэўся я. — Зіма гнілая, у хаце сырасць, цвіль. Трэба ехаць».

Увечары напісаў ліст галоўнаму ўрачу дыспансера Промзелевай і хутка атрымаў запрашэнне прыехаць па пуцёўку. У той жа дзень я выехаў у Брэст.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Цяпер, калі мне трыццаць і калі чалавеку дадзена больш-менш пераглядаць свае былыя ўчынкі, я зразумеў, што паступіў тады, як здраднік. Падмануў бабу Насцю. Сказаў, што трэба падлячыцца. Я пакінуў яе адну на доўгія, нудныя зімовыя вечары. Хоць менавіта тая паездка ў санаторый перайначыла паслядоўнасць маіх жыццёвых пуцявін. Пачуццё горкай агіды да самога сябе не пакідае мяне і цяпер, калі пішу гэтыя радкі і калі бабы Насці няма больш у жывых.

Ні з кім я не развітаўся, не бачыўся з бацькам, з'ехаў непрыкметна, бы ўцякаў, як нейкі злодзей. Хацелася, каб усё паўтарылася, што было тады ў санаторыі. Я памыліўся. Усё было тое ж самае: цёмна-чырвоны будынак санаторыя, сасновы бор, музыка Аскольда, добрыя медсёстры, уважлівыя дактары, смачная ежа, чыстыя палаты, прыгожыя азёры, цудоўны касцёл ля гары,

вялізны яркі дыск сонца над лесам, таямнічы месяц уначы — усё было тое ж самае, нязменнае, і ўсё было іншае. Адраджэння непаўторнасці той атмасферы і тых былых прыкмет не было. Са старой колішняй «гвардыі» сабраліся толькі мы ўтраіх: Даша, я і Булька. Нам, «старым», зрабілася сумнавата і нецікава сярод чатырнаццаці-пятнаццацігадовых. Мы жылі больш успамінамі таго, першага заезду, гэта нас яднала. Селі за адзін столік, разам хадзілі ў лес, да возера, разам збіраліся на фільмы, абмяркоўвалі іх і разам улезлі з галавой у самадзейнасць, дзякуючы якой былі выезды ў далёкія вёскі Браслаўшчыны, была хоць нейкая радасць адкрыцця новых месц, непаўторнай прыроды. Я па-ранейшаму вёў канцэрт, выкідваў «конікі» (тут не было «цэнзуры» давыд-гарадоцкай дырэктаркі), Даша была занята ў танцах, а Булька чытаў вершы пра каханне. Я па-ранейшаму зайздросціў яго памяці, мне ўсё здавалася, што ён ведае больш. Ён не любіў жывапісу, сімфанічнай і народнай музыкі, абыякава ставіўся да зменлівай прыгажосці мясцін і нікому, здавалася, не спачуваў. Вершы пра каханне мог чытаць суткамі. Дашы гэта падабалася, і яна некаторыя з вершаў перапісвала сабе ў сшытак. Булька ведаў асабістае жыццё паэтэс, хто каго любіў і хто ў каго быў любоўнікам, каго выдавалі, а каго не, хто любіў Пушкіна, а хто ненавідзеў і зайздросціў. Трымаўся Булька вельмі незалежна, гаварыў нават з бравадай, часам і крытыкаваў усё: стан медыцыны, вазоны ў холе, рэкламу кінатэатра, голас Магамаева, прозу Мележа, легкавыя машыны, нашу радыёапаратуру. Не ведаю чаму, але я іх з Дашай баяўся пакінуць адных. Так нас і ахрысцілі — «неразлучная тройца». Мяне хвалявала цьмянае далёкае пачуццё рэўнасці, якое перамешвалася з пачуццём уласніка. Маё знаёмства з Дашай трывалае, яна пісала мне, я адказваў на яе лісты... усе правы на яе былі на маім баку. Я трымаўся досыць упэўнена. У час нашых прагулак Булька не прамінаў заўсёды тонка ўшчыкнуць мяне, здаралася, у ягонай іроніі была з'едлівасць.

— Табе ніколі не паступіць на кінарэжысёра. Дзеці славутых людзей па некалькі разоў паступаюць, а хто ты? Нуль. Блат патрэбны. Па туберкулёзу могуць не ўзяць таксама. Сёння ты здаровы адносна, а назаўтра працэс адкрыецца — і аля-улю, гані гусей. Не паступіць табе туды ніколі.

Я кіпеў ад злосці, ледзь стрымліваючы сябе, адказваў:

— Паглядзім. Я дашлю табе запрашальны білет на прэм'еру майго фільма!

— Ну-ну, дай бог нашаму цяляці ваўка з'есці, — усміхаўся ён.

— Кірыл, Адась таксама вершы піша, — Дашы хацелася падняць мой аўтарытэт.

— Цікава. Новы Асадаў. Прачытай што-небудзь, — папрасіў ён высакамерна.

Я праз сілу прачытаў ім некалькі старых вершаў. Булька злоснай крытыкай знішчыў іх ушчэнт. Я ледзь стрымаўся, каб не ўдарыць яго па твары.

Дні ішлі падобныя адзін на другі, як лісты ў сшытку. Яршыстасць і незадаволенасць Булькі пачынала надакучаць і раздражняць. Толькі выезды на канцэрты ажыўлялі манатонны, часам санліва-абыякавы рытм нашага жыцця. Паехалі аднойчы далёка, пад Відзы, у дом састарэлых і інвалідаў. Ехалі доўга, усе стаміліся, таму дамовіліся з Аскольдам скараціць праграму. Нас правялі ў кабінет дырэктара, дзе мы пераапрануліся і чакалі, пакуль вынесуць са сталоўкі сталы і ўнясуць табурэткі ды крэслы.

Людзей у зале-сталоўцы назбіралася паўнютка, так што нам не ўдалося прайсці праз залу да невялічкага дашчанага выступу-сцэны. Прыйшлося з калідора ўзламваць старыя дзверы, якія выводзілі на пляцоўку. Частка ўдзельнікаў канцэрта згурбілася збоч сцэны, астатнія чакалі свайго выхаду ў калідоры. У зале зрабілася душна, не зусім прыемна пахла. Не паспеў я выйсці на сярэдзіну сцэны, каб перадаць віншаванні ад калектыву санаторыя і аб'явіць першы нумар, як, угледзеўшы артыстаў, людзі горача заапладзіравалі.

— Нічога-нічога, — супакойваў мяне работнік дома, — гэта падзяка за прыезд. У нас артысты рэдкія госці, раз у пяць-шэсць гадоў бываюць.

Я прыгледзеўся да залы. У большасці там былі старыя людзі, шмат жанчын... У першым радзе сядзелі інваліды, некалькі чалавек было без абедзвюх ног, нехта без рукі, нехта з адной сухенькай ручкай, нехта ў калясцы.

Такое са мной было ўпершыню. Я разгубіўся. Мне падалося дзікім: жартаваць, сыпаць анекдоты ў такой аўдыторыі. Але надзвычай жвавая рэакцыя на кожнае

слова, рух, нейкая дасціпная атмасфера сувязі сцэны і залы, шчыры прыём (кожны нумар удзячныя гледачы праводзілі доўгімі апладысментамі, некаторыя нумары мы нават мусілі паўтараць на «біс») — усё гэта зняло маю разгубленасць, маё хваляванне. Ніколі нідзе больш з такім уздымам і любоўю не праходзілі канцэрты, да якіх я меў дачыненне, як тады, у зале-сталоўцы. Толькі адна жанчына сярод прысутных менш за астатніх усміхалася, сядзела, не падымаючы рук з каленяў. Я яе заўважыў у самым канцы канцэрта. Прыглядалася да яе і Даша. Я ўстрапянуўся. Гэтая жанчына была нечым падобная на маю маці.

Нас усіх ветліва праводзілі, дзякавалі ўсё яшчэ і ў калідоры, і на ганку.

У аўтобусе было ціха. Вярталіся без слоў, без вясёлых песень. Не, мы не стаміліся. Было нейкае страшэннае пачуццё віны, што нельга гэтым людзям дапамагчы, што яны засталіся там назаўсёды, а мы ад'язджаем у свет па надзеі, мары, спадзяванні, па каханне. Прыкра было на душы, прыкра. Была злосць на неба, на бога, на лёс, на бяссілле чалавечае. Мы выйшлі з Дашаю прагуляцца да клуба. Было цёмна і марозна. Не хацелася спаць. Яна села ў снег на сходках клуба і нечакана пачала наўзрыд плакаць.

— Што здарылася, што? — дапытваўся я.

— Пакінь мяне, пакіньце мяне ўсе! Ідзі!

Мне не даводзілася бачыць яе такой знерваванай. Я не адыходзіў. Яна крыху супакоілася.

— Што ўсё-такі здарылася, Даша?

— Нічога. Адна дурнота. Ведаеш, я хацела пакончыць з сабой. Так. Не здзіўляйся. Яшчэ зусім нядаўна былі такія думкі. Я ўзненавідзела людзей, жыццё, сваю хваробу. Я стамілася. Я зразумела сваю нікчэмнасць перад лёсам, богам... Я не хацела жыць... О, як мне было сёння страшна выходзіць на сцэну. Я не верыла, што яны змогуць усміхнуцца, рагатаць, весяліцца ад душы, радавацца так жыццю... такога не магло быць, калі я ненавідзела жыццё, праклінала лёс... тады мне... І раптам... усё наадварот. Я быццам нанава нарадзілася. Я вінаватая перад імі за свае грэшныя думкі. Чалавек агідны. У мяне апусціліся рукі, я страціла веру ва ўсё. Яны перайначылі маю душу. Мне вельмі сорамна. Як я, з рукамі, нагамі, здаровая, магла так думаць пра самагубства? Я ж кінула змагацца за жыццё, жыла

безадказна... Так, плыла па цячэнні, што будзе, няхай будзе. Смерць дык смерць... Ты памятаеш Кандаураву ў нашай бальніцы? У яе ад пеніцыліну зусім прапаў слых. Але яна не пала духам. Змагалася. Нарадзіла трэцяе дзіця. Кажа, гэта ўсё, адзінае, што магу пакінуць на зямлі. Я яе палюбіла, паважаю Кандаураву. А ты? Няўжо з табой нічога не адбывалася?

— Адбывалася. У мяне не было такіх жахлівых думак. Мая маці пакончыла з сабой. Я трохі ведаю, што гэта такое.

— Як? Калі?

— Даўно. У пяцьдзесят восьмым годзе. Я табе як-небудзь раскажу пра ўсё. Холадна. Давай лепш паходзім.

Мы яшчэ пагулялі нейкія паўгадзіны. Я паклаў сваю руку ёй на талію, прыціснуў да сябе. Далонь мая камянела ад холаду (не было пальчатак), аднак я не здымаў рукі. Абаім было ўтульна, хораша, і не хацелася, каб гэтая зорная марозная ноч праганяла ў палаты.

Даша не дабыла да заканчэння тэрміну пуцёўкі, паехала на тры тыдні раней. Захварэла яе маці на запаленне лёгкіх, і трэба было даглядаць малодшую сястру-школьніцу.

У санаторыі без яе зрабілася зусім сумна. Адно чытаў да болю ў галаве кніжкі. Свае вершы я даўно перастаў пісаць, не хацелася іх складаць і ў санаторыі. Перад вачыма ўсё яшчэ стаяла тая жанчына з нерухомымі рукамі на каленях. Не цягнула ў кіно, не хацелася гуляць у більярд, і ежа пачала прыядацца. Далёка ў лес не было як хадзіць: снег глыбокі, пухкі, а на лыжах доўга хадзіць холадна, стома бярэ. Так і блытаюцца ўсе, бы прывязаныя, ад брамы да санаторыя і назад. Сумная аднастайнасць, такое жыццё як бы закідвае цябе на ўзбочыну. Каб уцячы ад санаторскай нуды, мы з Булькам часта ішлі ў горад, да касцёла. Падабалася яму, асабліва ў прысутнасці чужых людзей, запусціць сякое-такое мудронае слова пра жыццё, рэлігію, бога. Накшталт: «Страданиями очистимся» альбо «Познание умножает скорбь», «Блаженны плачущие», «Бога на ўсіх не хопіць».

— Ну, а ты, Адась, — пытаўся ён у мяне з некаторым апломбам, — ты ўжо выбраў для сябе жыццёвую метадалогію? Што табе бліжэй — хрысціянскае ўсецярпенне ці талстоўскае «непраціўленне»?

Я разгубіўся ад свайго неразумення яго мудрых думак, адказаў нерашуча:

— Пакуль выбіраю.

— Дрэнна, мон амі, у нашы годы трэба асвойвацца ў жыцці грунтоўна.

— Ну, а ты? Ты сам выбраў? — з дзёрзкасцю запытаў я.

— Я выбраў. Ні першае, ні другое... Сваё. Я буду свята грашыць, — мудрагеліста адказаў ён.

— Я так не разумею.

— Так і разумей. Буду пражываць кожны дзень з максімальнай карысцю для сябе. Спадзеючыся, што бог, у існасці якога ўсё ж сумняваюся, даруе мне, бо ён вінаваты перад мной: паслаў мне хваробу, яна, без сумненняў, не дасць мне поўнасцю свой век пражыць.

— Ну, а як жа грашыць у адносінах да маці, бацькі, блізкіх? — не разумеў я яго бравады.

— А што блізкія? Я нават свайго сапраўднага бацьку не ведаю. Маці здрадзіла мне... Ёй весела жывецца з айчымам: у іх дзеці, шчасце. Я для іх абуза. Нават калі б я і любіў яе, іх палюбіў, блізкіх, сваіх, — усё адно гэта ілюзія, міраж. Вечна любіць немагчыма, як сказаў паэт. Няўжо ты дагэтуль кахаеш Паўловіч?

Дык вось навошта яму спатрэбілася ўся гэтая карусель слоў, нясцерпна Бульку даведацца пра мае пачуцці да Ларысы.

— Не кахаю і ніколі не кахаў.

— Хлусня. Не трэба паказухі. А цяпер ты кахаеш яшчэ і Дашу, — голас у яго ўздрыгнуў.

— Памыляешся. І Дашу я не кахаю. Мы сябры, — адрэзаў я.

— А ты няшчыры, Адась. Вось я. Не баюся часам быць абыякавым, сухім, іранічным, саркастычным — гэта залежыць, якім мне патрэбна быць, але я ў сваіх пачуццях шчыры і адкрыты. Няхай мяне прымаюць такім, які я ёсць. Падабаецца каму ці не падабаецца — іншая справа.

— Я сказаў праўду, — ціхім голасам дадаў я.

— Я не дапытваюся. Чаго ты пачырванеў? Няхай будзе так. Я, напрыклад, напісаў Паўловіч пісьмо. Я не хачу губляць з ёй сувязь. Будзе ж і на маёй вуліцы свята. Не ўсё ж быць зняважаным. Мне думалася, што ты настойлівы, злы, зацяты. Няўжо ты дараваў той мінулагодні здзек над сабой?

— Я не думаў пра гэта. Не хачу шукаць шчасце ў помсце.

— А хто гаворыць, што гэта шчасце. Гэта часовая асалода, якая, як перамога над ворагам, наталяе душу. У гэтым і стымул, і прэстыж жыцця, — Булька купаўся ў словах.

— І пра гэта не думаў, — бубніў я сваё.

— Відаць, мала яшчэ жыццё біла. Яшчэ мужчынская твая годнасць спіць.

Звычайна пасля падобных на гэтую гаворак я вышукваў любую прычыну, каб пабыць аднаму. Ішоў у магазін, разглядаць афішы ля кінатэатра альбо на Лысую гару. Няўтульна было адчуваць сябе побач з Булькам, нават калі ён ішоў моўчкі. Недавер, які межаваў у яго з іроніяй і нянавісцю да ўсяго, варушыў і ў маёй душы такі нечаканы песімізм, злосць, адчужанасць, што проста не хацелася жыць. Бясконцыя сумненні вярэдзілі свядомасць: «А мо ён цынік? Калі няма ідэалу, шчырасці, поўнай праўды і дабрыні ў адносінах, дык ці не лепей і лягчэй «свята грашыць»?

Я адчуваў, што нашы дыскусіі-спрэчкі з Булькам прывядуць да сваркі ці да кулакоў. Што б я ні сказаў, ён (мо ўмысна) усё аспрэчваў і нічога не прымаў. Я ўспомніў сваю бабу Насцю, нашу маленькую хату ў глыбокім снезе, кошачку ля цёплай грубкі, ікону Мікалая-ўгодніка не покуці... «Не, не будзе мне тут добра, не будзе». Я настойліва пачаў прасіцца ў галоўнага ўрача дахаты. Яна не пярэчыла. Пайшоў мяне праводзіць Булька, пазычыў ля самай аўтобуснай дзесяць рублёў, абяцаючы праз тры дні даслаць. Грошы ў мяне былі, і я даў яму чырвонец з лёгкай душой. Мы развіталіся суха, незразумела, калі хто назіраў збоку, ці гэтак развітваюцца сябры ці ворагі. Усю дарогу я толькі і думаў, што пра Давыд-Гарадок, пра сваё паступленне ў інстытут, пра Дашу, пра Паўловіч. Неверагодна паміж гэтымі прыемнымі ўспамінамі на нейкі кароткі момант узнікала пачуццё, што прыйдзецца яшчэ з Булькам недзе сустрэцца, абавязкова прыйдзецца...

Баба сустрэла мой прыезд са сцішанай радасцю. Я лічыў, што яе шчасце будзе большым. Пасля я даведаўся, што прычынай яе хваравітага настрою быў цяжкі сон, які прысніўся перад маім прыездам. Бачылася ста-

рой, быццам у роце ў яе паўнютка голак і яна іх бясконца выцягвае і крычыць ад болю.

— Нядобра гэта, унучачко, ой як нядобра. Нейкая бяда будзе.

Баба мая зацята верыла снам. Рэдка які яе сон не спраўджваўся.

— Якой жа быць бядзе, калі ўсё горшае мінула? Згінула, — падбадзёрваў бабу я.

Баба павесялела. Прыйшлі паглядзець на мяне жонка Клубышка і Лісавета. Баба мая выставіла на стол чыгунок з дранікамі ў цыбулі. Я пацікавіўся: «А чаму баба Лісавета не частуецца?»

— Лісанька наша гавее, нічога ў рот не бярэ. Да споведзі рыхтуецца. Нават шчо веруючая, ажно дэнатуратам спіну не націрае, о, — пахваліла Лісавету жонка Клубышка і не прамінула запытацца: — Нейкія ў цябе, Адась, тухлі модныя?

— А... гэта на каўчуковай падэшве.

— Не цяжка насіць?

— Наадварот, лёгка.

— Бач ты.

— Чалавек усё прыдумае. Дай толькі яму волю, — уставіла сваё Лісавета, бо як жа так, каб гаворка ды без яе.

Мая баба гутарыла з імі доўга і з цікавасцю. Я паспеў за гэты час дроў накалоць, скласці да сцяны. Упала на зямлю, распаўзлася па вуліцах адліга. Не забразгае знадворку клямка. Ніхто не збіраецца ў такую макрэчу ў госці і не чакае гасцей.

Каб дзень марна не прапаў, дзядзька Паўлёнак запрагае свайго коніка, паедзе, пакуль яшчэ трымае лёд, прывязе рэшту сена (невялічкі стажок) суседцы Мамэлісе.

Нехаця месіць ліпкі снег конік.

— А шчо то таке робіцца, сіла нябесна. Ільє, бу хлюшч[1] улетку, — на парозе яшчэ кажа баба.

— Вясна, бабо.

— Не помню, коб так рано, унучачко. Па хлеб боязна ісці.

— Абую дзедавы чобаты. Я мераў. Як на мяне шыты. Прыгожа так...

— Вырас, дзякуй богу.

[1] Лівень.

Баба грэе ля грубкі рукі і дзеліцца са мной навінамі:

— Цётку Олену, дзякуй богу, выпісалі з бальніцы. Трохі сэрца падлячылі. А Якаў пры здароўі. Збіраецца разам з Міхалкам на вэсну. Янек, сын Якава, табе онь канькі прыслаў з Чалябінску. Там цяпер служыць. Нешчо насы вельмі доўгія. Зачапіцца можна.

— Як у канькабежцаў, — адказваю я, разглядаючы канькі.

— Цётка Зося збіраецца ўлетку прыехаць. Як толькі брат прыйдзе з турмы, прыедзе.

— Даўно яе ў гарадку не было.

— Даўно. Курку нашу ў сенях, халера, тхор з'еў. Мо то на раздво було.

— І гэто не бяда. Купім да вясны новую, — адказваю я. — Не бяры да галавы свой сон. Болей я нікуды не паеду. Так што забывай патроху той жудасны сон.

Я насмажыў бульбы з салам, разлілі ў кухлікі кіслае густое малако, павячэралі. Добра напалілі грубку. Бывае, і адліга так выстудзіць хату, горш як завея. Да апоўначы я пісаў пісьмо да Дашы. Шмат хацелася ёй расказаць, а рука не слухалася, не знаходзіла адпаведныя словы, было такое ўражанне, бытта я развучыўся пісаць наогул. «Разлайдачыўся на казённых харчах у санаторыі. Факт». Пакуль напісаў ліст, аж пальцы пасінелі ад холаду, палез хутчэй у ложак грэцца.

— Колькі табе, бабуля, гадоў? — запытаўся я, высунуўшы галаву з-пад вэрхніка.

— Сёмы клас закончыла, перайшла ў восьмы, — адказала баба з канапкі.

— А чаму от усе, бабо, кажуць дзецям... «не дай бог маёй жыткі, коб вы лепш жылі»?

— Тэ, шчо я перажыла, не дай бог нікому.

— Не, бувае, шчо й шчасліва людзі пражылі, калі паглядзець, а ўсё кажуць: не дай бог маёй.

— Чалавеку ж не ўгодзіш. Усё думае, шчо можна шчэ лепш.

— Ненасытны чалавек.

— Так, унучачко. Розныя на свеце бываюць. Ненасытны, прагны на чужое, слабы. І добрым людзям не шанцуе. Жыццё — скаварада, — чалавек — цеста.

— Буду спаць. Змарыла дарога.

— Спі, залаты мой. У сваёй хатцы, слава богу.

Так, неўпрыкмет, пры ледзь бачным святле настольнай лямпы, адыходзіў у нябыт і гэты ціхамірны дзень ранняй вясны. Я яго добра запомніў, таму што суджана было стаць яму апошнім днём, пражытым намі ў старой нашай хаціне.

Спаў я моцна, ледзь баба дабудзілася.

— Глянь, унучачко, а шчо гэто на дварэ, ці крыкі нейчыя, ці шум? Мо падпалілі нас, не дай бог?

Я кінуўся да акна і ўлез пад ім босымі нагамі ў ваду. Аселіца ўжо ўся плавала.

— Вада! — я хутка пачаў адзявацца і абувацца.

— Свят госпадзі, Ісус Хрыстос, неба і зямля і дух святы, — хрысцілася баба, — вось яна, бяда, унучачко, няждана-негадана. Госпадзі, уратуй і памілуй, не пусці па свеце, уратуй, госпадзі.

На дварэ ледзь днела. Я ўключыў святло, але праз хвіліну-другую яно патухла. Гэта яшчэ больш напалохала бабу.

— Госпадзі, мо канец свету?

Мы склалі на вялікі стол вэрхнік, падушкі, адзежу, мой чамадан, абутак, кнігі.

Нехта пастукаў у шыбу з вуліцы, будзіў нас. Гэта быў Паўлёнак на сваім кані.

— Усталі? — крычаў ён.

— Усталі, усталі, — закрычаў я ў акно.

Я выйшаў на ганак і ледзь утрымаўся: ганак калыхаўся на вадзе. Адрына плавала, да форткі не дайсці. У старой, пакінутай Глебам Іванавічам хаце вада свішча праз вокны. Трэба было выводзіць бабу, і я вярнуўся ў хату. Баба Насця не хацела пакідаць пакой.

— Госпадзі, так жа ніколі не було, каб вада нас выганяла з хаты. Зроду не було. Мо паседзімо, мо спадзе сіла нябесная, а, унучачко?

— Так седзячы зусім з хаты не вылезем. Па пояс будзе.

Баба Насця абула свае мяккія маленькія хромавыя чобаты, у якіх выбіралася на святы да царквы.

— Ой, госпадзі, а куды ж нам дзецца, унучачко? — залямантавала яна.

— Ай, ціхо. Не люблю. Куды, куды. Не прагоняць. У цёткі Олены хата вялікая, пойдзем туды.

— Не, унучачко, яна слабая. Якаў інвалід. Хадзем да дзядзькі Міхалкі. Калі Поля прагоніць, тады ўжо да, ой, божачко, пойдзем прасіцца да Олены.

Баба загарнула ў хустачку свае завушніцы, вянчальны пярсцёнак, падала мне.

— Схавай у кішэню. Ой, госпадзі, хатачка мая родная... Як жа без цябе мы будземо-о? — зноў заляманталала яна.

— Ну, ціхо, яй-богу, хопіць. Не паміраем жэ, — рэзка прасіў я.

Нашу вуліцу пры маім жыцці ніколі не пералівала. Вада даходзіла з аднаго боку да нашай грушы, а з другога да хаты Кулькіна. Цяпер жа, калі я праводзіў бабу да былога гаража райвыканкома, наша Закасцельная плавала, і вада ўсё прыбывала, разносячы па вуліцы смецце, дровы, хлюпала ў падваліны нашай хаты. Вурчэла вада ля форткі, рыла яму.

— Ткач! Ткач! Бяры лодку ды звязі маіх дзетак да касцёла, — гучна прасіла Ткача цётка Сарока.

— Радзічамі прайсці нельга? — раіў Ткач, ратуючы сваё сена.

— О-ге. Радзічы плаваюць. Да гары не прайсці. Плыві да нас.

— Добра. Не панікуй.

Ткач скіраваў сваю лодку да ганка Сарокі.

— І шчо гэта такое на нас, Насцё? За шчо бог прагневаўся? — сустрэла нас на сваім двары суседка, жонка Юрка.

— І не путайся, суседко. Горачко-горэ.

Мы паспелі перайсці вуліцу каля сталяра Клубышка, а ля касцёла бег насустрач Міхалка.

— О, дзякуй богу. Я бег па вас. Поля кажа, бяжы, ратуй сваіх... У нас у гародзе вада... Увесь падчыстую гарадок плавае. Толькі цэнтральная, Савецкая, сухая. Адасік, вядзі бабу да нас, а я пабягу на балота, цешчу ратаваць. Мо там і печы паваліла. Эт, сіла зямная.

У шэрым небе загуў верталёт, паляцеў у бок вёскі Альшаны.

Не ўсе вуліцы аказаліся пад вадой. На сухіх вуліцах Лермантава, Талстога, Горкага, Дзімітрава, Чапаева людзі выносілі з пограбаў, скапцоў бульбу, ссыпалі ў сені. Дзеці гурбачкамі збіраліся ля вады, доўгімі тычкамі і палкамі ссоўвалі з берага ў ваду прынесеныя паводкай вялікія крыгі, ужо ад смецця шэрыя і вышчарбленыя сцюдзёнай вадой. Вецер аціх, але сонца не прабівалася праз нізкія шэрыя хмары. Людзі ратавалі-

ся самі і ратавалі сваіх суседзяў. Склубіліся нізка над Гарынню аблокі.

Вада прыйшла так нечакана і так рана (аж на пачатку лютага), што гарсавет не паспеў стварыць штаб па барацьбе з паводкай і нічога не падрыхтаваў для ратавання людзей і сядзіб. Добра, што прадбачлівыя гарадчукі заўсёды на зіму прывозяць ад ракі пад свае адрыны лодкі, не пакідаюць іх на беразе. Уратаваліся ўсе самі і дапамаглі ўратавацца іншым, праўда, некаторыя акрапіліся свежай вадой. Баба Лісавета, гэта ж трэба, каб такая спрытная, зачапілася за цюк у лодцы і боўтнула за борт. Назад у лодку не захацела лезці. Падхапіла спадніцу рукамі і ходу метраў пятнаццаць да берага, пабегла да майго хроснага сушыцца. На мокрыя ахапкі сена, якое плавала то там, то тут, ніхто не звяртаў увагі. Хапала іншых спраў. Як не было ўвагі на будку сабакі, на мёртвага ката, якога прыбіла да берага.

Верх нашага плота тырчаў над вадой, а з боку адрыны можна было лодкай падплысці да самага ганка. Чорная страха кузні віднелася сярод вялізных вербаў на Аселіцы. Прабілася сонца, трохі на душы ў людзей павесялела. Вада супакоілася апоўдні.

— Дзела швах, трэба прадаваць хату к чортавай мацеры ды ехаць у Пінск, — плюнуў на зямлю Герасім.

— Што там? Прыбувае? — пытаў са свайго двара Ткач.

— Не! Плыві сюды. Перакур.

Герасім глянуў у калодзеж — у ім паўнютка вады.

— Прыбувае яшчэ.

— Не. Так було, — адказаў яму Клубышко.

— Стаіць на месцы, — да іх падышоў хросны, — у мяне меткі. Стаіць.

Памаўчалі ўсе, думалі пра сваё. Ад прыбыўной вады мне стала холадна, і я пайшоў да дзядзькі Міхалкі.

На другі дзень прыехала на «амфібіях» абласное начальства, прыляцеў верталёт з Мінска, але ў нас не садзіўся: было некалькі вёсак, якія плавалі ў вадзе поўнасцю, верталёт паляцеў у іх бок. Дзве гадзіны пабыў у гарадку і Крутаяраў. Сустрэўся з мясцовай уладай, агледзеў калгасныя сядзібы. Хлеб, мука, цукар, соль, алей — усё гэта паступала ў магазіны рэгулярна. Дапамагалі «амфібіі».

Крутаяраў думаў так: яшчэ адзін важкі аргумент,

што зона Давыд-Гарадка бесперспектыўная, беззямельная. Няхай усё ідзе пакуль па-старому. Заводзік ці вытворчасць абласное кіраўніцтва тут заснуе. А цяпер што? Швейную фабрыку збудаваць. І такая была прапанова ў абкоме. Нерэнтабельна. Пінская не выконвае план па рэалізацыі прадукцыі. Масласырзавод дзейнічае, МТС варушыцца, жыве рабочы клас Давыд-Гарадка. Моладзь мігрыруе і з гарадка, і гандаль насеннем не трымае яе. Завод патрэбны, а найперш трэба капаць абводны канал. Вось ідэя. Пазбавіць раз і назаўсёды гарадок ад пагрозы паводак. Усё-ткі страт ад паводкі нямала. Патрэбен час. Фонды, тэхніка, падрадчыкі. Пакуль галоўнае — мабільнасць калгасаў, павышэнне ўраджаяў, будаўніцтва фермаў, дарог. На ўсё трэба час, грошы, і ўсё трэба рабіць хутка. Галоўнае, што няма ахвяр. Усё ж трэба рашуча выходзіць на Саўмін з планам вялізных меліярацыйных работ.

Праз тры дні вада спала на метр. Я абуў высокія паляўнічыя боты дзядзькі Міхалкі і пайшоў да старой хаты. Падлога яшчэ нехаця чаўкала, так, як бывае, калі выцягнеш босую нагу з глыбокай жыжкі-гразі. На буфеце — сярод спадачкаў і слоікаў — бегалі дзве мышы і не звярталі ўвагі на мяне. Старыя сцены знізу ад вады пачарнелі, шпалеры адклеіліся. Кіс пасярэдзіне хаты стары дзяркач. Сіратліва ляжалі разам бляшаная труба ад самавара і кіха ад майго ровара.

«Усё, капцы. Тут нельга будзе больш жыць, — падумаў я з жалем. — Вяртацца мне, калі зноў не паступлю, няма куды. У Міхалкі двое дзетак. На ім баба. Усё».

З покуці на мяне сіратліва глядзелі дзве іконы. «Хрыстос на маленні аб чашы» і «Святы Пётр». Падарункі Глеба Іванавіча дзеду. (Дзед яму дарыў чобаты.) Я зняў іх. Ззаду, на паліцы, знайшоў старыя аблігацыі сорак сёмага года, квіткі страхоўкі, падаткаў, канверт, у ім фота маёй маці. Хто гэта ўсё сюды захаваў, чаму? Амаль на ўсіх фотакартках мая маці па-святочнаму апранута, усміхаецца. Была сярод дзесятка гэтых здымкаў і адна картачка майго бацькі, на якой іголкай нехта выкалаў яму вочы. Я разгарнуў і маленькую запіску: «Не вініце нікога. Здайце сына ў інтэрнат. Даруй, сынок. Я праклінаю час, у які нарадзілася. М.».

Гэта быў почырк маці. Усё гэта я забраў з сабой, замкнуў хату, пастаяў крыху на ганку. І так мне зрабі-

лася раптам шкада гэтай сырой, напаўгнілой хаціны, нашага двара, грушы, адрыны, слівы, пограба... так шкада, што я ледзь не заплакаў. «Не вярнуцца сюды, больш ніколі мне не вярнуцца».

Яшчэ паўгода таму я палохаўся цемры, якую хавалі сені, куткі двара, хата, жадаў, каб усё разам згінула, а сёння, калі прыйшоў час развітання, я сумую і шкадую месца, дзе нарадзіўся.

Нягледзячы на тое, што хата майго бацькі стаіць на левым, высокім беразе Гарыні, яе ледзь уратавалі. Там вада бурыла бераг, валіла ў раку вербы. Я блізка не падыходзіў да хаты майго бацькі, глядзеў з моста.

Яшчэ праз месяц пабеглі ў зелень вербы, прыгрэла сонейка. Хораша і прыемна было сесці ў лодку да хлопцаў і плыць бясконца па ціхіх вуліцах аж да Каморы, на ёй гарадок канчаецца, і боязна было выбірацца далей, каб хуткая плынь не панесла ў бязмежную водную далячынь. І душу ў такія хвіліны ахоплівае нешта ўзвышанае і вечнае, як гэтыя вербы, хаты, рака. Вясной асабліва абудзіліся мае спадзяванні, вярэдзіла душу мара: зноў пацягнула ў дарогу, хутчэй, хутчэй у сталіцу.

Я не стаў чакаць адказу з папярэдняга конкурсу, папёр у ВГІК у канцы мая. Ведаў, там недзе на базары ў Маскве стаіць з насеннем мой бацька, пабуду тыдзень з ім. Выйшла мяне праводзіць адна баба Насця. Яна, як ніколі, горка плакала, давала мне на дарогу мамін залаты крыжык. Я не ўзяў. Пастаяў з ёю на вуліцы, абяцаў вярнуцца, яшчэ абяцаў вывучыцца і забраць яе адсюль. Яна моўчкі выцірала хустачкай слёзы. Было холадна, ветрана, накрапваў дробны дождж. Я папрасіў, каб яна вярталася ў хату, далей не праводзіла. Яна заплакала яшчэ мацней. Я прытуліў яе да сябе, супакоіў.

Упэўненасць, што папярэдні конкурс на гэты раз адолею, не пакідала мяне. Я нацэліўся на першы тур. Была нейкая задаволенасць сабой. «Цяпер я біты воўк. Шмат чаго ведаю». Я мог адрозніць карціны Саўрасава ад карцін Паленава, ведаў, што Сервантэс і Шэкспір памерлі ў адзін 1616 год, мог расказаць, як вёз труну з целам бацькі О'Ніл, што Саскія натхняла Рэмбранта, чаму Пірандэла не хадзіў на прэм'еры сваіх п'ес, ведаў, што Каспій штарміць 250 дзён на год, ведаў, што мул бясплодны, што аўтарам «Поучения к братьям» з'яў-

ляецца ноўгарадскі епіскап Лука Жыдзята, што Сімяон Полацкі выхоўваў Пятра І, мог адрозніць Мане ад Манэ, ведаў, што Мардзюкова жонка Ціханава, і мог на памяць прачытаць раздзел з «Яўгенія Анегіна». Памятаў, як адзін рэжысёр чытаў на экзамене па памяці ўрыўкі з «Вайны і міру». Да ўсяго гэтага ведаў яшчэ шмат розных лічбаў і фактаў. Я рваўся ў бой. На папярэдні конкурс даслаў эцюд пра чалавека, які ў час паводкі ратаваў людзей і патануў на сярэдзіне ракі. Усё гэта прыдумаў. У нас на рацэ такога не было. Выбраў яшчэ апавяданне Чэхава «Нервы» і напісаў рэжысёрскую эксплікацыю, як бы я зняў па ім фільм.

Настрой быў прыўзняты. Дзень сонечны. Пайшоў пешкі па вуліцы Горкага. Ах, як усё цудоўна, як мне хочацца вучыцца ў гэтым горадзе. Нязвыклае мноства машын, дымны смурод не палохалі, як у мінулым годзе. Не хацелася ехаць на метро. Я ўзяў таксі: «Во ВГИК, пожалуйста», — сказаў я шафёру такім голасам, што ён аж павярнуўся паглядзець: ці не выкладаю я там.

Вось і яны — высокія цяжкія дзверы. Я падняўся на чацвёрты паверх славутага інстытута, знайшоў патрэбны мне пакой і пачуў ад худой і бледнатварай лабаранткі, што маё прозвішча ў спісе работ не абведзена чырвоным алоўкам.

— Што гэта значыць?

— Это означает, что вы, к сожалению, не прошли. Не огорчайтесь. Вы еще молоды. На наш факультет обычно поступают в тридцать лет. Вот живой пример, — яна паказала на маладога чалавека ў акулярах. — Саша Чекменев на пятый раз поступил. Не отчаивайтесь.

Я не чуў яе слоў, усё не адводзіў вачэй ад журнала, ад свайго прозвішча. Цяпер спяшацца не было куды. Доўга ішоў пешкі, аж ці не да Рыжскага вакзала, сеў у метро і паехаў шукаць Бутырскі базар. Доўга шукаў. Базар зачынялі, аб гэтым папярэджваў званок. Мажная жанчына ў белым халаце з чырвонай павязкай на рукаве хадзіла між сталоў, бы кура-квактуха, і яшчэ словамі нагадвала:

— Закрываем. Поторапливайтесь. Долго в камере хранения я не буду.

Я мінуў стол з драўлянымі каляровымі вырабамі: свістулькамі, матрошкамі, кубкамі, мінуў сталы з капустай, журавінамі, якія ў бочках прывезлі з Наўгародчы-

ны (пра гэта я даведаўся потым), мінуў старую, сівую грузінку ў чорнай адзежы, мінуў стол з рыбай і з праходу ўпёрся ў стол з торбачкамі насення. Бацька абняў мяне, пацалаваў. Быў ён крыху выпіўшы.

— Ты ў Маскве нешчо робіш?

— Прыязджаў зноў пастулаць у ВГІК.

— І шчо?

— Ай, не прайшоў першы тур.

— Цьфу тваю маць, знайшоў куды лезці. Кіно, кіно... Плюнь... Не вечнае гэто. Выкінь з галавы. Бярыся о вучыся таргаваць, гэто будзе дзела.

Я моўчкі дапамагаў яму закручваць торбачкі і завязваць іх матузкамі. Няма сэнсу нешта даказваць, ён мяне не зразумее. Этыкеткі мы склалі адна да другой, перавязалі іх таксама матузком. З маленькіх торбачак напіхалі вялікія дзве торбы. Гэтыя мяхі былі цяжкія. Я падаў яму адзін на плечы, другі, лягчэйшы, узваліў на сябе. Угнуўшыся амаль да зямлі, пацягнуўся за бацькам і адчуў, што не данясу да багажні. Бацька скінуў на дарозе свой мех і памог мне. Ён паклаў рубель дзяжурнай, і мы пайшлі да яго на кватэру. Аднапакаёўку сваю здавала яму старая знаёмая, цётка Клава, у якой ён кватараваў не першы год. Цётка Клава жыла адна, гаварыла яна вельмі хутка, а калі выпівала сто грам, дык наогул цяжка было ўлавіць сэнс яе слоў. Прыходзіла яна ўвечары па свой рубель і пяцьдзесят капеек, калі частаваў бацька, выпівала сто грам (толькі гарэлкі), калі не, ішла начаваць і без выпіўкі да сваёй сяброўкі, якой было таксама пад семдзесят — яна мела кватэру трыма паверхамі вышэй.

Сёння бацька даў ёй тры рублі — і за мяне, папрасіў, каб Клава наварыла супчыку і насмажыла рыбы, якую мы купілі на базары.

— Я табе шчо скажу, сушыць табе мазгі ў інстытуце не... здароўе не тое. Бяры сабе жонку з гарадка, запішу на цябе старую хату сваёй маці-нябожчыцы, жыві і не дурыся. Клава, гэта мой сын ад першай жаны.

— Папа правильно говорит, правильно. Человеку одному нельзя быть. Мои дети поженились все и в Пензе, и на Дмитриевском проспекте... — хутка загаманіла цётка Клава.

Я нікога не аспрэчваў, толькі слухаў. Гаворкі не атрымалася. Стомлены бацька, выпіўшы шклянку гарэлкі, накінуўся на ежу, а потым яго пацягнула на сон.

— Лажыся і ты. Заўтра рана ўставаць.

У пакоі было цесна. Два ложкі, стол, швейная машына, буфет, стары тэлевізар з рамай-лінзай перад экранам, вазоны, чамаданы, адзежа зімовая, торбы, чобаты.

— Сынок, замкні дзверы. Клава пайшла. І фортачку зачыні.

— Душна. Мо пакінем фортачку?

— А навошта? Чортведама, што ў гэтым горадзе робіцца. Валочацца на гэтым базары хуліганнё, злодзеі — процьма. Браць у мяне няма шчо — тысяча, дзве, ды п'яны заб'е за капейку. Зачыні.

Спаў я на чужым месцы вельмі кепска. Сярод ночы думаў: «Што ж рабіць далей?..» Толькі заснуў, як бацька падхапіўся а чацвёртай гадзіне і пайшоў на кухню.

— Ты ляжы. Я снеданне зраблю.

— А куды ляцець, базар у шэсць адкрываюць.

— У шэсць-то ў шэсць, а трэба быць у пяць. Коб месца наша ніхто не заняў. Коб першаму тавар раскласці ды, хто на дачы, коб успелі... Грош які ўтаргаваць. Тут свае законы. Праспаць можна ўсё.

Я ўжо не заснуў, пакачаўся на мулкім матрацы з паўгадзіны і пайшоў да яго на кухню. Мы паснедалі і пайшлі нетаропка да базару.

— Привет, Трифон, — павітаўся знаёмы дворнік. — Чевой ты сегодня совсем спозаранку?

— Последние дни, дорогой. Дело делать надо, — па-руску адказаў яму бацька.

Мы расклалі на стале тавар і сталі чакаць пакупнікоў. Увесь гандаль пачаўся пасля васьмі гадзін. Была пятніца. Людзі збіраліся на дачы. Я хутка зразумеў няхітры механізм гандлю. Спрытна круціў з паперы кулькі, мераў малюсенькай лыжкай насенне астраў, мацыёлы, гваздзікі, анюціных вочак, духмянага гарошку, шклянкай — турэцкі боб.

Бацька хваліў:

— Мая хватка. На, купі каўбасы і малака.

Ён даў мне два рублі. У адзінаццаць, у самы разгар гандлю, паслаў па бутэльку гарэлкі. Выпілі па сто грам. Ад добрай таргоўлі весялела на душы.

Я разгаварыўся з пакупнікамі. Не было больш санлівага, хмурнага і асцярожнага, сквапнага чалавека, якому не ўдавалася прадаць кулёк насення. Да нашага

стала ледзь прытупаў стары дзед. Сівая доўгая барада, вусы хавалі яго рот, і здавалася, што голас у яго ідзе з грудзей. Яны, відаць, з бацькам былі знаёмыя.

— Барадулька, маё шанаванне. Ужо кніжкамі не таргуеш? — з уздыхам сустрэў яго бацька.

Барадулька слаба чуў, падаўся бліжэй да стала.

— Что говоришь, Митрофаныч?

— Гавару, яшчэ маладуху ўшчыкнуць за цыцку можаш, ёсць сілы?

Яны абодва зарагаталі. Хаваў свой смех у кулак і я.

— Ты мне рубль одолжи, Митрофаныч.

— На табе рубель, Барадулька. Выпі за маё здароўе.

Следам за старым прыбег дворнік з чайнікам.

— Митрофаныч, чай надо?

— Давай і чай, — бацька і яму паклаў на далонь капеек трыццаць—пяцьдзесят.

— Мяне тут, сынок, усе любяць і паважаюць. Усе. Я, брат, первым номерам. Ужо дзе я стаю, нікому на базары не стаяць. Не-е, роўных няма, — ганарыўся ён.

Людзей прыбавілася, не паспявалі рабіць папяровыя кулькі.

— А шчо гэто ты ў гэтай жанчыны грошай за бяссмертнікі не ўзяў? — папытаў бацька.

Я зніякавеў. Лічыў, што ён не заўважыць гэта.

— А дык за астры я ўзяў... а... бяссмертнікі яна папрасіла на магілу. Сына пахавала некалькі дзён таму... Грэх браць гэтыя сорак капеек. Я падумаў... Кашалёк у яе быў пусты.

— Усе яны тут бедныя. Якое мне дзела да каго? Коб я так таргаваў... я б голы дахаты прыехаў. Палавіна з іх на магілы бяруць... усіх шкадаваць? Э, не... Я думаў, ты жылку маеш маю, а ты слабы.

— Бедна яна. Бачна ж.

— А ты шчо, багаты? Гэта твой хлеб. З чатырох гадзін раніцы, без абеду, на нагах да васьмі вечара. Няма часу ў лазню пайсці. У магазін паехаць, у цырк. Няхай плоцяць. Я хазяйцы за ноч грошы даю, за месца на базары, за багажню. Коб больш так не рабіў. Усё. От так. Не люблю. Усё.

Бацька нават пакрыўдзіўся. А я ніяк не мог зразумець, чаму не шкада яму было даць рубель Барадульку і чаму ён пашкадаваў на капейкі бяссмертнікаў. Не мог зразумець. Азарт мой трохі прыціх. Шчыра кажучы, я і прытаміўся з непрывычкі. Раз за разам прыходзілася

ўставаць са скрынкі да пакупнікоў, якія цікавіліся: ці не позна садзіць гуркі, памідоры, як замочваць на ноч настурцыю, як сеяць бархоткі.

Пакупнікі пыталіся і адыходзілі. Бацька пад канец дня не ўставаў, драмаў, седзячы на бочцы. Прыбег дворнік, і мы дапілі рэштку гарэлкі. Бацьку яшчэ больш пацягнула на сон. Быў ён няголены, стомлены, сонны і мо з таго мне падаўся вельмі старым.

Я таргаваў адзін і ніводнай капейкі не ўкраў, не паклаў ніводнага рубля ў сваю кішэню. І не таму, што было няёмка, здавалася, што нерухомая грузінка ў чорным толькі і сочыць за маімі рухамі, а таму, што я хацеў быць незалежным. Пачалі збірацца. Бацька прачнуўся, паслаў мяне па піва. Пачуўся званок. Ля багажні ён даў мне дваццацьпятку.

— На. Мы ўтаргавалі рублёў семдзесят. Купі сабе тухлі.

Я ўзяў, пабег у магазін ля кінатэатра «Прага» (яго тады будавалі), купіў чэхаславацкія туфлі на скураной падэшве. Так вучыў мяне дзед. «Насі абутак толькі на скураной падэшве».

Увесь вечар бацька быў сумны, нешта шукаў у сумцы.

— Ты не браў торбачку з грашыма? — нарэшце папытаў ён.

— Не. Яй-богу, не браў.

— Дзе яна дзелася? Мо ўсё ж узяў?

— Ды не, яй-богу, — гарачыўся я.

— Значыць, прапала. Ат, тваю маць.

Выпілі моўчкі піва, быццам усе былі вінаватыя: і я, і цётка Клава, і ён.

...Зноў у чатыры раніцы бацька падхапіўся.

— Месца ж ніхто не зойме. Паспі, — прапанаваў я.

— Не магу. Прывычка. Нервы сапсаваны.

Зноў пацягнуліся да базару пешкі. Галава ў мяне балела, калола над патыліцай. Мо недаспаў, а можа, ад гарэлкі ды піва.

— Чаек принести, Митрофаныч?

— Давай, — адказаў бацька дворніку.

Мы прыцягнулі торбы з багажні, пачалі іх развязваць. І тут на дне торбы бацька знайшоў цэлафанавую торбачку з грашыма.

— Бач, знайшлася! — павесялеў ён. — А, халера. Відаць, я засунуў іх п'яны сюды. Тут і грошай што кот

наплакаў, але ж я помню, былі... Хе, тваю налева. Ты даруй, яй-богу, думаў, ты прысвоіў. От шчо ты мне ні казаў, а я думаў усё, шчо ты.

Настрой у яго вельмі палепшыўся. Дворніку ён даў за чай пяцьдзесят капеек. Пакупнікоў не было, і мы сядзелі без дзела.

— Тухлі не ціснуць, не?

— Нармальна.

— А ў мяне ўжо, братка, ногі зацякаюць. Почкі хворыя ці якая халера. Бач, у фуфайцы стаю, хоць і лета. На скразняку два месяцы тут. Ногі ацякаюць. У валёнках о стаю. Няма лёгкіх грошай, лёгка траціць. Вазьмі мяне на завод, дык ужо і сіл не маю. Усё вэсна з'ела, але ж і люблю кветкі. Гэто людзям трэба. Не верыў, думаў, зелле. Думаў: хто гэтымі краскамі сыты? Падыходзіць адзін акадэмік. Купляе ў мяне штогод. Дзякуе, што ўсё паўзыходзіла. І кажа, што чалавеку трэба кветкі, як хлеб. Мазгі чалавека павінны адпачываць. Ёсць, кажа, у Японіі людзі, якія едуць спецыяльна ў горы на дзень-два, паглядзець, як цвіце сліва. На нервы цяпер усе хворыя, атаму баяцца, жах у людзей. А тут каля красак спакой, мір, прыгажосць. Душу, кажа, лечаць, настрой падымаюць... жыць мацней хочацца. О, такі папаўся мне акадэмік. А я, браце, акрамя грошай, у іх нічога ўжо не бачу. Цяжка дзень у дзень стаяць. У твайго дзядзькі Міхалкі язва. Як ён мае сілы ездзіць? Да тройцы не вытрымаю. Шчэ дзён пяць, і паеду. Старэйшай дачцэ далі кватэру ў Баранавічах. Паеду куплю мэблю. Яна настаўніца... са сваіх ста рублёў не купіць. Сам нешта стаміўся жыць. Жонка мая захварэла. Сюды яшчэ трэба будзе капейчыну ўтрубіць. Цяпер куды ні сунься — давай, давай. Чобаты малодшай купіў... Сюды на 1 Мая прыязджала, аддаў сто сорак рублёў, а твой дзед колісь за трыццаць шыў такія венгеркі — у Парыж вязі. Мне аніяк вэсну кінуць нельга. Трое дзетак. Да труны на гэтым праклятым базары стаяць трэба. Таргаваць я люблю. Кожны дзень нешчо новае. Бяры жаніся, навошта гэты інстытут табе? Улазь у хату, даю. Е нейкая дзеўка, не?

— Ёсцека. У Брэсце.

— Навошта табе гарадская? Бяры нашу, гарадоцкую. Баявыя, працавітыя. Табе догляд трэба, каб зварыць умела. Ці любіш?

— І сам не ведаю.

— Гэта на ўсё жыццё. Першая ад бога, другая ад людзей, а трэцяя ад чорта. Помні.

Дзень сцягнуўся. Не таргавалася.

Даведаўшыся, што бацька знайшоў грошы, павесялела і Клава. Наварыла смачна пахучага баршчу. Мы селі да стала, бацька дастаў з тэчкі бутэльку «Маскоўскай» (і калі ён паспеў яе купіць?).

— На праводзіны вып'ем, — я яму сказаў, што еду заўтра раніцай.

— Сколько можно пить, Трифон Митрофанович, губите вы свое здоровье, — пасароміла бацьку Клава.

— Шчо богам адведзена, не мінуць, — адказаў ён і падміргнуў мне.

Выпілі. Заплацілі за боршч. Цётка Клава прынесла яечню. Больш яна не піла, выпілі мы. Я пасмялеў. Даўно карцела папытаць яго, і я рызыкнуў.

— Ты любіў маю маці? — нечакана для ўсіх запытаў я.

Ён перастаў есці, маўчаў.

— Адкажы. Мне цікава. Ты любіў? — настойваў я.

— Ну, як табе сказаць... Я ж раньш расказваў.

Я амаль патрабаваў расказу, не саромеючыся сваіх слёз.

— Ты любіў маю маці?

— Я... — ён заплакаў таксама, — я яе любіў, сынок, любіў усё жыццё.

— Дык чаму ж пакінуў? Чаму не ўбярог?

Цётка Клава, гледзячы на нас, заплакала таксама. Бацька чамусьці пацалаваў мяне:

— Даруй, сынок. Праўда любіў, — больш ціха паўтарыў ён яшчэ раз.

Мне падалося, што я, атрымаўшы нейкую нябачную перамогу, не змагу тут больш заставацца. Не хацелася мне выходзіць на базар, гандляваць. Не падабалася мне гэтая работа.

Я пачаў збірацца ў дарогу, ён не ўгаворваў застацца.

— Табе грошы трэба? На, — ён даў дваццацьпятку.

Я ўзяў, падзякаваў. Цётка Клава ўсё яшчэ плакала, седзячы ў кухні ля акна з вазонамі, мо ўспаміпала і сваю адзіноту.

Прыехаў у Мінск, падаў заяву на завочнае аддзяленне журфака і здаваў кожны экзамен з такой сілай волі,

напругай душэўнай і ўпартасцю, што майго жадання нельга было не заўважыць. Сачыненне закончыў вершамі: «Конік спыніўся, і хваля на грыве спала. Вось ён напіўся, і зноў яна ў ветры зайграла. На падваконне апусціцца гляк недапіты — выбух... і коннік долу схінецца забіты. Ты ж не дапіў! Ажыві, хоць на хвілю адную... не, не ажыў. Коннік голас гліняны не чуе. Прыме зямля ў свой дол, як будзённае штосьці, косці каня, чалавека і глечыка косці». Набраўся нахабства і напісаў, што вершы мае. Пяць атрымаў па зместу і тройку за памылкі. Цяпер толькі пяцёрка па гісторыі магла мяне выратаваць. І я яе вырваў! Паступіў! Не скакаў ад радасці, не танцаваў у калідоры. «Усё адно не маё. Павучуся два гады і падамся ў Маскву». Пахваліўся Дашы, напісаў ёй у Брэст. Па дарозе дахаты заехаў у Столін. Трэба было нешта вырашаць з работай. Мяне ведалі ў раённым аддзеле культуры як здольнага артыста і прапанавалі кіраваць зноў драматычным гуртком ужо пры раённым Доме культуры. Далі стаўку электрыка — сорак рублёў. Я быў шчаслівы і тым. Усё ж работа. Паехаў у гарадок па адзежу і кнігі. Паехаў, каб развітацца са сваімі. Дзядзька Якаў даў мне пяцьдзесят рублёў, горача павіншаваў, сказаў, што ён заўсёды верыў у маю ўпартасць. «Будзеш вучоны, як мае дзеці». Цётка Олена была хворая, не ўставала з ложка, прасіла наведвацца часцей.

Дзядзька Міхалка стрэў вельмі гасцінна.

— Дык на каго ты паступіў?

— На журналіста.

— У-у, маці родная, толькі пра нас не пішы, а то вэсну закрыюць мясцовыя ўлады, не выпусцяць з насеннем.

— А за што закрываць? Вы ж не спекулянты. Без красак людзям жыць нельга.

— Правільно. Давай, Поля, боршч. Абедаць будзем.

Баба Насця, здаецца, больш радавалася майму прыезду, чым паступленню.

— Слава богу. Дзякуй, шчо табе добрыя людзі памаглі. Не сварыся, унучачко, з людзьмі ніколі. Усе слабыя. П'янага і дурнога не чапай, абыходзь бокам. Барані божа. Я ўжо як-небудзь тут. Коб толькі бог даў Міхалку здароўя. Дажыву свой век. Коб табе паслаў усявышні шчасце, я яго не мела, маці твая не мела, коб

ужо ты, дай бог, знайшоў пару ды быў хоць трохі шчаслівы.

Глеб Іванавіч падарыў мне на памяць маленькі пейзаж. Апошнім часам ён маляваў захады сонца над Гарынню. Яшчэ больш зрабіўся задуменным і негаваркім. Прыбегла з Аселіцы глянуць на мяне і жонка Клубышка. Усё складвала рукі пад барадою і прыгаворвала:

— Гэто ж коб маці жыва була. Вечны пакой. Дабіўся ўсё ж свайго, паступіў. Хату прадавай. Грошы трэба на навуку.

— Дык я ж на завочнае паступіў.

— А... тады не прадавай.

— Па мне шчо... няхай баба распараджаецца.

— Можа, так, можа, так. Дружка твайго некалькі дзён таму бачыла. Толькі армію адслужыў.

Навіна гэтая мяне абрадавала, і я паехаў на ровары на Аселіцу. Толік, як даведаўся, учора паехаў у Брэст, прапісаўся там да брата. Стары Бабёр прапанаваў мне сесці, пачаставаў слівамі.

— Маладзец, шчо паступіў. Хлеб гэто цяжкі, грошай з яго мець не будзеш. Толіку пішы ў Брэст. Галубіная, 9. Нешчо неяк стары Воўк пытаўся ў мяне, дзе ты ды як ты?

— Трэба будзе зайсці, — адказаў я, разумеючы, што нечым вінават перад Дзям'янам Воўкам.

— Забяжы. Добрых людзей цурацца не трэба.

Вяртаючыся ад Бабра, я затрымаўся ля нашай хаты. Была яна замкнутая, і я толькі зазірнуў у акно. Стала не было. Ля грубы гніў стары тапчан. На тым самым месцы ляжаў і дзяркач.

Увечары пайшоў я на танцы ў клуб. Аднакласнікаў не было. Не паспелі прыехаць, а некаторыя былі ў студэнцкіх будаўнічых атрадах. Мяне пацягнуў за кулісы Халімон. Там, у цесным пакоі, сядзеў кіраўнік духавога аркестра. Выпілі піва.

— Шкада, шчо ты едзеш у Столін. Нашы канцэрты лепшыя за раённыя. А цяпер і Таццяны няма.

— А шчо здарылася?

— Распісаліся з Доўнарам. Паехалі да яго на радзіму.

— Баба маладзец, — казаў кіраўнік духавога аркестра, — колькі гадоў галаву ёй баламуціў, а яна свайго дабілася.

Мы ўтрох пасля танцаў доўга яшчэ хадзілі па Са-

вецкай вуліцы — ад універмага да пажарнай. Метраў сто пяцьдзесят. Такі шпацыр — даўняя прывычка ўсіх пакаленняў гарадчукоў. Гулянкі ў розных кутках памалу заціхалі, дзецца не было куды, спаць рана, таму моладзь і шоргала па бруку туды-сюды. Не хацелася верыць, што гэта мой апошні вечар. Мы ішлі на мост, глядзелі на ваду, у якой адсвечваліся лямпачкі. У хаце бацькі вокны не свяціліся.

Зноў пацюгалі ўніз моста, да жалезнага слупа. Халімон словам зачапіў дзяўчат, тыя агрызнуліся.

— Гэто я адбіваю ад вас, бо стары, — сказаў кіраўнік духавога аркестра. — Вы пагуляйце, а я пацягнуся да сваёй кралі.

З паўгадзіны мы пастаялі з хлопцамі ля дошкі Гонару. Вярнуўся я да дзядзькі позна. Першы раз баба не пачула майго вяртання, яна соладка спала, кідаўся ў сне малодшы сын дзядзькі, за сцяной хроп і сам Міхалка. За акном цвыркалі конікі, было чутно, як, глуха фыркаючы, уздыхала ў адрыне карова. Я мо нейкую гадзіну-другую і паспаў. Падхапіўся, сеў на ровар і паехаў па гарадку. У мяне было яшчэ на развітанне тры гадзіны. Мне хацелася наведаць Воўка-пустэльніка, праехаць каля могілак (туды я ў такую рань баяўся зайсці), развітацца з Аселіцай, са школай, з вербамі і кузняй Герасіма, з нашым калодзежам, з Кулькіным, з хросным і сталяром Клубышко, з Юрком і Ткачом, з цёткай Мамэліхай і Сарокай, з бабай Лісаветай. А ёсць жа на свеце істота (падзёнка), якая жыве ўсяго адзін дзень. Бы кінжалам, паласнула мяне гэтая думка. Божа мой, як гэта мала, за што гэтую істоту так бог пакараў! Праехаўся я і каля хаты Цялегінай. І тут сэрца заныла шчымлівай нотай. Усё ж зазірнуў на прадмесце Бор да Воўка. Ён кляпаў у двары касу. Стрэў мяне стрымана, нават халаднавата:

— А... Адась? А я думаў, ты памёр. Мо два гады не прыходзіў.

— Год.

— І гэта нямала. Па кнігу прыехаў? Не-е, браце, яшчэ жыву. Сорамна табе?

— Сорамна, — шчыра адказаў я. — Не прыходзіў, бо не было чым выхваляцца.

— О... у гэтым пагібель празмерна далікатнага чалавека. Калі ў мяне менш грошай, дык да таго, хто іх мае больш, і не пайду. Ці наадварот.

— Напраўду... хацелася прыйсці, зрабіўшы нешта важкае.

— Ты прыйдзі з добрым намерам, і будзе дастаткова.

— Ну, і хварэў я...

— Чуў... Сын мне казаў, што ты доўга быў недзе ў бальніцах ды санаторыях.

— Пранесла быццам. А на будучае, як гаворыцца, шчо бог пашле.

— Трохі сам, трохі бог... жыць будзеш. Мураш, здаецца, поўзае, поўзае, а даецца і яму магчымасць лётаць. Робіш дзе ці як?

— Паступіў завочна на журналіста.

— Шчо гэто таке?

— У газеце рабіць, кніжкі пісаць.

— У газеце? Гэто добра. І пра маю просьбу напішы. Я нават да міністра з ёй звяртаўся. Няхай заводы хімічныя ў капіталістаў не купляюць. Не трэба, каб яны былі на нашай зямлі. І без таго лес не хоча расці. Няхай у Брэсце створаць на граніцы камісію, каб шукала каларадскіх жукоў, моль, погань на гародніну і на кветкі. Завозяць, памяні мае слова. У нас такой саранчы не вадзілася зроду. Такая просьба. Другая, каб забаранілі гэтым каршунам-самалётам сыпаць зверху дуст ды іншую атруту. Загіне зямля, памяні мае слова. Каровы унь у Велямічах падохлі. Наеліся і падохлі. Прапішы гэто ў газеце, мо адумаюцца, пакуль час е. А шчо з хатай рабіць будзеце?

— Не ведаю. Дзядзька Міхалка кажа — адрамантаваць трэба.

— Балбатун. І сіл, і грошай не хопіць. Не прадавай. Хата — гэта ўсё. Няхай стаіць пакуль.

— А навошта яна мне? Я еду ў Столін працаваць, а там мо ў Мінск перабяруся ці Маскву.

— Не прадавай. Старой Насці будзе ў Міхалкі цяжка. Яна за плячыма ў дзеда прывыкла да гонару і волі. От і я... пакуль сілы... адзін буду. Прыбягуць унукі, пераначуюць, бывае... сынок недалёка жыве... а мне аднаму вальней. Ну, а бацька твой памагае?

— Папрашу калі, дасць, — я расказаў Воўку пра маскоўскую сустрэчу. Ён уважліва выслухаў усё.

— Усё хочацца, бачу, табе дакапацца да ісціны. Чалавек на зямлі павінен дзве рэчы шукаць: ісціну і веру... яны дадуць яму і сілу, і апору, і любоў. Табе хочацца

ўсё вярнуць назад. Ды гэта немагчыма. Усё пабегла ўперад, ахоўваючы тры тайны: неба, часу і чалавека. Скажу на гэто: дзеці сваіх бацькоў не судзяць.

— Я не асуджаю, бараніі божа. Я маці вельмі люблю, і чым далей той жахлівы жніўеньскі дзень, тым больш мне яе не стае. Але хочацца ведаць ісціну.

— Дык і я кажу, каб дабрацца да ісціны, трэба некага асуджаць, а бацькоў дзеці не судзяць.

Я не хацеў з ім згадзіцца, але змаўчаў.

— Бяры яблык. Ну, а дрэва пасадзіў?

— Не, — сарамліва прызнаўся я, — не было дзе.

— Жыццё доўгае... паспееш.

Нечакана Воўк падхапіўся, прыслухаўся, пабег у хату, вынес стрэльбу і выбег на двор. Я падаўся за ім.

— У-ух, сатанінскае адроддзе... зараз я вас! — Ён падыбаў у сад, я — за ім.

З боку поля ад Альпеня ляцеў на нас «кукурузнік». Воўк ускінуў стрэльбу і пальнуў угару, пабег да форткі, выскачыў на лужок за садам да бульбянога поля і смальнуў яшчэ раз. Відаць, лётчыкі пра «зенітны абстрэл» ведалі загадзя, бо самалёт над сядзібай Воўка крута ўзяў высока ў неба.

Воўк стрэльнуў яшчэ раз. Жоўта-зялёны АН-2, зрабіўшы круг, паляцеў на калгасныя палеткі пад Велямічы.

— Адзін ратунак і застаўся, — казаў мне зморaны Воўк, — бараніцца ад іх атруты стрэльбай. І шчо людзі будуць есці праз дзесяць год, забі мяне, не ведаю. Нацерпяцца гора. Прапішы іх, прайдзісветаў, якія пра зямельку не дбаюць, адным днём жывуць, прапішы. Без апоры ўсё згіне. Сам калі ад'язджаеш?

— Сёння.

— Столін недалёка. Прыязджай.

— Не буду. Тут успаміны вываpочваюць усю душу.

— Глядзі, як табе лепш. Бяры яблыкаў на дарогу. — Ён насыпаў у старую торбачку яблыкаў, правадзіў мяне да форткі, зняў шэрую кепку і памахаў мне здалёк. Я ўспомніў яго словы: «Чаму ад'язджаць лепш, чым заставацца?»

Да аўтобуснай прыйшоў дзядзька Міхалка з сынам. Я ехаў недалёка, усяго за трыццаць кіламетраў ад Давыд-Гарадка, а здавалася, пакідаю яго назаўсёды, бы еду на полюс.

Ластаўкі суправаджалі наш аўтобус, то несліся ля

зямлі, то прасякалі вузкія прасторы двароў і зноў выляталі на дарогу перад аўтобусам.

Усё ў збалелай душы перамяшалася. Не мог я ўцяміць, чым ён быў для мяне, родны гарадок, вузлом маіх пакут ці роем шчаслівых мар і надзей? І што мяне чакае там, куды коціцца барвовае сонца захаду?

Столін мог ганарыцца перад Давыд-Гарадком тым, што паняццю горад ён адпавядаў значна больш. У ім і вуліцы былі шырэй, і цэнтральная плошча заўсёды дагледжаная і чыстая, і заасфальтаваная была палова гэтых вуліц, і двухпавярховых цагляных будынкаў было больш.

Адно бракавала зялёнаму і ціхаму гарадку — ён не меў такой прыгажуні, як Гарынь, якая рабіла ўвесь гарадок маляўнічым і самабытным. Быў на самай ускраіне Століна, ля саўгаса «Манькавіцкі», цудоўны і вялізны, з надзвычай рэдкімі дрэвамі парк — рэштка некалі славутага маёнтка аднаго з Радзівілаў. Ды і парк не мог ісці ў параўнанне з Гарынню.

Я шукаў кватэру. Пакуль некалькі начэй праспаў на раскладанцы ў адным з пакойчыкаў за сцэнай. Узяў туды і клубны прыёмнік, слухаў усю ноч для смеласці. Шкрабалі мышы і пацукі, пачуўшы рэшткі маёй вячэры. Мо я жыў бы так і далей, але забараніла мясцовая пажарная ўлада. Прытуліў мяне качагар Дома культуры, пасяліў у маленькі пакойчык, хутчэй закутак, з акном у сад. Яго жонка працавала ў сталоўцы на раздачы, і я рэдка выбіваў чэкі, аддаваў грошы ёй наперад (на тыдзень), а падаваў чэк толькі на хлеб і чай. За кватэру ў мяне бралі пятнаццаць рублёў. Эканоміць не прыходзілася, я патроху браў грошы з ашчаднай кніжкі. Трэба было вучыцца жыць аднаму. І думка такая прыйшла: не жаніцца бліжэйшыя дзесяць гадоў, а мо і зусім. Дзе вы цяпер, Валя Цялегіна, Ларыса, Даша? Вы так блізка і так далёка, як і Давыд-Гарадок. Ці сутыкне нас яшчэ калі-небудзь лёс?

Жыццё раённага Дома культуры мала чым адрознівалася ад нашага гарадоцкага: розніца хіба ў тым, што тут мы мелі права кантраляваць і правяраць усе раённыя ўстановы культуры. Гэта часта ратавала: калі не вядзецца работа ў сябе, можна было заўсёды адгаварыцца — «кантралюю работу ў іншых». Тут малявалі наглядную агітацыю на шчытах, абабітых бляхаю. Дом

культуры меў спраўны «аўтаклуб». Мы давалі канцэрты часцей.

Вечна злая бухгалтарка не прамінала, каб не зачапіць дакорам: «Дармаеды... і за што вам грошы плоцяць. Работы з масамі не ведзяце». Яна памылялася. Трохі ўдзельнікаў у гурткі Дома культуры ўсё ж хадзіла. Нас ратавала медвучылішча. Усё другое аддзяленне цягнуў на сабе цыган Шура, якому шчодрыя мясцовыя ўлады далі камунальную кватэру. Шура выконваў дзесятак цыганскіх песень (гэта была супернавіна ў раёне) і меў сілы яшчэ адбарабаніць тры-чатыры цыганскія танцы. Ён забіраў ад нас і ўсю славу, і ўсе апладысменты. Я не надта перажываў. Прыходзіў на работу, садзіўся да стала і ў цішы метадычнага «кабінета» пачынаў выдумляць свае гісторыі і дасылаць іх ва ўсе буйныя газеты і часопісы, а таксама на кінастудыі і ў рэдакцыю «Фитиля». Добра пісалася ў бязлюдныя, ціхія зімовыя вечары. Вершы я пісаць закінуў. Мяне напалохала лічба, што кожны месяц у нашай краіне выходзіць каля 300—500 кніжак паэзіі. Пісаў я гумарэскі, апавяданні, аднаактовыя п'есы. Прыдумляў сюжэты лёгка, пісаў хутка, бег на пошту і праз два-тры дні з нецярпеннем чакаў адказаў. Яны, адказы, звычайна прыходзілі праз дватры месяцы, усе як адзін тактоўна-адмоўныя, павучальна-іранічныя, інфармацыйна-абыякавыя, сухія, са здзеклівым падтэкстам альбо проста тэлеграфна-кароткія адпіскі. Яны злавалі мяне, і я садзіўся да стала з патроенай энергіяй. Я быў пакрыўджаны. Газеты і часопісы друкавалі такія ж надуманыя, нежыццёвыя рэчы, як і мае. Я прыдумляў, як на раённых спаборніцтвах перабыталі прозвішча аднаму вясковаму спартсмену і як ён, стаўшы «славутым спрынтэрам», вымагаў у старшыні сродкі на развіццё спорту ў калгасе. Прыдумляў, як людзі прыйшлі на суботнік і пачалі шукаць розныя адгаворкі: пакуль усе сфатаграфаваліся, пакуль прайшлі калектыўна за духавым аркестрам па вуліцы, пакуль напісалі хвалюючы ліст у газету, дык і час суботніка праляцеў. Мне і самому падабаліся некаторыя трапныя словаспалучэнні, афарызмы:

«Табе пакарміць чалавека — як з царквы ўпасці».

«Не ўсё загубленае безнадзейнае, але ўсё безнадзейнае загублена».

«Чалавек ад горшага да добрага ніколі не ідзе праз добрае, а толькі праз горшае».

Апошні афарызм прыбіўся ў мае творы ад Тургенева. На гэта мне тактоўна ўказаў наш новы метадыст, мой сябар, на што я адказаў: былі разумныя людзі і да мяне.

Была нейкая хваравітая ўпэўненасць і вар'яцкі аптымізм, што поспех чакае мяне з дня на дзень. Мінаў месяц, другі, а мне па-ранейшаму, бы нажом у сэрца, білі адмоўныя адказы ў прыгожых каляровых канвертах. Ледзь хапіла часу і сіл, каб выканаць усе кантрольныя работы за першы курс. Аднаму чалавеку я рашыў даслаць свае апавяданні на «вялікі суд». Гэтым чалавекам была Даша Савічык. Яна паступіла ў медыцынскі інстытут, і я ведаў яе адрас. Яна ў кожным апавяданні выправіла граматычныя памылкі і раіла пісаць вершы. «Вершы ў цябе атрымліваюцца лепш».

Я кінуў пісаць. Мне падалося, што з мяне нічога талковага не выйдзе і дарма я абраў прафесію журналіста. З неахвотай я пісаў у раёнку «Навіны Палесся» інфармацыі пра нашы канцэрты, пра палітзаняткі і лекцыі ў вясковых клубах, пра агляды мастацкай самадзейнасці. Схаваўся за псеўданім А. Побач. У клубе мы па-ранейшаму круцілі старую праграму і ажывіліся толькі калі паехаў на Кубань цыган Шура: «Не магу сядзець на адным месцы, хоць золатам пасып. Бывайце, хлопцы». Трэба было нешта рабіць. Мы запісвалі на магнітафон папулярныя песні, знаёмыя анекдоты і рэпрызы, маналогі і скетчы вядомых сталічных канферансье. Нічога свайго, самабытнага, народнага, у рэпертуары не было, акрамя трох рускіх народных песень, якія выконвала метадыстка Літвінава. У шахматы тут не гулялі. Дырэктар быў аддапы шашкам, меў сваю кампанію заядлых ігракоў. Я бавіў час гульнёй у більярд.

Я пакідаў на дзень-два Столін з ахвотай. Рэдкія (раз на месяц) паездкі ў гарадок ажыўлялі душу. Я наведваў дзядзьку Міхалку і бабу Насцю. Усю зіму дзядзька шыў чобаты. Павячэралі, запалілі грубку. За вокнамі пачыналася мяккая сцюжа. Здаецца, усё было, як калісь у старой хаце, і ўсё было іншае. Нават агонь у грубцы не такога колеру, як вечарамі ў нашай старой хаце. Я сядзеў з дзядзькам, адчуваючы, што ён хоча пра нешта пагаварыць.

— Я, Адась, шчо думаю. Хата... старая гніе. Дажджы пойдуць, пацячэ зусім на нет. Без твайго дазволу я не маю права прадаць. На вясну нейкая капейчына не пашкодзіць. Душ у хаце дзякуй богу.

— Прадавай, — выпаліў я, бы чакаў гэтага пытання даўно, — сюды я жыці не вярнуся. Ніколі. Мне грошай не трэба. Няхай вам, бабе.

Мая рашучасць яму спадабалася.

— Правільна, сынок. Коб пакупніка добрага знайсці. Таргуюць у мяне цыганы. А, лета пражывуць ды прададуць на дровы. Шкада.

— А шчо шкадаваць? Грошы не пахнуць: ці цыгана, ці гарадчука. Прадавай.

Міхалка ўзяў за хату дзевяцьсот рублёў. Баба да грошай не дакранулася: «Няхай вам. Нашчо мне. Не трэба».

# ЧАСТКА ШОСТАЯ

## ШЧАСЦЕ

Тады ж я даведаўся, што Валя Цялегіна на зімовыя канікулы не прыехала і не прыедзе. Вельмі ж цяжкая сесія, і як быццам яна не здала нейкі там асноўны экзамен. А шкада. Хацелася з ёю ўбачыцца. Пачалася сесія і ў мяне. Напакаваў я чамадан кніжак і падаўся ў сталіцу.

Ці мяне не знайшлі, ці знарок не патрывожылі, адным словам, цётку Олену пахавалі без мяне. Якаў не змог застацца адзін, замкнуў хату і перабраўся да дачкі ў Туры. Я нічога не ведаў. Мне было весела і хораша ў шумным інтэрнаце. Здаваў я экзамены нядрэнна і меў нават вольны час. Наведваў Дашу. Мяне ўсё больш цягнула да яе. Яна зрабілася сапраўднай мінчанкай, з задавальненнем паказвала свае любімыя мясціны (невялічкі сквер каля тэатра імя Янкі Купалы, кінатэатр «Зорка»), вадзіла мяне піць чорную каву і кактэйлі ў кафэ «Вясна» на галоўным праспекце. Я дурэў ад гэтай чорнай «атруты» (і як яе ўсе з такім задавальненнем п'юць?): не спаў начамі, прыслухоўваўся, як тухкае маё сэрца, аднак праз дзень зноў бег да яе, і мы пачыналі ўсё спачатку — парк, кінатэатр «Летні» ля самой Свіслачы, кафэ.

Я прыдумаў сабе нейкую работу ў Брэсце і паехаў разам з Дашай. Ёй такі мой далёкі маршрут да Століна праз абласны цэнтр падабаўся. Узнікла невядомае дагэтуль пачуццё блізкасці паміж намі. У кватэры нікога

не аказалася, маці Дашы працавала правадніцай — паехала ў Маскву, а сястра са студэнтамі тэхнікума адпачывала на турбазе ў Карпатах. Пра гэта Даша даведалася ад суседкі, якая вельмі пільна і нават падазрона агледзела мяне.

— Сядай. Будзем піць каву, — бы мімаходзь прапанавала Даша.

«Зноў кава, госпадзі. Няўжо нельга чай піць?» — падумаў я. Мяне ўразілі чысціня і ўтульнасць кватэры, дываны на сцяне і падлозе, прыемнае святло таршэра. Даша апранула нейкі страката-каляровы, гладкі, бы тая скура маржа, халат. Прынесла на падносе каву, дастала сямейныя альбомы з фотакарткамі. Мы селі побач. Я, неўпрыкмет быццам, паклаў ёй руку на востранькае, як у падлетка, калена... яна не зняла маю руку, не адпіхнула мяне. Мы доўга цалаваліся, быццам не бачыліся год. З душы прасіліся пяшчота, ласка і каханне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Косы яе пахлі дзівосным шампунем. Раніцай яна імі сарамліва хавала свае мініяцюрныя востранькія грудзі. Яна абвіла маю шыю рукамі, прыпала ўся да маіх худых грудзей і ледзь чутна кранала мой твар сваімі гарачымі, сасмяглымі губамі...

Праз нейкі тыдзень у Століне, не дачакаўшыся ліста, я пабег на пошту званіць. Яна абрадавалася званку. Я пытаўся пра адно — калі зноў маці з'едзе на суткі? Ці можна сустрэцца ў Брэсце, ці пад'едзе яна туды? Даша абяцала прыехаць. Я забыўся пра ўсіх: пра Валю Цялегіну, Ларысу Паўловіч... пачала на свеце існаваць толькі Даша. Я браў таксі, ляцеў да Пінска, там перасаджваўся на брэсцкі аўтобус. Мроіліся — у сне, у марах — той цёплы ложак, святло таршэра, пах яе кос, пяшчотнасць і ласка...

Так і праляцеў адным днём год у частых паездках да Брэста і назад.

У тую вясну паводка была невялікая, але бурлівая. Падмыла ўсё ж хату майго бацькі і занесла далёка, аж пад Прыпяць. Прыцягнуў ён яе маторкамі, глянуў, што пляца няма, размыла вадой, плюнуў на будоўлю. Атрымаў страхоўку (сем тысяч), тры дні піў у чайной, частаваў усіх і ўсё прасіў прабачэння за тое, што калісь затрымліваў і накладваў штраф за браканьерства. Успамінаў час, калі служыў у рыбводінспекцыі. Пасля

з'ехаў назаўсёды да дачкі ў Баранавічы. Нам не давялося сустрэцца. Я прыязджаў праведаць бабу (пасля пахавання цёткі Олены) і тады напаткаў яго. Мо ён і не пазнаў мяне, а мо знарок не прыпыніўся. Адраса яго я не ведаў, не было ў каго папытаць... Ды і не прыкладаў надта намаганняў, каб даведацца. Адкладваў на пасля. У галаве была толькі Даша.

Прыйшоў з флоту мускулісты і мужны Ванька Гасцюшкін. Паступіў у свой фізкультурны. Мы з ім толькі адзін раз і сустрэліся. Ад Толіка з Брэста не было аніякіх вестак. Патроху мы аддаляліся адзін ад аднаго ўсё далей і далей. Неяк баба пацікавілася ў мяне: ці маю я пару? Я адказаў, што ёсць дзяўчына сімпатычная, у акулярах.

— Ачкі насіць — гэта не ганьба. Міхалко як Полю браў, прыбегла Юрчыха, кажа: ой, каго ж твой сын бярэ, сляпую Полю. А я і пытаюся: ці ж яе водзяць да туалета людзі? Не, адказвае, сама ходзіць. Кажу, то й дзякуй богу, не сляпая. Калі шкадуе цябе, бяры. Жаніся. Аднаму бог шчасця не дае... а ўдваіх і без бога будуюць, бог дапамагае толькі. На, — яна неўпрыкмет дала мне дваццацьпятку. — Прыходзіў Якаў. Пакінуў мне грошы. Перажывае за Олену. Кажа, не шкадаваў яе, вельмі гаравала, небарачка, — тут і баба Насця заплакала. — Былі ў мяне дочкі — і як няма. Гады лятяць. Наварыць няма каму... жаніся, Адасічак.

Бы падслухалі бабіны думкі маці Дашы і яна сама. Разам яны так тактоўна на мяне населі. «Усё зайшло даволі далёка, час падумаць і пра вяселле».

Я напісаў Дашы вельмі абгрунтаваны ліст, у якім тактоўна адмаўляўся. Па-першае, нам трэба яшчэ акрэпнуць фізічна пасля хваробы; па-другое, абое мы вучымся. Дзе жыць? Дзе шукаць работу? Завочнага аддзялення ў медінстытуце няма. Я напісаў ёй пра бабу Насцю. Тут я, каля Століна пад бокам, хоць не часта, але наведваю старую. Калі мы заснуем сям'ю, трэба будзе забраць яе да сябе.

Напісаў пра мару, з якой я не хацеў развітвацца: рыхтаваўся пасля другога курса на рэжысёрскі факультэт. Пісаў, што сям'я абаім зважа рукі і мы нічога ў жыцці не дасягнем. Тоўстае пісьмо зацягнула на дадатковую марку. Я чакаў адказу-абурэння і быў гатовы

сто разоў паўтарыць свае словы. Кароткі ліст ад Дашы прыйшоў праз два тыдні. Яна згаджалася з маімі прапановамі. Я разумеў, што ва ўсім трэба больш вінаваціць маці Дашы, якая падбухторвала яе і сама заводзіла гаворку пра вяселле. Пасля гэтага пісьма доўга не было вестак з Мінска. Бы прыглушаны, соваўся я па гразкіх ад мокрага снегу вуліцах Століна, не ведаючы, што рабіць. Ехаць да яе ці званіць? Уначы мне прысніўся сон. Маленькае дзіцятка — прыгожанькае, пухленькае, з блакітнымі вачыма і чэпкімі ручкамі — узяло мяне за руку і папытала: «Папко, пакажы, дзе спіць сонейка?»

Я ўзяў яго за руку і павёў па вуліцах Давыд-Гарадка на царкоўную гару, паказаў на лес, у які асядаў вялікі чырвоны дыск. Там, на гары, дзе калісь даўно князь Давыд збудаваў замак-паселішча, стаялі людзі... Глеб Іванавіч, Кулькін, Карп, дзядзька Міхалка, жонка сталяра Клубышка, баба Лісавета, Воўк-пустэльнік, Урбановіч, пані Граноўская, стары Зубей з фотаапаратам на трох ножках, хросны, Сарока з дзецьмі, Ткач з маткам дроту на плячы. Я падвёў сваё дзіцятка і пачаў з усімі знаёміць. Не было толькі сярод прысутных маёй маці. Яна стаяла ўнізе, у вадзе Гарыні. Я аклікнуў яе, падняў на рукі дзіцятка, паказаў. Маці не зварухнулася. Тады я пачаў спускацца з гары да яе. Яна ж, абхапіўшы абедзвюма рукамі сваю галаву, падалася глыбей у раку. Я крычаў што было сілы, бег з дзіцем да яе... Не паспеў. Халодная зялёная рака накрыла яе галаву. Я азірнуўся — на беразе нікога не засталося. На гладкім пясочку без вады памірала рыбка, слаба біла хвастом.

Я прачнуўся ў халодным поце. Тут, у Століне, у новых абставінах, сярод новых хат і вуліц, памалу пераstaў баяцца цемры. У тую ж ноч мне было жахліва, як ніколі ў жыцці. Што ж гэта азначае? Мо маці асуджае мае ўчынкі, ці што?

На вяселле да Ванькі Гасцюшкіна я не паехаў. Ажаніўся ён вельмі нечакана. Я пра запрашэнне Дашы не напісаў, сам не паехаў. І грошай не было. Ванька прыслаў мне абуральны ліст. Я быў вінаваты з усіх бакоў. Так яму і напісаў, што ў Мінску сустрэнемся. У «Бульбянай» паабедалі. Зроду я такой смачнай бульбы, запечанай з мясам у гліняным гаршчыку, не еў. Пайшлі шукаць кавярню. «Няўжо і мой Гасцюшкін прывык да чорнай кавы, як конь да травы?» — не верыў я. Тады я

7. Зак. 1296.

пра ўсё і даведаўся. Жонку сваю ён ведаў яшчэ з часоў службы ў Сімферопалі. Яны, дзяўчаты, прыязджалі на ўборку вінаграду. Была яна старэйшая за яго на два гады. Перапісваліся ахвотна. Паехаў на практыку ў Гродна і жыў у яе. Яна наймала кватэру на Садовай, недалёка ад Нёмана.

— Я, — казаў Ванька, — сумаваў пасля службы. Ніяк не мог звыкнуцца з адзінотай, от з таго часу, як мы раз'ехаліся пасля школы, усё ў каляіну сваю не магу патрапіць. Яна першай аказалася і апошняй, каму душу адкрыў. Не, не думай нічога. Па каханні. Тыдзень праходзіць, два... бачу, нешта мая жонка як бытта нялоўка сябе адчувае. Бытта вінавата. Шчо, пытаю, здарылася, адкрый сэрца. Тут яна са слязьмі і выкладвае, шчо мае сына пяці год. Шчо, маўляў, раньш не казала, бо баялася, што адкінуся. У слёзы. Даруй, маўляў, кахаю... Буду кахаць. Пра сына ўмысна скрыла. Маці выгадуе, а мы, кажа, будзем жыць удваіх, ты не турбуйся. Пайшоў я да Нёмана шырокага, сеў на бераг. Гадзіны са тры прасядзеў. Усё ўспомнілася. І мая маці, якая нас чацвёра адна гадавала, пакутавала... І тваю маці ўспомніў, і як ты сіратой рос, як хварэў. Нашы з ёю сустрэчы ў вінаградніку прыпомніліся. Пацалункі гарачыя. Пашкадаваў я яе, дараваў усё. Думаю, трэба жыці. Кажу, прывязі малога, няхай з намі трохі пажыве. Толькі так строга папярэджваю: калі прасіць нават стану, маліць, не расказвай мне пра яго бацьку і пра ўсё, што было ў вас. Забіць магу, гарачы, кажу, я бываю. Не прывезла, не паказала малога. Кажа, пасля, няхай трохі прывыкне, што замуж выйшла. Як лічыш, ты ж разумнейшы за мяне, пісьменнікам хочаш зрабіцца, унь кніжак колькі перачытаў, шчо рабіць? Жыці далей ці, пакуль, ето, о-ге-ге, вольныя, кінуць. Не даравать падман. Раз падманула, падмануць можа і яшчэ раз.

— Я такі разумны ў гэтай справе, як і ты. Мо і я ў сумненнях. Адзінае, што не прызнае парад, — каханне.

— Мо рана гаварыць так, яна добрая. А... ёлкі-палкі. Рашыў, буду жыць.

— Гэта ўсё тваё і за цябе ніхто не вырашыць.

— Точна. Трэба жыць. А Толік Бабёр не піша?

— Не.

— І мне нічога.

— У Брэсце. Вучыўся на майстра па рамонту апаратаў з газвадой.

— Ён не прападзе. Убачыш, перадавай прывітанне. Маці мая будзе ў гарадку толькі да пенсіі, хоча хату прадаваць ды перабірацца на радзіму, у Лагойск.

— А шчо ў гарадку адной рабіць? Правільна. Моладзі мала там застаецца. Сярэдняе пакаленне піць стала многа. А старыя насенне на вэсну возяць. Ты туды не паедзеш, і я не паеду.

— Ну, а як у цябе з Цялегінай?

— Усё кончана.

— Няўжо?

— Даўно. Скончылася не пачынаючыся. З Дашай у мяне цяпер раман. Пра якую я табе пісаў... з бальніцы... помніш?

— Помню. Ты чуў пра Цялегіну?

— Шчо?

— Кінула яна Баўманскае. Цяжка вельмі. Узяла акадэмічны. Кажуць, каханне там у яе нешчаслівае.

— Ну-у, — не хацеў верыць я. — У нашых гарадчукоў язык бывае ад зайздрасці вялікі. Пра мяне кажуць, што я хаджу пазычаю па Століне ды п'ю, маўляў, за хату грошы ўсе прапіў ужо.

— Не. Мне сяброўка яе казала, што дакументы забрала, пераводзіцца ў педагагічны.

— А шчо ты думаеш, там можа быць і цяжка. Яна марыла вывучыцца на касманаўта.

— Няўжо? Адкуль ты ведаеш?

— Ведаю.

— Ну і ну. На Валю гэта падобна.

Мы яшчэ трохі пахадзілі па Мінску, успамінаючы наш клас, гарадок, і разышліся, абяцаючы часцей пісаць адзін аднаму.

Нечым настрой быў сапсаваны. Ці не тым, што Цялегіна пераводзіцца ў педагагічны?

За ўсю сесію я з Дашай бачыўся двойчы. Мы разам баяліся ўспамінаць утульную кватэру ў Брэсце, яе маці, баяліся застацца адны ў пакоі інтэрната, баяліся глядзець адно аднаму ў вочы, быццам былі вінаватыя перад нечым. Нешта і тэм агульных у гаворцы не знаходзілася, і славутую чорную каву піць не хадзілі. Святочны ўздым нашых адносін саступаў месца будзённасці, я баюся назваць гэтае слова — апатыі.

— Туберкулёз у спадчыну не перадаецца, — сказала яна мне.

— І я чытаў пра гэта, — адказаў ёй я.

— Урэшце, усе хваробы закладзены ў генах. Дзеці хворых бацькоў маюць большы працэнт захварэць. А цябе знялі ўжо з уліку ў дыспансеры?

— Вясною абяцалі зняць. Я, прызнацца, і не думаю пра хваробу, і ніхто са знаёмых і землякоў і не нагадвае мне пра яе.

— Харошыя людзі цябе акружаюць.

— Розныя.

— Паедзеш зноў у Маскву?

— Абавязкова, — хоць голас мой прагучаў няўпэўнена. — А ў вас размеркаванні звычайна куды? Па Саюзу ці па рэспубліцы?

— Мне да размеркавання яшчэ далёка. Бываюць па Саюзу. У Сібір нават.

— Ты не едзь у Сібір. Там клімат табе не падыходзіць, — занепакоіўся я, быццам размеркаванне ў Дашы заўтра, — прасіся ў Брэст.

— Тады бачна будзе. Як бабуля твая?

— Рыпае патроху. Дзядзька Міхалка зусім слабы. Язва ў яго.

— Язву аперыруюць.

— Баіцца. Ён у нас такі... дактарам не верыць.

— З гэтым не жартуюць.

— Дык ён мяне не слухае. Твая маці як?

— Па-ранейшаму. Пяцьдзесят разоў кідала сваю работу, праклінала і пяцьдзесят разоў вярталася на чыгунку.

У пакой прыйшлі сяброўкі. Суха са мной павіталіся. Яны, мабыць, знарок праседзелі ў чыталцы, а нам далі пабыць адным. Час быў позні.

— Я праводжу цябе, — прапанавала Даша.

Адна з сяброўак крыва ўсміхнулася, маўляў, даўно б так. Мы выйшлі ў цёмны калідор, у якім пахла смажанай цыбуляй і падгарэлым салам. Гэта мне нагадала і калідор нашага інтэрната ля чыгункі. Я нясмела яе абняў, бы ўпершыню, нясмела пацалаваў. І яна прытулілася да мяне неяк холадна.

— Заўтра прыйсці?

Яна пацiснула плячыма.

«Так, — падумаў я, вяртаючыся цёплым вечарам у свой інтэрнат, — відаць, не змагу пакахаць яе ўсёй душою. Яна змянілася. Няўжо ў яе нехта ёсць акрамя мяне? Не пайду заўтра. Дзе жыву, ведае, калі кахае, можа прыйсці і сама».

Я ўпарта чакаў яе да апошняй гадзіны, мог спазніцца на свой аўтобус. Даша не прыйшла, пазваніла дзяжурнаму нашага інтэрната (добра, што я сядзеў у сваім пакоі) і сказала пра сваю занятасць, галаўны боль — адгаворкі. Пажадала шчаслівай дарогі, не абяцаючы чакаць лістоў ці наступнай сустрэчы, як звычайна яна казала ў час развітанняў.

Ехаў я ў Столін з адной думкай: не пісаць ёй першым. Вытрымаў сваё маўчанне два месяцы, нарэшце пазваніў яе маці, пацікавіўся, дзе Даша. Так скрэбла ў мяне на душы. Ад маці даведаўся, што Даша лета праводзіць у інстытуцкім атрадзе недзе аж у Цюменскай вобласці. У мяне перахапіла дыханне. Здаецца, каб лёталі ад нас самалёты, пабег бы, паляцеў у тую Цюмень. Супакоіла трохі і тое, што і ім яна не пісала, даслала толькі адну паштоўку: «Усё добра, не хвалюйцеся. Прывітанне ўсім». Я моцна пакрыўдзіўся на яе і аж да зімовай сесіі не адказваў на яе тры лісты. Так раўнаваў да «нябачнага таго», хто мог быць з ёй у студэнцкім будаўнічым атрадзе. Наша сустрэча аднавіла нанова і нашы пачуцці. І абаім было радасна, што нічога не забылася, і абаім хацелася, каб цяпло нашых абдымкаў не канчалася.

За некалькі дзён да майго ад'езду напаткаў я нечакана ва універсітэце і Бульку, старога знаёмага. Быў ён апрануты па-моднаму на той час: багаты, з узорам світэр, акуляры ў замежнай аправе, чобаты на высокім абцасе. На руцэ замест гадзінніка бранзалет. Не без ажыўлення і стоенай радасці ён зачапіў мяне, не адыходзячы ад свайго сябра, у якім я пазнаў хлопца з Давыд-Гарадка, пляменніка Крутаярава. Пазнаў па адметнай рысе: у яго быў вытырклы падбародак, і фігурай ён быў падобны на прыгнутага саксафаніста.

— О, каго я бачу! Прывітанне, Доля!

— Чэсць пану, — адказаў я.

— Ты не здзіўляйся, — звярнуўся ён да сябра, які, здаецца, пазнаў мяне, бо трохі ведаў па гарадку, але выгляду не падаў, — наш Адась Доля польскай мовы не ведае. Два-тры словы ўсяго. Любіць, бывае, казырнуць у кампаніі. Я, Адась, абышоў усе мінскія кінатэатры, шукаючы тваё імя на афішах. Не знайшоў.

— Я перадумаў, ведаеш. Вучуся завочна на журфаку.

— А-а, — зацягнуў Булька, быццам яму сказалі, што

карова не есць мяса, — гэта не прафесія. Пясок. Нічога не застаецца.

— А ты? У цябе, канечне, не пясок.

— Таксама пясок, праўда, трохі больш сур'ёзны. Мы на юрыдычным. Сто пяцьдзесят у сярэднім, і работа не бі ляжачага. Прэстыж. А калі юрыдычным кансультантам пры якой саліднай установе ды пры харчах, і мэбля, і дываны, і крышталь пад тваім кантролем. Адзінае, каго ў нас яшчэ баяцца, дык гэта служкаў закона. Так мой айчым гаворыць. Ён бухгалтар, ведае, пачым фунт ліха.

— А я лічыў, што ты пойдзеш на філалагічны.

— Што я — шалёны, каб потым без работы застацца? У Мінску іх поўна. Вучыцель у вёсцы не для мяне.

— Ты ж пісаў вершы таксама, памятаю, — мне захацелася выклікаць яго на шчырую гаворку.

— Забавы юных лет. Я мыслю рэалістычна. Паэта з мяне не выйдзе. Дару табе свае рыфмы: жги глаголом сердца людей. Дык што ўсё ж з ВГІКам атрымалася? Не слухаў мяне.

— Туды не позна і пасля універсітэта, — адказаў я, таячы тое, што двойчы не прайшоў папярэдні конкурс.

— Вершы пішаш?

— Прозу.

— У-у-у. Цяпер сатыра ўваходзіць у моду. У мяне нюх. Даю накірунак.

— Дзякую за параду.

— Таварыш правільна гаворыць, варта прыслухацца, — уставіў свае слова рэдказубы пляменнік Крутаярава, — каб боль быў, каб чытач ненавідзеў тваіх адмоўных персанажаў. Ствары ім атмасферу нецярпімасці.

Я так і не зразумеў, жартам ён усё гэта гаварыў ці не.

— А яшчэ лепш, — раіў разважліва і павучальна Булька, — пішы крымінальныя гісторыі. Точна. Пішы дэтэктывы, а мяне возьмеш у кансультанты.

— Конан-Дойля з мяне не выйдзе, як не выйшла з цябе паэта.

— А ты пакрыўдзіўся. Я раю як лепш. Дзярзай. Цябе ж заўсёды вылучала пачуццё настырнага аптымізму. Не атрымалася з ВГІКам... паспрабуй тут заявіць пра сябе на ўвесь голас. Усе тут нашы філолагі, журналісты з шызам: усе геніі. Прэстыж — вялікая сіла. Дарэчы, можна цябе на хвіліну?

Мы адышлі ўбок. Булька дастаў з партфеля кніжку.

— Памятаю, ты жывапісам цікавіўся. О, штука! Гэта не твой любімы Пяроў, «Пахаванне нябожчыка». Босх. Вялікі Босх. У Германіі выдадзены. Магу прадаць. Па знаёмству. Грошы патрэбны.

Я з цікавасцю пагартаў кніжку.

— Падарунак класны. Хто там у вас у гарадку мастак? Забыўся, як ты казаў.

— Глеб Іванавіч.

— О, яму падорыш.

— Колькі?

— Дваццаць рублёў. За што купіў, за тое і аддаю.

— Многа. У мяне ўсяго дваццацьпятка засталася.

Булька забраў у мяне кнігу, схаваў назад у партфель, вочы яго загарэліся новай ідэяй.

— Што ты робіш сёння ўвечары? Давай адсвяткуем сустрэчу ў рэстаране. Аднаго чалавека прывяду, вочы на лоб палезуць.

— Я ведаю яго?

— Ведаеш, — інтрыгуючы, адказаў Булька. — Пяць пакінь на дарогу, а дваццатку маеш права прагуляць. Я чырвонец кіну. Згода?

— Давай. А дзе?

— Пойдзем у рэстаран гасцініцы «Мінск». Лепшая кухня. Класная музыка.

Мы разышліся, умовіўшыся сустрэцца а сёмай гадзіне ля рэстарана. Я прыйшоў на паўгадзіны раней. Нерваваўся: а раптам гэты круцель прывядзе сюды Дашу? Было такое пачуццё, што трэцім чалавекам будзе жанчына. І я не памыліўся. Напорыстым крокам ішоў да рэстарана Булька, за ім, ледзь паспяваючы, крочыла Ларыса Паўловіч. Я, хаваючы сваю ўсхваляванасць, падаў ёй руку, павітаўся. Яна ж (відно было, што не чакала, каго сустрэне) знерухомела на секунду, узрадавалася, падала мне сваю цёплую руку і ўся нават падалася ўперад, чакаючы, мажліва, што я абдыму яе.

— Ды адбыміцеся вы, яй-богу, як фраеры, быццам не родныя.

Мы абняліся і пацалавалі адно аднаго ў шчаку. Барадаты нізенькі швейцар ступіў крок з прыступкі нам насустрач, ветліва падаў Кірылу руку. Назіраючы, як элегантна дапамагае Булька Ларысе распрануцца, як спрытна падае яе падношанае паліто гардэробшчыку,

я падумаў: «Няўжо гэта той самы юнак, які калісь марыў пайсці ў манастыр? Адкуль узяліся такі спрыт, упэўненасць і паказное геройства?»

У туалеце ля люстэрка ён кінуў мне халодным тонам некалькі фраз:

— Яна была замужам. За тым пінскім фраерам. Пажылі паўгода і разбегліся. Працуе памочнікам кінарэжысёра на кінастудыі.

— Ого!

— А што ого? Дзяўчына на пабягушках. Быў я на здымачнай пляцоўцы. Хадзілі ў масоўках здымацца, там яе і надыбаў. Хлапушкай, на якой напісаны назва фільма і нумар кадра, ляпае. Мне маладзіца адна, грымёрша, сказала так: памочнік рэжысёра, як правіла, палюбоўніца кінарэжысёра, аператара альбо выканаўцы галоўнай ролі.

Мы селі ў самым кутку. Падалося, што абрус, цяжкія крэслы з высокімі спінкамі, абцягнутыя светла-шэрымі чахламі, мармуровая попельніца — усё пахне півам.

Як дома, гаспадарыў Булька. Заказаў багата ўсяго: мясны салат, салянку, адбіўных катлет, асятрыну.

— Ну, што будзем піць, людзі? — саладжавым тонам запытаў ён нас і, не дачакаўшыся адказу, перадаў афіцыянтцы: — Бутэльку грузінскага каньяку, калі ласка, і бутэльку шампанскага. Дзеля затраўкі. А вы што знямелі, як святыя мошчы? Не чакалі такога сюрпрызу ад мяне? Ніяк не апамятаецеся. Давайце паднімем гэтыя маленькія чарачкі за сустрэчу, каб яна прынесла нам вялікае задавальненне.

— Ніяк не магла дадумацца, што сустрэну менавіта цябе, Адась, — павесялела на вачах ад выпітага Ларыса. — Як ты маешся? Дзе?

Я пераказаў ім свае апошнія гады жыцця, абмінаючы ў расказе прозвішча Дашы. Ларыса сама нагадала пра яе:

— Я вас неяк угледзела з тралейбуса на праспекце. Ты такі задаволены ішоў разам з Дашай Савічык, што я, прызнацца, падумала: а ці не зрабілі і яны памылку, як я, ці не распісаліся?

Мне зрабілася перад Булькам няёмка, і я хапіўся разліваць у фужэры шампанскае.

— Так. Сустрэліся чыста выпадкова.

— Яна тут вучыцца? — Булька глянуў мне ў вочы.

— Так. У медыцынскім.

— Малайчына Дашка! — пахваліла Ларыса.

Булька, як падалося, ажывіўся, яшчэ больш павесялеў, пачуўшы такую навіну, і было бачна, што ён дараваў мне маю папярэднюю хлусню.

Замаруджана ўсаджваючыся на свае крэслы, як пасажыры ў вагоне, якім далёка ехаць, выйшлі на эстраду музыканты ў чорных фраках і з такога ж колеру бабачкамі пад шыяй. Чырванашчокі, невялікага росту саліст заспяваў знаёмую мне і па столінскім канцэрце песню «Эти глаза напротив».

Булька высока ўзнятай рукой даслаў салісту сваё прывітанне і падзяку.

— Класны саліст. Лепей, чым Абадзінскі, спявае. Я пазваню. Справы, справы. А вы патанцуйце. Не цурайцеся. Успомніце мінулае, — кіраваў намі Булька.

Я запрасіў Ларысу на танец, і яна мне падала сваю руку, як калісь рабіла ў санаторскім клубе. Мы гаварылі пра ўсё, толькі не пра Бульку. Мне ж надта карцела даведацца пра іх адносіны, але нешта ўтрымлівала, і ў апошнюю хвіліну я спытаўся:

— А дзе твае доўгія прыгожыя косы?

— Надакучылі.

— А гэта ў цябе што, шыньён?

— Шыньён выходзіць з моды. Гэта парык.

Я не паверыў сваім вачам.

— Няўжо? Такі натуральны, не адрозніць.

— Японскі, — крыху з гонарам адказала Ларыса.

Яна і без доўгіх кос не страціла сваёй прывабнасці. Твар, праўда, у яе як бы трошкі завастрыўся. Яна мела поспех. Да нашага століка падыходзілі запрашаць яе на танец з успацелымі лбамі і шыямі, з вясёлымі агеньчыкамі ў вачах, з перакошанымі каляровымі гальштукамі мужчыны самых розных узростаў. Ларыса ўсім адмаўляла, хоць Кірыл амаль шэптам казаў ёй: «Калі хочаш, можаш пайсці. Я не супраць». Яна ўпарта адмаўляла. Нязваныя кавалеры, хто з патугай на ўсмешку, хто зазлаваўшы, хто са словам «пардон, пардон»... задам адыходзілі ад нашага століка.

Праз нейкі час, калі ўжо добра гуло і спявала з усіх бакоў, прыйшлі да нас пляменнік Крутаярава з незнаёмай высокай дзяўчынай, над ілбом якой тырчала пасма штучных сівых валасоў.

Як я паспеў заўважыць, Ларыса не ведала незнаём-

ку. Кірыл іх пазнаёміў. Незнаёмка назвала сваё імя так ціха, што я не пачуў. Булька заказаў яшчэ бутэльку каньяку (на гэты раз балгарскага — «Пліску») і бутэльку шампанскага. Я зусім панік. Хто ж плаціць будзе? Хутка прыкінуў. Чатыры — каньяк, чатыры — шампанскае, закускі, піва... Божа... Мо ён мяне ўмысна і запрасіў, каб выставіць на глум? Ад яго непаслядоўнага характару ўсяго можна чакаць. О будзе канцэрт! Прыйдзецца пашпарт афіцыянтцы закладваць, як вучыў мяне Ванька Гасцюшкін. У мяне бы нехта нябачны шабляй зрэзаў увесь настрой. Я цікаваў за насцярожаным і праніклівым паглядам афіцыянткі. Усе раптам гуртам пабеглі ў цэнтр залы. Пачуліся першыя такты папулярнай тады леткі-енкі. Тут не было пакрыўджаных. Трымаючыся адзін за аднаго, людзі весела скакалі ланцужком і пляскалі ў ладкі.

Пляменнік Крутаярава (нарэшце я даведаўся, што яго клічуць Эдуард) забраў на танец і Ларысу, і сваю сяброўку. Мы засталіся з Кірылам адны.

— Вышэй нос, пісьменнік! Давай вып'ем за нас з табой, братоў па нядолі.

— Давай, — ціха згадзіўся я, а сам падумаў: «У яго ж, акрамя чырвонца, грошай больш няма. Чаго ён так шыкуе?»

— Ну, як табе Ларыса?

— Прыгожая, што гаварыць.

— Падманная прыгажосць. Ты мяне паважаеш?

— У некаторым сэнсе, — не разумеючы пытання, адказаў я.

— Тады папытайся ў Ларысы: хто ёй падарыў парык?

— Якая розніца — хто?

— Ёсць розніца, і вялікая. Ох, як ён мне даўся, гэты парык. Гэтыя сто пяцьдзесят рублёў на яго, як яны мне крывёю даліся. Але не быў бы Булька Булькам, калі б сёмым пачуццём не ведаў, што яе прыгажосць таксама можна купіць. Яна падарыла мне ноч кахання, адну толькі ноч, вартую паловы жыцця. Я падумаў: як і чым заплаціць мне за бяссонныя ночы пакут там, у санаторыі? За маю знявагу. Я стрымаў сваё слова, даказаў і сабе, і табе, калі хочаш, што не была яна вартай чыстага юнацкага гарэння маёй душы, як не кахала яна самааддана, відаць, і гэтага пінскага фраера. Не перахвальвай ніколі жанчыну. Не жывуць яны высокімі па-

чуццямі, усе яны карысталюбныя эгаісткі. Ты запытай, хто падарыў ёй парык. Мне будзе найвышэйшай асалодай сачыць за яе тварам.

— Давай пакінем гэта на другі раз, — прапанаваў я.

— Не. Толькі сёння, — прычапіўся Булька.

— Добра. Я запытаю, толькі калі выйдзем з рэстарана на вуліцу, — адказаў я, разумеючы, што ён не адчэпіцца альбо ўпрэцца, не дасць грошай, і мне ганьба на ўвесь Мінск.

Толькі зараз, калі мне трыццаць год, калі лёс сутыкнуў мяне пасля таго рэстарана яшчэ раз з Булькам, пра што я вам, дарагі чытач, збіраюся расказаць пазней, я, здаецца, разумею, што ён, адкрываючы мне сваю тайну, сачыў і за выразам майго твару. Ён цешыўся не толькі перамогай над Ларысай, але святкаваў сваю перамогу нада мной.

— А хочаш, магу табе падарыць яе. Так. Яна цяпер падатлівая. Яна ж, адгукнуўшыся на тваё пачуццё, здрадзіла таму, першаму. Маеш права.

Я змаўчаў.

— А... ты правільны. Гуманны. Высакародны. Паказуха. Не асуджаю. Кожны сам сабе кароль. Я, скажам, спакойна кірую сваімі адмоўнымі і станоўчымі эмоцыямі.

Стомленыя, але задаволеныя вярнуліся да століка даўгалыгі Эдуард з дзяўчатамі. Я глянуў на Ларысу: у яе быў цудоўны настрой. Я на секунду ўявіў сваё глумлівае пытанне, гэтую Булькаву дробную інтрыжку маленькага чалавека, які злуе больш ад комплексу непаўнацэннасці, чым шукае задавальнення ў доказе сваіх ісцін і поглядаў, і мне зрабілася моташна. Мяне не так хвалявала, ці хопіць у нас грошай разлічыцца за багаты стол, як турбавала думка: як лепш пакінуць іх, ці, наогул, знайшоўшы падставу, збегчы адсюль. Да стала падышла насцярожаная афіцыянтка.

— Давайце будзем разлічвацца.

— Дзяўчына, не ганіце лашадзей, — фыркнуў Булька.

— Я змену здаю сёння. Давайце будзем разлічвацца. Вось ваш рахунак, — настойвала яна.

Я даўно ўжо трымаў у кулаку дваццаць рублёў і цяпер паклаў іх, скамечаныя, на абрус. Дзяўчаты сядзелі нерухома, знарок доўга выбіраў з пачка цыгарэту Эдуард.

— Што там не хапае? — як бы незнарок папытаў Булька.

— Рахунак перад вамі, — абыякава адказала афіцыянтка, крадком пазяхаючы.

Булька пацягнуўся па рахунак, штурхнуў рукой фужэр.

— Давайце і за фужэр яшчэ шэсцьдзесят капеек, — паспешліва папярэдзіла афіцыянтка.

— А што, у вас не спісваюць належны працэнт? — уставіў слова Эдуард.

— Набярэшся на вас тут усіх спісваць. З маёй кішэні спісваюць.

— Не будзем рабіць праблему. Кавы прынясіце. Мінулы раз забылі кавы прынесці, — павучаў спакойна Булька.

— Я тады вас не абслугоўвала. Давайце разлічымся, і прынясу каву. Мяне чакаюць за астатнімі столікамі. Вось так пайшлі заўчора па каву, а яны, дзве парачкі, і ўцяклі, — апраўдвалася афіцыянтка.

— Цёця, не трэба блытаць нас з іншымі. Атрымайце, здачы не трэба. Пакіньце сабе, — Булька даклаў рэшту грошай і кінуў рубель зверху.

Каву не дапілі. Ва ўсіх сапсаваўся настрой.

— Не люблю хадзіць у кабак з-за такіх брыдкіх афіцыянтак. У хаце лепш было б сабрацца ў складчыну, — сказаў сваё Эдуард.

— Трымай хвост пісталетам, Эдзік. Не чалавек для суботы, а субота для чалавека. Адась, у цябе рубель гардэробшчыку знойдзецца? — папытаўся Булька.

— Не, — разгубіўся я, — білет да Століна і восем капеек. Няма. Чэсна, няма.

— Веру. Ты памятаеш, што абяцаў? Спадзяюся, ты чалавек слова? — нагадаў мне Булька. Як падалося, ад кавы (ён адзін сваю выпіў) Кірыл трохі працверазеў.

— Памятаю. Трохі апасля запытаю, — нехаця адказаў я.

— Мы будзем чакаць, праўда, Эдуард?

— Праўда, — падтрымаў Кірыла пляменнік Крутаярава.

Дапамагаючы Ларысе ля люстэрка апрануць паліто, я гучна, каб ім усім было чутно, запытаў:

— П... прыгожы... парык. Сама купіла ці нехта па... падарыў?

Ларыса знерухомела, абвяла мяне позіркам з ног да

галавы, зірнула на Бульку і таксама гучна адказала:

— Булька падарыў. Мо цябе цікавіць, за што ён зрабіў такі дарагі падарунак, дык я адкажу.

— Не. Не цікавіць, — спяшаўся сказаць я.

— Чаму? Калі вы, седзячы адны, дамовіліся пажартаваць такім чынам, я адкажу. Ён мне падарыў яго авансам... спадзеючыся атрымаць у падзяку ноч кахання. Праўда, Кірыл? Ты гэта ў мяне прасіў? І я паабяцала табе. Так?

Кірыл увесь збялеў, не ведаючы, як рэагаваць на яе смелыя словы.

— Так... але я не разумею цябе, Лора! — не чакаў яе абурэння Булька.

Яна больш не затрымлівалася. Эдуард памкнуўся бегчы за ёй, але Булька затрымаў яго. Пухкая ніжняя губа ў Кірыла прыкметна трымцела, ён шукаў словы ў адказ:

— Не трэба... Яна... Я... Булька ўмее чакаць. Гэта яе дзяшовы нумар. Заўтра ж прыбяжыць. Ты мне вер, ты ёй не вер, — гэта ўжо ён казаў мне, — калі ты будзеш сумнявацца, я дашлю табе яе фотаздымкі ў вельмі пікантных позах без адзення. Я абяцаю. Пакінь свой адрас.

— Я табе веру. Навошта? — хацелася мне хутчэй пакінуць іхнюю кампанію.

Дзівак, я хацеў яшчэ яму пахваліцца, што адно маё апавяданне надрукавана ў рэспубліканскім часопісе «Работніца і сялянка». Хацелася казырнуць. Ды ці ёсць у яго цікавасць да майго жыцця? Знішчыў бы іроніяй... Маўляў, калі параўноўваць з Чэхавым, О.Генры... Добра, што прамаўчаў. Булька, у гэтым я ўпэўніўся яшчэ раз пасля наведвання рэстарана, складаны, скрытны чалавек. Ён адносіцца да тых людзей, з якімі на першы погляд лёгка сябраваць, але ад сустрэчы з якімі твая душа не поўніцца мёдам надзей, жыццялюбствам. З ім цяжка знайсці суладдзе. Дыялог з ім — я назіраў і раней — гэта звычайна сутычка, доказ яго праваты, яго пункту гледжання і яго ацэнкі з'яў і чалавека. У мяне заўсёды псуецца настрой ад сустрэчы з такімі, як Булька. Бы тваю душу вымазалі атрутай, ты ўсё больш і сам пачынаеш ненавідзець людзей, зайздросціш кожнаму. Ягоны так ладна абгрунтаваны цынізм уплывае і на тваю свядомасць. Мне зрабілася боязна пакідаць Дашу ў вялікім горадзе, ведаючы, што ў ім знаходзіцца недзе

побач Булька. І за каго мяне палічыць Ларыса? Прыхвасцень? Амёба? Чалавек без гонару і чэсці. Дурань, чаго я згадзіўся на гэты рэстаран? І наогул, я нейкі ўсё ж абарванец, жабрак. Як апрануты Эдуард, Булька — і як я. Яшчэ ж пару соцень ляжыць на ашчаднай кніжцы.

Першае, што я зрабіў, прыехаўшы ў Столін, купіў дарагі чорны касцюм. Іншага колеру ва універмагу не было. Толькі чорныя. Буду элегантным, стану штодзённа насіць свой чорны касцюм, гальштук. Вырашана. Пачынаю з панядзелка.

Пачаць прыйшлося раней, з пятніцы. Дзядзька Міхалка памёр «на вэсне» далёка ад радзімы, у горадзе Новамаскоўску. «Што яны, згаварыліся, ці шчо? — гневаўся я ад бездапаможнасці на неба. — Не хочуць жыць пасля пяцідзесяці? А як баба, як мая любая Насця, як яе сэрца вытрымае?»

Я прывёз букецік пралесак, якія купіў у Століне на аўтобусным прыпынку. Безупынна галасіла ля склепа дачка нябожчыка. Мне зрабілася млосна, цяжка на сэрцы. Я пакінуў хату, сеў на калоду ля недабудаванай адрыны, узяў пад язык таблетку валідолу. Так, бывала, рабіў мой сябар-метадыст.

Дзядзька Міхалка ляжаў страшэнна худы і злы. Усё. Цяпер ніколі не пачуць яго вясёлае, вострае слова: «Я, Адась, не стрыгся ў парыкмахерскай... Я хадзіў здаваць волас табе на валёнкі да зімы». Сюды, на другі край гарадка, развітацца з ім прыйшлі старэйшыя сябры з Аселіцы: Клубышко, Кулькін, хросны, Ткач, Паўлёнак, прыцягнуўся яшчэ больш пасівелы і пануры Герасім.

Міфодзій цяпер у хату да нябожчыкаў не прыходзіў, везлі на паніхіду да царквы.

— От жытка, цьфу на яе. Заказаў мне Міхалка неўкач[1] на кажух аўчыны. Кажа, знайдзі, я куплю, — спачуваў уголас Кулькін. — Ніколі мне больш не даведацца: ці быў ён шчаслівы, гэты гарапашны чалавек? І што для яго было шчасце?

Цяпер я разумеў, як цяжка Полі. Памёр чалавек. Колькі ён ні зарабляў, нешта мо часам прапіваў, а ўсё ж чалавек, гаспадар хаты. Дачка дзядзькі заканчвала дзесяты клас, трэба было справіць плацце, туфлі, паліто, плашч ды ўладкаваць куды-небудзь на вучобу.

---

[1] Некалі, неяк, аднойчы.

Прывезці яго здалёк, пахаваць, сабраць на памінкі — усё гэта цётцы Полі каштавала немалых грошай і немалога здароўя. Яна і не плакала, небарака, толькі потым упала на грудок магілы і дала волю слязам. Бабу Насцю хацелі пасадзіць у кузаў грузавой машыны, ля склепа. Не захацела. Кажа: «Правяду сыночка ў апошнюю дарогу пешкі. Ён быў лёгкі на ногі».

А куды ёй цяпер? Я мог толькі паспачуваць. Не было за што купіць новую хаціну, грошы мае на ашчаднай кніжцы выцеклі. «І навошта я шыкаваў? Навошта? Чаму не думаў пра дзень заўтрашні?»

На памінках я глядзеў на старую бабу і каўтаў слёзы. Поля хадзіла ля стала, на якім было багата свежай смажанай рыбы, і прасіла: «Памінайце, людзі добрыя, майго чалавека. Памінайце».

Я з'ехаў, амаль уцёк апошнім аўтобусам. Так напалохаўся гэтай нечаканай смерці дзядзькі, што шукаў любы ратунак.

Увесь час я асуджаў нейкім чынам той злашчасны ўчынак маёй маці... Цяпер я намагаўся зразумець яе і, болей таго, апраўдаць. Пустое ўсё. Праляціць бясследна, прашуміць турботна. Чалавек, як кажа баба, муха. Уся розніца, што ён не лётае. З новай сілай прычапіліся да мяне жах, абыякавасць. Што ж рабіць, што? Я так здурэю ад адзіноты і думак. Пайшоў на пошту, выклікаў Дашу на перагаворы.

— Я слухаю... Слухаю.

Я не ведаў, як пачаць і ці трэба адразу пра гэта.

— Я да цябе з прапановай.

— Слухаю.

Мне падалося, што я чую стук яе сэрца.

— Я хачу прапанаваць табе стаць маёй жонкай.

— Ты не памыляешся? — яна, відаць, успрыняла гэта як жарт.

— Не.

— Паўтары яшчэ раз.

— Я прашу цябе стаць маёй жонкай. Чуеш?

— А ты ўсё ўзважыў? Не будзеш потым шкадаваць, сумнявацца, праклінаць гэтую мінуту?

— Я ўсё абдумаў тысячу разоў.

— А як жа ВГІК? Твая мара?

— Пакуль гэта не галоўнае. І потым, я даведаўся, ёсць двухгадовыя вышэйшыя курсы рэжысёраў і сцэнарыстаў пры Камітэце па кінематаграфіі ў Маскве, на

якія прымаюць з вышэйшай адукацыяй. Паўтараю, зараз гэта пакуль не істотна. Адказвай толькі на маю прапанову. Вырашай: сёння альбо ніколі. Гэта вельмі сур'ёзна. Ты згодна?

Пасля доўгай напружанай паўзы яна нарэшце ціха адказала:

— Згодна.

«Згодна» паўтарылася, радасна адгукнулася ў маім сэрцы.

— Я пра ўсё напішу. Сёння ж. Ты чакай. Добра?

— Добра.

— Шчасліва.

— Да сустрэчы, — пачулася на другім канцы.

«Гэта адзіна правільнае рашэнне ў маім становішчы. Не дай бог, Булька пачне чапляцца. Урэшце, жаніцьбу на зямлі не абмінуць, тады які сэнс яе адкладваць? Тым больш што я не ведаю, колькі мне адведзена гэтай жыткі. Кажуць, усё, што робіцца, да лепшага».

Дамовіліся распісацца на майскія святы. Вяселля ні на шырокую, ні на вузкую нагу не рабілі. Як параіла мне цешча: «Няхай хоць сціпла, але як у людзей». Сабраліся на вечар на брэсцкай кватэры. Задаволеная крутой, шчаслівай хадою падзей, маці Дашы падарыла нам заручальныя пярсцёнкі. Ад мяне быў адзін Толік Бабёр. Я прасіў, каб Даша нікому не казала, што я сірата, каб схлусіла, калі папытаюць сяброўкі: маўляў, усё так нечакана і хутка, што мае бацькі не змаглі прыехаць і што мы паедзем да іх.

— Няхай будзе па-твойму. Я б, напрыклад, з гэтага тайны не рабіла, — згадзілася яна.

З бацькам я не перапісваўся і быў упэўнены чамусьці, што на вяселле ён не прыедзе. Да сваіх у гарадок, будзе час, выберамся, адсвяткуем. Шкадаваў толькі, што не ведаю польскі адрас цёткі Зосі. А раптам яна выбралася б, да Брэста зусім блізка. Так захацелася нечакана, каб яна пасядзела побач, як маці. Толік добра выпіў і забаўляў кампанію анекдотамі, танцаваў без перадыху з сяброўкамі Дашы. Спявалі і танцавалі мы, аж пакуль цярплівыя суседзі не пастукалі ў сцяну. Трохі прыцішылі магнітафон. Толік узяў бутэльку шампанскага, пайшоў у другі пад'езд да раззлаваных суседзяў мірыцца і праз пятнаццаць мінут прывёў да нас дваццацігадовую дачку суседзяў.

Наша застолле зноў ажывілася. Толік разрываўся

паміж суседскай дзяўчынай і сяброўкамі Дашы. Усе яны адналькава падабаліся. Калі ж усё паступова ўгаманілася, як гавораць, застаўся «з носам». Суседка пабегла дахаты: «Не праводзь мяне, я сама», а сяброўкі пайшлі спаць. Толіку паставілі старую раскладанку на балконе і паслалі там. Ён парываўся назад у пакой, да іх: кажа, буду на падлозе, загараджуся крэсламі. Казаў, што на балконе спаць яму строга забаранілі ўрачы, што ў яго лунатызм і ён можа выпасці з пятага паверха. Дзеўкі рагаталі, але не пусцілі яго да сябе. Тады ён у знак пратэсту пайшоў спаць у ванную. Маці Дашы і малодшая сястра начавалі ў суседзяў. Ранкам, выжлукціўшы залпам бутэльку піва, Толік казаў мне:

— Дурны, што ты ажаніўся. Яй-богу, дурны. Ты ж яшчэ не нагуляўся. Я, пакуль сотню не перабяру, не ажанюся. А ты, дурань, паспяшаўся. Пагулялі б. А так жанаты халастому не таварыш. Мужчыны жэняцца ад стомы, а жанчыны ад цікавасці, — кінуў ён адзіны англійскі афарызм, які да канца ведаў. Я слухаў паблажліва, разумеючы, што цяпер ягоныя словы аніякага значэння не маюць.

Пачынаўся новы віток майго жыцця, і трэба было да яго неяк прыстасавацца: з боем прыняць ці з мірам згадзіцца. Увесь чэрвень мы пражылі ў Мінску: я ў гасцініцы, яна ў інтэрнаце. Я спрабаваў знайсці грашавітую работу, танную прыватную кватэру. Марна. Нікуды і ніхто жанатага не хацеў браць. Тады мы дамовіліся так: пажыву я пакуль у Століне, а за гэты час будзем шукаць мне месца ў Брэсце.

Непазнавальна таямнічая ўсё ж прырода жанчыны. Заўсёды, калі я вяртаўся ў Столін, яна праводзіла мяне без ценю трывогі, а як пажаніліся — мае ад'езды, куды б ні было, зрабіліся для яе сапраўднай пакутай. Мяне ж разбіраў смех, і яе гэта насцярожвала яшчэ больш. Каторы раз прыходзілася паўтараць: нікуды я не спяшаюся, ніхто там не чакае, нікога, акрамя яе адной, няма і не будзе. Яна прасіла пісаць і званіць часцей.

У Століне мяне чакаў у Доме культуры ліст ад цёткі Полі.

«Добры дзень, Адась. З гарачым прыветам і масай пажаданняў да цябе цётка Поля, Аксана, Жэнік, баба Насця. Віншуем цябе і тваю жонку Дашу з законным

шлюбам. Шчасцейка вам, дзетак і здароўя. Перад святам было многа работы. Бацюшка Міфодзій сказаў, што нельга на свята памінаць дзядзьку, выпадала на тройцу, таму зрабілі на тыдзень раней. Паплакалі ўсе яшчэ раз. Бабу Насцю я не праганяю. Нічога не думай. Вучыся. Няхай жыве ў мяне. Хлеба хопіць. А пра бацьку твайго плявузгаюць, маўляў, застаўся ён у Маскве, ажаніўся там. Мо брэшуць людзі. Сынок Жэнік просіць, мо дзе напаткаеш камеру для ровара, купі яму, я грошы дашлю. Ты пытаўся пра цётку Зосю. Была яна на тройцу ў гарадку. Два тыдні была. Жадаемо табе ўсячаскіх поспехаў у рабоце і ў трудзе. Болей не ведаю, шчо пісаць. Цётка Поля».

«Усё ж такі як жыву я па-свінску, — дакараў я сябе. — Не наведваю гарадок, цураюся ўсё больш і больш сваіх родных. Вось і цётка Зося прыязджала. Вылецелі з галавы і сшыткі маці. Зусім забыўся, што жывуць на свеце мая баба, цётка Поля, яе дзеці... Як жывуць? Унь шчо і пра бацьку гавораць».

«Ты думаў, ажанюся і ад усяго свету адгараджуся, — казаў мне ўнутраны голас. — Дапамагла табе жаніцьба, як хвораму кашаль. Не ты першы, не ты апошні... яшчэ сам ад сябе ніхто не ўцёк».

Я напісаў бацьку ў Баранавічы пра сваю хуткую жаніцьбу, даслаў у пісьме і апавяданне з «Работніцы і сялянкі». Неўзабаве атрымаў ліст ад яго малодшай дачкі. Яна пісала, што бацька ў Баранавічах, што плёткі аб ім пусцілі самі гарадчукі, пісала, што бацька страшэнна сумуе па Давыд-Гарадку, па старой хаце, рэчцы, былых сябрах, бо ні з кім адтуль не перапісваецца. Нікуды не ходзіць са двара і ні з кім тут, у Баранавічах, не сябруе. Угаворвае маці перабрацца ў Пінск, куды пераехаў колішні яго аднакласнік-сябрук Каханьчык. Ужо некалькі разоў напіваўся да гарачкі і крычаў, што пакончыць з сабой. Усе яны віншуюць мяне з жаніцьбай.

Я доўга пранасіў ліст у кішэні, ды так і не адпісаў ім. У галаве бы засела адно: «Была цётка Зося. Чаму я, доўбень, раньш не напісаў у гарадок?»

А цяпер як туды ехаць? Языкастыя бабы не прамінуць абгаварыць: «Чаму адзін ды без жонкі? А-а, яблык ад яблыні недалёка падае. Мо, як бацька, кінуў, не жыве ўжо?» Няхай так, паеду іншым разам, а пакуль буду часцей пісаць.

У Століне гарадчука зрэдку сустрэнеш. Асартымент

у магазінах нічым не адрозніваецца, а проста ехаць на экскурсію палешукі не звыклі. Хіба ўжо выпра з хаты якаясь неадкладная патрэба ці гора. Суседа Паўлёнка напаткаў я каля райвыканкома. Пануры, няголены Паўлёнак не пазнаў мяне адразу.

— Ну, Мані, дачкі суседа Цімоха, сын я, не пазналі?

— Адасё! О, дзякуй богу, трохі пакруглеў з твару. А так і не пазнаў бы. Коб мацер тваю не ведаў, не пазнаў бу. На маці зрабіўся вельмі падобны.

— А вы шчо тут, дзядзька, робіце?

— Ой, і не путайся, сыночак. Каня ў мяне забралі. Як жа мне без коніка? Усё жыццё з канём. Я ж і ў калхозі троху рабіў. Ну як без каня, пагібель!

— Як так забралі?

— Кажуць мясцовыя нашы ўласці, не паложана. Закон такі: хазявам коней не трымаць. Ці ж гэта справядліва? Матацыклы вунь купляюць. Колькі ў ім конскіх сіл. І бульбу возяць, людзей, дровы на прычэпе цягнуць. Няхай матацыклы здаюць, чаго я мушу коніка здаваць? Пацент плаціў колісь. А тут аддай, і ўсё. Мне ж пяцьдзесят восем гадкоў. Як жыць? Сынок у мяне ў Чарапаўцу, дочкі павыходзілі замуж. Мне шчо, ехаць на вэсну? Не люблю гэто, не мелкі купец. От і запісаўся на прыём. Мо рады даб'юся? А ты шчо, тут жывеш?

— Так. Раблю пакуль у клубе. У хуткім часе мо пераеду ў Брэсць. Я ажаніўся.

— Онь шчо. Малайчына. Хату вашу цыганы прадалі на дровы. Грушу спілілі. Ой, бывае, гляну, разгаворымся з Лісаветай, успомніцца ўсё. Здаецца, навошта жыць на зямельцы: усё ляціць прахам некуды, а куды — ніхто не ведае.

Я папытаўся пра нашых, аселіцкіх.

— Дзякуй богу, усе жывыя-здаровыя. Тупаюць усё больш каля сваіх хат, на сваіх гародах. Прыехаў бы як-небудзь. Цябе ж усе памятаюць. Ткач неяк вычытаў, шчо ты ў нейкай газеце нешта прапячатаў. Праўда?

— Було таке.

— Давай жмі. Без навукі цяпер нікуды. От мы без навукі не людзі, а смецце.

— Перадавайце ўсім прывітанне.

— Ужо ж перадам, а як жа.

Ён выцер далонь аб свой картовы пінжак і падаў мне на развітанне руку.

Коніка Паўлёнку не абяцалі вярнуць. Я стрэў яго на плошчы яшчэ больш панурым і трохі на падпітку.

— Раён сілы не мае. А ў Брэсць не паеду. Грошы прасвістаць, гары яно гарам.

Я не адважыўся праводзіць яго да аўтобуснай станцыі, бачыў, што дзядзьку Паўлёнку не хочацца ні з кім гаварыць.

Не паехаў я ў гарадок, калі прачуў, што там, у Граноўскіх, часова гасцюе Валя Цялегіна, бацька якой не доўга пабыў у раёне: пераехаў працаваць у абласную пракуратуру.

Мне карцела сустрэцца з ёю і запытаць (мо жанатаму яна адкрылася б смялей), ці была ў яе хоць кропля нейкага пачуцця тады да мяне, зморанага, зацятага, жорсткага? Ці было толькі адно выключна спачуванне (непрыгожаму) і шкадаванне (хвораму)? Я і сам не мог адказаць і тады і цяпер, калі пішуцца гэтыя словы, якія пачуцці мяне самога больш турбавалі: каханне, зайздрасць, нянавісць, міласэрнасць, жорсткасць? Няхай наша сустрэча адкладзецца яшчэ на год, два, тры. Час прасветліць і ўсё расшыфруе сам. Не, дык папытаюся ў Граноўскай.

Пачыналася жніво. Мы любілі ў гэты час даваць канцэрты. Вясковыя людзі моцна стамляліся, але дзіўна, стома іх аніяк не адбівалася на настроі. Канцэрты мы давалі ў полі, у час кароткага абеду, на кузаве нашага грузавога таксі, бо «аўтаклуб» «здыхаў» ля груды металалому на двары райвыканкома. Мы ўключылі ў канцэрт некалькі вершаў пра хлеб, пра рукі працоўныя, пра родныя палеткі. Велізарным поспехам карысталася выканаўца народных песень метадыст Літвінава. Ніхто не крыўдаваў: то быў час, калі нас усіх аб'ядноўвалі аднолькавая радасць і душэўны ўздым. Мы гналі план, давалі па тры канцэрты ў дзень, поўнілі і свой «бункер», каб узімку адпачываць і ўдумліва рыхтаваць новую праграму. Працавалі ўсе так самааддана, як і людзі на полі, не халтурылі. Усім хацелася, каб гэтыя незабыўныя гадзіны радасці доўжыліся. Адны думкі пра зіму, пра халодныя пакоі клуба (звычайна вугаль канчаўся на пачатку лютага) наводзілі сум. Абшарпаныя сцены клуба, які даўно патрабуе рамонту, шыльды з лічбамі (выпрацоўка электраэнергіі, колькасць жылога фонду краіны), рыпучы гук радыёлы, гульня ў шашкі, знаёмыя пласцінкі эстрадных шлягераў — не хацелася

да гэтага вяртацца. Трэба было нечым ахвяраваць. А тут яшчэ першая сямейная рэўнасць. Даша знайшла ў мяне пісьмо Ларысы Паўловіч. Я, прызнацца, і сам не чакаў яго атрымаць. У кароценькім лісце Ларыса пыталася: ці сапраўды гэта маё апавяданне надрукавала «Работніца і сялянка»? Ці паступіў я на рэжысёрскі факультэт? Пра сябе ні слова. Пакінула толькі свой мінскі адрас.

Даша парвала гэты ліст і дзень са мной не размаўляла. Я кляўся і бажыўся, што ўсё тое ў мінулым, усё гэта выпадкова, усё «улетело, как дуновение ветра». Можа, усё хутка і забылася б, калі б я, не ведаючы нораву жанчын, не адказаў Ларысе на яе пытанне. Другі ліст ад Паўловіч мой дбайны столінскі сябар-метадыст пераслаў мне ў інтэрнат, я не паспеў знішчыць яго (у мяне і звычкі такой няма), і ліст па волі злога року зноў трапіў у рукі Дашы.

Яна нічога абсалютна слухаць не хацела. Праз смех я ёй нешта тлумачыў. Дарма. Сварка пераходзіла ў скандал. Мы тыдзень не сустракаліся. Я пайшоў на прымірэнне. Так, без развжанняў, трэба нечым ахвяраваць. Я вырашыў пакінуць, як мне здавалася, назаўсёды і невялічкі ціхі Столін, які не стаў мне блізкім і які не замяніў і не мог замяніць мне ў душы родны Давыд-Гарадок.

Сястру Дашы пасля тэхнікума накіравалі працаваць у Гомель. Цешча мая па-ранейшаму рабіла праваднiцай, абяцаючы ў канцы кожнага месяца кінуць сваю клапатлівую работу. «Не звяртай увагі на яе жальбы, — казала Даша. — Аднойчы яна кінула, парабіла месяцы са тры паштальёнкай і назад вярнулася на чыгунку. А цяпер, калі ёй прысвоілі званне «Ударнік камуністычнай працы», да пенсіі калясіць будзе». Не стану нападаць на цешчу, тым больш што сваёй працавітасцю, маўклівым норавам і ўвагай да нас яна мне вельмі спадабалася, нягледзячы на тое, што мой сябар-метадыст з'едліва папярэджваў: «Добрых цешчаў на свеце не бывае. Гэта анамалія, як усё роўна, калі скажуць, што кракадзіл дабрэй за карову». Я, не маючы вопыту сямейнага жыцця, не перабольшваю, але, дзякуй богу, пакуль мы з ёй добра ладзім. «Я вас буду карміць. Вы толькі вучыцеся, дзеткі. А ў старасці ўжо дадзіце кавалак хлеба».

Павесялела Даша, яна прыязджала па студэнцкім білеце (палова кошту) амаль кожную суботу. Надзеі

мае адразу ж у Брэсце знайсці работу лопнулі, як іржавыя абручы на дзежцы. Абяцалі адну, праўда, — у Доме народнай творчасці рэдактарам, але трэба было чакаць месца, чакаць, пакуль там нейкага выпадковага і непрафесійнага чалавека нейкім чынам звольняць. І я чакаў, бадзяўся без справы амаль год. Мяне ніхто дома не дакараў. Усё ж нешта я рабіў, цешча часценька бачыла ля стала маю згорбленую спіну. Я ішоў у абласны драматычны тэатр, па некалькі разоў глядзеў адны і тыя ж спектаклі, зрэдку пісаў рэцэнзіі на іх у абласную газету. Мяне прасілі прыносіць свае дапісы часцей. Падахвочаны імі, я стаў прыносіць кароценькія жарты на старонку сатыры і гумару, артыкулы пра агляды мастацкай самадзейнасці. Ганарары ад рубля і сямідзесяці капеек павялічыліся да чатырох—сямі рублёў. Хутка надакучыла гэтае марнатраўства. Я апынуўся на раздарожжы, не ведаючы, чаго мне самому хочацца. Пачала скоса пaглядваць на мяне і маўклівая, добрая маці Дашы. Я разумеў яе, не асуджаў. Жыў як у сне. Знаёмых не заводзіў. Спаў да абеду. Без апетыту (які ж апетыт у лежня, сказаў бы стары Бабёр) снедаў, садзіўся да стала пісаць п'есы. Адзінае, што найбольш падабалася. «Гэта сябе апраўдае, — казаў я цешчы, — адной п'есай на год грошай зарабіць можна. Цыркацца з рэцэнзіямі ды артыкуламі — пустая трата здароўя і сіл. За нарыс пра перадавіка, вашага брыгадзіра, адзінаццаць рублёў выпісалі, а колькі сіл утрубіў». Цешча, бачачы, як я прагна дабіваюся свайго, кожны дзень нешта на паперы шкрабаю, зноў дабрэла і спачувала мне.

П'еса, аднак, пісалася жах як марудна, мо ад таго, што нічога не браў ад жыцця, а ўсё выдумляў.

Рукі ў мяне апусціліся, душу ахутаў адчай. Падалося, што жыву быццам без крыві. Нічога не радавала і не цешыла. Я, напалоханы цешчай, пайшоў у дыспансер праверыць, ці не пачынаецца ў мяне зноў працэс. Нават цудоўныя даныя аб стане здароўя не зменшылі маю меланхолію. Я амаль забыў пра існаванне бабы Насці, цёткі Полі, Глеба Іванавіча, Воўка, цёткі Зосі, сваёй жонкі Дашы. Не, яны ўсе існавалі, былі, але па-за межамі майго сэрца. Нецярпімасць, нянавісць да ўсіх ад сваіх няўдач, пакут выштурхоўвала з сэрца ўсё астатняе. Я не мог адказаць: з кім я, хто я, дзе я? Усё раздражняла мяне. Зрабіўся нейкім чалавекам без карэння і лю-

бові да сваіх людзей, а ўсё больш нагадваў Бульку, незадаволенага нават уласным эгацэнтрызмам. «Так... Я нават горш, чым Булька. Мо нельга чалавеку існаваць так доўга без работы, без калектыву, без сяброў?» Я не ведаў, дзе шукаць ратунак, як яго шукаць.

Мо сапраўды я няўдачнік. Бывае такое... Воўк расказваў, не пад той зоркай народзішся — і ўвесь час гібееш... пакуль твая душа знойдзе новы прытулак... калі міне багата часу. Я верыў у бессмяротнасць душы, бо ў яе верылі Воўк, Глеб Іванавіч, Граноўскія. Так, я спілаванае дрэва, якое ўпала і трухлее... Мне хацелася ўцячы ад адных машыністак, якім я быў вінен дзевяноста рублёў. Дзве п'есы мае ў тэатры згубілі, і прыйшлося іх перадрукаваць. Не, хопіць, фініта. Трэ нарэшце апамятацца. Знайсці сілы і кінуць усё, як кінуў некалі пісаць вершы. Выжыў. Ёсць (амаль з дыпломам) прафесія журналіста. Выкладчыкі ва універсітэце хвалілі мае работы, майго ўмення дастаткова калі не для абласной, дык хаця б для раённай газеты. І вось у адзін непагодлівы дзень, калі яшчэ больш пячэ душа, употай, каб Даша не ведала, я напісаў ліст да рэдактара столінскай раённай газеты. Можаце ўявіць маю радасць, калі я атрымаў ад яго запрашэнне. Мяне бралі літсупрацоўнікам на час водпуску адной работніцы. У той жа дзень я напісаў Дашы скупа, але досыць цвёрда пра сваё рашэнне: «Дай мне магчымасць пачаць усё спачатку адтуль. Інакш мне не жыць, адчуваю. Недзе я неяк непрыкметна страціў нейкую сувязь, ці што. Парваўся ланцужок. Мо ён там? Рэжысёра з мяне, як ты ведаеш, не атрымалася. Ужо і не цягне туды. Пішу праўду. Інакш не хачу. Кахаю. Я буду наведвацца да цябе пры першай магчымасці. Спадзяюся, ты разумееш, што гэтыя ўцёкі часовыя. Цалую. Твой Адась.

P. S. Пішы на Столін. Рэдакцыя раённай газеты. Даруй, што я не чакаю твайго слова і згоды, але, калі не паеду сёння ж, не паеду наогул. У такім душэўным стане (паміж небам і зямлёю) я не змагу з табою жыць. Чакаю».

Яна (усё ж я недаацэньваў Дашу) адказала, на здзіўленне, цёплым лістом, у якім тройчы паўтарыла, што добра разумее мае памкненні і не бачыць свайго шчасця, калі я буду таміцца, бы птушка ў клетцы, калі

не знайду сябе. Як я быў удзячны гэтаму лісту і шчаслівы.

Са спакойным сумленнем і прагай дзейнасці прыехаў я ў раённы свой гарадок. Не адмаўляўся ад самай так званай чорнай работы. Адзінае, куды мяне не пасылаў у камандзіроўку пажылы рэдактар, — гэта ў Давыд-Гарадок. Ён нутром адчуваў, што я туды не хачу ехаць. Сам, вопытны журналіст з вялікім стажам, браў мяне з сабой на справаздачна-выбарныя партыйныя сходы ў калгасы. «Праяўляй ініцыятыву», — падбадзёрваў ён. Я накідваў яму пашыраную інфармацыю. Ён ахвотна рэдагаваў і падпісваў да друку. Мне было прыемна браць у рукі газету, у якой тэкставых паправак амаль не было. Пра гэта ведаў толькі я адзін. «Я цябе не эксплуатую, а дзялюся вопытам», — жартаваў рэдактар. Ажывілі мы з сакратаром і літаратурную старонку. Запрашалі ў рэдакцыю маладых аўтараў. І якое было прыемнае ўзбуджэнне, пачуццё радасці, калі на адну такую сустрэчу прыехаў з глухой вёскі трактарыст, які прывёз проста цудоўныя вершы. Пасля мы даведаліся, што меў ён толькі сямігадовую адукацыю і пачаў пісаць вершы зусім нядаўна, у дваццаць год. Ягоная паэзія была (і гэта прызналі ўсе члены нашага літаб'яднання) лепшай за вершы ўсіх мясцовых паэтаў, як мне ні цяжка было прызнаць, але і за мае. Дзіўна. Дагэтуль я хваравіта ставіўся да ўсіх, хто чытаў свае вершы, нават зайздросціў некаторым.

Гледзячы на яго грубыя рукі, на яго незлаблівыя вочы, адкрыты твар, можна было з упэўненасцю сказаць, што перад табой даверлівы, добры чалавек, шчаслівы чалавек. Мы яго прасілі пачытаць яшчэ раз і яшчэ. Неўпрыкмет заседзеліся да глыбокага вечара. Ён не застаўся начаваць, хоць адказны сакратар і запрашаў яго да сябе на кватэру. «Пайду. Мо дачакаюся аўтобуса якога, ці бог пашле папутку. Абяцаў брыгадзіру з самага рання гной на поле вывезці. Збяруцца людзі. Не хочацца падводзіць». Мы з адказным сакратаром газеты ўзяліся яго трохі праводзіць. Так я і не даведаўся: ці ўдалося яму тады пад'ехаць, ці прайшоў гэтыя пятнаццаць кіламетраў пешкі? Мы надрукавалі яго вершы. Званілі ў рэдакцыю (не памятаю, здаецца, настаўнікі з вёскі), дзякавалі і віншавалі рэдакцыю з адкрыццём таленту.

Мне хацелася бліжэй пазнаёміцца з ім, паехаць у

ягоную вёску з рэдкай назвай Магільнае, знайсці той самы пянёк-калоду, на які апранаюць вясковыя жанчыны фартушкі, якія вісяць на крыжах і ў нас у Давыд-Гарадку.

Пасля сустрэчы з паэтам-трактарыстам я ўпершыню задумаўся, чаму па адзін бок гарадка вёскі маюць такія назвы: Альгомель, Альпень, Альшаны, Кароцічы, Церабічы, Сямігосцічы, а па другі — Лядзец, Дубянец, Угалец? Калі ўчытацца, удумацца, за кожным словам, назвай свая тайна, свой ход, свае лёсы людскія. Не самі ж яны сябе так назвалі, усё людзі. Жылі-былі на маёй зямлі, пра нешта ж марылі і мо таксама нечага дамагаліся, як і мы. Дзе яны ўсе, што пакінулі, каго, які знак? Водгулле мінулых падзей адгукнулася ў маёй свядомасці. Трэба паехаць у гэтае далёкае і таямнічае Магільнае.

У рэдакцыю пазваніла маці Дашы. «Ну, пачынаецца. Вечная трагедыя — цешча», — падумаў я. Яна прасіла мяне неадкладна прыехаць у Брэст. Я няўпэўнена пачаў шукаць адгаворку, пачаў дапытвацца, што там ды навошта я ім. Даша ў цягніку прастудзілася, і ўсе ў хаце вельмі клапаціліся, надта перажывалі, каб не прычапіўся грып. Прастуды мы з ёй найбольш асцерагаліся, ведаючы суровыя наказы дактароў. Даша баялася грыпу як агню. Я выбраўся ў дарогу неахвотна.

— Каб верыла, што ёсць бог, малілася б суткі, — сустрэла мяне на парозе цешча, — толькі б усё мінула, толькі б не грып. Каб дзіцятку не зашкодзіла.

— Як?

— Хіба ты не ведаеш? Я ж думала, яна табе напісала.

Я пайшоў у пакой да жонкі, узяў яе худую руку ў свае рукі, сеў побач на ложак. Па маім твары яна зразумела, што мяне так цікавіць. Я хітнуў галавой, маўляў, усё так, як кажа маці. Яна шчасліва ўсміхнулася сасмяглымі губамі і таксама хітнула галавою. Я нахіліўся і пацалаваў яе гарачую шчаку.

— Давай нікому нічога не будзем казаць, — папярэдзіў я прыкметна ўсхваляваным голасам, — пакуль не дачуеш, што жывое. Пакуль не штурхне ножкай, не заварушыцца. Так вучыла мяне баба Насця.

— Ужо, — шчасліва адказала жонка.

— І ты маўчала.

— Баялася. Я думала, мо ты не хочаш пакуль дзіцяці.

— Як ты магла так падумаць, родная мая, — я пяшчотна гладзіў яе валасы.

«Божа мой, божа... нават калі мне і не дадзена спасцігнуць хоць кроплю тайны чалавека, не дадзена ніколі... я буду дзякаваць лёсу за гэтую рэдкую вялікую мінуту шчасця, калі ў маю далонь штубае нябачнае, але жывое, цёплае і, здаецца, правярае, ці побач я».

Усё раптам успомнілася, і ўсе ўспомніліся: і жывыя і памерлыя.

«Бацька... мой бацька... як ён мог не дачакацца такой незабыўнай хвіліны ў маёй памяці? Чаму ён не прыйшоў, калі любіў, ведаў, і не прыйшоў. Магчыма, гэтая хвіліна ўсё даравала б, з'яднала б іх на ўсё жыццё? Можа, ён усё ж не кахаў яе?»

Цяпер пра назапашванне вопыту ў столінскай газеце не магло быць і гаворкі. Я гэта разумеў і сам. Як толькі Даша нарадзіла сына, я паехаў у Брэст забіраць іх з радзільнага дома. Ёй заставалася паўтара года да заканчэння інстытута, і мы з цешчай вырашылі мужна падзяліць клопаты па догляду немаўлятка пароўну. Не скажу каб мы не рабілі гэтага старанна і клапатліва. Я зноў часова аказаўся без работы, але цяпер гэта мяне менш прыгнятала, як знікла часовая незадаволенасць ад майго колішняга брэсцкага лайдацтва і ў цешчы. Яна бачыла, як моцна я люблю сваё дзіця, як прачынаюся першы на ягоны плач штоночы, як клапачуся аб ім. У паўгода мы сфатаграфавалі свайго Янку і паслалі фота ў Давыд-Гарадок.

За гэты час я атрымаў адно пісьмо ад цёткі Полі і не ведаў, як яны цяпер жывуць. Паслаў ліст і да бацькі ў Баранавічы: «Цяпер ты дзед!» Ён прыслаў пяцьдзесят рублёў на каляску.

З пацешным малым, які кожнадзённа вучыўся чамунебудзь новаму, выклікаючы гэтым маю ўзрушанасць, я забыўся пра ўсё на свеце. Як, бывае, нямеюць ад гора, так і п'янеюць ад шчасця. Цётка Поля даслала нам віншаванне, запрасіла ў госці.

Мы так любілі свайго першынца, так ахоўвалі яго ад хвароб, што далі слова адно аднаму: не выбірацца ў

далёкую і блізкую дарогу нікуды, аж пакуль Янку не споўніцца тры гады. «Чатыры яшчэ лепш, — папярэджвала і цешча, — паверце майму вопыту».

...Мы прасядзелі ў Брэсце пяць. «Калі сем нянек, часта дзіця без носа», — кажуць старыя людзі. Прычапіўся да нашага малога нейкі пякучы і неадступны бранхіт. Ужо як мы ўсе яго даглядалі, песцілі, лепш, здаецца, чым якога прынца з графства Люксембург, а ўсё ж Янка часта хварэў. Нас з Дашай (яшчэ былі жывыя ўспаміны пра хваробы і бальніцы) гэта напалохала. Таму не рызыкнулі мы аддаць дзіця і ў дзіцячы садзік. Упраўляліся самі. Я дачакаўся нарэшце таго месца, якога хацеў, пайшоў рэдактарам у абласны Дом народнай творчасці. Я быў не надта загружаны работай, меў адносна больш вольнага часу, чым жонка. Складаў анатацыйныя спісы па музыцы, драматургіі, мастацкім чытанні, камплектаваў метадычныя зборнікі для самадзейнасці, бегаў у друкарні, дамаўляўся на выданне нашых работ. Часта, так было ямчэй, браў работу дахаты. Спецыялісты параілі везці Янку на поўдзень, нам патрэбна было шмат грошай. Аднаактовыя п'есы абласны Дом самадзейнасці, які фарміруе рэпертуар, набыць у аўтараў не мае сродкаў. Мне заказвалі з ахвотай сцэнарыі для агітацыйна-мастацкіх брыгад вобласці пад усе святы. Я корпаўся ў старых падшыўках газет, часопісаў, кампіляваў вершы паэтаў розных пакаленняў, пісаў дыялогі і жанравыя сцэнкі і зарабіў трохі грошай.

— О-го, рана пачынаеш па югах ездзіць! — здзіўляўся дырэктар Дома творчасці.

— Дзіця хворае, а так сто гадоў ён мне здаўся. Не ляжыць душа. На Палессі — гэта адпачынак, — як бы апраўдваўся я.

— А-а, — цягнуў мой кіраўнік, — цягне дахаты.

Не ведаў, што яму адказаць. З цягам дзён душэўны неспакой не знікаў, нягледзячы на тое, што Янка паправіўся, добра сябе адчуваў і рос здаровенькім. Мне хацелася наведаць Давыд-Гарадок, і бытта нябачная хвароба-злыбеда не пускала мяне туды. Заводзіла гаворку пра гарадок цешча, а ў мяне — бы прысох язык да нёба. Я зразумеў, што гэтае нешта, гэтая злыбеда ёсць сорам за тое, што я так доўга не наведваўся туды. Я абяцаў калісь бабе Насці прыехаць на ўласнай машыне, са-

браць усіх сваякоў нашых, пасадзіць музыкаў і адсвяткаваць усё разам: вяселле, нараджэнне сына, нашу сустрэчу, радасць жыцця.

А я без канца адкладваў і адкладваў паездку туды. Як я ні нудзіўся, а на брэсцкі базар у красавіку і маі не хадзіў, баяўся напаткаць гарадчанку з насеннем кветак, не быў гатовы адказаць на яе пытанне: «Чаму не прыязджаеш у гарадок?»

# ЧАСТКА СЁМАЯ

## ХАТА

Гэта апошні раздзел майго расказу, і без манернасці скажу: мне хацелася пачатак апусціць і пачаць адразу з таго пісьма, якое ляжыць на маім стале. Не трэба загадзя думаць, што ў гэтым лісце бог ведае што, такая ўжо жар-птушка, тайна, і я, крыхабор, нават гэтым баюся з вамі, дарагі чытач, падзяліцца. Безумоўна, не. Я больш чым упэўнены, што ў ім просты, без узнёсласці і ўрачыстасці, адказ на маю таксама сціплую, але вельмі важную для нас на сённяшні дзень просьбу. Нават калі адказ і не будзе мяне задавальняць, ён у параўнанні з каваркамі раздзела, які я хацеў скараціць замоўчваннем, нішто. Бо, калі прыняць за выток, за аснову, што няма дробязей у жыцці і што кожны дзень, кожная гадзіна значная і галоўная, усё ж выпадае такая падзея, якая абавязкова прымусіць цябе пераацаніць былыя каштоўнасці тваіх учынкаў, паводзін, думак, дзеянняў, прымусіць яшчэ пільней прыглядзецца да тваёй сутнасці. Зрэдку чалавек сам сябе ганіць.

Прэлюдыя гэтай часткі маіх успамінаў абяцала блізкі поспех і шчаслівую будучыню. Я ўжо зрабіўся больш стрыманым і разважлівым, верыў, што трэба ўмець разгледзець шчасце і ў пахмурным дні, што і шчасце бесклапотнае не бывае. Год пачаўся, як ніколі, проста фантастычна. Раней я перарабіў усе сюжэты сваіх аднаактовых п'ес у апавяданні і даслаў у рэспубліканскае выдавецтва. Мінула месяцы са тры, і мне прыслалі рэцэнзію на мае дванаццаць апавяданняў. Я баяўся распячатваць канверт, папрасіў Дашу: «Мо твая рука шчаслівая».

Не ведаю, што дапамагло, ці ўвага сталага рэцэнзен-

та да аўтара з перыферыі, ці сапраўды ў Дашы рука шчаслівая, — адным словам, рэцэнзія аказалася станоўчая! Я яшчэ не ўцяміў цалкам усю радасць. У прыпісцы загадчыка аддзела прозы паведамлялася, што рукапіс прапанаваны аддзелам у план года і ўжо зацверджаны галоўнай рэдакцыяй. Ці ж не чароўная гэта казка?! Не верылася, што гэта прыступка да здзяйснення новай мары, больш асэнсаванай і неабходнай для душы, чым тая, папярэдняя, у школе.

Той час прыйшоў, і я трымаў дрыготкімі рукамі першую ў сваім жыцці карэктуру. Я надакучыў жонцы, цешчы, паказваў ім гранкі, пытаючыся парад: «Замяніць на такой старонцы слова на новае ці пакінуць усё ў такім выглядзе?» Хутчэй, хутчэй бы выйшла кніжачка! Вось з чым я нарэшце пакажуся ў Давыд-Гарадок! Вось чым я і парадую сваякоў ды блізкіх знаёмых, вось чым адолею самаўпэўненасць і саманадзейнасць некаторых гарадчукоў.

Баба Насця паклікала мяне сама... першай і апошняй у сваім жыцці тэлеграмай да мяне. Яскрава ўсё ўспылыло ў маёй памяці з новай сілай. Бы ў сне, хадзілі мы з Дашай па магазінах, купілі на памінкі кіло доктарскай каўбасы, кіло тміннай, шпротаў, яшчэ нейкіх дарагіх кансерваў, свежых булак. Усю дарогу мы маўчалі, сканаваныя адным горам. Штось пякуча-горка скіроўвала настрой да спустошанасці. Нашага з Дашай прыезду ніхто не чакаў. Слёз пралілося многа. Лісавета не адыходзіла ад склепа, плакала з перапынкамі і ўсё паўтарала:

— А з кім жа я цыбулю панясу ў Мачуль, галубанька Насценька мая, сяброванька? Ай-ёй, ай-ёй, божачкі...

На што Глеб Іванавіч азваўся:

— Лісавета і тут успомніць пра цыбулю.

— А ты менш прыслухоўвайся. Гэта іх жыццё. Не будзе ж яна пра космас успамінаць, — казала маляру жонка.

Баба Насця ляжала спакойная і богабаязная, быццам слухала ўважліва, не адкрываючы вачэй, сваю сяброўку. На маё здзіўленне і сцішаную радасць прыйшла ў хату да Полі цётка Зося. Мне перадалі, што яна толькі ўчора (гэта ж трэба так) і прыехала з Польшчы на радзіму. Зося (на шыі ў яе быў доўгі чорны шаль) упала на калена ля ног бабы і гучна, на ўсю хату, загаласіла. Пазней ад цёткі Полі я даведаўся, што зусім нядаўна цётка Зося пахавала ў Польшчы свайго Юзэфа.

Сэрца яе не аджыло яшчэ ад ран пакут і развітання.

— Бач, і цябе не прызнала, — кранула мяне за локаць жонка Клубышка. — Не адышла яшчэ. Галосіць так і свайго ўспамінаючы.

Было цяжка слухаць гэты жалобны плач з надрывам. Мы селі на ганку з дзядзькам Якавам.

— У мяне, небарака, на руках і памерла. Я прыехаў з Туроў праведаць. У дачкі там жыву. Далі мне калгасную пенсію дваццаць восем рублёў. Вось... бачу, што Насця адыходзіць, дай, думаю, пераначую. Папрасіла, каб чайку далі з пячэннем. Булачку свежую ды пячэнне ўсё жыццё любіла. Мне так шкада яе зрабілася, нашу бабу-гаротніцу. Помню, пры Польшчы аддала яна за мяне нябожчыцу Олену. Нейкія выпалі гады галодныя-галодныя. Пайшоў я да іх і сілком забраў адзіную карову. Дзед Цімох у гвалт, давай сварыцца, а баба тузае яго ў плечы: «Маўчы, маўчы, стары доўбень... Мы пажылі, не памрэм, а ім жыць яшчэ, дзетак гадаваць». Во-о шчо було. Цяпер мне сорам перад ёй, уй як сорамна. Чаго я тую карову ў іх сілком забраў?

— А пра мяне не ўспамінала?

— Не. Пры мне не ўспамінала. Слабенькая була. Няма, табе скажу, у гэтай смерці, як і ў жыцці, аніякай тайны. Праз усё жыццё адзін. От, шчо маеш на зямлі, шчо бог даў, за тэ і трымайся. На бабу нашу ніхто ніколі дурнога слова не сказаў. Маладзец була, а не баба.

Пачалі прыходзіць людзі: жвавы Кулькін, разважлівы сталяр Клубышко (яго жонка зранку пабегла да царквы, да Міфодзія), маўклівы хросны, Бабёр-старэйшы, Воўк-пустэльнік, каваль Герасім, Ткач, пануры Паўлёнак, сусед Юрко, прыбегла цётка Сарока, развіталася і падалася хуценька дахаты, прыцюгала шырокімі крокамі дачка Лісаветы, з ёю жонка Ткача, Мамэліха, здаецца, была ўся наша вуліца і ўся Аселіца.

Прыгналі грузавую машыну. Якаў і хросны панеслі да машыны дываны.

— Бач, Насці пашанцавала, правязуць на машыне. Дачку неслі на руках, на возе сына, Цімоха, Олену, а бабу на машыне. Такі ў нас на Аселіцы прагрэс, — казаў Ткач кавалю Герасіму.

— Ой, не дай бог таке пераражыць, шчо яна пераражыла. Не хачу ні на машыне, ні на таксі, — адказала на словы Ткача цётка Мамэліха.

Сын Бесарабіхі Жэня Мэка зняў шапку і ўзяўся

несці перад машынай чорна-белы драўляны крыж. Усе мы рушылі паціху за машынай да царквы. Пачуўшы звон, туды ішоў люд.

— З пеўчымі, Адасё, ці без пеўчых будземо? — падбегла да мяне жонка Клубышка.

— З пеўчымі, — ціха адказаў я.

— Шэсцьдзесят рублёў будзе гэто стоіць.

— Знойдзем.

Нетаропкі Міфодзій прыклаў на лоб бабе вузенькую папяровую стужку з надпісам «рабъ божі» і пачаў адпяванне — ліцію.

Унукі Клубышка, дзеці гарадчукоў, якія жылі ля самай царквы, бегалі па чыстым цвінтары, пакрыквалі, гукалі адзін аднаго, не звяртаючы ўвагі на месца і людзей у чорных уборах. Ткач пасварыўся на іх і пагразіў пальцам. Ад царквы да могілак пайшлі хутчэй, быццам спяшаліся некуды. Зноў ля долу з крутым жалем заспявалі пеўчыя. Упала на грудзі да бабы Насці Лісавета, пацалавалі нябожчыцу апошні раз Поля, Зося, Кулькін, хросны. Клубышко, жонка яго, Глеб Іванавіч, Мамэліха... я не пацалаваў і не дакрануўся да рук яе... пякучы жах ад таго далёкага пяцьдзесят восьмага года скоўваў ногі, не пускаў да склепа. Забілі века, апусцілі склеп у дол і пачалі хуценька засыпаць. Узяўся за лапату і сын Полі.

Цётка Зося папыталася ў Ткача пра нешта і кінулася да мяне на грудзі:

— Адасё! Свенты божа. Я ж не пазнала цябе, дзіцятка. Думаю, хто гэта малады такі... стаіць. Езус-Марыя... Адась, мой любы Адась.

Мы разам заплакалі. Людзі зноў па старой завядзёнцы пайшлі наведаць магілы сваіх бацькоў, дзядоў, дзяцей. Кінуліся на халодную восеньскую зямлю і Поля з дачкою, са скупою слязою стаяў Якаў ля сваёй Олены, галасіла па сваім Івану Лісавета, якую супакойвала дачка:

— Мамо, годзе ўжо разрывацца. Не палохай людзей. От пастаім моўчкі, дый усё. Шчо ён, пачуе цябе, чаго так горла рваць?

— А мо й пачуе, дочанько, — Лісавета ад слоў імгненна перакінулася на справы: — А вой ты, уся ж краска з памятніка аблезла, крыж голы. Ай-яй-яй, халера твае майстры. За шчо я грошы плаціла? Я ж твайму Хведару давала грошы на аліфу, фарбы. Казаў, шчо ха-

дзіў і ўсё выкрасіў, а ён, каб яму ногі паламала, падмануў. Прапіў грошы, от наказанне бог паслаў, от наказанне, от-то-то-то.

Даша, я і цётка Зося пайшлі да магілы маёй маці. Пастаялі моўчкі. Я не рызыкнуў папытаць у цёткі Зосі пра сшыткі, падумаў: будзе яшчэ час. Зося падхапіла пад руку маю жонку, і яны пайшлі ўперад, пакінуўшы на дарозе мяне ў Воўка-пустэльніка. Ісці недалёка, на памінкі раней як праз гадзіну не сядуць. Ды і хацелася пабыць з дзедам. Так даўно не бачыліся.

— Гэто ж колькі бабе було?

— Восемдзесят два.

— Раньш людзі жылі даўжэй. Менш ведалі за цяперашніх, але многае ўмелі. Цяпера мае кашы, граблі, барану ніхто не купляе. Ці мо нешта прыдумалі замест хлеба і бульбы? Не хочуць на зямлі рабіць. Дурнее чалавек, ад працы адвыкае. От, як думаеш, хто ён на зямлі: гаспадар ці госць?

— Гаспадар, — упэўнена адказаў я.

Воўк маўчаў, бы чакаючы іншы адказ.

— Не. Я перадумаў. Канечне, госць.

— Не вер тым, хто гаворыць, шчо гаспадар. Не вер тым, хто думае, шчо госць. Правільней адно: гаспадарлівы госць. Цяпер у газетах пішуць, што дзеці сваіх бацькоў пісем не пішуць, не жывуць разам. Глупства ўсё. Разам жыць шкодна. У квартал напішы мне, шчо жывы-здаровы, і хопіць. Шчо мне з сынам жыць, урэд. Я не пераджыву тое, што яны робяць, яны не сцерпяць тое, шчо я цярплю. Мой век — вазы, кашы, кірмашы, граблі, целявізеры, трактары. Мне добра і лёгка з людзьмі майго веку. Толькі не параўноўвай і не супрацьстаўляй адно другому, не свары бацькоў і дзяцей. От я маю сілы крупніку зварыць, рыбіну пасмажыць, і дзякуй богу. Прыбягуць унукі — красоцце. А коб увесь час булы пры мне — не вытрымаў бы. На святы да адной нявесткі пайду, да другой, дык мне рады, не ведаюць, куды пасадзіць, а коб жыў з імі ў адной хаце — мука. Баба Насця цярпела. Дажывала. Шчэ дзякуй богу, шчо сэрца ў Полі добрае ды трымала свякроў — чужога чалавека. Пераводзяцца такія людзі. Гарадку капцы. Не вярнуць яму былой славы, паміраюць патроху старыя майстры. Ужо і печ, як Кот памёр, ніхто так скласці не ўмее. Пачуй, памятаеш, я цябе прасіў у газеце прапячатаць просьбу маю. Як?

— Пісаў. У вялікія газеты пісаў.

— І шчо?

— Разумеюць, але ж, дзядзька Воўк, што рабіць. Людзей на бацькаўшчыне многа, карміць трэба гарады вялікія ды і вёску, а зямелька мала дае. У хіміі адно ратаванне.

— А шчо, раньш менш людзей жыло? Загубяць зямлю. Вось яшчо шчо... просьба і така. Бачыў я па целявізары ў сына... ето гарыць Вечны агонь на могілках герояў і ля помнікаў. Гэта ж таксама нельга рабіць. Шкода нам з гэтага. От, шчо скажу. Лесу не будзе, газу не стане, пагібнуць людзі. Цяпер, калі ёсць газ, трэба ўсім кінуцца лес садзіць, пакуль ён вырасце. А пра газ ля помнікаў напішы.

— Не, дзядзька Воўк, гэта ж святыя мясціны, памяць народа.

— Я не супраць, Адась. Нічога ў прыродзе вечнага не бувае. Як можа быць вечным агонь? Няхай вечным будзе святое месца, агонь запальвай за тры дні да свята, няхай пагарыць, пакланяцца яму, успомняць герояў бацькаўшчыны, і патушы. Месца ж застаецца. Прыйдзе нанова Дзевятага мая ці Акцябрскія, запальвай зноў. А якая людзям цікавасць, калі ён гарыць увесь час? Прывыкае вока, сэрца. Да звыклага і павагі менш. От шчо прапішы. Ну, добра, як сам мацуешся?

— Жанаты. Сынок падрастае.

— Ого, няхай бог пашле здароўя. Гэта па-людску.

Мы прыпыніліся.

— Я на памінкі не пайду. Ты мяне, Адась, не ўгаворвай. Баба твая мне даруе. Не прасі, не пайду. Будзеш мець вольную хвіліну, забягай. Воўк-старэча будзе табе рады. Ну, бывай жывы-здаровы, — ён падаў мне руку. Поціск быў яшчэ моцнага чалавека.

У хаце пахла знаёмым: варанымі грыбамі, смажанай рыбай, воскам і мёдам. На памінках я падняўся і сказаў некалькі слоў пра нашу бабу. Трэба было нешта сказаць і пра бога: сядзелі старыя, веруючыя ўсё людзі.

— І калі ёсць бессмяротнасць душы на зямлі, калі тэто праўда, то прашу бога, каб аддаў ён душу маёй бабы майму сыночку Янку. Род наш, мо няхай сабе і невязучы, але ганьбы ад людзей не мае, — я зноў заплакаў, не вытрымаў.

— Адасік, плакаць ужо не трэба. Бог даў, бог узяў. Гэто доля така, — казала мне баба Лісавета.

Паехалі мы з жонкай раненька. Маю Дашу так напалохала смерць бабы Насці, пахаванне, плач старых, што яна вырашыла ехаць неадкладна. Толькі ў аўтобусе я ўспомніў, што мы так і не пагаварылі з цёткай Зосяй. Супакойвала тое, што яна прыехала ў Давыд-Гарадок назаўсёды. Пры першай жа магчымасці я выберуся туды, а не, дык улетку паедзем усёй сям'ёй. Цётка Поля так і сказала: «Прыязджай, Адась, усёй сям'ёй. У хаце месца хопіць». Што ж, не трэба адкладваць. Зімою, на каляды, можна будзе і падскочыць. Забываць пачынаю, як бегаюць каляднікі з бубнам ды гармонікам.

Усё. Апошні астравок, які звязваў мяне з Давыд-Гарадком, знік. Няма да каго сюды ехаць. І навошта лішні раз трывожыць душу цяжкімі ўспамінамі? Прэч усё. Забыць. Перакрэсліць у сэрцы. Але ж і я — нікчэмны падонак. Вось-вось. Лепшае слова — падонак. Ці ж я не меў вольнага часу, грошай на маленькі падарунак? Я ж не даваў бабе сваёй нічога, не перадаў ніколі масла, цукерак, пячэння, каўбасы. Жах, але гэта была праўда. Збоку нават падабалася глядзець на сябе, сірату, пакрыўджанага лёсам, адзінокага... А яна ж чакала! Я пісьмо пісаў у тры месяцы адно. Ды навошта шукаць апраўданне цяпер... Падонак. Не змыць мне гэтай плямы ўсё жыццё, не змыць.

Навошта цешыць сябе надуманымі планамі. Куды ехаць, да каго? Калі даражэйшы і раднейшы чалавек памёр. Наіўны, павярхоўны дзівак, я спадзяваўся, што яна будзе жыць сто гадоў, вечна — і чакаць. Не трэба шукаць апраўдання сваёй безадказнасці.

Моцна запала і не выходзіла з галавы пахаванне бабы Насці. Бывала, схаваюся на кухню, як быццам пісаць новае апавяданне, а сам пачну ўспамінаць бабіны апошнія гады, і пабяжыць гарачая слязінка. І добра мне ў хаце, і жонка кахае, і дзіцятка здаровае, і з цешчай ладзім, а ўсё мінулае не забываецца. Загарэўся я думкай напісаць ліст цётцы Зосі, няхай неадкладна дашле мне сшыткі маці. Мо яна там піша і пра сваіх дзеда, бабу? Даша адгаварыла: «А калі пошта згубіць бандэроль? Што гэта зменіць? Калі б у іх было нешта вельмі істотнае для цябе, няўжо яна б сама не даслала? Паедзем гасціць, забярэш». Я і сам падумаў: «Пакуль я жывы, яе жыццё ўва мне бясконцае. Даведаюся я рэшту прычын, якія давялі яе да самагубства, ці не даведаюся, мо і прычыны такія ж бясконцыя, як і жыццё,

усё адно мае адносіны да маці не зменяцца. Ды што я, як малое дзіця, яй-богу. Не тысяча кіламетраў. Глупствам было б не наведацца туды няхай нават і адзін раз».

«Дажывём да лета, тады і паедзем», — прапанавала Даша.

Неспагадлівы дырэктар нашага Дома творчасці першым прывёз са сталіцы вестку, што там у кнігарні бачыў маю кніжку апавяданняў, але, на жаль, у яго скончыліся грошы і ён не змог купіць, палічыў, што і ў Брэсце возьме. Ён сказаў мне гэта з такой непадробленай шчырасцю, што я шпарка пабег у магазін. На маё ўсхваляванае пытанне прадаўшчыцы толькі паціснулі плячыма. Як прывід, выпаўз я з магазіна на вуліцу, з абурэннем успамінаючы свайго кіраўніка. Тым часам выпаў дзень, і я скарыстаў яго скрытны падман на сваю карысць. Наша абласная пісьменніцкая арганізацыя накіравала, а рэспубліканская зацвердзіла мяне на семінар маладых аўтараў аж пад Мінск, у Дом творчасці пісьменнікаў імя Якуба Коласа. Дырэктар змушаны быў даць згоду на мой удзел, часова даручыўшы складанне буклета па народным ансамблі танца другому супрацоўніку.

Дачка Полі выходзіла замуж, і нам даслалі запрашэнне, пра якое я даведаўся, на жаль, з запазненнем. Відаць, яны там, у гарадку, вагаліся, паедзем мы ці не? Паштальён прынёс запрашэнне ў чацвер, а вяселле прызначана было на суботу. Тэлефон у лясным доміку творчасці працаваў дрэнна, і Даша не змагла дазваніцца ў чацвер; калі ж дазванілася, мяне не знайшлі, я пакінуў семінар на дзень раней: паехаў у Мінск да Ванькі Гасцюшкіна. Напярэдадні я выпадкова сустрэў на вакзале яго сястру, ад якой даведаўся, што Ванька цяпер жыве ў сталіцы. Было надта цікава сустрэцца з ім, і я мусіў уцячы з семінара.

— А я хацеў да цябе ў Каралішчавічы ехаць. Думаю, няўжо, гад, не заедзе?

— Ах ты, жэўжык, я ж абяцаў сястры, што абавязкова заеду. А ты замест абдымкаў дакорам мяне сустракаеш.

— Даруй. Цяпер пачынаю ўжо сумнявацца і ў абяцаннях лепшых сяброў. Хадзем у магазін.

Ад сястры я ведаў, што Ванька больш з жонкаю ў

Гродне не жыве, карцела даведацца, што там у яго ды як усё.

— Ну, хваліся, брат мой Ванька, «своим умом до сотворенья мира дошел», як вучыў Антон Паўлавіч?

Гасцюшкін, як заўсёды, непасрэдна і даверліва ўсміхнуўся:

— Як ты ведаеш, з'ехаў я. Няма чым хваліцца. Абранніцы маёй першы кавалер вярнуўся. Мо прачуў, што мы кватэру атрымалі, а мо сапраўды першая любоў жывучая.

— A on revient tayóurs á son premier amour, — прыпыніў я яго.

— Што гэта азначае?

— Да першага кахання заўсёды вяртаюцца.

— А ё... Ты ўвесь абклаўся цытатамі, аж мне, лапцю, сорам побач ісці.

— Да слова... Я слухаю.

— Адным словам, яна з ім сышлася. Тут біцца не будзеш. А хлопчык маленькі, добры, я да яго нават прывык, ды, думаю, нічога путнага з такой жыткі не будзе. Прыехаў сюды.

— І дзе ж уладкаваўся?

— Раблю інструктарам па фізічнай культуры ў таварыстве «Лакаматыў». Часта бываю ў камандзіроўках. Маці хату нашу ў Давыд-Гарадку прадала, купілі мы сабе хаціну ў Койданаве.

— Ты кожны дзень з Койданава на работу прыязджаеш? Гэта ж паўтары гадзіны туды ды столькі назад.

— А бог мой, падабалася б работа. А як дабіраюцца з аднаго канца горада ў другі? Я люблю рана ўставаць, бегаю. Бегай і ты, гэта добра для здароўя.

— Спрабаваў. Сто метраў прабягу і сапу, як паравоз.

— Уцягнешся. Э — не. Ты свае грошы схавай. Мой госць. Я частую.

Мы павярнулі назад. Пакойчык у Ванькі быў малюсенькі, без акна нават. Закутак, як кажуць, цешчын прытулак.

— У-у, — здзівіўся я. — Баракамера.

— Точна. І турма і баракамера адначасова. Я тут часова, пакуль там рамантуем. А ўсё ж асобны пакойчык.

— Ты ж у Гродне атрымаў кватэру, мог бы абмяняць.

— Ай, кінь дурное. Заводзіцца з гэтымі судамі. Колькі таго жыцця. Лічы, не пашанцавала... Жыць будзем.

Мы ўсміхнуліся, выпілі.

— О, успомніў, — ён прынёс кавалак сала, — падарунак радзімы. Гарадзецкае. Часта мне стадыён наш сніцца, мост, калі ў ваду скакалі з парэнчаў. Гарынь. Ну, як ты, як мара?

— Змагаюся, Ваня. Жонку маю, сына. Жыву з цешчай. Не соладка. Адно добра, працуе праваднiцай, часта адсутнічае. Пішу, стары, зрэдку, але пішу. На семінар маладых накіравалі.

— Ідзеш угару. Спартыўная ў цябе сіла волі. Я б даўно кінуў.

— Спрабаваў. Нейкі чорт сядзіць усярэдзіне, і ўсё. Столькі разумнага напісана... Не, усё адно цягне. Слухай, вось ты спартсмен, далёкі ад літаратуры чалавек, кажу груба, у сэнсе — што шукаць блох не будзеш. Давай я табе прачытаю адно сваё апавяданне.

— Давай. Ноч доўгая.

Я з хваляваннем, як перад вярхоўным суддзёй, пачаў чытаць. Апавяданне было пра тое, як у вялікім горадзе адзін чалавек знайшоў двух сваіх аднакласнікаў і запрасіў іх да сябе на дзень нараджэння. Аднакласнікі (яны не чакалі запрашэння, не сябравалі з гэтым чалавекам) разгубіліся, не ведаючы, што ім рабіць. Падазраючы ў гэтым запрашэнні ўмыснасць, карыслівасць, ніяк не хочучы верыць, што Пятро кліча іх на вечар шчыра, па-сяброўску, яго аднакласнікі, каб усё было ціха, каб не быць абавязаным нічым Пятру, адмаўляюцца ад запрашэння.

Слухаючы, Ванька некалькі разоў уголас зарагатаў. Гэта яшчэ больш мяне натхніла, і канцоўку апавядання я прачытаў з вялікім уздымам.

— Мне падабаецца.

— Чэсна?

— Чэсна. Смешна. Хіба што...

— Што?

— Так проста. Падумаў. Чаму ўсе яны, з жонкамі нават, так заўпарціліся. Неяк нежыццёва. Апавяданне добрае. Проста я так, на сябе гледзячы, прыкідваю. Ты не бяры да галавы. Ну, як бы там мы ні жылі, з кім бы ні сварыліся, хто б якіх вышынь ні дасягаў, а клікні ў госці праз дзесяць год... асабіста я дык на самалёце, пешкі пяць кіламетраў пабягу. Хоць бы цяпер і Шакін

запрасіў нас, ці ты не пайшоў бы, ці ж нецікава сустрэцца? Толькі ты не бяры да галавы. Я па-свойску, як у жыцці бывае. Я тут, у сваім закутку, апошнім часам шмат сучаснай літаратуры чытаю. Ды ўсё нейкія людзі ў творах не нашыя. Характары ў іх нейкія чужыя. Прыдуманае ўсё. Ёсць нейкі ж генны код, традыцыі, запавет бацькоў і дзядоў, няпісаныя законы бацькаўшчыны, характэрныя толькі, скажам, рускім, беларусам. Грузіны мне падабаюцца. Яны свой народ не апашляюць. Нічога не стаіць на месцы, я разумею, усё зменьваецца... Але ж ёсць нешта нязменнае.

— Што, па-твойму? — ухапіўся я за яго сумненні і ўпэўненасць.

— Не ведаю. Мо любоў да зямлі.

— Сумленне?

— І гэта.

— Абавязак?

— Чорт яго ведае. Мо не такія гучна-магутныя словы, але ж нешта павінна быць, каб я, прачытаўшы, сказаў: гэта адпавядае не толькі часу, але і праўдзе характару нашага чалавека, характару, які складваўся не адно стагоддзе.

— Адкуль у цябе такія важкія думкі, спартсмен? — здзівіўся я.

— Ты думаеш, спартсмены дэгенераты? Гэта ж нам яшчэ настаўніца па рускай мове і літаратуры Людміла Мікалаеўна не раз паўтарала. Ты забыў?

— Відаць, галава іншым была тады занята. Мо ўцёк з урока, о, мог быць у санаторыі...

— Толькі ты не бяры да галавы, як кажа мой шэф, усё перамелецца, мука будзе. Пішы. Я так зроду не прыдумаў бы. Рука майстра.

— Ага. Леанарда да Вінчы.

— Не, ёлкі-палкі. Добра напісаў.

— Давай, Бялінскі, шахнем ды пра іншае пагаворым.

Мы з'елі ўсё сала. У хаце ўжо ўсе даўно паснулі. Ванька кінуў мне на падлогу надзімны матрац, прасціну, падушку, тонкую коўдру.

— Ну, а як там Толік Бабёр? — папытаўся ў цемры Ванька.

— Уцякае ад дзевак. Кожнай абяцае жаніцца, а потым і хаваецца ў Давыд-Гарадку. Шэльма.

— Не, ён незлаблівы. Не хоча жаніцца, і правільна робіць. А Цялегіну не страчаў?

— На жаль, не. Было б цікава.

— Казала мне дачка Глеба Іванавіча, што Цялегіна працуе бібліятэкарам. А ты яе яшчэ кахаеш? Кажуць, гэта на ўсё жыццё?

— Не ведаю. Відаць, не. Я шкадаваў сваю Дашу, нават, калі чэсна, больш шкадаваў, чым кахаў, да таго часу, пакуль не нарадзіла сына... І ўсё, ведаеш, стала на сваё месца. Проста дзіва, я нават папракнуў сябе, як я мог яе раньш моцна не кахаць. Цялегіну зрэдку ўспамінаю, цьмяным пачуццём.

— Давай спаць. Віно цягне да сну, халера.

— Давай.

Праз мінут дзесяць я пабудзіў Ваньку:

— Ванька, прачніся. Даруй. Не магу заснуць тут.

— А шчо здарылася?

— Нічога. Без акна не магу. Шыз, і ўсё. Не магу, калі не бачу край неба, фортку, месяц. Мне страшна, як у яме. Яй-бо.

— Клаўстрафобія?

— Шчо? — не зразумеў я.

— Боязнь замкнутай прасторы.

— Чорт яго ведае.

— Перабірайся на канапу. Бяры коўдру і падушку.

Раніцай, паснедаўшы, мы пабеглі да аўтобуса. Даехалі разам да вакзала. Ванька дапамог мне ўзяць без чаргі білет да Брэста, пасадзіў у цягнік.

Пад'язджалі да Баранавіч. З акна вагона я ўгледзеў трохі згорбленага чалавека, які мне чымсьці нагадваў бацьку. Мне нават захацелася яго аклікнуць. Я падаўся ў тамбур, скочыў на перон. Чалавек той азірнуўся, і я ўбачыў, што памыліўся. Я прайшоўся па бязлюдным пероне. А мо гэта і добра, што не ён. Пра што нам гаварыць у гэтыя тры-пяць мінут — павітацца, два словы пра работу? Да сябе ён не запрасіў бы. Калі хацеў бы, мог напісаць і раней. Цяпер я дарослы, у мяне свая сям'я... Адзіноцтва маё і неўладкаванасць у мінулым. Калі ён раней мала што рабіў, каб стаць радней і бліжэй... дык цяпер, з цягам часу, рэшткі пачуццяў агрубелі. Мо так закладзена самой прыродай, што, не выхаваўшы дзіця, не аддаўшы яму частку свайго часу, нерваў, здароўя, і не палюбіш, як бы гэтай любові ні дабіваўся.

Але ён існуе рэальна, жыве мой бацька... І я не маю права забываць пра гэта.

Двойчы на дзень бегаў я да кніжнай лаўкі, пытаўся, ці паступіла ў продаж кніжка маіх апавяданняў. «Не!» — адказвалі прадаўшчыцы. Наступным днём я званіў па тэлефоне (саромеўся ісці). «Яшчэ не», — адказвалі яны абыякавым тонам. Я прасіў жонку, каб пазваніла яна. «Не, звваніце праз тыдзень!» Лёгка сказаць. Як пражыць гэты тыдзень? На трэці дзень я зноў сунуўся ў магазін, нічога не пытаючыся, разглядаў «Руководство по домоводству». «Няма вашай яшчэ, няма», — падышла да мяне адна з прадаўшчыц.

Усё, сэрца, здавалася, лопне. А калі знялі, па нейкіх прычынах забаранілі? Цешча прывезла ранкам маю кнігу, якую купіла ў Баранавічах. Ды што ж гэта такое? Чаму яе няма ў вобласці? Мне хацелася пайсці і ўзарваць кнігарню. Не пайду больш туды, няхай гарыць гарам.

— Хопіць камплексаваць. Выйшла, і радуйся, — супакойвала мяне жонка.

— Ідзі ты правер, а, — прасіў я.

Яна пайшла і прынесла дзесятак танюсенькіх кніжачак.

— Не пасылай мяне. Было сорамна столькі купляць. На, салі. Дай хоць пацалую цябе ад усёй душы, — сказала мне жонка.

Праз тыдзень я ўсё ж наведаўся ў магазін. Кіпа маіх кніжак не меншала, засталася яна без змен і праз месяц. Пазваніў Гасцюшкін, павіншаваў. Прыслаў ліст мой сябар, метадыст са Століна, таксама павіншаваў... і ўсё. Мне жадалася большага. Думалася, увесь горад уздрыгне, ахне разам і ўпадзе да маіх ног. «Талент! Наш Доля ідзе, паглядзіце!»

— Любы мой, не адчайвайся — гэта работа, такая ж звычайная работа. Нічога ў свеце не адбылося. Радасць дня, тыдня мінула, і дзякуй ёй, навошта яе штучна расцягваць на месяц, год. Трэба працаваць, родненькі мой, а ты апусціў рукі. Не раскупілі тваю кніжку за тыдзень, за месяц. Падумаеш, праблема. Не аднаго цябе не купляюць. Паглядзі, паліцы трашчаць. Класіку яшчэ той-сёй купіць, дэтэктыў возьмуць.

— Усё. Не ўгаворвай. Кіну крэмзаць паперу, — гарачыўся я.

— Не кінеш, не супакойвай сябе.

— Кіну.

— Як табе лепш. Можна быць і неблагім журналістам.

— Не магу.

— Тады ідзі загадчыкам літаратурнай часткі ў тэатр. Звальняюць там спекулянта.

— Не пайду. Калі буду ў іх служыць, ніколі п'есу не паставяць, а так яшчэ ёсць надзея.

— Тады што ты хочаш ад мяне?

— Нічога. Абсалютна нічога.

— Тады хоць начамі спі. Сілы волі няма, ці што? Проба пяра зроблена, віват, а далей усё залежыць ад цябе... Толькі ад цябе самога.

— Уся трагедыя ў тым, што я не бачу гэтага будучага.

— Ну, ведаеш, мы зноў вяртаемся да пачатку. Я хачу спаць, мне ў восем трэба быць у бальніцы.

— Спі. Я пасяджу на кухні адзін. Кавы пап'ю.

З цяжкасцю я зміры́ўся з тым, што мае кніжкі пара́нейшаму ляжалі на ніжняй паліцы кнігарні. На верхняй занялі месца новыя. Мо сапраўды кніжка не гародніна, няхай паляжыць год-два. Не хадзіць жа па горадзе, не рэкламаваць яе. Я так быў расчараваны абыякавасцю чытачоў да свайго першынца, што даў слова нікому не падпісваць і нікому не дасылаць яе.

«Мама... мая родная мама... табе я даслаў бы, прывёз бы яе, чысценькую, новенькую... Навошта, навошта ты пайшла так рана? Не ведаю, што рабіць, а ты падтрымала б».

Усё менш і менш мяне цягнула да пісьмовага стала. Адзін сын і быў радасцю. Аднойчы ён папрасіў мяне (як гэта прыемна — гаварыць з сынам на сур'ёзныя, жыццёвыя тэмы):

— А калі ты, папо (па-гарадзецку так навучыўся, «папо»), паедзеш у свой гарадок?

— А што?

— І я хачу. Вазьмі мяне. Давай паедзем, давай, папо.

Сэрца маё так і зайшлося ад салодкага болю ўспамінаў. Я падхапіў яго на рукі, прыціснуў да сябе:

— Улетку. Прыйдзе цяпло, паедзем. Бажуся.

— І мама?

— І мамка. Ты, я і маці. Абяцаю, сыночак.

Нечакана, як снег улетку, мне прыслалі з міністэр-

ства культуры перавод на дзвесце рублёў. За што? Нарэшце праяснілася. Гэта была заахвочвальная прэмія, якую прысудзілі мне за аднаактовую п'есу. Я і забыўся, што год таму назад даслаў ім свой опус на конкурс пра калгасніцу Мітрафанаўну, якая пусціла ў сваю вялікую хату мясцовых баптыстаў, аддала ім пакой пад малельню, каб такім чынам сустракацца часцей з веруючымі, праводзіць сваю лінію і рабіць з іх атэістаў.

Ах ты, дарожачка дахаты! Немагчыма апісаць усю бездань пачуццяў, што раптам ахопліваюць тваё сэрца. І няхай там нікога з блізкіх не засталося, і хаты даўно няма, і груша салодкая спілавана, а на пляцы цвіце чужая бульба, няхай адтуль разляцеліся твае сябры-аднагодкі, павыходзілі даўно замуж суседскія дзяўчаты, няхай ты сюды не наведваўся «тысячу гадоў» па сваёй волі, пра ўсё гэта не хочацца і думаць, і ты не думаеш, бо шчымліва ные радасцю сэрца з кожным новым кіламетрам. Адно просіцца: хутчэй, хутчэй.

За Столінам, праязджаючы самую доўгую вуліцу вёскі Белавуша, ненадоўга супакойваешся: «Здаецца, даехаў». Мінулі калгасны двор вёскі Беражное, за ім адразу жытнёвыя палі цягнуцца аж да вузенькай рачулкі Ветліца, яна сіратліва бяжыць па полі ды лузе. Лесу наўкола няма. З аднаго боку ўлада Гарыні, зялёныя сенажаці і іх нязменныя вартаўнікі буслы, з другога — улада жытнёвых палёў. Малюсенькую вёсачку Угалец не паспяваеш і разгледзець — куляй, здаецца, нясе цябе аўтобус па брукаванцы; затое харомскія гусі не дадуць табе так ляцець, загародзяць смела шлях, чакай, слухайся шыпучага гусака, пакуль ягоная сям'я важна прашлёпае да ракі. Ад Харомска да садоў Лісовіч рукой падаць. Тут уздыхнеш, заплюшчыш вочы: «Вось і дома». Першыя няцвёрдыя крокі па пыльнай зямельцы. Адно магутнае пачуццё забірае тут сэрца — любоў да ўсяго, што бачаць вочы, чуе вуха, кранае рука. Тады і пакрыўджаная ўсімі крапіўка ля плота мілей табе робіцца за сотні руж батанічнага саду. Хочацца прыпыняцца ля кожнага чалавека, доўга цісну́ць руку. Ён цябе з цяжкасцю прыпамінае, а ўспомніць — усміхнецца так, ускіне ўгару адну руку, быццам вінаваты, што адразу не пазнаў. Ты ідзеш паспешліва ля хат: ці яны прыселі ад часу, ці гэта ты так падрос. Жоўтыя

дзікія гваздзікі кладуцца ніцма ля тваіх ног, а там за кожным нізенькім плотам мора фарбаў, зеляніны, грады красак. Цябе паступова ахутвае дзівосны пах гарошку і мацыёлы, настурцыі і флёксаў, прыгажуна турэцкага бобу. Маленькім, сціплым анюціным вочкам, якія аніяк не могуць адмыцца ад дарожнага пылу, бархоткам, астрам і гваздзікам цяжка спрачацца сваім пахам, яны бяруць тваю ўвагу сваёй непаўторнай прыгажосцю. Быццам пасаджаныя на бусліныя ногі, стаяць, не зварухнуцца цыніі, ля іх хіба можа расці і быць прыкмечаным адзін махровы мак. Празрыстыя сцяблінкі бальзаміну любяць сонца, іх можаш і прамінуць, бо твая ўвага скіравана на высокія каралеўскія жоўта-белыя лілеі. Мальва не такая прыгожая, як вяргіні, не такая пахучая, як мацыёла і ружа, але ж ці пад сілу каму вымахаць без тычкі на двухметровую вышыню. Так і ўзвышаецца над усімі, як прынцэса.

Гэты разнастайны натуральны дыван з жывых кветак прымушае цябе прыпыняцца амаль ля кожнага плота, а цудадзейны пах поўніць і поўніць твае грудзі. Тут не рвуць кветкі, не ставяць іх чэзнуць у вазы. Такой «ільготай» карыстаюцца хіба адны гладыёлусы ды цюльпаны. Старыя людзі любяць казаць так: «Прырода не даруе, калі нават вырвеш на лузе люцік». За адным плотам навінка, рэдкія кветкі — жамчужная трава, а па-простаму «сонейка». Падобны яны вельмі на маргарыткі і рамонкі, а ўсё ж у параўнанні з усімі, нават з гваздзікай Шабо, найпрыгажэйшыя. Насенне ад іх самае дробнае, драбней за коўрыкі. Няспынна наперабой цвыркочуць у кожным гародзе конікі. Лезуць праз штыкетны плот на вуліцу парэчкі-лісічкі, чорныя парэчкі, кітайская маліна, гуркі, шыпшына. Усё дагледжана, чыста. Ля парога калодзеж, бочка з вадой, шлангі, бы чорныя вужы, расцягнуты на вузкіх сцежках двара. Сохне на дроце марля, на калку-суку глечыкі, слоікі. Вось-вось пацягнуцца з далёкай пашы, яшчэ добры кіламетр за хату Воўка-пустэльніка, дахаты кароўкі. Цяпер іх паменшала: пяцьсот, семсот, раней даходзіла да дзвюх тысяч. Няма дзе касіць — калгасу багата пашы трэба, няма сіл дагледзець. Ткач першы выйдзе на край гарадка сустрэць сваю самую разумную, самую дойную, самую спакойную кароўку. Вось і знаёмая вуліца. Цётка Поля пазнала нас здаля, кінулася напачатку ў двор (каб папярэдзіць дачку), а потым да нас, расцалавала

ўсіх, усплакнула. Не паспелі мы асвоіцца, як сына майго павялі да хлява, паказаць кароўку. Цётка Поля адразу папярэджвае мяне: «Шкадую кароўку. Спіць, бедная, на адных дошках. Няма шчо падаслаць. Мала сёлета яшчэ накасіла». Тут табе на стол і свежае малако цётка нясе, гэта яна даіла кароўку. Цётка рада, усміхаецца.

— А як бы чула, знарок булак з чарніцамі напякла. То піце цёпленькае. Не крыўдуй, Адась, цукру, як заўсёды, няма на стале. От прывыкла шкадаваць яго. Ад тых часоў, калі за кілё сто рублёў давалі. Сквапная я, га?

— Нічога, — супакойваю я, — цукру многа не дазваляе есці медыцына.

З цёткай яшчэ паспею нагаварыцца — вечар доўгі. Нясцерпна хочацца сесці на ровар і паехаць туды, на сваю Аселіцу, на сваю вуліцу.

Я так і зрабіў, сказаў Дашы, што толькі выскачу на балота, гляну на Сежку, а сам выруліў да былога касцёла. Нейкая сіла не пускае мяне туды, на сваю вуліцу... Я вяртаюся да клуба, гутару з новымі, незнаёмымі мне работнікамі, а самому ўсё карціць... хутчэй туды, да старога калодзежа!

Нарэшце не вытрымліваю, еду на Закасцельную, і адразу сляза выступае на вачах... Цісну на педалі, каб хутчэй праляцець праз вуліцу, каб, не дай бог, хто не заўважыў маю шчаслівую слязу — знак запозненага вяртання. Не, на сёння ўсё. Хопіць. Да знаёмых не падыду, заплачу, адчуваю, як дзіця. Цямнее. Усё. Трэба вяртацца да цёткі Полі.

Жонка крыху пакрывілася: «Не паспелі ўлезці ў хату — і так надоўга пакінуў нас адных». Вячэра на стале. Смачная бульба са шкваркамі, малачко, булка з чарніцамі, салаты з гуркоў і памідораў, яечня. А як прыемна, што сын намінае ўсё, як дарослы, бы тут і рос. А ў гарадской кватэры немагчыма было сілай упхнуць шклянку кефіру.

Нагрэлі вады, памылі ногі і — у пасцель. Але спаць не хочацца. Мы праз сцяну абменьваемся з Поляй навінамі: хто памёр, хто ажаніўся, хто прадаў старую хату і з'ехаў з мястэчка, калі прывозяць у магазін малако і смятану, пачым кіло мяса, што выносяць людзі на базар зранку.

Даша не вытрымлівае і ўмешваецца ў нашу гаворку, кажа так, каб чула і Поля:

— От прычапіўся. Дай чалавеку паспаць. Заўтра наговорышся.

— Ой, Дашачка, я позна засынаю. Пакуль сын з клуба не прыйдзе, не сплю.

Зноў я сыплю пытанні, мне шлюць адказы, разважанні і каментарыі асобных падзей. Як прыйшло рэлігійнае свята Казанскай богамацеры, якія яблыкі парша есць, хто патануў, не пры нас кажучы, за лета.

Памалу пах кветак, ліпы закалыхвае мяне, і толькі праз сон як быццам чуеш, як Поля сварыцца на сына:

— Не тупай, халера ты, валацуга аказнны. Адась з жонкай прыехаў. Дай людзям паспаць. Калі ўжо ты ажэнішся, няшчасце ты маё горкае, калі ўжо ты дасі мне спакой, валацуга ты бесталковы. Так і бацька твой, Міхалко, цягаўся. Рана ў магілу пайшоў, от, вечны пакой яго душаньцы. Малака папі, чуеш, а то ўжо і папруга штаны не трымае, хоць ты матузком падпяразвай ці прышывай да кожы.

— Не хочу, — чуецца сонны голас з веранды.

Ноч кароценькая. Як Поля выганяла кароўку на пашу, ніхто з нас не чуў. Пабудзіў сусед, які робіць у калгасе і часта машыну ставіць на ноч пад вокнамі хаты. Адсюль бліжэй ехаць да тарфянікаў — «эканомія бензіну». Газуе на ўсю вуліцу. Цёткі Полі ў хаце няма. Пабегла на поле, як яна кажа, навесці парадак з бульбай, каб паспець да спякоты (тут трыццаць градусаў не рэдкасць). У мінулым годзе здала дванаццаць мяшкоў бульбы дзяржаве, сабе кінула, нам у Брэста мех пераслала, яшчэ і людзям прадала. Снедаць не хочацца. Звечара ж наеліся, а не парабіўшы, дык і не снедаецца.

Я завёў жонку да Глеба Іванавіча, пазнаёміў з іх дачкою. Няхай пасябруюць ды разам да Гарыні, якіх-небудзь метраў сто, а сам саджу сына на багажнік і туды, на сваю вуліцу. Страчае мяне першай Мамэліха.

— Адасік, дзякуй богу. Гэта ж учора Ткач кажа, як быццам Адась прыехаў. Ты ж мне ноччу прысніўся. Думаю, божачка, хоць бы ўбачыцца. Твой сыночак? Хадзем у садзік, я табе папяровак назбіраю.

Тут бяжыць жонка Клубышка і забірае нас, амаль сілком цягне да сябе. Знаёмы двор. Той самы абрыкос. Дошак у дварах няма. Пад страхою вісіць гэблік. Шалёўку Клубышко даўно не робіць. Восемдзесят гадкоў, дзякуй богу. Сілы не хапае. Няма каму заказваць. Апырыравалі дзеда.

— Годы, Адась, годы. Рукі яшчэ свярбяць, магу... а сілы ў нагах няма. Рабіў бы сталёўку, каб сілы былі.

Жонка Клубышка, якую ведаеш, здаецца, сто гадоў, ад самай першай зімы, калі яна ў кажушку, першай з вуліцы, дзяўбала пешняй лёд, якім аброс наш калодзеж, пачынае апавядаць пра хроснага і Кулькіна:

— Гэто ж, Адась, мода ў нас пайшла: целявізар і целяфон. Хросны твой правёў целяфон. Шчо зрабіў Кулькін? Прамчала па Альшанскім шляху машына, мо па ваду на Сежку ці якую халеру прыдумалі, адным словам, раве на ўвесь гарадок, аж галава лопаецца. Кулькін звоніць па целяфоне твайму хроснаму, маўляў, не спі, лежань, на Каморы, кажа, хата дачкі Лісаветы гарыць. Схапіў твой хросны нейкі шланг і ў трусах ды майцы адной паляцеў, шчо той віхор, на Камору. Прыбег. А пажару нідзе няма. У людзей путаецца: «А ці гарэла туту шчо?» Прыбег на Аселіцу злы, рыхтык Кошман у маладыя гады. Ледзь не пабіўся з Кулькіным. Газ у сваёй хаце забыўся выключыць. Коб яшчэ нека мінута, дык у самога хата згарэла б. От канцэрт буў.

Мы ўсе разам усміхаемся.

Я ведаю, што гародам сядзіба Клубышка выходзіць да падворка цёткі Зосі. Хочацца хутчэй туды, але ж жонка сталяра частуе аладкамі, кампотам. Трэба пасядзець.

— А я, Адась, вуджу рыбку, — хваліцца жонка Клубышка, — страх як люблю. Семдзесят гадкоў і мне, скажуць, здурнела баба на рыбе. Мой, — яна паказала на чалавека, — ужо нічога не варты. От каля хаты тупае, і дзякуй богу. Ніхто паміраць не хоча. Дачушка наша цябе часта ўспамінае, як ты ў яе на вяселлі танцаваў. У Пінску яе хворыя паважаюць, пачот сярод людзей мае. Не сядзіцца табе, бачу. Хочацца сустрэцца з людзьмі. Бяжы. Прыходзь да нас... сёння, заўтра. Толькі ў пяць я пайду на раку вудзіць. А паглядзі, што ранкам выхапіла, — і яна, шчаслівая, паказала мне поўную міску лешчыкаў.

Я вяду сына зноў да Мамэліхі, там у яе ўнук, няхай асвойваюцца, сябруюць. Па дарозе паказваю на плот.

— Тут я, сыночак, нарадзіўся.

— Без хаты? — не верыць ён.

Я яго ўзнімаю над плотам, ён глядзіць на бульбу, нічога не разумеючы. Дзе ж хата?

— Была тут хата... Даўно. Ідзі гуляй, сыночак.

Мамэліха глядзіць на нас са слязамі. Плача, што я пастарэў. Я шкадую, што яна пасівела, схуднела. Прыехаў на абед старэйшы сын Мамэліхі. Куды тут пойдзеш? Прыселі да стала. Дасталі самаробнага віна, смажанай рыбы, памідораў. Не паспелі і выпіць, як бяжыць па двары Лісавета.

— Божачка, родненькі мой... Прыехаў, чадачко маё. Як жа ты да нас не зойдзеш? Няхораша так. Сяджу, сяджу я ў двары, чакаю... Учора прыйшла да сваёй Ганны, а ў мяне галава баліць, баліць... Ногі не носяць. Кажу, Ганно, буду паміраць, усім надаела. А яна ж і кажа: Адась у гарадку. Ткач бачыў. Не, кажу, тады не памру. Хочу ўбачыцца! Ой, залаты мой, да хаты старой пацягнула цябе, — баба ў слёзы.

Я абяцаю, што пасяджу мінуту-другую тут і прамком да Лісаветы. Баба верыць і подбегам цюгае ў сваіх стогадовых валёнках на свой двор.

Мая мілая радзіма, край мой родны... Я думаў, што пакінуў цябе назаўсёды, з пачуццём крыўды, а не са светлым пачуццём. Не... не пакінуў я цябе, бацькаўшчына мая далёкая і блізкая.

Па дарозе да бабы Лісаветы страчаю сумнага Ткача. Такім бачу яго ўпершыню.

— От, Адасік, няма праўды на свеце. Жыві для дзяцей, аддавай усяго сябе, а яны... Грош падзякі. Ажаніўся мой старэйшы... пайшоў з бацькоўскай хаты да яе... Узяў не нашу, а з Хорска. Я мо нешта і сказаў, на тое і бацька. Паўгода не гаворым. Куды таке дзела гадзіцца? Апамятаецца, ды позна будзе. А мы для іх нічога не шкадуем. Толькі дзецьмі і жымо. Я, калі фашыста білі, у шынялю Прыпяць пераплыў. Плыву, сілы канчаюцца, думаю... як жа паміраць, калі свайго сына нэ бачыв.

— А дзе ж кузня Герасіма? — пацікавіўся я.

— А няма. Вадой змыла. Даўно Герасім памёр. Ніводнай кузні ў гарадку не засталося. Гэта була апошняя. У яго і Салейка. Ціхо без іх зрабілася, аж часом страшно робіцца. То мо, сынок, зойдзем у хату... па чарачцы. У мяне ж малодшы сын жыве. Не пазнаеш. На заводзе робіць. Заводзік у нас адкрылі.

— Няхай заўтра. Пайду да Лісаветы. Абяцаў.

— Ну, то давай, сынок. А як там, прабіўся ты троху?

— Прабіваюся.

— Рукі няма. Коб падмога була, о гэто дзела. А так

цябе заціснуць. Мо коб руку якую знайсці. Стрэнеш майго сына... нічога не кажы. Самі паладзім. Не ворагі ж.

Ад старой хаты Лісаветы засталася адна назва. Ладная мураванка вабіць вока. Бабка жыве з унучкай. Ветлівая, рухавая, як баба, Тася пасадзіла нас з бабкай у летняй кухні і пачаставала цукеркамі, апельсінамі, падала каву, чай, наліснікі, варэнне, а сама пабегла да універмага: перадалі, што завезлі новыя тавары. «Я толькі адной нагой туды і сюды».

Баба трындычыла на ўвесь голас, што было чутно мо на ганку ў Ткача. Лісавету не трэба было прасіць, яна сама вярнула мяне ў далёкія гады дзяцінства, успамінаючы сваё доўгае і шчаслівае сяброўства з маёй бабай Насцяй і дзедам Цімохам. Небарака аж стамілася ад гаворкі: відаць, яна сваімі ўспамінамі надакучыла ўнучцы... ёй пры мне хацелася выгаварыцца.

— Бабо Лісавето, а ці можаце ўспомніць тры самыя шчаслівыя дні ў вашым жыцці?

— Ой, чаго ж іх успамінаць, Адасечко, я іх ведаю. Шчодня з імі. От шчо було, паслухай. Пасля рэвалюцыі, мо то ў васемнаццатым годзе, вярнуўся мой Іванко з плену ад немцаў. Я яго не ведала тады яшчэ. Чула, Калько, Калько. Голы-голы, худы-худы вярнуўся. Ваяваў за Расею, бараніў нас ад Нямеччыны. Паглядзела я на яго... бы громам прашыла. Палюбіла, шчо сэрца трэсне. Любіш — дык і шкадуеш. Пасваталіся. Тады так було. Твой дзед Цімох чобаты яму даў, дзед Яўхім (от, мае галубчыкі, спяць у зямельцы даўно) пінжак, пайшлі да царквы. О тобе і першы дзень шчаслівы. А другі ўзімку. Доўга дзетак не було: народзіцца ды памрэ. Народзіцца... зноў памрэ. Аж узімку, дзякуй богу, нарадзілася жывенькая. Ганна мая. На Ганны було, узімку. От мая другая радасць була. Я Івана не цыбала, няхай п'юць з тваім дзедам, думаю, цэлы дзень. А трэці... трэці вясною быў. Я на вэсне стаяла. Павезла ў Пінск цыбулю, насенне гуркоў, бурачкоў. Аж прыносяць тэлеграму — о-о... З Іванам маім гора. Думаю, госпадзі, сіла твая, гэто ўжэ памёр, а мне адпісалі, што хворы. Еду дахаты, уся калачуся. Нічога не цямлю. Думаю ж, не пайду нашай вуліцай. Пайду Альшанскім шляхам, з яго напрамкі відно нашу хату. Думаю, будзе святло ў вокнах... памёр, будзе цёмно — жыве. Падыходжу я, паварочваю галаву... цёмно. Ногі мяне дахаты

самі панеслі. От і трэці дзень. Чатыры дні з ім, небарачкам хворым, праседзела. Бульбачкі наварыла, катлетаў насмажыла. Нічога не з'еў. Чайку о папіў. Пытаецца, золата маё: «А ці жыў я, Лісавета?» Жыў, кажу, любы мой, хараша жыў. Ганьбы не пакідаеш. Кажа, я да цябе хацеў падысці ў першы дзень, як з палону прыйшоў, ды ў кальсонах сароме́ўся. Кажу, залаты мой, няхай бу голы прыбег, я б цябе прыняла. От табе і ўсе дзянёчкі. А нашчо ты путаеш мяне?

— Цікава. Я ж жыў дурнем. Не ведаў, хто быў мой прадзед, чым жылі, як, шчо любілі, што баранілі, шчо нам наказвалі.

— Праўда, унучачко, шчо праўда, то праўда. Усяго було. Усё зні́кла. Адно хачу, каб разам з Іванкам маім ляжаць. Мне Салейко Антон, дабрэнны чалавек, кажа: хадзі, Лісавета, да мяне дажываць. Э-не... Унучка не крыўдзіць. Я яшчэ каралева.

Лісавета ціха заплакала. З цяжарам на душы я пакідаў іх двор, абяцаючы яшчэ наведацца. Прыбегла ўнучка, прымусіла яшчэ і з ёю сесці да стала. Зноў напіліся чаю з налі́снікамі. Настрой у яе быў добры. Купіла дачцэ сваёй японскае плацце.

— Мая ўнучка абу-шчо не купіць, але коб за гэту анучу сто дваццаць рублёў. Мой Іван пасадзіў бы мяне за такую трату грошай у пограб і дзень не даў бы вады.

Кулькін мяне не пазнаў. Ён сядзеў нерухома на прызбе, доўга прыглядаўся і не пазнаў.

— Адась? Ты? Цьфу ты, не пазнаў, яй-богу, не пазнаў. Я, брат, ужо калодай сяджу. Усё. Капцы. Дачка, дзякуй богу, у бальніцы на кухні робіць. Замуж выйшла. Лісавета з Салейкам і тыя мяне перажывуць. Ногі мяне не носяць. Чаго гнявіць бога, даў семдзесят гадкоў, і за гэта дзякуй. Маю права на спачын. Ты не курыш, не?

— Не, не куру.

— І не куры. Я, ёлкі-палкі, на старасці жаніўся. Дажываць сышліся. Паехала да сваіх у вёску, а я трэці дзень без курыва сяджу, як у сорак чацвёртым без арцілерыі.

— Пачакайце, я зараз.

Я сеў на ровар, злётаў у закусачную, якую гарадчукі называюць «Жаночыя слёзы», і прывёз дзесяць пачак «Беламорканалу» і чэрствыя булачкі. Ён падзякаваў... заплакаў, закурыў. Мне раптам зрабілася агідна за

свой учынак. «Благадзецель няшчасны». Дзесяць пачак купіў. Узвысіцца хацеў над ім? Не, не трэба было тое рабіць. Трэба было купіць і перадаць кім-небудзь непрыкметна. Каб не выстаўляцца самому. Мне зрабілася сорамна глядзець яму ў вочы. Добра, што да нас падышоў сусед Макарэц, я папытаўся пра яго сыноў і хутка паехаў да Воўка. Па дарозе сустрэў Жэню Мэка. Я ўжо ведаў ад Полі, што маці ў Жэні памерла і ён застаўся адзін у хаце. «Божа, — падумаў я, — як ён жыве адзін? З чаго? З пенсіі?» Я шкадаваў яго ўсёй душою. Так, канечне, гэта памылка. Чаму мяне ўсё так кранае, так забірае? Відаць, не трэба было так доўга сядзець у Брэсце, не прыязджаючы сюды. Так шмат змен адбылося адразу, так жыццё ўсё перайначыла. Калі б, скажам, я наведваўся штогод, не так кідаліся б у вочы змены, мо не так усё кранала б душу. Я неўпрыкмет звыкся б, што Салейка самы стары, што Кулькін слабее на ногі, што Клубышко пасля аперацыі саслаб, што Лісавета штодня ўспамінае свайго Іванку, што кузні Герасіма няма і што цётка Мамэліха ўжо сівая.

Цяпер, калі ляжыць перада мной доўгачаканы ліст, калі мне трыццаць і калі пішуцца гэтыя горкія словы, я думаю, што памылкі ўсё ж не было. Не заўсёды сілы лёсу нам падуладныя, і не заўсёды мы ствараем абставіны, часам і абставіны ствараюць нас і прымушаюць ад нечага адмовіцца і з нечым новым згадзіцца, не асуджаючы гэтае новае і, можа, не прымаючы яго цалкам.

— Маё шанаванне, маё шанаванне! — весела стрэў мяне Воўк, які сядзеў на ганку і крышыў на бляху яблыкі. — Ты думаў: ну, цяпера ўжо точна старога Воўка няма? Не, толькі жытка і пачынаецца. Дохтурка так і кажа: калі да дзевяноста гадоў у паліклініку не хадзіў, дык да сотні рукой падаць. А гэто паданак многа. Высушу ды панясу на базар. Сядай, у нагах праўды няма. Бяры. Частуйся. Квасу зрабіў.

Я падсеў да яго. Воўк быў у добрым настроі. Ён амаль не пастарэў. Мы разгаварыліся. Ён добра ўсё памятаў, па-ранейшаму цікавіўся, што робіцца ў свеце, як у Брэсце, як жыву.

Я нічога пра сваё жыццё не хаваў ад яго. Паведаміў і пра сустрэчы ды мае нечаканыя слёзы на Аселіцы.

— Не саромейся слёз ад радасці. Значыць, яшчэ не змярцвеў, яшчэ жывы. А я зміры́ўся, бог мяне адолеў.

— Як? — не разумеў я.
— Да сарака гадоў я жыў спакойна, як усе, пакуль не пачаў задумвацца: хто я, чый я і дзе я? Як той Буда, лёг на бок, падклаў правую руку пад галаву і давай думаць, што жыццё маё — тамленне ці радасць? Азірнуўся я наўкол, прыслухаўся, прыгледзеўся: бацюхна мой, птушкі спяваюць без мяне, яблык расце без мяне, рэчка цячэ без маёй дапамогі, сонейка, не пытаючыся майго дазволу, узыходзіць і заходзіць... І так я напалохаўся, бо падалося мне, што ўсё гэта здзекванне з мяне, што ўсё рагоча з майго тамлення і мітусні. Калі ты, божа, падумаў я, абраў мяне першым па свайму падобію, чаму зрабіў такім слабым? Я ўзненавідзеў бога за тое, шчо са мной разам не паміраe, шчо плот смярдзючы, вярба рыпучая, лодка, ось гэты нож, малаток — перажываюць мяне! Не ведаў я, як яму адпомсціць за яго вечна халоднае сонца, за мой канец. Думаю, не, так і да самагубства недалёка, а нашчо жыці? Думаю, пайду, няхай Міфодзій дапаможа маім сумненням, бо імі я атручваю свет і блізкім сваім, і сябрам. Ён па бібліі вучыўся, бліжэй да бога стаіць, мо той яму дзе-небудзь шапнуў ісціну. Міфодзій гне сваё: «Истребляй злое, отвращай недоброе, очищайся от грязного». Даўно яму літургія яго надакучыла, барабаніць словы без пачуцця і жальбы... Сістэма ў яго ўся паўтараецца, вось адкуль сум ды туга. Але ж і сонейка паўтарае свой круг. Паназірай, як дзень нараджаецца і памірае, як не падобна смерць адна на другую. Я ж табе казаў, здаецца: мураш усё жыццё поўзае, а прыходзіць дзень, і ён лётае. У шэсцьдзесят год я спахапіўся толькі... Ой, жыццё кароткае. Давай грабці ўсё пад сябе. Думаю, я ж не нажыўся, не насыціўся, не нагледзеўся на свет твой, божа. Міфодзій запрашае сесці, выпіць, кажа, от, не пакутуй, усе праз гэта праходзяць, «смири гордыню», бо ніколі чалавеку не адвыкнуць ад слова свайго. У раі адпачнём. Але навошта мне той рай, калі і там душа будзе мучыцца, шчо на зямлі не так жыў і чаго жыў? Думаю, няхай ты, божа тайна. Прымаю. Думаю, дзень пажыву, як кажа радыё, гэтым матэрыялістам, а другі дзень ідэалістам. Гэта нават добра, што тайны да мяне не бачылі і я не пабачу. Але ж чалавек перада мной... дай жа хоць мне яго тайну спасцігнуць! Думаю пра смерць — жыці не хочацца, нічога не радуе, думаю пра жыццё — шкадую, чаму смерць не пасылае. Не, ты не забірай ад

мяне цяжкасцей, адольваючы іх, я радуюся... але забяры ад мяне пакуты сумненняў. І вось зусім нядаўна я зміруўся з яго несправядлівасцю. Мо гэта з гадамі прыйшло, нават не ведаю. Я пашкадаваў, ніколі не здагадаешся, не хворага Кулькіна, не старога Клубышка, я не мог іх шкадаваць, таму што аддзяліўся ад свету, не любіў нікога ад сваёй злосці і нянавісці на божы парадак — еў адзін мёд і капусту, хацеў знарок усіх перажыць, каб хоць неяк адпомсціць богу. Я пашкадаваў падарожнік. Ехаў на ровары і прыціснуў яго да сцежкі. Праліўся дождж. Іду, аж мая травінка выцягнулася на ўвесь рост. Нешта напала на мяне, наступіў я нагою на яе, зноў прыплюшчыў да зямлі. Ранкам іду да сына, папрасіў ён мяне падлогу ў хаце перацягнуць, гляджу, паднялася мая травінка, цягнецца да сонейка. Думаю, бач, як жыць хоча, нікчэмнасць, а жыць хоча. Для мяне жыве. Адна ў яе радасць, каб паляжалі на ёй, адпачылі ды каб зімаваць не пакінулі, кароўцы на сена скасілі. От і ўся радасць. Сэрца маё памякчэла. Усё для мяне. А для каго ж я? Тут я ўспомніў... як вясною распускаецца чаромха, не паспела яна адцвісці, кінуліся ў цвет абрыкосы, слівы, вішня, за імі бэз; выгараў бэз, на змену ландыш спяшаецца, кветкі, каб не надакучылі кветкі, ружы распускаюцца, цвіце жасмін... усё... скончылася, каштаны і тыя зацвярдзелі ў гарошыны, аж тут табе ліпа пахам радуе, перагарыць ліпа, ранняя папяроўка паспела. Усё мне, чалавеку, аднаму мне, штодзённая змена ўсё мне, каб пра смерць не думаў, толькі ўмела да ўсяго прыгледзецца. Якое багацце мне дадзена!

Ніколі не пішы пра старасць і смерць, на гэта здольны толькі бяссільны чалавек. Пра гэта скуголіць, значыць, не бачыць нічога, што на зямлі чалавекам зроблена. Бо і ён, як травінка, для некага жыве, жыў і некаму патрэбны. Прадзірай чалавеку вочы ад дурману грашовага, дапамагай яму пераадолець жах, жорсткасць і зайздрасць, і твае кніжкі будуць чытаць... Так са мной, Адасё, утварылася. Выберуся да царквы, на лаўках пагутару з маладзейшымі дзядамі, іду па вуліцы... Бяжыць дзіцятко. І так мне хочацца яго па галоўцы пагладзіць! Пагладжу. У маці вочы на лоб лезуць. Як гэта Воўк-адшчэльнік пагладзіў яе сына, той самы Воўк, які, бывае, пройдзе і не паздароўкаецца. Яна і не цяміць, што колькі чалавек жывы, толькі і зменьваецца. Памерці можна і ў трыццаць гадоў. Сярод нашых местачкоўцаў многа

такіх мерцвякоў. Дай бог, каб душа іх прачнулася ды на людзей яны павярнуліся, забыўшы пра свае грошы і пра фанабэрыю. Я веру, што на добрае дзяржаве можна людзей і згуртаваць і накіраваць.

Воўк, пачуўшы, што сынок мой тут недалёка, у Мамэліхі, загадаў яго неадкладна прывесці. Я скочыў на нашу вуліцу, пасадзіў Янку на багажнік і прывёз да Воўка. Дзед паказаў яму жывых уюноў, дастаў уюнчыка з жаўтаватым бокам, пісклівага-пісклівага.

— А... такое дзіва ты ў сваім Брэсце не бачыў?

— Не, — адказаў Янка, баючыся датыкнуцца да рыбіны. Думаў, гадзюка.

— Янэк у ваш род пайшоў, Адась. На Маню падобны і на бабу Насцю. Павядзі яго ў сад. Няхай назбірае яблыкаў, мо груша спелая ўпала. Бярыце еты кош.

Мы назбіралі поўны кош яблыкаў. Янка зразумеў, што справа зроблена, падарунак у яго, і цягнуў мяне за рукаў:

— Папо, паехалі. Паехалі.

Яму сумна было каля незнаёмага дзеда, хацелася хутчэй пахваліцца маці падарункамі: плеценым кашом, мэткай уюноў, яблыкамі.

Воўк пацікавіўся, ці не перапісваюся я з бацькам. Я адказаў:

— Не.

— От, ты кажы, як не пашанцавала яму, як бог рассеяў. І хату знесла, і пляц размыла, і памяці не пакінуў добрай. Яму, мабыць, цяжэй, чым нам усім. На ўсё воля ўсявышняга, як сказаў бы няверуючы Міфодзій, тое чалавек мае, што заслугоўвае.

— А чаму Міфодзій няверуючы? — здзівіўся я.

— Ён так прывык паўтараць адно і тое ж, шчо яно яму абрыдла. Стаміўся і не верыць. Хоча купіць «Жыгулі», мне стараста казаў, і хату ў Сочы, мо яны яму часова заменяць бога. Купіць. А то не. Наш прыход багаты, і на яго долю грошай хопіць. Ты не купляй. Пакуль малады, хадзі пешкі, у старасці ногі ныць не будуць. Я на Балонне заўсёды пешкі, пакашу кавалак, назад прытупаю. Цяжка касіць ужо, здаецца, упаў бы на калена, лягчэй було б, але саромеюся жанок. Яны недалёка косяць. О, паднімуць на смех. Стары Воўк, скажуць, шчо вычаўпляе — і косіць, і богу моліцца, усё яму мала жыцця. Ну, бывай. Загаварыў я цябе. Мо нешта дзе новае пачуеш, прыбягай... паслухаю. Сыны мае

ў госці прыедуць у нядзелю, мо яны нешта цікавае табе раскажуць. Будзеш мець ахвоту, прыбягай. Маё шанаванне, — ён падаў мне сваю халодную схуднелую руку. Мо таму халодную, што мы пастаялі ў цяньку.

Па дарозе мы з Янкам завіталі да цёткі Зосі, яе хата была замкнута, суседка перадала, што пані Зося ўсё яшчэ ў магазіне. «Трэба да яе прыехаць заўтра, каб паўдня пасядзець, нагаварыцца ўволю, а то ж Янка не дасць і прысесці», — рашыў я і выбраўся да цёткі Зосі назаўтра. Нагнуўся пад вокнамі, калі пераходзіў двор, каб увайсці ў светлыя сені-веранду нечакана.

— Ту мешка цурка сёстры моего дзяда?[1] — выгукнуў я па-польску.

Цётка Зося прыбірала на стале памідоры, азірнулася і села ад нечаканасці, давай мяне бясконца цалаваць і плакаць.

У цёткі Зосі ніколі не было сваіх дзяцей. Апошнія тры-чатыры гады яна жыла ў Давыд-Гарадку адна. Бог ёй дзетак не даў, казала яна мне. Нарадзілася ў пару, калі стары месяц памёр, а маладзік не паспеў нарадзіцца. У такую ноч прыйшла на божы свет. Бабка-павітуха і сказала: «Не суджана будзе ёй дзяцей мець». Цётка пакрыўдзілася, чаму я прыйшоў без жонкі і сыночка. Каб заўтра былі абавязкова. Яна знарок купіла лікёру, шакаладу, пячэння. Чай дастала з буфеціка. Цэйлонскі. «Такога ў гарадку зроду не знойдзеце», — весялела яна з кожным словам. Учора яна намалола кавы, прыбрала хату і чакала нас да позняга вечара. Кароценькая стрыжка трохі маладзіла яе маршчыністы твар. Цётка цяжкавата дыхала. Я даведаўся, што прычапілася да яе астма, невылечная. Упала з лодкі ў ваду, калі была тая грозная паводка, з таго дня і пачалося.

— Я адчувала, Адасё, што мяне напаткае тут хвароба. Не хацела ехаць з Польшчы. Пашкадавала брата, якога зусім турма дабіла. Пасля турмы яго ніхто на работу не бярэ. І што за такія законы, чалавеку не давяраць. Узяўся зноў ён залатыя ды срэбныя завушніцы, пярсцёнкі рабіць. Хворы быў вельмі. Кінула ўсё, да яго прыехала. Крывёю тут увесь выйшаў і памёр, небарака, у мяне на руках. Так і засталася. Нікуды не паехала, хоць машкара ды камарэча ды вада на шкоду мне.

«Больш ніколі мне не пачуць славутага дуэта гітары

[1] Тут жыве дачка сястры майго дзеда?

і мандаліны Сынамартачкі і Глеба Іванавіча», — з жалем падумалася мне.

Цётка Зося дастала альбомы з фотакарткамі, і мы, выплакаўшы слёзы, пачалі ўспамінаць мінулае. Я прыціх. На фота ўсміхалася і мая маці. Цяпер нарэшце ад цёткі я змагу пра ўсё і даведацца. Я, да свайго сораму, упершыню ўбачыў на пажоўклай картачцы сваю прабабу Таццяну. Гэта яна прывезла з Пінска прыказчыка Міхайла, яна сваім розумам і паваротлівасцю паставіла яго на ногі. Аблытаў тут прадзеда нейкі прайдзісвет не нашай веры, падмануў, і засталіся прадзеды без грошай. Прыехалі ў тысяча восемсот восемдзесят восьмым годзе землямеры. Выйшлі пасярод базару і клікнулі кухара. Пайшла да іх баба Таццяна. Ніхто за яе лепш не пёк хлеб, боршч не варыў. Падрэзалі ёй зямлі. Зноў на ногі сям'я стала. Адзін землямер да бабы Таццяны сватаўся. Кінь, кажа, свайго, паедзем адсюль. Не паехала. Захварэў Міхайла. Нейкая сонечная эпілепсія, казалі, у тыя часы ў яго адкрылася. У Маскву павезла Таццяна свайго Міхайла, да прафесара, не пашкадавала грошай. Ад яе, ад Таццяны, наш род, усе мы, святыя і грэшныя.

— Дзякуй богу, — гаварыла далей цётка, — я не пакрыўджана. Пераялі мне адтуль, з Польшчы, сюды пенсію. Сто дваццаць рублёў штомесяц атрымліваю. Сябрую з матушкай Міфодзія. Шэсцьдзесят шэсць гадоў, Адасічак, радавацца няма чаму. От, каб гэто мама твая жыва була ды паглядзела на цябе, на ўнука, на нявестку. Яна ж, Манечка, была мне найлепшай сяброўачкай, анёльчык мой. Прыбяжыць, бывае, да нас, вясёлая, маладая, прыгожая. Не нагаворышся з ёю. Усе сакрэты мне выдасць, нікога ніколі не абгаворыць, не папракне. Палюбіла яна вайсковага. Якая то була прыгожая пара! Старая баба Насця заўпарцілася. Не аддам, кажа, у горад, у далечу. Тады бацькоў слухалі. Сэрца твая маці мела ангела. Пасваталі Трыфана. Да каго толькі ён не лез. Але, як усё сталася, не нам судзіць. У цябе адзінага ўсе правы.

— А сшыткі, цёця Зося, маміны сшыткі ў вас засталіся? — не вытрымаў я.

— Так, дзетачка, так. Былі ў мяне яе сшыткі. Там, у Польшчы, засталіся. Падзела іх некуды і не знайшла. А хавала многа гадоў. Я і ліст яе апошні хавала. Прасіла прыехаць. Памру я, пісала, прыязджай на маё па-

хаванне. Я ўсё помню, што было там, у сшытках, напісана, усё.

Яна каўтнула чаю, адчыніла акно.

— У першым сшытку былі акуратненька перапісаны любімыя яе песні. О, гэту вельмі любіла спяваць: «Ох, ох, недаром славится русская красавица». Нашы былі песні, гарадзецкія: «Галя», «Скакаў казак цераз даліну», «Ой пад дубам крыніца стаяла».

Другі сшытак быў спісаны да палавіны. У ім былі перапісаны пісьмы Адама. Далей асобныя сказы, сэнс якіх я не разумела. «Сёння було вельмі мне страшна. Ні цэркаў, ні маці, ні бог не ўратуюць. Зноў баюся цемры. Нікога не вініце. Прысніўся дзед. Вайна адна вінавата. Баюся выйсці на вуліцу, каб не ўпасці. Хачу спаць. Страшна було зноў. Госпадзі, калі гэто скончыцца». І ўсё. Болей нічога не было напісана. Я доўга думала над гэтымі словамі і раптам усё прыпомніла. Вайна, вайна. Стаялі ў вашай старой хаце адну зіму немцы.

— Ганс і Вілі.

— Чорт іх ведае як. І ведаць не хачу. Маю маладосць гэтая вайна пакалечыла. Баяліся партызан. Тамілаўцы былі, Сабураў у Мерліне стаяў. Наша хатка была старая, магчыма, таму да нас не прыйшлі. А ў вас былі. Шчо людзям рабіць? Маўчы, не прагоніш. Заб'юць. Партызаны ўначы хадзілі... усё ж свае. Адзежыну возьмуць, хлеба. Свае, а немцы чужыя. Маразы лютыя стаялі. Прыходзяць немцы аднаго разу. Знялі шынялі і ў адзежы ў ложак. Клікнулі мацер тваю. Загадалі распрануцца. Засталася бедная небарачка ў адной сарочцы. Прымусілі легчы да сябе ў краваць, каб ім, ірадам, цяплей было. Дзед-нябожчык схапіў сякеру, ля дзвярэй прытаіўся. «Ну, — казаў, — калі палезе да цябе які, Маня, крычы. Заб'ю ўсіх. Шчо будзе». Яны нашых дзевак не чапалі. «Швайнэ, — усё казалі, — брудныя швайнэ». Бедная Манечка так да раніцы каменем і праляжала. Адубела ўся і акалела. Расцерці не маглі родную маю, язык бы анямеў. Вялікі іспуг раскалоў тады яе душу. Коб мо не памятала эпілепсіі дзеда Міхалка, мо й забылася б. Прыбяжыць да мяне: «Куды мне, Зося, дзецца, ніхто мае нервы не можа супакоіць». Не хацела, каб і на цябе ганьба ўпала. Вайна, акаянная, яе забілі і майго кавалера ад ран у магілу звяла, мо б і я не гібела ў адзіноце. Табе дзед пра ўсё гэта не казаў, бо ты малы быў. І ты, небарака, без маці ў голадзе хва-

робу напаткаў. Усё цячэ з гідры — вайны. Вось табе, Адасё, усе яе сшыткі. Іншай праўды не шукай, няма. Не трывож душу. Няхай спачывае памяць пра маму, коб табе шчасце ды не спазнаць дзеткам тваім вайну. Няхай гасподзь усё на нас спіша. Глядзі сябе, сямейку сваю.

Запахла кавай. Цётка пабегла на кухню, прынесла на сподачках дзве шклянкі, наліла ў невялікія чаркі на самае дно лікёру.

— Ну, за тваё вяртанне, вяселле, сыночка. За наш род.

— Здароўя вам, пані Зося.

Пачуўшы маё ласкавае «пані», яна ўсміхнулася.

— Была колісь пані. Коб не мая астма.

— Мо вам лякарствы нейкія трэба?

— Лякарствы толькі шкодзяць. Траўку піла. А будзе час, паглядзі ў аптэцы полакарталон. Яно мяне ратуе. Гэта ж, ведаеш, што я, старая чапля, надумала. Хачу яшчэ ў Польшчу паехаць, сябровачак сваіх праведаць, у касцёле памянуць свайго Юзафа. А калі шчыра, табе, сынок, прызнаюся: смерці баюся. Уцякаю ад яе. Прапанавалі мне хату тут прадаць, купіць у Пінску, Брэсце.

— А шчо, гэта ідэя. У горадзе весялей усё ж.

— Вось-вось. Я ў матушкі сяджу да поўначы, баюся сюды адна начаваць ісці. Гэта не кожны дзень. Нападае такое, бывае. Адасік, а шчо яшчэ было. Памяць мая зрабілася зусім негадзяшчая. У дзень, калі памёрла твая мама, паднялася бура, наляцела на гарадок і толькі адзін вяз і паламала. А вяз той быў каля хаты твайго бацькі. Мо супадзенне, а мо нейкі знак. Я старая, у бога верую, у загробнае жыццё верую. Вы ўжо, маладыя, па-свойму. Не паверыла тады. Пайшла паглядзела. Ваісціну так. Паламаны быў вяз. На свае вочы бачыла. Бяры каву, Адась.

— Я не люблю яе, не крыўдуйце. Чайку цэйлонскага вып'ю.

Мы яшчэ доўга і шчыра гаварылі пра жыццё нашых родных і жыццё гарадчукоў, аж пакуль не прыйшоў час цётцы Зосі ісці на ўкол.

— Вітаміны колюць. Пользы на грош, але няхай, абы думаў, што нешта для здароўя робіцца. Бачу, што і табе хочацца пабыць аднаму. Праводзь мяне да касцёла, а заўтра, калі не прывядзеш сыночка і жонку, пакрыўджуся да канца дзён сваіх. Ну, як там, радня ўсё ж.

Я праводзіў яе да палiклінікі, сеў на ровар і паехаў

да ракі, на Копанец. Жоўта-белага пясочку там не было і ў паміне. Гады паводак нанеслі густы шэры іл, які з'еў увесь пясочак. Я сеў на корч ля лазы. Вось і ўсё праяснілася. Гэта было патрэбна мне, сваю тайну маці забрала з сабою, і дарэшты мне яе ніколі не разгадаць. Я жахнуўся ажно, колькі, калі ўявіць жыццё толькі мне знаёмых людзей, выпадае чалавеку пераажыць, колькі ўсяго яму дадзена на гэтай зямлі і радаснага, і горкага.

Я доўгі час лічыў, што я адзін сіроцтвую, гатовы быў стартаваць у сваім гэтым сіроцтве і хваробе. Кожны чалавек мусіць цярпліва змагацца за жыццё, усведамляць адказнасць за яго, за дзяцей, за род свой. Раптам яны паўсталі перад вачыма маімі ўсе: больш сотні, іх адразу і не палічыць, усе рабацяшчыя і сціплыя, слабыя і дужыя, вясёлыя і бедныя, упартыя і бязвольныя, рахманыя і вынаходлівыя, зацятыя і незлаблівыя, хворыя і пакінутыя, добрыя і скупыя, усе — святыя і грэшныя людзі мае, і так мне іх разам зрабілася шкада ўсіх, так невыносна, да болю ў сэрцы, захацелася, каб яны жылі, што я папрасіў бога не забіраць іх, прадоўжыць іх жыццё. Няхай доўга жывуць. Нехта ў тыя далёкія дні адвярнуўся ад маёй маці, баяўся сустракацца з ёю, не разумеў, быў жорсткім у адносінах з ёю, як я, не хацеў разумець, не дапамог добрым словам, не падбадзёрыў, мо недастаткова быў ветлівы, мо знарок абыходзіў яе, не звяртаючы ўвагі, нехта мо плакаў па ёй, нехта смяяўся... Я не маю права іх судзіць, бо не жыў адным з імі жыццём. Я быў сярод іх на мяжы, быў збоку. Я гатовы быў зараз ісці да іх, прасіць даравання за маці, якая сваім учынкам магла напужаць дзетак, мяккіх душою дзяўчат, магла ўчынкам сваім пасяліць недавер і нелюбоў да жыцця, я гатовы быў прасіць даравання. Бо я іх усіх любіў і люблю, бо большасць з іх разабрала па кроплі матчыну любоў і дабрату і на працягу ўсіх год аддавала мне непрыкметна. Ёсць міласэрнасць у маім народзе, не пераводзіцца. Душа мая выслабанілася, памяць мая аб маці засталася. Я паехаў да сям'і. Мы з'ездзілі (з цёткай Зосяй) па парэчкі на густыя берагі Прыпяці, вудзілі рыбу, лавілі рачэўняй ракаў, каталіся на роварах па ўсім гарадку, наведваліся ў госці да старых знаёмых: Мамэліхі, Глеба Іванавіча, бабы Лісаветы, Клубышка, беглі да адкрыцця універмага (была надзея, што тут, у правінцыі, можна будзе мод-

нае што купіць, не пераплочваючы спекулянту), хадзілі на сена. Усё было цудоўна.

Дзеці на вуліцы, як і я калісь, кацілі драцяной качарэжкай стары вобад ад ровара, гулялі ў цурку-палкі, у крэглі. Кожны дзень у адну і тую ж гадзіну імчалі на роварах па цэнтральнай вуліцы маладыя хлопцы і дзяўчаты, ехалі з завода на абед. Пахла ў завулку жывіцай і дзеразой, шоргала піла, цюкала сякера, палохаў шумам электрычны гэблік: нехта ставіў на старым пляцы (усё ж бліжэй да цэнтра) новую хату. І чулася знаёмая, сумна-шчымлівая песня цесляроў. Толькі спявалі яе цяпер два галасы. Задажджыла. У такое надвор'е асабліва самотна гучыць царкоўны звон.

Спакваля неяк правінцыя пачынала прыгнятаць напачатку маю жонку, потым і мяне. Гэта ад таго, што мы не маем свайго кута, сваёй хаты. Усё ж у гасцях, што ні кажы. А госць, як піша каран, як глыток свежага паветра, якое патрэбна хутчэй выдыхнуць, каб не задушыцца.

Мая баба не чытала каран, казала так: госць першы дзень золата, другі — срэбра, трэці — медзь, дахаты едзь. Таміліся мы абое з жонкай мо з таго, што білі лынды, не было работы. Ад суму і цяжкасці душэўнай нас найчасцей ратуюць дзеці. Янку добра ў гарадку, весела ля рэчкі, цікава на лузе, і нам радасць.

Стрэў я неяк і Таццяну. Былога мастацкага кіраўніка Дома культуры. Мне нясціпла было распытваць у яе пра жыццё, сама яна была негаваркая. Як і раней, вочы яе свяціліся ветлівасцю, а твар упрыгожвала ўсмешка. Пасля Халімон мне казаў, што жыцця сумеснага ў Таццяны з Доўнарам так і не атрымалася. Яна доўга не магла нарадзіць дзіця. Ён дакараў яе бяздзетнасцю. Кінула ўсё, прыехала сюды. Казала, калі сам вернецца, дарую ўсё, паеду з ім зноў. Не прыедзе — прападай усё. Лепшыя гады праляцелі.

— Несправядлівае жыццё, калі добры чалавек шчасця не мае, а прайдзісвет які-небудзь жыве з чужога дабра, купаецца ў сытасці, — прыцмокнуў па даўняй завядзёнцы Халімон.

У клуб я не заглядваў: усе былі ў адпачынку. Адна сустрэча так і не адбылася. З Цялегінай. Ад дачкі Глеба Іванавіча я прачуў, што Цялегіна толькі ў гэтым годзе скончыла інстытут, працуе бібліятэкарам, збіраецца паступаць у аспірантуру. Хварэе на сэрца. Замуж пакуль

не выйшла. «Ёй цяжка вучыцца? Можа, госпадзі, у гэтым і мая віна? Можа, я яе напалохаў моцна тады, даўно, калі даганяў, колкімі словамі здзекаваўся? Мо яна менавіта за гэта пакрыўдзілася на мяне і не хоча сустрэчы, не прыязджае да Граноўскіх», апяклі мяне думкі, якімі і падзяліцца з кім-небудзь сорамна.

Айцец Міфодзій пакідаў гарадок: не ўжыўся з царкоўным саветам, заелі паважаныя сівыя дзядзькі сваімі падазрэннямі, і мо не без падстаў. Дабра нагрузілі паўнюткую «Калхіду». Міфодзій ехаў благачынным у Пінск, а ўсе лічылі, што едзе ў Сочы.

«Та-ак, не хочуць сціпла жыць цяпер і настаўнікі, і папы, — казаў услед «Калхідзе» Ткач. — Хабар — як атрута».

Міфодзій развітваўся з царквой. Стаяў ля магілы заснавальніка храма Цімафея Юхневіча. Чырвоныя «Жыгулі» чакалі ля брамы, матушка крыкнула, што яна выйдзе і будзе гатова праз пятнаццаць мінут. Я рызыкнуў падысці да свяшчэнніка. Мы цёпла павіталіся.

— Пакідаю, сын мой, прыход, не хачу, каб маё імя хадзіла притчей во языцех. Да мітры мне заставалася мала, дзесяць гадоў. Свяшчэннік, чын мой, як афіцэр; куды пашлюць, там службу і нясе. Ты не задумваўся над гэтым аднолькавым — служба і дзеянно і ношчно. Прыход тут багаты, мнагалюдны, прышлюць новага архірэя. Праўда, на апошняе свята Казанскай богамацеры маладых мясцовых дзяўчат у царкве і не аказалася. Добра, што былі дзве цыганачкі, яны і дапамаглі вынесці на шэсцвіе ікону божай мацеры. Цяпер нямаісцінных веруючых... ёсць, але мала. І мне папрок. Я выхаваў тут трох дыяканаў, рукапалажылі двух на свяшчэннікаў, але з гарадчукоў нікога, не хочуць ісці ў служыцелі, усё з вёсак. Незаменных людзей няма, зямля, як гаворыцца, усіх прыме, бацькаўшчына — не ўсіх. Можна спяваць хвалу сонцу, вадзе, зямлі, але гэта ўсё чужое без чалавека, без любові да яго. Мне мясцовых зразумець было цяжка. Мо каб я не купіў «Жыгулі» сабе ды свайму сыну «Масквіч», яны б нічога і не западозрылі. Абвінавачваюць мяне, што з тых пятнаццаці тысяч, якія яны сабралі на рамонт Юр'еўскага храма, нешта я прысвоіў. І гэтую ж царкву мы маладзілі... а што даказваць. Ты прыйшоў паспачуваць мне. Дзякую, сын мой.

— Я ў вас пытацца хацеў.

— Пытайся. Чым грэшан — словам, дзелам, памышленнем?

Я адкрыўся яму, што думаў пра свае ўчынкі ў адносінах да Цялегінай, пра віну, памылкі.

— Усе пад богам ходзім, хоць і не без граху. Мо ты занадта патрабавальны да дзіцячых учынкаў і слоў? Цярзаеш душу. Але лішні раз праверыць сябе на чалавекалюбства нікому не пашкодзіць. От, скажу табе, сын мой, веруючы ты ці няверуючы, а ўвечары на ложку заплюшчы вочы і падумай: хто ад тваіх учынкаў і слоў удзень плакаў, каму ты зрабіў балюча? Каб душа не чарсцвела, а прагла ачышчэння. Веруючы ты ці атэіст, а правер сябе. Я, грэшны, апошнім часам мала думаў, мо таму і прыходзіцца пакідаць мястэчка. Я чужы чалавек тут, мо боль развітання за Столінам і згіне, а скажу: людзі тут яшчэ кантралююць зло ў сабе. Даруй, сын мой, бачу, выходзіць з хаты матушка. Яна будзе сумаваць па гарадку больш, у яе сябры былі, а я адзін з богам ды старастам.

— Шчаслівай вам дарогі.

— Няхай і табе спадарожнічае поспех.

Айцец Міфодзій маё сумненне не развеяў канчаткова. Мне падалося, што пасля размовы з ім з плеч маіх знялі цяжкі камень і ўзвалілі торбу з пяском.

Апошнія дні адпачынку знудзіліся. Віной таму дажджы. Праседзелі ў прыветлівых Глеба Іванавіча і яго жонкі. Наведаўся туды і Кошман, былы начальнік над усімі раменнікамі гарадка. Прыйшоў пагуляць у карты. Мы гулялі ў тысячу, і я трохі махляваў, падкідваў у прыкуп сотню, восемдзесят. Калісь мяне ў бальніцы за дзве грушы навучыў гэтаму фокусу былы афіцэр. Кошман ніяк не мог дабіцца, чаму, як толькі я здаю, у прыкупе гатовая хвалёнка.

— От ты спрытны, як твой бацька.

— А вы яго добра ведалі? — пацікавіўся я.

— Так. Трохі. Чаго ты на мяне вылупіўся? Здавай. На гэты раз не падманеш.

Я зноў зарадзіў у прыкуп сотню, чырвоных караля і даму.

— Цьфу ты, — вылаяўся Кошман. — не хачу болей гуляць. О што горад з маладымі робіць. Шулер. Я ж кажу, і бацька твой, калісь...купіў патэнт сапожніцкага дзела... Думаю, ты ж усё адно па скуры ў Роўна паедзеш, прывязеш. Хаджу да яго: нешта робіць. Зрабіў

выцяжку і знарок выставіў на від. Кажу: што ты, Трыфан, паўгода чобаты шыеш? Усміхаецца. Што яго штрафаваць. Хлопец вясёлы быў. Але от, кажы, і ён на ахоту ездзіў, а па маю Пальму ніколі без дазволу не прыходзіў. Неяк паймаў на Гарыні, прывёў дахаты.

— Ну, пачынаецца, зноў пра Пальму сваю. Забыць пара. Сабака — адно слова, — незадаволена сказала жонка Глеба Іванавіча.

— А шчо здарылася? Я ж памятаю гэтую Пальму.

— Хто ж яе не помніць. На тое і Пальма, — Кошману хацелася яшчэ раз паведаміць нам з жонкай пра сваю сабаку. — Пальму я купіў у аднаго бухгалтара з вёскі Аздамічы. Не ведаю, навошта патрэбны былі яму грошы, а во, пераязджаў у Столін. Не захацеў браць туды. Пальма як і не ведала таго, прывыкла да мяне. Сабака чуе, хто да яе з душой, а хто так, абы-як. Сука ўдалася да палявання такой спрытнай, што дзіву ўсе даваліся. Паўдня мо аднойчы лісу ганяла ў Барку. Мы ўжо вогнішча залілі. Дамоў трэба ехаць. Я кажу, хлопцы, давай пачакаем, не знойдзе дарогі дахаты, хоць гэта і недалёка. Селі, паехалі. Ноч не спаў. А ранкам сеў на спадарожную палутарку і туды, да Барка. Сядзіць мая Пальма ля вогнішча, чакае. Свет мілы, колькі радасці было. Жонка мая не любіла ваабшчэ сабак ніякіх. І хутка Пальма ёй надакучыла. Што ж робіць мая бессардэчная? Падсыпае ў міску атруты. З'ела Пальма. Жонка задаволена, рукі пацірае. Усё, кажа, Кошман, не будзе больш палявання, не будзе больш выпіўкі. Я ж нічога не ведаю, кладуся спаць. Раніцай чую: мая жонка ўбіваецца, галосіць як па пакойніку. Выбег я ў трусах на ганак, цікаўлюся. Аж бачу: усе нашы куры падохлі, лапкі адкінулі. Што, пытаюся, здарылася? Яна і расказала пра атруту. Пальма тую атруту выкінула з калам, і хоць бы хны, а куры, ненажэрныя, усё склявалі і падохлі. Жонка давай біць Пальму, я бараню. Залаты сабака быў, у-у... Што ж далей. Давай яе хлопцы красці. Я па рэвізіі, у адну вёску, у другую... Яны прыйдуць на двор, хто толькі стрэльбу ў адрыну суне, пакажа, Пальма на ўсё гатова. Значыцца, я прывучыў так, калі стрэльбу пакажу, яна бяжыць на паляванне. Чужыя людзі не свае, не разбіралася, ідзе служыць, і канцы ў ваду. Жонка ў лямант: «Ды што гэта таке, ды спаць немагчыма. П'яныя са стрэльбамі па двары ходзяць, а ў нас дзеці малыя». Прычапілася, няма рады. І тут у мяне

яе ўкралі. Ах ты, думаю, хто ж. Доўга шукаў, пакуль адзін сумленны чалавек не навёў на злодзея. Хто ж ты думаеш — той бухгалтар, у якога я і купіў яе. Паехаў я ў Белавушу, ён там жыў, заходжу на двор. Як кінецца Пальма да мяне, ліжа мне рукі, твар. Пазнала. У мяне слёзы на вачах. Забраў, яшчэ ў мяне год пажыла. Зноў жонка за сваё. Прадавай, кажа, бо застрэлю сама. Прадаў я за сотню рублёў у Мачуль, аднаму паляўнічаму. Нешта няймецца мне, і ўсё. Думаю, дай паеду ў Мачуль, як там Пальма. Прыязджаю... а яна тры дні як падохла. Кажа, есці не стала, хоць забі, і здохла. Кажуць, што сабака не чалавек, хай так. А я дагэтуль сваю віну перад Пальмай адчуваю. Навошта я яе прадаў? Бацька твой даваў трыста рублёў — не прадаў. Давай у прэферанс. Цяпер на паляванне не хаджу: стрэльбу нават прадаў. З таго дня, як здохла Пальма, кінуў паляванне. Не цягне. Давай у прэферанс, Глеб Іванавіч, тут не змахлюе, давай пакажам нашых, Іванавіч.

Распісалі адну пульку. Кошман быў як рыба ў вадзе, гуляў як запраўскі прафесіянал, церабіў ад задавальнення свае густыя чорныя бровы. Я быў у мінусе. Прэферанс я ніколі не любіў — забірае багата, халера, часу. Мо некалькі разоў у бальніцы і гуляў.

— Ну як, не памахлюеш? Давай яшчэ адну, — падскочыў ад задавальнення Кошман.

— Не. Позна. Веру, што вы майстар вышэйшага пілатажу. Пойдзем малога ўкладваць.

— Што яго так даглядаеце. Няхай прывыкае да самастойнасці. Так з яго палешука не выйдзе, калі будзеце апякаць і кантраляваць кожны крок. Давай.

— Кожны выхоўвае, як яму падказвае сэрца, — крытыкавала Кошмана жонка Глеба Іванавіча. — Не слухай яго, Адась. Правільна. Я сваім увагі, дабраты, часу і любові не шкадавала ніколі.

Глеб Іванавіч даў нам яшчэ адзін парасон, і мы пабеглі ў цемру і дождж.

Даша мае рацыю. Усё ж, нягледзячы на дабрыню і ўважлівасць Полі, нас не пакідала апошнія дні пачуццё непрыкаяннасці. Як не стае мне маці, а сыну бабы. Як хораша было б, калі б у сваю хату можна запрасіць на пасядзелкі адзінокую цётку Зосю, бабу Лісавету, хросната. Прыбегла б з навіной жонка Клубышка. Як добра выйсці ранкам на свой гарод. Увечары паліваць з лейкі гурочкі, краскі, як прыемна і смачна пахла б сена на

вышках адрыны, якое ты накасіў з сынам і прывёз. Хаты, роднага прытулку — вось чаго не хапае нам у гарадку для паўнаты шчасця.

Нас цёпла праводзілі — прывёз на дарогу маліны, мёду, сыру і дзядзька Якаў з Тuроў. Скрынак і сумак назбіралася поўна, занялі цалкам адну секцыю багажніка аўтобуса. Вісеў над ціхай Гарынню, ахоўваючы сон, ясны месяц. Камфартабельны, мяккі «Ікарус» вёз нас у Брэст. Янка сярод ночы спахапіўся, папытаўся, ці не згубіў я адрас яго новага сябра.

— Спі, спі... вось ён, — я паказаў яму паперку.

Зноў нас падхапіў, падпарадкаваў і панёс па хвалі жыцця гарадскі рытм. Сон, ранішняя мітусня (правады сына ў школу), работа, абед, тэлефонная размова з жонкай, што купіла яна за час абеду, што застаецца купіць мне, кватэра, урокі, вячэра, тэлевізар, сон. У нядзелю ў мяне звычайна камандзіроўка, ішла паўсюдна шырокая падрыхтоўка да ўсесаюзнага агляду мастацкай самадзейнасці, прысвечанага вялікаму святу, у жонкі — мыццё. Зрэдку, вельмі шчаслівыя, выходзілі на прыроду, ішлі ў парк, да ракі.

Нешта ўрыўкамі я амаль сілком пісаў. Мне нават Дашы было сорам паказваць гэтыя некалькі кароценькіх апавяданняў і дзве-тры казачкі. Роспач ад бяссілля пераходзіла ў раздражнёнасць, якая, бы на дражджах, перарастала ў злосць, адчай, надоўга выводзячы з раўнавагі. Не радавала і тое, што я прайшоў удала камісію па прыёму ў Саюз пісьменнікаў рэспублікі. Злой іроніяй ахутвалі душу сумненні: ці правільна абраў жыццёвы шлях? Ніводзін чытач не даслаў мне свой водгук на першую кніжку апавяданняў.

— Не магу цябе зразумець, — абуралася Даша. — Гульня ў меланхолію ці гульня ў непрызнанага генія? Ты і сам неаднойчы паўтараў: пісьменнік — гэта такая ж звычайная работа. Што табе хочацца, як казаў Булька, адразу ўлады, славы, вечнасці?

— Я ўсё разумею, — апраўдваўся я. — Мо дарма ўсё ж я не паехаў у ВГІК? Мо не позна махнуць на курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў, пакуль малады?

— Махні, — адказвала яна непрыемным тонам, брала кніжку, садзілася ў крэсла і доўга, да галаўнога болю, чытала.

З гарадка прыходзілі рэдкія лісты. Цётка Поля пісала, што кіраўнік духавога аркестра купіў хату ў Брэ-

сце, што Граноўская (застаўшыся адна) пераехала ў Пінск, як быццам жыве пры касцёле манашкай ці прыслугай у ксяндза, што дачцэ павысілі разрад і цяпер яна атрымоўвае дзвесце рублёў.

Я сустрэў свайго былога кіраўніка духавога аркестра. Быў ён невясёлы, нават пануры. Відаць, заелі клопаты ў сувязі з пераездам.

— Ай, Адась, і не пытай. Жонка падгаварыла. Кажа, мо тут, без сябрукоў, піць менш буду. Сумна, хоць утапіся. Выйду на ганак, божа, неба не мае, зоркі над галавой не тыя, не мае. Не магу. Але назад дарогі няма. Дваццаць хат прадаюць. Чутка пайшла, што на вэсну не выпусцяць. А ўсё ж некаторым, асабліва старым людзям, гэтая вэсна давала падтрымку.

Я запісаў яго новы адрас, але ў госці мы так пакуль і не хадзілі.

Зноў я сеў да стала, прымусіў сябе ўзяць ручку і выпакутаваў сухое, бяздушнае апавяданне, якое мне нагадала вадзяністую бульбу. Няўмольная сіла мяне некуды цягнула. «Мо трэба было наогул падацца ў аграномы? Васька Кіцель — асоба. Як тут не зайздросціць. Самы малады старшыня калгаса ў Віцебскай вобласці. А я ўсё больш падобны на лянівага і санлівага ментуза. Газеты не хочацца чытаць, так захоплены ўласным славалюбствам. Не інакш».

Цэнтральную газету, якая надрукавала артыкул пра Давыд-Гарадок пад шумлівай і крыклівай назвай «Камандзіроўка за свой кошт, альбо Кветкі з ядам», мне прынесла з работы Даша. Кінуліся адразу ў вочы аўтары — Ю. Халява і К. Булька. Мой стары знаёмы, няўжо гэта яго рука? З непрыкрытым абурэннем, сарказмам, з грамадзянскім запалам артыкул у пух і прах разносіў гандаль насеннем кветак і гароднiны. Аўтары падкрэслівалі бесперспектыўнасць гэтай справы і нават яе недапушчальнасць у наш час. Яны наўмысна падагравалі цікавасць да артыкула тым, што, маўляў, грошы на вэсне гарадчукі зарабляюць велізарныя. Быццам Булька стаяў на базары і лічыў торбы з грашыма. Больш таго, аўтары спрытна маніпулiравалі і звычайнымі плёткамі: напісалі (проста смеху варта), што грошы ў гарадку марнуюць, закатваюць, як гуркі і памідоры, у шкляныя банкі і закопваюць у зямлю. Я ўявіў Бульку, які ходзіць з шомпалам па гародах гарадка і, як сапёр, шукае слоікі з грашыма.

Я перачытаў артыкул яшчэ раз. Лезлі Булькава нахрапістасць, лухта, падтасоўка фактаў і нянавісць да мясцовых жыхароў, я б сказаў, зайздрасць нейкая. Гэта быў жорсткі здзек з маіх знаёмых: таленавітага Глеба Іванавіча, хлебасольнай Полі, Воўка-пустэльніка, пажарніка хроснага, калгасніцы Сарокі, сталяра Клубышка, брыгадзіра Якава, шаўцоў Цімоха, Івана і Яўхіма, бабы Лісаветы. Аўтары абвінавачвалі іх у спекуляцыі і мяшчанстве. Сучасны гарадок, са слоў Булькі, паўставаў месцам шулераў і прайдзісветаў. Я не вытрымаў уздзеяння гэтага пасквіля і напісаў яму: «Як ты мог так павярхоўна, без гістарычнага, сацыяльнага аналізу, аперыраваць у большасці фальшывымі фактамі? Так можа хіба напісаць чалавек, які шукае лёгкай папулярнасці, які абыякавы да лёсу мястэчка і яго людзей».

Булька, праўда, хутка прыслаў пісьмо ў адказ. «Вучыся, Адась, як трэба падыходзіць да з'яў і праблем: смела, маштабна і мужна, калі хочаш. Мой адзіны артыкул варты ўсёй тваёй кніжкі. Менавіта так трэба даваць бой мяшчанскай псіхалогіі». (Я падумаў, хто дакажа, што ў Полі, жонкі Глеба Іванавіча, жонкі Клубышка, якія ў сезон вывозяць насенне на базары, мяшчанская псіхалогія.) «Адным словам, — пісаў ён, — вучыся. Бач, я толькі ўзяўся за пяро і адразу стаў прыкметным на саюзнай арэне, а ты дзесяць гадоў топчашся на адным месцы. Так і ляжыць твая кніжка, ніхто яе не купляе. Праз год пусцяць пад нож на макулатуру. Сентыментальнасць — вось твая хіба. Прызнайся шчыра, усё ж здорава мы раздзелалі пад арэх тваіх гарадчукоў. Бывай».

Я не стаў адказваць яму. Адчуў: як бы ён ні намагаўся быць «староннім назіральнікам», за ўсім стаіць запозненая помста за Дашу, зайздрасць, што я быў удзельнікам семінара (пра нас пісала газета), паспеў выдаць першую кніжку. З яго натурай можна і бацьку роднага прадаць, абы ўзвысіцца, стаць прыкметным, каб адзначылі, заўважылі, каб хутчэй даперці да карыта з грашыма і паціху цягнуць адтуль, хітра прыстасаваўшыся. За ўсімі высокімі словамі стаіць хваравітае славалюбства.

Праз некалькі дзён я напісаў у рэдакцыю свой водгук на артыкул, у якім, праўда, трохі блытана выказаў свае меркаванні. На жаль, не засталося копіі таго ліста, а газета маё пісьмо цалкам не надрукавала, і таму я

магу нагадаць вам, паважаны чытач, толькі асобныя пункты.

«Не памылюся, — пісаў я, — калі скажу, што для большасці гарадчукоў кветкі і насенне тое ж, што і роспіс па дрэве для Хахламы. Не ўсе хахламчане набывалі на гэтым славу, але і зараблялі капейку. Прыгажосць — гэта ўсё-такі справа другасная. Хахламе пашанцавала — разумныя гаспадары зрабілі вясковае рамяство набыткам усяго народа. Што рабіць Давыд-Гарадку? Навошта ж, як прапануюць аўтары, знішчаць тое, што стагоддзямі песцілася — кветкаводства?» Пісаў, што кветкі — гэта фірменны промысел горада. І што я аніяк не магу лічыць гэтых людзей лайдакамі і прайдзісветамі.

У газету, відаць, паступіла не адно маё пісьмо, і яна надрукавала некаторыя парады, заўвагі, пажаданні і водгукі чытачоў. Мяне бы хто завёў, як цацку. Увесь час думалася пра Давыд-Гарадок. Ішлі дні, тыдні, а я так нічога і не напісаў. Галава была — як пусты арэх. Тут яшчэ падліў масла ў агонь і пляменнік Крутаярава Эдуард.

Абласное ўпраўленне міліцыі віншавала сваіх выдатнікаў самых розных служб. Быў запрошаны на гэта свята і малады лейтэнант міліцыі з Давыд-Гарадка Эдуард Крутаяраў. Я быў адказны за канцэрт для пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва. Там, у зале, мы і сустрэліся. Прызнацца, я і не чакаў, што ён так абрадуецца, убачыўшы мяне.

— Вітаю, Адась! Не пазнаеш?

— Пазнаю.

— Віншую цябе. Чытаў тваю кніжку. Нават спрачаўся з Булькам. Абараняў цябе. Мне было цікава чытаць.

— Дзякую на добрым слове.

— Што падумаў. Хацеў нават напісаць табе. Час выйсці на шырокую сцязю таленавітага і вострага журналіста. Праявіць свой грамадзянскі тэмперамент.

— Не разумею.

— Прапаную табе шырока і больш грунтоўна адгукнуцца на непрыемную з'яву Давыд-Гарадка. Упэўнены, атрымаецца каштоўная інфармацыя да роздуму, навука для тых, хто шукае ці прагне шукаць лёгкую капейку. Развялося ў нас і шабашнікаў празмерна.

— А што ў гэтым адмоўнага? Лічу, што артыкул

Булькі і Халявы на восемдзесят пяць працэнтаў з хлусні і падтасоўкі фактаў.

— Там ёсць і праўдзівыя факты.

— Факт яшчэ не ёсць праўда. Там не хапае аналізу, абгрунтаваных доказаў, гістарычнасці, сацыяльнай абумоўленасці ў падыходзе да ладу жыцця гарадчукоў. Чаму гандаль насеннем кветак, якія вырасціла гаспадыня ўласнай працай, — атрута, а дыні, кавуны, цытрусавыя, якія прывозяць з поўдня, — мёд? Я не магу пісаць, што мая цётка Поля і на яе падобныя — носьбіты дробнабуржуазнай псіхалогіі, як лічыць Булька.

— У мяне, аднак, ёсць факты, што некаторыя гадамі нідзе не працуюць і возяць толькі насенне, — гарачыўся Эдуард.

— Дык і выкрывайце такіх людзей. Змагайцеся. Толькі напачатку даведайцеся, ці ёсць яму работа ў гарадку.

— Мне здавалася, што мы робім адну справу. Так сказаць, санітары грамадства.

— Я пакуль нічога не раблю. Ты ж наш, Эдуард. Жонку сабе з гарадка ўзяў. Няўжо і ты ненавідзіш месца, дзе жывеш, яго людзей? Пазіцыя Булькі чужая для мяне. Так што ты памыліўся. Не будзем мы аднаверцамі і паплечнікамі, не стану я пісаць нікуды і нічога.

— У Булькі свая галава, у мяне свая. Я толькі хачу сказаць, што справа заварушылася, зайшла так далёка, што мы, мясцовыя ўлады, ужо і незадаволены такой хадой падзей, — як бы раздражнёна адказаў Эдуард, жмурачы вочы.

— Не трэба было даваць Бульку неправераныя факты. І што цяпер надумалі мясцовыя ўлады з людзьмі рабіць?

— Пакуль невядома. Усё вырашаецца ў вобласці. Можа, пойдзем у буфет, піва вып'ем? Даўно свежага піўка не піў.

— Дзякую, але мне на сцэну трэба. Ну, а Булька як, ажаніўся хоць?

— Ды не. Па сакрэту скажу. Там ён ад усіх хавае гэто. Сватаўся, па-нашаму кажучы, да Паўловіч. Нешта яна доўга вырашае. Не хоча. Мне яго нават шкада. А табе?

— Мне не шкада, — без паказухі адказаў я.

Вось тады, пасля сустрэчы з Эдуардам, у мяне і за-

мацавалася думка напісаць ліст у давыд-гарадоцкі гарсавет. Я звольніўся з работы, абяцаючы жонцы кожнадзённа пісаць і зарабляць на хлеб выключна аднымі ганарарамі. Лёгка сказаць недасведчанаму чалавеку «жыць з ганарару», а за што жыць шмат месяцаў, пакуль той ганарар дзе-нідзе адхопіш, такога чалавека не цікавіць. Даша мая, я яе цяжка западозрыць у жадлівасці, усё ж неяк абурылася, дайшло да сваркі:

— Колькі можна? Ты ж не малое дзіця. Я стамілася ад галоты, ста-мі-лася! Зімовых ботаў няма, футра знасілася, сыну боцікаў купіць не можам самі, дзякуй, маці апранае, і не сорам? Я — жанчына, і мне таксама хочацца быць прыгожай. Хоць раз на месяц, на паўгода. Па табе ўсё трын-трава. Абы крэмзаць паперу, ніхто не перашкаджае. Гэта галоўнае. Усё астатняе — гары гарам. Напіша — выкіне ў кош, напіша — спаліць, зноў напіша — разарве. Адумайся. Мо ты ўнушыў сабе, што ты Гогаль, Чэхаў. І такая хвароба ёсць. Узваж свае здольнасці. Прага да самастойнасці, незалежнасці. Я не супраць. Не думаеш аб сабе, успомні, што на свеце ёсць мы. Здаецца, з'ехала б адсюль — так надакучылі твае абяцанкі.

— Супакойся. Будуць грошы. Рэцэнзія на аднаактовую п'есу атрымана. Пад Новы год абяцалі прысляць пяцьсот рублёў.

Яна пакацілася на ложак ад рогату.

— Толькі не кармі мяне абяцанкамі. Гэтыя пяцьсот рублёў мы чакаем паўтара года.

— Я не вінаваты, што ў дзяржавы так цяжка вырваць грошы, — хацеў я ўсё перавесці на жарт.

— Хопіць. Я дагэтуль у касу ўзаемадапамогі не ўнесла трыста рублёў. Цябе ніяк заўтрашні дзень не турбуе. Была я на тваёй радзіме. Спадабалася. Людзі як людзі. Скажы яму, што ён заўтра памрэ, усё роўна хату будуе. Нейкая ж сіла духу ёсць. А ты...

— Дык давай паедзем туды!

— Давай, давай, — абыякава амаль адказала жонка і махнула на мяне рукой, маўляў, што далей гаварыць. — Герой цешчыны бліны есці. Чужы кажух цела не грэе.

— Я даўно казаў, што нам патрэбна мець сваю хату.

— Маўчы!

І я маўчаў, добра ведаючы адзіную зброю, калі яна так разыходзіцца, — маўчанне. Праз нейкую гадзіну

яна пададбрэла, запрасіла на кухню піць чай. Падала канверт.

— Трымай. Усё твой Булька дабіваецца, каб мы прызналі яго таленавітым. А гэта, відаць, цяжка быць, а не здавацца.

Як заўсёды, на пачатку пісьма былі блытаныя і спрэчныя словы «вялікіх матэрый». «Я не хачу чакаць, дабівацца, марнець і пакутаваць, чакаючы вялікую радасць, я сыты ад маленькай радасці кожнага дня. Цяпер кожны хоча быць разумным, прыгожым і багатым. І я такі. Але ж я разумею, што кожны чалавек (я настойваю на гэтым), кожны на зямлі ўскосна вінаваты ў смерці як мінімум аднаго чалавека. Ты не адпісаў мне мой ліст. Не трэба крыўдаваць. Чалавеку патрэбны тры сябры: першы — хто дорыць падарункі, другі — доктар, а трэці — мудры сябра». Прачытаўшы гэта, я ехідна ўсміхнуўся. «Нічога свайго». Я ведаў, што гэта не яго-ныя словы, а таленавітага японскага пісьменніка Кэнко-Хосы з яго кнігі «Запіскі ад суму».

Я яму так і напісаў, што не крыўдую, што проста разуменне жыццёвых каштоўнасцей у нас рознае, што нам цяжка будзе надалей падтрымліваць хоць якія-небудзь адносіны. Не, я не павучаў яго, а толькі ў апошніх радках падкрэсліў: «Баюся, Булька, што твая «мудрасць», філасофія хутка абернецца танным прэстыжам, як завесці ва ўласнай кватэры тыгра ці льва, каб хоць чым-небудзь вызначыцца».

Па-ранейшаму не хацелася браць у рукі паперу і ручку. Думалася, чаму бог не зрабіў мяне інжынерам, доктарам, шафёрам, леснікам... Іх праца — нешта сур'ёзнае і значнае, а што зменіцца ад маіх тысячы слоў? Колькі волатамі напісана мудрых кніг, споведзей, папярэджанняў, заклікаў, летапісаў. Усё, здаецца, важнае, галоўнае і мудрае пра чалавека і яго нялёгкае жыццё на зямлі сказана даўно і геніяльна. Навошта яшчэ шукаць сваю ісціну, калі чалавеку не хапае жыцця, каб прачытаць частку гэтых мудрых кніг? Я не ведаў, як і чым мне ратавацца ад гэтай з'едлівай песімістычнай адзіноты. Я ўспамінаў дзеда свайго, бабу, яе сяброўку Лісавету, час, у які яны жылі, і патроху разумеў, што жыццё — найцудоўнейшы божы дар. Кожны чалавек асаблівы, непаўторны — непадобны, ён мае права застацца хоць на паперы. Сляды роду губляюцца хутка і, бывае, знікаюць, і тады з праўдзіва напісанага

паўстае радасць сустрэчы з невядомымі далёкімі продкамі. О, думаеш, як яны жылі, яны жылі так.

Пані Граноўская і слухаць не хацела, што Андрэй Кміціц з «Патопу» Сянкевіча прыдуманы, як верыла ў жыццёвую праўдзівасць герояў «Зямлі абетаванай» Рэйманта. Я і сам недзе чытаў, што прататыпам Мышкіна ў «Ідыёце» быў доктар Гааз. Паступова сэрца маё зноў напоўнілася надзеяй, верай і жаданнем. Вялікім жаданнем. Я чакаў ліст з Давыд-Гарадка. Мінуў тыдзень, месяц, я не траціў надзеі, усё чакаў.

Дыхнула туманамі, мокрым снегам зімы. Абуджэнне прыроды, здаецца, адбілася і на маім стане здароўя. Ціснула неяк у грудзях, але яно ж, абуджэнне прыроды, і поўніла душу новымі спадзяваннямі. А пісьма з Давыд-Гарадка ўсё яшчэ не было. Вось тады я і рызыкнуў пайсці на прыём да Крутаярава.

О, гэтая магія ўздзеяння прасторнага, вялікага кабінета з доўгім паліраваным сталом, з мноствам крэслаў, з багатым дыванам на падлозе! Пераступаеш парог — і ўся твая смеласць і рашучасць прыкметна патухаюць.

Крутаяраў, як старога дружбака, запрасіў шырокім жэстам у кабінет. Папрасіў прабачэння і выйшаў па справах на некалькі мінут. Сядзіш адзін у чужым кабінеце, як дурань, чакаеш пяць, дзесяць мінут. Думаеш: чаго ты прыйшоў? Мой баявы запал прапаў, калі сакратарка прынесла паднос з кавай, — я зусім зніякавеў, забыў, дзеля чаго і прыйшоў.

— Прабач, Адась. Абяцаў быць праз некалькі хвілін, а мінула пятнаццаць. Так знешне можа скласціся ўражанне, што ўся работа з кабінета ў кабінет, з аднаго пасяджэння на другое, ад аднаго тэлефона да другога, з паперкай у адной руцэ ды з паперамі ў другой руцэ, з адной камандзіроўкі ды ў другую.

Мяне крыху суцешыла тое, што Крутаяраў за гэтыя гады, што мы не сустракаліся, не змяніўся ў адносінах да мяне: такі ж па-ранейшаму даверлівы, уважлівы, адкрыты і шчыры.

— Я так не думаю.

— Не падманвай ні сябе, ні мяне. Большасць у наш час лічыць, што кіраўніку жывецца лёгка. Вось сёння... Даведаўся пра адзін факт. Запала навіна ў душу, і ўсё... Свядомасць будзе трымаць увесь час на кантролі і ўвесь час падштурхоўваць да дзеяння. Як ты думаеш, якая гэта можа быць навіна?

— Цяжка адказаць. Гаспадарка ў вас дзякуй богу: заводы, фабрыкі, бальніцы.

Тое, што я сказаў, мне гаварыць не хацелася. Адразу пасля яго пытання хацелася сказаць: «А ці думаецца ў гэтую мінуту, Крутаяраў, пра каранцін, які ў мэтах узмацнення аховы тэрыторыі Столінскага раёна ад хвароб раслін і каранціннага пустазелля ўвёў выканком райсавета і прыняў рашэнне забараніць старшыням калгасаў, уладальнікам прысядзібных участкаў вываз насення розных культур за межы раёна без каранцінных сертыфікатаў дзяржаўнай інспекцыі?» Пра гэта я напярэдадні сустрэчы даведаўся ад Мамэліхі, якая прыехала ў абласную інспекцыю па гэты самы «сертыфікат», не ведаючы, што прыватным асобам такія сертыфікаты не выдаюцца. Яна ж мне са слязьмі і паведаміла, што ў Давыд-Гарадку паніка. Насенне забіраюць, міліцыя не дазваляе выязджаць з ім за межы гарадка, што, маўляў, ніхто насенне не правярае, што павілікі[1], амброзіі зроду ў насенні гарадчукоў не заводзіліся. Я толькі пaспачуваў жанчыне, разумеючы, што калі накладзены каранцін (не без рэкамендацый і пастаноў абласнога кіраўніцтва), дык яго не адменяць. І ўсё ж, як казала Мамэліха, рызыкуючы быць прыцягнутымі да крымінальнай адказнасці, гарадчукі цішком, хто як, вывозілі насенне кветак і гародніны, бо былі ўпэўнены, як у змене дня на ноч, што насенне іхняе чыстае.

Прыйшоў я да Крутаярава па іншай справе, таму і не рызыкнуў запытаць пра неабходнасць і аб'ектыўнасць каранціну. Калі гаворка ўзнікне нейкім чынам пра яго сама па сабе, тады можна будзе і пашукаць праўды.

— Не ўгадаў, фабрыкі... гэта другаснае. Людзі — галоўнае. Сёння я даведаўся, што ў Столінскім раёне і ў нашым з табой Давыд-Гарадку дагэтуль няма ўрача з вышэйшай кваліфікацыяй. Не ўгадаў бы?

— Не.

— Такія, братка, справы. А што гэта ты трымаеш загорнутае ў газету і не ведаеш як быццам, куды яго дзець.

Незаўважна я выдаў сябе. У газету я загарнуў кніжку сваіх апавяданняў. Думаю, дай прыхаплю на ўсякі выпадак. Пацікавіцца, пакажу. Калі будзе адмаўляць

[1] Каранціннае пустазелле.

у маёй просьбе, таксама пакажу. Я нехаця разгарнуў газету і падаў яму на стол кніжку.

— Так... Марыў пра кіно, а пачаў пісаць.

— Твая?!

— Мая.

— І ты маўчаў! Точна. Адась Доля. Дазволь, братка, ад усёй душы павіншаваць і пажадаць сто футаў пад кілём, — ён пацiснуў мне руку і горача пацалаваў. — Ах, які маладзец! Гэта ж поспех! Та-ак, вось яна, самая вялікая заваёва сацыялізму: створана магчымасць займацца любімай справай кожнаму і дапамагаць кожнаму ў развіцці яго здольнасцей. Я ўсё адно як адчуваў, калі пераносіў тваё прозвішча ў спісе прыёму на апошняе месца. Віншую. Давай жмі цяпер на ўсе педалі, дацягніся да прэмій.

Гэты абаяльны чалавек у шэрым фінскім касцюме, з рухамі яшчэ не старога, упэўненага ў сабе кіраўніка, выклікаў у мяне яшчэ большы давер і сімпатыю. Я амаль быў упэўнены, што ён просьбу маю выканае. І вось тут мне і захацелася папытаць аб каранціне.

— Скажыце, Аляксей Аляксеевіч, увядзенне каранціну на Столінскі раён — гэта была адзіная мера, каб прыпыніць вываз насення кветак гарадчукамі? Няўжо тут нейкую ролю адыграў неаб'ектыўны і хлуслівы артыкул Халявы і Булькі?

— А, усё-такі баліць душа па земляках! І ў мяне, братка, баліць. Прызнаюся, частка і маёй віны ёсць у тым, што гарадок як бы замёр, прыпыніўся ў руху наперад пасля шэсцьдзесят першага года. Нарэшце, пятнаццаць гадоў гэта разглядалася і ўдасканальвалася, зацверджаны, і Масквою ў тым ліку, генеральны план меліярацыі Пагарыння. Багата каштаваць усё будзе, але, як падлічана, — усё акупіцца. Зямелька верне. Новае жыццё блізка. Градзёць. Адкрылі мы там філіял брэсцкага завода, як ведаеш. Будуем магутны хлебазавод. Перспектывы самыя светлыя. А каранцін? Мусілі неяк прыпыніць не зусім прыемную з'яву — гандаль насеннем кветак, з'яву, якая паланіла душы многіх і набыла вялікія маштабы. Гандаль насеннем зрабіўся асноўным у жыцці гарадчука. Не ўсе жадаюць ісці на дзяржаўную работу. Жывуць з таго, што дае гарод. І як вынік — спекуляцыя, дармаедства, алкаголь. Не хачу сказаць, што менавіта ў гэтым адзіная прычына заняпаду. Разглядаць трэба комплекс прычын. Часова ўведзе-

ны каранцін. Калі хто, пакрыўджаны, звернецца да цябе па дапамогу, параду, так усё і растлумач.

— Я разумею. А што рабіць, скажам, майму суседу Кулькіну ў такім выпадку? Тры гады ён бегаў у калгас, пяць рабіў у канторы «Заготлён», год на сплаве... Усё патроху зачынілі. Дакументаў няма. Сядзіць без пенсіі.

— Сам вінаваты, — коратка адказаў Крутаяраў. Ён аніяк не хацеў прыняць віну і на свой бок. Яго адвучылі нават думаць інакш — «каб партыйны кіраўнік ды быў у нечым вінаваты?».

— Мажліва. Але ёсць шмат людзей беспенсійнага пакалення. Як мая цётка Поля, сусед Паўлёнак, жонка Клубышка, якія па розных, і аб'ектыўных і суб'ектыўных, прычынах не знайшлі работы. У цёткі дачка робіць на заводзе, сын — токар, зяць — у калгасе, сама яна пры хаце ды пры ўнуку. Калі вывезе ды прадасць насенне з градка, вось гэтая зробленая тысяча—паўтары ў яе на ўвесь год. Яе ж запрашаюць і на вяселле, і на ўлазіны, і на адведкі. За такіх, прызнаюся, душа баліць.

— Ты верна ахарактарызаваў: беспенсійнае пакаленне. Я толькі дабаўлю, што гэта першае і апошняе беспенсійнае пакаленне.

— Альбо гэты факт з дзядзькам Пузікам.

— Які? — пацікавіўся Крутаяраў.

— Сямідзесяцігадовы Пузік прайшоў усю вайну, інвалід. Сумленна працаваў конюхам пры бальніцы. Выйшаў на пенсію. Сабраў за лета насенне на сваім гародзе, павёз, і яго міліцыя з аўтобуса ў шыю, як злачынцу. Два дні ў Столін ездзіў, каб торбу з насеннем вярнулі.

— Калі гэта было?

— Семнаццатага сакавіка.

— Непрыемна, канечне, але ж міліцыя мае паўнамоцтвы дзейнічаць згодна пастанове выканкома і абстаноўцы. Каранцін для ўсіх аднолькавы. Не выбірайся ў дарогу. Надалей, мы пра гэта думалі, і твой факт мяне яшчэ больш пераканаў у гэтым, мы абавязкова распрацуем сістэму для гарадчукоў, якія вырошчваюць кветкі на насенне. Магчыма, нават сумесна з «Сортнасеннегароднінай». А ў гэты год каранцін тычыцца ўсіх.

— Усіх, ды не ўсіх.

— Вось як? — здзівіўся Крутаяраў. Ён дапытліва пазіраў на мяне.

— Пляменнік ваш, Эдуард, які робіць у давыд-гарадоцкай міліцыі і жанаты, як ведаеце, на гарадчанцы, знайшоў час і дзяржаўную машыну, каб «беспрашкодна» вывезці з насеннем сваю цешчу, не саромеючыся ўсіх.

— Гэта праўда?

— Праўда. Я веру цётцы Полі. І не толькі ён... Сваякі работнікаў міліцыі, ДАІ, кіраўнікоў мясцовых прадпрыемстваў таксама... Ім, сваякам, далі магчымасць паехаць з насеннем на вясну. Каму каранцін, а каму...

— Ах, непрыемная атмасфера. Добра, што ты мне расказаў пра гэтыя факты. Праўду кажуць: «Одного дня достаточно, чтобы лишиться уважения и почета, которые зарабатывались десять лет». Я ўсё ж хачу верыць, што з часам сярэдняе і старэйшае пакаленне адыдзе і забудуцца ў гарадку кветкі. Моладзь, атрымаўшы прафесіі, знойдзе, куды прыкласці сілы. Праз якіх-небудзь гадоў пяцьдзесят гарадок цяжка будзе пазнаць. Тут ты можаш мяне перапыніць і сказаць, што ўсё забудзецца, а вось выпадак з Пузікам і маім пляменнікам будзе доўга помніцца, і будзеш мець рацыю. Добра, што сказаў. Мы людзі адной айчыны. Замест гарадчукоў немагчыма прывезці гуманоідаў з Венеры і засяліць Аселіцу, Мельнікі, Ропічы.

— Радзічы.

— Даруй. Радзічы. Бацька Эдуарда тут, у нашай бальніцы. Інфаркт. Як яму, сумленнаму службаку, такое перажыць? Жах. Сорам. Пі каву. Разгаварыліся мы, а яна астыла. Ты маладзец, так адкрыта скажу, не пакрываеш сувязі з радзімай. А вось цікава! Гарадчукі таксама розныя, заслугоўваюць спачування, увагі, як кожны чалавек айчыны, а вось за што ты іх не любіш?

На хвіліну я разгубіўся. Каб гэта пра аднаго чалавека, а так, агулам на ўсіх? Вырашыў я пераказаць яму словы цёткі Зосі.

— За што? За нязвыклую для іх сквапнасць, за тое, што, калі прыйдзе чалавек у хату, сучасны гарадчук развучыўся частаваць яго чаем, баршчом, раней так не было. Шкодзіць яму і вялікая зайздрасць. Так, збоку, меркаваць цяжка, каб жыў там... А так... Ідэальных усюды мала. Усе трохі грэшныя, трохі святыя. Цяпер духоўнасці ў іх менш.

— Я ў гэтае папоўства, братка, не веру. Чалавеку — чалавечае. Што яму — да бога далёка, раўняцца на са-

тану? Ні бог, ні д'ябал за чалавека яго работу на зямлі не зробяць. Чалавеку роўня чалавек, так думаю. Бо калі прыйдзецца там, у будучыні, перад цёмнай безданню, азірнуцца назад, на бога ды на сатану нічога не спішаш.

— Я хацеў так... вобразна сказаць.

— Разумею. Дык ты як пісьменнік прыдумляй свае вобразы. Сучасныя. Гара Галгофа, ахвярнасць, Пілат. І чаго вас, маладых, у патрыярхальшчыну цягне. Яй-богу, ты толькі не крыўдуй... я, пакуль не чытаў тваё апавяданні, не абвінавачваю. Але ж колькі мы паспелі зрабіць: Пінскі камбінат, Бярозаўскую электрастанцыю, Брэсцкі электралямпавы завод, завод бытавой хіміі ў Баранавічах, швейную фабрыку спартыўнага адзення ў Пінску. Там нашы сучасныя героі, рабочыя рукі, гордасць наша. Яны просяцца ў кнігі. Быў я ў сталіцы... рэдка там у тэатр заходжу, выпала так... Гляджу... Ходзяць тры старыя па сцэне, дзякуюць небу, сонцу, а самі ўсе няшчасныя, забытыя, ну жабракі. Выходзіць, сонцу можна дзякаваць, а Савецкай уладзе? Шэсцьдзесят год мінула, а яна, выходзіць, ні асабістае шчасце ім не дапамагла збудаваць, ні грамадскае. Абсурд. Гістарычная хлусня. Трэба ж разумець і гістарычны працэс адмаўлення: ніколі старому не быць маладым, ніколі вёсцы старой не вярнуць яе былых сіл і славы трыццатых, пяцідзесятых гадоў. Спекулюе аўтар на словах «смерць», «старасць». Заўважай прыкметы свайго часу, калі ты хочаш быць летапісцам, інжынерам чалавечых душ, каб новае пакаленне не асудзіла за выбарачнасць фактаў, крайнасць і падтасоўку гісторыі, фальсіфікацыю. Якія чалавечыя праблемы цябе цікавяць?

— Абавязак, сумленне.

— І Радзіма. Правільна. Правярай гэтыя ісціны жыццём. Не давай сваё ў крыўду. Цяпер, братка, кніжны бум аціхае. Попыт на беларускую літаратуру зусім малы. Цяпер, як ніколі, пісьменніку трэба быць патрабавальным, удумлівым і смелым. Прабач, што я табе ўсё выгаворваю. На душы набалела. Карэспандэнт «Советской культуры» прыязджаў, кажа: «Выступіце, Аляксей Аляксеевіч, на старонках нашай газеты». Адгаварыўся, і мо дарма. Адкладваем так усё на потым. Найперш думаеш: план, план, ураджай, жыллё, медыцына, дзіцячыя садзікі. Даруй, што я так разгаварыўся. Просьба ў цябе нейкая? Адчуваю, што з нечым ты, акрамя гаворкі пра каранцін, прыйшоў.

— Ёсць, Аляксей Аляксеевіч. Менавіта з ёю ішоў да вас.

— Слухаю.

— Дапамажыце, каб аблздраўаддзел паравёў... маю жонку ў бальніцу Давыд-Гарадка. Там ёсць месца... мы ведаем. Надумалі мы пераехаць часова туды.

— Тут непрыемнасці?

— Не. Захацелася змяніць месца жыхарства.

— Разумею. Твая ініцыятыва? А яна не супраць? Цяпер неахвотна едуць у такую глыбінку. Там жыллёвае пытанне востра стаіць, як нідзе. Камунальных кватэр няма.

— Знойдзем што-небудзь. Напішу пісьмо ў гарсавет.

— Бачу, ты сур'ёзна ўзяўся за працу. У прынцыпе пахвальна. Абяцаю, тое, што будзе залежыць ад мяне, зраблю. Для ўрача вопыт правінцыі вялікая школа. Табе героя знайсці пакуль будзе цяжка. Вось каб ты ў нашу Малеч славутую паехаў ці ў саўгас Парахонска, «Аснежыцкі».

— Усюды цікава, Аляксей Аляксеевіч. Стары, некалі славуты гарадок рамёстваў у вечнай вадзе ды снежных сумётах памірае, новы яшчэ не нарадзіўся, нараджаецца. Калі ўдумліва прыглядзецца — мноства цікавага. Апошні з магікан, можна сказаць. У мяне вялікія планы, грандыёзныя, што баюся нават пра іх расказваць.

— Ну, давай! Дзейнічай. Мажліва, я памыляюся. Жадаю поспехаў.

— І вам усяго найлепшага.

— Заўтра ж мне пазвані.

— Дзякую.

— Выйду на пенсію, прыеду на Палессе рыбку лавіць.

— Калі ласка. Можа, і ўбачымся.

— Абавязкова павінны ўбачыцца, Адась. Жыццё доўгае.

Мы развіталіся ў добрым настроі. Я абяцаў яму прыслаць насенне надта пахучай давыд-гарадоцкай мацыёлы. Жонка Крутаярава не можа спакойна ўлетку спаць, калі ў адчыненае акно дачы не даносіцца пах знешне непрыкметнай кветачкі. «На базары ж купіць няма ў каго. Каранцін». Я абяцаў выканаць яго просьбу.

Дашу я падрыхтоўваў да пераезду паступова. Сустрэла яна, не стану падманваць, маю прапанову ў штыкі: каму ж хочацца пакідаць маці, родны горад? Трохі

дапамагло магічнае слова «загадчык аддзялення» — такую пасаду прапанаваў ёй абласны аддзел аховы здароўя. Паўстала адно пытанне: дзе жыць сям'і? Цяпер перада мной гэты ліст. Распячатваем канверт. Літаральна некалькі слоў, надрукаваных на машынцы, у якой западае літара «ж». Нас чакаюць, нам знойдуць невялічкую кватэру ў камунальным доме ля Гарыні! Нарэшце. Як доўга, здаецца, я чакаў гэтай хвіліны вяртання. Першай нас, упэўнены, павіншуе Дашына сястра. Яна выходзіць замуж, і ёй, канечне, хацелася б пачаць сямейнае жыццё каля маці. Я яе разумею. Гэта нават лепш. Адно да другога. Яшчэ паўгадзіны, гадзіна — і вернецца з базару Даша. Я ёй пакажу ліст.

Праводзіў нас у Давыд-Гарадок Толік Бабёр. Ён зарана аблысеў, адгадаваў бакенбарды, хоць на выстаўцы паказвай. З ім прыйшла высокага росту дзяўчына з мужным, валявым тварам. Няўжо жонка?

— Так, Адась. Скруціла мае маладыя гады. Спартсменка. На байдарках і каноэ. Вывезла мяне на сярэдзіну Мухаўца і кажа: калі не ажэнішся, галавой у ваду, і памінай як звалі. Што рабіць? Дзеўка яна ў сіле. Не ведаю, як адкруціцца. Кажу, я хітры, буду цябе падманваць. А яна: «Нічога. Калі хітры, дзеці разумныя будуць. Дыпламатаў выгадуем ці тэлекаментатараў». Напалохала, ёлкі-палкі. Толькі ў гарадку нічога не кажы. Хто ведае, як усё павернецца. Гаворыць, я табе тройню нараджу адразу... Нікуды не ўцячэш. О дзеўкі пайшлі, а? Каб так са старым халасцяком. А вы ў гарадок надоўга ці мо назаўсёды?

— Час пакажа, Толік.

Мушу прызнацца шчыра. Я так жонцы сваёй і абяцаў, што мы пакуль не плануем пераязджаць туды назаўсёды. Усё вырашыць час. Мо мы пражывём там два гады, пяць, мо пераедзем у Столін, мо вернемся ў Брэст, а мо і застанемся ў глыбінцы. Усё будзе залежаць ад нас. Гэта і вельмі прыемна, і адказна.

Каторы раз я еду знаёмай дарогай. Здаецца, яшчэ ніколі не былі мы такія шчаслівыя. Ніколі я так моцна не любіў жыцця, і ніколі яно — жыццё — так не аддзячвала мне сваімі надзеямі, сілай, упэўненасцю і верай. Вось яны, сады Лісовічаў, наша база, будынак заводзіка, мост, Гарынь. Бульбяное поле да самага ладзецкага

лесу. Яшчэ пад Пінскам я хвілін дзесяць паспаў. І трэба ж так, бы па заказу, прысніўся мне сон: вуліцы гарадка ў вадзе ўсе і гароды пустыя, пясчаныя, без адзінай кветкі. У небе гарадка адны чорныя дэльтапланы. Я напалохаўся і пабег па вадзе. Пясок, гліна ў гародах, вужы, якія поўзалі па пустых градах, — усё гэта гняло душу. Я прачнуўся і шчасліва супакоіўся, падзякаваў богу, што гэта быў усяго толькі сон. Шкада будзе, калі зусім перавядуцца майстры-кветкаводы. Гораду майму больш ніколі не быць тым, якім ён прыйшоў у маё, не хочацца пісаць, сіратлівае дзяцінства. Хутка і эпітэт «наша палеская Венецыя» згіне. Канал выратуе мястэчка ад паводак. Вяртаецца маё пакаленне ў родныя мясціны: аграномамі ў калгасы суседніх вёсак, інжынерамі на завод, медсёстрамі, бухгалтарамі і механізатарамі. Усяго, што было, ужо няма, усяго, што будзе, яшчэ няма — так кажа французская прыказка. Як гэта важна і надта ж патрэбна чалавеку — захаваць і памнажаць свой талент, пераемнасць традыцый духоўнасці — вось шлях да захавання непаўторнасці сваёй асобы і ўрэшце — узмацнення веры ў жыццёвы аптымізм і бессмяротнасць свайго народа.

Вось і ўсё. У нас па-ранейшаму ўсё яшчэ трыста пяць рублёў доўгу і мільёны секунд вечнасці, як кажа Воўк. Я ведаю, пра што мне хочацца пісаць. Нясцерпна цягне мяне да стала, я нават магу сказаць вам, паважаны чытач, як будзе называцца мой раман. Ён будзе мець назву «Тры шчаслівыя дні бабы Лісаветы». Я ведаю, пра што мне пісаць! Я хачу напісаць пра цётку Сароку, якая на маё пытанне, навошта вам, цётка, столькі дзетак, сурова адказала: «Каб было каму адпомсціць за смерць майго чалавека, калі новы вораг пасунецца на нас». Я хачу напісаць пра Глеба Іванавіча. Мне страшэнна цікава даведацца, як ён спаў на рыштаванні, на адной вузенькай дошцы. Мне хочацца паведаміць пра вытокі жыццялюбства майго народа — беларусаў. Я мару напісаць пра даярку Кацю. Яна жыла насупраць нас і адна з усёй вуліцы хадзіла шмат гадоў за пяць кіламетраў на ферму. Мне ніколі ў жыцці не ўдавалася ўстаць раней за яе. Толькі я выбягаў на вуліцу — у глыбокім снезе была ўжо пратоптана цёткай Кацяй вузенькая сцежка. Я напішу пра Андрэя Пяршая, камандзіра падводнай лодкі. У яго нікога не засталося ў гарадку, але ён штогод прыязджае на тры дні. Жыве ў

маленькай гасцініцы і вудзіць з доктарам Самсонам рыбу ў Гарыні. Што яго цягне сюды, чым поўніцца яго душа? Эдуард працуе ў міліцыі. За той учынак з цешчай у час каранціну ён нават не атрымаў вымовы. І гэта мне цікава. Улада пакрывае ўладу.

Стары мой гарадок нехаця адыходзіць у гісторыю, павольна, асцярожна, бо таксама асцярожна нараджаецца новы. Я веру, што раман павінен атрымацца, бо ў душы бурліць любоў, нешта прыемнае і добрае. Я нават гатовы пабегчы да Воўка-пустэльніка і крыкнуць ад форткі: «Я, здаецца, разгадаў тайну чалавека! Гэта неўміручасць духу і бессмяротнасць дабраты, дзядзька Воўк!» Але мне сорамна. Я ўспамінаю, што дагэтуль так і не пасадзіў дрэва, якое абяцаў яму пасадзіць.

Мне застаецца сказаць і вам добрае слова ўдзячнасці, паважаны чытач, што знайшлі час выслухаць маю споведзь. Я паспавядаўся, і на душы ўсё ж зрабілася лягчэй. Бо ты ж народ, а мой народ і ёсць бог для мяне таксама. Пасядзім на развітанне на чамаданах. Памаўчым. У кожнага з нас таксама ёсць, былі: Маці, Бацька, Дзед, Баба, прадзеды, родны кут... Калі ў вас пад рукамі старыя пласцінкі і бацькоўская рыпучая радыёла, уключыце, пастаўце, калі ласка, «Амурскія хвалі», так заўсёды любіў рабіць Глеб Іванавіч. «Для ўдахнавення», — казаў ён. Тое ж самае зраблю і я.

Вось і ўсё. Застаецца толькі напісаць у канцы, як любіць пачынаць пісьмы цётка Поля: «з лепшымі прыветамі і масай найлепшых пажаданняў» да вас, дарагі чытач, Адась Доля, трыццацігадовы малады чалавек.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Багата прабегла зменлівага часу. Для заключнай, апошняй часткі маёй споведзі — эпілога — хацелася знайсці эпіграф. Працуючы над сваім раманам, я чытаў, безумоўна, і шмат кніжак вядомых і зусім невядомых пісьменнікаў. Два эпіграфы запалі ў душу і, дапамагаючы адзін другому, жорстка выцеснілі ўсе іншыя. Мне яны так спадабаліся, што я, дарагі чытач, рызыкнуў не выносіць іх паасобку на самы пачатак эпілога, а нагадаць іх — непасрэдна ў тэксце.

Вось першы, які належыць геніяльнаму рускаму пісьменніку Льву Мікалаевічу Талстому: «Вечная тревога, труд, борьба, лишения — вот необходимые условия, из которых не должен сметь думать выйти хотя на секунду ни один человек».

Мне трошкі крыўдна і сорамна перад вамі, удумлівы чытач, што я бездапаможны і бяссільны ўратаваць для свайго гарадка Гарынь. Трэба паспрабаваць, ведаю. Мне здаецца, што і маці падтрымала б мяне, ды і не толькі яна адна. Больш таго, ёсць добрыя прыклады — уратавалі ж свае рэкі рускія людзі. Меліяратары з дазволу высокага кіраўніцтва адводзяць нашу Гарынь, зменьваюць яе русла. І застанецца гарадок мой сіратою, як чалавек. Неяк дзіка і страшна ўявіць добры, новы, дарагі бетонны мост пасярэдзіне Давыд-Гарадка без ракі. І людзі маўчаць. Чым, кім яны так напалоханы за апошнія дзесяць—пятнаццаць гадоў, што так пакорна з усім згаджаюцца? Дай мне, божа, сілы разабрацца ва ўсім тым, каб сэрца маё не поўнілася злом і каб я не жадаў зла свайму люду.

Калі вам давядзецца па нейкай прычыне пабываць у Давыд-Гарадку ці вас туды выпадкова закіне лёс, не шукайце маіх знаёмых: Глеба Іванавіча, Макара Бабра, хроснага, Толіка Бабра і Ваньку Гасцюшкіна, Урбановіча і Трыфана Долю, Юрка і бабу Лісавету — усе яны, на вялікі жаль, пакінулі нас назаўсёды, каб вярнуцца на Аселіцу дрэвам, травінкай, дажджом, святлом зоркі.

Калі ж дзе-небудзь на маскоўскім, ленінградскім, чэлябінскім, мурманскім базары вы раптам напаткаеце яшчэ ў здароўі жонку Клубышка, цётку Полю, Кулькіна ці некага на іх падобных, не пытайцеся ў іх пра мінулае жыццё. Неахвотна яны ўспамінаюць пра яго. Калі Кулькін будзе не ў гуморы, ён адкажа за іх і за сябе: «Бывае пітво гідота, а не адарвеш ад рота! Так і наша жыццё. Міне забава, і я буду пава. Так шчо, чалавеча, не судзі мяне, калі не жывеш адным са мною жыццём». Тут якраз месца і эпіграфу вялікага французскага пісьменніка Анарэ дэ Бальзака, які ў свой час смела прызнаўся: «Смерць непазбежная, забудзем аб ёй!»

Жыццё бясконцае, няхай шчасціць жывым, і няхай яны поўняць сваёй непаўторнасцю новыя кнігі. Трэба знайсці сілы і смеласць насіць у сабе мінулае, і яно дапаможа не баяцца смерці. Ave vita!

# РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

## ЦЯЖКІ ПАНЯДЗЕЛАК

Карней скінуў з сябе коўдру, колісь чуў па тэлевізары параду такую: калі чалавек не можа заснуць, то няхай паляжыць мінуту без коўдры. На патрэсканых пятах, на пальцах, знявечаных мазалямі, адчуў непрыемны халадок, нацягнуў коўдру на сябе, вейкі раз-другі самкнуліся, і яшчэ праз мінуту цар-сон ахутаў яго.

У дзверы нехта моцна стукаў. Брахаў Шурупчык. Карнею здалося, што спаў ён не мінуту, пяць, а доўгую ноч. На парозе стаяў сусед яго, Зыль, а з ім яшчэ два незнаёмыя чалавекі.

За плотам віднеўся верх легкавой машыны.

— Ці ты, пане-браце, Шурупчыка не карміў? Суседа не пазнае, — папракаў Зыль, заходзячы ў хату. — Паганы сабака. Праходзьце, таварышы. Прывёз да цябе, Карней, кватаранта. На тры тыдні аж!

— Гэта ж, Федзя... у мяне ж людзі жывуць, — разгубіўся ад няёмкасці Карней.

— То людзі... а гэта паважаныя таварышы. Вядомы пісьменнік...

— Мастак, — паправіў Зыля адзін.

— О, мастак. Усё блытаю. Карціны малюе, разумееш? Я сваю хату прапанаваў, але ж таварыш толькі да цябе захацеў, Карней. Твая хата на самым высокім месцы ў вёсцы. Так? Даляглядыі наўкол. А з другога паверха і возера, і прыпяцкія лясы ўсе, пане-браце. Прымай гасцей.

— Калі такое дзела, то канешне... Пакояў хапае. Там у мяне людзі, а вось гэты... вокнамі ў сад, калі ласка, калі ўжо надумалі да мяне, значыцца.

— Я б хацеў на другім паверсе, — казаў слабым голасам старэйшы.

Відаць, чалавек стаміўся за дарогу, падумаў Карней.

— Там не прыбрана. Маленькі куточак, яй-бо, цесна будзе. Сюды лепш. Клубніка пахне як мае быць.

— Мне лепш на другім паверсе. Колькі вы просіце? Я заплачу, — казаў старэйшы ўжо больш упэўненым голасам.

— Ну, як-небудзь дамовіцеся. А што ў цябе там, Карнею, золата, га? — гыкнуў Зыль і зарагатаў. — Пасля ж Сашыка ніхто і не жыў. Таварыш паважаны. Дагадзі.

Карней моўчкі пачаў шукаць у шуфлядцы ключ. У былы пакой Сашыка ён не хадзіў ніколі, трымаў яго замкнуты і, сам не ведаючы чаму, баяўся пускаць туды кватарантаў, як быццам нешта з імі абавязкова павінна было там здарыцца. Праганяў ад сябе такую думку, а яна вярталася зноў.

— Вось гэта дзела, — сказаў Зыль і панёс на другі паверх чамадан. — Я тут недалёка, па суседству. Калі што патрэбна будзе, дык праз Карнея дайце знаць. О, як тут файна. Калі вам спатрэбіцца мядок, дык знойдзем. Дабранач вам. Да заўтрачка.

Пакойчык сваім вялізным акном на паўсцяны нагадваў майстэрню мастака. Драўляны ложак, засланы зялёнай даматканай дзяружкай, столік ля акна, крэсла ды фотапартрэт сына на сцяне — вось і ўсе рэчы, што былі ў пакоі. Мастаку пакойчык вельмі спадабаўся, ён зняў мокры плашч, кінуў на дужку крэсла, павярнуўся да Карнея.

— Дзякую вам... Карней, як вас па бацьку?

— Міронавіч.

— Карней Міронавіч. Будзем знаёмы. Я — Віктар Кананові. Жывапісец. Мне ўсё падыходзіць і падабаецца.

— То няхай так, то й добра... — не знайшоў што адказаць Карней. — Таварышу вашаму магу прынесці раскладушку. Цесна тут другі ложак ставіць.

— Пастаўце яму раскладушку ўнізе. Вось што, ці ёсць у вас ліхтарык?

— Маю. «Дайман». Зараз прынясу.

— Дзякую.

Карней прынёс байкавую коўдру, «дайман», праўда, святло ад яго было слабенькае — адсырэлі батарэйкі.

— Старшыня калгаса Герой? — нечакана спытаў Кананові, калі Карней ужо спускаўся ўніз.

— Пакуль чакае. Неяк з гады два казалі людзі, што меў атрымаць. Падзёж на ферме перабіў... бульба пагніла, яшчэ нешта, не далі, адным словам.

— Ясна. Добрай ночы
— І вам дабранач.

Другі, як здагадаўся Карней, шафёр Канановіча, упаў на раскладушку і праз хвіліну ўжо смачна соп. Суха рыпела падлога над галавою. Карней у душы сваёй на нейкі момант адчуў радасць: у яго хаце людзі. А мо гэта нечаканая кропля радасці напоўніла яго душу ад таго, што ў пакой Сашыка пасяліўся такі важны і вучоны чалавек, які малюе карціны? Сам жа Карней век не выбіраўся да сталіцы, не быў у музеях, у кіно, у тэатры, нават у цырк узімку не згадзіўся паехаць. Думалася і такое: «Чорт яго прынёс. Мо яшчэ не тое што трэба ляпнеш, не дагодзіш чым-небудзь. Ай, Зыль, халера гэта... — І ўжо хваляванне ахапіла Карнея. — Павёз бы да настаўнікаў ці вунь да дырэктаркі Максімаўны. Чалавеку цікава з разумнейшымі людзьмі і пагаварыць і спытаць. А я хто? Я ж акрамя карціны «Утро стрелецкой казни» Сурыкава нічога не ведаю. Ай, халера, яй-бо, няёмка будзе», — ужо папракаў сябе Карней за згоду ўзяць Канановіча.

Стомленыя лянотаю сонечнага дня, ўкладаліся спаць маладыя кватаранты Сяргей і Ліза, якія спалі ў адным ложку і пілі з агульнай шклянкі, аднак Сяргей ніколі пры Карнею, на людзях не называў Лізу сваёй жонкай. Спачатку Карнею і карцела спытаць, ды ўтрымаўся. «Не кажуць людзі самі, мо непрыемна ці нешта хаваюць? Мо й неабавязкова ўсім пра іх ведаць». Рыпнулі дзверы форткі. Шурупчык (невядома кім у вёсцы так названы) не прамінуў адгукнуцца, высунуў пысу з будкі, гаўкнуў раз-другі ды да форткі так і не пабег, мо спужаўся дажджу, а мо загадзя ведаў, чуў, што ідзе Фёдар, яшчэ адзін кватарант, якога Карней лічыў за старога знаёмага. У хату не пойдзе. Фёдар прыязджаў трэцяе лета і заўжды начаваў толькі на сене.

І зноў цішыня. Толькі дробныя, нібы проса, кроплі дажджу сыпалі на бляшаны дах. Усё спрыяла сну: стомленае за дзень цела, ціхі начны дождж, свежае паветра, што нёс лёгкі ветрык у адчыненае акно, мяккая духмяная падушка, якую ўлетку Карней па завядзёнцы набіваў свежым сенам. І ўсё ж не спалася. Не супакойвалася душа, нібы чакаючы, што нехта абавязкова павінен у адзінаццатай гадзіне пастукаць у акно, як калісь стукаў яго сын, прыязджаючы з горада на выхадныя, стукаў у шыбу знарок, як пароль, падаваў свой уласны сіг-

нал. Вось ужо трэці год ніхто не стукае ў гэтую шыбу. Няма больш каму вяртацца да бацькі. Загінуў студэнт-біёлаг універсітэта, вясёлы, нават гарэзлівы Сашык. Карней неяк і сам не заўважыў, як пасля пахавання пачаў замыкаць дзверы. Начная цемра невядомая і таямнічая — нечакана пачала палохаць яго. «Ад адзіноты, — казаў яму сусед. — Пусці на лета кватарантаў ці зусім вазьмі на кватэру фельчара альбо настаўніцу. Павер, пане-браце, ад адзіноты».

Каб заснуць неяк, пачаў перабіраць у памяці падзеі мінулага дня. Ат, якія там падзеі: падаіў кароўку, адрэзаў лусту хлеба, кавалак сала (але не снедаў, а толькі выпіў шклянку малака), загарнуў хлеб з салам у паперу, памыў гумавыя чобаты Сяргею і Лізе (мо надумаюць пайсці на рыбу), акуратненька паставіў іх на ганак, дастаў з калодзежа вядро вады — няхай на сонейку грэецца, а то гарадскія не прывыклі мыцца сцюдзёнай, фыркаюць, брыкаюць, ахаюць, асабліва Ліза. Далей... пайшоў на нарады.

Прыехаў на аўтобусе Грыцко. Аблаяў усіх матам, маўляў, лянуюцца работнічкі ўжо прайсці пешшу да канаўкі. Яму бензін эканоміць трэба. «Свет задыхаецца, паліва не стае, а вы, паны-бароны. Ух, распусцілі вас».

Яму ніхто нічога не адказаў.

Што ж далей?

Кульгавы Яська казаў, як яго ўчора панёс раптам спуджаны конь... Што ж далей?

«Ат, сіла нябесная, мазгі чалавека. Ужо і не памятаю, што далей было», — думаў Карней.

За трыццаць кіламетраў ад старажытнага Давыд-Гарадка на левым беразе Гарыні ляжаць Карнеевы Ляды, ніжэй па рацэ да вусця яшчэ адны — Ніжнія Ляды, ужо зусім невялічкая вёска, лічы, на хат якіх-небудзь дваццаць—трыццаць не болей. Стуль, як гэта было даўно-даўно, браў Карней калісь сабе жонку, дачку рыбака.

Ляды, у адрозненне ад Ніжніх Лядаў, ніколі ніхто не называў вёскай, а толькі сялом. Старыя людзі казалі, гэта таму, што ў Лядах была праваслаўная царква — таму і сяло. Цяпер жа, гадоў з пяць, як памёр апошні свяшчэннік прападобны айцец Нікадзім, царкву староста замкнуў, і службы больш не правілі. Хадзілі старыя маліцца ў Давыд-Гарадок. Акрамя царквы і чырвонага, яшчэ раней знямелага, касцёла XIX стагоддзя, напала-

віну разбуранага, мела сяло Ляды невялічкую драўляную школу, цагляны двухпавярховы будынак праўлення калгаса «Зара», маленькую, з акенцам у падмурку драўляную будачку — усю зрэзаную сцізорыкамі, якую ўсе гучна звалі — аўтастанцыя. Кожны дзень раніцаю чыхаў у Ляды з Давыд-Гарадка адзіны стары «пазік», на якім у суботу мянялі шыльдачку на «Ляды — Столін». У раён народ ездзіў хіба што з вялікай патрэбы. Новага клуба Ляды не мелі. Драўляны, сточаны шашалем ад падмурка, складзены з вялікага каменю, будынак яшчэ пры панах служыў хатай прыслузе гаспадара-памешчыка. Круцілі тут гадоў дзесяць кіно, праводзілі калгасныя сходы ды прымалі рэдкіх самадзейных артыстаў з Давыд-Гарадка на працягу ўсяго тысяча дзевяцьсот восемдзесят першага года.

Карней ніколі не прапускаў ніводнага прыезду артыстаў. Аднойчы нават не вытрымаў і спытаў у мясцовага кіраўніка пра адну вельмі цікавую рэч, якую кожны раз чуў сам і на канцэртах і па радыё:

«А што такое алегра нейкае?»

«Хутка. Значыць іграць трэба хутка, разумееце?» — адказалі яму.

Карнея слова гэта цікавіла як у нейкай ступені прафесіянала. Ён меў уласны трафейны італьянскі акардэон і цяпер, калі прыходзілася іграць на рэдкіх вяселлях, дзе ён быў самы паважаны, вядома, пасля маладых, чалавек, не мінаў выхваляцца новым словам. «Танец у духу алегра!»

Трэцяе лета прыязджаў Фёдар у свой адпачынак да Карнея, ішоў да брыгадзіра і наймаўся на гэты месяц на палявыя работы. Калгаснікі ветліва сустракалі хлопца, ведаючы яго як далёкага сваяка Карнея, хоць Карней усім казаў, што гэты сціплы барадаты малады чалавек з сумнымі вачыма ніякі яму не сваяк, а такі ж кватарант, як і астатнія, якія прыязджаюць да лядчан на лета.

Пра сваё жыццё ў горадзе, пра сваю працу Фёдар ніколі і нікому не гаварыў, а калі жанчыны і цікавіліся, ці жанаты, ці мае кватэру, адказваў напаўжартам, што таму і прыязджае штогод, што хоча знайсці сабе жонку з вясковых.

Спачатку нейкая таямнічасць, што нутром угадваў Карней у Фёдара, хвалявала і непакоіла яго. Былі падазрэнні нават на нейкую хваробу.

«Што цягнула яго ў вёску? Чаму менавіта ён спаў на сене, а не ў хаце, чаму часта блукаў адзін па лесе, па лузе, ля ракі, не піў віна, самагонкі (за што не мінулі ахрысціць яго «баптыстам»), чаму не сябраваў ні з кім?»

Напачатку гадаў, меркаваў Карней: адкуль такая працавітасць у Фёдара? Падабалася ў хлопцу прыродная гаспадарлівасць. Аж дзівіўся, як спрытна Федзя ўмеў чысціць комін, даіць карову, даглядаць парасят. «Не. Відаць, ён з вёскі. Як спрытна касіць, хутка запрагае каня. А як ёмка паліць вусеніц на яблынях, нават не падсмаліўшы цвету. Мабыць, з вёскі родам». Яшчэ падабалася Карнею, што ўсё Фёдар рабіў з вялікай ахвотаю і ўвагаю. Мо таму і зайздросцілі суседзі: «О, бог паслаў рабацяшчага кватаранта. І грошай не трэба».

А старая Скупіха казала:

«Гэта бог яму паслаў памочніка за сыночка забітага».

Сёлета Фёдар прывёз у падарунак Карнею транзістарны прыёмнік «ВЭФ».

Толькі мо адзін Зыль і казаў: «Ай, украў недзе. Не паверу, каб на яго заробкі ў горадзе можна было купіць прыёмнік. Украў».

Фёдар прачнуўся, як толькі пачуў, што гаспадар сеў на ровар і махнуў на рыбу. Не залежваўся ў цяпле. Скочыў з вышак, падцягнуўся, нібы на турніку, на галіне старой грушы, дастаў з калодзежа вады, памыўся, наліў вады ў міску на долю кватарантаў і пайшоў даіць карову. Працадзіўшы малако, наліў у пяцілітровы слоік, вынес да варот і паставіў на шулу. Па бруку адзінай вуліцы Лядаў грукала падвода з фермы, забіралі лішкі малака.

Раней звычайнага прачнуўся ў гэтую раніцу і Сяргей. Ім з Лізай гаспадар уступіў самы вялікі пакой з нікеляваным ложкам, з новай шафай пад адзежу. Яшчэ ля акна стаяў стол, накрыты недарагім абрусам, два крэслы, а ў кутку вісеў абраз святога Міколы-ўгодніка. Сяргей нарадзіўся ў сям'і настаўнікаў матэматыкі і вырас у хаце без абразоў і прыкмет рэлігіі. Удала, з першага заходу, паступіў у радыётэхнічны інстытут і ўжо два гады як паспяхова яго закончыў. Пайшоў, маючы сталічную прапіску, працаваць у навукова-даследчы інстытут фізікі. Упершыню мо ў жыцці ён бачыў сапраўдную ікону, мог крануць яе рукой. Ліза ж адразу прасіла Карнея

прадаць ікону ім. Карней не згадзіўся. Гэта адзінае, што засталося ў яго як памяць аб маці. Ліза прасіла неяк зноў. Тады Сяргею такое нахабства і не спадабалася. Ці мала што можа падумаць пра іх Карней?..

Ліза сярдзіта адказвала: «Іх бог ужо нікога не цікавіць. Грошы і гарэлка, хіба не бачыш» — і нагадала Сяргею выпадак у дарозе, калі яны стрэлі п'яных на аўтобуснай станцыі ў Давыд-Гарадку. «І ты прапаноўваеш мне глухамань, не кранутае цывілізацыяй Палессе. П'янь», — дакарала яна Сяргея. На што Сяргей адказаў, што, маўляў, гэта выпадковасць, нядзеля, што наогул Ляды цудоўнае месца і што яго шэф, доктар навук, праводзіць жнівень менавіта тут, а яму верыць можна, як-ніяк чалавек бываў і ў Англіі, і ў Карлавых Варах, і на Балатоне. «Бываў ён, ды не ты!» — як бы папрокам, зноў укусіла яна самалюбства Сяргея. «Прыйдзе час, паеду і я». — «Ага. Калі пойдзеш на пенсію, мо назбіраеш грошай».

Мінуў тыдзень, як яны прыехалі і знайшлі кватэру ў Семенчука. Тры дні Ліза знаходзіла цікавасць у сапраўды незвычайна прыгожым пейзажы, які адкрываўся вакол Лядаў, радавалася цёплай Гарыні, смачнаму хлебу, які прывозілі з Давыд-Гарадка. Пачаліся дажджы. І мо менавіта таму і сумавала апошнія дні Ліза. Часам такі ж сум як бы без прычыны ахопліваў яе і ў сталіцы. Аднойчы застаў ён яе на рабоце, а працавала Ліза сакратар-машыністкай у каапсаюзе, са слязьмі на вачах толькі з-за таго, што яе сяброўка Міла, з якой разам рыхтаваліся ў тэатральны інстытут, ужо купіла сабе дарагі плашч з натуральнай скуры, а яна не мае такога плашча, што маладыя гады ляцяць, а ёй на яе семдзесят рублёў ніколі такога плашча і не купіць.

Жыла Ліза разам з маці, перакладчыцай, знаўцай італьянскай мовы. Пасля інфаркту, праўда, маці кінула педагагічную дзейнасць і брала часовую працу дамоў з гандлёвай палаты. Грошай не хапала. «Дзіця. Сляпое і самалюбівае да хваравітасці», — падумаў ён тады, пяшчотна супакойваючы і абяцаючы памагчы.

...Ліза яшчэ спала, агаліўшы сваю ўжо зжаўцелую ад загару спіну. Сяргей ледзь чутна крануў гарачае цела далонню, правёў ласкава да шыі.

— Кажу, адстань, — патрабавала яна, пацягнулася рукой да падаконніка, узяла пачак цыгарэт, закурыла. — Нехта ноччу прыехаў ці мне здалося?

— Прыехаў. «Волга» стаіць пад акном, — адказаў Сяргей.

Яна прыўзнялася на локцях, глянула ў акно:

— Нябеснага колеру. Людзі «Волгу» купляюць, а ты ікону вытаргаваць няздольны.

— Што ты прычапілася да гэтай іконы? Верыш, ці што?

— Модна.

— Ага. Не ўсё, што модна, чалавеку патрэбна.

— Ай, не філасофствуй. Надакучыла. Хачу жыць так, як мне хочацца. Толькі не гавары сваё «як усе жывуць». Хачу не як усе. Ну, што ты сёння прапануеш у гэтым казачным краі? — яна глыбока зацягнулася дымам.

— Можам пераправіцца за Прыпяць на станцыю Лахва.

— А там што?

— Паходзім па магазінах, паабедаем у рэстаране.

— Дзякую. Я сытая айчынным шырпатрэбам і ў Мінску. Паабедалі ўжо ўчора ў Тураве. Усю ноч муціла.

— Там, кажуць, добрая кнігарня.

— Ага. Бяжы, выклалі на паліцы, цябе чакаюць. Навучыліся ўжо і тут сваім з-пад прылаўка даваць. Кавы чорнай папіць не магу.

— Бывае, трэба адпачыць і ад кавы.

— А што ж табе застаецца казаць? Праб'ецца сонца, разбудзіш.

Яна патушыла цыгарэту, акуратна паклала акурак у вялікую шкляную попельніцу, павярнулася зноў да сцяны і накрылася коўдрай.

Што цягнула Сяргея да яе, што вабіла ў гэтай рэзкай, часам свавольнай не па гадах дзяўчыне з вялікімі карычневымі вачыма? Ён не мог адказаць на гэтае пытанне. Другі год з невялікімі перапынкамі цягнуўся, ажываў, цвіў буйным цветам іх раман. Яна не любіла і не слухала, калі ён раней расказваў ёй пра сваю прафесію, работу, навіны ў навуцы, і ён згадзіўся, больш гаворкі не заводзіў. Яе не цікавіла, чым і як жывуць яго бацькі, і ён ніколі не ўспамінаў пра іх. Яе раздражняла, калі ён прапаноўваў пайсці на балет, у оперу. Наведвалі часам кіно, у асноўным замежныя стужкі. Большасць часу сядзелі ў кавярнях ці бавілі час у дыскатэках. Маці якраз знаходзілася ў бальніцы, і Ліза панавала ў кватэры адна. У іх блізкасці было нешта механічнае, чужое.

Адначасова Сяргей той восенню сустракаўся з аднакурсніцай, у якую, як лічылі хатнія, быў закаханы. Тыднямі, здаралася, не бачыў ён Лізу, не званіў, а забыць не мог. Яна пры сустрэчы не цікавілася, чаму не прыходзіў, чаму не званіў. На яго пытанне — ці сумавала, адказвала «сумавала». І ў голасе, і ў інтанацыі была шчырасць.

Ці думаў ён жаніцца? Наўрад. Абаім было добра і спакойна, і кожны як бы жыў без абавязкаў, вольна.

Выйсця пакуль што не шукаў ды і не ведаў, ці варта было знаходзіць. Паездку на Палессе ўяўляў не інакш як пажыць разам, даволі працяглы час — дваццаць чатыры дні. Ці вытрымаюць абое, ці знойдуць нешта агульнае, акрамя сексу? Пачуццё трывогі, разгубленасці і нейкага здзічэння ахапіла яго сёння, як ніколі раней.

Навошта планаваць, правяраць, калі няма цвёрдай упэўненасці ў неабходнасці адно другому. Яму нават зрабілася ніякавата ад адной думкі прапанаваць ёй сваю руку і сэрца.

«Чаму ўсё так звыкла, будзённа, нервова?»

Стары насценны гадзіннік з запэцканым шклом на цыферблаце адбухаў дзевяць разоў. І спаць не хацелася, і ўставаць не было патрэбы.

Карнею ўсё ж пашанцавала: нездарма мок! Прывёз восем чырванапёрак, пяць акунькоў з далонь, адзін у адзін.

— Федзя, давай чыгунок ды чысці бульбачку. Пачастуем госцікаў нядзельнай юшкай палескай, — задаволена сказаў ён Федзю, высока падымаючы нізку з рыбай.

Ля калодзежа Сяргей палівал на рукі Лізе з вялікай кварты.

— А што, сёння сталоўка не працуе? — спытаў Сяргей.

— Выхадны.

— Пачынаецца, — буркнула Ліза.

Карней не чуў, хуценька ўзяўся чысціць рыбу, выкінуўшы капшукі ды кішачкі ў міску Шурупчыку. Той, праўда, толькі панюхаў, есці не стаў, дазволіў гэта зрабіць курам. Карней глянуў на вокны другога паверха. Там, перад шыбай, стаяў у задуменні Кананові́ч,

глядзеў удалячынь, не заўважаючы Карнея. І, як здалося гаспадару, мастак плакаў.

Фёдар ужо круціўся ля газавай пліты, забраў рыбу.

Карней нясмела падняўся на другі паверх.

Дзверы былі крыху адчынены, і праз дзірачку Карней добра бачыў новага кватаранта. Так, ён не памыліўся, той дастаў з кішэні хустачку і выцер вочы.

Карней, каб, не дай бог, чалавек не падумаў што дрэннае, пастукаў у дзверы.

— Калі ласка, — пачулася з пакоя.

— Добрай раніцы, — пачаў з парога Карней. Ля акна стаяў мальберт, на крэсле — фарбы, пэндзлі.

— Добрай раніцы.

— Я пра тое, што сёння ў сталоўцы нашай выхадны. Дык праз паўгадзіны просім разам з намі паснедаць. Юшка палеская будзе.

— Дзякую. З вялікай ахвотай.

Больш Карней не знайшоў што сказаць ды і палічыў, што ён тут лішні.

«Чалавек працуе, а я блытаюся».

Чым больш думаў пра Кананові́ча Карней, тым больш непакоілі яго мастаковы слёзы. Седзячы за адным сталом, ён усё больш цішком назіраў за новым чалавекам. Кананові́ч спусціўся ў чырвонай кашулі, з чорнай хустачкай на шыі. Яго сівая шавялюра была акуратна зачэсана. Трымаўся ён вельмі спакойна і быў уважлівы да ўсіх, асабліва да Лізы. Па чарзе пазнаёміўся з усімі сам. Шчоўкнуў пальцамі нечакана, як быццам нешта ўспомніў, па-маладзецку ўзляцеў да сябе на другі паверх, прынёс бутэльку азербайджанскага каньяку.

— А вы чаму, Карней Міронавіч, толькі прыгубілі? — здзівіўся Кананові́ч.

— Не ўмею я гэта піць. Людзі кажуць, з нафты. Лепш белую.

— І белая цяпер з нафты, — уставіў Фёдар.

— Трэба выпіць, пакуль п'ецца, пакуль гуляецца, — казаў Кананові́ч, зноў разліваючы каньяк.

Елі юшку, чуліся кампліменты. Ліза маўчала. Ёй як быццам было за нешта сорамна.

— А што, Карней Міронавіч, моладзь пакідае вёску? — зусім нечакана спытаў Кананові́ч.

— А што ёй рабіць? Пакідае. Мо некалі апамятаецца, ды позна будзе.

— Ісціна.

— А чаму позна? — не зразумеў Сяргей.

— Цяжка будзе. Горад да ляноты прывучае. А на зямельцы працаваць трэба.

— Калі хочаш мець грошы (а іх цяпер усе хочуць мець), усюды працаваць трэба — і ў горадзе, і ў вёсцы. Справа ў тым, што больш нормы не дадуць зарабіць, — сказала Ліза і глянула на Кахановіча: як ён адрэагуе на яе словы.

Кахановіч сёрбаў юшку, быццам не пачуўшы яе слоў.

— А на што іх мець, грошы? Ёсць за што хлеба з'есці, на свята гарэліцы выпіць, і дзякуй богу, — напаўжартам адказаў Лізе Карней.

— І па біблії нешта падобнае. Дасць бог дзень, дасць і ежу, — Кахановіч дастаў хусцінку і акуратна выцер губы.

— Вы мне прабачце, Віктар Сяргеевіч, а колькі атрымліваеце вы за адну карціну? — спытала Ліза, гледзячы ў твар мастаку.

— Ліза, — штурхануў яе Сяргей.

— Калі, вядома, не сакрэт, — дадала яна, не звяртаючы ўвагі на Сяргея.

— Не сакрэт. Па сутнасці, усё залежыць ад мноства фактараў, узроўню майстэрства, магчымасцей заказчыка і тэмы. Прыблізна... сярэдняе, як у нас любяць выводзіць — чатыры тысячы.

Узнікла непрыемная паўза.

Першы пачаў гаворку Карней.

— Пра гэту сярэднюю, о, дальбог, хоць анекдот запісвай. Гадоў мо з пятнаццаць таму прыехаў да нас з горада сацыёлаг нейкі там. Да мяне прыстроілі. Кажа, буду вывучаць вас для нейкай статыстыкі, каб вывесці звесткі па калгасніках. Як бюджэт разыходзіцца. Тады наш калгас ледзь дыхаў, хоць ён і цяперака не здароў быць чыхае. Працадні тады пісалі, а разлічвацца — як бог дасць. Жонка з фермы дзесяць—пятнаццаць рублёў за месяц прыносіла. Пажыў ён месяц, прыехаў праз некаторы час, яшчэ на месяц. Пісаў усё нешта. Пытаю неяк, як там ваша сярэдняя атрымоўваецца? А ён і адказвае... Калі я, кажа, асмелюся надрукаваць мае доследы, мяне пасадзяць. Пытаю: у акадэміі? Не, адказвае, у турму.

Усе зарагаталі.

— Што й казаць — цяжкія часы перажыла наша вёска, — Кананові́ча цягнула паразважаць. — Былі катаклізмы. Затое цяпер мы бачым: камбайны, трактары, чарапіца, калійныя ўгнаенні, самалёты. НТР, так сказаць, а ля натур. Жыць стала лягчэй і цікавей.

— Вось толькі жыць няма каму, — упершыню ўставіў свае слова шафёр Кананові́ча.

— Твая праўда, Пятро. Не буду ўсё валіць на адну моладзь. Віна ўсіх. Усё ўзаемазвязана... усё. Наша з Карнеем Міронавічам пакаленне нясе цяжар найбольшай віны. Напрыклад, у вас як, Карней Міронавіч, дзеці дзе? Б'юся аб заклад, сын у горадзе, так?

Карней не адказаў, аднак усе звярнулі ўвагу на пытанне Кананові́ча і глядзелі на Карнея.

— Майго сына... застрэлілі.

— Прабачце, — ціха папрасіў Кананові́ч.

— Хуліганы? — спытаў Сяргей.

— Не... Ён, як даказалі, напаў ля ГУМа на інкасатара, і той яго застрэліў.

Зноў запанавала цяжкая паўза, і ніхто не ведаў, як весці далей гутарку, пакуль Пятро не пачаў:

— Дзякую гаспадару за смачную юшку. Да сталіцы можна не есці. То паеду я, Віктар Сяргеевіч?

— Добра, дружок. Праз тры, не, праз два тыдні — сюды.

Пайшлі праводзіць Пятра ўсе.

— Ат, шкада, вішні зялёныя. Нарвалі б дзеткам вішанек.

— Нічога, баця. Іншым разам.

Але Карней ужо нёс са сцёбкі паўлітровы слоік марынаваных грыбоў.

— А што, маладыя людзі, пляж тут у вас ёсць? — пацікавіўся Кананові́ч, калі машына знікла.

Сяргей не паспеў адказаць, яго апярэдзіла Ліза:

— Мы вам пакажам, а вы нам за гэта свае карціны.

— Не супраць. Толькі яны пакуль не напісаны, — Кананові́ч недзе глыбока ў душы ўзрадаваўся просьбе. Ганарыстасць, фанабэрыя ўкараніліся ў свядомасці гэтага чалавека, які пасля раптоўнай смерці народнага мастака, акадэміка, выконваў абавязкі сакратара праўлення Саюза мастакоў.

— Шкада, што не напісаны, — як бы сур'ёзна адказала Ліза.

— У прынцыпе ўсё магчыма. Я захапіў некаторыя альбомы. Кнігі. Прашу.

Маладыя пайшлі за Кānановічам.

— А ты чаму, Фёдар, не пойдзеш, не паглядзіш? — спытаў Карней.

— Яшчэ паспею.

— Тады і мяне клікнеш. Разам паглядзім. Нешта гэны каньяк на сон цягне. Пайду дам храпака...

Фёдар маўчаў, думаў пра нешта сваё, асабістае.

Яшчэ ад форткі пачуў Карней знаёмы (хоць не адразу ўспомніў) голас:

— Карнею, сустракай гасцей!

У хату ўкаціўся, як клубок, тоўсты, з куцымі рукамі стрыечны брат Карнея Апанас.

Не выпускаючы невялічкага чамадана, ён горача абняў Карнея і моцна тройчы пацалаваў.

— Чуў, браце, пра тваё гора... пра сыночка... Баба ўсё напісаць мелася... Ды ўсё адно на другое. Ведаеш, ужо не тыя гады, каб з месца зрывацца. Дачка... вось... Ева.

— Ева. Твая? — здзівіўся Карней, аглядаючы дзяўчыну, якая нерухома стаяла ля парога, баючыся ступіць крок далей.

— Падыдзі да дзядзькі, чаго стаіш, як пянёк? — гыкнуў на дачку Апанас. Словы нат спалохалі стомленую за дарогу і крыху санлівую дзяўчыну.

— Не крычы, Апанас. Хадзі, дачушка, я ж цябе абдыму. Вось такую памятаю яшчэ.

Апанас зазірнуў у вялікі пакой, дзе Фёдар прыбіраў са стала.

— У цябе, браце, госці? Скуль?

— Кватаранты.

— Ого, многа?

— Паслаў бог як ніколі. Ажно чацвёра.

Апанас аж свіснуў:

— Наша жылка. Правільна. Па рублю, два бярэш? У Крыму, кажуць, сусед быў, ужо па тры рублі выкалачваюць.

Карней маўчаў.

— Бяры смела па два рублі. Чхай на ўсё. О, за газ бяры. Чайнік даў, бяры грошы. Лектра. Чытаюць, ведаю, як у турме, да раніцы, бяры капейкі і не саромейся, Карней. Купіў машыну, не?

— Не. Каму яна... Дый за што.

— Твая праўда. Сашыка няма, а мы пастарэлі. Гарны хлопец быў. Універсітэт асіліў, а мая, квактуха, на завочнае рыпнулася, і пшык...

Дзяўчына апусціла галаву.

— Правалілася, як швед пад Палтавай. На першым экзамене. А? Сарамата на ўвесь гарадок. Так ляснуцца. Не хачу, каб вочы мае бачылі, вушы чулі. Сораму не вытрымаю. Шчо нюні распусціла, шчо? Б'юць цябе? Не. Замоўкні, ступа, бо заб'ю. Чужога хлопца пасаромелася б.

Ева выцерла хусцінкай твар, супакоілася. Яна і сама не менш за бацьку перажывала сваю няўдачу.

— Забраў яе. Усім сказаў, што дачка, маўляў, прабілася, пасупіла ды паехала да цябе на работу. Я люблю, Карней, ведаеш — дзела і чэсць. На харчы грошай дам. І за навуку разлічымся. Вазьміся, браце, навучыць яе на акардэоне. Мо наступны раз хоць у музвучылішча ўткну, у мяне там рука е. За трыста рублёў возьме. Прашу, колькі трэба, за навуку дам. Пакуль сілы е, зараблю.

— Ды які з мяне настаўнік? Я ж нот не ведаю... На слых іграю. Цяпер без нот ані кроку, — Карнею самому няёмка стала ад уласных слоў.

— У мяне яна нешта рыпае. І ноту ведае. Хадзіла ў музычную школу. З нотамі ці без граматы, а лепш за цябе самы вучоны прафесар не зайграе. Ты ёй сваю хватку перадай, каб шпарыла з заплюшчанымі вачыма. Заробак цяпер у музыкантаў надта добры. У нас пры клубе адна і гарод даглядае, і магазіны ўсе аббегае, і на канцэрту на піяніне гэтага, як яго... Траха, Ева?

— Баха, — ледзь чутна падказала Ева.

— Во! Баха спілікае, і аддай сотню цалковых. Мне, заўхозу ў школе, галаве, можна сказаць, меней даюць. Што датычыць грошай, чэсць па чэсці. Нельга ёй вяртацца ў Ашмяны. Не перажыву я. Народ які пайшоў, не праміне ж падкузьміць, паздзекавацца. Дапамажы, Карнею.

— Калі ўжо кепскія справы, дык няхай застаецца. Месца хопіць.

Карней больш шкадаваў маўклівую Еву, чым крыклівага і настырнага Апанаса.

Апанас зноў пацалаваў брата, дастаў з кішэні паўлітроўку.

Стомленыя за дарогу, госці паснулі. Пад вечар, пе-

рад ад'ездам, Апанас, даведаўшыся, які паважаны госць жыве ў Карнея, не мог супакоіцца, каб не прымусіць дачку сыграць што-небудзь на акардэоне.

Збіваючыся і па-дзіцячы зусім саромеючыся, усхваляваная Ева іграла польку Глінкі, відаць, тое, што добра ведала па памяці. Кананові пахваліў дзяўчыну. Апанаса гэтая пахвала натхніла, і ён паслаў Федзю яшчэ па адну бутэльку, аднак магазін быў закрыты. І без таго Апанас быў добра падпіты. Карней прымусіў застацца нанач. «Дошкі паскуднікі пакрадуць. Прывёз на хлеў дошкі, свалачугі пакрадуць. Трэба ў Ашмяны...»

Даў Карнею сто рублёў, восенню абяцаў прывезці астатнія. Дастаў з кішэні скручаную, старую, крыху падраную пасярэдзіне пяцёрку, даў Еве. «Абы-куды патраціш — заб'ю!» Пацалаваліся на дарогу. Апанас высунуўся ў акно аўтобуса і яшчэ нешта крычаў: з таго крыку толькі і разабралі, што «пішы мацеры, не ляніся-я-а...».

У хаце Карней аддаў сто рублёў здзіўленай дзяўчыне.

— Бяры, бяры, вядзі гаспадарку.

— Дзядзечка, я ж не ўмею. Бацька ж сварыцца будзе.

— Не будзе. Вучыся. Бабскае дзела такое, умець весці гаспадарку.

Ева грошы ўзяла, не ведаючы, праўда, куды схаваць. Мерылася, камечачы ў руках, аж разгубілася і раптам сунула іх у ліфік.

— Ты што, дзеўка, ноччу збіраешся ўцякаць? — спытаў Карней, які, седзячы насупраць люстра, бачыў гэта.

— Не.

— А навошта грошы хаваеш?

— Яшчэ ўкрадзе хто-небудзь. Людзей жа поўная хата. Бацька наказваў быць асцярожнай.

— Не ўкрадуць, Ева. Пакладзі вось сюды, у шуфлядку, і бяры кожны раз колькі патрэбна.

Ева згадзілася нават з нейкай радасцю, быццам грошы пяклі ёй пухкія, поўныя не па гадах грудзі. Пажадала дзядзьку добрай ночы і хуценька заснула.

Карнею дзяўчынка падабалася сваёй стрыманасцю і сарамлівасцю.

Хата зноў напоўнілася (праз колькі гадоў) дыханнем дзіцяці, якім Карней лічыў Еву. Яму нават хацелася надысці, накрыць яе коўдрай, як калісь сына. Душу поў-

ніла радасць і ад таго, што ў суседнім пакоі былі людзі, што гарэла святло на другім паверсе, відаць, чалавек пісаў сваю карціну нягледзячы на позні час. На святло ляцелі начныя жучкі і матылькі, неяк ціха вішчэў у сне Шурупчык, ды цяжка раз-другі ўздыхнула карова ў адрыне.

Велічны начны вясковы спакой, які Карней па-свойму называў «благадаць», як ніколі ў жыцці, ахапіў яго думкі такім узвышаным цяплом, жыццялюбствам, што вочы поўніліся слязою падзякі цішыні, паветру, людзям, што нечакана насялілі яго хату, жыццю. Толькі шкадаваў, што мала пасядзелі. А як яму хацелася слухаць, распытваць пра іх жыццё: як там у горадзе, як у свеце? І ўсё не пакідалі надзеі казаць і пытаць толькі пра добрае і прыемнае. І самому хацелася расказваць пра самыя неверагодныя гісторыі з уласнага жыцця, часам і смешныя. «От, кажы, як чалавек складзены, — думаў Карней, — гэта ж калі супаставіць, дык большасць усіх гісторый, што людзі расказваюць адзін аднаму, — вясёлыя, нечаканыя, пра якія прыемна ўспамінаць і якія трымаюцца ў памяці і застаюцца на ўсё жыццё. А ўсё кепскае, благое і ўвагі не вартае, і забываецца хутчэй».

Вось патушыў святло і Кананові́ч. На нейкі момант у памяці Карнея ўзніклі бачаныя ўдзень слёзы мастака. І чаму плакаў чалавек? Каб сказаць, што хворы, дык не. Мо чалавеку чаго бракуе? Дык вунь нават машыну прывёз, якая каву меле... Тут нешта іншае, і яму, Карнею, не зразумець...

А сляза ў мастака кацілася ад роспачы, што вочы пачалі балець і стамляцца ўсё часцей.

У суседнім пакоі Ліза ў доўгай начной кашулі стаяла ля акна і курыла. Сяргей уключыў настольную лямпу, узяў у рукі томік недачытаных апавяданняў Жыгманта Морыца.

— Патушы, — папрасіла яна.

Ён моўчкі выканаў яе просьбу.

— І доўга будзеш стаяць так?

— Кавы даўно не піла, вось і не магу заснуць, — адказала яна, зноў пачынаючы прыкурваць новую, трэцюю ўжо, цыгарэту.

— Ты думаеш, чым больш у арганізм трапляе нікаціну, тым менш застаецца ў ім кафеіну?

— Нічога я не думаю.

— Ліз, калі хочаш, калі табе сапраўды вельмі кепска

тут і нязвыкла, можам паехаць і астатнія дні правесці ў Даўгаўпілсе. У мяне там знаёмыя.

— Не. Мне тут падабаецца.

— Няпраўда. Я ж бачу.

— Нічога ты, Сярожачка, не бачыш. Мне падабаецца. Давай памаўчым. Ты спі.

Ліза ашуквала яго. Не кава была прычынай яе бяссонніцы. Нейкая невядомая дагэтуль сіла накіроўвала яе думкі да аднаго чалавека: Кагановіча. Чамусьці хацелася зноў пачуць ягоны голас, а доўгая, ціхая і аднастайная сваёй нязменнасцю ноч толькі пачалася. Перад вачыма трывала стаяў ён: з павольнымі, прыгожымі жэстамі, з рыцарскімі манерамі, з маленькім срэбным падносікам у руках, з доўгім засяроджаным позіркам.

«Няўжо назаўтра ўсё гэта можа паўтарыцца зноў? Гартанне альбомаў, кніг. Кава ў малюсенькіх кубачках на срэбным падносе. Дотык яго рукі да яе локця. Няўжо?» — думала яна зноў і зноў пужалася нечаканага свайго жадання.

Сяргей груба і хутка прыцягнуў яе да сябе, абняў. А яна прасіла ў бога аднаго — укараціць гэтую ноч. Цёплыя вусны Сяргея цалавалі яе рукі, шыю, грудзі.

...Ева, што вельмі здзівіла Карнея, ужо апранутая, сядзела ля стала і заплятала касу. Гадзіннік паказваў шэсць.

— А ты куды ў такую рань?

— Бацька загадаў, каб да абеду чатыры гадзіны і пасля — чатыры.

— Што, іграць?

— Угу.

— А калі не хочацца, тады што рабіць?

— А трэба перасіліць сябе. Славутыя музыканты па восем гадзін ля піяніна сядзяць.

Еве падабалася, што ён так уважліва слухае яе.

— Так што я гатова. Загадвайце, з чаго пачынаць?

— Вось як. А я і не ведаў. Усе нашы козы разбягуцца, калі ім па восем гадзін пілікаць будуць. У мяне такая завядзёнка і другой зроду не было: іграць тады, калі вельмі хочацца, калі сэрца, здаецца, выскачыць з грудзей, як не возьмеш акардэон у рукі. Ты, Еўка, вось што... Та-ак. Фёдар...

Фёдар высунуўся ў маленькае акенца пад страхою.

— Ідзі ў хату. Фёдар хлопец свой. Мясціны лепей за мяне ўжо ведае.

Пазяхаючы, увайшоў Фёдар.

— Добрай раніцы.

— Здароў быў. Вось што, Федзя. Бяры ровар, пазыч яшчэ адзін у суседа і пакатайся з Евай па сяле, вакол лесу, возера пакажы, палі нашы, канаўку з карпікамі ля мосціка, стары вяз з кублом бусла. Адным словам, усю благадаць.

— Дык што, сёння іграць не будзем? — з нейкай жахлівасцю ў вачах спытала Ева.

— Чаму не? Мо ўсе чатыры гадзіны і парыпаеш, калі душа патрабуе, дзеля таго і пасылаю цябе на благадаць, мо тое-сёе і спадабаецца, і ўстрывожыць сэрца, нагадае пра нешта вечнае і светлае. Тады сама паляціш дамоў па інструмент. Інакш нельга.

Прыбіты расою дарожны пыл мякка шуршэў пад шынамі.

Перш-наперш Фёдар вырашыў паказаць Еве любімае месца: тры явары, што раслі ля хаткі бакеншчыка. Тут, на кручы, яны з Карнеем неяк выцягнулі дзесятак самоў па кілаграму. Чыстая, вызваленая ад рэдзенькага ранішняга туману Гарынь вабіла і клікала выкупацца. Фёдар не рызыкнуў прапанаваць дзяўчыне лезці ў ваду. Паехалі далей, ужо не так спешна. Ля возера Ева, як малое дзіця, узрадавалася лугавым кветкам. Кінуўшы ровар, хуценька нарвала вялікі букет, які Фёдар падзяліў на дзве роўныя часткі і прымацаваў дроцікам да руля двух ровараў. Затрымаліся ля калгаснай фермы. Цікава было назіраць, як выйшлі мясіць гразь кволымі ножкамі цыбатыя цяляты, яны настырна лезлі да жэрдак, сілячыся сваімі доўгімі языкамі лізнуць бліскучы руль. Ішлі пешшу, коцячы ў руках ровары. За дарогу Фёдар паспеў даведацца, што Ева паступала ў музычнае вучылішча, што ў Ашмянах забудоўваецца цэнтр гарадка двух-трохпавярховымі будынкамі, што чытаць яна не вельмі любіць, па літаратуры нават тройку вывелі за год, што дзядзьку Карнея яна бачыць другі раз у жыцці, што маці працуе ў магазіне, сястра вучыцца ў сёмым класе і спявае, як Сафія Ратару.

У Фёдара яна спытала толькі адно: дзе ён працуе і адкуль родам. Ён прызнаўся, што родам з Віцебшчыны, а пра сапраўдную працу не сказаў, саромеўся, ці што, схлусіў, паведаміў, што працуе на трактарным заводзе слесарам.

Прыехалі і на пясчаны пляж, які цягнуўся мо з кі-

ламетр. Пясок ляжаў няроўна. Відаць, калі паглыблялі раку, чарпалка, як звалі па-мясцоваму плывучы экскаватар, пакінула пасля сябе невялікія кучкі, у якіх чарнела гліна з глеем.

З-за адной такой кучкі падняўся Сяргей і, пазнаўшы Федзю, паклікаў яго:

— Айда да нас, Федзя!

Ля шахматнай дошкі побач з Сяргеем сядзелі Кахановіч у плаўках цялеснага колеру і Ліза.

Ева аж здзівілася:

— Ён што, голы?

— Не. Плаўкі мадэрновыя.

— Можа, пойдзем да іх?

— Я купальнік не ўзяла. Я магу вас пачакаць.

— Паедзем далей. Я купаюся ўвечары. Тады вада як мёд з малаком...

— З кім ён гэта? — пацікавіўся Кахановіч, засланяючы рукой вочы ад сонечных промняў.

— Пляменніца Карнея, Ева, — адказала Ліза.

— А... Та-ак... Ну, дружок, вам мат, — Кахановіч зрабіў ход ферзем і адкінуўся на спіну.

— Точна, — пацвердзіла Ліза.

— Давайце згуляем у шашкі!

— Шашкі — гульня грузчыкаў, не той інтэлект, — не адрываючы погляду ад неба, сказаў Кахановіч.

— Чаму? І па шашках ёсць чэмпіёны свету. Давайце згуляем! — Сяргею вельмі хацелася адыграцца.

— Іншым разам.

— Чайка! Глядзіце, чайка, — усклікнула Ліза.

— Дзе? — узрадаваўся Кахановіч і прыўзняўся на локці. — Не бачу.

— Ды вось жа, ля бакена. Яны рэдкасць на Гарыні, з Прыпяці прылятаюць.

Кахановіч дастаў акуляры.

— Цяпер бачу. «Zarus ridibindus» — «чайка звычайная» — так па-латыні.

— А што, ёсць незвычайная? — спытаў Сяргей.

— Ёсць. У прыродзе няма нічога аднолькавага. Вось пясчынка — гэта толькі на першы погляд яна падобна на тысячы іншых, а на справе — адзіная ў сваім родзе. Альбо кропля вады — цэлы свет таямніц і загадак.

— Для мяне існуе адна тайна — тайна Зямлі і Сонца. Хто, як і калі? Усё зямное пад рукой і наглядам ча-

лавека, і таму рана ці позна ён скарб зямлі расшыфруе, — узапар гаварыў Сяргей.

Кананові не адказаў на гэта нічога, а пачаў раптам зусім іншае:

— Зеўс вырас і адолеў у барацьбе свайго бацьку, стаў царом багоў, падзяліў з братамі панаванне над светам: сабе ўзяў неба, Пасейдону — мора, Плутону — падземнае царства. Пакахаў аднойчы фінікійскую царэўну Еўропу. Зеўс з'явіўся да яе ў выглядзе прыгожага быка, і калі яна прыйшла з сяброўкамі на бераг мора, лёг ля яе ног. Царэўна з даверам уселася яму на спіну, і раптам бык хутка паплыў ад берагоў Фінікіі на захад.

— Далей, далей што? — зацікавілася Ліза.

— Далей Еўропа нарадзіла ад Зеўса трох сыноў.

— Усё пачынаецца вельмі рамантычна, а заканчваецца вельмі будзённа, — Сяргей аж спужаўся думкі, што ён на нейкі момант адчуў сябе тут лішнім. Як быццам Кананові расказваў усё адной Лізе, так, менавіта ёй адной.

— І я плаваць не ўмею, як тая Еўропа не ўмела, інакш скочыла б у ваду ды збегла, — з ноткай суму сказала Ліза.

— Увесь фокус у тым, што ёй, можа, і не хацелася скакаць. Можа, ёй надакучыла нудная жытка з сяброўкамі, можа, яна рвалася прэч ад бацькоўскай хаты ў невядомае, — Кананові ажывіўся, — а навучыцца плаваць не праблема. Мы з Сяргеем паможам. Пойдзем у ваду.

— Не. Баюся. Сяргей мяне аднойчы не ўтрымаў.

— Пойдзем, — Кананові падаў руку Лізе, і тая паднялася.

— А ты, Сярожа?

— Я пас.

Кананові і Ліза пабеглі да вады. Сяргей склаў шахматы ў скрынку, узяў сваю адзежу і пайшоў у бок вёскі. Яго ніхто не аклікнуў. І гэта маўчанне яшчэ больш устрывожыла яго душу. Сеў у садзе на маленькую лавачку. Хацелася з'ехаць, знікнуць зараз жа. «А я ўяўляў яе сваёй жонкаю. Пустая... пустая. Не. Адзінота — гэта воля, спакой і радасць. Не, жаніцца няма сэнсу. Жанчыны па сваёй прыродзе аднолькавыя, розныя толькі ўзроўні патрабаванняў. А з другога боку, — падумаў ён, — чым вабіць жыццё адзінокага Карнея? Чалавек з усімі як быццам для ўсіх і нікому, калі разабрацца, не

патрэбны. Але ж ён застаўся адзін не па сваёй волі, а я збіраюся наўмысна зрабіць гэты крок, а ўсё, што робіцца наўмысна (чуў ад бацькі), супраць прыроды. Смешна. Няўжо ёй можа сур'ёзна падабацца чалавек, які ўдвая старэйшы за яе? — Сяргей і сам здзівіўся сваёй думцы. — Урэшце, з новым чалавекам ды яшчэ вядомым мастаком напэўна цікава».

Ліза прыйшла хутка, праз паўгадзіны, пайшла ў пакой і пачала збіраць рэчы ў карычневы чамадан.

— Ты што? — спытаў Сяргей з парога.

— А тое. Мне страшэнна сорамна. Гэтая недарэчная сцэна рэўнасці кампраметуе мяне. Чалавек перажывае. Разумны. Між намі кажучы, таленавіты чалавек. Ты зневажаеш гэтым маю чалавечую годнасць. Гэта не мае словы. Гэта Віктар Сяргеевіч так сказаў. Я маю права ў гэтым грамадстве на ўласнае слова, жэст, учынак. Ці я яго не маю, а некаму нечым абавязана? Усё жыццё некаму абавязана? Так?

— Не так.

— Значыць, права быць проста Лізаю маю?

— Маеш.

— Тады прасі прабачэння.

— Прабач. Мне здалося...

— Не каменціруй. Я хачу есці. Пойдзем у сталоўку.

Ліза першай выйшла з хаты, ён пайшоў моўчкі следам, не рызыкуючы шукаць нейкія словы ў адказ.

Да абеду добра працавалася. Брыгада будаўнікоў, у якую ўваходзіў і Карней, склала паўсцяны. Будынак ажыў, прыняў новы выгляд і вабіў вока.

«Сцяна суцэльная — ёсць сцяна. А з вокнамі ўжо жывое нешта», — павучаў муляр жанчын-падсобніц. Скончылася ўся цэгла. Падбіралі нават бітую, ды Карней прасіў брыгадзіра не класці бітую на вуліцу, каб яшчэ з тыльнага боку, там не бачна, а на людзі патрэбна суцэльную. Брыгадзір пайшоў у праўленне званіць на цагельны завод у Рамель, вёску за Давыд-Гарадком. Дарэмна. Сапсавалася сувязь. Закрыў нарады да паўдня і адпусціў рабочых.

«Зноў рубель за дзень зарабілі, — скардзіліся жанчыны адна адной, — кідаць трэба ды ісці на ферму».

Такіх прастояў апошнім часам прыбавілася. То машына псавалася па дарозе, то не было цэглы, аддалі ў

раён на клуб. Карней не так гараваў, што зарабіў усяго рубель, як не ведаў, куды сябе падзець. Пайсці дамоў, корпацца ў гародзе — неяк няёмка, сусед коса пагля-дае, самому непрыемна. Рук у калгасе не хапала.

Карней міжволі палічыў, хто ж яшчэ мае сілу і хо-дзіць на работу. На ферме, дзе даглядаюць чатыры сот-ні галоў, — дзесяць жанчын, на свінаферме — дзесяць, шасцёра іх — будаўнікоў, дванаццаць шафёраў, пяць трактарыстаў, глуханямы Макар-рымар, два конюхі, бухгалтары, прадаўшчыцы ў магазіне, два брыгадзіры, аграном — астатнія малыя дзеці ды старыя людзі. Успомніў, як летась, як толькі распагодзілася пасля за-цяглых дажджоў, сямідзесяціпяцігадовы Канцуб прыту-паў на Балонне (у старога аднімаліся ногі) і пачаў ка-сіць, не зважаючы на папрокі і просьбу нявесткі вяр-нуцца дамоў. «Здохну ў хаце ад думкі, што кароўкам няма чаго есці». І такі дакасіў з усімі да позняга веча-ра. Сёлета Канцуб далей форткі не ходзіць. Карней заў-сёды нясе яму з магазіна пачак папярос.

— А чому дахаты ідзеш, Карнейко? — пытае Кан-цуб стоячы ў валёнках і зімовай шапцы-вушанцы, якая спаўзла набок.

— Ай, зноў, сабакі, маць іх туды... цэглу не пры-везлі, — адказваецца Карней.

— А-а... Гультаі. Да цябе, кажуць, нейкі начальнік прыехаў?

— Мастак. Карціны малюе, як Сыса з гарадка.

— О-ге... А нехта яшчэ купляе гэтыя карціны?

— Мо ў горадзе і купляюць.

— Шчо праўда, то праўда. У горадзе ўсё купляюць. А скажы, Карнейко, шчо па тым целявізары кажуць, бу-дзе вайна ці не?

Карней чакаў гэтае пытанне дзеда, бо ведаў, стары заўсёды пытае яго пра вайну.

— Не, дзеду, вайны мы не дапусцім.

— Дзякуй богу. Бывай, Карнейко.

Карней глянуў яшчэ раз на дзеда.

«Божа! За што лёс так можа здзекавацца з чалаве-ка? За што ён пасылае на яго неразумную старасць і адзіноту?»

Ад аднаго ўяўлення, што праз дзесяць—дваццаць га-доў і яго чакае нешта падобнае, а мо і горшае, здзер-вянелі ногі. Раней і не думалася пра старасць. А калі і думалася, дык толькі не жахлівае і агіднае.

Ля форткі Карнея дагнала, пад'язджаючы на ровары, увішная паштальёнка Шура, якая яшчэ васьмігадовай дзяўчынкай пасля вызвалення ад немца пачала разносіць пошту, з таго часу і не кінула гэтай работы.

Карней узяў «Звязду» і адчыніў фортку. Шура не ад'язджала.

— Мо нешта ёсць яшчэ? — спытаў ён, не чакаючы лістоў, бо чакаць не было ад каго.

— Ёсцека, Міронавіч. — Шура дастала канверт, падала Карнею.

— А ты як быццам плачаш? Ну-у, усё ж самае цяжкое мы перажылі.

— Плачу, Карнейка, дальбог, дурная баба і слёз не магу стрымаць. З ваенкамата гэта. Апошні ты...

— Бачу, што з ваенкамата, — казаў Карней, чытаючы надпіс на канверце, — а чаму, кажаш, апошні, які апошні?

— Болей жа нікому не прыслалі. Значыць, ты ёсць апошні наш ветэран. Я ведаю.

Карней пры Шуры раскрыў канверт, прачытаў паштоўку.

— Што пішуць?

— Запрашаюць у ваенкамат атрымаць часовае пасведчанне ветэрана для праезду са скідкай на пяцьдзесят працэнтаў.

— Я ж казала — апошні. Болей няма каму і прысылаць.

Шура выцерла краем хусцінкі слязу і пакаціла далей.

Спярша Карней, седзячы на ганку і перачытваючы ліст, і не задумваўся над словамі Шуры, аднак яны цяжкім звонам павіслі над слыхам. Ён яшчэ супакойваў сябе, можа, некаму і даслалі такі ліст раней. Перабраў у памяці былых удзельнікаў вайны. Хто памёр, хто пераехаў у Стаўбцы, Пінск. Лятун з месца як паехаў дажываць век да дачкі ў Лунінец. І сапраўды, выходзіла, што ў Лядах застаўся ён адзін.

«Апошні, апошні!» — стукала ў скронях.

Карней успомніў, да сваёй радасці, што ў Ніжніх Лядах яшчэ жыве яго аднапалчанін з 28-й арміі генерала Лучынскага сяржант Іван Харашун. І патрэба ўбачыць старога сябра, мо нават дамовіцца разам ехаць у ваенкамат падганяла Карнея. Выйшаў страчаць Фёдара з Еваю. Тых пакуль не было нідзе бачна. Палез у склеп,

дастаў з лядоўні бутэльку гарэлкі, схаваў у кішэню і пайшоў пазычаць ровар да суседа.

Па дарозе ў Ніжнія Ляды дакараў сябе, што раней не знаходзіў часу наведаць Харашуна. Аж брыдка зрабілася ад сваёй абыякавасці да сяржанта, з якім прайшлі ад Астрахані (тады там у 1942 годзе якраз была перадыслакацыя 28-й арміі) да Баранавічаў. Калі гэта, дай бог памяць, ён апошнім разам бачыў суседа з Ніжніх Лядаў? І не прыпомніць ужо. Знайшоў хату Івана, не пытаючыся ні ў кога. Яна стаяла насупраць могілак, яшчэ здалёк прыкметная жураўлём ля калодзежа.

У Лядах ужо даўно парабілі бетонныя калодзежы з ланцугамі на катушках, у Ніжніх мала што змянілася. Толькі дзве хаты былі абнесены штыкетнікамі ды да адной прыбудована новая веранда. Астатнія перакасіліся ад часу, пазелянелі саламяныя стрэхі, параслі мохам, коміны напалову разбурыла дажджом і ветрам. «Відаць, і людзі бяднейшыя, — зрабіў вывад Карней, — канечне. Да раёна нашы спрытныя давозяць усё хутка на продаж, а ім хіба што Пінск і застаецца. Ды пакуль па рацэ даплывеш, базар закрыюць».

Ля хаты Харашуна, у канаве, заржавелы, дажываў свой век стары халадзільнік, чакаючы, пакуль дзеці разбяруць яго на металалом. Маленькі хлопчык гнаў дубцом насустрач Карнею гусянятак.

— Чый ты, хлопчык? — спытаў Карней.

— Харашуна, — адказаў той, з цікавасцю разглядаючы незнаёмага дзядзьку.

— У хаце е хто-небудзь?

— Цётка.

— А дзе дзед?

— Няма.

— На полі?

— Не-е. Памёр дзед.

Нешта глуха адгукнулася ў сэрцы ў Карнея, быццам тое правалілася ў бездань, аж перад вачыма пачарнела.

— Васілёк! — паклікала маладая жанчына з дзвярэй. — Гані гусак ды вяртайся хутчэй. Бо нам ісці трэба.

— Добры дзень вам, — Карней увайшоў у двор.

— Дзень добры, — адказала жанчына, выціраючы аб фартух рукі.

— Я сябар, аднапалчанін Івана Харашуна... аж хлопчык сказаў, што...

— Ужо восем месяцў, як пахавалі, лёгка яму на тым свеце, добры быў чалавек. Ды вы праходзьце. Праўда, нам з дзецьмі бегчы трэба. Прыйшоў брыгадзір, даў участак. Гэта ж гора адно: у гэтым годзе на школу нагрузілі траву. Кожнаму вучню па некалькі сот кілаграмаў. І што робіцца, ужо і не разумею. У мяне іх двое. Васілька сястра прыняла паглядзець. А мае, адна ў пяты ходзіць, а другая — у сёмы клас. За адну пяцьсот, а за другую семсот кілаграмаў здаць трэба.

З хаты выйшлі дзве дзяўчынкі, такія ж канапатыя, як і маці. Ветліва прывіталіся з незнаёмым чалавекам.

— Хадземо, мамо. Бяры касу, — казала дачка.

— Адны касіць будзеце, а дзе ж бацька?

— І не пытайце, адзін сорам. Цесць быў залаты чалавек, а сынок... няма ладу. За гарэлкай свету не бачыць. Яшчэ з зімы падаўся на заробкі пад Пскоў. Якнебудзь накосім, а што рабіць, чалавеча, не дасць брыгадзір участка нашай кароўцы, калі норму не выканаем... То ўжо даруйце, што не запрашаю ў хату. Часу няма. Мне ў сем гадзін бегчы свіней карміць трэба.

— Нічога. У мяне якраз вольны час. Я памагу вам. — Карней прыкрыў рукой кішэню, каб не бачна было рыльца бутэлькі.

— Мы самі, мы самі, — разам загаманілі дзяўчаткі.

— Добра. Тады я ў вас прыму экзамен!

— Хі. Ды вам за намі не ўгнацца, — хвалілася старэйшая.

— Паглядзім. А касу, галубка, трэба несці на плячы. Вось так. О, лепш давайце ўсе косы і граблі, ды я прывяжу да ровара.

Ля неглыбокай канаўкі, што паўзла да лесу і знікала з вачэй, прыпыніліся. Ніна, так звалі маладзіцу, паказала месца, якое выдзеліў брыгадзір.

— Будзем гнаць аж да масткоў.

Карней непрыкметна дастаў з кішэні бутэльку, схаваў яе ў ямку ля ровара і накрыў шапкаю.

— Што, прыгажуні, пачнём?

— Пачнём, — весела адказалі дочкі.

Канечне, угнацца за майстрам — касцом Карнеем, хоць ён і паддаўся дзяўчынкам, было немагчыма. Аднак, як заўважыла вопытнае вока Карнея, дзяўчаты касіць умелі. Ніна дык ішла локаць у локаць. Малодшая кінула касіць, узяла граблі і бадзёра зграбала траву ў вал-

кі, каб не сохла, каб болей важыла, — раскрывала яна сакрэт Карнею.

Запаслівая Ніна ўзяла бочачку самаробнага хлебнага квасу. Час ад часу падбягалі піць, дастаючы бочачку з канаўкі. Дзяўчынкі паскідалі сукенкі. Не саромеючыся, зняла блузку і Ніна. Загар маладзіцы выдзяляўся чырваннню, спіны ж дачок аблупіліся, і бялелі кавалачкі новай скуры.

Карней з месяц не браў касы ў рукі, аднак стомы не адчуваў. Толькі ад поту прыліпла сарочка да спіны ды раз-пораз блытаўся шнурок ад чаравіка, надакучыла яго зашнуроўваць. Прагналі да масткоў адну палоску, селі на скошаную траву адпачыць. Карней сцёр з твару кроплі поту, пахваліў дзяўчат.

— Стаўлю ўсім пяцёрку з гакам!

— З плюсам, — хіхікнула адна.

— Няхай з плюсам. Слаўныя ў цябе дзеці, Ніна.

— Дзякуй богу, пакуль слухаюць. Яны ж яшчэ спяваюць у мяне. Лепшыя салісткі ў вашых Лядах.

— Хіба ж яны ў нашай школе?

— Тама. Ну, заспяваймо, Аленачка, Верка.

Шчаслівая Ніна абняла іх, прытуліла да грудзей.

— Яны ў мяне залатыя. І вучацца добра. Па тэлевізары выступалі.

— Калі?

— Узімку. На хрышчэнне. Па абласному.

— Відаць, я прамаргаў. Дзед ваш Іван добры спявак быў.

— Ён жа іх, нябожчык, каб пухам яму зямля, і навучыў... Ой, так, здаецца б, і сядзела... Мо вы позніцеся, то мы самі закончым.

— З вамі весялей, — Карней устаў, намянціў косы, — паганяймо!

Пачалі хоць не так рупліва, але ж дружна. З мосціка нехта закрычаў ім. На раме ровара сядзеў Васілёк, а круціў педалі дарослы мужчына.

— Та-та-а-а! — дочкі пабеглі насустрач.

Ніна паспешліва накінула на плечы кофтачку. Сын Харашуна, дужы няголены чалавек гадоў пад сорак, нехаця абняў дачок, кінуў ровар да ровара Карнея і незнарок наступіў на шапку, якая слізганула пад нагой, і бутэлька гарэлкі засвяцілася ад сонечных праменняў.

Не вітаючыся і не пытаючыся ні аб чым, Анатоль,

так звалі чалавека, коса зірнуў на Карнея, падышоў да Ніны.

— Што, кавалера завяла? — былі яго злыя першыя словы, выказаныя сіплым барытонам.

— Толя, пасаромейся, што ты гаворыш, — пачырванела ад сораму перад Карнеем Ніна.

— Не канапаць мазгі... Водзяру на вечар прыпаслі. Пакуль чалавек дзеньгу зашыбае, тут шуры-муры ўстроілі, ух-х!

І ён ужо замахнуўся сваім цяжкім кулаком, ды ў апошні момант стрымаўся, не ўдарыў, а толькі штурхнуў жанчыну ў плячо. Яна не ўтрымалася, паляцела на траву.

— Тата! Татачка, не трэба! — запішчалі дзеці і павіслі на руках Анатоля.

— Не бі жанчыну! — усклікнуў Карней, падыходзячы бліжэй.

— Ідзі адсюль, пакуль пысу не намазаў, — Анатоль быў выпіўшы, мо таму занадта задзірысты.

— Толя, — усхапілася Ніна, — гэта сябар твайго бацькі. З Лядаў. Прыехаў праведаць.

— Не кампасіруйце мне мазгі. Бацькі год як няма. Калі ты сябар, чаму ж не ведаў? Давай дуй адсюль, жыва, бабнік, і не сорамна на старасці.

Ніколі ніхто ў жыцці так не абражаў Карнея. Ледзь стрымаў сябе Карней, каб не дзеці, ударыў бы Анатоля. Нічога не адказаў, падняў шапку, схаваў у кішэню бутэльку, падняў ровар і пайшоў прэч.

Ніна ступіла некалькі крокаў за ім:

— Даруйце, даруйце, родненькі. П'яны ён дурны зусім, дурны. Даруйце...

Потым нечакана падбегла да Анатоля і з усёй сілы ўдарыла яго ў грудзі — да твару не дастала, росту Анатоль быў высокага.

— Сціхні, бо заб'ю. Тваё шчасце, што дзеці тута.

— За што ты добрага чалавека так асароміў, за што? Госпадзі, калі ты ёсць, пакарай за нянавісць, за злосць, пакарай яго, пагібель маю. Ён жа касіць за тваіх дачок, п'янчуга ты акаянны, узяўся. Дапамагчы хацеў!

— А яго ніхто не прасіў. Такі закон. Не просяць — не лезь. Ведаю я свет. Мо ўдавец нейкі, прытуліцца хацеў, муляўся, а ты вушы развесіла. Давай дамоў!

— Нам трэба здаць у калгас больш чым тону травы, — Ніна ўзяла касу.

— Кінь, кажу. Я куплю табе дзве тоны.

Анатоль дастаў з кішэні грошы.

Ішлі дамоў моўчкі. Толькі Васілёк цмокаў і шамкаў вялікі апельсін.

# РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

## СЯРДЗІТЫ АЎТОРАК

Праз два дні Карней паехаў у раён. Даўно не быў ён у ваенкамаце і не адразу пазнаў яго: штыкетнік пафарбаваны ў зялёны колер, уздоўж усяго штыкетніку ўкапалі шчыты. За металічнымі варотамі — чыстая спартыўная пляцоўка. Ля ўваходу, дзюбаючы галлём у вокны, патухаў цветам бэз. У вестыбюлі сабралася чалавек з дваццаць. Нікога ў твар Карней не ведаў, таму сеў на вольнае крэсла і пачаў чакаць, як астатнія.

Усіх разам запрасіў ваенком, сівы падпалкоўнік са стомленым тварам і сумнымі вачыма, якія толькі і ажывалі, скідвалі цень нейкіх турбот, калі, выклікаючы да стала, ваенком уручаў кожнаму пасведчанне і моцна паціскаў руку. Карнею не пашанцавала. Ён астаўся апошні — нікога з прозвішчам пасля літары «с» не аказалася.

— Семянчук, — звонкім голасам сказаў ваенком.

Карней устаў і страявым крокам падышоў да стала ваенкома.

— Вы апошні? — як быццам з палёгкай уздыхнуў ваенком, — віншую. Ад усяго сэрца віншую. Дзякуй вам вялікае.

— За што дзякаваць, таварыш падпалкоўнік?

— За ўсё дзякую, сяржант. Што жывыя, што працуеце ў народнай гаспадарцы. Дарэчы, як там у вас, Карней Міронавіч, умовы, я маю на ўвазе бытавыя, як вырашаюцца? Дровы, торф?

— Пакуль не прыходзіцца скардзіцца.

— Мы тут праводзілі ў райкоме гутарку са старшынямі сельскіх Саветаў. Калі маеце патрэбу адпачыць, можам выдзеліць бясплатную пуцёўку ў Дом адпачынку.

— Дзякую, таварыш падпалкоўнік. Пакуль здароўе ёсць.

— У вас, здаецца, раненне?

— Так точна.

— Ёсць магчымасць накіраваць у рэспубліканскі шпіталь ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны ў Мінск. Так што, Карней Міронавіч, звяртайцеся. І яшчэ, як там вашы ветэраны, ці выступаюць у школах, на сустрэчах з сельскай моладдзю?

— Як вам сказаць... Я, шчыра кажучы, ніколі і нідзе.

— Астатнія?

— Астатніх не засталося.

— Гэта як?

— На ўсе Ляды і Ніжнія Ляды, выходзіць, таварыш падпалкоўнік, я адзін застаўся.

У пакоі ўсталявалася нечаканая цішыня.

— Сядайце, Карней Міронавіч, сядайце, сяржант.

Карней сеў.

— Да-а... адыходзяць нашы... Знікае памаленьку наша пакаленне. Так жывуць людзі, нараджаюцца, паміраюць, зноў жывуць... Прырода, як бы і непрыкметна ўсё. А вайна свае меркі-вехі расстаўляе. Нядаўна ездзіў на традыцыйную сустрэчу. Ужо і маіх баявых сябрукоў шостая частка засталася. Да-а, — ваенком неяк па-асабліваму зацягнуў гэтае «да-а». — Дзе пачынаў, Карней Міронавіч?

— Пад Магілёвам, а закончыў, як паложана, у логаве.

— А мы не дайшлі. Будапешт, Вена, потым шпіталь. Усяго хапіла.

— Точна. Няхай нашы дзеці не пазнаюць таго, што мы перажылі.

— Ісціна. Вось што, Карней Міронавіч, трымай ад мяне... падарунак.

Ваенком зняў з рукі свой электронны гадзіннік.

— На памяць, ад усяго сэрца.

— Таварыш падпалкоўнік...

— На памяць аб сустрэчы. Хто ведае, калі яшчэ раз давядзецца ўбачыцца.

— Тады дазвольце і мне.

Карней дастаў і свой старэнькі, але дакладны, як сонца, гадзіннік.

Ваенком горача абняў і пацалаваў Карнея.

— Цяпер, Карней Міронавіч, толькі жыві!.. Чуеш, браток, сяржант мой родны, не памірай. Не маеш права памерці, чуеш, забараняю, загадваю жыць доўга, доўга!

— Пастараемся, таварыш падпалкоўнік, — чуласць ваенкома кранула мяккую душу Карнея.

Ваенком правёў яго да выхаду, на ганку яшчэ раз пацiснуў на развітанне руку і стаяў, аж пакуль не знік сяржант за вуглом.

Ваенком пацікавіўся справай Семенчука, і праз некалькі мінут сакратарка прынесла старую папку за нумарам 35. На першай жа старонцы апаліла нечаканай навіною медыцынская даведка пра раненне Карнея Міронавіча. Далей ваенком і не гартаў паперы. Моўчкі аддаў папку сакратарцы. Сяржант Семянчук Карней Міронавіч ужо трыццаць шэсць гадоў жыве з асколкам пад сэрцам.

На вуліцы Кірава, што вяла да аўтобуснай станцыі, Карней прыпыніўся ля чаргі. Двое рабочых выносілі скрынкі з апельсінамі. Чырванашчокая прадаўшчыца пакуль падпраўляла вагу. «Прадавай, Каця. Туды грам, сюды грам», — прасілі жанчыны ў чарзе.

— Буду даваць па два кілаграмы, — папярэдзіла Каця.

— Чаго гэта па два? Няма такіх законаў, — адгукнулася нейкая жанчына з чаргі.

— Мала прывезлі. Усім не хопіць, — адказвала Каця, пачынаючы прадаваць цытрусавыя. Спякота поўдня спала, і каб не пыл, які ўзнімалі час ад часу машыны, стаяць у чарзе было б лёгка.

— Здароў, паляшук, — нехта тузануў Карнея за плячо. Ён азірнуўся. Перад ім стаяў незнаёмы чалавек, якога Карней бачыў у ваенкома.

— А ты чаго ў чарзе? Даставай пасведчанне, нам належыць... — і, не чакаючы Карнея, незнаёмы падышоў да вагаў. — Два кіля, прыгажуня, ветэрану.

— Не давайце без чаргі.

— Што за мода!

— О, народ пайшоў, і не сорамна.

— Не адпускай, — раптам пачулася з чаргі мноства галасоў.

Незнаёмы на секунду разгубіўся, не ведаючы, што і казаць.

— Таварышы, я ветэран вайны, — ён дастаў з кішэні маленькую кніжачку.

— А мы што, не ветэраны? — крычала больш за

астатніх адна цётка. — Мой чалавек не вінаваты, што яго разам з заводам эвакуіравалі на Урал і ён у тры змены гараваў. Што, ён не ветэран?

— Мне ў бальніцу трэба, — крычала другая.

— Чаго сварыцца, няхай возьме, — пачуўся больш маладзейшы голас.

— У цябе ёсць час стаяць. Стой! А ў мяне няма. Для ветэранаў спецыяльна дзень вызначылі і магазін. Няхай ідзе туды і бярэ хоць пуд, — не магла сціхнуць нервовая цётка.

Незнаёмы схаваў сваю кніжачку і пасунуўся моўчкі прэч ад чаргі.

Доўга не магла ўгаманіцца крыклівая баба, хоць яе ўжо ніхто не слухаў і не падтрымліваў. Усе маўчалі, разумелі, што дарма пакрыўдзілі незнаёмага старога чалавека. Карней купіў чатыры кіло з надзеяй на аўтобуснай станцыі стрэць незнаёмага чалавека і перадаць яму палову. Гадзіну прасядзеў, так і не заўважыў нідзе і не дачакаўся незнаёмца. Мо чалавек паехаў у сваю вёску на спадарожнай ці затрымаўся ў сталоўцы.

Павёз усе апельсіны ў вёску.

Наспех перакусіўшы, выйшаў на вуліцу. Павольныя, прыемныя гукі знаёмага старадаўняга вальса паплылі над вёскай. У дзень 22 чэрвеня ён заўсёды іграў на вуліцы.

Набеглі да акардэаніста дзеці, выйшла з хаты паслухаць музыку старая Скупіха-суседка, села на ганку з цешчай Зыля. Прыпыніў каня, пастаяў хвіліну-другую конюх Яська.

Па-рознаму ставілася вёска да свайго Алегра. Шкадавала яго, калі загінула жонка, усёй вёскай хавала і сына. З ахвотай наймала, асабліва ў шасцідзесятыя гады, на вяселлі. Тады іграў толькі Карней, гэта гады са тры, як моладзь пачала запрашаць гітарыстаў з Давыд-гарадоцкага Дома культуры. Калі ўжо Карней добра на вяселлі браў чарку, мог і прыпеўку адчубучыць. Выдумляў такія прыпеўкі сам, на кожнае вяселле ў яго былі прыпасены новыя. Грэх такі вадзіўся за Карнеем. Як толькі вып'е, цягне яго ці прыпеўкі пасляваць, ці брыдкім словам палаяцца. Калісь святкавалі дажынкі ў калгасе, якраз у той час толькі і выбралі Нядбайлу. Чакаў Карней сваёй чаргі, пакуль дадуць каманду: «зайграй», — так і не дачакаўся, не стрымаўся, хоць жонка пільна сачыла за ім, седзячы побач. Падпітаму Алегру,

вядома, мора па калена. Расцягнуў мех акардэона — і пачалося. Рогату было на ўсё праўленне. Нядбайла ні жывы ні мёртвы, а Карней не сціхае. Мо з тыдзень пасля тых дажынак баяўся Семянчук трапіць на вочы новаму старшыні. Усё лаяў жонку, чаму не забараніла.

З падлеткамі Карней накіраваўся на танцпляцоўку, у колішні панскі парк, які напалову згарэў яшчэ ў вайну і струхлеў з часам.

Вярталіся з рыбалкі Фёдар з Еваю, і дзяўчына, пачуўшы гукі акардэона, не села нават вячэраць, пацягнула Фёдара на танцы. Туды ж завітала і «святая тройца» — Канановіч, Ліза і Сяргей. Ева цішком прысела побач з Карнеем і слухала. Ён галавой паказваў, маўляў, ідзі танцуй. Дзяўчына толькі ўсміхалася, танцаваць не пайшла.

Пасля вальса Карней усыпаў на ўсе пераборы польку-«крутуху».

— Назірайце, Ліза. Бо толькі яшчэ тут вы маеце магчымасць быць жывой сведкай народнай культуры, і гэта ў хуткім часе адыдзе назусім. Вам не шкада?

— Не. Мяне ніколі не вабіла гэта. Горад выхоўвае мяне на іншы музычны лад. Але я люблю ўсё ж танга.

Неўзабаве, быццам пачуўшы жаданне Лізы, Карней зайграў аргенцінскае танга. Зноў усе высыпалі на сярэдзіну пляцоўкі.

Кавалераў прыкметна не хапала, маладыя дзяўчаты, з абазначанымі пад кофтачкамі грудзьмі, танцавалі адна з адною. Некалькі хлопцаў-дзесяцікласнікаў муліліся ў нерашучасці, стаялі ў кутку. Чацвёра гуляла ў карты ля сасны, не звяртаючы ўвагі на танцы, музыку Карнея і вялікае жаданне іх аднагодкаў-дзяўчат патанцаваць.

— Дазвольце? — Канановіч запрасіў Лізу.

Гладка паголеныя шчокі Віктара Сяргеевіча прыемна пахлі дарагім адэкалонам. Сяргей пасля галення ўжываў «трайны», змешаны з «Чырвонай Масквою», — эксперыментаваў. Гэты ж пах быў ёй незнаёмы і хутчэй нагадваў пах дарагіх французскіх духоў, якія ўжывала жонка яе кіраўніка. Чамусьці хацелася прытуліцца сваёй шчакой да гэтай прыемна пахучай шчакі Канановіча. Вусны яго адчула недзе ля самага вуха, і ёй вельмі захацелася, каб ён загаварыў, абавязкова, не важна пра што, толькі б гаварыў, як ён прыемна і разумна ўмее гаварыць пра ўсё на свеце. Толькі б загаварыў.

— А ведаеце, Ліза, вы тып тургенеўскай гераіні.

Нарэшце ён загаварыў. Божа! Яна нават непрыкметна пагладзіла рукой яго плячо.

— У вас бачыцца пластычнае абагульненне вобраза кволай і пяшчотнай жанчыны, якая як бы сышла з экрана... нават не, з палатна мастакоў Адраджэння.

Ліза маўчала, заварожаная яго гаворкай.

— Па сутнасці, адна жанчына носьбіт вечнасці. Ах, як мы яшчэ не ўмеем цаніць, берагчы, песціць, міласаваць... Вам часта дораць кветкі?

— Не.

— Агідна. Драбнеюць нашы мужчыны. Ведаеце, Ліза, я, здаецца, прапаную вам рызыкоўную ідэю. Нават не ведаю, як успрымеце яе вы.

— Я слухаю.

— Я хачу намаляваць ваш партрэт. Гэта жаданне кіруе мною ўсе дзесяць дзён...

Танец скончыўся, і нейкую хвіліну Кананові ўсё яшчэ трымаў у сваёй руцэ цёплую далонь Лізы. Больш Кананові не запрашаў яе танцаваць, спаслаўшыся на кепскае самаадчуванне, пайшоў дамоў.

Зноў загучаў вальс «Блакітная ноч».

— Вазьмі Фёдара, Ева. Сумуе хлопец, — шаптаў на вуха Карней.

Ева адмаўлялася.

Сяргей запрасіў Лізу. Танцавалі моўчкі.

— Ён нешта шчабятаў табе на вуха? — спытаў нарэшце Сяргей.

— Ён прапанаваў напісаць мой партрэт.

— Ого! Да сівізны небарака не мог знайсці сваю Джаконду. І ты згадзілася?

— Пакуль вырашаю.

— Ну-ну.

— А чаму б і не? На зайздрасць маім аднакласніцам: партрэт мой будзе вісець у музеі, а яны адукаваныя, з сем'яў вялікіх чыноўнікаў у дублёнках, з машынамі і спецыялізаванымі магазінамі — няхай кусаюць локці.

— Толькі штосьці я ў яго не заўважаў жаночых партрэтаў. У асноўным пейзажы з курамі ды качкамі.

— Ты зайздросціш яго таленту. Кожнаму сваё, табе лёс падараваў пакой з пяццю калегамі за сталамі і праязны білет, сто дваццаць рублёў да пенсіі, а яму...

— Не пнісь мяне ўшчыкнуць. Усяму свой час. Мне

падабаецца радыётэхніка, я ўжываюся ў адным пакоі з пяццю калегамі і за сто дваццаць рублёў магу нават дазволіць сабе раскошу выпіць шампанскага і з'есці бутэрброд з чорнай ікрой, а гэта, калі ты чытаеш прэсу, дадзена не многім у свеце. Для іх гэта казачнае нязбыўнае жаданне.

— Я толькі ведаю, што ў мяне за сцяною жывуць лепш, чым я. А я не краду, не ашукваю, не прадаю радзіму, працую чэсна з дзевяці да васемнаццаці і вымушана насіць, пардон, парваныя калготкі. Няма за што купіць.

— А ты злая, я нават не ведаў.

Прагучаў апошні танец. Потым яшчэ адзін па «просьбе працоўных», адзін па просьбе моладзі. Да глыбокай цемры іграў без стомы Карней. Ева, як верная служка, раз-пораз адганяла галінкай бэзу надакучлівых камароў.

Разыходзіліся.

Карней зняў рамяні з пляча і толькі цяпер адчуў, што пальцы яго не слухаюць, скасцянелі. Баляць лапаткі.

Фёдар забраў акардэон і разам з Еваю, а за імі ўплялася і Ліза, спяваючы «Снегопад, снегопад, если женщина просит», рушылі дамоў.

Сяргей ішоў з Карнеем Міронавічам.

— А ты, Сярожа, не даганяеш сваю, пасварыўся?

— Кажуць, карысна і патрэбна час ад часу адпачываць ад жанчыны.

— Мо й твая праўда.

Карней, як чалавек вопытны і назіральны, не мог не прыкмеціць заляцанняў Кагановіча да Лізы і, бачачы, што гаворка пра іх адносіны непрыемная Сяргею, больш не стаў пытаць, знарок пачаў пра іншае.

— Чуў у аўтобусе, адна жанчына казала, што праз год адбудзецца нейкае супрацьстаянне ўсіх планет, як быццам усе насупраць Зямлі стануць... Што вялікія неспадзяванні чакаюць людзей, ці праўда, га, не забабоны?

— Бывае такое. Праўда, ніхто толкам не даказаў, што гэта падстава для катаклізмаў. Можа, выпадае толькі адзін раз на мільёны год. Я пра іншае хацеў спытаць у вас, Карней Міронавіч, наўмысна затрымаўся.

— Пытай. Калі змагу адказаць.

— Вось на вашых вачах прайшло, можна сказаць, усё мірнае жыццё.

— І ваеннае таксама.

— Я ўжо не бяру вайну: дабро і зло, лад і хаос, калецтва. Я пра мірны час. Пяцідзесятыя, шасцідзесятыя, сямідзесятыя. Вы мне растлумачце, калі і як пачалося, што паднялі вушы зайздрасць, недавер'е, знявага? Ці мо гэта толькі ў нас больш бачна, у гарадскіх? Дзіўны сваёй жорсткасцю выпадак быў у нас на рабоце. Нечакана атрымала адна маладая пара кватэру... знеслі старую хату, ці што, цікавіць іншы факт, што амаль усе, чуеце, усе супрацоўнікі як быццам узненавідзелі іх. Сваёй кватэрай сапсавалі настрой усяму аддзелу на тыдзень. Не радуюцца людзі, што іншаму чалавеку пашчасліцца, а, наадварот, зайздросцяць, абгаворваюць. Мы з бацькамі абмянялі кватэры, перабраліся ў другі раён, дык паверыце, год жывём, а суседзяў па калідоры так і не ведаем. А бацькі мае настаўнікі — ударнікі працы, камуністы. Сэрца непакоіць пытанне: чаму так, куды ідзём?

— Я, сынок, не суддзя і не бог. А зайздрасць, прага да грошай, жорсткасць — хапае. І на мяне пісалі, што я лес на хату па блату дастаў, што сына за грошы ва універсітэт прыстроіў. Усё было. Людзей зласлівых нямала — веру. Каб грошай меней атрымоўвалі — не скажу, каб гаравалі болей — таксама не. Верыў і веру: чэсных і добрых усё ж больш. Бо на гэтым і стаім. Словы Талстога мне ў душу запалі, яшчэ з вайны памятаю: калі ўсе нячэсныя людзі аб'ядналіся ў сваім дзеянні, абавязак чэсных зрабіць тое ж самае. Вось ты, напрыклад, сябе лічыш харошым чалавекам?

— Не. Я не такі. Я стрымліваю свае нервы, вялікая сіла прэ адсюль, — ён паказаў на грудзі, — калі абразяць мяне, магу... Аж думкі баюся, што забіць магу. Галава баліць ад душэўнай напругі, быццам увесь час бяду нейкую адчуваю. Можа, мне лепш з'ехаць, кінуць усё. Я ж не распісаны з ёю. Шалтай-балтай. Яна мне не абавязана вернасцю, я ёй, а зміріцца не магу. Грошы яна любіць. Больш нічога ў жыцці яе і не цікавіць.

Падышлі да форткі. Ліза стаяла ля шулы адна і чакала Сяргея.

— Прабачце, Карней Міронавіч.

Ён падышоў да яе.

— Пагуляем яшчэ?

— Не. Хачу спаць. Праўдзі мяне, быццам не ведаеш, што я цемры баюся. Што стаіш?

Ноч у Лядах васьмідзесятых гадоў значна адрозніваецца ад начэй папярэдніх дзесяцігоддзяў. Яшчэ чэпка сядзяць у памяці Карнея гулянкі пад яго акардэон да самай раніцы. І дзе толькі сіла бралася! Ды і потым, калі пачынала днець, не разыходзіліся. Сядзелі на калодах ля варот, закаханыя ішлі да ракі. На ўсю вёску быў адзін матацыкл, і хлопцам так і карцела ўкрасці яго.

Жонка ніколі не сварылася на Карнея, што позніцца. Алегра з акардэонам быў душой кампаніі. Неяк раней і сабакі былі спакайнейшыя, ці мо іх менш было? На тэлевізар мы хадзілі гуртам у школу: з дзецьмі, як калісь у царкву. Царкву закрылі, накуплялі ў кожную хату тэлевізараў. Ужо не памятае Карней, хто першы прывёз суцэльныя, з форткай, вароты. І пачалося! Прыйшла, памятае, і Шура да яго з просьбай дапамагчы ўкапаць здаравенныя шулы.

— А табе, Шура, навошта? Што хаваць: машыну, матацыкл, дываны, крышталь?

«Не разумею ні патрэб, ні моды сучаснай, — дакараў сябе Карней. — Вунь сядзяць ужо з паўгадзіны на лавачцы пад яблыняй Ева з Фёдарам, слухаюць транзістарны прыёмнік і ні слова адно аднаму. Трэба паганаць спаць».

— Ева! Ідзі спаць, — сказаў Карней.

— Вазьмі прыёмнік. Пасля гадзіны класныя рэчы можна паслухаць.

Ева з удзячнасцю бярэ ў Фёдара прыёмнік, і яны разыходзяцца.

Яркай плямай бачыцца з горкі Карнею калгасны двор, гудзе на драўляных слупах электрычны дрот (на бетонных не грае, маўчыць), ды дзе-нідзе жалобна так; са сну, гаўкне раз-другі сабака і ўгамоніцца ад цішыні і спакою навокал.

Старшыня Іван Нічыпаравіч Нядбайла быў чалавекам не набожным, але на ноч прасіў: «Дай, божанька, ясны дзень», як калісь, у канцы малення ля покуці, казала яго бабка. Родам ён быў з Маларыты, невялічкага мястэчка ля Брэста, закончыў Мінскі інстытут інжынераў сельскай гаспадаркі, у якім, казалі, добра праявіў

сябе на грамадскай рабоце — быў сакратаром камітэта камсамола курса. Пасля заканчэння накіравалі яго на Палессе, спачатку ў Пінск, потым у Столін у сельгастэхнікум намеснікам дырэктара, а ўжо адтуль у Ляды — старшынёй. Жонку ўзяў сабе са Століна, туды ж, у раён, аддаў у школу старэйшага сына-сямікласніка, малодшы хадзіў у трэці клас у Лядах. Меў у вёсцы цагляны дом на чатыры пакоі з цэментаваным дваром, у якім часценька начаваў газік.

Сёння старшыня паўдня правёў у райкоме на нарадзе па нарыхтоўцы кармоў, дзе ўжо каторы раз «Зару» называлі ў ліку самых горшых і тузалі ўсе — ад прадстаўніка вобласці да першага сакратара. Праўда, былі пагрозы і раней на паперы, па тэлефоне, аднак сёння, як ніколі, Іван Нічыпаравіч адчуў блізкую небяспеку (упершыню пашкадаваў, што кінуў педагагічную дзейнасць, памяняў на практыку).

Ён запрасіў падмогу.

Ляды прасілі з раёна ці з вобласці брыгаду з дваццаці—трыццаці чалавек. Першы сакратар райкома паабяцаў з панядзелка забяспечыць «Зару» людзьмі. У перапынку на Івана Нічыпаравіча астатнія старшыні з больш людных і моцных калгасаў глядзелі як на белую варону. Ласкава ляпалі па плячы: «Трымайся, браце, выкручвайся».

Раней былі такія дні, прыязджалі шэфы з раёна на дзень (у суботу ці ў нядзелю) на буракі, моркву, бульбу. Аднойчы, у той памятны семдзесят дзевяты сухі год, прывезлі два аўтобусы з людзьмі Брэсцкага электралямпавага завода на нарыхтоўку кармоў. Трава перасохла, павяла на корані, таму хлопцы, каб выканаць план, валілі бярозы, галілі іх і грузілі дробнае галлё з лісцем на кузавы машын.

Што мог зрабіць Нядбайла? Паехаў да шэфаў, прасіў як мага шкадаваць бярозы. Крытыкаваў тады на партыйным сходзе Карней старшыню, праўленне, што не падрыхтавалі кос, грабляў, што не вызначылі месца парубкі, не прызначылі адказных.

Недалюбліваў Нядбайла Алегра за тыя колкія словы. Яшчэ прычапіўся Карней: звазіць лядчан на экскурсію ў калгас імя Арлоўскага пад Бабруйск. І колькі Іван Нічыпаравіч ні пераконваў у немагчымасці і непатрэбнасці гэтай паездкі (ёсць жа брашуры, па тэлебачанні

паказваюць), упарты Карней і слухаць не хацеў, ладзіў сваё на кожным сходзе, пры кожнай сустрэчы.

Сыпаў з раніцы дождж, дробны, непрыкметны і халодны. На лятучцы далі толькі каманду вазіць з-пад Альшан торф.

Іван Нічыпаравіч абуў гумавыя боты, кінуў на сядзенне ў газік плашч і паехаў адзін аглядаць сваю гаспадарку. Пад макрэчай ферма ў Ніжніх Лядах аж напужала старшыню. Машыны, возячы торф на сіласную яму, разбілі дарогі, размясілі двор ля фермы. Чорная ад торфу і гною зямля чаўкала пад нагамі, засмоктваючы боты. Ля ўваходу даяркі кінулі дзве дошкі. Каб зайсці ў кароўнік, старшыні давялося туліцца да шэрай сцяны. Рой мух абляпіў сцены калідора, бітоны. Загадчык фермы не чакаў старшыні, выскачыў з чырвонага кутка, падаў Нядбайлу ліст паперы.

— Дакладная. Па віне шафёра не дайшоў учора малакавоз да млячарні ў Давыд-Гарадок...

— Потым, — адказаў Нядбайла.

На сценах кутка віселі пажоўклыя граматы, вымпелы.

— Тэлевізар як?

— Сапсаваўся, — адказаў загадчык.

— Адрамантаваць трэба. Узялі б машыну, адвезлі б у атэлье.

— Разумею. Ды ўсё, Іван Нічыпаравіч, рукі не даходзяць.

Старшыня прайшоўся па кароўніку. Кароў яшчэ не прыгналі з пашы, даярак не было. Толькі скразняк уладарыў у кароўніку.

— Холадна тут.

— Усё чынна-благародна. Адны дзверы мы закрываем.

— Вось што, Лукіч, у нас з панядзелка брыгада будзе на нарыхтоўцы кармоў. Будзеш бясплатна даваць ім штодня дваццаць пяць літраў малака.

— Гэта, проша пана, як толькі іх потым спісаць?

— Спішам.

«Бурбалкі на вадзе доўга плавалі, лопаліся, — значыць, дождж зацягнецца», — думаў Нядбайла, кіруючы да калгаснай майстэрні. Яе пабудавалі пры Івану Нічыпаравічу. Ганарыўся гэтым. Толькі адно шкадаваў, што

тады будаўнікі з міжкалгасбуда не ўзяліся зрабіць павець для касілак, так яны і ржавелі ў чаканні свайго часу.

Ля будоўлі садзіка-ясляў прыпыніўся, выйшаў з машыны.

— Не прамоклі? — пацікавіўся ў брыгадзіра-муляра.

— Не, Іван Нічыпаравіч. Толькі што цэглу падвезлі, шкада, дождж мочыць.

Карней разводзіў раствор, перамешваючы лапатай-шуфлем пясок, цэмент, вапну.

«Няўжо не спытае?» — падумаў Нядбайла.

— Дык што, Іван Нічыпаравіч, паедзем у гэтым годзе на экскурсію да Арлоўскага?

— Паедзем. Выберам бульбу і паедзем. Пры людзях даю табе слова, Карней.

І ўжо цішэй, калі засталіся адны, спытаў:

— Ты, Карней Міронавіч, нікому нічога не пісаў? Маўляў, ветэраны, павагі няма, кепска з палівам?

Карней маўчаў. Нядбайла па вачах пазнаў, што непрыемна было яму слухаць гэта, і хутчэй дадаў:

— Я і сам ведаю, што не пісаў. Павер, панічна баюся гэтых лістоў. Усё ж пішуць у ЦК, у газеты. Можа, перавесці цябе на вагу. Прыёмшчыца пайшла ў дэкрэт.

— Дзякую. Пакуль не цяжка.

— Я чаму, — зноў пра сваё пачаў Нядбайла. — Зімою плануем юбілей калгаса адзначыць. Падалі спіс на дзяржаўныя ўзнагароды ветэранам працы і вайны. А перад святам гарантую экскурсію. Бывай здароў. Звяртайся проста да мяне, калі што. Як-ніяк, апошні ты ў нас, самы дарагі.

Газік зачхаў і рэзка рвануў з месца.

Рашэнне прыпыніць будаўніцтва сада-ясляў Іван Нічыпаравіч прыняў з тыдзень назад. Параіліся з сакратаром партыйнай арганізацыі Мікалаем Труханам і прыйшлі да думкі, што сад-яслі на двух-трох дзяцей, якія па ўсіх меркаваннях маглі з'явіцца ў бліжэйшай пяцігодцы ў Лядах, не патрэбны. Астатак грошай і матэрыялаў вырашылі перакінуць на будаўніцтва лазні, якое замарозілі з лютага. «Заўтра ж брыгаду трэба расфарміраваць, а Карнея паставіць на вагу. Час не чакае». З такімі думкамі і вяртаўся Нядбайла ў праўленне.

Ліза трэці дзень прыходзіла пазіраваць Кaнановічу. На гадзіну. Так дамовіліся з мастаком, так абяцала

Сяргею. Пасадзіў у першы дзень мастак Лізу ля акна, доўга мерыўся, нахіляў за плечы, тварам да сонца. Так і застаўся незадаволены. Не было паэтыкі, не прыходзіла натхненне.

Калені ў Лізы дрыжалі, калі ён, як быццам незнарок, клаў на іх сваю руку. Выпілі многа кавы. Пагарталі альбомы Энгра, Дам'е.

— Чаму мастакі так часта малююць голае цела? — пытаў і сам адказваў. — На маю думку, не толькі дзеля тэхнікі пісьма. Не. Характар, непаўторнасць, рысы твару можна ўхапіць толькі тады, калі натуру абсалютна нішто не скоўвае, а наадварот, чысціня, гармонія еднасці формы і зместу толькі спрыяюць мастаку. Я ўжо вас, Ліза, адчуваю, хоць яшчэ не бачу, як гэта выльецца на палатне.

Увечары яна знарок падышла да люстэрка, у святле месяца аглядзела сябе з ног да галавы. Ёй нават здалося, што ў яе ногі даўжэйшыя, чым ногі ўсіх Данай і багінь.

На трэці дзень на яго выказаную нязвыкла ўсхваляваным голасам просьбу раздзецца адказала згодай, папрасіўшы толькі зачыніць на зашчапку дзверы, што Кананові́ч зрабіў умомант.

Ліза не прасіла яго адвярнуцца, ён зрабіў гэта сам.

— Куды мне зараз? — спытала яна трапяткім голасам.

Ён узяў яе руку, адарыў цёплым пацалункам са словамі: «Дзякуй, дзякуй, багіня».

«За што дзякаваць?» — не магла ўцяміць Ліза і пагладзіла яго па шорсткіх сівых валасах.

— Я так самлею стоячы, — ледзь чутна сказала яна.

Ён схапіў каляровы плед, накінуў ёй на плечы і ласкава прытуліў да сябе.

— Дзякуй, дзякуй, мая багіня, — зноў пяшчотна паўтарыў ён і моцна пацалаваў Лізу ў губы...

Прыйшоў з пляжа Сяргей. Падняўся на другі паверх, пастукаў.

— Хто? — спытаў Кананові́ч.

— Ліза, абедаць ідзеш?

— Не, — сонным голасам адказала яна.

Непрыемна было Сяргею спускацца ўніз, дзе за сталом абедалі Карней, Ева, Фёдар. Не, яны ні словам, ні

жэстам не паказалі сваіх падазрэнняў, але Сяргей адчуваў іх насцярожаныя позіркі.

«Прэч! Прэч адсюль! — мроілася ў галаве, а следам находзіла: — Не маю права яе так судзіць. Яна самалюбівая».

Пасля гэтага дня Ліза праводзіла ў мастака дзветры гадзіны. Ледзь дачакаўшыся раніцы, бегла наверх, будзіла яго, запрашала на крос да Гарыні і назад.

Усё далейшае здарылася нечакана хутка. Шафёр Грыцко вёз траву і, седзячы наверсе, угледзеў, што ля акна сядзіць на крэсле голая дзяўчына, узяў ды і ляпнуў сваёй жонцы: «Гарадскі мастак, у-у, брыдота, голую дзеўку малюе».

Жонка пахвалілася суседцы, і пайшлі цёткі малоць.

Сяргея дагнала, аглушыўшы, як рыбіну вяслом, гэта навіна на баскетбольнай пляцоўцы, дзе ён забаўляўся з падлеткамі. Нейкая сіла панесла яго агародамі, цераз плот, на гару, дахаты. На пяньку, дзе Карней звычайна чысціў рыбу, ляжаў стары, ржавы ля ручкі ножык. Схапіў яго. Куляй узляцеў на другі паверх, пацягнуў на сябе дзверы — замкнёныя. Наддаў.

Ліза сядзела тварам да сонца, прыкрываючы жывот ужо засохлым букетам рамонак.

Сяргей нечакана і для сябе і для астатніх схапіў фарбы і выліў іх на мешкавіну палатна.

— Вы за гэта адкажаце, — не вельмі грозна папярэдзіў Кананові́ч.

— За што? За макулатуру? Вы ж бяздарны раместнік. Спытайцеся, выйдзіце на вуліцу, хто вас ведае? Вы не патрэбны народу! Акружыў сябе такімі ж шэрымі і бяздарнымі людзьмі... яшчэ брашуры пішуць... пра каго... Спажывец.

Сяргей крыху супакоіўся і пайшоў уніз.

Кананові́ч выскачыў на лесвіцу следам.

— Падонак! — Кананові́ч зачыніў за сабою дзверы. Карней стаяў ля парога, круціў у руках шапку і не ведаў, куды сябе дзець. Сяргей выйшаў з пакоя з чамаданам. Усё яшчэ не мог супакоіцца.

— Няўмека! Сaступі дарогу таленавітай моладзі. Не спекулюй на кан'юнктуры! — крычаў ён.

Запал рэўнасці, нянавісці мінуў. Яму і раней хацелася ўсё выказаць пра творчасць Кананові́ча, вось і надарыўся момант.

— Я пакідаю вас, Карней Міронавіч. Вось дваццаць

рублёў за нас, далей, думаю, будзе плаціць «геній пэндзля». За жанчыну не забудзьце заплаціць, яна грошы любіць. Вось так, Карней Міронавіч, прабачце за шум, гам. Не стрымаўся. Гэта вы прыклад самаахвярнасці, доўгацярпення, а па сутнасці, нашто гэта вам, Карней Міронавіч, няма выгады. Бывайце. Можа, і сустрэнемся яшчэ.

Сяргей моцна паціснуў на развітанне жылістую Карнееву руку.

Ліза сядзела са слязьмі горычы і безпадаможнасці.

— Кінь, я намалюю новы! Чуеш, не плач, лепшы! Абяцаю, — сказаў ёй Кананович. — Ён яшчэ нешта лапоча пра сваё разуменне мастацтва. Аморфны, інфантыльны метафізік. Я разумею, чаму табе так сумна з ім. У яго невыносная аднастайнасць. Ён не інтэлектуальная асоба, а элементарны максімаліст-недавучка. Мае карціны выстаўляліся ў Будапешце, Варшаве, Берліне, — быццам апраўдваючыся, казаў Кананович. — У дваццаць два гады я ўжо быў членам Саюза мастакоў. Сёння гэта нязбыўная, казачная мара кожнага студэнта.

Ліза маўчала.

— Дзікая гісторыя. Не хапала толькі плётак.

— А што, гэты аляпаваты казус мае нейкую сілу ўздзеяння? — спытала яна словамі свайго начальніка.

— Канечне, не дай бог, калі ў сталіцу дойдзе чутка пра ўсё гэта... напярэдадні з'езда.

— Я не думаю, каб Сяргей...

Але яе перабіў Кананович:

— Ад гэтага можна чакаць усяго.

— Ты мне хочаш нешта параіць? — упершыню Ліза перайшла з ім на «ты».

— Не, нічога... — ён узяў яе руку, прыклаў да сваіх грудзей, — усё застанецца па-ранейшаму, чыстым, ласкавым, адзіным. Я напішу твой партрэт, чаго б мне гэта ні каштавала.

— Можа, мне перайсці жыць такуль сюды? — нясмела спытала яна.

— Можа быць. Хаця трэба абмазгаваць, а гадзіну, дзве, тры — пісаць, пісаць... — ён абняў і прытуліў яе да сябе. — Павер, і я стаміўся жыць правільна, пісаць беспамылкова...

— Давай я завару каву.

— Канешне, канешне... Я прынясу вады.

Згорблены, быццам стаўшы меншым ростам, ён узяў кафейнік і пайшоў уніз. Ліза нават пашкадавала яго ў гэты момант.

Сум часцей за ўсё гасцяваў у ягонай «калавурцы» (так Карней ахрысціў будку ля вагі). Вялізная брама з дахам над вагаю ад часу перакасілася і, здавалася, вось-вось паваліцца пад ветрам. Праляталі бураны, валілі дрэвы, а брама нейкім цудам трымалася, рыпела, але стаяла.

Карней у чаканні трактароў з прычэпамі (машыны перавозілі люцэрну) навучыўся драмаць. Браў з сабою сала, тэрмас духмянага чаю. Машыны з люцэрнай, «Беларусы» з прычэпамі прыпаўзалі да вагі праз дваццаць— трыццаць мінут. «От чаму сум, што без людзей, няма з кім словам перакінуцца. Калі ўжо з той цэглай парадак будзе?» Ён амаль кожны дзень пытаў у брыгадзіра. «Што ж рабіць, будзем чакаць, пакуль зноў распачнуць будоўлю сада-ясляў», — адказаў той.

А час ішоў. Дзесяць дзён марнаваўся Карней каля вагі і кожны дзень даваў сабе слова адпрасіцца ў старшыні, памяняць работу.

У панядзелак прыехалі шэфы ў спартыўных касцюмах, кедах, каляровых шапачках, нейлонавых куртках. Прыехалі пад вечар галодныя, негаварлівыя і злыя. Вадзіў іх размяшчаць па хатах брыгадзір. Да позняй ночы дзяўчаты насілі бітонамі ваду, мылі падлогу ў старым клубе. Брыгадзір пабудзіў газавіка, і той ужо а дванаццатай гадзіне прывёз пліту і падключыў газ. Стары клуб ля будаўнічай пляцоўкі сада-ясляў стаў ім і сталоўкай, штабам, танцпляцоўкай і чырвоным кутком. Дзеці з Лядаў першымі разнеслі вестку па хатах (яны дзяжурылі пад вокнамі), што шэфы намалявалі насценную газету, упрыгожылі падаконнікі кветкамі, прывезлі ліпкія стужкі ад мух і пачаставалі іх, дзяцей, смачнай кашай з аўсянкі.

Так калоніяй, асобна, яны і жылі. Раніцой Грыцко, які з гэтай нагоды змяніў рубашку на новую, адвозіў шэфаў на луг, да балота пад Ніжнія Ляды, вазіў на абед і забіраў увечары.

Першыя дні было прыкметна, як шэфы хутка стамляюцца. Пасля абеду яны падалі на траву, як сонныя мухі, грэліся на сонцы, хоць дзесяць—пятнаццаць мі-

нут, не звяртаючы ўвагі на каманду свайго брыгадзіра. Павячэраўшы, разыходзіліся па хатах і клаліся спаць раней за вяскоўцаў.

Ля форткі школьных варот з'явілася Шура і паклікала Карнея:

— Гора, Карнейко, бяжы да масткоў. Кароўка твая нагу зламала... От, небарачка...

Масткі — на самай справе гэта адзін масток, разбіты гусенічнымі трактарамі з дзіркамі розных калібраў у дашчаным насціле. Лыска ўлезла пярэдняй нагой у дзірку, упала і на сваю бяду зламала пярэднюю нагу. Так і засталася ляжаць на мастку, праводзячы цяжкім і глухім «му-у-у» статак да вёскі.

Пастух Бэгла, сямідзесяцігадовы дзед, наказаў праз трактарыста, каб перадалі Карнею, а сам застаўся сядзець на парэнчы ля няшчаснай жывёліны.

— Хто тут угледзіць, — стрэў ён, заікаючыся, Карнея, — казаў старшыні, што гніль, а не мост. Цягнулі ката за хвост.

— Я ж не дакараю цябе, Сямён... Бог выбраў маю... Што ж рабіць? Прыгані падводу, перавязём дамоў.

Лыска пазнала Карнея і, высунуўшы язык, хацела лізнуць яго руку. Супакоілася. Гаспадар сеў побач. Перакочвала з боку на бок сківіцамі жвачку.

Разам з Бэглам на падводзе прыехалі Зыль, Фёдар і Ева. Пагрузілі белую карову на чорны ад торфу воз і павезлі на двор да Карнея.

Была ўжо поўнач, калі вострым нажом пад святлом лямпы-пераноскі Зыль паласнуў Лысцы па горле. Пеністая кроў хлынула ў вядро, якое слабымі рукамі трымаў Карней. Усплакнула Ева, моўчкі, так, каб ніхто не бачыў. Збоку, у задуменні, стаяў Канановіч. З паўгадзіны побач, трымаючыся за локаць, пазяхаючы, таўклася Ліза, аднак, зморaная сном, пайшла ў хату.

Зыль спяшаўся. Параніў нажом палец. Засмактаў сваю рану, зноў падразаў шкуру.

Ужо спяваў першы певень, і халодны туман прабіраў праз адзежу, калі Зыль пачаў мыць рукі.

Доўга яшчэ гарэла святло ў пакоі Канановіча. Не, ён не маляваў. Трымаючы ўжо халодную каву, мастак сядзеў перад чыстым палатном, думаў.

...Раніцой прыйшла Ліза.

Натхнення і настрою працаваць над партрэтам Лізы

чамусьці ў Кананавіча не было. Нешта здарылася з ім, а што — яшчэ толкам і сам не ведаў. Перад вачыма зноў і зноў паўставала начная карціна «заўчаснай і звыклай смерці каровы».

Раздзеўшыся, Ліза хадзіла па пакоі, паставіла на электрычную плітку кафейнік, села ў крэсла, узяла букецік рамонак.

— Я гатова.

Ён стаяў ля мальберта.

— А рамонкі дзе?

— Як дзе? Ці ж ты не бачыш, у мяне на каленях.

— Ты прабач, — сказаў ён пасля некалькіх мазкоў. — Я сёння яшчэ не спаў. Не пішацца штосьці, відаць, адольвае стома.

— І мяне не пакідае чамаданны настрой.

— Кінем. Я дапішу. У Мінску. У мяне цудоўная светлая майстэрня. Над «Сінтэтыкай», ведаеш? Абяцаю. Прабач, ты ж у мяне разумная.

Яна моўчкі апранулася, адчуўшы сябе лішняй у пакоі мастака.

— Ева, пойдзем на Гарынь, — прапанавала яна ўнізе.

— Не. Я хату пільнаваць застануся. Абед... Дзядзька Карней павязе мяса здаваць.

Ліза пайшла адна. Босая. Па цёплым пяску вясковай вуліцы, па макраватым, яшчэ не зусім прагрэтым лузе. Зноў аднастайнасць і сум прыгняталі яе.

«Трэснуцца б галавой аб гэты дуб ды боль адчуць, ці што? — думала яна. — Мо на душы палягчэла б».

Чамусьці ўспомніўся ёй Сяргей. Не, яна не раскайвалася, не асуджала сябе. Проста нагадала, як ішлі па гэтай самай сцежцы і «травілі» анекдоты. Дыхалася лёгка, нагам было цёпла ад гарачага пяску, пахла скошанай канюшынай, яна, Ліза, была вольная, нікому нічым не абавязана і таму незалежная. Вось гэтую самую незалежнасць яна берагала і баялася з кім-небудзь ёю падзяліцца. «Кананавіч нейкі хмуры. Яго точыць хвароба. Нябачная, — думала яна, — і таму ён увесь час замкнуты, увесь сам у сабе». З ім і не так цікава, як ёй калісь здалося. І таму так хутка надакучыла ўсё? Сама дзівілася. «Трэба было б напісаць ліст маці, — падумалася, — аднак праз тры дні ўсё роўна дамоў. Няма сэнсу». З такімі думкамі рушыла да Гарыні.

Сядзеў Карней ля вагі і чытаў. За многія гады ўзяў з невялічкай бібліятэкі, якую падарылі яшчэ сыну, кніжку «Людзі на балоце». Гэта ж колькі часу ён не чытаў! Кніжка трапілася яму ўпершыню, і, паглыбляючыся ў вялікі свет такіх складаных адносін мележаўскіх герояў, Карней усё з большай цікавасцю гартаў старонку за старонкай. Неяк час ішоў хутчэй. Да абеду ўзважыў чатыры прычэпы (выпрацоўка ў шэфаў узрасла, налаўчыліся) ды тры машыны з люцэрнай, пяць з торфам.

— Добры дзень, Карней Міронавіч, — на вагу заехаў на сваіх «Жыгулях» Мікалай Трухан.

— Добры дзень, Сідаравіч, — Карней адклаў кніжку ўбок.

— Як кароўка, прывыкае?

— Дзе ж дзецца, прывыкне.

— А як выпрацоўка ў шэфаў?

— Да абеду далі дванаццаць тон.

— Ого. Рэкорд! А чаму сумны, Карней Міронавіч?

— Не магу я тут, Сідаравіч. Як у лесе. Абяцалі ж цераз тыдзень вярнуць на будоўлю, а колькі ўжо часу прайшло. Галаву дураць, а толку няма.

— А калі, Карней Міронавіч, у вартаўнікі? На свінаферме прапалі тры парасяты. Будзем браць вартаўніка на поўную стаўку.

— Каб як-небудзь перайсці працаваць на сад-яслі, Сідаравіч. Няўжо з цэглай парадку не навядуць? У краіне БАМ будуюць, і парадак ё. У Альшанах будуюць, не будзем далёка хадзіць.

— У Альшанах семсот тысяч рублёў укладваюць, а ў нас...

— Колькі ў нас?

— Дай бог пяцьдзесят выбраць.

— Што, грошай не маем?

— Сілы не маем, Карней Міронавіч. Пахавалі мы сад-яслі, скажу табе чэсна.

— Як пахавалі?

— Назаўсёды. Замест іх у наступным годзе нарадную зробім.

— Як жа так? — здзівіўся Карней, не верачы словам сакратара партыйнай арганізацыі.

— Не патрэбны яны нам. Такая агульная думка. Няма для каго будаваць.

— Як ты так можаш гаварыць, Сідаравіч? Ты ж пар-

цейнае кіраўніцтва. Дзеткам жа яшчэ ад Леніна ўсё ў першую чаргу.

— Ды няма ў нас дзетак, Карней Міронавіч. Не будзь летуценнікам.

— Будуць! Такога не можа быць, каб усе... Мы адыдзем, а дзеткам нашым зямелька застанецца. Лес, хаты, паша, поле! Прыйдуць разумнейшыя з машынамі, з атамам нехта прыйдзе. Карміцца чалавеку ж трэба! Мо да нас ніхто не прыязджае, не варочаецца, што мы сада-ясляў не маем. Мы шмат чаго не маем... Напалову гатова ўжо. Месяц, другі... Не, браце, я напішу! Сакратару ў вобласць, у Мінск.

— Яны дашлюць на адказ нам усё роўна, як ты не разумееш.

— Я зноў напішу.

— Яны зноў да нас. Тады што?

— Тады паеду на прыём.

— А ты, Карней Міронавіч, упарты. Я і не ведаў. Добра. Пагавару з Нядбайлам. Хоць наўрад ці ён зменіць сваё рашэнне.

«Жыгулям» пасігналіў, пад'язджаючы да вагі, трактар. Трухан паехаў.

«Што яны робяць усё тайком, — не мог супакоіцца Семянчук, — за спіною? Каго падманваюць? Не людзей. Народ застаецца, ці муляр, ці механізатар, ці пастух, а кіраўніцтва мяняецца. Колькі іх, старшынь, за гэтыя трыццаць гадоў памянялася, бадай, не палічыць — пальцаў не хопіць. І Нядбайлу калгас сваім не стаў. Не-не. Хоча ўзнагароду атрымаць ды падацца вышэй. Каб хоць сказалі шчыра, а то ж праз хітрыкі. Часова, маўляў, пераводзім на вагу. Ці ж на падмане далёка паедзеш?»

Увечары Карней пайшоў да свайго брыгадзіра. Той параіў плюнуць на гэта дзела, не заядацца з Нядбайлам. Сам брыгадзір адмовіўся вяртацца на яслі. У Альшанах будавалі магазін, ездзіў туды. «А не пайду, Карней, не крыўдуй. Прэмію абяцалі, калі да 7 лістапада здадзім. А мне грошы патрэбны, дачку замуж выдаю. Дзевак прасі, мо пойдуць».

Нядбайла такі згадзіўся. Абы моўчкі, без лістоў, скаргаў, непатрэбнай перад юбілеем траскатні. Адкрылі нарад на сад-яслі. Далі дзвюх жанчын на падмогу

Карнею. «Нічога, дзяўчаткі. Масква і тая не адразу будавалася. Навучыцеся і вы на муляраў. Ды з вамі, кабеткі, мы ракету складзём і ў космас Шурупчыка адправім».

Кананові́ч мог з'ехаць увечары, шафёр прыгнаў «Волгу» дзесьці а пятай гадзіне. Не паехаў. Намеціў на раніцу. Разлічыўся за сябе, Лізу, шафёра. Паклаў усе грошы на тэлевізар і прыціснуў статуэткай слоніка. Звязаў раму да рамы загатоўкі, адну невялічкую, загорнутую ў марлю, схаваў у сярэдзіну паміж рам, нікому не паказваючы, што там было намалявана. Партрэт Лізы ля акна не паспеў закончыць. Вызначыліся толькі контуры ды ясна абазначыліся промні на рамонках, калениях. Не хапала асноўнага — твару.

Сядзелі на верандзе Ліза, сам Кананові́ч і Пеця, шафёр яго. Карней палоў клубніцы і чуў, пра што ішла гамонка.

— Спіс на атрыманне кватэры не падалі ў гарвыканком. Чакаюць вас, — сказаў Пятрусь, сёрбаючы гарачы чай упрыкуску.

— Я ж, здаецца, усё падпісаў.

— Лазарук усю ваду каламуціць. Кажа, несправядліва, калі сыну Грынберга даюць аднапакаёвую, а яго, Лазарука, вы за незалежныя погляды ўмысна падсяляеце ў чатырохпакаёвую з сям'ёй мастака-мультыплікатара.

— Фанабэрысты. Нічога яшчэ ў мастацтве не зрабіў, а ўжо кватэру патрабуе.

— Хоча ісці на прыём. Кажа, быццам у яго дзіця хворае.

— Творчы саюз не бальніца і не манастыр. Я ў яго гады жыў у падвале і працаваў. Што яшчэ кажа?

— Кажа, вы таму сыну Грынберга даяце асобную кватэру, што ён манаграфію пра вас напісаў, на якую вы...

Пятрусь змоўк.

— Што, кажы?

— На якую вы не мелі аніякіх правоў. Бо ёсць сапраўдныя добрыя мастакі і без манаграфій.

— Задзірыстае шчанё. Добра, што я выкрасліў у апошнюю мінуту яго кандыдатуру на паездку ў Італію.

Ён бы тады зусім нос угару задраў. Ну, а Вайцяшонак што?

— Хіба не ведаеце, калі нас няма, усе там супраць вас. Ён больш за астатніх падтрымліваў Лазарука.

— Няўдзячная свіння, не баюся гэтага слова. Дзякуючы мне ў сталіцу паехалі пяць яго карцін на ўсесаюзную выстаўку... Як усё хутка забываецца! Колькі людзям ні рабі дабра, а ўсё мала. Слухай, Пятрусь, ты, наколькі я памятаю, з цешчай жывеш?

— Не, размянялі ўжо.

— Дзве?

— На аднапакаёўку — туалет і ванная сумешчаныя, газавая калонка замест гарачай вады. Першы паверх.

— Пішы заяву. Шэсць год працуеш у Саюзе, маеш не менш правоў. Прапануем Лазаруку тваю. Хацеў асобную — няхай яе атрымлівае. Адмовіцца — на бабах так і застанецца. З яго прыблізнасцю, інтэлектуальным інфантылізмам, эклектызмам і суб'ектывізмам доўга прыйдзецца хадзіць у маладых, якім не хутка давераць нешта значнае і самастойнае. Неўрасценік. Ты памятаеш, ён напісаў заяву на імя рэктара і перастаў наведваць мае лекцыі па рысунку. І што? Думаў, увесь курс пойдзе за ім, новаспечаным геніем. Не атрымалася. Асароміўся. Кананові́ча адолець цяжка...

Не ўсё зразумеў Карней з іх гутаркі, не ведаючы адносін паміж маладым Лазаруком і Кановічам, аднак душой жадаў, каб незнаёмы яму Лазарук усё ж атрымаў добрую кватэру. Пачуўшы пра хворае дзіця мастака, ён, Карней, не сумняваўся, — што б там паміж імі ні было, а даў бы кватэру Лазаруку перш за ўсё. Не. Не дасць ён на дарогу гэты кошык першых папяровак, як меціў зрабіць раней. Кановічу не дасць.

— Карней Міронавіч, хадзем да нас чай піць, — паклікаў Кановіч.

— Дзякую. Я піў.

— Па чым клубніку прадаеце, я магу пару кілаграмаў купіць? — прапанаваў Кановіч.

— Я гадую не на продаж, а на варэнне.

— Ну, як знаеце. Магу добра заплаціць.

— Не прадасць ён, — упершыню за ўвесь час сказала Ліза.

— Чаму? Што нельга купіць за грошы, можна купіць за вялікія грошы, — адказаў недзе пачутым Віктар Сяргеевіч.

— Хіба не адчуваеш па інтанацыі?

— Прадасць. Карней Міронавіч, даю чырвонец за кілаграм.

— Хоць і два. Не прадаю. — Карней пайшоў з агарода на вуліцу.

— Твая праўда. Не разумею. Урэшце неблагі чалавек. Відаць, нешта з ім здарылася.

— Па дарозе заедзем ля Слуцка ў калгас, набяром па кашу, — супакоіў Пятрусь.

Позным вечарам, калі Карней, Ліза, Пятрусь глядзелі па тэлевізары спаборніцтвы па гімнастыцы, Кананові́ч, нічога не сказаўшы, пакінуў пакой. Была на рэдкасць цёмная ноч. Намацаў рукою сякеру — ляжала на калодзе ля ганка. Віктар Сяргеевіч заткнуў сякеру за пояс, прыкрыў пінжаком. Лёгкі ветрык шамацеў у лісцях старога вяза, ды з адчыненых вокнаў неслася вясёлая музыка.

Па бязлюднай цёмнай вуліцы ішоў да школы. Учора, гуляючы з Лізаю, ён прыкмеціў гэтую сцежку. Ніводная жывая душа не трапілася яму. І ўсё ж чуў стук уласнага сэрца і сцішыў хаду. Усё здавалася, што нехта з форткі злева і справа назірае за ім. Праходзіў міма і супакойваўся.

Вось і школьны двор. Святло ад лямпачкі на слупе ля праўлення ледзь даходзіць сюды. «Лепш зайсці з боку спартыўнай пляцоўкі». Ён азірнуўся наўкол. «Толькі сёння. Усё зрабіць сёння». Цішыня. Пастаяў. Спрытна пераскочыўшы цераз штыкетнік, нагінаючыся долу, перабег пад вокнамі школы. Дастаў сякеру, прысеў ля кустоў бэзу, баючыся ўласнага дыхання... «Сёння альбо ніколі», — у думках зноў паўтарыў ён. Амаль падпоўз да скульптуры, пафарбаванай толькі срэбнай фарбай і таму бліскучай нават у цемры. На цэментаваным пастаменце стаяла паўтараметровая скульптура піянеркі. Кавалачак шорцікаў, якія даходзілі да калень, у піянеркі быў адколаты, і там тырчаў кавалак дроту. Адной рукой піянерка трымала мяч, другая з таўшчэзнымі пальцамі ляжала на таліі. Гэтую піянерку загадалі калісь купіць калгасу. Тады, у канцы пяцідзесятых, яе і прывезлі. Урачыста адкрылі з горнамі пад барабаны. Потым дырэктар шкадаваў, гаворачы Карнею, што дарма яму навязалі піянерку з мячом, у Давыд-Гарадоцкую школу прадалі абсалютна такую ж, толькі з птушкай. «Больш арыгінальна». Доўгі час гэты цуд і буйства

творчай фантазіі «ўпрыгожвалі» і школу і вёску.

Да трыццацігоддзя Перамогі ля праўлення калгаса адкрылі помнік беларускаму партызану. Школа ўзяла шэфства над новым абеліскам, і «піянерка» асірацела. Перафарбавалі яе чыста выпадкова, засталася фарба.

Канановіч яшчэ раз азірнуўся. І раптам ударыў з усяго размаху абухам. Ад моцнага ўдару невялікі кавалачак упаў да ног Канановіча. У нейкай лютай нянавісці ён крышыў галаву, плечы, рукі... Калі на пастаменце ўжо нічога не засталося, біў па пастаменце, пакуль нечая дужая рука не схапіла яго за локаць.

— Вы што, Віктар Сяргеевіч? — спытаў Фёдар.

— А... гэта ты... Пусці.

— Што з вамі? Супакойцеся.

— Абсалютна нічога. Я не памяшаўся. Адзін, два, тры. Піфагор — матэматык, Гогаль — пісьменнік, Гагарын — касманаўт. Бачыш, я нармальны. Пусці.

Ён выставіў перад вачыма ўказальны палец і павадзіў ім перад тварам.

— А ўсё гэта... я табе раскажу, — ён як быццам спалохаўся. — Растлумачу... толькі абяцай мне... ты адзін, хто...

— Там ля плота Ева.

— Ева? Хто такая, ах... Клікні яе.

Ева і сама падышла бліжэй, чула іх размову.

— Ну вось і добра, можа, гэта і лепш, што ёсць сведкі... Я хацеў употай. Ведаеце... Толькі аб адным прашу — ані слова Карнею... Мне не сорамна ні перад кім... я маю ўсё. Вось гэта... гэта маё дзецішча. Та-ак. Не здзіўляйцеся, гэта мой «шэдэўр». У канцы пяцідзесятых гадоў мы — група скульптараў — тады я пачынаў як скульптар, напладзілі такіх блізнят, нашпігавалі імі ўсю рэспубліку. Нехта ўцёк ад крытыкі і фінансавых органаў у Крым, схаваўся ва ўласных дачах. Я перажыў. Перакінуўся на пейзаж, нацюрморт, пано. А гэтыя... як кашмарныя здані даганялі мяне паўсюды, пузатыя, каратканогія каракаціцы. Пакасцілі мне сны. Усё... Прэч кашмары... Усё... Я нанава нарадзіўся. Толькі мы дамовіліся, Федзя, ні слова Карнею Міронавічу. Я іх моўчкі знішчу сам...

Канановіч падняў каўнер пінжака і знік у цемры. Усе яшчэ спалі, калі ён пабудзіў шафёра, ціха падняў Лізу. Ля Гарыні затрымаліся, кінуў у ваду жменю манет.

Ля Слуцка Ліза папрасіла прыпыніцца. Выйшла з машыны, схавалася ў кусты. Яе муціла. Ірвала жоўцю. Перад абедам яны выпілі каньяку, думала, што кепска ёй ад выпітага нашча. Пра цяжарнасць нават думаць баялася. Яе падвезлі на Арлоўку.

— Я не выйду праводзіць. Не крыўдуй. У мяне процьма ворагаў і зайздроснікаў. Пазваню сам. Дамовіліся?

— Мгы, — ціха паварушыла вуснамі Ліза, сама падумала: «Не, ён не пазвоніць, не».

Падымаючыся на пяты паверх, думала: «Нават добра, што так хутка і нечакана ўсё скончылася».

Адно жаданне ў машыне валодала Канановічам: ён хацеў пісаць той маленькі накід, які схаваў ад чужых вачэй, нават сам баяўся лішні раз глянуць, каб не сурочыць.

Не хацелася ехаць дамоў... да жонкі, з якой даўно не ладзіліся адносіны, — кожны даўно жыў сваім асобным жыццём, сваімі клопатамі і сувязямі. Дачкі ў Мінску не было, яна павезла ў Карэлію студэнцкі будаўнічы атрад.

— Куды ехаць, Віктар Сяргеевіч? Дамоў? — перабіў яго думкі Пятрусь.

— Давай дамоў, — абыякава адказаў Кановіч, — прыму душ — і працаваць, працаваць... Мне трэба спяшацца, Пятро. Ох, як мне трэба спяшацца. Ты нават не ведаеш, у якім цяжкім становішчы я зараз. Трагічным, можна сказаць. Пакінеш мяне ў майстэрні, а ў гадзін пяць паедзем у лечкамісію. Паганыя нервы, к чарцям сабачым...

— А з заявай наконт кватэры што рабіць?

— А... Завязі Георгію Якаўлевічу, ён узначальвае жыллёва-бытавую камісію. Я сваё слова...

— Зразумеў. Усё зразумеў.

# РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

## ПРАЦАВІТАЯ СЕРАДА

— Скажы, Федзя, а чаму Ляды называюцца Лядамі? — спытала Ева, калі яны складвалі бярозавыя дровы пад сцяну адрыны.

— А ці ж Карней Міронавіч табе не расказваў?

— Я не пыталася.

— Доўгая гісторыя.

— Мне цікава.

— Тады слухай. Было гэта даўно, адразу пасля заснавання горада Турава. Аднаму князю, Давыду, спадабалася Гарынь, нехта гаворыць, што не так, што, маўляў, багаты Давыд пасварыўся з валынскім братам сваім. Адным словам, заснаваў тут у нялюдных мясцінах, дзе дзічыны паўнютка было, гарадок, а на Царкоўнай гары, ты праязджала каля яе ў Давыд-Гарадку, пабудаваў замак — вялікі і прыгожы. Ніжэй на Гарыні, ля самай прыпяцкай багны, два браты з дружыны Давыда атрымалі за храбрую службу хутар у пяць моргаў зямлі. Збудавалі браты сабе хату дый зажылі, падвозячы да стала Давыда свежую рыбу, грыбы, ягады. Адзін з братоў, старэйшы, прыахвоціўся ўсё з замка князя дамоў цягнуць. Што выцыганьваў у вялікага князя, а што і браў без дазволу, калі тое кепска ляжала. Па-нашаму, проста краў. Далез і да казны князя і яе трос патроху да сябе ў склеп. Прагнаў малодшага брата жыць у адрыну, калі той адмовіўся памагаць красці: «А на які ляд мне ўсё гэта?» Да пары, кажуць, збан ваду носіць. Злавілі злодзея. Пакаралі суровай карай, а малодшага прывезлі да князя. «За тваю чэснасць, кажа князь, прапаную табе кіраваць маёй казною, уладу даю». А малодшы і адказвае: «На які ляд мне ўлада, казна? Адпусці назад, на хутар». Зміры́ўся князь, адпусціў. І малодшы па-ранейшаму прывозіў рыбу, грыбы, ягады. З тых часоў і празвалі «на які ляд прыехаў», стуль і пайшлі Ляды.

— Я ніколі ў сваім жыцці больш за дваццаць рублёў і не трымала ў руках.

— Я трымаў тысячы, а на які ляд? Не яны галоўнае ўсё ж.

— Ну, сказаў. Мой бацька так не лічыць. Кажа, мяне не цікавіць, як жыць і дзеля чаго жыць, а за што жыць.

— А вы што, галадаеце?

— Не. Прыказка ў яго такая.

— І дзе ён такую прыказку выкапаў?

— А ён у мяне іх сам прыдумвае. Напрыклад, гэту: «Дае бог дзень, ды не дае капейку» альбо «Шчасце не ў грашах, а ў іх колькасці».

— Ён у цябе нумізмат?

— Не разумею, хто?

— Чалавек, які збірае старадаўнія грошы. Манеткі.

— Не. Толькі сучасныя.

— І многа назбіраў?

— Ого, табе скажы, дык яшчэ прыедзеш ды ўкрадзеш, — з усмешкай адказала Ева і дадала сур'ёзна: — Ён і з братам судзіўся за дзедаву хату.

— Канечне, адсудзіў?

— Амаль усё. Дзед жыў побач з намі. Бацька даглядаў яго.

— А брат дзе жыве?

— Дзядзька таксама ў Ашмянах. Але ж ён па санаторыях ды бальніцах ездзіць. Туберкулёзны.

— Шкада твайго дзядзьку.

— І мне было шкада. Я нават усю ноч праплакала. Яны пасля суда больш і не гавораць.

— Што ж ён са спадчынай зрабіў? Машыну купіў?

— На пасаг накінуў, — Ева апусціла вочы долу, быццам бацька прапанаваў гэты пасаг Фёдару.

На двор увайшоў Карней з двума боханамі хлеба ў сетцы.

— Кіньце, дзеці. Пайшлі б пагулялі, і заўтра дровы складзем.

— Тут мала засталося. Я ж увечары ад'язджаю, Карней Міронавіч.

— Як? — быццам нешта абарвалася ў Карнея.

— У сераду на работу. Дваццаць чатыры дні праляцелі як адзін дзень.

«Вось, скажы ты, штука. Чужы чалавек, пра якога ўсяго і ведаю, што пяць гадоў жыве ў сталіцы, працуе на заводзе. Нежанаты. Не п'е кожны дзень, не курыць. Да раніцы чытае. Не цікавіцца вопраткай, бо не бегае штораніцы да магазіна, калі прывозяць новыя тавары. А ні разу не пабіўся за тры гады з мясцовымі хлопцамі. І, здаецца, з дзеўкамі ніколі тут, у Лядах, не гуляў. Болей нічога... Так усё ж прывык да чалавека, быццам самы дарагі і блізкі цябе пакідае».

Заўважыў Карней: пасля слоў Фёдара ў Евы твар спахмурнеў. Выпіла ў абед кампоту, а шчаўя і не кранула. «І заўсёды ён дацягне да апошняга дня, а ўжо тады кажа: еду ўвечары. Чаму так? Не, не такі ўсё ж ён нейкі, як усе».

Карней не просіць затрымацца яшчэ на дзень, да нядзелі. Раз служба, значыць, трэба.

— Шкада, няма бацькі, ён бы бюлетэнь мог зрабіць, — нібыта некаму чужому, гаворыць Ева.

Карней рэжа вялікага пеўня, гатуюць на дарогу Фёдару. Ева бяжыць у сад, збірае першыя паданкі ў дзіравы кош, яблыкі падаюць на зямлю праз дзіркі, кідае нервова кош у малліннік, нясе яблыкі ў падоле спадніцы, агаліўшы свае ладныя, трохі паўнаватыя ногі.

Фёдару няёмка, ён адварочвае паволі галаву ўбок і ўсё ж затрымлівае позірк на круглых каленях дзяўчыны.

— Ты адрас пакінь, мы з Евай вышлем пасылачкай «цыганак», — кажа Карней.

— Ды я мо яшчэ прыеду бульбу падмагчы выбраць. У мяне адгулы назбіраюцца.

Гэтая навіна абнадзейвае Карнея, і ён весялее.

Час ісці да аўтобуснага прыпынку. Невялічкі чамаданчык нясе сам Карней. Ева нарвала букет півоняў. Нясе. Фёдар ідзе побач з Карнеем, ляпае дубчыкам сябе па джынсавай калашыне.

— Ад'язджае? — пытаецца Шура.

Карней моўчкі ківае галавой.

— Дай бог шчаслівай дарогі.

У будзённы дзень, на вечар гледзячы, ніхто з Лядаў не едзе ў Давыд-Гарадок. Аўтобус, што вяртаецца з Ніжніх Лядаў, ужо яркай жоўтай плямай выпаўзае з лесу. Селі на лаўку. Ева ўсё хавае вочы за півоні. Маўчыць Федзя.

— Заўтра пагода будзе, — гаворыць Карней.

— Трэба было сёння сена перавярнуць, — адказвае яму Фёдар.

— З Евай управімся. Праўда, Еўка?

Ева маўчыць. Вось падыходзіць і аўтобус. Пазяхаючы, шафёр бярэ грошы ў Фёдара і доўга корпаецца ў накрыўцы з-пад карамелі, там у яго дробныя манеты. «Няма рэшты. Потым аддам».

Фёдар не асмельваецца абняць Карнея, і Карней стрымлівае сваё жаданне прытуліць яго да сваіх грудзей, як роднага. Моцна паціскаюць адзін аднаму рукі. Ева аддае букет і падае слабую мяккую руку.

— Усяго добрага.

— Дай бог у здароўі ўбачыцца.

Аўтобус ад'язджае ціха. З гары шафёр проста адпу-

скае тармазы, і машына коціцца, коціцца... Здаецца, вось-вось прыпыніцца. Аднак нешта чхнула, узвыла, запішчала, стрэліла, і жоўты «Ікарус» хутка аддаляецца, а праз некалькі хвілін зусім знікае за жытам.

«Харошы хлопец, дальбог, харошы хлопец. Я на сваім вяку пабачыў усялякіх...» — гаворыць сам сабе Карней, бо Ева не слухае яго.

Добра, што сцямнела, што яна ідзе спераду, што ніхто не бачыць. Коціцца па дзявочым твары сляза...

У Баранавічы аўтобус Давыд-Гарадок — Мінск прыходзіць каля трох гадзін ночы. Санлівыя, стомленыя пасажыры выходзяць размяць ногі ды на другім паверсе вакзала з'есці халоднай курыцы, яек, выпіць цёплай кавы.

Фёдара не вабіла ні цёплая кава, ні свежае марожанае, якое прапанавала чырванашчокая латочніца на першым паверсе. Ён, мінаючы яе, зайшоў у паштовае аддзяленне, купіў канверт і на бланку тэлеграмы пачаў хутка пісаць ледзь бачным на паперы вадзяніста-фіялетавым чарнілам: «Ева, я пішу табе з Баранавіч. Паўночы я ўспамінаю цябе, Карнея Міронавіча, наша развітанне і разумею, як ніколі... Я павінен прызнацца. Болей несці... мая душа не ў сілах... Я хацеў табе сказаць гэта, калі мы складвалі дровы, нават хлушу, мая харошая, любая Ева, раней хацеў, як толькі мы пазнаёміліся з табою...» Нечакана закрэсліў усё, потым скамячыў паперу і кінуў у куток. Папрасіў у дзяжурнай яшчэ адзін бланк. Зноў пачаў пісаць. «Добры дзень, Ева. Ты атрымаеш гэты ліст раніцою, а я пішу табе ў тры гадзіны ночы на чужым і нялюдным вакзале. Мне цяпер усё чужое і нялюднае, быццам я страціў ці забыў нешта самае дарагое і светлае ў маім страшным жыцці. Я не магу без цябе! Я павінен, абавязаны прызнацца... Хутка ўсё скончыцца...»

Зноў усё закрэсліў і парваў на дробныя кавалачкі.

— Можна яшчэ адзін бланк?

— Таварыш, у нас ліміт. На паўгода выбралі, — строга адказала дзяжурная. Больш не прасіў.

Прайшоўся па пероне.

Ноч была цёплая, ціхая. Пахла язмінам. На лаўках драмалі тры цыганкі з дзецьмі. У адной на руках моцна спала дзіця з босымі бруднымі нагамі. Заўважыўшы Фёдара, які на хвілінку прыпыніўся ля іх і прыглядзеўся, адна з цыганак ажывілася, дастала з тэчкі белы жакет

з чырвонымі палосамі і слабым голасам прапанавала:

— Купі, дзядзька, жакет. Італьянскі. Дзёшава аддам, саколік.

Астатнія дзве, пачуўшы голас сяброўкі, падхапіліся.

— Бяры, красавец, не пашкадуеш! Глянь, глянь, якая красата.

Фёдар пайшоў прэч. Цыганка схавала жакет і зноў прытулілася да дзіцяці.

Да адыходу аўтобуса заставалася яшчэ пятнаццаць мінут. Ён сеў на сваё мяккае крэсла, адкінуў яго назад, каб зручней было сядзець, і задрамаў.

Прайшло дзесяць доўгіх, невыносна цяжкіх аднастайнасцю, густых сумам дзён, пакуль Шура прынесла ліст ад Федзі.

Ева, на радасць Карнею, усе гэтыя надакучлівыя дні шмат іграла на акардэоне. Іграла задушэўна, старанна.

Ухапіла той ліст і, не падзякаваўшы Шуры, пабегла ў сад, каб ніхто не бачыў, не пытаўся. Ліст быў невялікі, і яна хуценька прачытала яго, схавала, назбірала ў міску паданак, прынесла ў хату. Не вытрымала, зноў пабегла ў сад, яшчэ раз прачытала.

«Ева. Усе словы, якія я паставіў бы за тваім імем, не выказалі б і часткі майго пачуцця. Ведай толькі адно: мне не хапае тваёй усмешкі, тваіх вачэй, тваёй чуласці.

Я паганы, Ева, нават страшны. Пасля нашага развітання я вырашыў усё расказаць табе адной. Лічу тыдні, дні да нашай сустрэчы. А яна яшчэ вельмі далёка. Пішы мне. На правах нашага знаёмства пішы мне ўсё: пра Шурупчыка, пра заходы сонца на Гарыні. Мне ўсё цікава, усё! Карнею Міронавічу я напішу, пра мой ліст да цябе не кажы. Хаця што я прашу? Ён даведаецца ад Шуры, а калі не, то па табе пазнае. Мне здаецца, што ён і пра мяне ўсё ведае, толькі робіць выгляд, што адносіцца спакойна да ўсяго. Я баяўся яго вачэй. Калі спытае ліст, прашу цябе, не давай чытаць, спалі. О, гэта ідэя. На словах перадай вялікае прывітанне. Твой сябар Ф.».

Карней, хаця Ева кожны дзень чакала пытання пра ліст, нічога не спытаўся. Мо і сапраўды не ведаў. Праз кожныя дзесяць дзён ішлі лісты ад Федзі.

Шчаслівая Ева ўжо загадзя чакала Шуру, выходзіла насустрач, бегла ў сад, пад любімую яблыню, садзілася на траўку і чытала. Схаваць лісты не было куды, на

вуліцы дзе-небудзь пакінуць баялася, каб не сапсаваў дождж, і таму складвала іх у адзін канверт і насіла з сабою ў кішэні халаціка.

Адыходзіў верасень. З раннім пахаладаннем, першымі пахамі дыму: палілі бацвінне на бульбяных агародах. Чакалі Федзю. Карцела яму спытаць у Евы, што піша ці абяцае прыехаць, ды не адважыўся. «Няхай яе тайна жыве з ёю».

Прыгажэў на вачах будынак сада-ясляў. Звышыні адкрывалася далячынь, кранутая чырванню клёнаў, шэрымі воблакамі над цёмнымі вільчыкамі сасновага бору. Жанчын у Карнея брыгадзір забраў на бульбу. Зноў, па яго словах, не хапала рук.

Абяцалі раннія маразы. Таму людзі спяшаліся.

Карней застаўся на будоўлі адзін. Стамляўся за дзень: усё ж цяжкавата самому цягаць на гару раствор і цэглу. Прынясе бярэмак цаглін, сядзе перакурыць і зноў пачынае.

Прыехаў Фёдар у Ляды нечакана, на спадарожнай машыне. Ева мыла вокны, мелася кітаваць, аклейваць паперай. Заўважыла. У першую мінуту не ведала, што і рабіць. Пабегла на другі паверх, там зачынена, спусцілася ў свой пакой, села. Глянула ў люстэрка. Якая яна непрыгожая! Шчокі пухлыя, бы ў малой дзяўчынкі. Што рабіць? Уцячы праз акно?

Чутны яго крокі.

— Ева, ты дома?

Які знаёмы, любы голас...

— Ева? — гукнуў яшчэ раз Фёдар.

— Іду, — вырвалася ў яе. Адразу не пайшла, села на ложак і раптам падумала: «Што ж я сяджу?»

Выйшла.

— Добры дзень, Ева.

— Дзень добры, Фёдар.

Як ёй хацелася падбегчы да яго, прытуліцца, крануць рукой яго валасы.

— Прыехаў на тры дні. Як і абяцаў. А дзе Карней Міронавіч?

— На будоўлі. Усё яшчэ сад-яслі не скончаць. — Ёй здалося, што раптам знікае, страчваецца той настрой першага погляду, што са словамі «Карней Міронавіч» Фёдар аддаліўся ад яе, што празрыстыя ласкавыя вочы яго зноў наліваюцца засцярожанасцю і нявыказанай трывогай.

— Бульбу не выбіралі?
— Не, — нібы нехаця адказала яна. «Чаго ён баіцца, чаму не падыдзе, не возьме за руку?..»
«Божа, дай мне сілы не падысці, не пацалаваць яе», — думаў Фёдар, не ведаючы, пра што яшчэ спытаць.
— У цябе гузік адрываецца на паліто.
— Дзе? — Фёдар стаяў нерухома.
— Вось, — яна пацягнулася рукой да гузіка.
Ён мякка спаймаў яе руку.
— Ева... Я...
— Я...
Яны не далі дагаварыць адно аднаму. Фёдар абняў яе моцна, аж да болю, і цалаваў таксама напорыста, задыхаючыся. Яна адказвала пацалункам яму нясмела, сарамліва, са шчыльна сціснутымі губамі.
— Што з табой... Я ж верыла, я чакала...
Ён зноў цалаваў яе губы, баяўся слоў.
На ганку пачуліся крокі.
Ева пачырванела, адштурхнула Фёдара.
— Ого, каго мы бачым! — шчыра ўзрадаваўся Карней. — Надоўга?
— Тры дні, як і абяцаў.
— Дзеля адной бульбы не варта было і вырывацца, Федзя. Дарога выматвае. Ноч сюды, ноч — назад. Самі б управіліся. Шура дапамагла б.
— Прыехаў, Карней Міронавіч. Што гаварыць.
— Праўда. Распранайся. Ева, кармі госця.
Карней узяў паліто, акуратна павесіў за каўнер (вешалка была адарвана) на рог аленя. Фёдар дастаў бутэльку гарэлкі.
— Ты ж не п'еш. Схавай гэту халеру. То яшчэ ўпаду к чортавай мацеры. Еўка, прынясі наліўку.
Селі да стала.
— О, — хлопец палез у сумку, — я вам лякарства прывёз «Сустак-мітэ».
— Меў толькі клопат. Дзякую.
— Сяргея ў Мінску не страчаў?
— Не, Карней Міронавіч.
— Харошы хлопец, хоць не пашанцавала яму з гэтай павай, ды мы не суддзі. Мо ў нас за душою яшчэ больш грэшнага. Еш, браце, сілкуйся.
Памаўчалі. Карней усё ж не вытрымаў, спытаў:

— Ты, Федзя, даруй мне. Там у цябе партрэт на сцяне, дзядзька барадаты. Хто ж гэта такі?

— Пісьменнік. Дастаеўскі.

— А... «Преступление и наказание».

— Мы праходзілі, — хутка пачала Ева, — герой Раскольнікаў забіў багатую старую, потым усё далейшае жыццё каяўся. У асноўным вялікі рускі пісьменнік распрацоўваў адну думку, ці можна праз няшчасце аднаго здабыць шчасце другому, і даказваў — не.

— Глядзі, як шпарыць, што тэлевізар, — прыемна здзівіўся Карней.

— Усё правільна, — адказаў Фёдар, не ўзнімаючы галавы.

— Купіце хлеба і кільку ў тамаце. Заўтра боршч зварым, — папрасіў, выходзячы, Карней.

Яны праводзілі яго, выйшлі на ганак і, вяртаючыся ў хату, у сенях, што хавалі сястру любові — цемру, — абвілі адно аднаго рукамі. Ён раптам падняў яе, наском адкрыў дзверы, панёс у пакой і, цалуючы, апусціў на ложак. Яна схамянулася, моцна адштурхнула яго:

— Не. Няможна. Не магу. Так не трэба, чуеш?

— Што ты, любая, — ён цалаваў яе рукі.

— Мы нават не ведаем адно аднаго. Я баюся. Ой, не, не... — яна закрыла твар рукамі, — што я гавару. Трэба супакоіцца. І табе і мне. Родненькі. Харошы мой. Сядзем. Ну, пасядзі. Добра?

— Добра, — не чакаючы ад сябе гэтага слова, адказаў ён.

Селі ля стала.

— Ты прабач...

— Не. Гэта, відаць, я не сучасная, дурная нейкая. Ведаеш, у нас адна ў дзесятым класе жыла з маладым фізікам. Дык усе сяброўкі ёй зайздросцілі, а я пагарджала... Ты прабач...

Яна ўзяла яго руку і гладзіла пяшчотна сваёй далонню пальцы.

Ноччу Фёдар доўга не мог заснуць. Усё дакараў сябе за тое, што, як варвар, хам апошні наляцеў, напалохаў святую душу, да якой ён не мае права, можа, нават дакрануцца.

Карней узяў у брыгадзе каня. Што-што, а любіў надта сам весці плуг, за якім ішлі з кашамі Ева, Фёдар, Шура.

Выбралі бульбу за тры дні ўсю — выйшла дваццаць восем мяхоў. Сярэдне. Былі гады, калі са сваіх сотак Карней браў і па сорак мяхоў. Адзін адгрузіў за работу Шуры. Позна вечарам, калі Карней паехаў на канюшню ставіць каня, Фёдар узяў сумку і папрасіў Еву правесці яго да аўтобуса.

— Так нечакана. Не развітаўшыся з дзядзькам Карнеем?

— Так трэба. Ён ведае, што я сёння ад'язджаю.

— Чалавек можа пакрыўдзіцца. Каму патрэбны такія фокусы, — не магла супакоіцца Ева. Яна ўсё спадзявалася, што Фёдар застанецца і на выхадныя дні.

— Баюся. Баюся, што не вытрымаю і... лепш табе. Пойдзем, прашу.

Усю дарогу Фёдар маўчаў. Селі на знаёмую лаўку, ля аўтобуснага прыпынку.

— Я падманваў цябе, Ева... і Карнея падманваў, таксама, — нарэшце ціха, з адценнем неспакою пачаў Фёдар. — Не працую я на трактарным заводзе. І ніколі не працаваў. У мяне іншая прафесія. Я інкасатар. Тры гады пасля арміі я працую ў дзяржаўным банку інкасатарам.

«Ну дык што? — падумала Ева. — Гэта нават цікавая і рэдкая прафесія».

— Ева, я табе адной скажу тое, што хаваю і нашу цяжкай ношкай на плячах: я і ёсць той самы інкасатар, які забіў сына Карнея Міронавіча! Толькі ты не палохайся. Я павінен быў гэта нарэшце некаму сказаць... Табе першай.

Ева разгубілася, не ведаючы, як адгукнуцца на пачутыя словы.

— Не... ты не думай, што я зрабіў гэта наўмысна... па закону. Я не адказваю... Нават гадзіннікам імянным узнагародзілі і прэмію далі. Фактычна выходзіць, што я не вінаваты, нават, як бачыш, герой, які з гонарам выканаў службовыя абавязкі і які не меў іншага выйсця, як забіць. Гэта тады, тры гады таму назад. Ужо потым я зразумеў з жахам і болем, аналізуючы і яшчэ раз усё вывяраючы, што я, калі шчыра падысці да справы, відаць, забіў Сашыка ні за што.

— Як? — перапужалася Ева.

— Вядома, адносна. Мог і павінен быў не стрэліць. Справа ў тым, што ў нас, інкасатараў, закон: банкаўскія грошы — маёмасць дзяржавы і кожны, хто пазарыцца

на іх, панясе належную кару. У той няшчасны дзень я ўзяў торбачку з дзесяццю тысячамі... Не так. Спачатку пра дзяўчыну. Я яе праз знаёмага знайшоў. Яго дзяўчыну, з якой Сашык гуляў ля магазіна. Яна потым ужо расказвала: Сашык быў гарэзлівы, нават гарачы — ён мог увязацца ў бойку, калі двое, трое білі аднаго, хоць яму і пападала, а ўсё ж абараняў слабейшага. Тады, у той дзень, можа, ён крыху і выпіў. Гуляў з дзяўчынай і напаўжартам сказаў ёй: «Хочаш, я пацікаўлюся, колькі грошай нясе інкасатар?» Дзеля яе яму не страшна і гэта, і, не чакаючы дазволу дзяўчыны, падбег да мяне, ухапіў за руку і так весела спытаў: «Многа, таварыш інкасатар, грошай?» Я... ведаеш, гэта быў мой трэці самастойны выезд... нас вучылі... папярэджвалі, што бываюць самыя неверагодныя казусы, ёсць выпадкі разбою і нападу на нашага брата-інкасатара. Я вазьмі выхапі зброю... і ў жывот яму. Так ён і абвіў мяне, цягнучы торбачку з грашыма, ухапіўся за яе, як за ратаванне, каб утрымацца на нагах, не ўпасці. І гэта было потым улікаю... «За што... таварыш?» — толькі і сказаў.

Прыбегла міліцыя. Мы павезлі грошы ў банк. Мяне ўсе віншавалі з першым подзвігам. Партрэт у сценгазеце. Маланка. Герой. Якое ж гэта геройства? Нават калі б ён ухапіў торбачку, куды б ён збег? Вакол людзі. Сябры мае ў машыне за дзесяць крокаў. А ён у джынсах, белай сарочцы, у кішэні якой нават цыгарэта не змесціцца. Нікуды ён не паспеў бы збегчы. Я, прызнацца, страляў з нянавісці. Я ў кожным бачыў забойцу і злодзея, якія толькі і чакаюць, каб напасці на мяне. Не, не ад прафесіі... Мой айчым яшчэ павучаў, што чалавек звер, што кожны хоча нажыцца за кошт іншага. Закон. Кожны. Я са скуры вылузваўся, каб выслужыцца, каб прыкаваць да сябе ўвагу, я маліў бога, каб ён мне паслаў злодзея і я яго забіў!

Федзя заплакаў. Ці гэта здалося Еве — з адчаю.

— Гэта ж нечалавечыя думкі. Страшэнныя, дзікія. Разумею, цяпер разумею. Потым я даведаўся пра Карнея. Ад дзяўчыны.

«За што, таварыш?» — гэтыя апошнія словы куляй уваходзілі ў маё сэрца кожную ноч. Першы раз я прыехаў у Ляды, каб адразу прызнацца і прасіць даравання, калі можна. Не змог, не прызнаўся. Зразумеў, чым быў Карнею яго адзіны сын. Я, Евачка, мог і пачакаць тады, не страляць адразу, адштурхнуць яго ці про-

ста выхапіць наган. Тут, у вёсцы, бацька горка аплакваў забойства. А я выхваляўся гадзіннікам, хлусіў, расказваў, як на мяне напаў разбойнік. Мяне потым ахапіў такі несусветны сорам, што я гатоў быў павесіцца. Не ведаю як, чым зняць віну перад гэтым чалавекам.

Фёдар змоўк.

— І што ж ты думаеш рабіць далей? Мо работу гэту кінуў бы? — спытала яна, разумеючы ўсю складанасць яго пачуццяў.

— Не ведаю. Таму табе і прызнаўся... Буду прыязджаць кожны год да яго, жыць, рабіць, памагаць... Ён жа цяжка паранены. Але ж не такі Карней, каб яго шкадавалі. Раілі пайсці на пенсію, у шпіталь. Не. Буду прыязджаць... пакуль сам не даведаецца і не даруе. Інакш нельга. Абрыдла мне работа мая. Жахліва і сумна. Сіл не хапае кінуць.

— Можа, застанешся на выхадныя?

— Немагчыма. Працуем і ў выхадныя. Цяпер ты ведаеш усё. Пішы мне. Абяцаеш?

— Абяцаю. Бацька тэлеграму даслаў, заўтра прыязджае. Можа, яшчэ забярэ ў Ашмяны.

— Тады што?

— Не ведаю.

— Я буду пісаць на пошту.

— Няможна. У яго ўсюды знаёмыя.

— А мо і не забярэ.

— Хто яго ведае.

Падышоў аўтобус. Ён пацалаваў яе, як падалося, халоднымі чужымі губамі. Ноччу Ева доўга плакала, што лёс ёй паслаў самадура-бацьку, якога баіцца і недалюблівае, што трэба слепа выконваць яго волю і менавіта паступаць у музычнае вучылішча, што не можа падзяліць пакут Фёдара, не ведае, як памагчы. «Сына Карнею ўсё адно не вярнуць».

Евін бацька заехаў на некалькі гадзін. Настрой у яго быў цудоўны, хваліўся, што яшчэ ў Мінску на дурніцу выпілі з хлопцамі. «Справы свае ў раёне аблапаціў адной левай і адразу да вас».

—Вось што, Карней, добрыя людзі падказалі. Боўтаецца, як казляк у палонцы. Іграць можна доўгімі зімовымі вечарамі, а яе трэба аддаць на работу ў калгас і на наступны год, як калгасніцу, з накіраваннем запусціць у любы вуз, хоць акадэмію. Абавязаны прыняць.

Я іх даб'ю, куркулёў... Прасіў Карнея прыстроіць дачку, каб рукі не стамляліся.

— На ферму магу.

— Не... цяжка. Ты ж усё жыццё ў калгасе, цябе паслухаюць. Мо пісаць што-небудзь, падлічваць. Няўжо аніякай заразы няма, падлічваць.

— Няма. У нас рабіць трэба, — Карнею не спадабаліся наскокі нахрапістага стрыечнага брата.

— Ну, дадзім капейку, ну, паўсотні кіну на падарунак. І ў вас навучыліся браць? Га? Браце?

— І без паўсотні возьмуць. Хоць бы афіцыянткай.

— Залатыя словы. Дзе харчы, там і тырчы. Есці сама будзе ды яшчэ дамоў валізку цягнуць. Галава ў цябе, Карней.

— Прынясе на пяць капеек — у гэты ж дзень куплю білет і выправаджу дамоў давучвацца, — з нейкай здушанай злосцю казаў Карней.

— Ну, будзе. Ат, яй-богу, няма за што сварыцца. Паесць там, і дзякуй богу. Бяры. Маці перадала зімовую адзежу.

Ён перадаў зімовае паліто з каракулевым каўняром, рукавіцы, цёплую хустку з воўны.

— А тут па жаночай лініі, — перадаў цэлафанавы мех з бялізнай. — Рад бы з вамі па чарцы, ды машына ў раёне грузіцца... часу няма. Вось што, Карней, галава, што аглобля, не варыць кацялок, ледзь не забыўся. Скоч у праўленне, адзнач мне камандзіроўку. Маўляў, чалавек яблыкі закупляе. Я сваю ўжо адзначыў, а гэтую ўзяў быццам на таварыша. З люду па капейцы — жабраку сарочку. Ну...

Карней сядзеў, не варухнуўся.

— Чуеш? Там не пытаюць. Ім усё роўна.

— Не пайду, браце. Ты мухлюй сваё, а я не мяшаюся.

— Не разумею. Усе так робяць, усюды так робіцца.

— Ну, а нам на які ляд? Калі табе так трэба гэтыя дваццаць рублёў, на, я табе дам.

— Хахмач! Мне дзяржаўныя трэба. Ці ж я за восемдзесят рублёў сямейку пракармлю? Паліто за сто цалковых дачцэ куплю, чобаты сто шэсцьдзесят рублікаў вынь ды пакладзі. А я, ведаеш, не анёл і мяса яшчэ хачу есці і каўбасу. Адна мэбля жылы цягне. Што ж ты на мяне як на белую варону глядзіш, гэта я на цябе так глядзець павінен. Суседзі мае: яна на пошце, а ён

фельчар. Двое дзетак. Кожны месяц у маёй жонкі пазычаюць, не хапае. Што ж цябе турбуе, што сваяк дваццацьпятку скруціць. А тое, што я сам грузіў гэтыя яблыкі, ды разгружаю, ды ноччу, калі спяць, за вартаўніка. Мне ж ніхто не плоціць. Надакучыла быць чэсным, ніхто не зайздросціць. І помнік не пастаўяць. Усё. Бяры камандзіроўку і шлёпні пячатку.

— Тата, не прасіце, калі дзядзька Карней сказаў. Ён не пойдзе! — упершыню ў жыцці Ева пярэчыла бацьку.

— Змоўкні, цялё. Паю, кармлю, і сядзі ціха! Калі старэйшыя размаўляюць. Разбяромся, па чым пуд солі. Ты мне скажы адкрыта: ці баішся сапсаваць сваю рэпутацыю, ці шкадуеш дзяржаўных грошай?

— Усё разам. Не разумеем мы адзін аднаго.

— Чаму ж? Усё проста. Гэта ўсё твая фанабэрыя. Усе бяруць. А я не буду! Гэтым буду адрознівацца. Усе крадуць, а я не буду. Раней, можа, цябе і ацанілі б, а цяпер смяюцца. Ты на ўсіх не падобны, як іржавая капейка.

— Не трэба за ўсіх гаварыць. Айчына вунь якая вялікая. І думка ў яе глыбокая, і характар шырокі, а ты хочаш перакроіць ды падагнаць усё пад сваю глыбіню і шырыню. Ці варта?

— Ну, а калі я пайду і сам пастаўлю пячатку, што ты на гэта скажаш? Табе не цікава?

— А што ў тваім жыцці цікавага? Што? Ці ты ўратаваў галоднага, ці ты пасадзіў на вуліцы дрэва, ці ты заступіўся за пакрыўджанага, ці ты дапамог старому, ці ты паважаеш маладосць?

— Карней, Карней... не пазнаю цябе. Яшчэ ў бібліі сказана, не ўсе памром, але ж усе зменімся на зямлі. Добра, няхай я кепскі, дурны, як гэта настаўнік кажа, эгаістычны. Да якога жыцця ў цябе цікавасць ёсць? Навучы мяне, памажы сляпому.

— А хоць бы да яе! — Карней паказаў на дзяўчыну. — Да жыцця Евы!

Евін бацька зарагатаў гучна, не саромеючыся, так, што на губы набеглі кроплі сліны.

— Велікамучанікі, дзівакі. Цяпер веру. Вы нават адно аднаму падыходзіце. Жывіце доўга, пацяшайце народ. Дай бог мне памыліцца. Ну, бывайце здаровы. Праводзіць не трэба. Дабягу да аўтобуса сам. Маці часцей пішы, ёлуп, чуеш? — наказаў бацька дачцэ.

«Як жа так? — думаў пасля Карней. — Ці ж я не ве-

даў яго раней, ці сапраўды ўсё мяняецца? І скажы ты, не сорамна перад дачкою? А Еўка? Дапытлівая. Файная! З характарам».

— Ева, не спіш?

— Не, дзядзька Карней, — адказала Ева з другога пакоя.

— Ты гарчыцу ўмееш разводзіць?

— Не.

— Тады слухай. Заўтра ў сталоўцы загадчыца першым дзелам праверыць цябе гарчыцай, якую на сталы выстаўляюць. Бярэш парашок, яна дасць, тры-чатыры пачкі, сыплеш соль — у яе спытай, колькі ў сталовай заведзена сыпаць солі на тры пачкі, лыжку-дзве воцату і перамяшай усё. Загадчыца падасць гарчычніцы. Не раскладай. Скажы, што для паху няхай месіва пастаіць дзве гадзіны, потым яшчэ раз усё перамяшай. Зразумела?

— Зразумела. А ваду не трэба дабаўляць?

— Точна. Я, старая качарга, і забыў. Адразу, калі высыплеш у міску — давай ваду. Ды глядзі, каб жыжка не атрымалася. Далікатна.

— Дзякую, дзядзька Карней.

— Нема за цо, як казалі пры Польшчы. Спі спакойна і не кашляй.

# РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

## ЧЫСТЫ ЧАЦВЕР

Набегла мокрым снегам, галалёдам на золку і кашлем у аўтобусах і тралейбусах ранняя восень і ў сталіцу. Не кожны са старых прыпомніць, каб на сёмае лістапада выпаў снег.

Страшыў ранак першымі нечаканымі маразамі. Кананові наспех закітаваў вокны ў сваёй майстэрні і не выключаў па пяць гадзін электрычны камін, хоць у прасторным пакоі было даволі цёпла. Сёння павінна нарэшце прыйсці Ліза.

Толькі двойчы, пасля іх знаёмства ў Лядах, яна прыходзіла сюды на сеансы, і двойчы ён амаль нічога не дадаў да таго партрэта, які прывёз з Палесся; і калі яна, з гадзіну-другую прасядзеўшы ля акна і пакаштаваўшы кавы, якую заўсёды варыў усё такі ж уважлівы і ветлівы Кананові, нарэшце выходзіла (праводзіў яе толькі

да лесвічнай пляцоўкі), ён хапаўся за сваю новую работу, клаў некалькі мазкоў, потым зноў накрываў яе марляй і адкладваў убок. Нешта не атрымлівалася. Захапленне хапала на мінуты, натхнення — на гадзіну. Спачатку думаў, што галаву да надакучлівасці забіваюць усялякія пасяджэнні, падрыхтоўка да пленума Саюза, сам пленум, сустрэчы замежных гасцей, камандзіроўка ў Маскву, Ленінград, Кіеў кіраўніком дэлегацыі — баяўся прызначыць каго-небудзь іншага. Потым гэтыя надакучлівыя, аднастайныя і падобныя, як браты-блізняты, вечары старых юбіляраў, якія праводзілі ў Доме літаратара (пакуль свой дом не пабудавалі, усё ўзгаднялі смету).

Ліза... На яе звычайна не хапала часу. Адвык. Дапісваў партрэт з адной думкай, каб не пакрыўдзіць. І калі яна казала, што адымае ў яго час, мо ён патрэбны яму на больш значнае палатно, супакойваў. Цалаваў, лашчыў. Як толькі яна пакідала майстэрню, на душы ў яго рабілася лягчэй. Сёння настрой быў — дрэнь. Толькі што даведаўся, як яго разбіла ў пух і прах на пасяджэнні савета маладая выкладчыца, нейкая Лазарук. Пасяджэнне праводзілі, каб вылучыць яго кандыдатуру ў члены-карэспандэнты. Вядома, наіўная выкладчыца не ведала ўсёй кухні, усёй той велізарнай работы, якую правёў ён дагэтуль. І яе адзінае тэмпераментнае выступленне не магло змяніць агульнага рашэння.

« Лазарук... Лазарук... вельмі знаёмае прозвішча. Ну, канечне. Малады мастак. А ці не яго гэта жонка? На што ён спадзяецца? Прыйдзі, здаецца, папрасі, прызнай свае паводзіны грубымі і памылковымі, «смири гордыню», пакуль не твой час, цярпі, чакай... Дык жа не... ганарлівы. Лічыць, што ён і лёс уласны, і поспех трымае ў руках, што толькі ад яго гэта залежыць. Наіўнае дзіця!..»

Пазванілі. Пайшоў адчыняць.

На Лізе было дэмісезоннае паліто ў вялікую клетку, галаву ўпрыгожвала самаробная вязаная шапачка. Ён ледзь крануў яе халодную шчаку сваімі тонкімі губамі:

— Распранайся. У мяне багата часу сёння. Спачатку каву?

— Сяброўку сустрэла. Аднакласніцу.

— І чым яна парадавала цябе? Кватэру атрымала, машыну купіла, удала выйшла замуж за ваеннага? —

весела гаварыў Кананові і ёмка круціў жорны для кавы.

— Наадварот. Нарадзіла дачушку, а маці не хоча глядзець. Вымушаны разменьваць кватэру.

— Правільна. Я старую не асуджаю. Хоча хоць на старасці год адпачыць ад мітусні, зайздрасці, нерваў. Пажыць дзесятак год для сябе.

Селі піць каву.

— Закуры, — ён дастаў блок «Мальбара» маскоўскай фабрыкі «Ява».

— Не.

— Чаму? — здзівіўся ён.

— Кінула.

— Правільна. Тады каньяку.

— Завязала.

— Геніяльна! — ён запляскаў у далоні. Дастаў акуляры і толькі цяпер заўважыў, як Ліза пахарашэла. Перад ім быў не камяк нерваў, напружанасці, нянавісці, а спакойны твар з добрымі вачамі, з прыемнай усмешкай.

— Езус, я не пазнаю цябе. Ды ты — багіня. Пісаць! Неадкладна. Мне толькі на партрэце і не хапае твару. Сядай, калі ласка, да святла. Пра што ты толькі што думала? — ён схапіў пэндзлі, падышоў да мальберта.

— Не памятаю.

— Успомні. Пра горад, пра зіму, пра нас? Пра што?

— Пра сяброўку. Мне чамусьці стала яе шкада.

— Думай пра яе зноў... а я буду пісаць.

Прайшло каля дзвюх гадзін. Цемра ў адрозненне ад снегу не прасілася ў акно, а распаўзалася па ўсіх кутках майстэрні.

Ліза падышла да мастака.

— Вам трэба адпачыць. Пойдзем на вуліцу.

— Так. Гэта праўда. З ахвотай. А чаму раптам «вам»?

— Не ведаю. Пры нашай апошняй сустрэчы ўсё мне здалося такім нязвыклым, чужым. Не патрэбным ні табе, ні мне.

— Ну-у, Ліз, — ён пацалаваў яе руку, — навошта гэты песімізм? Пойдзем на свежае паветра. Усё будзе добра, усё...

Падаючы ёй паліто і памагаючы апрануцца, ён ужо не сумняваўся: так, яна цяжарная. Аднак спытаць не рызыкнуў. Зайшлі ў булачную ля магазіна «Электрон».

Яны і раней любілі заходзіць сюды на піроржныя і каву. Тут ніколі не было людна, асабліва ўвечары. Ліза выбрала піроржнае, заказала каву, ён дастаў грошы, каб разлічыцца, і толькі зараз пазнаў у адным з барадачоў (іх трое стаяла ў самым кутку) Лазарука.

Кананові́ч нечакана пашкадаваў, што зайшлі сюды, тым больш што Ліза, нічога не падазраючы, панесла піроржныя на столік, які стаяў побач са столікам барадачоў, і яму нічога не заставалася, як панесці каву за ёю. Пачуццё падказвала, што Лазарук можа зачапіць.

А Ліза, як наўмысна, расцягвае асалоду, п'е каву марудна, глядзіць у акно і на барадачоў, маленькай лыжачкай дзюбае піроржнае.

Мастакі паміж сабой абмяркоўвалі першы (нарэшце!) нумар агульнага часопіса трох творчых саюзаў (кінематаграфістаў, кампазітараў і мастакоў) «Сузор'е», які з'явіўся ў газетных кіёсках з тыдзень назад. І яшчэ была прычына, каб сабрацца хлопцам разам. У першым нумары новага часопіса быў надрукаваны невялікі артыкул пра аднаго з іх і нават змешчана на вокладцы ілюстрацыя вядомай і значнай яго карціны «Свята ў Мазыры». Юрась прыкмеціў Віктара Сяргеевіча. Азірнуўся. Кананові́ч, не звяртаючы ўвагі, піў каву. Усміхнуўся Лазарук. «Ёсць. Баіцца мяне», — падумаў Юрась, і тое першае пачуццё нянавісці раптам знікла.

— Дзякую вам, Віктар Сяргеевіч, — Юрась глядзеў прама ў вочы Кананові́чу.

— А што ты яшчэ хацеў? — сілячыся быць спакойным, адказаў Кананові́ч. — У нябачнай барацьбе паміж «хачу» і «трэба» не заўсёды перамагае першае.

— Дзякую, вучоны чалавек. Вы чатыры разы памянялі сабе кватэру, а я, між іншым, такі ж член Саюза, як і Кананові́ч. Так што пачакаю, пакуль вас знімуць.

— Доўга чакаць прыйдзецца.

— З'езд не за гарамі. Нельга ж увесь час падманваць народ і эксплуатаваць яго цярпенне.

— Народам трэба яшчэ стаць, — Кананові́чу нават самому спадабаўся адказ гэтаму хударляваму, з вострым носам і глыбока пасаджанымі вачыма юнаку. Юрась на нейкую хвіліну разгубіўся, не ведаў, што адказаць, і Кананові́ч пайшоў у наступленне.

— Трэба выбраць ці гордасць, ці жыццё. Хопіць рэфлектаваць, публічная істэрыя толькі надае вам рэ-

путацыю несур'ёзнага чалавека. Адмаўляйцеся, пакуль не позна.

— Ведаем мы вашу дэмагогію. Сытыя ўжо. Хто ж, як не вы, мадэліруеце і мне, і астатнім маладым рэпутацыю несур'ёзных, слабых? О, як я вас разумею! Вы падтрымліваеце Лук'яновіча, пасрэднага мастака, бо на яго і яму падобных фоне і вам лепш працуецца. Лягчэй. З'езд мусіць вас замяніць. Хопіць спекуляваць на тэме вайны, на тэме сяла, на тэме гераічнага. Чаго вас баяцца? Не разумею. Ці ж пасрэднасць мае нейкую сілу? Вы, Кананові́ч, пасрэднасць, якая выпадкова трапіла ў мастацтва. Спытайце ў прыбіральшчыц, у токара, калгасніка — яны ж не ведаюць ніводнай вашай карціны. Так што не трэба прыкрывацца народам.

Кананові́ч маўчаў, толькі ад дрыжання рук стукаў кубачак кавы на талерачцы.

— Пойдзем, — Ліза ўзяла яго за руку і вывела на вуліцу і ўжо не выпускала, трымаючыся рукой за яго локаць. Менавіта сёння яна надумала прыйсці апошні раз на сеанс і, развітаўшыся назаўсёды, сказаць, што цяжарная ад Сяргея (і гэта была праўда), ды перадумала.

— Я ім дакажу, чуеш, Ліза, вер мне, ты адна... Я ім дакажу, што нездарма прыйшоў у гэтае жыццё, што бог нездарма даў мне талент. Састарэюць і яны. У нашай справе нельга раз і назаўсёды адолець час, поспех, кожны раз трэба замацоўваць, даказваць усім. Я нанава нарадзіўся. Чуеш? І твой партрэт будзе цудоўны, ён стане адкрыццём. Няхай не з'явай, але ж адкрыццём! Сваё. Як даўно я шукаю гэтае сваё! А яно не давалася, знікала, падмянялася кан'юнктурай, кампрамісам. На патрэбу часу... Як ён, крыклівы максіміяліст, не разумее, што, можа, і я ахвяра часу. Але я дакажу, ты мне верыш? Верыш?

— Веру! — цвёрда адказала Ліза.

Позна вечарам яна вярталася дамоў.

Аўтобус незлічона разоў браў улева, зноў паварочваў управа на вузкія вуліцы (будавалі метро, і маршруты аўтобусаў значна памяняліся). Ліза сядзела ля акна. Ёй вельмі спадабаўся гэты новы, хоць і даўжэйшы за папярэдні, аўтобусны маршрут. Магла так ехаць бясконца, толькі б сыпаў гэты мокры снег, толькі б пявуча званіў нябачны званочак — сігнал перад тым, як зачыніць дзверы ў аўтобусе, толькі б не ўваходзілі больш

людзі ў салон — яна любіла, калі аўтобус напалову пусты.

Збоку, калі «двойка» чакала зялёны сігнал, іх дагнаў «трыццаты», таксама напалову пусты. Ля акна, насупраць яе, сядзеў Сяргей у зімовай шапцы з апушчанымі вушамі. Яна ледзь пазнала яго. Сяргей павярнуўся тварам да яе. Ёй захацелася падняць руку, ветліва махнуць, ды строгі, амаль абыякавы позірк Сяргея ўтрымаў яе. Ён глядзеў на Лізу, быццам нанава вывучаючы яе, чужымі вачыма. Быццам нічога паміж імі не было, а калі і было, то недзе далёка і даўно. Нарэшце мільганула на яго твары нешта падобнае на зацікаўленасць. «Трыццаты» вырваўся ўперад, абышоў «двойку».

«Чужыя», — падумала Ліза, калі знік знаёмы твар за шклом. А яна яшчэ хацела паведаміць пра дзіця. Не, не для таго, каб шантажыраваць, спадзявацца на яго ўсёдараванне. Так, дзеля інфармацыі, што дзіця яго. І што яна, незалежна ад думкі Сяргея, будзе раджаць. «Ну, а ўрэшце, — думала яна, — што зменіцца, калі я не паведамлю яму? Ні-чо-га».

У раённай газеце «Палеская праўда», якая выходзіла тры разы на тыдзень і якую выпісваюць у кожную хату, з'явіўся вялікі артыкул і фота Карнея Семенчука. Прыехала да яго карэспандэнтка, доўга хадзіла побач, усё аднекваўся Карней, але ж і дзяўчына трапілася баявая, упартая, і, тое-сёе ўспамінаючы, Карней разгаварыўся. Напаследак выцыганіла асабліва дарагі яму здымак з часоў вайны: вясёлы ўдалы сяржант з акардэонам на падножцы свайго «форда». Ева выразала артыкул у газеце і паслала бацьку. Скупа павіншаваў Карнея старшыня Нядбайла.

Здымалі шмат, а паказалі курам на смех, на адну гарошыну. Аж сорамна было Карнею выйсці на вуліцу, бо ведаў, уся вёска сядзела ўчора ля тэлевізараў. Сусед Зыль радаваўся больш за астатніх: прыйшоў да Карнея і ўпрасіў усё ж паехаць з ім у раён, купіць дыван і заказаць румынскую мэблю без чаргі. «Ты ветэран. Цяпер табе ўсё дазволена. А мне дачку зімой замуж трэба выдаць. Памажы. Па-суседску. З мяне магарыч».

Зыль вазіў малако на млячарню, дык ніколі не дапамагаў ніводнай даярцы паднесці цяжкі бітон ці пераліць з аднаго бітона ў другі.

Раней Зыль загадваў фермай, быў членам праўлення. Не дагадзіў яму старшыня, патрабаваў больш адказна ставіцца да сваіх абавязкаў, дык доўга потым тайком дробязна помсціў. Знялі з загадчыкаў. Два гады не працаваў. Гаравала жонка, а ён ездзіў у Комі на будоўлю. Захварэў. Ці то гастрыт, ці мо язву нажыў. Пайшоў у шафёры, з чаго і пачынаў, яшчэ да арміі.

Можа, каб Карней не ведаў, што Зыль хворы, дык і не паехаў бы купляць тыя дываны. Трэба сказаць, што і Карнея Зыль пабойваўся, не мянташыў языком пры ім. Такім быў сусед Карнея Зыль, які жыў надзеяй: «Хутка вернецца з турмы сын, зажывём па-царску».

Дырэктарка школы прыйшла да Карнея з просьбай выступіць перад дзецьмі ў дзень свята Кастрычніка. Карней адмаўляўся. «Гэта занадта! Я не герой... не першы піянер... Двух слоў звязаць не ўмею. Выставіць як цацу на смех. Яны ж удвая за мяне разумнейшыя. Яшчэ крыкне хто-небудзь: «Канчай, Алегра!» Сораму на ўсю Еўропу. Не!» Тады дырэктарка прапанавала:

— Добра, будзеце маўчаць. Толькі ўручыце выдатнікам граматы і каштоўныя падарункі. Дзецям ціха скажаце два словы падзякі — і ўсё!

— Ну, гэта яшчэ можна...

Прачнуўся раніцой вельмі рана. Глянуў у акно. Вакол электрычнага слупа ў святле лямпачкі пад бляшаным казырком віхрыў дробны, мокры, бы прэлы, снег. Пагаліўся. Без парэзу, хоць і дрыжала чамусьці рука. Ева прычапіла сабе на паліто і яму вялізныя чырвоныя банты. «У нас усе з бантамі ходзяць». Пайшлі па даўняй вясковай традыцыі да помніка. З дынамікаў несліся гукі маршаў. Чакалі дзяцей. Вось яны невялічкай калонай выйшлі са школьнага двара. Па-заліхвацку барабаніў сын Грыцка (сам Грыцко стаяў цвярозы і пры гальштуку, збітым набок).

Метры за два-тры ад калоны нёс школьны сцяг вучань восьмага класа. Іх, васьмікласнікаў, было ў школе пяцёра, і двое хадзілі з Ніжніх Лядаў. Чатыры першакласнікі з вялікімі чырвонымі гваздзікамі ішлі следам за сцяганосцам і барабаншчыкам. Стаміўся фанфарыць у горн заядлы футбаліст, сын Трухана — «Труханчык» — малодшы, але на падыходзе да помніка выдаў сваё «тра-та-та-та, тра-та-та-та».

— Малайчына, Кастусь, ужо ў гарадку пачуюць! — жартаваў конюх Ясько, які ішоў услед калоны.

Свята пачыналася.

Пасля выступлення дырэктара школы і Трухана (ён у асноўным паведаміў пра вынікі перадсвяточнага спаборніцтва) усе рушылі ў маленькую актавую залу праўлення калгаса. Набілася ў гэты пакойчык значна больш людзей, чым прыйшло да помніка. Прыпляліся бабулі, якія загадзя сядзелі ўжо на пярэдніх радах, прыбеглі жанкі, каб глянуць на сваіх дачок: дзеці пасля ўрачыстай часткі давалі канцэрт, які ўсе чакалі ўжо з месяц. Дзверы пакінулі адчыненымі, прынеслі крэслы, на іх залезлі ззаду тыя, хто спазніўся. На сцэну ўзышла дырэктарка:

— Таварышы! Паважаныя бацькі, сябры, дзеці! Па добрай традыцыі, якая існуе ў нашай школе, мы на Кастрычніцкія святы ўзнагароджваем лепшых з лепшых нашых вучняў. — Залу напоўнілі дружныя апладысменты. — Сёння ганаровыя граматы і каштоўныя падарункі будзе ўручаць наш славуты зямляк, ветэран Вялікай Айчыннай вайны Карней Міронавіч Семянчук. — І зноў зала ўзарвалася апладысментамі.

Дырэктарка папрасіла Карнея на сцэну. Ён узышоў, не ведаючы, куды дзець рукі, пакуль дзяўчынка з трэцяга класа не паднесла яму букет кветак. «І дзе яны іх адкапалі?» — здзівіўся Карней.

Дырэктарка выклікала з залы лепшага вучня, перадавала Карнею кнігу, альбом на маркі, канькі, шахматы, а ён, паціскаючы маленькую цёплую руку, дарыў падарунак і на словах дадаваў:

— Віншую. Дзякую табе. Так трымаць! Альбо: Дзякую за вучобу. Пакажы нашых!

— Лена Харашун, — голасам канферансье паклікала дырэктарка выдатніцу з восьмага класа.

На сцэну ўзышла прыгожая дзяўчына з вялікімі бантамі. Карней пазнаў унучку Харашуна.

— Малайчына, Лена, віншую. Дзед твой ганарыўся б табою. Віншую, — ён падаў ёй шахматы і не вытрымаў, пацалаваў у галаву.

— Тут і мама мая. Вунь, на апошнім радзе, ля выхаду, — паспела сказаць шчаслівая Лена.

Карней падняў галаву. Ды дзе там! Ці ўгледзіш?

Пачаўся канцэрт. Як шаноўнага госця Карнея пасадзілі ў першым радзе.

Танец на сцэне змяняўся мастацкім чытаннем, яно — сольным нумарам на баяне, за баянам пайшоў зноў

матроскі танец «Яблычка». Потым заспявалі сёстры Харашун «Дубочак зялёненькі». Іх выклікалі на «біс» — вельмі ж удала і пранікнёна спявалі дзяўчаткі. Не ведаючы чаму, Карнею карцела ўсё азірнуцца. Падалося, што нехта пільна сочыць за ім.

— Карней, Алегра, не круціся, як вуж, дай глядзець, — рыпнуў на яго басам Грыцко.

Канцэрт закончыўся. Жанкі дапамагалі апранацца сваім стомленым, але шчаслівым дзецям.

Карней застаўся стаяць ля акна. З першага рада не выйсці, не працiснуцца. Там, на вуліцы, дзеці з падарункамі хваліліся перад тымі, хто такіх падарункаў не заслужыў.

Выйшлі дзве дачкі Ніны Харашун, а за імі і маці. Лена заўважыла Карнея і ветліва памахала яму рукой. Азірнулася і маці, прыемна ўсміхнулася і нешта сказала Лене на вуха, тая пабегла назад у праўленне.

— Дзядзька Карней, мама запрашае вас прыехаць у госці.

— Дзякую, — адказаў Карней.

— Дык прыязджайце абавязкова, — дадала Лена і знікла. А ўважлівая дырэктарка запрасіла Карнея да настаўнікаў на салодкі стол.

Хоць райком партыі, упраўленне сельскай гаспадаркі павіншавалі калгас са святам, Іван Нічыпаравіч усё ж прадчуваў непрыемнасці, блізкія нават да бяды. Спланаванае свята трыццацігоддзя калгаса, якое меліся адзначыць у снежні, перакінулі на наступны год. Па той сухой і незацікаўленай гаворцы з сакратаром райкома аб перанясенні свята Нядбайла зразумеў: не ў тэрмінах справа, нешта ў райкоме плануюць і пакуль яму, старшыні, не кажуць. Упершыню за апошнія пяць гадоў калгас не выканаў плана па бульбе. Ужо што-што, а палескае золата ніколі не цягнула калгас уніз.

Трывога спакваля прыйшла пасля раённай партыйнай канферэнцыі, на якой яго калгас абмінулі і добрым і дрэнным словам. Быццам яго калгаса «Зара» і няма сярод дваццаці гаспадарак раёна. Раней Нядбайлу хоць прапаноўвалі ўдзельнічаць у спрэчках — на гэты раз і тут забылі.

Адзін чалавек на канферэнцыі быў асабліва ўважлівы да яго, разам у перапынках пілі каву, выходзілі ку-

рыць. Гэта быў старшыня суседняга калгаса «Перамога» Язэп Гардзей, з якім не толькі не сябраваў Нядбайла, а нават не меў добрых суседскіх адносін. Гардзей цікавіўся пра здароўе яго жонкі, дзяцей, між іншым пытаў пра настрой калгаснікаў, пра ўраджай.

Нядбайла хаваў ад калегі тое, што бручка і морква на добрай палове плошчы засталіся ў зямлі: перашкодзілі выбраць раптоўныя маразы.

Сумна і напружана правёў Нядбайла свята ў цешчы ў Століне. Бурчаў на дзяцей, пераключаў раз-пораз тэлевізар то на першую, то на другую праграмы: усё не задавальняла яго.

— Што мулішся? Трэ было ехаць у калгас, — казала жонка, бачачы, як Нядбайла не знаходзіць сабе месца ў хаце.

— Ага, быццам там лягчэй.

Ехаў у Ляды. З раніцы падмарозіла, і газік злёгку поўз па калдобінах. Дагналі чалавека ў сінім футры, прыпыніліся.

— Сядайце, Карней Міронавіч, падкіну.

— Дзякую. З прайшоўшым вас святам.

— І вас таксама. Як святкавалі?

— Як ніколі добра. А вы, чуў, захварэлі?

— Ломіць радыкуліт старыя косці, хоць старшыні забаронена хварэць, як касманаўту. А чаму не пытаеш сваё традыцыйнае: калі экскурсія?

— Навошта пытаць, калі самі ведаеце.

Газік прыпыніўся ля сасны.

— Пройдземся. Цуд-паветра. Жывеш, здаецца, у вёсцы, а ў лес раз на год выбіраешся.

— Сардэчнікам лес дапамагае.

— Мой матор, дзякуй богу, цягне. Я вось пра што хацеў спытаць вас, Карней Міронавіч, ці патрэбна нам зараз, я маю на ўвазе невыкананне дзяржаўнага плана і гэтак далей, экскурсія? Неспрыяльныя ўмовы надвор'я ці не пашкодзяць?

— Не зусім сцяміў, даруй, Нічыпаравіч.

— Я пра тое, Міронавіч, што народ наш не ў тым зараз знаходзіцца душэўным стане, каб аглядаць гаспадарку калгаса-мільянера, які ўяўляе сабой правобраз будучага, а нам яшчэ тупаць і тупаць. Баюся, шчыра кажучы, каб бачанае не закранула іх балючыя месцы. Там механізатар атрымлівае дзвесце восемдзесят — трыста рублёў, а ў мяне сто дзесяць. Аператары машыннага

даення па сто восемдзесят, а я даю восемдзесят. Не заесць чарвяк зайздрасці, а чаму нам так не даюць, га? Вось пра што думаю.

— Я б такой зайздрасці не баяўся. Людзі ж ведаюць пра палескі мільён тон мяса, які нам патрэбна хутка даць дзяржаве, і разумеюць. Мо нам якраз і захочацца лепш працаваць, мо добрае самалюбства прачнецца, адумаюцца, што п'юць не ў меру, што...

— На словах, мой дарагі Карней Міронавіч, на словах... нам пра такія вышыні і марыць рана.

— Трэба павезці людзей, і паказаць, і сказаць, што гэта і іх будучыня, мо нават лепшая, — заўтра, паслязаўтра абавязкова прыйдзе. Ці вы не верыце?

— Калі вам скажу, што не веру? Дый вы не верыце. Ляды — старая вёска, змены пакаленняў амаль няма. Ды каб паднящь, ды перавярнуць гэта, ды забудаваць нанова, колькі мільёнаў патрэбна. Ці ё рацыя, калі на гэтыя грошы можна пабудаваць на голым месцы, якое, дарэчы, не так затапляе Гарынь, цэлы аграгорад. Я не люблю абяцаць людзям тое, у што сам не веру.

Карней аж здзівіўся. Прыпыніўся ля сасны.

— Як жа так можна працаваць, Іван Нічыпаравіч, калі не верыць... а толькі так, выконваць абавязкі, хадзіць на работу, а там як бог пашле, без веры жыць нельга ж.

— Якой веры, Карней Міронавіч? — загарэўся Нядбайла.

— У заўтрашні дзень... лепшы дзень.

— Адной веры мала. Трэба гараваць, каб ён стаў лепшым, а калі няма сілы, калі нервы на сконе, калі цярпенне трашчыць, як струна, калі пануе нецярпімасць адзін да другога, як наблізіць тое светлае заўтра?

— Тады трэба ісці спаць.

— Жартуеш?

— Не жартую. Навошта вам кіраваць калгасам, калі гэта не з любоўю, а праз сілу. Я зразумеў, Нічыпаравіч, тваю асноўную бяду.

— Глядзі ты, які вучоны. Цікава, выкладай. Я да крытыкі адношуся лагодна.

— Ты ў гады свайго кіравання ішоў да плана праз людзей.

— Навучы мяне, мо ёсць нешта больш мабільнае, што дазволіць нам зрабіць скачок у перадавікі.

— Па-мойму, трэба ісці праз план да людзей. Наад-

варот. Мо гэтая экскурсія і сапраўды не патрэбна: усё ж паказваюць па тэлевізары, перадаюць па радыё... Мо людзям будзе радасць ад таго, што яны за колькі гадоў разам сабраліся, некуды паехалі, нешта ўбачылі, з некім пазнаёміліся.

— А я кажу, усе, ну не буду такім катэгарычным, амаль усе перасталі нечаму здзіўляцца... Няхай. Мне і самому будзе цікава... сёння ж пагавару з Труханам. Паедзем. Так... Што там у мяне (дастаў блакнот): нарада... сустрэча. Праз два тыдні. Канчаткова кажу табе, праз два тыдні.

Даехалі да вёскі моўчкі.

Нядбайла стрымаў сваё слова, хоць выехалі не праз два тыдні, а значна пазней. І перад Новым годам, перад калядамі лядчане білі сваіх кабанчыкаў, тапілі шмалец, вэндзілі каўбасы.

Спрытны Зыль павёз свайго парсючка ў Давыд-Гарадок і абсмаліў на адной з вуліц. Там да вечара і прадаў усяго. Добра ўзяў. Купіў сыну Мішку касцюм, зімовую шапку і кажух.

Мішка вярнуўся з турмы, дзе за хуліганства прасядзеў два гады. Прыехаў ціхі, смірны, не падобны на таго былога Мішку-задзіру і хулігана. Ці розуму набраўся, ці сапраўды сумленнасць прарэзалася, а мо прыцiх знарок. Зыль паехаў разам з сынам.Назбіралася адразу не вельмі многа, а потым, адзін на аднаго гледзячы, падалі заяўку на экскурсію чалавек трыццаць. Грыцко кляўся, што яго калымага да Турава не дацягне. Далі новенькі аўтобус, які толькі што прыгналі з Паўлаўска.

Сам Нядбайла так і не выбраўся: чакалі, можа, з паўгадзіны, пакуль не прыйшоў Трухан і не сказаў, што старшыня не паедзе, павязе на выхадныя дні дзяўчынку ў санаторый аж да Друскінінкая. Паехалі. З гадзіну-другую амаль усе драмалі — выехалі зацемна, а падняліся яшчэ раней. Недзе за Туравам снедалі: дасталі сала, агуркі, вараныя яйкі. Мішка прыпас піва, сам не піў, частаваў іншых. Карней падзяліўся сваімі яблыкамі.

Аўтобус пабег шпарчэй. Не дарога, а сястрыца родная.

Пад'язджалі да Гомеля. Жанчыны заварушыліся, пахавалі цішком тоўстыя кашалькі.

«Стаянка дваццаць мінут. Збіраемся ля Палаца чы-

гуначнікаў. Па Савецкай і Леніна ўсе магазіны. Каб не пазніліся», — прасіў Трухан.

Вартаваць клункі застаўся ў аўтобусе Мішка. Ухутаўся ў цёплы кажух і прыладзіўся ля акна драмаць...

Карней на мінуту згубіў сваіх. Нявестка Скупіхі клікнула ўсіх у прамтавары: давалі паркаль. Шчасліва ўсміхалася, што яна першая пачула і заняла чаргу. Не паспелі разгледзець тыя пакупкі, як панесліся за Труханам. Недзе з невялічкага магазіна неслі каўбасу, і хоць прадаўшчыца казала, што ўсё скончылася, жанкі чакалі. Карнею нічога не патрэбна было, і ён усё пытаў Еву:

— Мо купі сабе што, га? Што хочаш?

— Ай, бацька лаяцца будзе, што на сметнік грошы выкінула. Так паходзім.

Нехта штурхнуў іх, быццам знарок прабег між імі.

— Сып, Карней, за жанчынамі. Там на вуліцы рыбу даюць, — на бягу крыкнуў Грыцко, папраўляючы збітую набок шапку.

Некаторыя жанкі ўправіліся ўжо занесці поўныя сумкі ў аўтобус і беглі з сеткамі ў руках.

— Узяла Косціку джэмпер. Італьянскі. Каб хоць падышоў па росту.

— Пустэча ў магазінах, адна пустэча. Хадзем, там нешта даюць.

— Га-ля! Дзе чайнік купіла?

— У цэнтры, ля танка.

— Ай, халера, дзе той танк знойдзеш...

Даўно мінула тых дваццаць мінут, якія прызначыў на перапынак Трухан, а гарачка ўсё насіла аднавяскоўцаў па вуліцах і завулках. Дзіву даваўся Карней, ідучы да аўтобуса. «Няўжо трэба стаяць па чайнікі абавязкова ў Гомелі, калі іх хоць вушамі еш у Лядах? Што з бабамі робіцца, — аніяк не мог уразумець Карней, — хапаюць, як пагарэльцы, ад начных сарочак да гузікаў, ад кількі да сыру... быццам іх хатні, белы, свежы, духмяны сыр горшы?»

У аўтобусе толькі Мішка ляжаў на заднім сядзенні і чытаў кнігу, не звяртаючы ўвагі на Карнея і Еву.

Нарэшце лядчане памалу прыблудзілі да машыны. Трухан не лаяўся, разумеў — усё дарэмна. Мінулі вялізныя і незвычайныя белыя горы нейкага ўгнаення альбо солі і выехалі на цэнтральную вуліцу. Ля саўгаснага клуба іграў духавы аркестр, некага, хто прыехаў

раней за іх, страчалі хлебам-соллю і пацалункамі.

Карней адкрыў акно.

— Пісьменнікі нейкія прыехалі, — абыякава адказаў хлопчык.

Аўтобус загналі на пляцоўку за клубам. Трухан прасіў не разыходзіцца, выйшаў і праз некалькі мінут прыйшоў з маладой дзяўчынай, якая па даручэнні старшыні абяцала паказаць ім саўгас.

— Шамнаццаць гаспадарак працуе ў адным рытме на наш комплекш, — пачала дзяўчына завучаны тэкст шпарка і бадзёра.

Мішка зарагатаў. Аднак гэты смех яго не збіў экскурсавода з рытму.

— Паехалі на палеткі, — паказала яна Грыцку напрамак, — у нас ашфальтаваныя дарогі пракладзены паўсюдна.

Аб'ездзілі палеткі, заглянулі на комплекс, дзе ўсе апранулі белыя халаты, на ногі абулі цэлафанавыя боты. Бычкі, сотні бычкоў лезлі языкамі праз драцяныя перагародкі, намагаючыся ўхапіць жывую руку. Агледзелі шумлівы гранульны цэх, газавую кацельню.

— Таварышы, не затрымлівайцеся. У клубе будзе канцэрт для гасцей, куды запрашаем і ваш, — то там, то сям паўтарала дзяўчына-экскурсавод.

Нехта больш стомлены прапанаваў паехаць у сталоўку. Не атрымалася. Кафэ закрылі. Рыхтаваліся да вячэры з гасцямі.

— Кароў у нас ніхто не трымае. Нерэнтабельна. Дзевяноста літраў малака на год мае права выпісаць кожны калгашнік, — бубніла, не гледзячы на людзей, дзяўчына. — На комплекшу дзешаць тысяч галоў. Рабіць пачынаем у шэм гадзін, паўшомага лятучка. Да наш многія хочуць прыехаць на работу. Штаршыня ўсіх не бярэ. Хто швой вяртаецца з жонкай, з чалавекам, тых бяром. Чужых не...

Распаўзалася счарнелым снегам адліга. Павіс над вёскай нечаканы туман. Адразу пацямнела. Дзяўчына выказала спачуванне, што іх экскурсія выпала на зіму — сумны час, каб улетку, паказалі б яшчэ выступленні коннікаў школы верхавой язды.

Падышоў час ісці на канцэрт. Цёткі запратэставалі, загаманілі, накінуліся на Трухана, маўляў, дарога далёкая, паглядзім той канцэрт і па тэлебачанні, няхай,

маўляў, Грыцко паганяе дамоў. І такі ўпэўнілі Грыцка і Трухана згадзіцца.

— А мо пойдзем на канцэрт, пераначуем тут? — нясмела прапанаваў Карней.

Жанкі замахалі рукамі.

— Бог з табой, Карней! Добра людзі жывуць, што й казаць. Дома ж чакаюць галодныя дзеці і п'яны чалавек.

Паехалі. Праўда, стомлены, як ніколі, Грыцко папрасіў, каб Зыль сеў побач і гаварыў з ім, не даваў заснуць.

Да Карнея падсеў Трухан:

— Што без настрою, Карней Міронавіч?

— А так, наўскасяк... не ўмею ці не прывык... усё подбегам, галопам...

— А людзі тут жывуць па вышэйшай марцы. Амаль камунізм. А што... на сходзе прапануй нашым калгаснікам кароўкі здаць на ферму. Не рызыкнуць?

— І правільна зробяць.

— Чаму?

— Тут у іх няма як кароўку трымаць. Ні возера, ні лесу вакол, ні рэчкі. Хоць бы канаўка па калена, няма нічагусенькі. А вам сам бог вялеў скаціну трымаць. Пашы, Гарынь, Прыпяць. Адно скажу: такую гаспадарку, канечне, нашымі сіламі ўжо не падняць.

— Механізуем і мы. Патроху, праўда. Будзе і ў нас камбікормавы завод, рамонтная майстэрня з дыягностыкай, ветэрынарная лячэбніца, помпавая станцыя. Ці ты па старынцы любіш пах дзёгцю, воза з сенам і кабылкі?

— Чаму? Я за ўсё новае, калі яно любоў верне да зямелькі.

— Твая праўда. Толькі ж любоў гэтую мы памаленьку і адбівалі. У нас, скуль гэта павялося, на ўсё ганьба: быць трактарыстам, шафёрам, кухарам, слесарам, электрыкам — усё кепска і неаўтарытэтна. Куды мы сваіх дзяцей гонім? — абавязкова ў інжынеры, каб урач, артыст.

— І каго ж ты, Сідаравіч, values? вініш? Ты ж партыйны важак... Гэта ж твая работа — душа чалавека...

— А чаму адзін я? А ты?

— І я, Сідаравіч. От чаму ты думаеш, людзі выехалі з кепскім настроем ды так і не зацікавіліся ўбачаным? Таму што самы галоўны, старшыня Нядбайла, не па-

ехаў разам з людзьмі. Прыдумаў нейкі Друскінінкай, хворую дачку. Нецікава яму ўсё. Арганізаваць, спіхнуць на каго-небудзь — калі ласка, і грошы і транспарт, абы самаго не чапалі. Галачку паставіць — яшчэ адно мерапрыемства. А людзі ж не сляпыя краты, не слупы электрычныя. Да іх без павагі, па-спажывецку калі ставіцца, тады і яны табе адкажуць абыякавасцю.

— Да ўсіх, Міронавіч, уважлівым і дабрадзейным проста фізічна не хопіць сіл быць.

Трухан, відаць, палічыў, што выгаварыўся і што больш няма сэнсу нешта адзін другому даказваць, перасеў бліжэй да матора. Пагрэцца.

Моцныя рукі Грыцка не выпускалі руля ўсе восем гадзін пераезду. Пад самымі Лядамі ля вёскі Альшаны Мішка, які ўсю дарогу сядзеў моўчкі, не вытрымаў усё ж — нагнуўся ззаду да Евы і спытаў:

— Праўду бацька кажа, што ты рыхтуешся паступаць у інстытут?

— Праўда.

— А ў які, калі не сакрэт?

— Мо ў кансерваторыю.

— Гісторыю здаваць прыйдзецца?

— Абавязкова.

— Давай разам рыхтавацца да экзаменаў.

Ева ад яго апошніх слоў спужалася, не ведаючы, што і адказаць. Мішка працягваў:

— Я на юрыдычны буду. Цвёрда. Мне трэба паступаць толькі на юрыдычны. Дык як, згаджаешся?

— Можна і разам, — не зусім упэўнена адказала нарэшце яна.

Павесялела ва ўсіх на сэрцы, як уехалі ў Ніжнія Ляды. Жанкі прачнуліся, заварушыліся ля сетак і тэчак. Карней нечакана прыпаў да шкла, неяк вельмі ж хацелася глянуць на хату Харашуноў. Угледзеўся ў цемру: не відаць святла па ўсёй вёсцы, спяць у хатах. Дзіва што, час позні. Разышліся да сваіх, заспаныя, маўклівыя і стомленыя, не развітваючыся. Грыцко папрасіў Карнея «за кумпанію» разам загнаць аўтобус да гаража. Ева пайшла з Зылямі дамоў.

Грыцко не патушыў святла ў аўтобусе, дастаў бутэльку, сала.

— Паганая работа, Карней, усе ядуць, п'юць, а ты лыпай вачыма. Давай за кумпанію...

Грыцко адшчыкнуў хлеба, кавалачак сала ўкінуў у

рот і адразу засмаліў сваю «Прыму». Адчувалася, што ён хацеў нешта спытаць у Карнея. Быў нейкі ўвесь засяроджаны, сур'ёзны як ніколі.

— Ты мне адкажы, друг мой Алегра, я ў жыцці самы натуральны няўдачнік?

— А чаго ты пра гэта загаварыў? Так раптам.

— Не раптам, Міронавіч, гэта я толькі прызначыў дарогай душу адкрыць, паскуголіць, як сука недабітая ля плота... Пячэ ў мяне тут (ён ткнуў сябе ў грудзі), пячэ, Міронавіч. Што я ў жыцці такога зрабіў, што? Азірнуцца на мае сорак пяць, жабу прыемней успомніць. Я жонку б'ю, Карней. Нап'юся і б'ю. Ад злосці. Да мяне ж маці нядаўна прыязджала, спраўку браць, што я не маю сродкаў яе трымаць на белым свеце. Па заробку на маю сям'ю з чатырма дзецьмі акурат атрымліваецца, што не хапае. Я ж ёй даў, Карней, гэтую спраўку, каб узялі ў дом састарэлых і інвалідаў. Даў! Жонка ўжыцца не можа. Ніхто не ўжываецца разам...

Падбег да аўтобуса сабака вартаўніка, затанцаваў на задніх лапах ля дзвярэй. Грыцко кінуў праз акно кавалак сала. Сабака абнюхаў, аднак есці не стаў.

— У, падла, усе разбэсціліся, падчыстую. Сала не есць. Пакульгаем на бакавую.

Развітваючыся ля калодзежа — Грыцко пабудаваўся на Радзічах, новай вуліцы, — спытаў у Карнея:

— Што ты параіш, Міронавіч, з мамкай рабіць?

— А гэта, браце, як сумленне.

— А ты на маім месцы што рабіў бы?

— Узяў бы да сябе.

— А жонка?

— Я кажу, узяў бы да сябе.

— Могуць ужо й не аддаць.

— То бывай, Грыцко.

# РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

## ПОСНАЯ ПЯТНІЦА

У Давыд-Гарадку звычайна ў апошні тыдзень лютага, а бывае, і ў пачатку сакавіка традыцыйна праводзяцца так званыя куставыя кірмашы.

Павялося такое свята гандлю здалёк, самыя старыя людзі не памятаюць, адкуль пайшло. Добрая слава за-

сталася нават тады, калі перавялі раён у Столін. Праўда, цяпер такія «ярмарочкі» (па-давыдгарадоцку) прынялі больш сціплы выгляд: з'язджаліся сяляне толькі гэтай, прыпяцкай зоны. Зніклі гарачыя блінцы з мёдам, шашлыкі з пахам вуголля, пернікі, баранкі з чаем. Сталоўка, якая стаіць супраць базару, цяпер запрашае сялян на бачкавое піва з перасмажанымі шніцалямі — халоднымі, як далоні з марозу. І ўсё ж маленькая плошча не можа змясціць усіх удзельнікаў свята. Вазы з гаршкамі, з парасятамі абхапілі базар з усіх трох бакоў. Больш далёкія, тыя, хто ехаў з Мярлінскіх хутароў, Аздаміч, накідаюць лейцы стомленых коней з бялюткай ад марозу грывай на нізенькі штыкетнік сталоўкі. А самі гаспадары-гарадчукі, якія не трацяць з часам любові да гандлю, пруць туды зранне (каб заняць лепшае месца) прадаць яйкі, румяныя яблыкі-зімоўкі, сыр, малако, вязкі часнаку і цыбулі. Гэта іх манаполія. Так сяляне іх і клічуць «цыбулька-часначок». З вёсак калгасы прывозяць цялят, парасят, качак, курэй, сельмагі цягнуць на грузавых машынах, пакрытых брызентам, сваё: заляжалы абутак, каляровыя хусткі, курткі нейлонавыя і брызентавыя, гіпюравыя рубашкі, якія аніяк не хочуць купляць калгаснікі, касцюмы з крымплену і боты са штучнай скуры. Гарадчукі народ асабліва пераборлівы, у адносінах да сябе кансерватыўны: носяць галіфэ і хромавыя боты, футэркі з бакавымі накладнымі кішэнямі. Дзецям сваім джынсы ці велюравыя касцюмы купілі б хоць за дзве цаны. Ды чырванашчокія, з пасінелымі губамі і насамі прадаўшчыцы з кузаваў не могуць прапанаваць гэтых джынсаў, ні спадніц з дробнага вельвету. І тады ім нічога не застаецца (план жа трэба выканаць), як дастаць з кардонных скрынак дэфіцыт: югаслаўскія жаночыя чобаты, чэшскія ліфчыкі, французскія крэмы і польскую памаду.

Карнея часова перавялі вартаўніком фермы, і цяпер ён ехаў на кірмаш разам з прадаўцом парасят — нявесткай Скупіхі. Узяў каня ў калгасе і Зыль. Вёз пяць курэй, дзве цялячыя скуры і цабэрак сала. Выехаў зацемна, значна раней, чым Карней. За ноч нацерушыла снегу, і сані лёгка беглі па слядах Зылевых саней. Хоць Шурупчык, якога ўзяў Карней, меў усе правы і нават месца ззаду на санях, не звяртаў увагі на запрашэнне Евы: бег то з аднаго боку саней, то з другога,

а не — дык пусціцца перад кабылкай, перагоніць, стане на ўзгорку — чакае.

Сонца густа бралася на вясну, грэла спіну, прабіраючыся праз тоўстыя кажухі. Прывезлі на гэты раз парасят і з веляміцкага калгаса, таму кемлівыя і пераборлівыя гарадчукі так і блыталіся паміж санямі, выбіраючы, як стары кавалер жонку.

— Пахадзіце, дзядзька Карней, па базары, — раіла нявестка Скупіхі, — мо Еўка што выбера. Я ўжо сама тутака.

Еве падабалася ўсё і многае хацелася купіць, аднак самую вялікую ўвагу прыцягнулі мэткі ўюноў, якіх спрадвеку тут лавілі ў ямах і невялікіх азярцах гарадчукі і выносілі вяленых і сушаных на продаж.

— А гэта што, хіба рыба?

— О-о-о, — ветліва зацягнула гарадчанка з залатымі зубамі пад верхняй губой, — ластаўка ты мая, не рыба, не ракі, а цымус-прысмакі.

— Колькі за мэтку? — Карней палез у кішэню па грошы.

— Ды ўжо колькі дасі. Пяць прасіць не буду, дзесяць баюся, а за тры аддам як лёду, — хутка загаманіла баба, перабіраючы мэткі і выбіраючы самую маленькую.

— Мне, сакатуха, адну дай к супу, ды гэтую, большую — не хавай, дай к піву.

— А што я хаваю, чалавеча, ці што?

Уюноў панесла Ева. Ад іх ішоў асаблівы, незнаёмы пах: паленага дрэва і сушаных чарніц. Карнея нехта незнарок штурхнуў, чалавек нёс вясло на плячах, не заўважыў. Карней ступіў убок і сам стаў некаму на насок.

— Мама, — пачуўся жаночы голас. Ён азірнуўся. У расшытым каляровымі ніткамі кажуху, у вялікай, з чырвонымі кветкамі па чорным полі хустцы, перад ім стаяла Ніна Харашун.

— Не лезь на ногі, калі лю... — голас яе абарваўся, яна ўсміхнулася і, ужо не працягваючы прыказку, дадала як добраму знаёмаму: — Добры дзень, Карней Міронавіч.

Ён паціснуў яе руку, якую яна паспела выхапіць з рукавіцы.

— Добры дзень, Ніна. Не балюча я?..

— Ва-ай, ужо забылася. Пойдзем, а то мы людзям перашкаджаем.

Пайшлі поруч. Карнею карцела спытаць: ці адна, ці з чалавекам, і Ніна, быццам адчуўшы яго думкі, сказала:

— Я адна прыехала. Хацела дочкам воўны купіць. Могуць модныя жакеты звязаць.

— А дзе ж чалавек? — усё ж пацікавіўся Карней, сам дзівячыся свайму пытанню, быццам яго панесла нейкая невядомая сіла.

— Няма валацугі. Знайшоў ён тады ў гэтай Комі сабе ссыльную адну, перапісваліся. Нават лісты не хаваў, дзяцей не саромеўся, маглі ж прачытаць. Не вытрымаў, з'ехаў. Кажа, жыві як хочаш, адна, значыцца, жыві, кідаю цябе. Ды ці е ён, ці няма яго — адна балячка.

Ніну штурхнулі, яна ўчапілася за руку Карнею і ўжо не адпусціла яе. Пайшлі далей.

— А вы, бачу, уюноў запаслі. У нас толькі на памінкі бяруць, а так ужо не ядуць.

— Ат, узяў на пробу. Пляменніца з Ашмян госціць...

— О-гэ, там у іх такога дзіва няма. Няхай пакаштуе.

— Пройдземся яшчэ раз? — спытала Ева ля варот на выхадзе.

— Пройдзем, — у адзін голас адказалі Карней з Нінаю.

Аднаго разу было мала. Прайшлі ўжо трэці. Згубілі Еву, а мо тая знарок вярнулася да саней. Забыліся, што шукаюць воўну. Гаварылі мала.

— А вы з кім прыехалі, Ніна?

— Я аўтобусам.

— А то едзьмо з намі, яй-бо...

Шурупчык раўнаваў першы. Не мог ён дараваць, што побач з яго гаспадаром уселася жанчына. Паклаў сваю галаву на выцягнутыя лапы і касавурыўся сурова на Ніну. Пад'еўшы і адпачыўшы, коні дружна малацілі жыжку мокрага снегу, які збіраўся ў грудкі і цвярдзеў ад подыху паўзучага на ноч марозу.

— Дзякую вам! Я ўжо далей на аўтобусе, вунь якраз стаіць, пабягу. Заходзьце, Карней Міронавіч, дальбог, дзяўчаты мае ўвесь час успамінаюць вас. Дабранач.

— Дабранач, Ніна, — мякка адказаў Карней.

«Што такое здарылася на свеце? — думаў Карней. — Чаму так дрыжыць мая рука, пацiскаючы яе руку, чаму

прыемны халадок напаўняе сэрца і голас западае шчымлівым хваляваннем, сціснуты ў грудзях?» Няўжо нехта наўмысна сутыкае іх разам зноў і зноў? Няўжо яму лёс наканаваў уратаванне ад кулі на вайне, ад голаду і холаду, ад пакут і цяжкіх страт і памерці ад кахання, бо не, не вытрымае сэрца гэты цяжар пяшчоты, дабрыні, ласкі, павагі да яе, што раптам запаланіў яго хворае сэрца...

Нешта гаворыць Зыль, распрагаючы каня, рагоча, ды Карней не чуе ягоных слоў, усё думае і думае пра сваё.

«Пакуль жыве каханне да жанчыны, дзіцяці, унука, любоў да працы, дрэва, птушкі ў небе, яблыка ў садзе, снегу, дажджу — жыццё не можа надакучыць. Так. Менавіта ўсё так», — узрадаваўся Карней, ідучы дамоў.

Фёдар усё ж, на здзіўленне сваім сябрам-калегам, кінуў работу інкасатара. Можа, прыслухаўся да парад Евы, якая амаль у кожным лісце раіла яму змяніць прафесію, а можа, сам вырашыў. Падаўся быў на трактарны, аднак толькі і хапіла, што дайсці да аддзела кадраў і пагаварыць з інспектарам. Не цягнула. Работу знайшоў вельмі нечакана. Казалі, на піўзавод бяруць экспедытара, які развозіць па магазінах скрыні з півам.

Ішоў недалёка ад опернага тэатра ля музычнага вучылішча, шукаў той піўзавод, калі раптам пачуў жаночы крык: «Ай... людзенькі... о-ёй, ай, ай-ёй!..» Паскорыў крок і за вучылішчам заўважыў жанчыну, якая ляжала на маленькім пагорку сцвярдзелага пяску, пакрытага лёдам. Нягледзячы на тое, што на яе жалобны крык падбеглі людзі, жанчына ўсё яшчэ гучна крычала, прасіла аб дапамозе.

— Што з вамі? Што такое?

— Упала-а-а, ёй, нагу зламала, а-ёй, — праз слёзы адказвала бабуля з выгляду за шэсцьдзесят.

Фёдар хацеў дапамагчы ёй узняцца, аднак бабуля загаласіла яшчэ гучней.

— Трэба выклікаць «хуткую дапамогу», — параіла адна з жанчын, якія сабраліся вакол.

Фёдар пабег у вучылішча і пазваніў.

Надзіва хутка прыехала медыцынская дапамога. Фёдар з шафёрам, які ўзяў на сябе ролю санітара «хуткай», унеслі спачатку бабулю ў памяшканне музычнага

вучылішча і, пакуль урачы прыкладвалі шыну і бінтавалі, разгаварыліся.

— Твая бабуля? — пацікавіўся шафёр.

—. Не.

— А сам дзе робіш?

— Пакуль нідзе. Шукаю работу.

— Хо! Бог мой, ідзі да нас. Санітарам. Суткі аддзяжурыў, двое гуляй. Грошы добрыя плацяць.

— Трэба падумаць.

— Лафа. Час вольны мець будзеш, рыхтавацца ў інстытут можна. Так што давай.

Бабуля зноў цяжка застагнала.

— Усё, усё, гатова. Пацярпіце крыху, — супакоіла яе ўрач.

— Хто ж бульбачку пачысціць, людзям есці трэба, — казала бабуля, быццам звяртаючыся да Фёдара, як да самага тут блізкага ёй чалавека. — Сыночак, — нарэшце звярнулася да яго, калі панеслі яе да машыны, — забяжы ў кафэ «Тэатральнае», перадай кухару, што з Паўлаўнай гора. Не прыйдзе на змену. Я там у іх пасуду мыю ды бульбачку абіраю. Панесла ж гарачка ў кантору прэмію атрымаць...

— Перадам, Паўлаўна.

«Хуткая» паехала. Праз два дні Федзя ўладкаваўся санітарам. Еве пра гэта не напісаў, як бы саромеўся. Вырашыў так: атрымаецца, спадабаецца — не кіне. Здарылася неяк халоднай лютаўскай ноччу, калі ўжо зрабілі некалькі выездаў і вярталіся з клінікі, іх «хуткую» запрасілі па рацыі і накіравалі адвезці цяжарную жанчыну. Завіруха. Паўночны вецер гнаў пад колы снежную завею, белым жаберам клеіў шкло. Адразу не трапілі ў патрэбны пад'езд: з'едзеныя ржой бляшаныя шыльды назаўсёды пахавалі нумары пад'ездаў, кватэр.

На лесвічнай пляцоўцы іх ужо чакала, накінуўшы старэнькую цыгейкавую шубу, сівая не па гадах жанчына. Правяла ў кватэру.

Перапалоханая, белая з твару Ліза сядзела ўжо апранутая. Маці пацалавала дачку, супакойваючы і праводзячы ўніз.

— Заставайцеся, мама, не трэба ехаць. Не хвалюйцеся.

А тая сваё:

— Усё будзе добра, дачушка.

— Ты чакай. Звані і не хвалюйся.

Хоць сама Ліза супакойвала маці, відаць было, што яна хвалюецца яшчэ больш. Толькі ў машыне Ліза пазнала Фёдара, ухапілася за руку, здавалася, так лягчэй пераносіць боль.

— Сына давай, Ліза. Мужчын не хапае, — весела падбадзёрыў Фёдар.

— Эт точна, няма каму ў вёсцы на трактар сесці, — дадаў другі санітар.

— Баішся? — ціха спытаў Фёдар.

— Баюся. Я сон кепскі бачыла.

— Не вер. Усе баяцца і дрыжаць, ой, колькі мы іх перавезлі — і ўсе аднолькавыя — каленькі ды рукі дрыжаць.

— Першароджаніцы ўсе баяцца, — разгаварыўся другі санітар, — памятаю, адну маці-гераіню ў навагоднюю ноч прыхапіла. Дык бутэльку з шампанскім узяла, па дарозе Новы год сустракалі. Такое дзела было...

— Вось бачыш... усё зямное, што патрэбна чалавеку, даецца лёгка, — сказаў Фёдар.

Пад'ехалі да радзільнага аддзялення першай клінічнай бальніцы.

— Страшна мне, Фёдар. Памру. Усё гаворыць, што не выйду адсюль. Сон, настрой, душа не радуецца. Маму шкада, яна так чакае ўнучку, так чакае...

— Ну, Лізавета, не гадзіцца з такім настроем на стол. Ты думай... о, лепшае ўспамінай, усё лепшае... дзяцінства сваё, дальбог, трэба не думаць пра кепскае.

— Не супакойвай мяне, Федзя. Памру. Можа, нават так будзе лепш. Гэта ж страшна, Федзя, калі пра цябе ніхто не клапоціцца — ні сястра, ні сяброўка, ні каханы.

— А маці?

— Маці шкадуе. О, з парожнім, унь нянечка. Памятаеш Карнея, ён верыць у пустое-парожняе. Памру. Мамачка, як баліць... Ты вось што, стрэнеш Сяргея, перадай — яго дзіця... Хаця, не... не трэба. Бывай... — яна ўчапілася за лесвіцу, быццам баючыся ступіць крок да ліфта.

За некалькі дзён да родаў Ліза, што вельмі рэдка бывае ў жанчыны, яшчэ не пацалаваўшы свайго першынца, вельмі ясна і пранікнёна адчула сябе маці. Асабліва ёй прыемна было марыць пра падарожжа з маленькай дачушкай (а хацелася ёй і маці толькі доню)

у Ляды. Аж сэрца калола прыемнай асалодай думка: прайсціся ад вёскі да Гарыні, як некалі ішлі яны з Сяргеем. І абавязкова босымі. Так і стаяў перад вачыма гэты малюсенькі адбітак ножак па чыстым пяску. Чамусьці ўсё часцей паўставаў перад яе вачыма дзядзька Карней. Такое яго добрае, аднастайнае, нецікавае жыццё ў глухой вёсцы, так ацэненае і зразумелае тады ёю, нібыта асуджанае на адарванасць ад свету, ад яго цікавасцей і дабротаў, раптам падалося Лізе зусім у іншым святле.

Дзіця нарадзілася ў асфіксіі, і хоць дбайныя ўрачы ўратавалі, працягнулі яму кароткае жыццё на гэтым свеце, усё ж кіслароднае галаданне перамагло. Яна не зусім уявіла страту, потым, як шалёная, толькі горка і бездапаможна заплакала, кусаючы рог падушкі.

— Дзіцятка, — супакойвала яе нянечка, — гасподзь даў, гасподзь і ўзяў. Бывае, тое здараецца. Можа, ён цябе пашкадаваў, можа, ты яшчэ не гатова, слабая душою. Ой, доня мая, мне б твае гадочкі, я б яшчэ пяцёра нарадзіла... Ты ж свайго не бачыла, як быццам і не было. Народзіш, бог дасць. Усё яшчэ наперадзе. Унь ёсцека маладыя, што кідаюць, не забіраюць нават дзетак сваіх. Гэта ганьба, а тваёй віны няма шака.

На трэці дзень Лізу выпісалі. Быў цёплы сонечны дзень. Шчаслівыя бацькі вытапталі пад вокнамі аддзялення ўвесь снег. Ды і цяпер яны стаялі, задзіралі ўгару галовы, а там, за шыбамі, паказвалі ім кірпатыя насы немаўлят, усміхаліся жонкі. І нікому, здавалася, не было аніякіх спраў да яе. З непрывычкі рабіла крокі асцярожна, быццам вучылася хадзіць нанова.

— Мама!

Яна горача абняла маці і зноў не стрымала слёз:

— Я хачу дзіцятка, хачу-у, мама...

Маці маўчала, туліла дачку да сябе, пяшчотна гладзіла яе галаву.

— Будзе, дачушка, усё яшчэ будзе. Ты ж маладая... Ну, супакойся... Народзіш... Калі вельмі жадаеш, лёс пашле, абавязкова.

І Ліза, супакойваючыся, верыла словам маці.

Вечарамі, пасля тэлевізійнай праграмы «Час», прыходзіў з кніжкай да Карнея Мішка Зыль. Знімаў плашч, садзіўся да стала і адказваў на пытанні Евы. Адзін ве-

чар ён адказваў, другі — яна. Такім манерам рыхтавалі гісторыю. Бывала, і Карней падсаджваўся да маладых, слухаў. Усё Карнею не верылася: няўжо гэта Мішка сур'ёзна надумаў падацца ў навуку? Ці не хлусіць? А ці не падабаецца яму Ева?

Але нічога таямнічага і любоўнага ў поглядах хлапца не заўважыў, як ні прыглядаўся. Спытаў:

— Бачу, Мішка, ты заядлы да навукі.

— І мы не лыкам шытыя. Мне кроў з носа, а паступіць трэба.

— І на каго ж ты, цікава, вывучыцца хочаш?

— На вялікага чалавека. Таго, хто вамі, простымі, кіруе.

— Старшыню калгаса?

— Бяры вышэй. Старшыня функцыянер, а мне ўлада патрэбна. Хачу ў наркантроль пайсці.

Гэтыя словы больш чым зацікавілі Карнея, пасунуўся бліжэй да стала.

— А скуль жа ў цябе такое жаданне, Мішко?

— А з таго самага часу, як пасадзілі. Я тады на заводзе працаваў. План у канцы месяца гарэў да болю ў галаве. А яны, значыць, па цэху экскурсію. Прычапілася адна: усё ж як работа, як план, перадавы вопыт. Я вазьмі ж дый гаркні ёй. З таго часу ў мяне непрыемнасці і пачаліся.

Я малады, усё наперадзе, а яна ўжо будзе буксаваць на месцы... Чуў, што перавялі дырэктарам швейнай фабрыкі. Я прыйду да ўлады і абавязкова ў народны кантроль. Я ўсё ўлічу. Быць такога не можа, каб не брала хабар, каб сваякам не дапамагала, каб землякам утульныя месцы не прапаноўвала. Быць таго не можа. Я выкрыю яе. Адпомшчу люта, без жалю...

Усё гэта Мішка выдаў на адзіным дыханні, і па яго хваляванні, пякучай нянавісці Карней зразумеў — гаворыць Зыль што думае, не прыдумляе і не перабольшвае.

— А калі не паступіш? — першай спытала Ева.

— Буду паступаць другі, трэці раз, пакуль не возьмуць.

— А цябе ніколі не возьмуць, — адрэзаў Карней.

— Гэта ж чаму? Што я — воспай мечаны. У нас па канстытуцыі кожны мае права на вучобу.

— А ў цябе на твары напісана, што ідзеш ты вучыцца, як гэта моднае слова цяпер, з меркантыльнага інта-

рэсу. Не на карысць народу, радзіме, а дзеля ўласных мэт і ўласнага гонару.

— Я на карысць народа два гады адбарабаніў — ад званка і да званка. І потым, дзядзька Карней, гэта ты такі разумны, што па твары чытаеш. А мы маску накінем. Калі народ — гэта я, значыць, карысць мая — народная. Так? Та-ак.

— Разгледзяць, Мішко. Калі паступіш, потым разгледзяць, а да ўлады не дапусцяць.

— А хочаш, дзядзька Карней, я табе скажу, чаму вось ты мне зайздросціш, ушчыпнуць не мінаеш.

— Ну, скажы.

— Кхе... Не адзін жа ты такі праніклівы. Мо і ты падаўся б за мною, ды локаць кусаеш. Позна ўжо штонебудзь памяняць. Твае некаторыя аднагодкі, тыя, што ваявалі, усе добра ўладкаваліся, а ты забуксаваў, зміры́ўся... і каб хоць як-небудзь вызначыцца, абраў шлях белай вароны. Усё ж жыццё пражыў нездарма, самаадцана, самаахвярна, чэсна. Глядзіце, людзі, на незалежнасць, свабоду. Толькі люд пайшоў не той, — гляне ды смяецца, небарака, кажа, яго абышлі на павароце, а ён яшчэ казырыцца, у святыя лезе. Крыўдна? Але ж факт! Мы, моладзь, не будзем такімі прастафілямі.

— Ты пакрыўдзіў Карнея Міронавіча... і калі не папросіш прабачэння... то я... не буду больш з табою вучыць гісторыю, — шчокі ў Евы захліснула чырвань, голас дрыжаў.

— Ну вось, пачынаецца... толькі скажы людзям праўду, як табе ў адказ: ты нас пакрыўдзіў. Лепш маўчаць! Прыкінуцца ідыётам і перці да сваёй мэты.

— Прасі прабачэння! — зноў цвёрда паўтарыла Ева.

— Не трэба, Ева, — перапыніў яе Карней. — Памяні мае словы: ідзеш да людзей знарок з нянавісцю і помстай за ўсе свае пакуты і няўдаліцы, нянавісцю яны табе і адкажуць.

Мішка раптам у бязмоўнай цішыні адчуў сябе лішнім. Глянуў на свой гадзіннік, павярнуўся, паглядзеў на гадзіннік Карнееў. Ходзікі з «мішкамі ў сасновым лесе» гучна бахалі, раздражняючы, як толькі цяпер падалося Зылю, слых.

— Вашы правільна ідуць, а то мае нешта сталі. Забыўся завесці.

— Правільна, — адказаў Карней.

— То час ужо і адпачываць. Выбачайце, калі што не так. Усе мы людзі. Дабранач.

— Бывай здароў, — адказаў адзін Карней.

Стары Зыль нечакана здаў на бойню кароўку.

«Мне, братка, цяпер грошы патрэбны, — казаў ён цераз плот Карнею, — падмацуем сыночкава паступленне новай купюрай». Яшчэ цераз тыдзень, акурат перад самай паводкай, калі ўжо моцна пахла вясною і крумкачы з галубамі ўсё часцей пакідалі калгасны ток, прадаў Зыль цыганам і хату. Перабраўся пакуль у старую цешчыну хатку над Гарынню ў Давыд-Гарадок.

З таго вечара не прыходзіў болей да Карнея і Мішка. І Ева пазбягала наўмысна сустрэч з ім. Баялася. Аднойчы, праўда, калі яна ўжо надвячоркам пайшла да калодзежа, ён нечакана вырас перад ёю, схапіў за рукі, прыціснуў да плота:

— Я на цябе, ганарыстая, вока даўно паклаў, памятай. Толькі не ў маім зараз становішчы лыка дзерці. Даб'юся свайго. — Ён сілком, моцна пацалаваў яе ў самыя вусны. Ева адштурхнула яго і плюнула ў твар. Ён рагатаў. Яна толькі кусала губы ад крыўды.

Нядбайлу і старшыню калгаса «Перамога» з вёскі Хорск Язэпа Гардзея запрасілі да першага сакратара раёна.

Дык вось чаго ён тады яшчэ перад восенню шукаў з ім, Нядбайлам, кантакт. Яго горшыя падазрэнні, здаецца, апраўдваюцца. Першы ў добрым настроі. Стаіць ля разгорнутага каляровага плана цэнтральнай сядзібы «Перамога», тыцкае ўказкай: шматпавярховыя дамы з усімі выгодамі, камбінат бытавога абслугоўвання, гандлёвы цэнтр, фельчарска-акушэрскі пункт (у перспектыве сучасная бальніца), сталоўка. І ўсё гэта ўжо існуе, дзейнічае. І асфальтаваная дарога да комплексу. Механізаваныя кормараздатчыкі, даільная ўстаноўка, малакаправод, халадзільныя камеры, душавыя, прасторныя і светлыя карпусы — ці ж не казка наяве?

Цяпер ужо Нядбайла не сумняваецца, чаго яго запрасілі так нечакана перад пачаткам пасяўной. Канечне, адказаць Івану Нічыпаравічу няма чым: у яго гаспадарцы толькі трыста нізкаўдойных кароў, якія пакуль што (гэтае пякучае «пакуль што») таўкуцца ў старых, цесных памяшканнях. Кармоў вечна не стае (сілас у

гэтую зіму нават заледзянеў, прыйшлося секчы), механізацыя амаль на нулі. Што яму яшчэ дадаць: вышчарбленыя дзверы, разбітыя шыбы ў вокнах, стрэхі дзіравыя. А ўсё таму, што некалі запісалі Ляды (і Ніжнія таксама) у лік неперспектыўных вёсак.

«Ты вельмі не казырыся, — казаў яму, здаючы справы, былы старшыня, — гані план, не дасі — спішуць ці дапішуць. Заніжай, прасі, каб занізілі план, — бо ў цябе ж неперспектыўная вёска». А дарогі? Увосень і ўвесну бабы да калодзежа не рызыкнуць сунуцца. І невядома, кім бы сёння ганарыўся першы, каб гэты славуты комплекс сем гадоў таму назад пачалі будаваць у Лядах. Нарэшце першы гаворыць:

— Мы доўга, Іван Нічыпаравіч, абмазгоўвалі прапанову старшыні «Перамогі», узгаднялі з абласным кіраўніцтвам, раіліся з вучонымі, спецыялістамі. Ды што грахі таіць, выходзілі нават у Цэнтральны Камітэт. Думка адзіная. Яе патрабуе час, канцэнтрацыя агульных сіл, планы грандыёзнага пераўтварэння беларускага Палесся наогул. Скажу табе, і старшыня «Перамогі» не адразу даў сваю згоду. Жыццё, як ты разумееш, адно накіроўвае і карэкціруе. Тым больш што ўдалыя прыклады першай аналагічнай практыкі ўжо ёсць пад Пінскам. Карацей кажучы, ёсць прапанова выйсці на бюро райкома з ідэяй аб'яднання дзвюх вашых гаспадарак, а галоўная сядзіба — у калгасе «Перамога». Вядома, трэба давесці людзям, што гэта больш прыбыткова. А наша першая задача — клапаціцца аб паляпшэнні жыццёвага ўзроўню савецкага чалавека, — бадзёра закончыў сакратар.

Больш кепскага становішча Нядбайла не помніў. Як вопытны, прадбачлівы, хітры чалавек, Іван Нічыпаравіч усё разумеў, але ж да апошняга слова сакратара не верылася. Аказалася самае горшае: усё зладжана, абгрунтавана і неабходна раёну. Ну, што ім адказаць, вядома, традыцыйнае, простае і такое вечнае:

— Як усе.

— Спадзяюся, народ пойдзе нам насустрач. Ён зразумее, калі не — падкажам, што гэта разумны, дзейсны і адзіны выхад з адсталасці. Між іншым, людзям Гардзея таксама не прыемны шпацыр з багатым дзядзькам да мора. Дадай да зямлі «Перамогі» ўсе свае га ды павяліч адпаведна ўсе дзяржаўныя планы, плюс расход

паліва і энергіі. Ды, як кажуць, калі ў сям'і лад, то яна сама клад.

Карцела Івану Нічыпаравічу спытаць і пра свой лёс. «Пакуль не час, — падумаў, аднак, — дый не цяжка і самому здагадацца, мне будзе ўгатавана простая да здзеку роля другога».

— Ну, што ж, дарагія таварышы, бачу, згода будзе. Пацісніце пакуль што адзін аднаму рукі, і прашу праз тыдзень да мяне разам з сакратарамі партыйных арганізацый з канкрэтнымі прапановамі. Лічыце, што райком бярэ шэфства над вамі.

Моўчкі апраналіся, моўчкі выйшлі на ганак.

— Магу падвезці, — прапанаваў Гардзей.

— Дзякую. Я яшчэ да сваіх заеду.

Нядбайла зманіў калегу, ён паехаў у «Зару».

Спяшацца не было куды: усё наваколле «ад гэтага часу і навечна» — чужое. Першай ужо, безумоўна, узбунтуецца жонка. Дзіва што! Была ж нават каралевай. Як ні прывязуць у сельмаг што-небудзь новае, імпартнае, дэфіцытнае — звоняць. Разбэсціў грашыма. Золата купляе. Грошай пазычыць і купіць. Каб толькі хто-небудзь іншы не перахапіў. Што гэта? Зайздрасць? Мо ўсё тое ж паганае пачуццё — адзінай, першай?

Трухан? ...Урэшце, і яго можна было спытаць, не ўсё ж яму аднаму тумакі: так, за ўвесь год не было прачытана ніводнай лекцыі. Глянуў вакол. Мора вады. Паводка прыйшла ціхая, мірная, дала ўсім уратавацца і ўсё ўратаваць. На ўраджай гэта. Там, за дамбай, у яго залатыя палі. Што там трыццаць, сорак—пяцьдзесят пяць меркавалі браць збожжа з аднаго гектара. І ўзялі б! Аж горла перацiснула няздзейсненая мара, што не ён здзівіць Палессе, а ўжо іншы. Як жорстка абышоўся лёс! Калі, здаецца, усё падрыхтавана, столькі працы пакладзена, а каравай паднясуць некаму. «А можа, гэта і ёсць непазнавальны і заканамерны працэс, калі ты павінен і сваім жыццём, і працаю (ужо наколькі яна важная, меркаваць іншым) толькі падрыхтаваць пляцоўку некаму, хто ідзе за табою, услед? Тады выходзіць, скардзіцца і няма на каго, бо калі зазірнуць, ну хоць на дваццаць гадоў наперад, то, бадай, гісторыкі ўспомняць, што апошнім старшынёю ў колішніх Лядах у калгасе «Зара» быў ён, Нядбайла. Так што нейкім чынам і ён шчаслівы. Усё ж гэта робіцца на яго вачах і з яго ўдзелам».

Думкі яго вярталіся да вяскоўцаў. «А яны, людзі? Колькі ўжо змен, прапаноў, кірункаў, абавязацельстваў пранеслася над імі? Колькі змянілася старшынь за трыццаць гадоў. А яны, як раней, сур'ёзна і клапатліва шчыруюць на зямельцы. І, відаць, не дбаюць пра амбіцыю, не стае часу дбаць».

Ён раптам адчуў, што не вытрымае, калі з'явіцца перад імі брыгадзірам ці намеснікам старшыні. Хоць баяцца, цурацца і не было чаго, калі прыпомніць усіх. Бо як не меў сяброў, так у яго не было і ворагаў. «Хіба толькі Карней усміхнецца ды папракне чым-небудзь», — падумаў Нядбайла.

«А што, калі першаму і прызнацца, праверыць», — нечакана вырашыў Нядбайла і, ужо не сумняваючыся, паехаў да фермы, але там Карнея не застаў. Перадалі, што нечакана з'явілася рэйдавая брыгада народнага кантролю і абласной газеты і Карней, як актывіст прафсаюзнага камітэта, быў таксама ўключаны ў брыгаду.

Каб зусім не псаваць настрой, перадаў сакратарцы, каб не шукалі, і паехаў дамоў. Дрэнна, маўляў, сябе адчувае, захварэў. І сапраўды, прасядзеў у хаце да позняга вечара і выбраўся прайсціся перад сном аж тады, калі там-сям у хатах згасла святло, людзі клаліся спаць.

«Божа мілы, як даўно я не хадзіў па вёсцы прыцемкам, — здзівіўся з жахлівасцю Іван Нічыпаравіч. — Якая яна ўся незнаёмая! А здаецца ж, ведаеш кожную прызбу, кожны плот, кожны калодзеж».

Падыходзіў да фермы.

Шурупчык, а ён, безумоўна, пачуў, данюхаўся, угледзеў, першы кінуўся пад ногі з азартам ваўкадава. Карней аклікнуў свайго памочніка, пасвяціў ліхтарыкам у твар старшыні.

— Сціхні, Шурупчык, фу-у... Ну, ціха, кажу. Цыц, змоўкні.

Шурупчык з неахвотай супакоіўся, быццам яго пільнасць і службу так як след і не ацаніў Карней, а толькі насварыўся.

— Добры вечар, Карней Міронавіч.

— Пакуль добры, Іван Нічыпаравіч. Каго-каго, а вас аніяк не чакаў.

— Дрэнна гэта ці не?

— Нават і не ведаю.

— Дрэнна, — Нядбайла сеў на лаўку ля ўваходу. —

Сядай, Міронавіч. Ноч цёплая, яшчэ пару такіх, і можна даваць каманду на сяўбу. Ну, як там народны кантроль? Знайшоў, відаць, да чаго прычапіцца? Дарэмна грошы не атрымліваюць.

— На збожжаскладзе сапсаваліся пяць тон насеннага аўса, пялюшкі, ячменю, тры тоны жыта.

— І ўсё?

— Не. Выявіліся недахопы ў захаванні мінеральных угнаенняў — нітрафоскі і хлорыстага калію.

— Вось так заўсёды, — папракнуў, хоць незласліва, Нядбайла Карнея, — загадзя не прайшоўся, не праверыў, не падказаў мне. Да ўсяго ж рукі не даходзяць, усё ж спадзяюся на іншых, а тыя на іншых спадзяюцца, вось і атрымліваецца адно спадзяванне, а справы няма. Ну, даволі пра гэта. Я да цябе параіцца прыйшоў. Скажы, ці варта пытаць думку ў народа, калі, скажам, усё ўжо вырашана і амаль зацверджана?

— Пра што гаворка? — насцярожана спытаў Карней.

— Скажам, пра новы бровар, меліярацыю, пракладку дарогі. Калі ўжо амаль нічога змяніць нельга: навошта агульная тая думка народа?

— Не пашкодзіць, Нічыпаравіч, калі, як вы гаворыце, нават усё вырашана. Значыць, усё ж будуць аб'ядноўваць?

— Што?

— Ну, два калгасы.

— А ты скуль ведаеш?

— Ды ўсё ад таго ж самага народа. Варона каркне, а вецер носіць.

— Ты так абыякава і мірна гаворыш. Гэта ж, калі ўдумацца, Міронавіч, гістарычная з'ява, развітанне, знікае назаўсёды вёска, назва калгаса... застаецца проста цэнтралізаваны комплекс «Перамога» з цэнтрам Хорск. Нас болей няма, не існуе, і з часам Ляды перавязуць у той самы Хорск. Няўжо цябе гэта не кранае?

— Свой век я дажыву ў Лядах. А народу будзе лягчэй. Колькі мы далі прыбытку за мінулы год — дваццаць тысяч, суседзі — трыста, а ў Хорску мільён дзвесце.

— Ты кажаш, народу лягчэй будзе? Павялічыцца план... Ды элементарна нашы землі не вытрымаюць, калі нават людзі будуць гараваць у тры пагібелі.

Карней адказаў не адразу на словы Нядбайлы, прысеў з краю лаўкі.

— Ды лядчанам, — працягваў ужо больш стрымана Нядбайла, — будзе не пад сілу і перабудавацца на новы лад. Жорсткая дысцыпліна, тэмп, тэмп, якасць адказнасць. Старым ніколі не ўгнацца за моладдзю. Прайшлі, разумееш, часы, калі за дваццаць восем цэнтнераў з гектара давалі ордэн Леніна.

— Не здужаюць — пойдуць да мяне на будоўлю.

— Жартуеш. Я лічыў, што лёс роднай вёскі цябе хвалюе больш.

— Пра гэты лёс нам абодвум думаць трэба было ой як даўно. Праўду кажуць, селянін не перахрысціцца, пакуль гром не грымне. Калі ўжо збеглі, пакінулі вёску маладыя, калі гаспадарка пацвіла і пагніла з часам, то й пра лёс можна ўспомніць. У нас няма аніводнай сям'і маладзей сарака гадоў. Трэба аб'ядноўваць. Свае ж людзі аб'ядноўваюцца, не чужыя. Хоць дарогі, можа, пабудуюць. Дальбог, чуе маё сэрца, жытка павінна ісці весялейшая. Я сам у калгасны хор спяваць пайду. Песні народныя пазабывалі, няма каму перадаць, школкі зачыняюцца. Па адным так і зачахнем, знікнем непрыкметна, памром. А буйная гаспадарка вытрымае і буру на моры, і засуху на сушы.

— Ну, а годнасць народа? Усё ж як-ніяк, а былі самастойныя. Ці не ўдарыць гэта па душах, ці не будзе сорамна ў вачах усяго раёна?

— Сорамна, калі ты ўкраў, падмануў, пакрыўдзіў невінаватага. Мне не сорамна.

Нядбайла прытушыў цыгарку аб падэшву, зашпіліў плашч.

Падзьмуў лёгкі ветрык, які нёс ад лесу, дзе яшчэ там-сям не патаялі рудыя зледзянелыя пагоркі, рэзкі халадок.

— Можна лічыць гэта тваім выступленнем на агульным сходзе?

— Можна.

— Відаць, мне прыйдзецца вяртацца назад у тэхнікум, выкладаць.

— Чаму так?

У гэтым «чаму так» Нядбайла адчуў усё ж Карнееву трывогу і заклапочанасць.

«Няўжо Карнею шкада расставацца, што ён спачувае гэтым «чаму так»?»

— Баюся, — адказаў Нядбайла.

— Чаго? — з ранейшай інтанацыяй спытаў Карней.

— Баюся злых языкоў, зайздросных вачэй і жартачак тых, каго некалі папракнуў, прымусіў рабіць.

— Па мне, Іван Нічыпаравіч, баяцца няма чаго. Як ты да народа, так і народ да цябе.

— Дзякую, Карней Міронавіч, за гаворку... Бывай здароў і шчаслівы, хто яго ведае, можа, болей і не давядзецца сустракацца.

Нядбайла моцна пацісвуў халодную руку Карнея.

— Ліхтарык, Нічыпаравіч, вазьміце. Гразка па вуліцы ісці.

— Дзякую. Як-небудзь датупаю. Дабранач.

Да першай калюгі старшыню праводзіў Шурупчык. Моўчкі бег побач, спераду, пакуль не трапіў у ваду. Крутануўся, вільнуў пад ногі Нядбайлу і, каб не папракнулі за ляноту і няўвагу, сігануў назад да гаспадара.

Паўсюдна шырока пачаў сяўбу калгас «Перамога». Моцныя «Кіраўцы» ракаталі штодня, праязджаючы Ляды. З Пінска прыехалі меліяратары, тры дні блудзілі па Чортавым балоце, а потым прыгналі тэхніку, навезлі дрэнажных труб, лесу. Меліяратары не пайшлі жыць на кватэры, прыцягнулі трактарам два вагончыкі да ляска, паставілі непадалёк ад самога балота.

Многа на гэты год укінулі бульбы, значна больш пасадзілі буракоў, турнэпсу. Прывезлі даяркам у чырвоны куток каляровы тэлевізар. Пачалі асфальтаваць двор ля фермы (дарогу на Давыд-Гарадок адклалі на наступны год). Лілі асфальт, варылі яго ў ляску ля вагончыкаў меліяратараў шасцёра грузінаў.

— Браце, кіну шафёрыць, пайду да іх у брыгаду, — казаў Грыцко Карнею. — Дагавор на два гады. Дзвесце пяцьдзесят тысяч бяруць, о грошы, га?

Карней прыняў гэтыя змены з радасцю і нейкім ажыўленнем, якое перажываў даўно, а ці не пасля вайны, калі арганізоўвалі цяпер ужо былы калгас «Зара». З добрым настроем ішоў на сваю будоўлю — перакінулі з будаўніцтва ў Хорску да яго ў Ляды шыферу на страху, пліткі на падлогу. Зноў сабралася брыгада. Ужо дакладна меркавалі праз месяц здаць будынак кіраўніцтву і камісіі з раёна.

Пайшлі сапраўдныя веснавыя дні з раннімі песнямі жаўрукоў, з гракамі на ўзараным палетку і ўсмешкамі старых лядчан, якія павылазілі на свае прызбы і лаўкі пагрэцца нарэшце на сонейку.

Нарадзіла нявестка Канцубіхі. Суседзі (а Карней жыў праз тры хаты ад іх), адвыклыя за апошнія гады ад плачу дзіцяці, шчыра радаваліся і да надакучлівасці пыталіся ў Канцубавай нявесткі: як малое, ці есць, ці не перагарэла малако, на каго болей падобнае, як спіць, як усміхаецца?

Кабета ахвотна адказвала ўсім, не ленавалася па некалькі разоў паўтараць адно і тое ж. З малой унучкай сядзела свякруха, а маці праз месяц пайшла ўжо на ферму.

— Пасядзела б з паўгода, маладзіца, — сказаў ёй неяк Карней, на што гаварлівая нявестка адказвала: «Да работы прывыкла. Не ўседзець дома».

Сваімі жыватворнымі сокамі напаўняла прыгажуня-вясна ўсё існае. Асабліва ўважліва песціла маладзіц. Здаецца, больш астатніх выдзялялася прыгажосцю Ева. Можа, яшчэ ад таго, што была значна маладзейшая за іншых жанчын у Лядах. Ужо двойчы прыязджаў на ўласных «Жыгулях» у вёску Мішка Зыль. Казалі, што не прынялі яго ва універсітэт. Відаць было і па Мішку, што не надта ён ірваўся цяпер, маючы сваю машыну, да вучобы, да той сваёй тайнай помсты. Палагаднеў. Пайшоў працаваць кінамеханікам. Работа, вядома, толькі ўвечары — у Давыд-Гарадку звычайна круцілі тры сеансы: у семнаццаць, дзевятнаццаць і дваццаць адну гадзіну, а па нядзелях яшчэ два — для дзяцей. Таму ўдзень ездзіў у Пінск, Столін, Тураў, купляў кнігі і перапрадаваў іх потым мясцовым настаўнікам; прывозіў дрожджы цёткам у Ляды. Маглі купіць у яго, вядома, за вялікія грошы, кажух з Тонежа ці скуранае паліто з Польшчы. І сам ён знешне змяніўся. Адгадаваў вусы, купіў капялюш і не здымаў яго, нават седзячы ў машыне. Прыязджаючы ў Ляды, знарок павольна ехаў праз усю вёску, пад'язджаў да хаты Карнея, прыпыняўся і чакаў Еву. Калі ж тая была ў сталоўцы, ехаў і прыпыняўся пад вокнамі. Дзяўчаты цюбалі ў бок Еву, паказвалі галовамі на «Жыгулі», усміхаліся. Ева не звяртала аніякай увагі на Мішку.

Якраз у тыя дні нарэшце прыехаў Фёдар. Прыехаў, каб дапамагчы пасадзіць бульбу. Хоць, праўда, Карней, які невыказна абрадаваўся прыезду Фёдара, бачыў не менш важную прычыну: Еву. Бо ўжо за тры дні да прыезду тая чакала, і тое чаканне было на першы погляд і непрыкметным. Яна і без таго мала аддавала ўвагі

акардэону, цяпер жа наогул не брала яго ў рукі, без асаблівай цікавасці глядзела тэлевізар.

Фёдар нечакана прыехаў позна вечарам і пастукаў у тое самае памятнае акно. Аж страпянуўся Карней. Даўно невядомым болем і жалем ускалыхнулася сэрца: «Сашко... Як гэта ўжо даўно было тое. Божа, як даўно...» Праз сон нават ускочыў, страпянуўся: ці не прыснілася.

Ногі не неслі да дзвярэй. У начной кашулі пабегла Ева, упусціла Фёдара і, саромеючыся, схавалася за фіранку, хуценька надзела сукенку. Фёдар прывёз чорнай кавы. Пачаставаў усіх. Карнею пітво здалося вельмі горкім, і ён даліў мядку. Раіў і Фёдару.

Можа, ад хвалявання, радасці, выпітай кавы, не ішоў сон. Ляжаў Карней і чуў стук уласнага сэрца. Фёдару паслалі ў вялікім пакоі. Не спалася і Еве. Устала, выйшла ў сенцы, узяла конаўку, зачарпнула вады, адпіла некалькі глыткоў і рушыла паціху назад. У цемры выставіла абедзве рукі перад сабою, і раптам яе гарачыя далоні дакрануліся да грудзей Фёдара. На нейкі момант яна адхапіла рукі назад, але пасля абвіла моцныя плечы хлопца:

— Ён пачуе яшчэ... Карней, не спіць. Федзя, мой любы... не трэба, потым... — шаптала яна і ўжо сілаю адсланілася ад яго чэпкіх рук. Разышліся. З тым рэдкім радасным пачуццём закаханых, якія ў марах праз неспакойны сон чакаюць раніцы, каб зноў убачыць адно аднаго.

Пасадзілі бульбу, больш як на дзесяці сотках, калі, вяртаючыся са школы дамоў, пад'ехала на ровары дачка Ніны Харашун і перадала просьбу маці: «Ці не маглі б вы, дзядзечка Карней, назаўтра, у нядзелю, дапамагчы садзіць нам бульбу?» Карней, не раздумваючы, перадаў, каб маці брала каня. Стомленыя, але задаволеныя працай — усё-такі ўдалося дацямна засеяць соткі, вярталіся на возе Карней, Ева і Фёдар. Карнею не даспадобы было прасіць «дзяцей» паехаць з ім разам, дапамагчы Ніне.

— Дзядзька Карней, а можа, заўтра паедзем ды разам усе ўправімся да абеду, — падала голас Ева, калі пад'язджалі да канюшні.

— Канечне, — падтрымаў яе Фёдар.

— Ай, дзеткі... пагуляйце. Фёдар і вёскі не бачыць, адно што гараваць і прыязджае, аж няёмка.

— Адпачнём. Выйдзем на пенсію, тады і адпачнём, — Фёдар у знак згоды штурхнуў Еву, маўляў, так ці не?

— Паедзем. Мне самой цікава ў Ніжніх Лядах пабыць. Казалі жанкі нашы ў сталоўцы, што зносіць вёску пачынаюць.

— Як? — здзівіўся Карней. — Няўжо электрастанцыю будаваць будуць?

— Не. Пераносіць будуць хаты. Палову ў Хорск, палову да нас, у Ляды.

— О-ге, бач ты. Я і не чуў.

— Па ўсёй Беларусі вялікі рух пачынаецца. Некалькі дзесяткаў тысяч вёсачак узбуйняць будуць, — сказаў голасам знаўцы Фёдар.

— Пішуць пра гэта ці план ёсць?

— Зацверджана на ўсіх інстанцыях. У адзінаццатай пяцігодцы закончаць.

— А як быць з помнікамі? У Ніжніх Лядах на 8 мая адкрылі помнік абаронцам Айчыны...

— Перавязуць за людзьмі і помнікі. Калі народу няма, для каго ім стаяць?

— Не, — больш сабе казаў Карней, — помнікі павінны застацца там, адкуль людзі былі. Факт!

Назаўтра прыехалі ў Ніжнія Ляды зацемна. Аднак Ніна была ўжо на нагах. Стрэла ля варот, не хаваючы ўсмешкі, ветліва з усімі прывіталася.

— А ў мяне яшчэ з начы і далонь часалася, і нос свярбеў да выпіўкі, — на ўвесь голас сказала яна, — мы з дзяўчатамі ўчора большую бульбачку парэзалі. Дваццаць пяць сотак я не брала, а дзесяць засадзім.

Пагрузілі на воз дзесяць мяшкоў бульбы. Выбеглі на ганак Ніііны дочкі. Цёрлі заспаныя вочы рукамі, кінулі, саромеючыся, Еве і Фёдару сваё «добры дзень» і пабеглі да ўмывальніка мыцца.

— То, калі ласка, пойдзем у хату, паснедаем, — было відаць, што Ніна шчаслівая.

— Ой, дзякуй, Ніначко, — вырвалася ў Карнея, — мы перахапілі ў сябе.

— Не забракуе. Такой гвардыяй за паўдня кінем. Хадзем.

Перакусілі і паехалі на соткі. Сонца разлілося па наваколлі. Нескончона спявалі жаўрукі над галавой. Мужчыны знялі пінжакі, засталіся ў кашулях, без шапак. «Благадаць!» — паўтараў Карней, не адчуваючы

болю ў паясніцы, ад якога, аж спужаўся раніцай, думаў, не паднімецца. Спраўна ішлі ў баразне Ніўны дочкі, толькі паспявай Фёдар, насі кашы з бульбай.

— Не рана? — спытаў Нінін сусед, праязджаючы ля сотак.

Ніна выпрасталася на ўвесь рост, павольна рукою зняла з ілба валасы і адказала:

— Не. Зямелька ўжо дыхае. Капут халадам.

— Я дык і не ведаю, ці тут кідаць бульбу, ці ўжо садзіць у Хорску? — як бы раіўся, сумаваў, шкадаваў нешта стары Нінін сусед.

— Паміраць збірайся, а зерне ў зямлю кідай. Так людзі кажуць, — адказаў за Ніну Карней.

— А да вас з сельсавета яшчэ не прыходзілі?

— Не, — схлусіла Ніна.

Вядома, прыходзілі. Яна і сама не ведала, што адказаць. Адклала сустрэчу на нядзелю.

Неўзабаве, пасля таго як паехаў сусед, пад'ехала на «Жыгулях» старшыня Хорскага сельсавета. Выйшла, прывіталася, нічога не сказала наконт бульбы, пачала адразу пра сваё:

— Дык што, Ніна Васільеўна, — давайце будзем прымаць рашэнне. У панядзелак я павінна ўсе дакументы здаць у раён. Куды выбралі: ці Хорск, ці Ляды?

— А хто куды? — вядома, спытала толькі, каб спытаць. Даўно ведала ад сваіх, хто куды перабіраецца, на якое месца, нават у якую кватэру.

— З трыццаці большая палова ў Хорск, — адказала старшыня, — вы адны і засталіся.

Ніна паглядзела на Карнея.

Ён аж спужаўся. «Божа мой, што яна раіцца са мной?»

— Буду пераязджаць у Ляды! Усё ж дадому бліжэй, — упэўнена адказала Ніна і, каб у старшыні не было больш пытанняў, сказала ўжо Карнею: — Паганяй коней, Карней Міронавіч.

А трэцяй гадзіне бульбу пасадзілі. Ніліна дачка дробна парэзала бульбу і высыпала ля сотак на кволенькую, але ярка-зялёненькую маладую траўку: «Няхай ляжыць, мо ноччу жывёліна якая знойдзе».

Паехалі абедаць. Ніна папрасіла малодшую прынесці са склепа два качаны капусты. Аж здзівіўся Фёдар з Еваю. Бялюткія, здаецца, толькі што паднятыя з агарода, качаны радавалі ўсіх сваёю свежасцю. Га-

лодныя, накінуліся на тушаную бульбу з мясам, смажаныя скваркі, капусту.

Спрытныя дзяўчаткі выскачылі з-за стала і ўжо нешта шапталі ля прайгравальніка. Ім карцела, відаць, хутчэй паставіць пласцінкі.

— Дачушка, хто ж пад «Песняроў» танцуе? Іх слухаць трэба. Давайце што-небудзь вясёлае. Француза вашага.

— Не француза, а італьянца. Чэлентана, — разам адказалі дочкі.

Фёдару танцаваць не надта хацелася. Пайшоў з Евай, каб не пакрыўдзілася, і толькі.

— А вы чаго забіліся ў куток, бярыце дзядзьку Карнея, — весела раіла дочкам Ніна.

— Я ж па-моднаму, па-сучаснаму не ўмею, — аднекваўся Карней, ды дзяўчына ўжо выцягнула яго на сярэдзіну хаты.

Малодшая рагатала, гледзячы, як тупалі, кожны на свой лад, сястра і дзядзька Карней.

У хату зайшлі. Ніна нават не заўважыла, калі паўз вокны прайшла жанчына. Угледзела на парозе.

— Люся, давай да нас! Гэта суседка мая, Люся. А гэта Карней Міронавіч, Ева, Фёдар, — знаёміла Ніна Люсю, якая адчувала сябе, як голая на вуліцы.

— Добры дзень, — адказала яна ўсім разам і аж схамянулася, затрымаўшы свой позірк на Федзю, быццам пазнала ў ім свайго вельмі добрага знаёмага, ды не рызыкнула загаварыць, і пачала хутка пра свае турботы: — Я ж да цябе, Ніна, па мясарубку... Папко нашу не навастрыў. Пазыч.

— Дачушка, дай Люсі мясарубку. А можа, сядай да стала.

Люся аднеквалася, узяла мясарубку і яшчэ раз глянула на Федзю з парога.

Ева не магла не заўважыць пільнай цікавасці незнаёмкі да «свайго хлопца». Занепакоілася.

Ніна, разліваючы ў шклянкі халодны кампот з суніц, сказала пра Люсю:

— Люська з горада прыехала. У бацькі ногі адняліся, трэба даглядаць... Гарная кабета. Разведзеная. О, Зылеў сынок часценька прыязджаў да яе. З Лядаў вашых.

— Ужо не наш. Хату купіў у Гарадку, — сказаў адной Ніне Карней.

Фёдар пайшоў курыць. Ева паспяшалася за ім. Стаялі на ганку.

«Яна пазнала мяне, канечне, пазнала», — думаў з трывогай Фёдар.

Ева баялася следам пачуць нешта жахлівае...

— Люська працавала касірам у трыццатым гастраноме на Арлоўскай... Яна мяне ведае як інкасатара... разумееш. У народзе кажуць, што праўду не схаваеш, не праз цябе, дык праз іншых на свет усё роўна выпаўзе.

— Федзя, прызнайся яму сёння... зараз, па дарозе... нельга ж так болей... раскажы ўсё. Горш, калі даведаецца ад чужых. Што падумае? Прызнайся.

— Не, — рашуча адказаў Фёдар, — я наогул нават передумаў. Ці ж ты не бачыш, ён шчаслівы, разумееш, вельмі шчаслівы. Зноў. Яму трэба доўга жыць. Навошта раніць яго хворае сэрца, тым больш што ўжо нічога змяніць нельга і вярнуць таксама. Не пакідаць яго аднаго. Калі ўжо сам прыпрэ да сценкі, спытае, трэба тады прызнацца...

...Карнея ўсю дарогу не пакідаў добры настрой.

# РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

## ШЧАСЛІВАЯ СУБОТА

Віктар Сяргеевіч Кананові чакаў гэтага, нават недзе ў глыбіні душы падрыхтаваў сябе; не, не зміръўся, бо самая вялікая з хітрух — надзея на лепшае, усё ж надавала сілу, а толькі падрыхтаваў сябе: як паводзіць на ўсялякі выпадак, як трымацца з кіраўніцтвам Саюза, куды пайсці працаваць, ці наогул застацца «на вольных хлябах» — была і такая думка.

Перад самым з'ездам было зацішша, ні чутак, ні кепскіх адносін да яго персоны, ні пісьмаў, ні скаргаў. Нават заціх Лазарук. Пераехаў у аднапакаёўку. Здаўся. Не было дзе жыць, паехаў.

І сам пачатак з'езда не прадказваў нічога катастрафічнага. Сваю прамову Кананові прачытаў, як прынята гаварыць, на адным дыханні, праніклёна, нібыта прапяваў, мала зазіраючы ў паперу, многае ведаў па памяці. Некалькі разоў упамянуў каго трэба, яшчэ больш, каго абавязкова трэба, цытаваў класікаў.

Былі апладысменты. Як здалося: натуральныя, шчы-

рыя. Непрыкметна, ужо ў прэзідыуме, і высокі госць выцер спатнелы лоб.

Пачаліся доўгія спрэчкі па асноўным дакладзе. Каб не выклікаць хоць якія-небудзь падазрэнні, маляваў на паперы за кожным маленькую кветачку, што азначала: нічога супраць яго, Канановіча, і яблыка, што азначала: супраць яго — ці ў адкрытую, ці ў падтэксце.

Першы дзень закончыўся з пераважнай большасцю кветачак, на другі таксама: можна было скласці нядрэнны букецік, толькі адзін вялізны яблык узнік ля пятнаццатага нумара, пад якім выступаў, як лічыў Канановіч усё жыццё, сярэдняй рукі крытык, які апошнім часам быў складальнікам кніг пра тых, хто пачынаў выяўленчае мастацтва ў рэспубліцы. «Крытык» падняў праблему этыкі і самакрытыкі кожнага мастака ў адносінах да ўласнай творчасці і, як яскравы прыклад аднабаковасці, кампанейшчыны, прывёў выпадак з карцінай Канановіча «Снайпер — 1941». У канцы мінулага года гэта карціна была на рэспубліканскай выстаўцы «Жанчына на вайне». Нічога новага не паспеўшы выдаць на-гара, Канановіч дастаў свой стары накід карціны «Сувязістка Тоня — 1941 год». Простая да прымітыўнасці кампазіцыйна, яна, карціна, не падабалася і Канановічу, аднак трэба было перад з'ездам... ён не мог апынуцца ў баку ад такой важнай кампаніі і таму за некалькі дзён перапісаў палатно.

Для большай арыгінальнасці назваў карціну «Снайпер — 1941», а дзеля навацыі і свежасці пакінуў бедную Тоню з адной рукой. Цяпер быў спакайнейшы. Бо нават тыя самыя блізкія да яго крытыкі, мастакі, хто наведваў яго майстэрню ў апошнія пяць гадоў, з цяжкасцю, а можа, і наогул не пазналі б накід «Сувязісткі Тоні». «Крытык» пазнаў. Як і калі ён яе бачыў? Болей таго, абаронца маралі і аб'ектыўнасці мастакоў прывёў выкладку водгукаў з кнігі выстаўкі і параўнаў яе з водгукамі, якія надрукавала паважаная рэспубліканская газета. У кампліментарным газетным артыкуле было, здаецца, усё: навізна формы, арыгінальны сюжэт, новы погляд на вайну, свежасць успрымання, прадчуванне перамогі, вялікая любоў да героя, усё — акрамя крытычных заўваг наведвальнікаў выстаўкі. «Крытык» зачытаў ліст жанчыны-снайпера (сапраўднага снайпера), якая пісала пра сваю рэдкую прафесію: жанчыны былі снайперамі толькі ў першыя месяцы вайны, што наогул

снайпер не мог быць без рукі, яго звычайна раніла ў плячо ці забівала пападаннем у галаву (гэта гістарызму дзеля), прывёў таксама яшчэ некалькі крытычных заўваг.

Як здалося насцярожанаму вуху Кацановіча, «старац» зарабіў жывыя і працяглыя апладысменты. У перапынку перад галасаваннем Кацановіч нават не пайшоў піць каву. Сапсаваўся настрой ад гэтых дружных апладысментаў «крытыку». Нечакана з'явілася адчайная рызыкоўная думка самому адвесці сваю кандыдатуру, калі яе прапануюць у праўленне, ды крыху супакоіўся ад гаворкі з загадчыкам аддзела той самай газеты, якую папракнуў «крытык».

Нарцыс Аляксеевіч моцна ціснуў Кацановічу руку і, не выпускаючы яе, каб паспець выгаварыцца, хутка лапатаў: «Усё ідзе цудоўна. Мы пераможам. Прыміце віншаванні, Віктар Сяргеевіч».

Відаць, пранырліваму нюху Нарцыса Аляксеевіча шкодзіў пах каньяку. Кацановіча пракацілі! Моцна, аднагалосна і смела. Нават не абралі ў члены праўлення. Гэта, можа, ужо было і занадта, як ніштo зневажала яго чалавечую і мастакоўскую годнасць. Жорсткая рэчаіснасць зноў вяртала яго да нуля.

«Хаця, чаму да нуля? Да пачатку! Толькі да пачатку новага этапу», — абнадзейваў ён сам сябе, бо нават адданы і льсцівы Нарцыс недзе адразу ж знік пасля пасяджэння.

«Урэшце, — думаў Кацановіч, ідучы дамоў, — майстэрню не адбяруць, фарбы ёсць... Права слова не пазбаўляюць. А ўсё астатняе, — яно ж ёсць, яно з ім: прырода, лес, неба, горад, людзі. Усё чакае яго ўвагі і дапытлівага позірку. «Толькі бяры мяне, распазнай мяне, пакажы мяне наступным пакаленням», — здаецца, шаптала ўсё наўкол.

Дзіўна. Ён злавіў сябе на думцы, што яму як ніколі захацелася працаваць, працаваць няспынна. Адзін сюжэт набягаў, цясніў другі, адны вобразы грудзіліся на новыя.

Без стомы, ежы, адпачынку, ён пісаў сваё новае «дзіця» да самай раніцы, і толькі настырны званок у дзвярах напомніў яму, што існуе свет. Паштальён, незадаволены доўгім чаканнем, падаў тэлеграму.

«Я ўсё ведаю. Ты — талент. Працуй над апошнім партрэтам. Гэта геніяльна. Твая дачка».

Кананові́ч упершыню за апошнія суткі ўсміхнуўся: «Не, што б там ні казалі і ні прарочылі, а дзяцей трэба мець. Яны лепш за ўсіх гояць нашы раны».

Патушыў святло, падышоў да акна, адчыніў яго. Ранішні водар зняў шум у галаве, пяшчотай ахутаў цела. Карціна амаль была гатова. Засталося зрабіць, як кажуць мастакі, некалькі апошніх вялікіх сурыкаўскіх мазкоў. Ён стаяў па-ранейшаму ля акна, кінуў пэндзаль на стол, нервова схапіў акуляры. Там, па праспекце, чадзілі едкім дымам жоўтыя венгерскія «Ікарусы». Іх нумарныя знакі Віктар Сяргеевіч, як ні сіліўся, не мог прачытаць. «Няўжо прароцтва дактароў здзяйсняецца? Слепата? Ды не, немагчыма!» Якраз тады, калі ён, як ніколі, вольны, поўны сіл, а галоўнае, веры ў тое, што робіць? Ды не... Лёс не можа быць такі жорсткі, менавіта тады, калі ведае, што сказаць свету і асабліва, як сказаць... Глянуў насупраць. Досыць вялікія літары «Гастраном» вочы яго не бачылі.

«Усё! Хопіць. Сёння ж да ўрача. І адпачываць... Неадкладна. Зноў туды, да Карнея! На Палессе. Там працаваць. Толькі б паспець, толькі б паспець усё выказаць і зрабіць. Прэч ад гэтай двухгадовай мітусні, зайздрасці, інтрыг, у якіх псуешся сам і псуеш іншых».

Праз два дні, закончыўшы непрыемныя справы па разводу з жонкай, Кананові́ч загадзя, за пяць дзён наперад, купіў білет да Давыд-Гарадка. Спяшаўся, недзе адчуваючы, што спешка тая нервовая, злая — не да дабра, быццам адчуваў, што павінен страціць нешта яшчэ. «Што? Ці каго?» — мітусліва пытаў ён у інтуіцыі, а тая толькі трывожыла душу сваімі сімваламі-знакамі — рассыпалася соль, снілася штоноч поле ў кветках, незнарок лілася чырвоная фарба па падлозе і іншае містычна-алегарычнае, а ў асноўным інтуіцыя нема маўчала — на тое і інтуіцыя.

Кажуць сярод людзей, што ліха адно не ходзіць, але ж калі пільна прыгледзецца да жыцця, дык і радасць цягне звычайна за сабою сваю сястрыцу ці сваячку.

Недзе за два-тры дні да адкрыцця сада-ясляў з'явілася ў Лядах Шура. Паштальёнка прыехала не адна, прывезла дачку Надзю і трохгадовую ўнучку Марыйку. На дарозе ад аўтобуснага прыпынку, калі на ровары

везлі клункі, чамаданы, дзіцячы матрасік, Шура заглянула да Карнея, папрасіла прыйсці, дапамагчы «распакаваць хату». Сказала так на свой паштовы манер.

Карней не пытаўся, ідучы побач, на колькі прыехалі госці, на адпачынак месячны ці проста праведаць. Шура сама ўсё выклала:

— Кінула мая Надзейка свайго п'яніцу. Кватэру аставіла і сказала: едзьмо, мамо, дамоў. Стамілася, кажа, я ў горадзе. Трыццаць год усяго, кажа, а як быццам усе пяцьдзесят пражыла. Назад у вёску пацягнула. А я дык аж перахрысцілася, дальбог, табе кажу, на радасці клункі звязала, унучачку на рукі ды на аўтобус. Усё па закону, як мае быць. Пашпарт у яе чысты, маладзіца — дай бог ангельскай каралеве такую дачку мець. Кажу, дачушка, не бядуй. Жыццё наперадзе, дай бог сэрцу радасць вытрымаць...

— Ды яна ў цябе і не пастарэла ні грама, каб я так дыхаў, — весела сказаў Карней, — шукаць жаніха не трэба, і самі знойдуцца.

— А я пра што, я ж пра тое самае!

Старэйшыя разгаварыліся:

— Мікіту можна сасватаць.

— Якога? Сегена? Што торф возіць? — спытала Шура.

— Яго.

— Не дай бог. Вып'е пяцьдзесят грамаў, бяжыць, халера ясная, на Хабішчанскую кручу, каб нырнуць у раку. Разаб'ецца яшчэ.

— Тады, можа, Васіля Хамутова. Электрыка?

— Ой, не-е, Карнею, маліся, хрысціся. З-за сабак свету не бачыць... усіх бяздомных пазбірае па ўсіх вёсках. Не, жыткі спакойнай не будзе.

— То мо Паўлюка Жэніка.

— Яго ў армію не ўзялі. Заіка, — быццам сумуючы, адказала Шура.

— Вельмі нават добра. Пакуль выгаварыць «це... це... шча... т... т... тваю ма... маць», дык уся злосць і прападзе, — рагатаў Карней.

Рагатала Шура. Не хавала ўсмешкі і сама Надзя. Так усё ёй было знаёма да болю, і так усё адразу захапіла яе: і гаворка свая, не зблытаеш, у якой мірна ўжываюцца польскія, украінскія словы, і цёткі, і дзяды на прызбах, і вазоны на вокнах, і буслы над стрэхамі.

— Да нас заўсёды першымі прылятаюць! — казаў

Карней. — Яшчэ ні ў Альшанах, ні ў Хорску няма, а нашы ўжо тут.

— Ой, дзядзька Карней, вы такім і засталіся, не можаце, каб не пахваліць сваё, — папракнула Карнея Надзя.

— Дачушка, да нас прылятаюць першыя як лёду. У гэта можаш паверыць, — Шура сур'ёзна падтрымлівала Карнея.

На ўрачыстае адкрыццё сада-ясляў прыехаў духавы аркестр з Хорска ў смешных для лядчан старадаўніх касцюмах з лампасамі, «кутузаўкамі» — гвардзейскімі шапкамі і аксельбантамі. Язэп Гардзей сам прыехаў на адкрыццё, шчыра павіншаваў брыгаду Семенчука, уручыў пад туш музыкаў усім ганаровыя граматы калгаса «Перамога» і каштоўныя падарункі.

Піянеры завязалі ім чырвоныя гальштукі. Жанкі, што працавалі разам з Карнеем, разгубленыя ад такой павагі і пашаны, хавалі вочы ў насоўкі. Старшыня перадаў Карнею нажніцы.

— Права першаму перарэзаць стужку мы, таварышы, даручаем дарагому ўсім нам, ініцыятару гэтай будоўлі, яе кіраўніку, можна сказаць, ветэрану вайны, паважанаму Карнею Міронавічу Семенчуку.

Музыка, гром апладысментаў, усё змяшалася ў галаве ў Карнея. Нажніцы чамусьці не размыкаліся, быццам у руцэ не хапала сілы. Глянуў Карней на святочна апранутых людзей і нечакана прыняў рашэнне. Загаварыў:

— Дарагія аднавяскоўцы. Дзякую, канечне, усім вам за гонар, павагу да нас, да мяне. Але ж, думаю, зручней будзе і справядлівей, калі стужачку гэту перарэжа той, каму тут жыць і радавацца. Няхай гэта зробіць унучка Шуры — Марыйка! Манечка, хадзі сюды. Вось так. Малайчына. Бяры нажніцы, чыкні вось так па стужачцы. Ну...

Ён нават паказаў. Дзяўчынка смела падышла да стужачкі, узяла нажніцы, крануць стужачку не адважылася.

— Давай я табе памагу.

Карней падтрымаў яе за локцік і накіраваў стужачку паміж нажоў.

— Пе-ра-рэ-за-лі!

Дзверы расчыніліся — і на парозе з'явілася Ева з

хлебам-соллю. Гэта было яшчэ адной прыемнай нечаканасцю для ўсіх. Людзі павалілі за дзецьмі. Засталася на ганку толькі Шура. Яна плакала ад шчасця.

Была якраз нядзеля, і жанкі доўга яшчэ не разыходзіліся. Ужо з'ехаў аркестр, паехаў старшыня з Трудханам. Чацвёра маленькіх гаспадароў сада-ясляў, смачна паабедаўшы ў сваім дзіцячым садзе, цягнулі бацькоў дадому, хацелі спаць.

— Сёння, таварышы, як і належыць на выхадны дзень, можна дзетак забраць дамоў, а заўтра ў сем гадзін, калі ласка, садрэчна запрашаем, — гэта казала дачка Шуры Надзя. На ёй быў бялюткі, накрухмалены яшчэ заўчора халат і такая ж шапачка з вышытай літарай «Н».

Аднак людзей не пакінуў добры настрой. Жанкі паслалі Карнея па акардэон.

«Гуляць, дык ужо як на Палессі заведзена — пад музыку!» — і Карней з ахвотаю, подбегам рушыў дамоў па інструмент.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### НЯДЗЕЛЯ

Чэрвеньская навальніца мала чым розніцца ад майскай: хіба толькі больш працяглая, з двайным, а то, бывае, і трайным усплёскам. Прычэпіцца да аднаго месца і паліць, маланіць: то стог ахопіць полымем, вернецца праз гадзіну — дрэва паколе і ўжо тады ўгамоніцца ўсё яшчэ страшэннай сінню недзе за Прыпяццю. У лядчан такая старадаўняя звычка: выходзіць адразу пасля дажджу, яшчэ пад недалёкі трэск грому, на вуліцу, перагаварыцца з суседзямі: «От страшная сіла». «Недзе ўжо точна ляснула» — і чакаць першых вестак. І бывае хоць ужо з усіх бакоў абгавораць: як той стог гарэў, выжыве тое параненае дрэва ці не, а ўсё не разыходзяцца ці ідуць да сваіх фортак з нейкай неахвотаю. І ўжо абавязкова заканчваюць: «Добра, што бог не даў граду ды цвет не пабіла».

У гэты ж дзень была надта моцная навальніца з градам-бобам, бураном і страшнай бліскавіцай на ўсё неба. Здаецца, удзень не так млосна і парыла, а наляцела хмара-хмарышча і ўжо не сышла з Лядаў, пакуль не

вылілася ўся. Аніяк сіла нябесная не хацела счахнуць, павісла над Барком, над Прыпяццю і доўга бліскала аж да самага вечара.

Сёння Карней вырашыў не браць на варту Шурупчыка. «Гэтае лётала не вытрымае, седзячы на адным месцы, упэцкаецца ў гразь, што чорт лысы, не адмыць потым». Шурупчык скуголіў да плачу, быццам прадчуваючы нешта вельмі кепскае, і лашчыўся, і скакаў на задніх лапах, і тыцкаў пысай у далоні, і віляў хвастом, і толькі тады, калі Карней зачыніў за сабой фортку, зразумеў, што не бяруць яго, аддана́га сябра, трывожна забегаў ля будкі, ірваўся з ланцуга.

Ева вынесла цёплага малака, дык перакуліў міску і зноў бегаў, што шалёны, не супакойваючыся.

У Карнея ж быў добры настрой, можа, яшчэ ад таго, што вельмі любіў хадзіць пасля дажджу з маленства, калі бегалі і пераносілі апалонікаў з адной канаўкі ў другую. І дыхалася ў гэты час неяк асабліва лёгка.

З неахвотай падала сонца за сіласныя вежы Хорска, падзяляючы неба на дзве часткі: там, ля Барка, тужылася страшыць пасляабедзенная хмара, а тут, над Хорскам, ясны маляўнічы захад бадзёрыў, узвышаў душэўны спакой.

А мо гэтая прыродная «благадаць» здавалася такой непаўторнай і велічнай у сваёй прыгожасці яму аднаму, закаханаму? Няўжо ніхто не толькі ў Лядах, а наогул у свеце так аднолькава не ўспрымае і не радуецца харастbу жыцця? А можа, ён вырадак? Бачыць ва ўсім жывым прыгожае? Так і сіл душэўных не хопіць здзіўляцца.

А душа знай сваё: патрабуе ўзлёту. Невыносна захацелася ўбачыць Ніну. Крыху супакоіўся, успомніўшы, што заўтра дамовіліся пахадзіць па Лядах, знайсці добры пляц пад хату. Некалькі дзён назад Ніна прыязджала, раілася. Часу не хапала, так толькі і перакінуліся некалькімі словамі.

Пазніўся са статкам Грыцко, хаваўся ад дажджу ў лесе.

— Дай закурыць, Карней. Прамок, падла, як цуцык. Глянь на бушлат (ён нёс яго ў руках, разгарнуў), ніяк не прасохне. Калатун б'е, як каля цёплай бабы.

— Дык смальні сотку для сагрэву, — параіў Карней, частуючы цыгарэтай.

— Не. Сказаў — завязана. Усё. Канец. О, дзякуй. Бяды ў Лядах не нарабіла?

— Мінавала.

— У Альшанах, чуў, чалавека забіла. Вёз сена на Гарыні. Шчаслівай ночы, Карнею.

— Бывай здароў, Грыцю.

Згасла сонца сённяшняга дня. Ледзь чутны ветрык, брат хмары над Баркам, прыгнаў-такі яе дзетак-хмарак. Зрудзела неба, нахмурылася. Нечакана крута панесла пах яблыневага саду, які пачынаўся за свінафермай.

Вядома, ён не памыліўся, добра, што не ўзяў Шурупчыка, — увесь двор плаваў, патанаў у гразі. Апошняя даглядчыца — яна сядзела ў невялічкім чырвоным кутку — чакала Карнея, здала «вахту».

— Сёння прывезлі адрамантаваны тэлевізар, так што можаце глядзець, — сказала яна ўжо з парога.

Едкі пах ударыў у ноздры. Пачалася работа. Прайшоўся па свінарніку.

«Ат, сатанінскія пражоры, — дзівіўся Карней, калі накормленыя свінні, заўважыўшы чалавека, нехаця, а ўсё ж уставалі праз сон, прасілі падкінуць яшчэ, — колькі ні кармі, а ўсё мала».

Меўся да другіх дзвярэй не падыходзіць, ды раптам здалёк заўважыў, што засаўка не на затворы, а вісіць. Як жа трымаюцца дзверы? Добра ведаў, калі завеса іх не трымае, яны самі расчыняюцца, без моцнай дапамогі. Штурхнуў рукой. Не. Нешта трымала іх з вуліцы. Выйшаў. Абышоў свінарнік. Да дзвярэй была падкочана калода, якая і трымала іх. «Хто падкаціў? Навошта? А мо скразняк сарваў з завесаў?» Памацаў завесы рукой. Норма. Калоду з месца не крануў. Вярнуўся ў свой чырвоны куток, уключыў тэлевізар. Думаў так: калі нехта нешта задумаў, прыйдзе. А пры мі калоду — насцярожыцца.

Прайшло з паўгадзіны. За гэты час Карней тройчы выглядаў — дзверы па-ранейшаму былі зачыненыя. Учапілася за яго гэтае пачуццё насцярожанасці, не адкінуць, не супакоіць.

Па тэлевізары пачаўся канцэрт славутага Анатоля Салаўяненкі, якога вельмі любіў слухаць Карней, ды баяўся павялічыць гучнасць, каб не забіла гукі наўкол.

Нехта мякка адчыніў дзверы з вуліцы, пакінуў іх адчыненымі. Карней не крануўся з месца, бо дзверы ў куток знарок не зачыняў, а каб прайсці да свіней — не

мінуць яго, Карнея. І якое ж было здзіўленне, калі на парозе яго паста з'явіўся Зыль-старэйшы. Схуднелы, няголены, аднак у добрым настроі.

— То здароў будзь, сусед!

— Здароў, калі не жартуеш, — Карней пасунуў табурэт, запрашаючы сесці.

Зыль зняў шапку, плашч.

— Мы з сынам прыехалі на Хабішчанскую кручу самкоў палавіць... дажджу наліло, павылазілі з ям. Пакуль зусім не сцямнела, дай, думаю, праведаю былога суседа.

— Правільна. Малайчына, што зайшоў. А дзе сталі?

— Ля вербаў.

— Насціну вярбу не спалілі?

— Не.

— Кідайце пад яе. Там будуць.

— Файно спявае хлопец, дабыў гук.

Карнею адступаць не было куды, павялічыў гук у тэлевізары.

— Добрыя грошы, мабыць, даюць. Шаляпін, чуў, мільянерам быў. — Зыль дастаў з кішэні загорнутае ў газету сала з хлебам, з другой кішэні — пляшку гарэлкі.

— Я так табе па-свойску, Карней, і не зафундаваў тады за дыван і мэблю. Колькі той жыткі.

— Дзякую, што ўспомніў. Толькі я не п'ю, ды яшчэ і на службе...

— Ой, кінь, якая гэта служба... хто сюды красці прыйдзе, бог мой.

— Не ўгаворвай, Федзя... не магу... Ты прымі на грудзі... — Карней дастаў шклянку, выцер яе кавалачкам паперы, пасунуў Зылю. Зыль наліў сабе паўшклянкі, выпіў.

На нейкі момант Карнею зрабілася нават цікава, і, каб Зыль нічога не западозрыў, Карней махнуў рукой і наліў сабе.

— А, дзе наша не прападала... кроплю... Усё.

— Дагавор даражэй за грошы, — на твары Зыля іскрылася задаволеная ўсмешка.

Зыль нешта пачаў балабаніць пра тое, як умеюць зарабляць грошы ў Давыд-Гарадку, ды Карней нічога не чуў, ён думаў зноў сваё. Увага Карнея была скіравана на гукі за кутком: прыслухоўваўся, як там парасяты, а сам вачыма пільна сачыў за клейкай для мух, што ві-

села ў калідорчыку: памятаў, што Зыль пакінуў дзверы незачыненымі, значыць, калі хто-небудзь палезе ў свінарнік, праз другія, дзе калода, — хочаш не хочаш, а клейка ад скразняку заварушыцца. Аж сам усміхнуўся сваёй здагадлівасці і цяпер не адводзіў вачэй ад патайнога знака.

Зыль зноў наліў. Карней далонню закрыў сваю шклянку. Зыль выпіў сам. Вочы яго павесялелі яшчэ больш, а цела, прыціснутае да крэсла, было па-ранейшаму напружана, быццам вось-вось рыхтуецца да скачка. Клейка варухнулася раз, другі — яе аж падкінула ўгору, да столі.

«Што рабіць? Што рабіць?» — стукала ў скронях Карнея.

— Ты, Федзя, прабач. Я выйду на секунду. Налівай. А я... Зараз прыйду, — і, не чакаючы згоды, Карней пераступіў парог, прыкрыў за сабою дзверы і што было сілы пусціўся ў другі канец.

Мішка Зыль, які перакуліўся цераз агароджу і нешта круціўся ля соннага парасяці, аніяк не чакаў пачуць за спіною строгі голас Карнея, ад перапуду ледзь не перакуліўся да парасят.

— А ты што тут мудрагеліш, дарагі мой?

Мішка падаўся назад і зачапіў дротам, які з двух бакоў выходзіў з невялікай скрыні, што вісела ў яго на грудзях, па металічнай агароджы.

Раздаўся моцнай сілы электрычны разрад, ад якога Мішка перапужаўся, збялеў і ад разгубленасці выпусціў дрот з абедзвюх рук у гумавых пальчатках. Дрот павіс, чапляючыся канцамі-сярпамі.

— А... а, гэта ты, Алегра, — ачомаўшыся, сказаў Мішка. — Давай шуруй дапіваць, а то пайду пазваню ў міліцыю, прыедуць, праверацць і з работы здымуць, — пачаў нахабна Зыль-малодшы.

— А ты нас, гніда паршывая, не пужай, — Карней зразумеў, што на грудзях у Мішкі вісеў просты кандэнсатар. Хадзілі чуткі, ды і сам чытаў у «Сельскай газеце», што недзе аж пад Слуцкам такім макарам кралі жывёлу і вазілі па ўсёй Беларусі, прадавалі, можа, такія ж мярзотнікі, як і гэты.

— Ты што, сатана, красці надумаў?

— Ого! Баец. Кныр. Дзела шые. А хоць і я. Хто дакажа? Ты? Цю-цю на дубчыку. Скажы дзякуй, што

стары, баюся, хракну разок, рассыплешся, адказвай тады, а так бы...

Карней ускіпеў, напружыніўся ўвесь.

— Эх, мала цябе вучылі, як паважаць дарослых...

Стары Зыль пачуў электрычны разрад. На бягу падхапіў з-пад ног дошку і так з ходу і шахнуў ёю па галаве Карнею. Той упаў, схапіўшыся рукамі за патыліцу...

Невядома, колькі праляжаў Карней. Відаць, ад удару дошкай і страціў на нейкі момант прытомнасць. Калі ж зноў свядома ўявіў: як, з кім, калі — не хацелася падымаць галаву, хоць розумам ведаў, ляжыць у гразі і гнаі. Ды галава не слухала. Невыноснай сілы боль давіў, як мяшок цэменту, вышэй патыліцы, гуло ў вушах. Нарэшце ўстаў, хістаючыся, ухапіўся за агароджу.

Зачыніў дзверы на засаўку, нетаропка пайшоў у свой чырвоны куток. Надакучліва гуў тэлевізар з пустым экранам: перадачы даўно скончыліся. Выключыў. Змачыў насоўку халоднай вадой з крана, прыклаў да цемя. Палягчэла. Правёў рукой па шчацэ, выцер кроў. Раны на твары не было. Калі ж гэта апошнім часам ён бачыў кроў? Узімку. Калі з хлопцамі гуртам выбраліся на паляванне. Так ён зайца сам і не падстрэліў, а Трухан нёс аж тры.

Па-ранейшаму не пераставала, моцна балела галава. Тры, чатыры гадзіны кароткай летняй ночы здаваліся вечнымі. Прыйшлі даглядчыцы. Карней нічога ім не сказаў пра тое, што здарылася, намачыў на дарогу насоўку, падклаў пад шапку і няспешна падыбаў дамоў.

Ён баяўся гэтага сну ўсё сваё жыццё. Адганяў усімі праўдамі і няпраўдамі ўспаміны таго дня. І вось сёння гэты сон-успамін дагнаў яго. Зацягваў у свае цяжкія латы няспешліва, блытаючы твары людзей, рэчы, падзеі, пакуль зусім моцна не паланіўшы гэтай самай прыблізнай блытанінай часу і месца дзеяння, не падаў усё вельмі акрэслена, дакументальна і праўдзіва.

Была ў разгары вялікая, нават грандыёзная па маштабу аперацыя «Багрaціён» па вызваленню Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Дваццаць восьмая армія выходзіла на кірунак Баранавічы—Пружаны—Брэст. Недзе ля вёскі з рэдкай назвай Туча да Нячаева, прыгожага маладога лейтэнанта, звярнуўся памочнік камандзіра стралковага ўзвода:

— Старшой! Маем загад патушыць баявую кропку

працаўніка ля Сіняўкі. Падкіньце, старшой, напрасткі кіламетраў дзесяць.

— Ведаю я твае дзесяць. Дарога пад пастаянным агнём фашыста. Не праскочым.

— Старшой, хочацца хутчэй гадзіну задушыць, зразумей беларусаў, — папрасіў памкамузвода, — нам загадана патушыць агнявую кропку, яна перашкаджае наступленню. Падкінь.

Нячаеў задумаўся, глянуў на Карнея.

— Што, Карней, рызыкнём? Вытрымае твой «форд»?

— Дык на роднай жа зямлі і сцены памагаюць.

— Давай сваіх арлоў, — згадзіўся Нячаеў і сеў да Карнея ў кабіну.

У «арлоў» памочніка камузвода, акрамя суровага арлінага погляду, нічога не было. Гэта аказаўся штрафны, нават не поўны стралковы ўзвод, дастаткова добра ўзброены, у парваным ці наспех залатаным амаль у кожнага абмундзіраванні. З-пад пілотак тырчэлі сальныя да чарнаты, брудныя валасы. Бінты, што вязалі рукі, далоні некаторых, счарнелі ад пылу і бруду. Яны літаральна абляпілі ўвесь «форд», спяшаліся. Двое з аўтаматамі на грудзях скочылі нават на падножку ля дзверцаў Карнея.

— Паганяй, родны!

Карней глянуў на Нячаева, той моўчкі кіўнуў галавой. Паехалі.

— Цісні, брат, на ўсе педалі. Ты адкуль сам родам? — спытаў адзін у Карнея. Ён прыгнуўся да акенца.

— Я? З Лядаў Пінскай вобласці.

— Зямляк. А я з Фядораў перад Пінскам. Усё хутка нашым будзе. Усё. Ты толькі давязі нас, землячок, а мы ўжо выкурым.

Мінулі невялікі лясок, пачыналася голае поле, якое, як і саму дарогу, крыў мінамётны агонь.

Карней тармазнуў.

— Што будзем рабіць, старшой? — памочнік камузвода нахіліўся з кузава да Нячаева. — Я думаю — не адступаць.

— Я таксама, — адказаў Нячаеў і звярнуўся да Карнея: — Ты, Карней, ювелірам калі-небудзь быў?

— Не, таварыш старшы лейтэнант.

— І я не быў. А тут ювелірная справа: праскочыць

паміж кропляў дажджу. Наперад, дзейнічай, сяржант, як вучылі.

Дарогу, відаць, фрыцы трымалі пад надзейным кантролем, не паспеў «форд» набраць хуткасць, як град мінамётны павяліўся. Здавалася, неба звузілася, пыл ахутаў машыну, як вада плыўца.

«Давай, браток, давай!» — толькі і чуў, як падбадзёрваў яго голас земляка. Ды хутка той змоўк, прысеў нема, пабегла з рота ручаінка крыві, і толькі моцная мускулістая рука лесаруба яшчэ доўга трымала смяротна параненае цела на падножцы. На павароце небараку знесла, адкінула ў канаўку. Цяпер пыл завалодаў і кабінай. Недзе на сярэдзіне абстрэл сціх. Штрафнікі ў кузаве ажылі, ды ненадоўга. За кіламетры тры-два да лесу — зноў пачалося месіва: агню, асколкаў, пылу, зямлі.

І ўсё ж уцалела машына! Давёз Карней хлопцаў. Дзякавалі тыя, праходзячы міма, а ён, збялелы, ледзь усміхаўся ды так, праводзячы іх позіркам, і паклаў галаву на гарачы руль.

Нячаеў выцягнуў Карнея з кабіны, аднёс на траўку, расшпіліў гімнасцёрку, прыклаў вуха да сэрца. Жывы!

— Паранены я, старшой, — ціха сказаў Карней, — вязі ў шпіталь. У сэрца паранены.

— У сэрца, родны мой, не раняць. Каб у сэрца, дык ты б даўно на тым свеце з дзядамі... Факт. Калі адразу не прыпаяла, жыць табе, Карней, папомніш мае словы, доўга жыць. Мы яшчэ да Берліна даедзем, — супакойваў не без радасці Нячаеў, збегаў у кабіну па аптэчку, перабінтаваў крыж-накрыж грудзі Карнею...

...У адкрытае акно свежы вецер нёс водар саду. Тамсям гулі пчолы, пералятаючы з адной яблыні на другую. Грэўся на сонейку Шурупчык, шчаслівы тым, што гаспадар у хаце. На ўсе Ляды неслася з рэпрадуктара на слупе ля канторы славутая і такая папулярная ў апошнія пяць гадоў мелодыя Эль Бімбо. Нават дзеці на спартыўнай пляцоўцы прыпынілі гульню ў мяч, слухалі прыемную мелодыю, што абуджала душэўныя сілы...

Карней прачнуўся з такой цяжкасцю, быццам яго спусцілі на пяцідзесяціметровую глыбіню ў акіяне і ён без акваланга мусіў выплываць на паверхню вады. Нат правільней будзе сказаць апрытомнеў, а не прачнуўся.

Агледзеў пакой: кветкі ў слоіку на стале, старая шафа, даўно не беленая столь, прыслухаўся да гукаў падвор'ышча, і слабае яго сэрца забілася са шчымлівай радасцю.

«Хопіць! Тыдзень мінуў, як выпісала фельчарка першы ў яго жыцці бюлетэнь па сардэчнай хваробе. Тыдзень? Гэта ж каму расказаць? Яшчэ строга папярэдзіла — не пакідаць ложак, пакуль з раёна не прывязе расшыфроўку кардыяграмы яго сэрца. Мілая, сціплая доктарка, што адмерана, таго не мінуць. Гэта ж дзеду колісь яго дзед казаў: памру ў хуткім часе, бо слабы на слёзы стаў. «Усё правільна, — згаджаўся з продкам Карней. Прадчуванне і мяне не падманьвае. — Жывое ўсё шкадую. Гляну парад войск на Краснай плошчы і плачу. Няйначай рука нечая накіроўвае: і гэта запомні, і гэта не забывай, і гэтаму даруй, і гэта благаславі. Не. Хопіць. Так ад аднаго сумнага настрою памерці можна. Варушыся, казак...» — падганяў сябе Карней. Устаў з ложка, падышоў да акна, расчыніў, удыхнуў на ўсе грудзі свежае паветра, прайшоўся па пакоі. Трохі-такі вадзіла яго з боку ў бок, яшчэ горш рабілася, калі апускаў галаву ўніз. «Ат, халера ясная! Адлежаў і бакі, і галаву. Пасяджу ля акна трохі, каб гэта кругаверць перад вачыма знікла. І як людзі, бывае, хварэюць месяцы, ды ўсё на ложку? Тут пяць дзён пратырчаў у хаце і, здаецца, ледзь не памёр без работы. Адны думкі галаву расколваюць». Усё да галавы ішло: і даўняе, і блізкае, і добрае, і маркотнае. Адно хіба: пра Зыля і сына ягонага Мішку не ўспамінаў. Не вартыя таго. Перад тым як знямог, паведаміў вясковаму міліцыянеру пра той выпадак на ферме. Няхай возьмуць на заметку. Міліцыянер, праўда, хапіўся: «Чаму адразу не прыйшоў? Пабоі трэба было зняць ды ў суд». Карней махнуў рукой. Яшчэ была кропля надзеі, што Зылі возьмуцца за розум. Усё не верылася, што пагоня за доўгім рублём ачарсцвіла ў іх душы. Больш успаміналася радня. Дзед, які не даваў ранкам спаць і прыспешваў у час абеду: «Рабіце, дзетачкі, рабіце. На тым свеце адпачываць будзем». Як закон, на дзень анёла дзед дарыў пугу з падсвістам. Падрастаў Карней, цяжэй рабілася дзедава пуга. Але от кажы ты, бацька Мірон так і не змог пераняць ад старога Семенчука ўмельства. Дзед ножыкам мог абраз выразаць, а ў бацькі ўсё з рук валілася. Коней адно і любіў. І вось словы дзеда бацька

часценька нагадваў Карнею. «Ты, сынок, знай свайго трымайся. Свае звычкі, свае людзі, свой розум заўсёды ўратуюць. Ніколі на чужое не падай. Дурань з тваёй адметнасці пасмяецца, а разумны чужы чалавек паважаць будзе. Нішто, павер, табе не дасць такой незалежнасці і волі, шчасця і душэўнай раўнавагі, як вера ў праведнасць свайго самамыслія». І дзед і бацька любілі гэта слова «самамысліе» і, калі хацелі пахваліць чалавека, толькі так і казалі: «Гэты чалавек мае самамысліе».

«Благадаць» — гэта ўжо Карней узяў ад жонкі Алены. Як неўпрыкмет імчыць сапраўды няўлоўны час. Адзінаццаць гадоў і адзін месяц мінула, як на Прыпяці забіла маланкай жонку. Аж адзінаццаць гадоў. А ўсё роўна — учора.

Прыгадваліся галодныя пасляваенныя гады. Працадні. Ён не верыў брыгадзіру, завёў сабе сшытак і акуратненька запісваў туды і свае працадні, і іншых. Як гэта раззлавала брыгадзіра. Аж пабіліся. Затое як было прыемна на душы, калі з часам аднавяскоўцы прыходзілі да яго па даведку. Так, маўляў, і так. Сапраўды столькі працадзён той і той мае, працаваў у калгасе. Бухгалтэрыя верыла яго сумленню, улічвала працадні, з якіх складваліся часам гады жыцця. Брыгадзір той з'ехаў некуды. Згубілася навекі каштоўная канцылярыя. Многія, дзякуючы Карнею, атрымалі належную пенсію. Удзячныя людзі частавалі, а каб браць грашыма, як падказваў Зыль, барані божа.

— Трэба мець самамысліе высокае, — адказваў суседу.

Зусім нечакана прыгадалася Ліза. Яна даслала кароценькае віншаванне да свята Перамогі. У той дзень ад гэтай паштоўкі было хораша на душы, больш чым ад падарунка праўлення (цёплай вярблюджай коўдры).

Карней, седзячы ля акна, так задумаўся, што нават не пачуў, як з боку вуліцы пад'ехаў на аўтобусе Грыцко Шульга. Новы старшыня зноў перавёў яго ў шафёры, папярэдзіўшы: «Пачнеш нанава піць, прагонім з калгаса, нішто не ўратуе». Грыцко даў слова. Павесялеў. Садзіўся за руль свайго «пазіка» ў чыстай кашулі, пры гальштуку.

— Міронавіч! А-ё... хіба заснуў. Добры дзень, пане ветэрану!

— Добры дзень, Грыцко! — Карней ажывіўся, вы-

сунуўся з акна. — Што ж ты стаіш? Заходзь у хату.

— Часу няма, Міронавіч, вось думаю... дай хвораму хоць пакуль газет ды часопісаў прывязу. Ды во, яшчэ... башкірскага мёду купіў. Частуйся на здароўе.

— Дзякую. І Шура мне мёд прынесла.

— Гэта ж башкірскі. Мо смачней за наш. Чытай газеты ды закусвай мёдам.

— Нешта, браце, не даецца чытанне. Спрабаваў гартаць кніжку. У галаве гудзе, бы свердліць што, халера.

— Шкадаваць нам трэба адзін аднаго. Так думаю. Я ж, Міронавіч, так маці сваю і не паспеў забраць з прыстарэлкі. Пакуль жонку ўгаворваў... памерла старая. Сорам перад людзьмі вочы пячэ. Калі зэлькі заліваў гэтай гарэліцай... усё трын-трава здавалася. Ды лёс не дасць пражыць кардыбобелем, і за віну, і за памылкі — за ўсё плаціш сам. Ты от не слухай, што я разгаварыўся. Мо яна і тут памерла б. Хварэла. Як ты маешся?

— Устаў, як бачыш, на ногі. Мо з часам яшчэ і тупну польку-сербіянку.

— Ну, паганю я. Гэты новы старшыня так завінціў дысцыпліну, што баюся без дазволу да жонкі падысці, і не кажы. А... вось яшчэ што... раёнка фельетон дала. Зылева сына спаймалі. Краў у калгасе імя Мічурына парасят. Суд будзе. Упаяюць хлопцу зноў. От, кажы ты, усё чалавеку мала. То бывай здароў, Міронавіч, папраўляйся.

Карней дастаў са стоса газет самую маленькую, раёнку, знайшоў на трэцяй старонцы фельетон, прачытаў некалькі абзацаў і адклаў газету ўбок. Мо цяжка было чытаць, а мо не захацелася, а мо рашыў супакоіць Шурупчыка: вельмі ж непрыемна не то скуголіў, не то выў сабачка. «Гэта ж прыйдзецца, мабыць, выступіць на судзе сведкам? — падумаў Карней. — Задача. Трэба ехаць. Праўду людзі кажуць, што дабро даецца мужнасцю. І раздумваць не стану. Добра, а калі Зыль прыедзе, пачне прасіць за сына, угаворваць, плакаць? Што тады рабіць? Ехаць ці не?» Трохі нават азадачана замаркоціўся Карней, уяўляючы сваю сустрэчу з былым суседам. Распусціў сына, што казаць. Паехаў той калісь на БАМ, ды хутка ўцёк адтуль. Прызнайся перад людзьмі, не бойся, дык не... прыдумалі, што па хваробе нельга яму там жыць. Год на шыі бацькоў сядзеў, без

работы блытаўся, пакуль у вобласць не падаўся. Трэба ехаць!

Шурупчык усё не супакойваўся. Вылез з будкі, зашыўся ў ямку ля падвалін адрыны і пачаў выць з новай сілай. Карней наліў у місачку малака, панёс сабаку, крыкнуўшы з ганка: «Цыц, нячыстая сіла! Не скуголь мне тут, цыц!» Ногі неяк самі павялі Карнея ўбок, не памоцспеў ён ухапіцца рукою за лаўку, аступіўся і ўпаў, моцна ўдарыўшыся патыліцай аб сходы. На той час якраз забегла на хвілінку дахаты Ева — яна прыносіла Карнею ў гэтыя дні са сталоўкі абед. Клікнула на дапамогу людзей. Хворага ўнеслі ў хату, зноў паклалі на той самы ложак, ад якога яму так хацелася збегчы. Пабеглі па фельчарку. Карней Міронавіч апрытомнеў. Не адразу, а ўсё ж пазнаў Еву, фельчарку, Шуру.

— Я ж прасіла вас, Карней Міронавіч, паляжаць, я ж казала, — быццам шукаючы нейкае апраўданне сваёй бездапаможнасці, пачала ціхім голасам фельчарка.

— Памаўчы, Капіталіна, яму і без таго несалодка, — перапыніла яе Шура.

Карней узяў левай рукой шклянку вады. Правая рука і правая нага былі падазрона нерухомыя, бы здранцвелі.

— У маёй Алены заўтра ж дзень нараджэння. А я падарунак не купіў... Шура... — прагучалі ціха нечакана для ўсіх першыя Карнеевы словы.

— Везці ў бальніцу нельга — інсульт. Пайду вызываць брыгаду з раёна, — сказала фельчарка.

Ціха адышоў Карней на самым золку, калі цёткі выганялі з двароў на вуліцы каровак. Ева казала Шуры, што хворы нічога не браў есці, прыслухаўся, як прачынаецца яго родная вёска, і як бы ўсміхнуўся і сабе і Еве, якая сядзела ўсю ночку побач, так з ледзь бачнай усмешкай і памёр.

Бацька Евы Апанас неўпрыкмет аказаўся галоўнай фігурай у хаце Карнея. Жонку сваю, сястру нябожчыка, не ўзяў, спаслаўшыся на яе слабое сэрца, «гаспадаркі няма на каго пакінуць. Што ні сусед — то злодзей». Таму ад усіх сваякоў верхаводзіў сам. Вядома, як самаму старэйшаму, усе людзі выказвалі свае шчырыя спачуванні Апанасу.

Ён шкадаваў, што на бягу, праездам у Мінск, купіў вельмі ж просценькі, самы танны вяночак са штучных кветак. «Спаганіў марку, сапсаваў», — дакараў ён сам сябе. Дзіву даваўся, як гэта Ева праліваe столькі слёз, так убіваецца. Адкуль тыя слёзы бяруцца? Фёдар плакаў непрыкметна: кусаў ніжнюю губу, потым адварочваўся, выціраў слёзы, і толькі чырвань у вачах выдавала яго вялікі боль.

Нечаканае гэта гора вельмі зблізіла яго з Евaю. Як толькі прыехаў, а ён прыляцеў у першы дзень, не пакідаў яе ні на мінуту. Апанас прыкмеціў нязванага незнаёмага апекуна сваёй дачкі, ды пакуль не надаваў гэтаму належнай увагі. Не пра тое былі яго думкі цяпер.

«Госпадзі, што ж гэта са мной, — караў ён сябе, — гэта ж сораму, хоць на ашчадную кніжку кладзі. Ды што ж я такі сухар? Трэба ж хоць тут, напаследак, перад домам заплакаць. Навідавоку. Усё ж кіраўніцтва калгаса побач. Прадстаўнік райкома партыі прыехаў, ваенком, сам палкоўнік пад руку мяне трымае. А дзе ж мае слёзы? Што ж у мяне такое было? З чаго гэта я ў жыцці плакаў? Калі? — галава мітуслівa шукала выйсця. — Маці!.. Маці. Яна памерла на руках. Папрасіла перад смерцю пячэння, чаю». Так, успамінаючы смерць сваёй маці, Апанас заплакаў. «Ды ў рэшце рэшт, яны не маюць права папракнуць... Бо ўсе, гэтая сотня, дзве, ідуць за ім не толькі з жалем, а і з успамінамі. Кожны, пераступіўшы парог могілак, плача ўжо не па Карнею, а па сваіх родных і блізкіх, якія пахаваны тут». Паплакаў Апанас, супакоіўся, палягчэла.

Ля свежай магілы засталіся самыя родныя і блізкія людзі: ён, дачка, Фёдар, Шура, Грыцко, Ніна з дзецьмі, Трухан. Развітваючыся, старшыня калгаса «Перамога», прадстаўнік райкома, ваенком, шчыра, кожны на свой манер, гаварылі, як заўважыў Апанас, адны і тыя ж цёплыя, прачулыя словы: «Прыміце яшчэ раз, паважаны Апанас Цімафеевіч, наша спачуванне. Звяртайцеся, калі ласка, за дапамогай. Не адмовім. Званіце, прыходзьце». Казалі яшчэ нешта, ды ўсё астатняе Апанас прапускаў міма вушэй, бо асноўнае, што яго цікавіла, добра ўцяміў. Шура ўжо без слёз, наплакалася за гэтыя тры дні як ніколі, па-гаспадарску расклала акуратненька на свежай магіле вянкі, слоікі з гладыёлусамі, цюльпанамі паставіла да галавы, рукамі прыгладзіла пясок. Не стрымалася і зноў наўзрыд заплакала. А за ёй уцягнулася і Ніна. Стрыманы Трухан супакойваў іх.

Грыцко ўзяў на плечы лапаты.

— Годзе, жанкі... Пойдзем... Людзі на памінках ужо чакаюць, мабуць. Не любіў Карней гэтыя бабскія нюні, — ужо больш сабе сказаў Грыцко.

— Ніначка, ты ж будзь!

— Добра, цёця Шура, я даганю, — адказала Ніна.

Яна з дзецьмі засталася. Дастала з тэчкі дачкі бутэлечку са «святой вадой», пакрапіла магілу, кветкі. Так яе калісь вучыла маці — «на святую тройцу прынясі святую ваду самым блізкім і родным, хто адышоў ужо». Усплакнула горка, заціскаючы рот рукою.

— Хадзем ужо, мамо, — прасіла малодшая.

— А на памінкі мы застанемся? — спытала старэйшая.

— Не, дачушкі. Навошта? Мы ж там чужыя людзі. Пойдзем дахаты. Бывай, Карней... Бывай, Карнейка.

Толькі цяпер Апанас добра ўгледзеў, што Фёдар прыліп да яго Евы, як вусень да яблыка. Ішлі з могілак, яна з ім, вёў усю дарогу пад руку. Сядзелі на памінках разам. «Быццам яго, бацькі, і не заўважае. Бач, пасмялела. Рана, пташачка, пачынаеш. Рана».

Спытаў у сенях, калі Ева наступнага дня мыла пасуду пасля памінак:

— Што гэта ён да цябе ліпне, як прыблудны?

— Хто? — спытала Ева, быццам знарок не разумеючы, пра каго ідзе гаворка.

— Не прыкідвайся мне тут зачуханай! Фёдар! Хто-хто...

— А што тут такога, ён мой сябар, — злосна адказала яна.

— Глядзі мне... папаўзе чэрава на нос, прыдушу от гэтымі рукамі. Не лятай абы-куды. Я да праўлення скочу і назад. Грошы абяцалі на памінкі даць.

Як толькі бацька знік за форткай, Ева кінула мыць пасуду. Нешта прапала ахвота. Разумела, што трэба, але не магла, не хацела. Выйшла на двор. Ля будкі, на калодзе, сядзеў Фёдар і гладзіў ціхага і слабога Шурупчыка.

— Не есць?

— Не пакуль, — адказаў Фёдар.

Яна падышла, села і таксама паклала сваю руку на спіну Шурупчыка.

— Шурупчык, родны, на з'еш што-небудзь... а, ты ж разумны сабачка, разумееш... не вярнуць больш дзядзь-

ку Карнея... Чуеш, з'еш, мой харошы... Мы ж цябе не кінем, праўда, Фёдар?

— Праўда.

— Вось бачыш. Бяры. Цёпленькае малачко. Ну, слаўненькі наш. Ой, гора адно. Не хоча. Так жа здохнуць можа. Я чытала, былі сабакі, што прыходзілі на магілу, клаліся і паміралі ля былога гаспадара.

— Сабака доўга можа трымацца без ежы. Дзесяць дзён, дванаццаць. Ну, як бацька?

— А чорт яго ведае. Нешта ўжо задумаў. Не магу і з ім... Дудзіць нешта, балбоча, а мне як чужы ўсё роўна.

— Забярэ ў Ашмяны?

— Ды ў яго сто пятніц на тыдні. Я не паеду.

— Мгм... прымусіць. А куды падаўся?

— Грошы пайшоў выбіваць за памінкі. Даў калгас, дык падлічыў, што мала. Агідна, паверыш, сорамна, хоць тапіся...

— Ён і мяне пытаўся.

— Пра што?

— Калі паеду.

— А ты? — спытала Ева і адчула, што Фёдар заўважыў хваляванне ў яе голасе.

— Я адказаў, што яшчэ не скора.

Каб схаваць сваю радасць, яна знарок апусціла галаву і пагладзіла Шурупчыка.

— Схуднеў, небарака.

— Прадасць і Шурупчыка.

— Хто?

— Бацька твой.

— Няўжо ты думаеш, ён...

— І думаць не хачу. Упэўнены. Ідзі дамывай пасуду. Вяртаецца.

— Не пайду.

У Апанаса сапсаваўся настрой, не было касіра. Кінуў быццам нехаця, але досыць сурова, у загадным тоне:

— А пасуду хто мыць будзе? Пасаромелася б чужога хлопца.

— Іду, — нечакана вінавата адказала Ева. — А ты куды зараз? — пацікавілася ў Фёдара.

— Дамовіліся з Грыцком лаўку ля магілы ўкапаць. Буду там.

Апанас выпіў са дзве кварты вады, паліла смага,

зняў фрэнч, кінуў яго на ложак і пайшоў шурудзіць, абшукваць усю хату: перабраў паперы ў буфеце, абшарыў кішэні ў адзежы Карнея, дастаў два чамаданы — «пакапаў» іх, выцягнуў з-за бэлькі дамавую кнігу, пагартаў уважліва і яе — усё нешта шукаў. Нарэшце злез з вышак, стомлены, успатнелы, сеў пасярод хаты.

— Дай вады. Ой, нельга больш гарэлку піць. Душыць смага...

Ева прынесла вады, даткнуўся губамі і выліў у акно:

— Сцюдзёнай дай.

Чарпнула свежай, з другога вядра.

— Няўжо нічога не казаў, не абяцаў, не напісаў? — звярнуўся ён да дачкі.

— Пра што вы, тата?

— Як пра што? На каго хату запісаў. Цябе прыняў, як дачку, любіў. Можа, чуючы блізкі канец, недзе і перазапісаў на цябе. Болей няма ж на каго. Няма. Я год таму назад спецыяльна і павёз пад маркай навукі... думаю, ляснецца, не пры нас кажучы, не будзе на каго і багацце пакінуць. А ў яго нават ашчаднай кніжкі няма. А можа, гэта Шура пранцаватая свіснула? Пярсцёнка няма вянчальнага.

— Ёсць. У трумо. Ён яго не насіў.

Апанас кінуўся да трумо, адкрыў і дастаў каробачку з пярсцёнкам.

— Дзякуй богу, хоць гэта не прапала. Та-ак. Пяцьсот восемдзесят трэцяй пробы. Значыцца, махну ў раён параіцца з адвакатам. Сведкі ёсць. Ты была як дачка яму. Каму трэба, сыпнем у лапу, і качай, самара, ваду. Вось што, Еўка, языком не мянці лішняга. І ўхажор твой мне вельмі не падабаецца. Дзе ён робіць?

— Санітарам у Мінску.

— Цьфу-у, а гонару, як у акадэміка.

Бацька памчаўся ў раён, нават не паеўшы.

Ева зноў узялася мыць пасуду. Ці то ад успамінаў, ці ад адзіноты, а можа, і ад прадчування дрэнных — яна загадзя лічыла іх дрэннымі — падзей, пабеглі з вачэй гарошыны-слёзы.

«Што ж ён маўчыць? Не рашаецца. Ну, нарэшце, украў бы мяне, ці што? Зманіў бы. Павёз бы на БАМ ці яшчэ куды-небудзь. Што будзе, што?»

Амаль усю ноч Кананові́ч не спаў у аўтобусе. Загадзя выспаўся ўдзень, перад дарогай. З гадзіну такі па-

драмаў пасля Баранавіч, не болей. Цудоўны настрой, які валодаў ім усю дарогу, яшчэ больш прыўзняўся, калі мінулі Лісовічы — невялічкую вёску перад самым Давыд-Гарадком. Пачыналіся паабапал дарогі хаты — адна прыгажэй за другую, з мудрагелістымі разнымі ліштвамі, з пафарбаванымі ганкамі, верандамі, штыкетнікамі — а галоўнае, з маляўнічымі квяцістымі агародамі. Цэнтральную вуліцу мястэчка, баючыся славутых па нечаканасці паводак, высока намасцілі, узнялі так, што з акна аўтобуса двары і агароды хат былі відаць як на далоні. І ніякі пыл, едкі бензін не маглі знішчыць цудоўнага паху, які неслі сціплыя настурцыі, пышныя півоні, строгія гладыёлусы, раскідзістыя гваздзікі і прыгажуні-ружы. Запахла ракой. Аўтобус прыпыніўся ля новай аўтастанцыі, якую пабудавалі ля Гарыні, адразу ля вялікага новага бетоннага моста-дугі.

У Віктара Сяргеевіча небагатыя спажыткі: мальберт цераз плячо, невялічкая сумка і карціна, загорнутая ў брызент і перавязаная шнуром. Чакаць аўтобуса да Лядаў, лічы, не прыйшлося, перайшоў з аднаго ў другі. Да Лядаў не даехаў, наўмысна сышоў у Хорску, каб астатнія восем кіламетраў прайсці пешшу.

«Раніца, вядома, толькі мне здаецца асаблівай, прыгожай. А тут ім, на гэтай зямлі, яна звычайная, як і сто, тысячу гадоў назад».

Успомніў пра бацькоў: акцёраў былога Пінскага драматычнага тэатра. Відаць, яны таксама калісь дабіраліся сюды, у глыбінку, везлі спектаклі і, усё магло быць, таксама ішлі пешшу за возам з дэкарацыямі. Менавіта гэтым шляхам. Пра што яны думалі? Пра шчасце? Пра мір? Пра яго, маленькага Віціка, якога пакінулі ў дзеда ў Пінску?

Дзед... Ён жа таксама некім быў, аб нечым марыў, працаваў... шкіперам... адным словам, жыў на зямлі.

Толькі цяпер Кантановіч успомніў, што ніводнага накіда, эскіза дзеда так ніколі і не зрабіў. У гэтай паўсядзённай гонцы за рэпутацыяй, прэстыжам, славай, грашыма не тое што не ўспамінаў, а канчаткова забыўся пра сваё маленства, забыў дзеда, бабулю.

З-пад ног пырснуў, узвіўся ў паднябессе жаўрук. Клекаталі буслы на вялізнай сухой галіне яшчэ моцнага дуба.

Уся гэтая, кажучы словамі Карнея, «благадаць»

абуджала стрэчнае парыванне, яно ўжо насычала новым зарадам духоўнай энергіі.

Вёска, скінуўшы покрыва ранішняй асалоды, даўно абудзілася і працавала.

Віктар Сяргеевіч зайшоў у двор. Шурупчык не варухнуўся. «Можа, захварэў?» Крануў клямку дзвярэй. Зачынена. Дастаў з-пад ганка ключ — ён ляжаў усё на тым жа старым месцы, — адкрыў. У хаце — нікога. Падняўся на другі паверх. І там — нікога. Адчыніў акно. Расклаў фарбы. Аслабаніў ад брызенту сваю ношку. Гэта быў бліскуча зроблены ў лепшых традыцыях рэалізму, з натхнёнасцю і любоўю, партрэт Карнея. Так, гэта быў сапраўды ўзор мастацтва. Усё ўдалося Канановічу: прывабная сваёй натуральнасцю і прастатой кампазіцыя — Карней цераз штыкетнік даваў апельсін маленькай дзяўчынцы, гама фарбаў, пералівы адценняў, пластычная зграбнасць і асабліва сам твар чалавека чулага, добрага, моцнага духам і шчаслівага. Гэта так рэдка бывае: схапіць момант, калі чалавек шчаслівы. Канановічу гэта ўдалося!

Пачуліся крокі. На парозе з'явіўся Федзя.

— Прывітанне старым знаёмым! — весела абазваўся Канановіч.

Больш партрэт ён не хаваў.

— Ну, як?

— Як жывы, — адказаў Фёдар.

Канановіч не хаваў усмешкі.

— Гэта нічога, што я без дазволу? Можа, Карней Міронавіч некага пусціў сюды?

— Няма больш, Віктар Сяргеевіч, нашага Карнея.

— Як?

— Памёр. Чатыры дні, як пахавалі.

Раптоўна гулкі летні дзень на нейкую хвіліну счах для Канановіча.

— Пойдзем, я пакажу магілу.

— Так. Канечне. Зараз... — Канановіч мітусліва шукаў у кішэні акуляры з іншай оптыкай.

— Ад чаго памёр? Так раптоўна. Ад ранення?

— Па раненні доктар сказаў, сто гадоў жыў бы. Сардэчны прыступ.

Па дарозе стрэлі задаволенага Апанаса, атрымаў дадаткова ў праўленні грошы.

— А, маё шанаванне пану жывапісцу. Мром як мухі. Вы надоўга?

— Пакуль не ведаю, — неяк разгубіўся Кананові ад такога настырнага пытання.

— Дзён дзесяць можаце пажыць. Рубель пяцьдзесят за ноч, як усюды. У Крыме па тры рублі жывадзёры дзяруць, а? Куды ўлада глядзіць. То ідзіце, праведайце. Трэба.

Апанас рашуча накіраваўся да сада-ясляў.

— Хто гэта такі? — пацікавіўся Кананович.

— Муж роднай сястры Карнея.

— Шустры дзядзька.

— Аж занадта.

Фёдар зразумеў, што Апанас не спадабаўся Кахановічу.

Бацька забраў Еву дахаты. Па неадкладнай справе. Папрасіў Шурыну Надзю падмяніць яго дачку. У хаце, не даўшы нават аддыхацца, пасадзіў за стол, даў кавалак паперы:

— Пішы.

— Што? — не зразумела ўстрывожаная Ева.

— Я буду дыктаваць. Часу мала. Знайшоў у Гарадку пакупніка. Тры тысячы за хату дае. На знос аддам. Хто сюды паедзе? На яе за дзесяць гадоў пакупніка не знойдзеш. На гары стаіць. Ветрам увесь агарод выдзімае. Дрэнь справа. Та-ак... Пачнём. Акардэон. Паступіш не паступіш, а дамоў забяром. Трумо, — пішы сорак рублёў. Шафа, шашаль не паеў ззаду?.. Трохі е... пішы, шэсцьдзесят рублёў. Буфет — дзесяць. Ложак, а, ламачыну гэту на металалом. Цыганы і тыя не купяць. Далей. Адзежу завязу ў камісіёнку ў сталіцу. Гэта асобна пойдзе. Тахта — восемдзесят рублёў. Дыван вялікі — павязу ў Вільню на таўкучку — чатырыста рублёў, дыван меншы — дзвесце. Ты што сядзіш, бы на хрэсьбінах? Пішы!

— Не буду!

— Ёлуп. Каму ж б'юся, аб кім дбаю? Памру, ніхто ж рубля не пазычыць. Сястра падрастае. Брыдота, у восьмым класе ўжо з засосамі на шыі прыходзіць. Жыць трэба. Вернеш Карнея? Не. Разумею, што шкода, што добры быў, дык што, нам век сумаваць? Пішы, дачушка. Усё тваё, толькі на тваю кніжку пакладу. Каб здох, што праўда. Давай... Пасуда.

Ева нечакана рванулася з месца, кінулася ў дзверы, толькі яе Апанас і бачыў. Ён выскачыў за ёю на ганак.

Не адразу. Пакуль апамятаўся. Нешта крычаў услед. Ды дзяўчына не чула.

— Шура, Фёдара не бачыла? — хутка спытала яна ў паштальёнкі.

— А што здарылася? — Шура не пазнавала раней стрыманую і ціхую Еву.

— Дзе Федзя?

— Павёў Канановіча да Карнея. А што, дачушка, здарылася?

Апошніх слоў дзяўчына ўжо не чула, бегла да могілак. Не вітаючыся, адвяла Федзю ўбок.

— Я не магу больш, Федзя. Родны, мілы. Скажы, ты мяне любіш?

— Не месца тут, Ева.

— Месца. Пры яго светлай памяці і адкажы. Любіш?

— Люблю.

— Ты хочаш узяць мяне ў жонкі? — больш стрымана і не так хвалюючыся, спытала зноў яна.

— Хачу.

— Тады хадзем у сельсавет. Я ўжо два дні пашпарт з сабой нашу. Усё ніяк не рашалася выказаць усё.

— Пачакай, Еванька. Адну хвіліну.

— Ты што, перадумаў?

— Не. Нам патрэбны два сведкі. Без іх не запішуць. Я з Грыцком ужо дамовіўся, прабач, без твайго дазволу. Зараз папрашу Канановіча.

Фёдар падышоў да Віктара Сяргеевіча і нешта ціха сказаў яму на вуха. Той спачатку не зразумеў. Фёдар паўтарыў. Кананович паціснуў руку хлопца і ў знак згоды заківаў галавой.

Ева, якая назірала за імі, усміхнулася. Яна была шчаслівай, і шчасце яе падвойвала рашучасць. Ужо аніякая сіла ў свеце не пахіснула б яе задуму.

...Маладыя на ноч не з'явіліся. Апанас выходзіў на двор, выглядаў на вуліцу, доўга хадзіў па хаце з пакоя ў пакой, пакуль нарэшце не пачуў зверху ад Канановіча:

— Кладзіцеся і спіце спакойна. Ваша дачка сёння распісалася з Фёдарам. Я быў за сведку. Так што віншую вас!

«Ды пайшоў ты са сваім віншаваннем у...» — ледзь не выкрыкнуў Апанас, але стрымаўся. «Каза! Дурная каза. Загубіць жыццё ў васемнаццаць гадоў. Маці.

Такі ж таўкач. Каб удалася крыху ў мяне, у золаце купалася б. Баба яна і ёсць баба».

Раніцой у акно Кanановічу нехта запусціў вішняю. Віктар Сяргеевіч выглянуў. Ля плота стаяў Фёдар і знакам прасіў таго спусціцца.

— А чаго не падняўся сам? Баішся? — спытаў на вуліцы Кананові.

— Няхай крыху астудзіцца. Не хочацца пачынаць знаёмства з цесцем з рукапашнай. Віктар Сяргеевіч, вы чалавек вучоны, паважаны, вядомы мастак.

— Не трэба, Федзя. Усё прайшло. Давай без эпітэтаў, бліжэй да справы. Прасцей.

— Добра. Апанас хоча прадаць Карнееву хату аднаму гарадчуку на знос. Разумееце... калі ўлічыць... нешта збіваюся. Ну, карацей кажучы, не магу ўявіць Ляды без гэтай хаты... Разумееце. За тры тысячы прадае.

— Так. Тваю трывогу разумею. Але ж, дарагі мой, апошні год быў асабліва цяжкім для мяне. Хвароба, скасаванне шлюбу з жонкай... усюды грошы. Як казалі ў старыну, «обнищал, аки монах». Тры тысячы не маю. Палову наскрабу. Давай купім у складчыну, а? Неблагая ідэя.

— Не. У нас няма грошай. Шкада. Вы толькі не падумайце нічога такога. Я быў у брыгадзіра, мяне бяруць на работу. Даюць нам і кватэру. Аграном пераязджае ў Хорск. Так што ў нас усё ў парадку. Шкада самога месца. Каб хоць які-небудзь чырвоны куток адкрыць школьнікам, да прыкладу. Ці можна? Вы ж маеце і сілу і слова. Падкажыце праўленню.

— Ідэя, Фёдар, — Кананові ад нечаканасці ляснуў рукой па плячы хлопца. — Ёсць выйсце. Трэба прапанаваць стварыць вясковы музей народнай славы! Грандыёзна, Фёдар. У гэта я веру. Бачыў адзін такі... зараз не памятаю... Дай бог памяць, здаецца, точна сяло Палыковічы на Магілёўшчыне. Цуд, і добры ўзровень. Там нават ёсць некалькі аддзелаў: «Уся ўлада Саветам», «Яны абаранялі Радзіму», «Подзвіг і праца побач ідуць». Ды што далёка хадзіць? Нядаўна ў Жодзіне адкрылі музей Купрыянавай.

— Значыць, вы абяцаеце нам падтрымку?

— Не толькі абяцаю. Мы за гэтую ідэю будзем змагацца хоць з самім д'яблам.

У гэты ж дзень, неадкладна, Кананові́ч наведаў старшыню «Перамогі» Язэпа Гардзея, які сустрэў яго вельмі прыхільна. Ужо вечарам таго ж дня Трухан, якога прызначылі старшынёй камісіі па стварэнні музея, ад імя праўлення і сельсавета ўведаміў Апанаса, што хату Карнея бяруць пад ахову дзяржавы з мэтай стварэння лядчанскага «Музея народнай славы».

Апанас раніцай замкнуў усе дзверы, прыбіў дошкі, нават пазакручваў дротам аканіцы. Зноў паехаў раіцца да адваката. Вярнуўся з нейкімі паперкамі, крыху весялейшы. Даведаўся, што яму, як сваяку, усё ж нешта абавязкова перападзе. І такі сваю тысячу рублёў вырваў. Ад'язджаў непрыкметна, бы вораг усіх Лядаў. Ева ўсё яшчэ баялася падысці. Крыкнуў ёй і Фёдару знарок гучна, каб чулі людзі:

— Бацька не прападзе. Бацька жыць будзе. Гора дачцэ, гора сыну, які пакінуў старога. Толькі да мяне, блудная, не прыязджай. Пойдам абалью з парога. Ведайце — няма вам майго благаслаўлення. Няма.

— Ну, чаму ён такі, чаму? — Ева ўткнулася тварам у грудзі Федзі, хаваючы слёзы.

«Чырвоныя следапыты» засыпалі лістамі Столінскі, Пінскі, Тураўскі краязнаўчыя музеі. Вырашылі адразу пасля заканчэння навучальнага года прайсці турысцкім маршрутам Ляды — Ніжнія Ляды — Альшаны — Гомель — Ляды, каб сабраць матэрыялы пра сваю вёску. Нешта цікавае знайшлі ў старых жыхароў: колькі, напрыклад, да рэвалюцыі адна сям'я селяніна давала памешчыку аброку за год — адну бочку жыта ў дзвесце семдзесят кілаграмаў, бочку аўса, дваццаць вязак каноплі, трыццаць яек. Знайшліся, усім на радасць, нават аднавяскоўцы — удзельнікі грамадзянскай вайны.

Ніна Харашун здала ў музей дудачку свайго цесця, сцізорык, здымак часоў вайны і дзве граматы райкома, якімі той быў узнагароджаны. Ваенком перадаў музею памятны гадзіннік Карнея. А першым экспанатам народнай памяці стаў партрэт Карнея. Кананові́ч падарыў сваю карціну лядчанам.

Не нарадаваўся Трухан. Казаў, такімі тэмпамі і такой паўсюднай зацікаўленасцю «не тое што музей, эрмітаж свой стварыць можна».

Нечакана прыйшлося пакінуць Ляды Кананові́чу.

Дачка тэлеграмай прасіла прыехаць глянуць на першынца-ўнука. Праводзіць мастака прыбегла адна Ева. Абяцаў быць і Фёдар, ды, відаць, не паспеў з раёна прывезці запчасткі.

— Прыязджайце, Віктар Сяргеевіч. У нас два пакоі. Месца хопіць. І Фёдар прасіў перадаць гэта. Так што будзем чакаць.

— За запрашэнне дзякую. Калі і змагу, дык толькі восенню. Хутка паеду ў Кіеў на аперацыю, потым у санаторый. Паганыя мае справы, Ева. Слепну. Не магу працаваць. А для мяне гэта раўназначна смерці.

— Я веру, што ўсё будзе добра. Вам пашанцуе. Адразу пасля аперацыі — сюды. Лепш за ўсе санаторыі.

— Дзякую. Калі буду жывы, абавязкова прыеду ў Ляды.

Пад'ехаў давыд-гарадоцкі аўтобус. Сышло некалькі чалавек. Нікога з іх Ева не ведала. А адзін з прыезджых — хударлявы малады чалавек з пшанічнымі вусамі — заўважыў Кsměнанавіча, падышоў да іх. Цяпер і Віктар Сяргеевіч пазнаў хлопца.

— А... знаёмыя ўсё твары. Калі не памыляюся — Юрась Лазарук.

Бачна было, што Юрась усё ж абрадаваўся, убачыўшы тут свайго калегу. Не адчувалася іроніі ці знявагі і ў голасе Кананавіча.

— Вітаю вас, Віктар Сяргеевіч. Вось каго не чакаў тут сустрэць, дык не чакаў.

— Прызнацца, я хацеў сказаць вам тое ж самае.

— Ды, разумееце, неяк нечакана ўчора пазванілі з мастацкага камбіната, прапанавалі заказ. Я з вялікай ахвотай згадзіўся.

— Нават так? А якая, калі не сакрэт, гэта прапанова?

— Афоміць мясцовы музей народнай славы. Разумееце, гэта для мяне ўпершыню і таму вельмі цікава. Вы часам не падкажаце, дзе тут знайсці (ён дастаў запісную кніжку, прачытаў) хату Карнея Міронавіча Семенчука?

— Часам падкажам. Вось якраз тая самая дзяўчына — ініцыятар стварэння. Яна вас і правядзе, і ўсё раскажа. Так што жадаю поспеху.

— І вам зычу таго ж, Віктар Сяргеевіч. Будзем знаёмы: Юрась Лазарук.

— Ева, — адказала дзяўчына.

«Божа, які цікавы і арыгінальны чалавечы лёс, — думаў у аўтобусе Кананавіч, — хто б мог калі падумаць, што той самы Юрась Лазарук будзе афармляць музей і ад яго залежыць, дзе будзе вісець карціна Кананавіча? Альбо яшчэ. Ці ж нехта думаў, што праз год я буду сведкам на вяселлі Евы і Фёдара, піць шампанскае і жадаць шчасця маладым? Дзіўна. І як трэба ўважліва, чула прыслухоўвацца, ставіцца да кожнага знаёмага і незнаёмага табе чалавека. Прыйдзе час, будзе дзень, і ён спатрэбіцца табе альбо ты некаму дапаможаш. Так і дзеліцца, множыцца дабро. І, можа, у рэшце рэшт, не ў прыгажосці, а якраз у гэтым уратаванне свету, чалавека? Якое ж ты хітрэннае, цікавае на здзіўленне, жыццё! Не. Немагчыма страціць зрок. Аніяк нельга!»

Аўтобус мінуў высачэзныя сіласныя вежы і скіраваў на дарогу ў жыта. Ім авалодала пачуццё дрыготкай горычы ад развітання з мілай яго сэрцу мясцінай.

Дзень дваццаць другога чэрвеня выпаў на панядзелак. З раніцы хмарылася. Цёплы, празрысты дзень, здавалася, не хацеў адыходзіць у Лету, яму на правах самага працяглага з усяго календара наканавана прыродай уладарыць. А сёмай гадзіне забег у сад-яслі да Евы Фёдар.

— Ты яшчэ тут?

— А дзе я павінна быць? — не зразумела спачатку Ева.

— Як дзе? Сёння ж дваццаць другое чэрвеня. Дзядзька Карней у гэты дзень абавязкова выносіў акардэон і іграў.

— Ты мне раіш?

— Вядома. І размовы быць не можа! Трэба.

— Добра. Паспрабую. А ты хоць памыйся, мурзаты, бы качагар. Ды не забудзь Шурупчыка накарміць. Прыйдзі ж, а то мне адной няёмка будзе.

Ева пераапранулася, падсела да люстэрка, прычасалася і пайшла да хаты Карнея. Ведала, дзе ключ, адамкнула, вынесла акардэон, вярнулася ў хату, узяла ручнік, каб пакласці на калені. Ад інструмента пахла нафталінам, скурай.

Асцярожна, быццам баючыся пакалечыць акардэон, Ева расцягнула мех. Няспешна, як бы прымерваючыся

да новых рук, аддаў акардэон першыя гукі славутага марша «Развітанне славянкі». І панеслася мелодыя над Лядамі. І зноў, як калісь, першымі да музыкі прыбеглі дзеці. Абляпілі лаўку, слухалі. І зноў, як калісь, выйшлі на ганак старыя дзяды ды бабкі, не-не ды рогам хустачкі выціралі святую слязу памяці. Падышоў Фёдар, падсеў да жонкі. Падняў угору вялікі палец: «Маўляў, малайчына, так трымаць!»

Унучка Шуры, маленькая Марыйка, узяла за руку сваю сяброўку і вывела на сярэдзіну вуліцы. Маленькія босыя ножкі адной і другой смешна, не ў такт, мясілі ў танцы пясок. Дзіцячай радасці не было мяжы. А людзі ўсё выходзілі з хат, ішлі на гукі знаёмай і вечна прыгожай музыкі. Ева нахілілася да Фёдара і шапнула:

— Я нараджу табе сына, Федзя, абавязкова сына, чуеш, любы?

— Чую, любая.

— І мы назавём яго Карней. Праўда, Федзя?

— Праўда, Ева.

# Змест

**Марчук Г.**

М 30 Кветкі правінцыі: Раман, аповесць. — Мн.: Маст. літ., 1988. — 413 с.: іл.

ISBN 5-340-00020-6

Марчук Г. Цветы провинции: Роман, повесть.

Раман «Кветкі правінцыі» — гэта споведзь маладога чалавека Адама Долі, які імкнецца зразумець прычыны самагубства маці, гісторыя кахання, пошукаў шчасця і месца ў жыцці. У займальным сюжэце аўтар (нар. ў 1947 г. у Брэсцкай вобл.) даследуе самабытныя характары палескіх жыхароў.

Галоўны герой аповесці «Паляшук» — апошні ў маленькай вёсцы ветэран Вялікай Айчыннай вайны. Карней Семянчук пражыў нялёгкае жыццё і гатовы ў любы момант ахвяраваць сабой дзеля шчасця людзей, дзеля міру на зямлі.

М $\frac{4702120200-056}{М 302 (03)-88}$ 20 —88 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

*Марчук Георгий Васильевич*

**ЦВЕТЫ ПРОВИНЦИИ**

Роман, повесть

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*Марчук Георгій Васільевіч*

**КВЕТКІ ПРАВІНЦЫІ**

Раман, аповесць

Рэдактар Е. А. Пяршай
Мастак С. А. Малішэўскі
Мастацкі рэдактар А. І. Цароў
Тэхнічныя рэдактары
Т. М. Сокал, А. Б. Барадзіна
Карэктар Т. В. Трубач
ІБ № 2868

Здадзена ў набор 01.06.87. Падп. да друку 01.02.88. АТ 08525. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 21,84. Ум. фарб.-адб. 22,26 Ул.-выд. арк. 23,26 Тыраж 12000 экз. Зак. 1296. Цана 1 р. 90 к

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988

**НАБЫВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ
НОВЫЯ ТВОРЫ
БЕЛАРУСКІХ ПРАЗАІКАЎ**

*Т. Бондар*
ЧАС, КАЛІ НАС ЛЮБІЛІ
*Аповесці*

*Л. Дайнека*
СЛЕД ВАЎКАЛАКА
*Раман*

*Г. Далідовіч*
ПАБУДЖАНЫЯ
*Раман*

*В. Коўтун*
КРЫЖ МІЛАСЭРНАСЦІ
*Раман*